ГЕНРЫХ ДАЛІДОВІЧ

# ГАСПАДАР-КАМЕНЬ

РАМАН

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

*Прысвячаю светлай памяці маці,*
*бацьку, роднай зямлі*

*Кожная мясціна на свеце ганарыцца нечым сваім, адмысловым. Таямнічасць, даўняя памяць, гонар для Янкавін — валун, ці, як яго называюць, Гаспадар-камень, што ляжыць за вёскаю, перад самым Налібацкім лесам. Ніхто не помніць і не ведае, калі заявіўся тут гэты велікан, колькі ён ужо ўвогуле існуе. Відаць, спакон стагоддзяў. Бо высозны, ледзь не ў рост чалавека, шырокі, спод абраслы цвёрдым, нібы цэмент, шэрым мохам і ў той жа час трывалы, моцны, з намерам пражыць яшчэ шмат.*

*Гаспадар-камень заўсёды вабіў янкавінцаў нейкаю магічнаю сілай. Казалі, шмат хто (звычайна адзін) з кожнага новага пакалення прыходзіў сюды, калі яму было цяжка. Валун нібы слухаў чалавека, убіраў у сваю непрыступную і ў той жа час чулую душу людскія беды, слёзы, просьбы ды мары, камянеў, таіў пачутае ды, можа, сваёй маўклівай мудрасцю вучыў, раіў чалавеку-гаротніку гэтаксама набірацца маўклівасці, цярпення ды камянець. Валун-то, канечне, сам нема маўчаў, ляжаў і ляжыць затоеным сведкам усяго, што тут адбывалася, але людзі не ўсе станавіліся нямыя, акамянелыя, бо той-сёй рана ці позна і выкрыкваў боль жывой, чалавечай душы...*

# Частка першая. ВЯЛІКІ ПОСТ

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына...
*Янка Купала*

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

Выехалі раненька. Яшчэ атульвала неба і зямлю ноч. Цадзіў праз сцюдзёнае, нібы шкляное паветра блакітнае святло месяц, мігцелі на цёмна-сінім небе густыя белаватыя зоркі, ды шматколернымі іскрамі зыркаў вельмі ж хрумсткі снег. Блакітная віднота трымалася аж да Налібак, што былі ад Янкавін за чатыры вярсты. А ў Налібаках зоркі ды месяц раптоўна зацягнуліся густым і белым, як малако, туманом і з неба на зямлю пала густая цемната.

Сям-там з акон налібацкіх хат скупа засвяціліся газніцы ці лучыны, той-сёй з гаспадароў тупаў па двары, рыпеў снегам, запрагаў каня, збіраючыся, відаць, гэтаксама ехаць па сваё сена — не спалі ў шапку, канечне, і налібачане. Як пакідалі Налібакі, дык аж напалохаліся: няўжо хто гарыць? Увесь засценак быў у чырванавата-жоўтым святле. Пасля супакоіліся: нехта воддаль ад вуліцы і прыбудоў паліў салому — смаліў кормніка. Утраіх. Праўда, трымалі па пуку саломы два высокія мужчыны, а трэці, хлапчук, тоўкся каля рук. Агонь то ўспыхваў, калі ўгараліся два пукі саломы, асвятляў блізкія сядзібы, адсоўваў цемру на паўнеба, то атухаў, сціскаўся да маленечкага цяпельца-вочка, калі ў каго аднаго ў

руках адшугвала салома,— тады той кідаў на распластанага кормніка недагарак і змятаў венікам са спіны вуголле — адразу ж далёка несла гарэлую салому і шчаціну. Патыхала горасцю. Аж казытала ў носе.

У лесе, у Налібацкай пушчы, было зусім цёмна. Як у запечку.

Нямкевіч-бацька ехаў першы. Ён добра ведаў дарогу на Шубін — пуцявін у пушчы шмат, крыху звярні не туды, дык заедзеш далёка ўбок, пад Любчу ці Навагародак. За бацькавымі санямі трушком беглі іхнія коні. Усяго чацвёра. Уночы ў пушчу рызыкоўна ехаць аднаму. Пушча ёсць пушча. І звяр'я тут нямала ўсякага, і людзі розныя тут швэндаюцца. У пушчы свае законы. Той уладар тут, хто смелы і дужы.

У старым пушчанскім лесе — а праз яго ехалі вёрст з пятнаццаць — іх спаткала світанне. Калі мінулі Кляцішча — апошнюю вёску перад Шубінам, дзе іх гуртам сустрэлі і доўга па вёсцы праводзілі з залівістым брэхам сабакі,— ужо прыемна даўся ў нос смачны, з пахам смажанай цыбулі дым з комінаў. А калі дабраліся да самога Шубіна, дык ужо добра развіднелася, пачаў убірацца ў сілу новы светлы дзень.

Ззаду, над лесам — недзе і над няблізкімі Янкавінамі гэтаксама,— паднялося і ачырваніла неба сонца, нібы наліваючы яго край вішнёвым сокам. Яра і бязлітасна запёк мароз. Але спіны коней, што беглі ўсю дарогу, былі па-ранейшаму цёплыя, нават вільготныя ад поту. З іх клубілася пара. Як і ў лесе, тут гэтаксама коні жвава беглі трушком і ўвесь час натапырвалі вушы — прыслухоўваліся, ці не абазвалася дзе што падазронае.

На Шубіне моўчкі раз'ехаліся. Гарбацэвічы — бацька з сынам — пакіравалі ўбок, да сваіх стагоў, а

яны, Нямкевічы,— да сваіх. Цяпер, зімою, аж не верылася, што летам тут зелена, мокра, гразка — на калёсах сена не вывезеш. Грузнуць па восі колы.

Стары Нямкевіч пад'ехаў да трох невысокіх крывых алешын, што ліпелі на высокай, з бакоў чорнай, тарфяной, выдзьмутай ветрам, зверху (улетку) травяністай купіне. За алешынамі — іхнія два аселыя, зрыжэлыя стагі. Адзін — адразу за купінаю, другі — крыху воддаль. Дзякуй богу, цэлыя. Ні вецер не параскідаў, ні чужыя людзі не зачапілі.

Бацька запыніў каля алешын каня, споўз з саней-развалак. Калматыя яго бровы і вусы былі белыя. Ссівеў і чорны каўнер кажуха: ім, канечне ж, затульваліся шчокі і нос ад холаду.

— Ну, дзякуй богу! — выдыхнуў клуб пары.— Дарога цвёрдая!

Янка прыпыніў каня і не завіхаўся злазіць з належанага месца: здаецца, яшчэ ехаў бы і ехаў. Аж на край свету. І не кратаўся б у такі холад. Нават не хацелася думаць: усё, дабраліся. Злазь і рабі. Кожны год, кожны дзень адно і тое ж: работа ды работа. У полі, у лесе, каля дому. А вось такія далёкія, як і ў пільніцкі млын ці на рубяжэвіцкі кірмаш, паездкі рэдкія, і яны вельмі хвалююць, абнаўляюць душу. Таму, можа, і кожны з маладых хоча адарвацца ад свайго двара, паглядзець свет, пабачыць на свае вочы, дзе і як жывуць людзі (з іх яшчэ ніхто не ведае іншага пачуцця: калі шмат пабудзеш на чужыне, стомішся ад уражанняў — і не толькі ад уражанняў! — дык вельмі хочацца дадому, у свой родны кут). Янкавы старэйшыя браты — Гіполь ды Алесь — адлучаліся, былі на свеце, а ён вось усё жыццё ў сваім двары ды пры сваім доме...

— Распрагай,— нібы загадаў бацька.

Янка слухмяна злез з развалак, памахаў рукамі і паскакаў спачатку на левай, пасля на правайназе.

Сагрэўшыся, пачаў распрагаць Гнядую. Яе ўзялі ў суседа, Пётрыка Гарбацэвіча. У таго трое коней, у іх — адзін. Прыйдзецца ўвесну адрабляць за такую фатыгу. І якраз яму, Янку. Сам бацька не пойдзе і матку не пусціць — заганарыцца.

Распрогшы, бацька прывязаў свайго Сівога лейцамі да самай тоўстай алешыны, зняў з сябе стары, абліпялы і прашмальцаваны на локцях кажух і накрыў ім упацелую конскую спіну. Накрыў суседаву кабылу сваім новым кажухом і Янка. Коней трэба шанаваць. Гэта ўжо закон для кожнага гаспадара: свая ці не свая жывёла, а беражы яе лепш за сябе.

Самі яны, бацька і сын, засталіся ў суконных, зашпіленых пад горлам аплікамі фрэнчах. Абодва высокія, з шырокімі плячыма. Толькі бацька спакойны, нават маруднаваты, прыгорблены і вельмі маршчыністы, а ён, сын, стройны, гнуткі, рэзкі, нібы не ведаючы, што яму рабіць ад вялікай маладой сілы,— дай яму падважку,— дык ён не тое што Гаспадар-камень, але і ўсю зямлю з месца зрушыць. Ёсць, канечне, розніца, калі аднаму шэсцьдзесят гадоў, а другому яшчэ толькі дваццаць з хвосцікам.

Бацька скінуў з саней, на якіх сам ехаў, жэрдку, граблі, вяроўкі і сякеру, зняў торбу з харчам, а пасля падняў аглоблі, лёгка прайшоў крыху наперад, павярнуўся і паставіў сані з другога боку стога, перадам на Кляцішча — на дарогу дадому. Кінуў позірк направа: што ўжо робіць Гарбацэвіч? Няёмка ж адстаць. Той смяяцца будзе. Яны, Нямкевічы, век першыя і спраўнейшыя ў рабоце. Вёска, ведаючы гэта, не толькі паважае іх за сталасць, мудрасць і гаспадарлівасць, але і вучыцца ў іх — якраз у бацькі ўсе заўсёды пытаюцца, калі пачынаць сеяць, касіць ці жаць. Нават і Пётрык раіцца. Бо траціў шмат дабра, асаромліваўся раней часта, калі нешта першы пачынаў рабіць.

— Ну, лезь, скулі верх,— сказаў бацька, а сам прывязаў у перадку саней пастронак, а пасля ў задку, пад ляжанкаю, адзін канец доўгай, яшчэ скручанай у абаранак вяроўкі.

— Залезеш сам? Ці памагчы?

Янка моўчкі засунуў рукі глыбока ў сена, учапіўся — бацька ў гэты час лёгка падпіхнуў, і ён спрытна палез наверх. На хаду ўчапіўся за настылую алехавую апоўзіну і пацягнуў на сябе. Ні гэтая, ні іншыя апоўзіны не скрануліся: на іх, звязаных уверсе лазовымі дубцамі, даўно ўжо, відаць, у пачатку зімы, прыкарэў ладны пласт снегу, а да снегу, канечне ж, прымерзла верхняе сена. Патурзаў, раскрышыў спакваля выдзьмуты і абледзянелы снег і звалок-такі апоўзіны долу. Развяршыў стог. Сена не зацякала: і на вяршочку было па-летняму свежае, з зялёнымі лісточкамі, травінамі, пахла сонечным цяплом, сухім водарам лугавой травы.

Янка не ўтрываў, стаў на ўвесь рост на самым вільчыку. Спачатку зірнуў долу — здаецца, на невысокага бацьку, які цяпер нагнуўся і падбіраў апоўзіны, каб аднесці іх убок, на нізкіх коней і зусім дробных суседзяў, а затым падняў галаву, кінуў позірк навокал. Вочы аж разбегліся. Адчуваючы лёгкую дрыготку ў каленях і хмялеючы ад вышыні, бачыў доўгі-доўгі, аж за ружовы небакрай, чысцюткі, нібы вялізнае прасцірадла, луг, дзіўныя і файныя ўзоры на ім: чужыя рыжыя стагі з белымі шапкамі, вузкую няроўную, засланую белаю коўдраю рэчачку, сцішаныя алешыны аберуч яе. Абапал рэчачкі і шырокага лугу — па адзін і другі бакі — густою зялёнаю сцяною стаяла Налібацкая пушча. Нідзе ёй ні канца ні краю. Маўклівая. Пагрозная. Нібы пустынная. Здаецца, ні тут, ні там далей ужо няма ні вёсак, ні адзінокіх лесічовак. Быццам тут вось ужо і край свету, лес, лес, лес — мяжа, за якою няма нічога жывога.

Але ж гэта не так. Па-першае, за краем зямлі — вада, а па-другое, за гэтым лесам, праз вёрст дваццаць,— стары і, як кажуць, павабны і слаўны горад Новагародак, што некалі быў нават сталіцаю магутнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. А за Новагародкам, расказваюць, стаяць і меншыя, і яшчэ большыя гарады з высокімі цаглянымі дамамі, электрычным святлом, з аўтамабілямі і трамваямі. Цікава, як там, у тых гарадах, жывуць людзі, што не сеюць, не косяць, не носяць лапцей? А жывуць жа яны, канечне, іначай, чым вяскоўцы. Спакон жа вякоў жыццё нібы цэніцца на тры лады: «як у нас тут, у вёсцы», «як там, у горадзе», і «як там, за мяжою...». Ад незразумелага хвалюючага пачуцця яму хацелася зняць з галавы аблавушку, узяць яе ў руку і доўга стаяць, пазіраць удалячынь, аддаючы свету даніну загадкі, здзіўлення і павагі. І зняў, схіліў бы галаву ў пашане, каб не саромеўся суседзяў. Бо тыя расскажуць пра яго такі ўчынак — тады ўся вёска будзе смяяцца як з дзівака. Ён ужо ведае: людзі сваёй шчырасці саромеюцца, з чужой — смяюцца...

Не, пушча не ціхая, не мёртвая. Вось амаль над галавою, нечакана аднекуль вынырнуўшы, паказалася сарока. З чорнаю галавою і шыяю, з белым і доўгім пярэстым хвастом. Зачэкала. Як усёй пушчы ўвяла ў вушы: а ў нас людзі! Знікла. Недзе далёка і глуха застукаў дзяцел.

— Ну што там угледзеў? — задраўшы галаву, запытаў з усмешкаю бацька.— Лася? Лісу? Ці, можа, мядзведзя?

— Велькі свет...

— А! — здаецца, адразу ж зразумеўшы яго, прамовіў бацька. З хвіліну памаўчаў, а пасля нібы яму, нібы сам сабе пачаў гаварыць гэтаксама ўзрушана: — Свет і праўда велькі! Не толькі нашы Янкавіны ці воласць, павет, наша губерня на ім! І губерняў, і

імперый процьма! І калоній іхніх... Самыя розныя людзі жывуць. І белыя, як мы, і чорныя, як сажа, і жоўтыя. І гавораць па-ўсякаму. Не толькі па-расейску, па-польску ці па-нашаму. Ест такія краі, дзе так гавораць, што ты нічога не разбярэш. Я ж служыў на Каўказе, чуў...

Янка ўжо нямала за сваё маленства ды юнацтва наслухаўся, як баялі бацька і іншыя бывалыя мужчыны пра сваю колішнюю вайсковую службу, пра чужыя краі і чужых людзей, пра іхнія звычкі, але цяпер зноў не мог даць веры: няўжо ў гэтым, пад адным небам свеце ўсё — і прырода, і людзі — сапраўды вельмі розныя? У такую вось сонечную раніцу?

— Многа розных людзей на тым Каўказе жыве... — мабыць, успамінаючы свае маладыя гады, прамовіў бацька.— Але вось што дзіва, я табе скажу: народзіцца які грузін, абхазец — і ён ужо, маленькі, грузін і абхазец. Чорненькі, шустры, вясёлы.

Бацька замаўчаў і не падганяў скідаць сена, нібы дазволіў: зірні, сын, зірні на свет вялікі, на чужое багацце. Зайздросціць, можа, надта не варта, а падобраму, па-гаспадарску і чужое агледзець ніколі не зашкодзіць.

Гэтай Налібацкай пушчай, на якую цяпер з такім захапленнем пазіраў Янка, некалі ўладалі Радзівілы, а з пачатку мінулага стагоддзя яе аддалі Вітгенштэйну. Яго родзічы, казалі, мелі процьму зямлі, лесу, сенакосаў і там, у Расіі, дык Налібацкую пушчу здавалі ў арэнду. Прышлыя арандатары рэзалі лес, білі звяр'ё, збіралі мёд, ягады, грыбы і ўсё гэтае дабро сплаўлялі па Нёмане за мяжу. Несцераўцы, налібачане, прудзяне, крычатоўцы,ніўнянцы, хатаўцы, янкавінцы — увесь тутэйшы навакольны люд, які меў мала сваіх лугоў ды лясоў, купляў у арандатараў сенакосы, дровы, старыя сосны на хаты. Куплялі на торзе, цанаваліся, вёска перад вёскаю, самі памагалі

чужым рукам выграбаць са сваіх жа кішэнь вялікія грошы.

Янка пазіраў-пазіраў удалячынь, а пасля адчуў: ужо не толькі здзіўляецца, хвалюецца, але пачынае і разгубліваццa, нібы меншаць, нікнуць ад адчування вялікасці свету, вялікасці нечага багацця, нечай улады. І ад нейкай незразумеласці ды глыбока схаванай несправядлівасці. Бо што ні кажы, а ў жыцці яе вельмі і вельмі шмат. На кожным кроку. Усё гэта не толькі ўражвае, але і прыгнятае. Цяжка, непасільна, пакутліва і паныла. Ён сагнуўся і пачаў спіхаць, скідаць уніз зляжалыя шчынкі — пласты — сена. Праўда, ні ад хвалявання, ні ад прыгнечанасці не пазбавіўся.

П'янеючы ад пахкага сена ды раз за разам чмыхаючы ад пылу, моўчкі развярнуў стог ледзь не да сярэдзіны — датуль, куды бацька з зямлі можа дастаць віламі. Затым скокнуў долу, на скінутае сена. І там ужо, на зямлі, развязаў шнуркі, падняў угору навушнікі аблавушкі — увагрэўся.

Пакацілася па лесе рэха — закрычаў на сына стары Гарбацэвіч. Янка зірнуў туды: Віця ніяк не мог узабрацца на стог. Лез і споўзваў уніз, колькі бацька ні папіхаў яго. Розныя яны, гэтыя Гарбацэвічы. Бацька — невысокі, таўсматы, цягавіты, упарты, жорсткі, не дурны (у Янкавінах не казалі, што ён разумны, а якраз «не дурны», бо недзе нечага крапельку яму не хапала, каб пра яго мелі лепшую думку), а сын — высакаваты, чуллівы, але слабы, маўчун і няўдаліца. Больш такіх цельпукоў, як ён, бадай, у вёсцы і няма. У маленстве, навучыўшыся ад дзеда, любіў іграць на скрыпцы. Зашыецца ў які куток і журботна пілікае, схіліўшы галаву на плячук ды заплюшчыўшы вочы. Дык бацька, калі памёр дзед, прадаў карчмару Шлёму скрыпку, баючыся, што сын праз яе адаб'ецца ад гаспадарскай работы: Віцю па-

сля дзедавай смерці пачалі запрашаць іграць на вяселлях. У Янкавінах спрадвеку казалі: з музыкі, з рыбака і млынара не будзе гаспадара. А як адабралі скрыпку, дык Віця зрабіўся ціхі, нелюдзімы. Рабіў усё па гаспадарцы, здаецца, толькі пад прымусам, без ніякай ахвоты. Часта, як бачылі, хадзіў і падоўгу стаяў каля Гаспадара-каменя.

Гарбацэвіч са злосці апераза сына вілкамі па спіне. А пасля адштурхнуў і палез сам. Сарваўся. Зноў пакараскаўся. Закрычаў, каб сын падапхнуў. І ўзлез. Як кот на гладкі слуп.

— Жылісты яшчэ, халера! — усміхнуўся стары Нямкевіч.— Насмалі далоні, дык і чорта за хвост утрымае.

Янка стаў на сані. Бацька — рукамі — пачаў класці на краі развалак і пасярод іх тоўстыя шчынкі сена. Дарога далёкая — трэба добра зладаваць, каб сані не заносіліся ўбок, не перакульваліся на паваротах. Хоць Янка ўжо сталы, але самую важную гаспадарчую работу бацька ўсё яшчэ бярэ на свае рукі — сее, клепле косы, копіць і стагуе сена, сам думае, колькі і што сеяць ці трымаць з быдла, а што збыць. Яго слова ў хаце — закон. Хоць ён і не назола, як сусед. Лічы, позіркам ці адным-двума словамі камандуе: схадзі туды, падай ці зрабі тое і тое.

Бацька не толькі працавіты, але і самаахвярна любіць работу, як той Віця скрыпку. Вось і цяпер стараецца з ахвотаю, з любоўю: падасць — ужо драўлянымі віламі — ахапак сена і, калі Янка прытопча, абыдзе і пільна агледзіць усё, вернецца і то падапхне дзе, то на сябе сена пацягне. Трэба ж ні напусціць, ні зарваць які бок. І самому прыемна, калі ўсё будзе спрытна, і налібацкія ды свае людзі смяяцца не будуць. Увагрэўся, зачырванеўся. Вось на хвіліну запыніўся, адплікнуў гаплік, загарнуў навушнікі ўгору.

І цяпер, забыўшыся ды думаючы пра сваё, па даўняй прывычцы ўпірае языком пад верхнюю губу.

Бацька, як і кожны гаспадар, думаў, можа, у гэтыя хвіліны пра хуткую вясну, гадáў, колькі ў іх яшчэ засталося мяхоў бульбы, пшаніцы ці ячменю, колькі чаго пасеецца і колькі застанецца і ці зойдзе ўсё гэта старое, як і жыта, за новы хлеб. А можа, думаў і пра іншае. Пра старэйшых сыноў, якія, да слова, апошні час прынеслі яму шмат клопатаў.

Янкавы ж думкі ў гэтыя спакойныя, марудлівыя хвіліны перакінуліся на запаветнае. На Мішукову Зосю.

«Чаму яна такая? — разважаў.— Нібы ружа... І файная, і калючая... Вочы красою сваёю адбірае, а ў рукі не возьмеш... З іншымі хлопцамі і гаворыць, і жартуе. Са мною — не. Сыдземся на якую хвіліну — маўчыць. Загавару — кіне ў адказ два-тры непрыветлівыя словы і ходу».

Бацька перапыніў гэтыя яго думкі — падаў сюды, наверх, гладкую яловую жэрдку.

— Роўна, пасярод кладзі,— напомніў, павучыў як малога.

Янка прымеркаваў, паклаў жэрдку пасярэдзіне, падняў камель, каб бацька зачапіў за яго пастронак. Бацька стаў у перадку, абціснуў абедзвюма рукамі сена, раз-другі на выразанай на камлі ямачцы закруціў пастронак, Янка аблёг грудзінай на жэрдку, падціснуў яе колькі мог уніз. Адпусціў. Бацька падштурхнуў камель жэрдкі, пайшоў у хвост саней і накінуў на вяршок вяроўку. Уціснуўшы, завузліў яе. А тады ўзяўся падаваць сена. Каб і лепш укласці, і каб ён, Янка, мог смялей хадзіць туды-сюды, таптаць, не баючыся абсунуць які бок.

«Трэба мне быць смялейшым... — сам сябе павучаў Янка.— Калі буду баяцца, чакаць, што яна пе-

раменіцца, дык яшчэ возьме і прыедзе да яе ў сваты які смелы з чужой вёскі. З Налібак ці з Дзераўной. Там хлопцы баявыя...»

## 2

— Во вазок! — цмокаў нізкі, таўсматы Гарбацэвіч, абыходзячы іхнія сані з сенам з усіх бакоў. У руцэ трымаў торбу з харчам. Вярнуўся сюды, да іх.— І спрытны, і добра ўціснуты! Пудоў дык пудоў на ім!

— Вазок як вазок,— нібы з абыякавасцю за сваю работу адказаў бацька.— Колькі там тых пудоў! Добрая капа, не больш.

— Не, Ясь, не кажы,— вялікія лупаватыя Гарбацэвічавы вочы блішчэлі ад зайздрасці. Шчокі з густой сівай шчэццю чырванеліся, як у маладога. І тоўстая кіпка-бульбіна на носе ружавелася.— Не капа. Усе ж у вёсцы ведаюць, якія ты стагі ставіш. І той,— кіўнуў на другі стог,— вялізны. Мае стагі намнога меншыя. Быццам копкі, як ты кажаш.

«Баіцца, каб яго Гнядая не падарвалася... — пасвойму зразумеў суседавы захапленні Янка.— Але мала калі скажа тое, што думае. Хітры, як ліс. Як карчмар Шлёма. Не дарэмна ж з тым гешэфты мае...»

Янка зірнуў на аднагодка Віцю — той які ўжо тыдзень няголены, але не з густой шчэццю, як у бацькі ці ў яго, Янкі, а з рэдзенькім светлым пушком пад носам і на шчоках, мала большым, чым у яго сястры, Анелькі, у аблезлай заечай, усё яшчэ завязанай пад падбародкам аблавушцы, у латаных-пералатаных, некалі пафарбаваных сажаю, а цяпер аблезлых портках, нібы жабрак, стаяў і пазіраў на ўсё — на сані з сенам, на агонь, што паспеў ужо раскласці Янка —

з абыякавасцю. Янкавага позірку не вытрымаў. Зірнуў, бліснуў бялкамі і апусціў галаву.

«І чаму ён такі белы? — здзівіўся Янка.— Як без крыві. Няўжо туга па скрыпцы ссушыла? Ці якая страшная хвароба ў яго сярэдзіне сядзіць?»

— І сена ў цябе лепшае,— усё яшчэ цмокаў Гарбацэвіч.— Зялёненькае. Трава адна. А ў мяне чорнае. І абы-якое. Горкае. Елка ды бабок.

— Ты, Пётрык, як тая зайздросная баба...— усміхнуўся ў вусы Нямкевіч.— Вот у суседа дык усё большае і смачнейшае... Хоць, помніш, нападдзя на вяселлі нашага Гіполя падпіла і жартавала: мне не трэба мужчына малы, мне не трэба вялікі, мне трэба вясёленькі...

Гарбацэвічу зарвала, як жабе ўзімку.

— Пажылая ўжо ж, халера на яе, а яшчэ гуляе з чужымі мужчынамі,— дадаў Нямкевіч.— Вот і ўчора, казалі, паповы вароты нехта вымазаў глінаю... І прыдумаў жа нехта: абы замужняя баба знюхалася з чужым мужыком ці з хлопцам, дык тут як тут нехта вымажа вароты... Яшчэ так, казаў мой дзед, і за яго прадзедамі было. А ў другіх вёсках, кажуць, вымазваюць вароты гаспадару, чыя жонка скруцілася, дзёгцем альбо сажаю.

Гарбацэвіч зноў памаўчаў, як глынуў язык. Ды што ён мог сказаць? Некалі, як быў малады, і яго вароты вымазвалі глінаю. Стары Нямкевіч, відаць, цяпер успомніў гэта — раптоўна асекся. Праўда-то праўда: ляпнуў лішне, закрануў без дай прычыны ў суседавай душы даўні боль.

— Сена як сена, сусед. Якое вырасла, такое і скасіў,— перамяніў гутарку.— Я ж травы сам не сею і ў бога не прасіў, каб на маім кавале вырасла, а а на тваім — не.

Сказаў і сеў каля саней— спіною да сена. Каб не застудзіць плечы. Развязаў торбу, дастаў загорну-

ты ў беленькі, з файнымі кутасікамі ручнік паўбохана хлеба, а ў чысты, цяпер, праўда, абтлушчаны кавалак кужалю апольчык сала, цыбулю. З павагаю разлажыў усё гэта на ручніку.

Янка сеў па правай руцэ бацькі. Гарбацэвічы — па левай. Сусед гэтаксама развязаў сваю папошапую, папалатаную торбу, разгортваючы старыя ашмоткі, пачаў даставаць спажыву: вараныя яйкі, невялікую галоўку кіслай капусты і заткнутыя пакуллем дзве бутэлькі малака. Хлеб у суседзяў быў ацеслівы, здаецца, з перацёртаю лупінаю і з ячменнымі шаройкамі. Самі сабе есці шкадуюць. Хто-хто, а яны маглі б і добры хлеб мець.

Свяціла высакаватае ўжо сонца, сінелася неба. Мароз адпаў, цяў толькі спадцішка. За шыю ды за плечы. Луг блішчэў. Аж адбірала вочы ад белізны прастору, снегу, што ўжо не рыпеў, а быў мяккі. Пяклі шчокі.

— Ды як ты рэжаш хлеб? — закрычаў на Віцю Гарбацэвіч.— Ты ж крышыш, ломіш!

— Ды ён мёрзлы... — саромеючыся, адказаў той.

— Мёрзлы, мёрзлы! — перакрывіў бацька.— Няўмека ты! Няўдаліца! А яшчэ жаніцца ўздумаў! Не ўмеючы ні кала зачасаць, ні касы накляпаць. Ні лусты хлеба адрэзаць!!! Дай сюды,— і выхапіў ад сына хлеб, стары, з трэснутаю тронкаю і з вузенькім, са зрэзаным пасяродку лязом нож.

«Вот гэта дзіва! — сам сабе ўсміхнуўся Янка.— Віця хоча жаніцца! А каторыя жартуюць, ён не то хлопец, не то дзяўчына. І вусы не растуць, і голас жаночы ці дзіцячы...»

— Жаніцца — не вучыцца..., — усміхнуўся стары Нямкевіч.— Бывае, каторы да вучобы ці да работы як пень, а да танцаў ці да дзяўчат па-адмысловаму спрытны. Такі ўвішны ды здольны ўрвіцель, што адзін бог ведае, дзе і адкуль што ў яго бярэцца!

— Праўду ты, Ясь, кажаш. Работу не ўсе любяць ці ўмеюць рабіць, а жаніцца ўсе ахвотнікі вялікія. Як засвярбела, дык і жаніх... І наш кавалер насеў: жаніце! Цяпер маладыя не тое, што мы некалі былі: па гадоў пяць да дзяўчыны хадзілі, сваіх і чужых бацькоў на каленях прасілі, каб тыя дазволілі дзяўчыну ўзяць... Праўда, ён,— Гарбацэвіч кіўнуў на сына,— перада мною не заікнецца нават пра жаніцьбу, бо ведае, што я яшчэ і пугаю пажаніць магу. Матку просіць: «Пашліце пасля вялікадня сватоў».

— І да каго ж? — запытаў Нямкевіч, зачышчаючы ражон.

— Да Зосі Мішуковай.

Бацька раптоўна павярнуў галаву і чамусьці пільна зірнуў на Янку. Ён не вытрываў гэтага пранікліваго позірку, хуценька апусціў галаву — сэрца яго ўстрапянулася, штурхнула ў грудзіну, на міг некуды знікла, пасля вярнулася, але ўжо з рэзкім болем. Апрача такога вострага болю Янка ўпершыню за сваё жыццё адчуў яшчэ і вялікі страх — большы, чым калі дагэтуль. Вось табе і скрыпнік, няўдаліца! Вунь на каго мае вока!

— Пачалі ж ужо марцаваць катэ... — усміхнуўся бацька.— Дык і нашы маладыя пад весну сверб пачулі...

— На сверб ест і серп...— адказаў Гарбацэвіч.

— Скажу табе, сусед, аднак хлопец твой нюх добры на дзяўчат мае,— здаецца, з павагаю да Віці прамовіў бацька.— Файную, спрытную выбраў. Самую паглядную ў вёсцы. Хто багацце шукае, а ён — красу...

— Маладое — дурное. Краса — красою, а дабро — дабром. Людзі ж мудра кажуць: «Жаніўся б на казе, абы з залатымі рагамі».

— Можа, каму і трэба тыя «залатыя рогі», але толькі не табе.— сказаў бацька.— Хіба табе сваіх

дваццаці з гакам дзесяцін [1] мала? Ды на двое дзяцей?

Янка слухаў старых, а кроў пульсавала-прылівала ў скроні. Бач, што хоча Віця! Зосю ўхапіць!

— Я ж, Пётрык, і надалей думаю. І пра яго дзяцей ды ўнукаў. Каб увесь род меў хлеб і да хлеба...— Гарбацэвіч прыціснуў боханчык да грудзіны і пачаў адразаць лусту. Але не адрэзаў. Адламаў скібу. Зморшчыўся.— Як кажуць, я з гразі ды ў князі выбіваюся, дык няхай хоць яны,— кіўнуў на сына,— пажывуць. Толькі, кажу, цяпер трэба пра тое дбаць.

Нямкевіч змаўчаў.

— Я нічога благога пра Мішукову дзеўку не скажу,— вёў сваю думку далей Гарбацэвіч.— Файная, як ты кажаш, спрытная. І самі Мішукі людзі неблагія. Але які яны дадуць пасаг? У Мішука цяпер шэсць дзесяцін на трое дзяцей... Дык што ад яго возьмеш? Сама вялікае дзве дзесяціны. Ну, калі добра ўпрэшся, тры дасць... Я яму,— зноў кіўнуў на маўклівага сына,— у Прудах дзяўчыну нагледзеў. Не такая красуня, як Мішукова, але і не брыдкая, чыстая, гладкая. Праўда, старэйшая на гадоў пяць. Але дзесяцін пяць ці шэсць прынясе ў пасаг. І зямля тая будзе не так ужо далёка — за вярсты тры...

Віця быў бязмоўны; Янка адчуў: лягчэе на душы. Мала што гэты скрыпнік кваціцца на Зосю. Стары Гарбацэвіч не дазволіць яе ўзяць замуж. А яго бацька павінен згадзіцца, каб парадніцца з Мішукамі: абое яны рабое. І не голыя, але надта і не касматыя. Гаспадары, як кажуць у вёсцы.

— Па-гаспадарску ты разважаеш, Пётрык,— пачціва прамовіў Нямкевіч.— Што праўда, то праўда: сабраць дабро цяжка, а растрэсці лёгка. Але што ж Мішуку ці мне вот рабіць? У нас усяго па шэсцьсем дзесяцін зямлі, а дзяцей нежанатых ды незамуж-

---

[1] Дзесяціна — крыху звыш 1 га.

ніх яшчэ па трое... Вот і дай ім волю, зямлю, шчасце! Ніхто ж дарэмна ні палосачкі поля не падорыць! Ні цар, ні пан, ні...

— Ну, твой Гіполь праз гады тры вернецца з Амэрыкі і, можа, вернецца не з пустымі рукамі. Багатыром. Аддзеліш — будзе жыць сам па сабе,— нібы парадзіў Гарбацэвіч.— Алесю твайму зямля не трэба. Ён не жыў з яе і жыць не будзе. Ён хлопец вучаны, утрасецца ўсё ў яго — зноў стане навучыцелем, пачне добрыя грошы палучаць. Ну, а ты будзеш дажываць свой век во з ім, меншым,— кіўнуў на Янку,— хай толькі ён сабе дзяўчыну з добрым пасагам знойдзе...

— Дзе яны, сусед, тыя багатыя дзяўчаты? На дарозе не валяюцца.

— Канечне, не валяюцца. Шукаць трэба...

— Дзе ты іх надта знойдзеш?! Як ні падумаю, дык дзве-тры напраўду багатыя нявесты на ўсю воласць. Ды адну ты ўжо абмацаў.

— Хлопец паглядны, спрытны да работы. Усё ў яго руках аж гарыць... — нечакана пахваліў Янку Гарбацэвіч, не зважаючы, што Янка дагэтуль нямала напсаваў і яму, і яго Віцю крыві.— За такога малойца любая пойдзе, і кожны бацька добрага пасагу не пашкадуе. Бо ведаць будзе: нішто за ім не прападзе. Ні дачка, ні зямля. Ад яго,— усміхнуўся,— і дзеці здаровыя ды дужыя пойдуць.

— Ты вот сваю Анельку за яго аддаў бы?

— А чаму і не аддаць? — неспадзявана са згодаю адказаў той. Здаецца, упершыню і ў яго калючых вочках і на сцятых губах заблудзіла ўсмешка.— Зяць будзе дык зяць! Такому не шкода і добры кавалак зямлі адпісаць. Калі не здурэе, дык стане першы гаспадар на ўсю вёску!

«Павешуся, але не вазьму тваю Анельку...— ратучасць і непрыязнь запякліся ў Янкавым сэрцы.— Віця ўжо ўмелец, а тая ўтрая ўдалая. Крывыя ногі,

вочы касыя... Ніхто яшчэ да яе не сватаўся, ніхто не гоніцца і на добры пасаг. Нават і Чорныя».

— Ну што ж,— прамовіў Нямкевіч.— Можа, і згаворымся як па-суседску.

Янка са здзіўленнем зірнуў на бацьку: жартуе? Бог яго ведае. Сам сабе ўсміхаецца. У вачах вясёлыя агеньчыкі. З трывогаю адчуў: у бацькавай спакойнай, разважлівай галаве заявіліся нейкія новыя, з прыцэлам на будучае, надзейлівыя і карыслівыя задумы.

— Ну, а твая Кастуся... — сказаў Гарбацэвіч і тут жа асекся. Як не ведаў, а што ж пажадаць суседавай гарбаценькай дачцэ.— Можа, і ёй бог шчасце пашле...

Бацька нічога не адказаў. Схмурыў калматыя бровы, што амаль зрасліся на пераноссі. На раптоўна пацяжэлы і яшчэ больш памаршчынелы твар усплыў з душы цёмны, пакутлівы цень. Забалела сэрца па сястры і Янку. Ён хуценька ўзяўся рэзаць хлеб. І праўда, хлеб не рэзаўся. Крышыўся. Але адрэзаў дзве тоўстыя лусты.

— Ну, чаго рот разявіў? — адчуваючы няёмкасць за боль, які прынёс суседу, накінуўся на сына Гарбацэвіч.— Рэж, жаніх, качан!

Янка адрэзаў кавалак прасоленага, з ружоваю праслойкаю сала, уссадзіў яго на вострыя альховы ражон і падлез да агню. Зірнуў на Віцю — той міргаў-міргаў светлымі вейкамі, заплюшчваў вочы, шморгаў малым кірпатым, як у маці, носам. Вось па ўпалай белай шчацэ, па залацістым пушку пакацілася сляза. Зрабіла бліскучы раўчучок — ад куточка вока і да аброслай барадаўкі, што вырасла пры самым падбародку.

«Плача... — спавага варухнулася ў Янкавай душы.— Відаць, не хоча браць тую, прудскую... Ці пячэ крыўда ад бацькавых зняваг? Не хлопец, а баба! Паніч, як кажуць у вёсцы... Агрызнуўся б раз добра,

гыркнуў бы — дык стары і асекся б, не разяўляў бы без дай прычыны зяпы...»

Нямкевіч гэтаксама пасунуўся да агню, апусціў на агонь ражончык. Сала на абодвух ражнах засквірчэла, запахла соладка і мляўка, пачало пакрыху пакрывацца чорнаю лускаю, капаць на галавешкі.

Гарбацэвіч разрэзаў папалавіне качан — той быў мёрзлы. Канечне, памерзлі і яйкі. Каўтнуў сліну. Адвярнуўся.

— Бяры мой аполец і адрэж сабе ды сыну па кавалку,— не паварочваючыся, прамовіў Нямкевіч.— На капусце ды яйках і ног не пацягнеш, і вілкі з сенам угору не падымеш. Ды змерзнеш за дарогу.

— Ды не трэба,— неяк паспешна адказаў Гарбацэвіч.— У нас жа і сваё сала дома ест. Але я наўмысне не браў. Пост жа вельмі цяпер.

— Дома, пры лёгкай рабоце, пасці, а тут... Бяры, бяры. Пост — не мост, яго і абысці можна.

Гарбацэвіч паслухаў. Адрэзаў сабе і Віцю па скрылю сала.

«Не так ты, мусіць, баішся грэху,— падумаў Янка,— як скупец са скупцоў. Сам сабе есці шкадуеш».

— Не лі, падла ты, тлушч на агонь,— неўзабаве зноў засыкаў, як гусак, на Віцю Гарбацэвіч.— На лусту тыцкай. Дабро ж! — І, ужо з павагаю ды з паддобрываннем паварочваючыся, паскардзіўся: — Зусім не ашчадныя гэтыя маладыя. Марнатраўцы з марнатраўцаў. Каб даў ім патолю, дык за тыдзень гаспадарку звялі б.

«Ну і аса! — зморшчыўся Янка.— Росту кату па пяту, а злосці, звягі — дык на вялікага сабаку. І родных, і парабкаў пазамучваў работаю ды лаянкаю. Век сіпіць і сіпіць».

— Неяк і яны жыць будуць. Не прападуць,— нібы заступіўся за іх, маладых, бацька.— Мы ж не прапалі і гаспадарак не звялі, хоць і на нас некалі нашы

бацькі наракалі. Калі самі чаго ведаць не будуць, дык добрыя людзі падрадзяць.

— Не кажы, Ясь. Людзі — людзьмі. Трэба найперш свой розум, сваю кемнасць да ўсяго мець. Ніхто чужы табе надта не спрыяе. Кожны глядзіць, як цябе абхітрыць, як ад цябе паболей уварваць. Я ж ведаю... Трымаю парабкаў. Каб не пільнаваў дзень і ноч, дык і хату па кутах разнеслі б і прапілі. Ого цяпер людзі! Не дай бог!

— Не грашы, Пётрык,— уздыхнуў бацька.— Не наракай надта ды не скардзься. Ні на сваю долю, ні на чужых людзей. Хто-хто, а ты абжыўся ўжо. Зямлі, лесу вунь колькі маеш. Усе здаровыя, усе дома. Мае нарассыпаліся, яшчэ не абладаваныя... Гіполь — за светам, жонку і двое дзяцей мне на рукі пакінуў. А за светам, сусед, усяк бывае... Людзі там зборныя... Бывае, каторы хціва і за капейку можа забіць чалавека... Не дай божа! — паражагнаўся.— Алесь без работы... Хто ж ведае, што яму скажа суд... І яго,—кіўнуў на Янку,— сёлета, як сказалі, у армію забяруць. Адзін з мужчын застануся ў хаце. А якая ўжо ў мяне сіла! І на колькі яе! Вунь колькі ўжо гадоў наскрэбалася... Але, што ні кажы,— уздыхнуў,— страшней за ўсё, калі вайна будзе... Чый-чый край, а наш то не ўсцеражэцца ад яе... Хто калі ні ідзе на Расею, хто калі ▪ яе ні ўцякае, усё праз нашу зямлю шыбуе, топча, паліць, кроў лье...

— Шлёма божыцца: сёлета вайна пачнецца... — уздыхнуў і Гарбацэвіч.— Кажа, не размінуцца Мікалай і Вільгельм, схопяцца загрудкі... Чорт яго ведае, адкуль ён што знае...

— Мікалай і Вільгельм то хай бы, колькі хацелі, адзін аднаго за чубы цягалі, але хай бы людзей сваіх у калатнечу не ўцягвалі... — паразважыў бацька.— Бо цяпер жа страшнейшая вайна будзе, чым крымская ці японская. Усе кулямётаў, аэрапланаў, караблёў,

яшчэ ўсякай сакрэтнай халеры нарабілі ды назапасілі... Цяпер больш як калі паб'юць людзей... Цяпер, можа, ужо зусім звядуць свет...

Янка слухаў, адчуваў: пачнецца вайна — і яго забяруць. Але, як і кожны малады, вельмі не баяўся. Бо не ведаў, што гэта такое. Як ні расказвалі пра яе былыя франтавікі, інваліды, як ні страшылі старэйшыя кабеты — сіроты, удовы, маткі,— а ён усё роўна думаў пра вайну найперш як пра нейкую гульню, дзе можа выявіць сваю кемнасць, смеласць, лёгка перамагчы непрыяцеля, дастаць геройскіх узнагарод, як мелі іх каторыя мужчыны з вёскі, што раней ваявалі і засталіся жывыя.

— Хіба сцежка тая вузкая, што цяжка размінуцца? — паабураўся Гарбацэвіч.— Ці без вайны пражыць няможна? Што за людзі!!! Што за характар!!! Пажывуць крыху ў міры, адбудуюцца, пад'ядуць, нагадуюць маладой сілы — і пайшлі таўкці адны другіх!

— Немяц сорак гадоў ужо, лічы, не ваяваў. Нарасло, як ты кажаш, і сілы, нарабіў і ўсякай зброі — дык свярбяць рукі... І вочы на чужое гарадь... Надта у паноў...

— Божа мой, божа! — паківаў галавою Гарбацэвіч.— Колькі ўжо будзе гэтая завідушчасць і заграбушчасць?!

— А заўсёды, сусед... Нічога няма на свеце страшнейшага, чым вайна. Лепш недаядаць, недасыпаць ці ўсякія знявагі цярпець, але не ваяваць. Усё тады, што ні сажнеш, скосіш ці выбераш, як у прорву ляціць. Вайна ж ненаежная. Давай і давай без канца ў яе горла. А колькі людзей, і вайскоўцаў, і цывільных, гіне, колькі калек, сірот, удоў, колькі зямлі пусцее і дзічэе... Мы то, старыя, пражылі сваё, нам час ужо і аддаваць богу душу, а вот яны,— кіўнуў на

Янку і Віцю,— яшчэ ж, лічы, не жылі, нічога не бачылі... Ім цяпер сама жыць!

Янка маўчаў, бо няможна маладому гаварыць, калі гамоняць, разважаюць старыя.

Заўсёды так бывае: ці то аруць, сеюць, ці то косяць яны — напрацуюцца, надумаюцца ўволю пра сваю сям'ю, гаспадарку, пра свае клопаты, дык потым немінуча сыдуцца, пасядуць, закураць і пачнуць гаварыць. Спачатку абсмяюць некага аднаго-двух самых няўдалых і безабаронных са свайго гурту, з вёскі, з акругі, а пасля перавядуць гамонку пра свет вялікі, пра мінулае, пра цяперашні дзень,— пра «палітыку». Здаецца, заўсёды ў Янкавінах былі вялікія «палітыканты»: ні ў адной бліжэйшай вёскі не даставалася столькі мужчынам за языкі, як з Янкавін. «Папалітыкуюць», аднак мала ў чым разбяруцца, што робіцца на свеце, і зноў ідуць да сваёй спаконвечнай звыклай работы, доўга адчуваючы нейкую трывогу і сваё незразумелае месца пад гэтым небам. Сёння вось першы «запалітыкаваў» Нямкевіч.

— Вайны, можа, у блізкі час і не будзе,— паразважыў Гарбацэвіч,— бо той, хто яе хоча, той яе і баіцца. Але нейкая мітрэнга ў свеце сяроўна павінна быць. Не толькі народы на народы, але і свае ж людзі на сваіх людзей у сваім народзе скрыгочуць. І па гарадах, і па вёсках. Здаецца, у дзевяцьсот пятым цар усіх бунтароў пабіў ці ў Сібір саслаў, аж сяроўна ўсіх не звёў. Ды і новыя завяліся. А ў Думе і па-за Думаю гаваруноў колькі... Усе хочуць Расею перайначыць. І ўсе па-свойму!

— Што праўда, то праўда,— паківаў галавою Нямкевіч.— Зноў, пасля вялікага пазалеташняга расстрэлу [1], заварушыўся люд.

— Не давядзе гэта да дабра. Гаварунэ гэтыя пад'-

---

[1] Маецца на ўвазе Ленскі расстрэл 1912 года.

юшваюць толькі народ. З-за іх можа зноў кроў праліцца...

— Горад, кажуць, цяпер зноў неспакойны. Ведама, люд там зборны, з усяго свету, дык адчайны, смелы. Без зямлі, без сваёй хаты, на ўсім казённым, дык яму, як кажуць, няма чаго траціць. Ледзь што — забастоўка, дземанстрацыя, а то і барыкады...

— Забастуюць, возьмуць у рукі зброю — паб'е зноў цар... — перапыніў Гарбацэвіч, аблізваючы свае тоўстыя, затлушчаныя ад сала пальцы.— Колькі ні бунтаваліся, цар заўсёды ўсіх біў. І ў Расеі, і па ўсёй імперыі.

— Былі ж забілі бомбаю і цара...

— То аднаго. Але сяроўна царскай улады не зрушылі.

— Хто ведае, ці моцная цяпер тая ўлада. Бо яна ўжо, як кажа Шлёма, падточаная. Папіхнеш — і паваліцца... А таўкатнёю, бойняю ўсяго не паправіш. За кроў людскую ніхто не даруе... Цягаў воўк авечак — могуць пацягнуць і воўка! Бунтароў то, як ты кажаш, пабілі, разагналі, але і збаяліся іх. Дзе саступілі, а дзе дзірак так і не залаталі...

— Паб'юць, кажу табе, і новых бунтароў. У цара сіла вялікая,— паўтарыў Гарбацэвіч.— Што ж будзе, падумай, калі папусціцца? Ды цяпер, калі Вільгельм зубы вострыць! Калі палякі заварушыліся, калі ўкраінцы, літоўцы ды і нашы тут каторыя галовы пападымалі! А яны ж яшчэ не тое хочуць, што там, у Маскве ці ў Пецярбургу!

— Няма спакою... Ці ведаюць людзі, чаго хочуць, ці не знаюць, чаго хацець, але...

— Не кажы, Ясь,— не даў дагаварыць Гарбацэвіч.— Падурэлі людзі. Злосныя ўсе, зайздросныя, сквапныя, без усякага паслушэнства. Шмат гаварыць навучыліся. І не толькі. Яшчэ, здаецца, паелі б адны адных. І не толькі вучаныя, але і простыя. Вучаным,

можа, і сам бог наказаў: раз ты не захацеў быць спакойным, жыць, як і ўсе жывуць, падаўся ў інакшы свет, растрывожыў свой розум, дык думай, пакутуй за тое, пра што нявучаны і не думае, і не ведае нават. Але вось чаго простаму чалавеку дурэць? Нашто так розум траціць, слухаць усякіх балбатуноў, спакушацца? Калі змей хоча спакусіць, дык ён жа спакушае хітра, нешта дакляруе. Дык вот і цяпер шмат спакуснікаў, горы залатыя абяцаюць — толькі ідзі за імі, паўставай на багатых. І каторыя ідуць. І супраць бога і цара, і супраць паноў...

Сёння Гарбацэвіч як ніколі разгаварыўся. Раней, бывала, буркне адно-два словы, а цяпер вось нібы нешта ў яго прарвалася.

— Вот хатаўцы,— паплёў вяроўку далей.— Колькі ні помню, дык яны самыя заядлыя тут. Гадàмі судзіліся са Свістуновым то за лес, то за пашу і сенакос. Было ж, выган і сілаю забралі. Падвучыў, як казалі, чужы парабак, майстра па малатарні. Нейкі Штэйн з Вільні. Аканом паклікаў казакоў — тыя прынесліся, добра далі бізуноў хатаўцам. Нічога яны не выбунтавалі. А нашы Чорныя... Хіба не бунтарэ? Хіба не точаць на мяне ці на Шлёму зубы? Хіба не гараць на наша дабро вочы? Брэшуць за вочы і ў вочы, сіпяць, але няма куды дзецца, ідуць у пазыкі...

Нямкевіч-бацька прамаўчаў. Мусіць, спачуваў і хатаўцам, і янкавінскім Чорным, не хацеў абы-чаго гаварыць на гаротны люд.

— І пазычаю, хай іх халера пазадушвае,— сказаў Гарбацэвіч, адсунуўся ад агню.— Не пазыч, возьмуць і спаляць. Ім, азіятам, мала веры. Хоць басяке ест басяке. Пазычыў, а Пятро ў той жа вечар цэлы гарнец жыта Шлёму за гарэлку запёр... Што ні кажы, распусціўся народ. Не перамен яму чакаць, а большай строгасці. Бізуна.

— Што ні кажыце, дзядзька, але многа неспра-

вядлівасці,— не ўтрываў, уставіў сваё слова і Янка.— Можа, і ад яе злыя тыя ж хатаўцы, Чорныя.

— Ты малады яшчэ, хлопец, ды ўсяго і не ведаеш... — перапыніў яго Гарбацэвіч.— На свеце найперш павінен парадак быць. Працавітасць, паслушэнства, спавага, а то нават і страх. Няможна ні на цара, ні на пана ісці. Бо іх нам сам бог даў.

— Дык багаты павінен быць багаты, а бедны — век бедны?

— А што ты хочаш? — насупіўся Гарбацэвіч.— Каб усе параўняліся? Каб усе ў лапцях ці, наадварот, у хромавых ботах хадзіць пачалі? Не, спакон веку так было: палавіна свету скача, палавіна плача. Хоць у святым пісанні, кажуць, напісана: багатыя на тым свеце адпакутуюць за сваё прагненне, а бедныя суцешацца...

— Дык на зямлі, дзядзька, няма ніякай справядлівасці?

— Можа, і не. Бо несправядлівасць, няпраўда раней за нас нарадзіліся.

— Але ж...

— Многа, вот скажы мне, праўды, справядлівасці ваш Алесь знайшоў? — напаў Гарбацэвіч.— Свет перайначыў? Расею? Не, не перайначыў. Беларусі сваёй дабіўся. Не, не дабіўся? Як быў тут Севера-Западны край, так тут ён і застаўся... [1] Вот цяпер твайму бацьку вялікі гонар: вучанага сына судзіць будуць! І за што? За...

Нямкевіч-бацька зморшчыўся. Быў не зусім рады, што разварушылі яго сардэчную рану.

— А быў бы ваш Алесь хітрэйшы, жыў бы памяркоўна, дык і сёння дзяцей вучыў бы, добрую капейку аграбаў бы,— цішэй, нават быццам са спачу-

---

[1] Так — Северо-Западный край — на афіцыйнай мове царскай Расіі называлася Беларусь.

ваннем дадаў сусед.— Даў бы бацьку грошай — той зямлі лішнюю дзесяціну купіў бы. Прадае ж Свістуноў. Баіцца вайны. Зямлю ж ці лес, уцякаючы, з сабою не прыхопіш. А грошы запхаў у кішэню і лататы... А нам, тутэйшым, няма чаго баяцца, мы ж нікуды не набяжым. Дык чаму нам, калі маем капейку, не купляць, не станавіцца на ногі?

— Трэба, канечне, каб быў парадак... — уздыхнуўшы, стары Нямкевіч пачаў адводзіць гамонку ад сваёй сям'і.— Але пры няпраўдзе, пры несправядлівасці яго не было і не будзе... Дык таму каторыя людзі і дабіваюцца вот якраз гэтага — праўды і справядлівасці... Але такіх людзей век не любяць, душаць... Болей баяцца, стражэй караюць, чым казнакрадаў і забойцаў... Бо казнакрад украдзе, забоец звядзе са свету чалавека, але нічога ад гэтага надта не зрушыцца. А вот калі відушчыя пакажуць невідушчым дарогу да святла, то ад гэтага можа нешта зрушыцца... Многія туды пойдуць... Многім захочацца пайсці... А Алесь наш...— зноў уздыхнуў.— Я яму, Петрык, нямала гаварыў: адумайся, сын, ці туды ідзеш, ці таго хочаш? Туды, адказвае, іду і таго хачу, чаго трэба. Ён пра сябе не думае. Дбае пра тое, пра што мы, цёмныя людзі, не тое што падумаць добра не ўмеем, але і не здагадваемся...

— Што ні чалавек, то свой розум...— з ухілкаю пафіласофстваваў Гарбацэвіч.— І кожнаму бог назначыў несці свой крыж.

Размова, як і часта бывае, адарвалася ад зямлі, узляцела да воблакаў, а са стратаю зямнога прыцягнення павінна была скончыцца. Так яно і здарылася. Старыя заўздыхалі, застагналі і змусілі думаць пра іншае — пра сена, па якое яны сюды прыехалі.

Пазней, калі са смакам паснедалі і папалуднавалі заадно, пабралі за лейцы коней і павялі іх да blізкай рачулкі, Усы. Высеклі там сякерамі палонкі,

дапусцілі коней да вады. І самі ўсе па чарзе ляглі па жываты і ўволю, са смакам папілі. Затым зноў узяліся за работу. На гэты раз ужо стаяў на санях і таптаў абмяклы пасля полудня бацька, а падаваў сена ён, Янка. У Гарбацэвічаў па-ранейшаму ўвіхаўся з віламі стары.

## 3

Сонца паднялося над пушчаю, але, здаецца, не паспела прылашчыць кожны халодны куток з вышыні, не патрымалася ні на хвіліну — пакацілася долу, ачахла. Цяпло і святло паскупелі, папоўз мароз — снег пачаў шэрхнуць, схоплівацца нібы шкляною скарынкаю.

Гарбацэвіч спяшаўся, падарваў жывот і натруджаныя рукі, упацеў, а ўсё роўна адставаў ад Нямкевічаў: Янка і браў больш сена на вілкі, і шпарчэй варушыўся. Ведама, маладыя, дужыя, спрытныя. Дзе за ім угонішся? Гарбацэвіч падаваў сена сыну, а сам не-не дый кідаў позірк на суседзяў, зайздросціў. Бачыў, як Янка пераклаў на сані сена са стога, як яны ўціскалі, аграбалі, абвязвалі яго вяроўкамі, а пасля ад'ехаліся, падабралі ўсё за санямі. Запыніліся і вось, прыклаўшы рукі да лоба, зірнулі насупраць сонца сюды: колькі яму яшчэ работы?

Ён адвярнуўся. Яго разбірала злосць. І сёння, як і раней, не паспявае за Нямкевічамі. Заўсёды яны спраўнейшыя. І ўсюды. Што ні робяць, усё аж гарыць у іхніх руках.

Злосць ела яго душу, як іржа жалеза. Усё жыццё. Пякла крыўда, лютасць на ўвесь свет, што бог даў яму такога, як лічыў, бесталковага бацьку, што ён, сын, мусіў змалку ратавацца ад беднасці, ісці ў пастухі, а пасля ў парабкоўцы да Свістунова, што ад яго адмовілася некалі цяперашняя Мішучыха-красу-

ня, што яго жонка была калісьці ў старога Свістунова пакаёўкаю, і нібы гэты хваравіты, нездаляшчы да гаспадарскай работы Віця ад панскай крыві, што пан толькі з-за гэтага, як смяяліся за вочы, адпісаў яму пару дзесяцін зямлі і лесу, памогшы ўзбіцца на гаспадарку, злаваў, што на яго долю выпала столькі цяжкай працы, што яго за нешта — можа, і за тое, што сам выбіўся ў гаспадары, багацейшы за ўсіх,— не любяць у вёсцы. І Драздовічаў, Мішука, гэтага Нямкевіча, і нават сяго-таго з Чорных больш паважаюць, а яны ж усе нашмат бяднейшыя. Разумныя, паважныя, незайздросныя! Глядзіце — Гарбацэвіч усё бачыў цяпер, смяяўся ў душы, ненавідзеў — нават і тут, на Шубіне, удалечыні ад вёскі, Нямкевіч паводзіць сябе дабрачынна: падбірае стажарышча, носіць да агню і паліць. І, можа, не дзеля сябе. Дзеля таго, хто ўлетку купіць тут сабе сенакос.

Ён, каб не Нямкевіч, не паліў бы стажарышча, кінуў бы ўсё, як яно і было. Чаму яму думаць пра некага? Можа, той касец, хто будзе касіць тут, і ведаць не будзе, хто іменна пакінуў яму чысты, не закіданы голлем луг, не падзякуе. Але дзіва: людзі неяк заўсёды ўвазнаюць, што Нямкевіч такі гаспадарлівы і ў сваім, і ў чужым полі, лесе ды лузе, і хваляць, паважаюць яго. Як нікога з вёскі. І яшчэ дзіва: ты не раз зробіш некаму большае дабро, але табе няма такой падзякі. Няўжо таму, што няможна ўвесь час рабіць людзям толькі дабро, што робіш яго найчасцей тады, калі гэта трэба табе? Ды і паны, багацейшыя, не робяць толькі дабро. Як на іх кажуць? Багаты — рагаты: усё глядзіць, каб каго збіць. Не саб'еш — мець нічога не будзеш, ці нехта іншы цябе саб'е.

«Справядлівы! Бездакорны! Хоць за шкло! — пад'юшчваў і пад'юшчваў Гарбацэвіча шал на старога Нямкевіча.— Але не! І ты не анёльскі, Мудры! —

Нямкевічаў звалі за вочы Мудрымі.— Аж вочы загарэліся, калі сказаў, што магу Анельку за Янака аддаць».

Бачыў: Нямкевічы сышліся, перакінуліся словам-другім, а пасля рушылі сюды. Бацька першы, сын за ім.

— Кажа мой хлопец: хадзем, тата, паможам цесцю...— усміхнуўся Нямкевіч, калі падышоў. Апусціў на вушы аблавушку.

Гарбацэвіч на міг прыпыніўся: рукі зусім анямелі, страцілі сілу. Уваткнуў паперадзе сябе вілы ў снег, абапёрся на вілішча грудзінай. Бачыў: Янка рэзка зірнуў на бацьку, нібы адмовіўся: тата, я ж такога не гаварыў! Я казаў, што яны і самі ўправяцца!

«Чаму не! — падумаў Гарбацэвіч.— Чаму не лезці да мяне ў радню! Мудрыя ж, чуюць, дзе смажаным пахне...»

— Ну што? — міргнуў Нямкевіч.— Выпшыкаўся?

— А як ты думаў...— ні злосна, ні прыязна адказаў ён.— Няма ўжо маладой сілы. Знасіўся, сцёрся, як вось у коле. Нядошлы ўжо...— зірнуў на сына. Той стаяў на санях. Амаль і не пачырванеў за дзень. Зусім вунь запалі вочы. Пад носам блішчыць. Адвярнуўся з незадавальненнем.— Можа, ужо і скора палучу па карку...

— Што ж ты хочаш! Век у ярме і ў ярме! — паспачуваў Нямкевіч.— Як вол! Каторыя і маладзейшыя за нас ужо не вытрымалі, спяць які год вечным сном...

Памаглі ўскінуць сена, а пасля пачалі ўціскаць жэрдку. Уціскаў стары Нямкевіч. Янка памагаў — віснуў на вяршку жэрдкі. Яны, Гарбацэвічы, таўкліся толькі пад рукамі, тузалі за вяроўку.

— О то сіла! — пахваліў, а на самай справе пазайздросціў Гарбацэвіч.— Як у старога, так і ў ма-

ладога! Мне ў гаспадарку такіх бы работнікаў! За чатырох управіліся б!

— Во былі б табе парабкі! — пацвяліўся Нямкевіч.— Але ты ўсё роўна наракаў бы, што і мы больш з'елі, чым зрабілі...

«А табе пра ўсё баліць...— незалюбіў Гарбацэвіч.— Дай са свайго, даплаці, калі шкадуеш маіх наймітаў...»

— Хітрыя ж гэтыя найміты, Ясь,— міралюбна прамовіў уголас.— Рабіць стараюцца мала, а ўзяць хочуць многа.

Як добра ўціснулі сена і завязалі вяроўку, Янка пачаў аграбаць з усіх бакоў сена зверху ўніз граблямі, бацька стаў на калені і, падпоўзваючы, узяўся абшморгваць рукамі сена з самага нізу, каб не чаплялася за кусты і не гублялася па дарозе. Гарбацэвіч пайшоў запрагаць коней.

Паспакайнеў. Суседава помач крыху ўлагодзіла яго.

«А можа, Ясь будзе і добры сват,— паразважаў,— і ён сам, і сыны па-сваяцку ўжо, калі трэба будзе, памогуць па гаспадарцы і платы вялікай браць не будуць. Пакрыўдзіў мяне бог, як ні кажы. І бацька, і дзеці... Надта сын... Хіба гэта сын, бацькава апірышча? Хіба гэта гаспадар? Трэба яму шукаць здаровую, разумную жонку, каб кіравала... Баліць сэрца: божа мой, божа, думаеш не пра сваё дзіця, а пра чужога чалавека як пра гаспадара... Ды што зробіш? Колькі ні плач, плачам нічога не паможаш. Трэба самому пра ўсё думаць. І пра гаспадарку, і пра род... Чужая, моцная кроў, можа, змяшаецца з нашаю ды паверне на сваё. Можа, хоць унукі дужыя, спрытныя пойдуць».

Пакуль думаў, запрагаў коней, Нямкевіч абкруціў вяроўкаю сена, ускінуў абчасаныя і абшморганыя

астаткі наверх, а хлопцы падабралі ды занеслі на агонь і яго стажарышчы.

Цмокнуў на свайго гнядога каня. Той натужыўся, але нават не скрануў прымёрзлыя да снегу сані. Нямкевічы падапхнулі — пайшоў. Падагнаў да Янкавых саней. І калі вяртаўся трушком назад, бачыў: турзае кабылу за лейцы, цмокае сын. Сівая гэтаксама не магла зварушыць сані. І як ні памагалі ёй, усё роўна не здолела валачы такі цяжар: пачала праломваць шарпак і, відаць, тонкі асенні лёд і правальвацца, выносіць на паверхню, на белы снег, камякі чорнай гразі. Тут, дзе яны касілі, месца было зусім нізкае і мокрае.

Сівая лапатала, выцягвалася, аж трашчалі хамут і дуга, западала штораз глыбей у балота, выскоквала, кідалася ў бакі і нарэшце, праваліўшыся ледзь не па жывот, стала як укапаная. Азірнулася і, здаецца, разумна, па-чалавечаму зірнула з вінаю. На яго гэтаксама — ён якраз падбягаў.

Зноў раптоўная злосць хлынула да яго. На сына. Як і раней. Ён часамі аж сам здзіўляўся, саромеўся, што можа мець такую лютасць да сына. Нашмат большую, чым да жонкі і дачкі.

— Ах ты, няўдаліца! — не закрычаў, а заенчыў ён. Пырснуў слінаю.— Увагнаў кабылу ў балота! — замахнуўся на Віцю кулаком, але той кінуў лейцы долу і адскочыўся. А ў яго ад раптоўнага гневу аж пацямнела ў вачах ды забалела галава. Надта ў скронях і па патыліцы.— Каб ты сам скрозь зямлю праваліўся!

— Ён жа не вінаваты, Пётрык,— ціха прамовіў Нямкевіч.— Сані цяжкія, кабыла важкая — вот і абламала лёд. Які ён там. З палец. Ты праскочыў, а ён...— падышоў, агледзеў Сівую, што стаяла ў балоце і цяжка дыхала.— І нічога не будзе. Не выця-

гне. Толькі падарвём яе. Давай, Петрык, выпрагай. Самі выцягнем. Няхай ёй будзе брыдка перад намі.

Разам і выпраглі. Гнеў адпаў, але галава забалела мацней. Аслабла, здаецца, абмякла сэрца.

«Усё, капцы ўжо мне,— падумаў Гарбацэвіч, шкадуючы сябе і баючыся блізкай смерці.— Падарваўся...»

— Бяры, сын, за аглоблі,— Нямкевіч, здаецца, заўважыў, што ў яго трасуцца рукі. Але нічога на гэта не сказаў.

Янка пайшоў да аглабель. У дзірках, што прабіла кабыла, падымалася наверх чорная тлустая вада. Адбіваючыся, блішчэла на ёй няяркае сонца. Запахла гнілою цінаю.

Янка падняў аглоблі, натужыўся; яны ўсе падаліся за сані, упёрліся. Хто рукамі, хто плечуком.

Сані зварушыліся. А пасля закаўзалі па снезе. Калі вымчаліся на горку, Нямкевіч адхіліўся — сані амаль адразу ж сталі. Значыць, пхнуў іх ён, лічы, адзін.

«Старэйшы за мяне,— здзівіўся Гарбацэвіч ужо без злосці,— а які яшчэ дужы! Вот род дык род! Як зубры ўсе! Алесь слабейшы, праўда, удаўся, дык разумны затое... Ніхто богам не пакрыўджаны... Адна Кастуся, можа, толькі...»

— Ну дзякую, Ясь, Янка,— павярнуўся да суседзяў, схіліўся ў паклоне.— Не ведаю, што мы без вас рабілі б? Сарвалі б, мусіць, Сівую...

— Ды няма за што,— адказаў Нямкевіч.— Мы ж суседзі. Грэх адзін аднаму не памагчы... Ну, ды што гавэнды разводзіць? Запрагай кабылу ды паехалі. Дарога далёкая, цяпер ужо не разгонішся, дый дай бог, каб да суцемак дадому дацягнуліся...

— На вялікдзень ужо на чарку паклічу...— выпаліў у шчырасці Гарбацэвіч і тут жа асёкся. Сам ад-

чуў: паспяшаўся выяўляць сваю душэўнасць. Можа, і не выпадзе пачаставаць, можа, і гарэлкі не будзе. Можа...

— Дажывём — тое і будзе...— хітра ўсміхнуўся сусед, павярнуўся і патупаў да сваіх саней.

## 4

Вярнуліся ў Янкавіны пад вечар, у колкі ўжо мароз. Якраз над вёскаю віліся белаватыя дымы з комінаў, слупіліся, распаўзаліся, а далей, высока-высока, сцягваліся ў адно светлае воблака на сіне-шэрым небе. Ніз гэтага воблака і белыя стрэхі хат былі ружовыя — ад сонца, што апусцілася ўжо за вярхоўе лесу.

Калі мінулі Могліцы, дык каля Шлёмавай карчмы звярнулі на сценку і ёю, па выезджанай Шлёмавымі гасцямі дарозе, падаліся да свайго гумнішча. Гарбацэвічы не збочвалі, пацягнуліся па вуліцы.

Вясёлым брэхам іх павіталі ўсе сабакі з гэтага канца вёскі — з Глінішча. Як знаёмых, сваіх людзей. А каля гумна сустрэлі іх кабеты — гаспадыня, Кастуся, нявестка Ядзя.

— Павыходзілі ўсе, як на дзіва...— нязлосна паўшчуваў Нямкевіч. Запыніў каня. Азірнуўшыся вакол з падазрэннем, спіхнуў зверху, з-пад сябе, дубовыя і бярозавыя круглячкі, некалькі паленцаў кляніны. Пасля споўз сам, учапіўся за камель жэрдкі, сагнуўся. Адлежаў за дарогу ногі.— Занясіце,— паказаў рукою на дрэва,— у падпаветку. Толькі не падымайце высока. Яшчэ ж не цёмна...

Кабеты зразумелі: дрэва ўкрадзена ў арандатараў Налібацкай пушчы. На зубы ў граблі, на тапарышчы. Але ніхто з кабет нічога не прамовіў: грэх вялікі красці ў свайго чалавека, а хто ў панскім лесе не злодзей, той дома не гаспадар. Кінуліся адна пе-

рад адной падбіраць круглякі маладзейшыя — дачка і нявестка. Надакучыла за доўгую зіму, за сённяшні дзень сядзець у хаце, гыркацца. Выйшлі сустрэць, пачуць якія навіны.

— Ну, дзякуй богу! — стрымана парадавалася гаспадыня, Анця.— І сена цэлае, і вярнуліся да цямна!

— Добра ўсё, ды не надта,— адказаў ён.— Многа патрацілі лішняга часу ды нэрваў па дарозе.

— Ці чулі вы, тата, велькую навіну? — вярнуўшыся з дрывотні, абчышчаючы рукі, не то папалохала, не то пагарэзавала Кастуся. Невысокая, у валёнках, у кароткім, з чорнаю аблямоўкаю на грудзіне і на полах кажушку, у вялікай, чорна-чырвонай, як у цыганак, хустцы. Крыло хусты — на плячах. Аж па паясніцу. Дык надта і не відаць, што мае горбік. Файная. Чорныя, як і ў маці, вочы. Канечне, каб не гэтая бяда, дык была б не толькі паглядная, але і высокая, рослая.

— Што ж там за дзіва такое дзе адбылося? — ідучы распрагаць каня, пацвеліўся Нямкевіч з дачкі-любіміцы, якую — самую малодшую — усё яшчэ лічыў маленькай, хоць гэтая «маленькая» яшчэ пазалетась, каб мець «большыя» грудзі, падкладвала пад сукенку на грудзіне згорнутыя анучкі, а сёлета кожны вечар бегае ў вёску на вячоркі.

«Ліст Гіполь ці яшчэ хто з Амэрыкі, з Сібіры прыслаў? — пагадаў, распрагаючы Сівога.— Альбо ў вёску хто з дабром ці, не дай бог, скалечаны, абабраны вярнуўся?»

— Угадайце...— падражнілася Кастуся. Усміхнулася.— Але ніколі не ўгадаеце. Нават не падумаеце пра гэта.

— От не дуры, дачка, бацьку галаву і не грашы...— незалюбіла маці, скрыжоўваючы на грудзях, на старым абліпялым кажушку, рукі.— Кажуць, Ясь,

сёлета канец свету будзе... Пакліча ўсіх бог на праведны суд».

Ён жа запыніўся, трымаючы ў руках аглоблю. Не, не збаяўся. Здзівіўся: зноў пусцілі людзі нейкую пагалоску? На пачатку зімы, перад калядамі, хадзіла ж таксама перасцярога пра сканчэнне свету — будзе ляцець, гаварылі, вялізная «вогненная кабета» і «ўсё зліжа, спаліць на зямлі». З тыдзень трэсла вёску як у ліхаманцы — каторыя ўжо нават хацелі рэзаць і есці ўсё жывое са сваёй гаспадаркі, прыходзілі да яго раіцца: што рабіць? Ён параіў не спяшацца, не браць усяго да галавы. Але вёска ўсё роўна трывожылася, пакуль іхні Алесь не вярнуўся з Вільні і не супакоіў, што напраўду і паблізу гэтага краю будзе ляцець камета, але яна не даляціць да зямлі, згарыць у паветры. Ён нават гаварыў, калі гэта будзе. Але ніхто ні той каметы, ні вогненнага яе хваста не бачыў. Пагаварылі-пагаварылі дый сціхлі. І вось нейкая ўжо новая чутка.

— Гэта стары Драздовіч, як ведаеш, занядужаў. Ляжаў-ляжаў два тыдні, а ўчора захацелася яму на двор. Выйшаў. Падняў галаву: аж на небе вялікія чырвоныя слупы. Прыгледзеўся. То ж цяперашні год: 1914...— патлумачыла жонка.— Вот і кажа: будзе сёлета канец свету... Калі не ад патопу, дык ад агню, як і ў святой кнізе запісана...

— Што ён там убачыў? Ён жа ўжо, лічы, сляпы...— адказаў.— Я ўчора і перад заходам і пасля заходу па двары хадзіў — нічога не бачыў...

— Вот і кажуць усе, што якраз стараму і сляпому бог даў знак...

— От...— прамовіў, кінуў аглоблю долу.

— Божа мой, божа! — забедавала Анця.— А хлопец наш за светам... Няхай бы кідаў тыя заработкі, ехаў бы дадому. Як ест, так і добра. Усе разам жылі б, адно каля аднаго...

— Жывыя — дык давайце і думаць пра жывое...— знарочыста сярдзіта буркнуў Нямкевіч, аднак адчуваючы ў душы няясную трывогу. Штосьці зашмат сёлета загаварылі пра канец свету, як і зашмат пачалі верыць у гэта.— Ідзіце, кабеты, у хату. Дзеці ж там, відаць, адны. Яшчэ дабяруцца да агню, дык не толькі не дачакаемся суднага дня, але і сёння не будзе дзе паначаваць...

Засмучаная Анця і нявестка паслухалі. Пайшлі праз дзверы падпаветкі ў хату. Кастуся засталася. Падалася да Янкі.

«Няўжо праўда ўбачыў які перасцерагальны знак аслеплы? — пачаў сам з сабою развражаць Нямкевіч.— Няўжо нам, відушчым, не дадзена шмат бачыць? — кончыў распрагаць Сівога, павёў яго ў хлеў.— Надта таго, вешчага?»

Вярнуўся зноў на прыгуменне. Стаў каля саней, невідушча зірнуў на далячынь — на захадзе ўжо за зямлю апусцілася сонца, гарэла чырванню неба, тлелі ў жары, здаецца, верхавінкі Налібацкай пушчы.

— Давай, Янак, я завяду Крывому Гнядую,— пачуў, як за саньмі гаварыла Кастуся брату. Крывымі за вочы гаварылі на Гарбацэвічаў, хоць ніхто з гэтых, цяперашніх, крывым не быў. Кульгаў некалі дзед Пётрыка Гарбацэвіча. Памёр даўно ўжо дзед, няма бацькі, а мянушка засталася.

— Завядзі,— адказаў той.— І дугу нашу забяры.

«Як гаспадар! — пацешыўся Нямкевіч за сына.— І гаспадар! Добры хлопец. Спрытны, дбайны, працавіты. Нічога благога на яго не скажаш. А што часамі камандую, гаманю, дык гэта не са злосці. Хай і бацьку як трэба шануе, і вучыцца, як жыць варта...»

— Пойдзеш сёння на Сяло? — запытала Кастуся.

— Не ведаю,— ціха адказаў Янка.— А ты?

— Волька Чорная казала: сёння Зося прыйдзе...— усміхнулася Кастуся.

— Ну і што? — буркнуў Янка.

— Што-што! А вушы на што? — адказала тая і, парыпваючы па снезе, адышлася. Павяла, як і падрадзілася, Гарбацэвічам Гнядую.

Такі праўду нехта казаў, падумаў Нямкевіч, што заглядаецца сын на Мішукову дзяўчыну...

У сваім двары закрычаў-залямантаваў Гарбацэвіч, воддаль нехта забухаў сякераю — ці не калоў на ганку сухое палена. Па Глінішчы і ад крыку, і ад стуку пакацілася рэха, пабегла на Могліцы. А як усё сціхла, дык з аселіцы данёсся глухаваты гоман, піск і енк — там, на коўзанцы, цяпер, канечне, дурэлі дзеці, без памяці аддаваліся гульням і ўцехам.

«Знак пра блізкі судны дзень ёсць, а свет як стаяў, так і стаіць! — і здзівіўся, і парадаваўся Нямкевіч.— І я вось стаю каля сваёй сядзібы, пра свае клопаты думаю... Толькі, праўда, нешта змянілася ў душы. Не то страх, не то недаўменне... Няўжо свет гэты быў тысячы, а то і мільёны гадоў і раптам, у адзін дзень ці ў адну хвіліну, возьме і знікне??? З лясамі, палямі, людзьмі, птушкамі, рыбамі, звярамі ды з усім тым файным, што ўжо зрабілі чалавечыя рукі??? Няўжо людзі столькі награшылі, што іх так трэба караць, знішчаючы ўсё дазвання??? Але ў чым віна лясоў, палёў, птушак, рыб, звяроў??? Няўжо ў бога цярплівасці, міласці не хапае? Ці не шкода яму ўсяго жывога, файнага??? Бо знікне ж свет гэты і, можа, ніколі больш не паўторыцца!!! Можа, замест яго пустыня будзе!!!

Даруй, божа,— перажагнаўся,— калі я грашу, дарэмна цябе вінавачу. Можа, мы, людзі, самі вінаватыя, самі добра не беражом гэты свет, глумім, штурхаем яго да бяздоння??! Але чаму мы такія тады бяздумныя, неасцярожныя, не гаспадарлівыя, грэш-

ныя??? Чаму мы не можам жыць без граху??? Няўжо грэх прамаці нашай Евы спакушае нас, адбірае развагу??? Ды ці вінаватыя мы тады, калі грэх заявіўся яшчэ далёка да нас, калі мы не можам самі ў сабе разабрацца??? Ці як сама прыходзіць радасць, так сама павінна рана ці позна прыйсці за ўсё і кара??? Няўжо тады не знойдзецца зноў які прарок, чалавек, што ўзяў бы ўсю кару толькі на сябе, выратаваў бы астатніх людзей, увесь свет??!»

...Янка пасля вячэры не меў спакою. То садзіўся на лаве ці на зэдліку каля камінка, то ўставаў, хадзіў, не ведаючы, за што зачапіцца рукамі.

Здаецца, на яго са здзіўленнем увесь час пазіраў бацька — той доўга таптаўся пры хляве, у дрывотні (хаваў дуб, клён ды бярозу), сеў сёння вячэраць апошні. Адзін. Бо і кабеты з дзецьмі, і Алесь, які пайшоў у госці да ссыльнага Казлова, і ён, Янка, павячэралі ўжо. Вось маці наліла яму з гаршка, які трымала адною рукою праз анучку за верх, у глінянную міску шчолаку, пасля драўляным апалонікам дастала костку, выбрала астаткі разваранай капусты. Бацька развязаў торбу, дастаў адтуль апольчык сала і хлеб, што яны з Янкам не з'елі на Шубіне. І ў хаце бацька быў у целагрэйцы, толькі без аблавушкі. На пляскатай галаве бялелася ў суцемках вялікая гладкая, нібы нацёртая воскам, лысіна, ля вушэй, прыплюснутых да чэрапа, кудлаціліся русявыя валасы, што былі толькі на патыліцы. Вусы пад носам і барада былі сіваватыя.

За вялікай, на паўкухню, печчу сядзела на ложку Ядзя. Давала малой, што нядаўна прачнулася і плакала, грудзі. Яе сын, Ясік, гуляў на печы з катом. Праўда, яго гулі не зусім падабаліся іхняму старому кату — той то злосна мармытаў, то бурчэў, а то і вішчэў. Нарэшце не вытрываў, саскочыў долу і памкнуўся да дзвярэй. Высокі, бела-руды.

— Ідзі, ідзі,— адчыняючы яму дзверы, сказала гаспадыня.— Толькі не прыводзь дадому кумпанію. Цягніся да паненак, і там пішчэце ўсю ноч.

— Хадзі і ты сюды, мучыцель,— зірнуў на печ, лагодна кіўнуў галавою ўнуку гаспадар.— Пачастую зайцавым хлебам.

— Не галодны,— сказала гаспадыня.— Вячэраў ужо.

— Тое не лічыцца...— махнуў рукою. Пад ёю вісеў расшпілены крамны манжэт цеснаватай старой кужэльнай кашулі. Крамнымі былі і невялічкі каўнерык, і аблямоўка на грудзіне, на тры белыя гузікі.— А вот калі пакаштаваць зайцавага хлеба, дык тое будзе лічыцца. Хочаш?

Унук скуліўся з печы, затупаў босымі нагамі па гладкім гліняным току. Запыніўся каля стала. І ў шэсць гадоў высокі. Па ўсім відаць: некалі будзе рослы, дужы мужчына. Расце як на дражджах. Яшчэ ўвесну перашытыя з Янкавых старых портак яго штонікі былі доўгія, цягаліся па зямлі, а цяпер вісяць крыху ніжэй калень. І рукавы перашытай, палатанай на локцях кашулькі кароткія.

Нямкевіч, закасаўшы па локці рукавы, агаліўшы жылістыя, парослыя рыжымі валасамі рукі, адрэзаў кавалачак сала і лусту хлеба. Па хаце ад торбачкі хлеба пайшоў казытлівы пах — ад марозу і дыму. Беручы ад дзеда ласунак, Ясік упусціў яго долу.

— А божа ж! — ужо седзячы паблізу на лаве, аж спалохалася баба, пералсагналася.— Што ж ты, унук, такі недарэкі? Падымі хуценька і пацалуй хлеб. І скажы: «Даруй, божа, што я нягожы».

Ясік, чырванеючы, падняў, пацалаваў і сказаў так, як вучыла баба.

— Смачна? — усміхнуўся дзед.

— Угу,— адказаў той.

— Не дзіва: гэта ж не абы-які хлеб, а зайцаў! —

сказаў дзед, адрэзаў ад акрайца яшчэ лустачку.— На, сястрыцы дай.

Пачуўшы, што свёкар так сардэчна шануе, любіць яе дзяцей, сюды, мігам апарадкаваўшыся, выйшла Ядзя. Тоўсценькая як кадушачка-дзяжа. Паўкапы, як некаторыя жартуюць з яе ў вёсцы. Несла на руках дачку. Яна была ў доўгай кашульцы і ў мяккіх шарсцяных атопачках.

Малая аж ухапіла ласунак. Яе цёмныя вочкі загарэліся. Канечне, засумавала за дзень без дзеда. Які ён быў строгі са сваімі дзецьмі, на гэтулькі мяккі з унукамі. І яны цягнуцца да яго. Болей, чым да бабы. Баба ўвесь дзень у хаце, дык і крычыць на іх часта, а ён, лічы, цэлы светлы дзень на двары, мала стыкаецца ў доме, дык і рады пагуляць з дзецьмі.

Янка падхапіўся з лавы, пайшоў за печ — па кажух.

— Куды ты, сынок, пацягнешся? — пашкадавала яго маці.— Накалеўся, напрацаваўся гэтулькі — ляж ты лепш ды адпачні.

Ён, узяўшы ў рукі кажух, запыніўся ў нерашучасці і, хоць было ўжо марачнавата ў хаце, з мальбою зірнуў на невысокую, прыгорбленую, як і бацька, у доўгай шэрай спадніцы маці: ну, мама, не запыняйце, няўжо вы не ведаеце, што мне трэба схадзіць у вёску, што я не магу сёння ўседзець дома?! Маці, здаецца, зразумела яго гэты красамоўны, глыбокі, ад усёй душы позірк, паднялася з лавы і панесла гаршчочак ад стала да печы.

Бацька не абзываўся; пачаставаўшы ўнукаў, угнуўся і пачаў сёрбаць капусту. Стараўся чамусьці не пазіраць Янку ў вочы. Можа, і думаў. Пра сваё. Пра тое, што трывожыла душу. Бо на лобе, як і заўсёды, калі думае, сабраліся, леглі раўчукамі глыбокія маршчыны. Ядзя, сеўшы на свякроўчына месца, трымаючы на каленях ужо замурзанае ад скарынкі

дзіця, хітра ўсміхалася. Яна, маладая, канешне, лепш адчувала, што яго вяло-клікала ў вёску. Ды яна, відаць, і ведала ўсё. Ёй, відаць, усё «па сакрэце» расказала Кастуся. Ад той няма тайн. Тая ўсё ведае. Пра яго, пра сям'ю, пра ўсё, што дзеецца-робіцца ў вёсцы.

З Ядзяю Янку няёмка. Некалі, гадоў сем таму, як Гіполь прывёў яе, маладзенькую і худзенькую дзяўчынку, была сарамлівая. І са свёкрамі, і з ім, хлопцам-падлеткам. Як толькі хто зірне на яе, загаворыць, дык уміг чырванела, бянтэжылася, але пазней, калі нарадзіла адно, другое дзіця, змянілася. Памажнела, пасмялела. Недарэмна ж людзі кажуць: тады баба пышна, калі замуж выйшла. Вось болей году ўжо жыве ў іх без Гіполя. Спачатку, застаўшыся без мужа, на якога ўжо навучылася пакрыкваць, дабіваючыся гэтым самым для сябе нейкіх правоў, хадзіла ціхая, сумная, часта плакала ад адзіноты і скрухі, а пасля паволі аправілася і ажвавела. Прывыкла да сваёй новай долі — долі бязмужняй жонкі. І не толькі прывыкла. Раней увесь час саромелася яго, Янкі, бо, можа, бачыла, якія цікаўныя кідае ён позіркі на яе, як стараецца ўнікнуць у яе жыццё з Гіполем, а цяпер пачала даволі дзіўна паводзіцца з ім. Ужо не асцерагалася перад ім скідаць сукенку ці спадніцу, хадзіць у адной кашулі, хітра заглядвала ў вочы, лагодна ўсміхалася — і ён пад'юшчваўся ад гэтых жаночых чараў, пільней цікаваў за ёю: любіў даўжэй, чым трэба сваяку, запыніць позірк на яе шыі, гладкіх, белых вышэй локцяў руках, на грудзях, што высока ўздымалі кашулю ці цесную ўжо дзявочую кофтачку. У думках нават цалаваў яе, абдымаў: у яго ўжо была туга па жанчыне. Гады падышлі такія. Аднак усяк стараўся не заставацца з ёю самнасам, не зблізіцца. Былі на гэта тры вялікія засцярогі: боязь граху ды божай кары, боязь у адну рані-

цу ўбачыць свае вароты вымазаныя глінаю і, па-трэцяе, ён другі год ужо заглядваўся на Мішукову Зосю.

Ядзя ж, не толькі бачачы, але і па-жаночаму глыбока разумеючы і яго ранейшыя пільныя позіркі, і цяперашнія бянтэжанні, здаецца, падражнівалася з ім, распальвала — усе яны, кабеты з Засценка, не адракаліся падгуляць з чужымі мужчынамі і нават з хлопцамі. Колькі іх, замужніх, лавілі, бачылі ў чужых абдымках. І ён летась увосень страціў развагу. Тады, калі вазілі са свайго поплава атаву. Бацька і маці засталіся на лузе, а ён прывёз дадому вазок сена, скуліў каля гумна і пачаў цягаць сена ды закідаць на старое, што ўжо ляжала ў загарадцы.

Гусціліся хмары — на дождж. Янка ведаў: бацька і маці будуць старацца зграбці і паставіць у копы астатняе сена, а яму трэба чым хутчэй укінуць у гумно прывезенае. Яму павінна была памагаць Кастуся — таптаць сена ў загарадцы. Пайшоў у хату — паклікаць яе. Аж Кастусі не было — уцякла ў вёску. Дома адна Ядзя. Карміла грудзьмі дачку. Ён зладзеявата кінуў позірк на яе левую белую і пышную палавіну грудзей і хутка адвёў вочы, буркнуў, што яму трэба памагчы.

Ядзя забрала з рота дзіцяці смактунок, запхнула грудзі ў расшпілены разрэз блузкі, панесла Аршульку на ложак. «Я табе, Яначак, памагу»,— вярнулася, зашпільваючы на хаду гузічкі. Усміхалася. Лісліва зазірала ў вочы. Ён — хутчэй на двор. Яна — за ім.

Ужо ў гумне, калі яна, хапаючыся за жэрдку, лезла на сена, зноў зладзеявата агледзеў яе. Пушок і сіняватыя жылкі на дужых загарэлых да калень нагах, белыя як снег, поўныя, моцныя сцёгны: яна хоць і прытульвала да сябе спадніцу, але не магла цалкам схаваць сваёй жаночай вабнасці. Як сам не свой, пачаў падаваць ёй сена.

Каб заглушыць у сабе грэшнае пачуццё, падаваў часта, памногу. Абы хутчэй з гумна — на луг. Ядзя адцягвала, таптала. Загаворвала. Здаецца, пыталася, ці шмат засталося на поплаве сена, хваліла яго за сілу і, здаецца, яшчэ дапытвалася, калі ён ужо будзе жаніцца, будзе сам сабе гаспадар. Ён нешта адказваў — абы адказаць.

«Яначак, не паспяю,—паскардзілася.—Памажы...»

Ён лёгка ўскарабкаўся наверх да яе і, стараючыся не сустракацца позіркамі, браў ахапкамі з-пад ног сена і сунуў, запіхаў па баках. Там, наверсе, яна неяк апынулася каля яго, яны неяк кульнуліся на сена. Сёння як праз сон помніць: яна першая абхапіла за шыю, пачала цалаваць.

«Яначак, родненькі...— зашаптала.— Дурненькі мой, харошынькі... Хіба ж ты не бачыш: пакутую я, хачу цябе?!»

Ён не помніў, як даў волю правай руцэ, што гладзіла яе сцёгны, мяккі і ў той жа час пруткі жывот, пасля запынілася на яе грудзях, што — дзіва! — амаль умясціліся ў яго далоні. Захлынуўся ад водарнага паху сена і пылу, а можа, і ад ненасытных, згаладалых пацалункаў, ад гарачыні жаночага цела, якое адчувае так блізка ўпершыню. Кіраваць ім пачалі ўжо не розум ды развага, не боязь, а нейкія іншыя сілы, што бачылі ў ім толькі маладога мужчыну. І, можа, праз нейкі ўжо міг пазнаў бы тады Ядзю — а яна ляжала з заплюшчанымі вачыма, палымнела нібы ў агні, была гэтаксама без развагі і ва ўладзе нейкіх сваіх, жаночых сіл,— упершыню пазнаў бы кабету, ды як скрозь сон пачуў Кастусіну песню.

Тая ішла па двары сюды, да гумна. Праз сілу, але мігам Янка падхапіўся. І не, не кінуўся ўніз, долу, а зірнуў на Ядзю. Яна, відаць, цяпер гэтаксама пачуўшы песню, са спалохам адплюшчыла вялікія во-

чы, мігам абцягнула спадніцу на калені, зморшчылася: «І гоняць жа чэрці! — пасля паказала рукою.— Скачы ўніз!»

Ён, абдзіраючы спіну аб сена, спусціўся долу, нервова пачаў запіхаць за пояс кашулю, адчуваючы ў галаве дзіўны, незразумелы яму гул.

І тут жа зайшла ў гумно Кастуся. Ён стараўся не пазіраць на яе, бо ведаў: выдасць усё сваім позіркам. Затульваючыся, пачаў зноў падаваць наверх сена. Але ўжо не было нядаўняй сілы, рукі трымцелі.

Пасля ён радаваўся, што нічога не меў тады з Ядзяю. Пачаў яшчэ больш пазбягаць яе. І яна нібы астудзілася, зразумела: калі аднойчы ў парыве шалу не пераступілі забароненую мяжу, дык ужо з развагаю пераступіць яе цяжка. Абое глыбока затаілі сваю тайну і жылі з ёю, з адчуваннем граху, граху сваёй тоі маладой нястрыманасці.

Пасля таго ў Янкавай душы нібы нешта прачнулася, запатрабавала волі. У яго ўспламянілася сэрца, памацнеў смутак па кабеце. Адчуў: ён ужо мужчына, жаніх. Яму трэба была ўжо жонка. За жонку яму хацелася мець Мішукову Зосю. Ён нібы нанова зірнуў на яе, на вёску, на свет, адчуў, што ўжо болей не можа жыць, як жыў дагэтуль. Ён трывала ўжо трапіў у сеткі прыроды-матухны, сам не зусім ведаючы пра гэта і саромеючыся свайго такога палону. Яго каханне не хацела ведаць меж, як не мае іх вада ў вялікую паводку, разліваючыся ва ўсю моц. Гэтае каханне было і святое, чыстае, і нейкае грэшнае, бессаромнае, жорсткае. Ён аж сам часамі бянтэжыўся, што хоча завалодаць іншым чалавекам.

Амаль кожны дзень у апошні год Янка раніцай прачынаўся з усмешкаю, сам спачатку не ведаючы, што з ім, чаму ён такі ўзнёслы. Пасля калі губы, бадай, самі шапталі: «Зося... Зося...» — усё разумеў, з гэтым імем, з гэтым вобразам жыў цэлы дзень...

Усё гэта зноў мігам нагадалася цяпер Янку. З-за Ядзінай усмешкі.

— Схаджу да Чорных. На адну хвіліну...— буркнуў ён. І пад усіхнае маўчанне выйшаў з хаты.

На Янкавіны палі прыцемкі. І яны, сагнаўшы з неба светласць і чырвань, увачавідкі гусцелі — надта каля хат і прыбудоў. Янка прыглядзеўся да неба: можа, і сёння будуць відаць тыя чырвоныя слупы, што ўчора ўбачыў стары Драздовіч. Не, нідзе нічога не відаць. Толькі бліскае на небе некалькі першых далёкіх зорак.

Вокны ва ўсіх хатах цьмяна адбівалі далёкае кволае святло. Яшчэ нідзе, аднак, не гарэлі ні лучыны, ні газніцы. Ашчадныя людзі. Хто запаліць тое-сёе пазней, у цемень, а хто неўзабаве і ляжа спаць — у адзін час з курамі, як тут кажуць. Зімою, ды яшчэ ў вялікі пост Янкавіны вечарамі ціхія.

Янка мінуў хаты двух дзядзькоў — бацькавых родных братоў, пасля — Касцюкевічаў, Макававых, Навіцкіх, узышоў на ўзгорак, дзе паміж старых і саламяных янкавінскіх стрэх красаваліся дзве высокія, накрытыя белаю бляхаю будыніны. Злева — школа (тут летась да вясны вучыў дзяцей і Алесь), справа — даміна валаснога старшыні, Сяргеенкі.

Нечакана ў самым канцы вёскі, у Засценку, сыпнулі ўверх чырвоныя іскры, і за імі — шугнуў пук чырвонага агню. Пасля вогненным языком запалала яркае полымя — высока, на паўнеба. У некага гарэла ў коміне.

Агонь асвятляў увесь Засценак. Падалі водсветы і сюды, ружовілі снег. І ў гэтым святле Янка ўбачыў: насустрач яму, нібы гонячы перад сабою доўгія цені, ідуць людзі. У адзін рад. Подручкі.

Мінаючы высокі крыж, што стаяў ля хаты старой удавы Собаліхі,— крыж быў новы, жоўценькі, яго ставілі летась, каб не загінулі янкавінцы ад той вог-

неннай каметы,— Янка ссунуў з галавы вушанку. Можа, і з-за яго гэтай набожнасці сустрэчныя людзі засмяяліся. Старшынёва дачка, Кацярына, са сваім маладым мужам і са сваімі сябрукамі і сяброўкамі. Зляцеліся ўжо ў сваю кампанію, як сарокі на сметнік.

Янкава сэрца аблілося крыўдаю, незычлівасцю. Не за сябе — за брата. За Алеся. Той колькі часу разам з Кацярынаю вучыў тут дзяцей, кахаўся, і яна пагаджалася парадніцца з імі. Бацька збіраўся паслаць ужо летась увосень сватоў у старшынёў дом. А як Алеся ўвесну звольнілі з працы, дык гэтая Кацярына адвярнулася ад Алеся, на лета некуды з'ехала, а пасля хуценька сышлася з новым прыезджым настаўнікам. Папрацавала з ім месяцы два і ўзяла яго ў прымакі. Алесь счарнеў ад бяды, ад такой здрады, а яна не тужыць. Радасная, вясёлая заўсёды. Як і яе кампанія: папоўскія дочкі, пісар Дзяжко, начальнік пошты Гарбуковіч і ўраднік Петухоў, як і яе муж, Арнольд Буткевіч.

Сустрэліся. Янка адступіў, даў дарогу. Першы павітаўся.

Кацярына і пападзянкі былі ў аднолькавых сівых пясцовых шапках, чорных паліто і ў боціках, а кампанейцы — у пышных бабровых вушанках, у паліто і ў хромавых ботах. Толькі Петухоў быў у форме.

Кацярыніны спадарожнікі кіўнулі галовамі ў адказ, хацелі хутчэй мінуць. Ён жа не пара ім, ніколі не меў з імі ніякіх адных інтарэсаў, а па-другое, яны непрыяцелі: і Петухоў, і Дзяжко ды Гарбуковіч ненавідзелі Алеся, усяк стараліся ўтапіць яго. Можа, і з-за зайздрасці, што таго паважаюць людзі, што да яго хінулася ў свой час Кацярына, і што той папікаў іх за знявагу простых людзей, за фанабэрыю і марнатраўнае жыццё.

— Ваня! — запыніла яго Кацярына.— Подожди. Я провожу тебя.

І праўда, адстала, памкнулася да яго. Высакаватая, гонкая. Нібы і не кабета, а ўсё яшчэ дзяўчына. Вялікія глыбокія вочы, роўны нос. Твар белы, як і не бачыць ніколі сонца. Вельмі паглядная. Але краса яе нейкая застылая, халаднаватая. Недарэмна ж людзі кажуць: калі чалавек вельмі прыгожы, дык ён халодны, чэрствы, любіць толькі самога сябе.

Кацярына падышла, узяла яго пад руку. Павяла. Сэрца яго забілася-забілася. Ад няёмкасці, збянтэжання.

— Кацярына Юр'еўна! А мы? — дурасліва паскардзіўся Дзяжко.— Ды і Арнольд Апанасавіч раўнаваць будзе!

— Адчапіцеся! Вы мне ўсе надакучылі,— амаль не азіраючыся, адказала ім Кацярына.— У мяне да Вані ёсць адзін інтарэс.

— І мы з табою...— пачуўся спеставаны голас меншай папоўскай дачкі, весялухі Машы. Пакуль Кацярына паспела толькі ўздыхнуць ад незадавальнення, абедзве пападзянкі, як кабылкі, зацокалі да іх. Дагнаўшы, невысокая Маня ўзяла яго пад руку, а старэйшая пападзянка, доўгая, як жэрдзіна, худая Валя — Кацярыну.

— Фу, Янка,— фыркнула Маня.— Ну і смярдзіць твой кажух! Аж нос зносіць.

«А хто цябе, такую пані, прасіў ліпнуць?» — са злосцю падумаў ён.

— Кажух як кажух,— адказаў.

— Але пад гэтым авечым кажухом рыцарскае сэрца, Машачка,— не то жартам, не то ўсур'ёз прамовіла Кацярына.— Не адна вясковая дзяўчына ўздыхае, моліцца, хоць бы зірнуў на яе Ваня. І не дзіва: такі слаўны хлапчына! За ім жонка любая будзе як за сцяною!

— Маладзец супроць авец, а супроць малайца — сам аўца...— пажартаваў ён.

Маша задаволена хіхікнула.

— Не нагаворвай на сябе, Ваня,— не пагадзілася Кацярына.— Хто-хто, а я вас, Нямкевічаў, ведаю... На цябе, па-другое, і так нагаворваюць. Каб зняславіць. А ты... Ды што казаць! Ты з Нямкевічаў!

Яму была прыемная гэтая пахвала. Каму не радасць, калі цябе і тваю радню так хваляць? Хоць і ведаеш, той, хто хваліць, і не зусім добры чалавек. Толькі было дзіўна: чаму раптоўна так расшчодрылася гордая красуня Кацярына на такія цёплыя словы?

Прамаўчаў. Пазіраў, як у Засценку атухала полымя — спачатку яно спала, толькі пасмігцела нейкі міг у вачах, пасля раптоўна хлынула на вёску цемната.

Ззаду кавалеры-ганарліўцы ўсё яшчэ ўпрошвалі Кацярыну вярнуцца да іх. Ім не хацелася ісці ў тую кампанію, куды імкнуўся Янка. Самае вялікае — яны калі-нікалі заходзяць на вечарынкі ў Засценак — да шляхты.

«Не дай бог, каб была дома Зося і ўбачыла мяне з акна ў гэтай кумпаніі...— з жалем падумаў Янка.— І блізка тады не падпусціць да сябе. Адгоніць з пагардаю: бяжы да тых, з кім пад ручку шпацыраваў!»

Гаворачы, падышлі да хаты Мішуковых. Яна была перад вялікаю вясковаю лагчынаю, дзе ўвесну і ўвосень заўсёды шмат вады. Працьма яе і ў летнія ліўні. Раней тут, кажуць, і абрываліся Янкавіны. Бо недалёкі, за вярсту, Засценак, дзе асела некалі шляхта, быў ужо хутар. Але пасля паміж лагчынаю і Засценкам — на горцы, на пясочку — пачалі ставіць хаты прышлыя людзі, Супраневічы і Вайтковічы, Чорныя, як на іх гаварылі, і паволі, год за годам,

звязалі вёску з Засценкам, а самі апынуліся ў цэнтры. А гэты цэнтр чамусьці назвалі Сялом.

Яны, Чорныя, людзі тут адметныя. Калі ўсе астатнія мужчыны і кабеты звычайныя, са светлымі, ці з русявымі, ці зрэдзь і з рыжымі валасамі і блакітнымі вачыма, дык Чорныя інакшыя. Руда-цёмныя, нібы цыганы. У іх чорныя, што смоль, валасы, вялікія чарнявыя вочы, абвіслыя ніжнія губы. Калі з іх радні хто возьме «белую» ці хто з «белых» пойдзе замуж за іх, дык усё роўна павядуцца дзеці цёмныя, у іхнюю гарачую кроў, з іхнім дзёрзкім і смелым характарам.

Чорныя — не тутэйшыя. Кажуць, сюды яны — нібы мешанцы тутэйшай крыві з татарскаю — перабраліся з-за недалёкага Нёмана, з Чорнай Русі [1], яшчэ за Радзівілам [2], калі ў гэтых мясцінах капалі балотную жалезную руду. Іх і іхніх землякоў яшчэ называюць і інакш — занямоне, ці занямонцы. Канечне ж, іхнія прадзеды ўцяклі сюды ад беззямелля, кінуліся ў заработкі на завод па выплаўцы жалеза ў Налібаках. Але ні тыя, ні гэтыя Чорныя не пабагацелі, засталіся самыя беззямельныя людзі. Век з іх — найміты, парабкі, хадакі ды ездакі па шчасце ў горад і за мяжу. Сёй-той з іх у роспачы выходзіў шукаць лепшую долю і з нажом на вялікую дарогу, употай шастаў уночы па далейшых вёсках па гумнах ды свірнах.

Праўда, не Сяло цяпер захвалявала Янку. Іншае. А што, калі Зося дома і пазірае ў гэтую хвіліну на яго?

— Ваня,— прамовіла Кацярына,— хочацца сказаць табе адно пажаданне. Хлопец ты відны, цябе

---

[1] Чорная Русь — гістарычная вобласць у верхнім і сярэднім цячэнні Нёмана і яго левых прытоках.

[2] Маецца на ўвазе час да 1772 года.

любяць і будуць любіць дзяўчаты, дык не разбэшчвайся ад такой увагі. Пакахае хто цябе, пакахаеш ты — цані, беражы каханне. Страціш яго — шмат страціш. Калі і не ўсё. Хоць, я веру, ты будзеш добры муж.

— Ды ніхто не хоча за мяне ісці замуж...

— Няпраўда, манюка.

— Ды праўду кажу: адмахваюцца ўсе памялом...

— Ой, які хітры! — здзівілася Кацярына.— Бяры вось Машу. Чым кепская дзяўчына?

«Жонка дык жонка будзе! — падумаў.— І гультайка, і распусніца... Цесць — поп-манюка ды мацюжнік...»

— Ды не раўня я ім,— адказаў.— Яны ў горадзе вучыліся, а я тут усяго два класы асіліў. Яны і самі больш на Дзяжко, на Гарбуковіча ды на Петухова глядзяць. Тыя вучаныя, на добрай службе. А я хто? Лапаць. А лапаць боту не пара...

— Дуры, дуры нам галаву! — уставіла сваё слова Маша.— Мы ж добра ведаем, што яно і як... Ведаем, на каго ты маеш вока...

— Ну, на каго? — усміхнуўся.

— На таго, чые вокны толькі што вачыма еў...— з іроніяю адказала Маша.— На ганарыстую Зоську!

— От, выдумляеце нешта.

— Не выдумляю. Усе ведаюць: аж млееш за ёю.

«Злыя гэтыя пападзянкі,— падумаў.— Як восы. Вучаныя, гарадское вучылішча ў Нясвіжы паканчалі, ганарлівыя, што без качаргі носа не дастанеш, а ніхто нават і не пасватаецца... І Дзяжко, Гарбуковіч ды Петухоў круцяцца каля іх, жлукцяць папоўскую гарэлку, а не завіхаюцца браць каторую, з беленькімі ручкамі, замуж. Смяюцца за вочы: «Хай пашукае бацюшка іншых дурняў!»

— Ну ідзі, Янка, не будзем табе замінаць...— запынілася каля Супраневічавага плота Кацярына.—

Удачы табе... Мы з табою ці з вашаю Кастусяю яшчэ пашэпчамся. У нас ёсць адна сакрэтная размова...

«Канечне ж, пра Алеся...— здагадаўся.— Можа, і сёння нешта сказала б, каб не гэтыя цытры...»

## 5

Гаспадар, Супраневіч, яшчэ таптаўся каля хлява. Здаецца, мяшаў пакалкам у цэбры сечку.

Янка зірнуў на яго цёмную, сагнутую постаць толькі на міг, адразу ж перавёў вочы на маленькае акно: хто там, у хаце?

— Пачакай, Янак,— пазнаўшы і ўпоцемку, затрымаў яго Супраневіч. І тут жа хутка, угнуўшыся, пашыбаваў па двары сюды, да нізкай, накрытай саломаю хаціны. Высокі, тонкі, худы, як царкоўная мыш. Недзе адных з яго бацькам гадоў. Заядлы сябрук з іхнім Алесем. Любяць абодва пагаманіць пра палітыку, пра жыццё-быццё, чытаць газеты і тоўстыя кнігі.

Супраневіч — чалавек шчыры, даверлівы, ахвочы не толькі да навін і чытання, але і да гамонкі. Загавары з ім, папытай ці раскажы сам пра што — дык цябе надоўга не адпусціць, без канца будзе баяць байкі. У яго, як ні ў кога з мужчын у вёсцы, нейкая патрэба гамонкі пра жыццё-быццё. І са сваімі людзьмі, і з чужымі. Адны яго хваляць за розум і павжнасць, іншыя пасміхоўваюцца, лічаць за дзівака, дамарошчанага праўдалюбцу і філосафа ды за таго чалавека, што без патрэбы праз цягу да чытання ссушыў свае мазгі, парушыў розум. Быў некалі да сарака гадоў непісьменны, чалавек як чалавек, казалі ў Янкавінах, а потым падбіўся да прыезджага настаўніка, і той ад суму ў зімовыя вечары навучыў яго чытаць і пісаць. Супраневіч, стаўшы «вучаным», за-

вёў судовую цяганіну са Свістуновым за сенакос, што за янкавінскаю рэчкаю, лічачы яго гуртовым, а не панскім. Акружны суд у адзін час схіляўся на іх бок, але Свістуноў падмазваў, і вышэйшы суд перасудзіў усё на карысць пана. Супраневіч са сваёю пісанінаю дайшоў аж да сената. Хацеў пісаць і на імя самога цара, але калі тутэйшыя ўлады прыстрашылі, што сашлюць у Сібір,— здаўся, перастаў судзіцца. Памагаў толькі складаць янкавінцам, налібачанам і прудзянам скаргі ды прашэнні.

Супраневіч падышоў, падаў невялікую чэпкую руку.

— Нешта позна вы ўходжваецеся, дзядзька,— паціскаючы руку, прамовіў Янка, пазіраючы цяпер на яшчэ болей цёмны, як у цыгана, Сцяпанаў твар, адвіслую ніжнюю тоўстую губу і гарбаты на пасяродку і загнуты да верхняй губы нос. Усе Чорныя падобныя. Як на адзін капыл.

— Ды забавіўся, таўчы яго камары. Хоць і гаспадарка тая, як у пагарэльца...

— Чыталі, пэўне...— усміхнуўся Янка.

— Ага,— шморгнуў рукавом нявыдубленага не то белага, не то шэрага кажушка пад носам Супраневіч.— Даў ваш Алесь «Нашу ніву», дык чытаў, пакуль відаць было. Надта ўсё чытэльна. І пра гаспадарку, і пра свет, і складанцы ўсякія, і вершыкі... І смешнае бывае... Гэтую газэтку я лепш люблю чытаць, чым тыя, што Сяргеенку прыходзяць. Ды Сяргеенка надта і не дае чытаць. Крывіцца: можа, і не хоча, таўчы яго камары, каб і ты, просты чалавек, тое, што і ён, ведаў. Хоць, я табе скажу, нічога з тых яго газэт надта не ўведаеш. Брэшуць на чым свет стаіць...

Янка слухаў і асцерагаўся, каб Супраневіч не разгаварыўся. Яго не так вабілі Сцяпанавы гамонкі, як вабіла Сцяпанава хата. Ён раз за разам пазіраў на

акно. З хаты каторую ўжо хвіліну чуўся малады, здаровы хлапечы смех і прытворны дзявочы енк.

— Я вот што хацеў у цябе, Янка, запытаць,— нібы адгадаўшы яго запаветныя думкі, павярнуў гамонку на іншае Супраневіч.— Ці ж добра вы з'ездзілі на Шубін?

— Добра.

— А ў нас там, таўчы яго камары, нізкі луг,— уздыхнуў Супраневіч.— Але ўсё роўна прыйдзецца ехаць. Няма чаго чакаць. Відаць, у панядзелак і мы пададзімся.

— Ест хто ў вас, дзядзька Сцяпан? — запытаў Янка, хоць і сам добра ж чуў піск і енк у хаце.

— Ды найшло,— без ніякай злосці адказаў гаспадар. І сам ён, і ўсе ў вёсцы прывыклі: цяпер толькі ў яго хаце вячоркі, прыстанішча для маладых. Кіўнуў на цьмянае акно.— Чуеш жа, бушуюць! Спярша, пад вечар, дзяўчаты прыйшлі, а нядаўна хлопцы ўкуліліся. Дык якое там цяпер вышыванне! Ну, ідзі і ты. І твая ж чарнявая сёння тут...

У хаце — яна была без перагародак — ужо ўцямнелася. І сцены, і вялікая пабеленая перад калядамі мелам печ адбівалі густы цень. Толькі светла шарэліся два невялікія акны — ад вуліцы і з двара. Зрывала нос ад тытунёвага дыму. Ён, здаецца, хмараю вісеў пад бэлькамі. Яго не паспяваў выцягнуць і адсунуты верхнік у печы. Як і заўсёды ў такую часіну, калі сталыя гаспадары на двары, а ў хаце цемень, маладыя скупіліся за печчу: туды, у закутак, дзяўчат, канечне ж, завалаклі хлопцы. На ложак і на тапчан. А тут, каля дзвярэй, на лаве і стале, ляжаць вунь толькі невялікія абручыкі з белым палатном ці ўжо і з вышытымі ўзорамі ды кутасікамі ручнікі, дарожкі — тая зачэпка, дзеля якой, як увосень, да каляд, з кудзеляю, з калаўротам ці з пер'ем, кожнай

сталейшай дзяўчыне, якая ўжо заглядваецца на хлопцаў, можна выйсці з хаты на Сяло, да моладзі.

Бацькі ды маткі добра ведалі, чаго сыходзяць з дому іхнія сыны ды дочкі, ідуць да Чорнага — для гуляў, дурыкаў! — але дзе ты каго ўтрымаеш, калі таго цягне туды магнэзам!

— Вой, каб ты спруцянеў! Нехта ж ідзе,— завішчэла за печчу Вера Чорная, пляменніца гаспадара хаты, дачка Міхайлы Супраневіча, вырываючыся, відаць, з нечых абдымкаў.

— Гы-гы-гы! — зарагатаў Уладак Дземідовіч, сын янкавінскага старасты. Ад гэтага сакавітага, знарочыста моцнага смеху аж ускрыквалі пад печчу куры. Уладак быў хлопец паганы; перад дужымі ліслівіў, са слабых здзекаваўся; характар меў скрытны, хітры і двурушлівы.

Непадалёку сядзеў і падтакваў яго хаўруснік, Антон Емельяновіч.

Янка падышоў да маладых. І хлопцаў, і дзяўчат на ложку і на тапчане было як мух увесну на шыбіне. Хлопцы былі відаць па цыгарках: здаецца, кожны — жук і жаба — трымаў у зубах піпку. Яны свяціліся ружовымі вочкамі. Як каторы зацягнецца, дык агеньчык пабольшае, аж асвеціць губы і нахабнаю ўсмешкаю, дзюбку носа і няголеныя шчокі, ніз калматай авечай вушанкі. Хлопцы — тыя, каго зганьбавалі ці яшчэ не ўзялі ў войска, ці тыя, што ўжо выцягнуліся, як маладыя дрэўцы, і сёлета-налета пойдуць у войска. Дзяўчаты ўсякія. Маладзенькія, перастаркі.

— Ну, раскажы-раскажы, пане Яне, як ты з панадзянкамі пад ручку па вёсцы шпацыраваў...— радасна, седзячы між дзяўчат, загуў з ложка Уладак. Па мянушцы Скалазубы. У яго, як і ва ўсёй іхняй радні, былі вялікія, выпхнутыя, лічы, за верхнюю губу пярэднія зубы.

«Угледзелі ж!»

— А што — зайздросна? — адказаў Янка ўголас, надта не збянтэжыўшыся. Няможна саромецца. Абсмяюць, зганьбяць тады. Ды калі яшчэ вунь і Зося сядзіць. Каля гаспадаровай дачкі, Волькі. А каля Зосі прыляпіўся нейкі падлетак. Ды Вольчын брат, Пятрусь.

— Ну, а як жа! — не здаўся і Уладак.— Меншая пападзянка надта мяккая! Як булачка!

— Бачыш, ты і абгледзеў, і абмацаў! А я не паспеў.

— Гы-гы-гы! — сыта зарагатаў Уладак. Але не перагаварыў, не абсмяяў. Перад Зосяю. І ён жа меў на яе вока. Дарма, што чапляўся да яе сяброўкі, да Веры. Толькі смела — Янку насупраць — хадзіць да Зосі не адважваўся: канечне ж, помніў, як летась у гэтай жа хаце — на забаве — Янка добра наўскідаў па карку і яму, і яго сябруку. А дужыя кулакі для Уладака — добрая перасцярога. Ды і ўсе хлопцы пасля той бойкі пачалі пабойвацца Янкі і паважаць.

Янка і ў цемені бачыў: Зося стараецца на яго не пазіраць. Бліскае бялкамі, водзіць туды-сюды галавою. Нібы кожнаму зазірае ў вочы, кожнаму ўсмешкаю падтаквае ў гэтым няшчырым здзеку супраць яго, Янкі, хоць ён цяпер і адзін супраць хлапечай кампаніі.

— Ды садзіся ты,— зноў загуў Уладак,— а то зусім засланіў свет. І выперла ж! Да бэлек вунь!

Дзе тут упліснешся? Прыгледзеўся: дзе там Кастуся? Можа, ля яе можна ўціснуцца? Сядзіць вунь збоку, на тапчане. З суседкаю. З Анелькаю Гарбацэвіч, пра якую сёння гаварыў бацька на Шубіне.

Устаў Пятрусь. Ступіў на драўлянае біла ложка, палез на печ, дзе кішма кішэлі і за ўсім цікавалі гаспадаровы ўнукі — ад двух сыноў, што цяпер у заработках: старэйшы — у Сібіры, меншы — разам з іх-

нім Гіполем, Вінцуком, Драздовічам і іншымі — у Амерыцы.

— Садзіся, Янак,— спаважна сказаў Пятрусь ужо адтуль, з ляжанкі.

У яго забілася сэрца: трэба сесці каля Зосі! Пастаяў крыху ў нерашучасці, а пасля сеў на цвёрды, убіты ўжо на камень сяннік, засланы цёмнаю дзяружкаю. Зося адсунулася.

— Па сена, Мудрыя, ездзілі? — запытаў Уладак.

— Ездзілі,— адказаў.

— А я ўвесь час думаў: цябе не будзе, дык я ўжо сёння павяду дадому Зосю...

— Брахун ты! — незалюбіла тая.— Менціш вот цэлы вечар попусту языком. Ляпаеш, як лапцем па цымбалах!

— Заступаецца! — ухмыльнуўся Уладак.— Можа, і знюхаліся ўжо?

— Знюхаліся! — задзірыста адказала Зося.— А табе шкода?

— А няўжо ж!

— Дык не шкадуй — лопнеш ад зайздрасці!

— Аса! — прамовіў Уладак. Уздыхнуў.— Ладна, такой бяды. Чаго-чаго, а вашага цвету па ўсяму свету! Пайду і сёння з Вераю. Эх, мілка-растапырка мая! — і раптоўна абхапіў тую, сціснуў. Вера завішчэла, як ушчэмленае ў плоце парася.

Янка здзівіўся: як вольна паводзіцца гэты Уладак з дзяўчатамі. Што хоча, тое і робіць: гаворыць абы-што, рукі смела ў ход пускае. Зусім не асцерагаецца, што можа каторую зняважыць.

Заляскала клямка ў сенцах. Усіх дзяўчат як ветрам знесла з ложка і тапчана — пабеглі да лаў і стала. Лавы стыкоўваліся на покуці. На іх — галава ў галаву — звычайна, як вядома, спяць Волька і Пятрусь.

Каля хлопцаў за печчу засталася толькі Кастуся: не саромелася гаспадароў. Ведала: на яе ніхто благога не гаворыць, знаючы, што да яе хлопцы надта не чэпяцца.

Увайшоў гаспадар. Паставіў долу спачатку адну бадню з вадою, пасля другую.

— Чаму лучыны не наліце, вышывальніцы? — азваўся.— Волька, запальвай. Цемень жа якая! Як пальцам у вока.

Волька паднялася з лавы, падалася да памялешніка.

Чуваць было: качаргою разгарнула ў печы прысак, выкаціла адтуль на прыпек гарачы вуголь і, перакідваючы яго з рукі на руку, прынесла да камінка, кінула і пачала дзьмухаць. Янка перасеў з ложка на тапчан, убачыў: Вольчын твар асвятляўся, рабіўся чырвоны — і высакаваты лоб, і прыгорблены нос, і круглаваты, з ямінкаю пасярэдзіне падбародак.

Вуголь разгарэўся, усхапіўся і пыхнуў уверх маленькім язычком агню — Волька паднесла да яго сухую лучыну, што стаяла і сохла там жа, на камінку,— агонь лізнуў яе па стрэмках і зачапіўся. Пасунулася ад камінка цемната. У хаце пасвятлела. Ад Волькі на супрацьлеглую, абмазаную глінаю сцяну паў вялізны, пад столь, цень.

Хата нібы пабольшала. Стала вялікая, як стадола.

Янка перавёў вочы на Зосю. Сёння яна ў валёнках, доўгай цёмнай спадніцы, светлай блузцы і ў белай хустцы. Танклявая, з тугімі невысокімі грудзямі. Зося злавіла яго позірк, перавяла на яго глыбокія чарнявыя вочы, смыкнула спелымі, нібы ў малінавы колер, поўнымі вуснамі і тут жа адвярнулася, паглядзела на гаспадара: той, сагнуўшыся, ставіў на лаўку бадню. Адна палавіна яго авечай аблавушкі была апушчана ўніз, другая паднята ўгору. Потым пры-

клаў да ноздрыны вялікі палец, дзьмухнуў-затрубіў у кут. Раз-другі.

— Тата! — засаромелася Волька.— Я ж вам хустачку дала!

— Што я — пан які, што буду хустачкі кожны дзень насіць? — буркнуў той.— Гэта пан, таўчы яго камары, смаркае і ў кішэню сваё дабро хавае. А я не пан і нават не шляхціц...— па-змоўніцку зірнуў на ўсіх, усміхнуўся.— З панства, таўчы яго камары, найгоршае хамства...

Усе усміхнуліся. Нават і Уладак, хоць яго бацькі, як і ўсе сем'і ў Засценку, лічылі сябе не «мужыкамі», а шляхтаю. А Янка, любуючыся, пазіраў на Зосю.

Яму, як і астатнім хлопцам, цяжка было не здзіўляцца, не любавацца Зосяю. Яшчэ пазалетась гэта было выцыглястае, худое дзяўчо з вялікімі вачыма і кірпатым носам, з гарэзным хлапчукоўскім характарам. Яна больш і была ў адной кампаніі з хлапчукамі, чым з дзяўчаткамі. Лавіла з імі рыбу, хадзіла па грыбы і ягады, нават лазіла ў чужыя сады. Але пазалетась з вясны яна раптуча адасобілася ад хлапечага асяроддзя, пацішэла, нібы засаромелася ўсяго свету, стала патайною. Паволі яна пачала па-жаночаму выстаньвацца — выпрамілася, набыла высакароднасць, гордую хаду, пакруглела, пашырэла ў клубах, адчула, што ў яе ўжо не дзіцячыя, а жаночыя грудзі. Яна, як і кожная маладая дзяўчына, яшчэ не ўзрадавалася за сваю жаноцкасць, красу, а збянтэжылася ад яе, як і ад таго, што ўжо мужчыны і хлопцы пачалі пазіраць на яе з захапленнем.

Яна не разумела, што ні ў чым не вінаватая. Сама маці прырода падарыла ёй прыгажосць, на зайздрасць і здзіўленне людзям.

У кожным пакаленні ў Янкавінах, казалі, былі красуні. Яны ўмелі глыбока адчуваць душою і сэр-

цам, міжволі сваёю красою ды тым чалавечым уменнем зводзілі з розуму тутэйшыя вёскі. У іхняй гэтай красе, адчуванні быў найвялікшы дар прыроды. Ім, гэтым красуням, было дадзена шмат таго, што можа даць чалавеку,— здольнасць паўнакроўна, з захапленнем адчуваць, скажам, хараство глыбокага блакітнага неба, першай нясмелай жаўтаватай зеляноты, прыгажосці квітнеючых садоў, жоўтага лісця, загадкі цёку вады ў рэчцы, усе тонкасці чалавечых узаемаадносін, кахання. Праўда, гэты вялікі дар быў часамі і вялікім цяжарам. Не кожная красуня магла панесці яго сама, не кожную маглі зразумець людзі — асабліва людзі зайздросныя, незычлівыя, зламысныя. Яны не разумелі ненаўмысна і наўмысна. Не прымалі надта іншага, чым самі ведалі, кахання. Красуні хацелі не грубасці ці заземленай прывычкі, няўвагі, а жадалі дабрыні, пяшчоты, далікацтва, найвялікшай тонкасці ў абыходжанні ды каханні ад мужчын, мужоў, а тыя ці не ўмелі, ці грэбавалі гэтым, грубілі і прыносілі шмат мук і пакут сваім абранніцам — тым, каго, бывала, дабіваліся з цяжкасцю. Было, гэтыя красуні не толькі пакутавалі, але і шукалі шчасця з іншымі, больш адчувальнымі — гэта значыць грашылі, за што вёска іх жорстка асуджала, не дазваляючы ім выяўляць сваю багатую адчувальнасць. Таму былі выпадкі і забойстваў, самагубства. Бо амаль кожнае такое, грэшнае, забароненае, каханне не прыводзіла да дабра, разбурала лад у некалькіх сем'ях адразу. Бадай, лёс кожнай красуні быў рэдка шчаслівы, а найбольш быў трагічны.

Цяпер вось вырасла красуняю ў Янкавінах Зося. Цяпер у ёй сабралася ўся тайна хараства, чары, цяпер яна пачала заварожваць хлопцаў, выпрабоўваць іх сэрцы і душы, сама ісці ў жыццё з невядомай місіяй.

З двара вярнуліся гаспадыня Паўліна і старэйшая

нявестка Аўдоля. Кожная прынесла па абярэмку дроў. Янка зірнуў на іх толькі на міг, зноў перавёў вочы на Зосю — тая нацягнула на круглы абручык палатно, заціснула яго другім, крышку большым, і пачала вышываць. Дарожку на ложак. Больш у яго, Янкаў, бок не пазірала. А яму так хацелася ўбачыць яе цёплы позірк, што супакоіў бы, сагрэў яго душу.

Каля акон у двары загаманілі дзеці — вярнуліся з коўзанкі. Цяпер ім можна было ўжо заходзіць у хату: іх ужо ніхто не будзе выганяць.

Неўзабаве і ўсыпаліся плоймаю. У валёнках, лапцях, кажушках, з насунутымі на вочы авечымі і вялікімі — вайсковымі — вушанкамі. Усе ўспацелыя, з мокрымі валасамі на лобе і на шыі, з чорнымі рагамі поту на шчоках. Той-сёй і з засохлымі слязьмі. Зайшлі за гаспадаровым родным братам Міхайлам і яго жонкаю Настуляю, стоўпіліся ў парозе, піхаючы адно аднаго ў плечы ды хіхікаючы, пасля, калі гаспадыня сказала, што можна садзіцца, паселі на лаве і на зэдліках пры печы.

Міхайла з постаці і з твару як і Сцяпан. Нібы блізняты. Але характарам Міхайла іншы. Ён не чытае ні кніг, ні газет, столькі ўсяго не ведае: не мае да гэтага ніякай ахвоты. Затое мае іншыя «таленты», якіх няма ў Сцяпана: любіць і ўмее гладка мянціць языком, маніць, вадзіць, як самая гаваркая баба, плёткі і адпальваць усякія дурноты. Да слова, любіць раніцай ці ўвечар выйсці на двор, наўмысна моцна пазяхаць, кашляць ці зашыецца ў які цёмны куток, каб яго ніхто не бачыў, і вые-скуголіць на ўсю вёску. І яшчэ ён адмысловы злодзей. Да каго ні зойдзе ў хату — нешта ўкрадзе. Хоць лупіну ці стрэмку якую.

— Добры вечар вам! Ці рады вы нам? Калі вы нам рады, і мы вам да парады! — залапатаў Міхайла з парога і, не чакаючы адказу, акідаючы позіркам хату, пацёпкаўся да стала.— О, колькі вас найшло!

Не раўнуючы, як блышчыц у запечку! А вы, жыдзяняты,— жмурачыся, агледзеў дзяцей у парозе,— чаму шапак не здымаеце? Не ў карчме ж вы, а ў хаце!

Тыя ўміг папасцягвалі вушанкі.

Неўзабаве зайшлі ў хату яшчэ два мужчыны. Стрыечныя гаспадаровы браты, Пятро і Юзік Вайтковічы — блізняты. Абодва невысокія, каржакаватыя, цёмныя. За імі ўсунуліся і іхнія жонкі — Фроня ды Ірка. Юзік быў чалавек ціхі, у яго вялікіх вачах заўсёды свяціліся смутак, стомленасць, быў ён самы спакойны з усіх Чорных; Пятро і ў пяцьдзесят гадоў задзірлівы, завадатар боек, нібы ўсё яшчэ неаб'езджаны жыццём. Ледзь што яму не па гусце — пускае ў ход кулакі. І білі яго часта моцна, да паўсмерці — надта мужчыны і хлопцы з чужых вёсак,— вадою колькі разоў адлівалі, але ўсё роўна прыкры яго характар не змяніўся.

— Здароў вам у вашу кучку! — загарэзаваў з парога Пятро, акідаючы ўсіх позіркам. Пасля падаў руку гаспадару.— Здароў!

— Жыў, здароў, хаджу без штаноў, што й табе жадаю! — адказаў той.

— Здароў, калі змалоў! — сказаў, паціскаючы руку, Міхайла.

Юзік не абмовіўся, моўчкі ўсунуўся; хлопцам Пятро рукі не падаў: завялікі яшчэ для тых гонар.

Раней вячоркі былі ў Міхайлы. Але як адна за адной заявіліся ў хаце дзве нявесткі, дык тыя пакрыху адвярнулі моладзь ад хаты.

— Ну дык што, хлопцы? — усміхнуўся Міхайла.— Чаго скаліце зубы? Не баіцёся суднага дня? Не страшна за свае грахі? За тое, што дзяўчат мацаеце, на гарачае дзела спакушаеце? Што гарэлку п'яце, мацюкаецеся?

— Гы-гы-гы! — зарагаталі Уладак і Антон.

— А калі хто ўжо тантаў дзяўчыну ці тая без шлюбу пад плотам легла, дык дасць бог на судзе!

— Цьфу на твой язык! — плюнула ў памялешнік гаспадыня.— Брахун ты, брахун! Дзеці малыя ў хаце, а ты... І на пост вялікі не зважаеш...

— Гэтыя дзеці, Паўліна, ужо больш за нас з табою ведаюць...

— Вот ад такога ж, як ты, і адукоўваюцца на дурное... Наслухаюцца — самі тады абы-што брэшуць ці змалку абы-што дарабляюць! Паны сваіх дзяцей так не выхоўваюць. Што яны ні гавораць, што ні робяць — дзеці не чуюць і не бачаць... Свае ды заморскія настаўнікі змалку дакладаюць да навукі, да культуры...

— Мы ж не паны,— адказаў Міхайла.— Як мы самі раслі, гэтак і сваіх дзяцей гадуем. Хай змалку вучацца да ўсяго, як і араць, касіць, думаць... Панскія манеры не да нашай веры... Я вот адно думаю,— павярнуўся да Уладака і Антона,— папрыцё, мусіць, сёлета на бойню... Душа чуе: не разыдуцца з дабром і мірам Вільгельм і Мікалай, калі гэтак адзін на аднаго брэшуць... Паддасца, не дай бог, наш цар — Вільгельм сюды прыпрэ. Мы ж недалёка ад яго.

— А я, мужчыны, Вільгельма таго не баюся. Сяроўна ж трэба пад некім быць...— махнуў рукою Пятро.— Вільгельмаў бавэр, кажуць, не гуляка, як пан Невядомскі, не бесталковы, як Свістуноў з Хатавы. Тыя ж не навуцылі ніцому добраму. Толькі кралі, цягалі дабро: лес, жыта, картофлю, лён, мёд, кароў, коней, свіней. Прадавалі і прадаюць гэтае дабро за мяжу за золата. Яны ніцога тут не садзілі і не глядзелі. Дык ім нічога і не шкода. Абы грошы. А бавэр, усе кажуць,— добры гаспадар. У яго галава кемная, розум вялікі, усякіх машын мудрых многа, парадак. Вунь,— кіўнуў на дзяўчат,— дзеўкі на калаўротах

*«А калі дабраліся да самога Шубіна, дык ужо добра развіднелася, пачаў убірацца ў сілу новы светлы дзень».*

усю восень пралі. Думаеце, адкуль калаўроты. Адтуль. Бо ў нас век былі верацёны.

— Дурны ты, дык і не жагнаешся! — накінуўся па яго гаспадар.— Пры гэтых панах, пры ранейшых і твой дзед, і ты, дурань, па-свойму гаварыў, гаворыш, а вот той бавэр, таўчы яго камары, змусіць гергетаць па-свойму. А думаеш, лёгка будзе ператамаць язык?

— Не бойся,— зноў махнуў рукою Пятро.— Не адбіўся ад свайго дагэтуль, дык не адаб'епіся і цяпер. Ніхто цябе сілаю не адверне — ні Баба Яга, ні Кашчэй, ні Змей дванаццаціґаловы. Абы сам не адцураўся. Разумны парабак хоча трапіць і да разумнага гаспадара.

— Дурны ты і дурное вярзеш...— узлаваўся Сцяпан.— Парабак павінен думаць пра тое, каб самому стаць гаспадаром.

— От іменна! — згадзіўся Міхайла.

— Цаго захацелі! — ухмыльнуўся Пятро.— Не кожны парабак можа ўзбіцца на сваю гаспадарку... Ці сам не здолее, ці пан не дазволіць... Як мы во, усе Цорныя, не можам ніяк стаць на ногі. То сам не падымешся, то нехта зваліць на дол... Ды сто попусту тлуміць галовы! Давайце лепс згуляем у дурня,— і дастаў з кішэні памятую калоду карт.— Падсядайце, Янак, Уладак. Усасцёх згуляем. Разводзіць гавэнды са Сцяпанам — сушыць толькі мазге...

— А я чуў,— зачапіўся яшчэ за ранейшую гутарку Міхайла,— бавэр — добры штукар: ці на двары адзін, ці ў хаце з людзьмі, дык сяроўна не зважае, страляе, як з гарматы...

— Ото дурны! — незалюбіла гаспадыня.— Хоць бы што калі разумнае сказаў.

— Можа, і дурны. Не адракаюся,— згадзіўся Міхайла.— Бо ўсё ведаю, а вот каб зрабілі царом, дык і не ведаў бы, што рабіць!

— Цар! — скрывілася жонка.— Такі ж самы штукар, як і той бавэр. У падмятайлы, можа, і ўзялі б. Але ненадоўга. Бо скора выгналі б за дурныя выхілкі і паганы язык.

— А я вам вот што скажу пра ўлады...— абзыўнуўся маўклівы дагэтуль Юзік.— Кожны гад мае свой яд...

За гульнёю перавялі гутарку пра свае гаспадарскія клопаты — пра Шубін, пра вясну. Пра хлеб. Ні ў кога ж з Чорных не было ўжо свайго хлеба. Усе пачалі ўжо жыць на пазыках. А пасля ніць гамонкі перахапіў балбатун Міхайла і пачаў страшыць дзяўчат — расказваць пра чарцей. Пра гэта, як і пра іншыя дзіўныя, містычныя здарэнні на свеце, вельмі любілі гаварыць у Янкавінах у зімовыя доўгія вечары.

— От сціхніце, дзядзька,— абрывала яго гаспадарова дачка, Волька.— Будуць баяцца дзяўчаты ісці дадому.

— Ого! — пасміхаўся той.— Падвядуць хлопцы. Яны ж толькі гэтага і прагнуць! А я вот некалі ледзь не прапаў.

— Скула табе на язык! — абрывала і гаспадыня, жагналася.— Складаеш вот дурныя складанцы напроціў ночы! Ды ў пост!

— Нічога я не складаю,— не здаваўся Міхайла.— Я расказваю тое, што сам бачыў.

— Ведаем, што ты бачыў...— махнула рукою гаспадыня.— Абы мянціць языком. Язык жа без касці...

— От ты паслухай-паслухай,— абарваў яе Міхайла.— Сама ўбачыш: праўда гэта ці не?

— Дык маес падкінуць сто цы не? — злаваў Пятро. Пасля не вытрываў, перавярнуў карты, кінуў у адбой. Міхайла адвярнуў, паглядзеў гэты адбой, падкінуў адну карту. Пятро пасунуў далонню па стале кіпку карт да сябе.

— Помніце, там пазалетась ездзіў я ў Івенец? — услед за іншымі беручы карты з калоды, вёў далей Міхайла, і карцёжнікі мусілі слухаць яго, не іграць.— Парасяты прадаваў. Прадаў, як гэта і трэба, зайшоў у карчму, перакуліў адну-другую чарачку, закусіў селядцом і паехаў дадому. Лета. Ноч цёмная, хоць на воўка ўзбіся. Конь нясецца мой як апараны. Пад'ехаў ужо да Цеспавой — конь мой...— адкінуўся спіною да сцяны. Дзяўчаты замёрлі, не вышывалі, з разяўленымі ратамі пазіралі на Міхайлу. І тое, што ён называў тутэйшыя вёскі ды мястэчкі, яшчэ больш паддавала ім страху.— Дык конь мой тыц і стаў! І ў цемнаце бачу: вушы яго ўгору. Старчаком стаяць. Ну, як у воўка на грамніцы...

— Цьфу! — плюнула яго жонка.— Брахун стары!

— Ржэ мой конь са страхам,— не зважаючы ні на што, плёў Міхайла.— Што там, думаю? Ваўкі? Чалавек які ліхі заступіў дарогу? Мацней сціскаю пугаўё ў руцэ, спаўзаю з воза. Не. Ні чалавека, ні воўчых агеньчыкаў. Іду наперад. Эге, бачу: перад канём на дарозе ляжыць нешта цёмнае. Тыцнуў пугаўём — цвёрдае. Памацаў рукамі — пень. Ладны такі. Падняў. Нюхнуў — як і трэба, не то балотам, не то смалою пахне. Ну, думаю, вазакі везлі пні на смалакурню Свістунова і згубілі. Нашто, каб дабро прападала! Я за пень — ды на воз. Думаю, баба ўсю зіму дровы падпальваць будзе. Сцёбнуў каня па каленях — той, людцы мае, і панёсся. Як яму пад хвастом гарчыцаю нацерлі. Азірнуўся я: аж пень адпаўзае. Думаю, падтрасае калёсы, вот ён і скочваецца. Толькі я выцягнуў руку, каб узяцца за яго...— Міхайла нават паказаў, як ён выцягваў тады руку.— А пень, людцы мае, як падхопіцца! — Міхайла ўскочыў з лавы: — І ўміг зрабіўся чорным казлом з жоўтымі вачыма. Ды калі забляе: «Бэ-э-э!»

І Сцяпанавы ўнукі на печы, і дзяўчаты як адна

завішчэлі, пазатульвалі твары далонямі. А хлопцы іранічна заўсміхаліся.

— Скок казёл гэты з воза — і ў лес...— Міхайла гопнуўся на лаву, аж задыхаўся ад сваёй гамонкі.— А ў мяне, паверце, і валасэ дыбам сталі, шапка з галавы зляцела. Пот халодны па спіне пацёк. Увесь хмель з галавы вылецеў. Ледзь жывы дадому даехаў. Скажы ж, Настуля,— павярнуўся да жонкі,— цвярозы тады, як іголка, з кірмашу прыехаў! Толькі ледзь-ледзь пахла з рота...

— Працверазіўся за доўгую дарогу,— адказала тая.— А ў карчме добра насцёбаўся, калі потым шапку згубіў. Можа, плату і за парася прапіў. Хто ж там ведае, колькі ты ўзяў за тых парасят!

— Уга. Кажу ж...

— Вы, дзядзька, і былі п'яныя,— першая з дзяўчат апамяталася ад страху Зося,— ды ехалі адзін уночы па лесе, дык вот вам і здалося...

Дзяўчаты пажвавелі, пасмялелі.

— Канечне, былі п'яныя,— сказала Міхайлава дачка, Вера.— Я ж помню: мама лаяла вас тады за гарэлку...

— Каб жа выдумляў! Сам бачыў...—Міхайла ўхапіў праваю рукою каля скроні валасы, адцягнуў.— Бачыце сівыя пасмы? Усё гэта ад той ночы...

— Пасівелі вы, можа, і не ад таго,— сказала пляменніца Волька.— Усе ў нашай радні чорныя, усе рана сівеюць...

— Не верыце: няма чарцей? — не здаваўся Міхайла.— Дык вот хай каторая з вас папробуе ўночы залезці на гарышча і паглядзець у люстэрка ці цяпер, у пост, патанцуе! Хіба не чулі, што было пад Рубяжэвічамі? Была там адна дзяўчына. Не верыла ні ў бога, ні ў чорта. Пост велькі — а яна танцуе сама з сабою, спявае. Засталася адна раз дома, зноў пачала выкручвацца, задраўшы галаву. Пазірала на сучок

у бэльцы. Як сама потым казала, гэты сучок раптоўна пачаў большаць ды большаць у яе вачах, а потым спаў долу — і паўстаў з яго чорны хлопец у чорным касцюме. З рожкамі, з жоўтымі вачыма. Хоп яе — і як закруціў, што яна не магла і астанавіцца. Можа, і да смерці закружыў бы, каб бацька не найшоў. Кінуў тады яе гэты чорны хлопец, скок уверх, зноў сучком на бэльцы стаў. А яна як пласт на току ляжала... Колькі яе потым па ўсякіх шаптухах, па дактарах павазілі! Сохла-сохла і памерла...

Дзяўчаты са сполахам зірнулі ў столь. На бэлькі. Там і праўда было шмат усякіх — вялікіх і малых, адзіночных і ў кветкі — сучкоў.

Пасля ўжо іншыя пачалі ўспамінаць усякія страшныя, містычныя выпадкі. Калі пазяхнула Міхайлава жонка, за ёю — Пятрова, за імі пазяхнулі і мужчыны, Юзік, Пятро. І гаварун Міхайла не ўтрываў, разявіў раз-другі рот да вушэй ды наўмысна яшчэ, што аж піскнула штосьці ў яго пашчэнках. І тут жа ўсе выбухнулі смехам: Міхайла не мог закрыць рота. Вочы вылупіліся, твар скрывіўся. Парагатаўшы ўволю, Пятро тыцнуў Міхайлу кулаком у пашчэнку — той нарэшце плямкнуў, закрыў рот. Завойкаў, застагнаў ад болю.

— Час спаць ісці,— зноў пазяхнуў Пятро.— Павалакліся дадому. Трэба ясцэ ж і на бабу нагу закінуць...

— О то разумна сказаў! — папікнула жонка.

— Цаго ты! І ты тады весялейшая будзес...

І як толькі мужчыны паўставалі, стоўпіліся ў парозе, замітусіўся Міхайла. Хапнуў са сцяны, з цвіка, аблавушку, але, перш чым начапіць яе на галаву, чамусьці спачатку засунуў на міг руку ў правую кішэню кажуха, тут жа выхапіў яе і паштурхаўся да дзвярэй.

— Спакойнай вам ночы!

— Спі, вытрашчыўшы вочы! — адказаў яму гаспадар.

— Пачакай, Міхайла,— ужо пры парозе затрымала яго гаспадыня, Паўліна. Яна ўвесь апошні час не зводзіла з яго вачэй.— Пакажы...— І, калі ён запыніўся, падышла, сунула руку ў яго кішэню. Дастала адтуль невялікія нажніцы.

— Вой, далібог, не ведаю, як яны ў мяне апынуліся...— заўсміхаўся той. І не вінавата, а гарэзна.— Няйначай, усунуў нехта...

— Усё табе нехта ў твае кішэні чужое падпіхае!— перакрывіла гаспадыня, вешаючы нажніцы на ранейшае месца, на цвік у сцяне.— От занямонская натура! Жыць не можа, каб чаго не ўкрасці!

Міхайла паўсміхаўся і, як нічога і не здарылася брыдкага, пасунуўся з хаты.

— Дабранац! — развітаўся ўслед за ім Пятро.

— Забірай усе блохі напач! — адказала яму гаспадыня.

— Заставайцеся здаровы! — пазычыў на адыход спакойны Юзік.

— Бывайце здаровы ды, дай божа, каб здаровыя і абачыліся,— амаль у адзін голас паважна, зусім не так, як ліхім Міхайлу і Пятру, пажадалі яму і яго жонцы Сцяпан і Паўліна.— Салодкага вам спа — спаць да паўдня!

Неўзабаве за Чорнымі і дзецьмі, загарнуўшы свае абручыкі з палатном у хусткі, сыпнулі з хаты, як пчолы роячыся, дзяўчаты, на хаду апранаючы і зашпільваючы кажушкі. Хацелі ўцячы ад хлопцаў.

Тыя шыбнулі ўслед за імі. Ледзь дзверы не сарвалі з завесаў і не панеслі з сабою. Здаецца, скінулі з лаўкі бадню, разлілі ваду ў парозе. Янка чуў, як лаялася на іх гаспадыня, таўхала некага апошняга ў плечы, але ніхто на гэта не зважаў, вырываўся з хаты і з сянец на двор. Але цяжка было вырвацца.

Доўга таўхаліся, ціснулі адно аднаго ў сенцах у куты. Янку, здаецца, пёр перад сабою Уладак, стараючыся зацісцуць у кут. Яму ўдалося неяк павярнуцца, пусціць наперадзе самога Уладака. Ды яшчэ так пахнуў, бухнуў Уладака ў сцяну, што аж затрэсліся сенцы. Сам вырваўся на двор, зусім аслеп у цемнаце. Зыркаў-зыркаў: а дзе ж белая касынка? Убачыў: каля плота ўжо. Кінуўся туды. Іначай будзе, што і раней. Зося шыбне, як каза, і схаваецца ў сваім двары.

Дагнаў, злавіў яе пасярод лагчыны. Можа, і не ўхапіў бы за плячук ды не прытрымаў бы, каб не каўзанулася на лёдзе і не павалілася.

— Вой, хто гэта? — віснула, падбіраючы згублены вузел.

— Не бойся,— ціха прамовіў, падымаючы, а пасля і трымаючы яе за локаць.— Гэта я...

— І прэш жа, як забіць хочаш...— напікнула.

Прамаўчаў. Не ведаў, што адказаць.

— Пусці! — загадала. І сярдзіта: — Чуеш?

— А ты не ўцячэш?

— Не-э.

— Не абманеш? Як і тыя разы!

Памаўчала і яна. Нібы павагалася.

— Не, сёння не абману.

— Ну, глядзі...

Ён адпусціў. Пайшлі побач. Моўчкі. Як на суд. Янка чуў: сэрца тахкае-тахкае, падымаецца, аж ціене, здаецца, у горле.

— Лаві, калі зловіш! — ускліннула яна і панеслася па вуліцы. Што вецер. Ён і сёння ўлёг за ёю. Але дзе там! Хіба дагоніш лань?!

Убегла ў свой двор. Ляснула клямкай у сенцах і зашчапілася. Ён з гарачкі ўбег у вузкі двор, спатыкнуўся аб санкі, запыніўся: нарабіў брэху Мішукоў сабака. Ён вымчаў з двара: выйдзе яшчэ з качаргою

гаспадар. Ды і няёмка стаяць, як цюцьку, пад дзвярыма.

Пастаяў крыху за плотам, чакаючы: а вось Зося сёння выйдзе з сяпец. Але яна не выходзіла. Дык ён паныла пасунуўся дадому. Чуў: па вёсцы нясецца вясёлы хлапечы і дзявочы гоман, енк, піск. Значыць, астатнія хлопцы не далі такога промаху, як ён.

«Варона дык варона я!» — палаяў сябе.

Ужо ля свайго цёмнага двара — каля брамкі і невысокага шула — запыніўся. Пачакаў Кастусю. Яна ішла з суседкаю, з Анелькаю. Вось яны разышліся.

— Ну што? — падышоўшы, усміхнулася Кастуся.— І сёння толькі аблізаўся? Весела цяпер, як рыбаку, што выпусціў з рук рыбіну?

— А табе што? — адказаў з незадавальненнем.

— Няўдака ты! Зявель сонны!

— Вот дам зараз у зубы! — узлаваўся.

— Бачыш, які смелы цяпер! Са мною! — не спалохалася тая, хоць была нашмат маладзейшая.— А з ёю дык як цяля! Ні загаворыць, ні...

Змаўчаў. Ды што сказаць? Праўду рэжа.

— Бойся-бойся, дык набаішся: і ліха не мінеш, і надрыжышся! — ушчувала Кастуся.— Паглядзіць, што такі целяпей, дык і адвернецца.

— Яна і ўжо, відаць, некага мае...

— Дурань ты! — прыблізілася, прамовіла са шкадаваннем.— На цябе ж вока мае...

— Яшчэ як! — аж разгубіўся. Каб не паказаць свайго хвалявання, ухмыльнуўся.— Пазірае, як сабака на кій...

— Вой, які ж ты яшчэ сляпы і дурны! Як кацяня! — нібы здзівілася Кастуся.— Нічога не бачыш. Уся вёска бачыць, а ты не... Ды зірні ты, прыглядзься добра, як яна чырванее, калі ты зойдзеш, загаворыш з якою другою! А як яна выстранчаецца! Новыя блюзкі, спадніцы мяняе!

Ён слухаў, што казала яму сястра. Слухаў, як старэйшую і разумнейшую.

«Няўжо, няўжо Зося ўпадабала мяне? — цеплынёю абліваласн яго сэрца.— Але чаго тады гэтак уцякае? Ох і хітры ж гэты люд, дзяўчаты!»

## 6

Вера Чорная не старалася ўцякаць ад дзядзькавай хаты. Толькі ў гурце — для вока — выбегла з двара. За плотам запынілася. Яна чакала. І не памылілася: ззаду апошні цягнуўся Уладак Дземідовіч. Памалу. Нібы воз цягнуў за сабою. Усё ж добра Янка Нямкевіч бухнуў яго — спіною і патыліцаю ў сцяну — каб уцэліў на які крук, дык акалечыў бы.

Падышоў. Абхапіў за плечы. У Веры соладка зайшлося сэрца. Аднак скінула з сябе яго руку.

— Чаго ты? — здзівіўся.

— Ідзі, бяжы і ты! — папікнула.— Даганяй!

— Каго?

— Як не ведаеш! Падурэлі ўсе праз яе! Свету з-за яе не бачыце.

— Ды з-за каго?

— З-за Мішуковай Зосі...

— От знайшла красуню! — супакоіў.— Вочы па яблыку!

— Але ж і ты млееш за ёю...

— Я? — хмыкнуў.— За ёю? Ды яна, каб і хацела, дык я з ёю не хадзіў бы!

— Уга!

— Вот табе і дуга! — зноў прытуліў.— Я з табою хачу хадзіць, мякенькая ты мая, булачка пульхная!

— Так ужо і булачка! — закрыўдавала, але не злосна.

— Булачка! — абдымаў, наўмысна калоў падбародкам яе шчаку.

— Пусці! — спрабавала вызваліцца, але не рашуча.— Убачаць!

— Цяпер? — хмыкнуў.— Ды цяпер усе храпуць ужо!

Пайшлі па цёмнай вуліцы, у другі бок вёскі, у Засценак. Ён усё абдымаў — узваліўся на яе плячук. Але яна цярпела. Піхнуў да нечага — здаецца, дзядзькі Вайтковіча Юзіка — плота. Як і тыя разы, пачаў «лашчыць» яе —ціснуў, мяў далоньмі яе плечукі, грудзі. З нейкай злосцю. За тое, што яна, Чорная, і такая паслухмяная, не цураецца яго, як іншыя дзяўчаты, што і сёння Янка Нямкевіч адпіхнуў яго, пабег за Зосяю — за тою, хто і яму сушыць сэрца.

— Ну што ты робіш? — хіхікнула Вера.— Задушыш!

— Не задушу. Мужчына бабы не задушыць абдымаючы.

— І як табе язык не адсохне такое гаварыць!

Пусціў у ход рукі. Залэпаў імі пад кажушком, каля яе сцёгнаў.

— Не лезь,— забараніла.

— Чаго ты, дурная, баішся? Не з'ем жа,— даў рукам волю.

Пачала бараніцца. Абцягвала спадніцу ўніз, трымала за рукі.

— Не дзярыся! — задыхаўся ад барацьбы, маладога шалу, ад гарачыні яе цела.— Можа, і сёння яшчэ кусацца пачнеш?

— А ты не лезь абы-куды...

— Як гэта — абы-куды? Ці для другога каго беражэшся?

— Вот выдумляеш,— адказала.— Няма ў мяне нікога.

— Дык буду я? — прашаптаў ужо лагодна.— Добра?

— Уга, будзеш!

— Чаму не буду?

— Ды ты з Зосі вачэй не зводзіш. Са мною толькі дзеля прыліку...

— От! — сказаў нібы пагардліва пра Зосю, а сам падумаў: «І бачыць жа ўсё, каб табе вочы павылазілі! І ўпартая, непадатлівая, хоць і горнешся!» — Ест там з каго вачэй не зводзіць!

— Не нагаворвай. А яна і праўда харошая.

— Ты не горшая.

— Уга,— не пагадзілася.— І яшчэ ест адно...

— Што?

— Я — гэта адно, а ты — зусім інакшае...

— Вот завялася! — яго пачала разбіраць злосць, што яна гэтак стрымлівае яго рукі.— Хіба мы не роўныя? Абое ж людзі...

— Не! — не згадзілася.— Вы вунь хто, а мы... Мы — Чорныя...

— А хочаш, я вазьму цябе замуж?

— Уга! — усміхнулася.— Не будзе тое.

— Будзе. Абы я настояў. Але ж ты... Баішся во мяне.

— Я не баюся...

— Дык чаго рукі, лыч мне дзярэш?

— Дык ты ж робіш абы-што...

— Прыляпілася да слова! Я ж хачу, каб ты была мая. А ты не хочаш гэтага.

— Ну...— здаецца, ужо слабела ў супраціўленні, здавалася. Гарэла як у шале.— Гэта не адно...

— Адно!

— Пасля шлюбу толькі тое...

— Вот! — ускіпеў.— Старыя забабоны! Колькі я ведаю такіх, што і да шлюбу блізкія былі...

Нарэшце дабраўся да яе цела. Уздрыгнуў: якая ж яна палымяная! Як агонь. Адчуў: жыць не зможа, калі не зведае яе цела. Ён ужо колькі гадоў ведаў жанчын — і суседку-салдатку, якая цяпер вярнулася

да сваіх бацькоў, у Пруды, і Шлёмаву дачку, і малодшую пападзянку,— дык у ім ужо жыў мужчына.

— Не трэба, Уладачак,— пачала прасіцца Вера.— Потым...

— Калі потым? — расшпіляў на ёй адзенне.— Усё «потым» ды «потым»...

Не зважаў на яе просьбы.

Верка заціхла. Замёрла ў пацалунку. Здаецца, хліпала. Ён адпусціў яе на хвіліну, пачаў пахапкам расшпільваць на сабе кажух. І ў гэтую хвіліну Вера нібы ўстрапянулася.

— Не! — цвёрда сказала.

«Не паспеў! — узлаваўся.— Усё, цяпер, як прачнулася, дык ужо не падпусціцца...»

Дзеля прыліку лашчыў яе далікатна, гаварыў цёплыя няпічырыя словы, але Вера была напагатове, больш такога, як раней, не дазваляла.

«Чорная! Дурная! Праклятая! — ідучы дадому, кляў у думках Веру.— Здаецца, ліпкая, хоць ты яе жыўцом глытай, але ўпартая і непадатная! Бачыш: спачатку да шлюбу з ёю ідзі, а тады ўжо на, бяры яе, еш! А яшчэ што хочаш? Але нідзе не дзенешся. Зграбу заўтра-паслязаўтра як міленькую... Трэба толькі менш цацкацца...»

## 7

Відаць, мала калі бывае, каб усе ў Янкавінах уночы спалі. Заўсёды той-сёй і не стульвае вачэй. У каго малое дзіця, хто хворы, хто думае пра сваю бяду ці свае клопаты, хто ідзе красці — адным словам, у кожнага, хто не спіць, свой неспакой.

Апошнія ночы Мішук, Зосін бацька, гэтаксама бадзёрыўся: пільнаваў, калі ацеліцца карова. Іхняя Лялька была ўжо не маладая, але здурнела на старасць: тыя гады гуляла, бегала рана і рана цяліла-

ся — у лістапад, снежань ці сама вялікае ў студзень. А сёлета во якою парою яшчэ не прывяла цяля.

Сёння Мішук прылёг на куфры не распранаючыся. У валёнках і ў кажуху, бо ў гэтую ноч, як бачыў па малодзіве (яно ўжо, лічы, было малако, яго, горкае, ужо ў мінулы дзень не пяклі дзецям на патэльні, аддалі свінням) ды па падхвосціцы, Лялька павінна была ацяліцца. Выходзіў ужо разы з тры з ліхтаром у хлеў: Лялька сёння не клалася, стаяла, цяжка ўздыхала.

Звечара спаць не хацелася. Ляжаў, думаў пра жыццё-быццё. Пасля слухаў, як разыходзіліся ад Чорнага маладыя, галёкалі на ўсю вёску. Чуў, як бегла па двары дачка, як нехта з хлопцаў цяжка гупаў услед за ёю. Зося ўляцела ў сенцы, замкнулася, пасля ціхенька, як мыш, зайшла ў хату, падкралася да акна і доўга стаяла каля яго, пазіраючы на двор у цемень. Можа, і на таго пазірала, ад каго толькі што ўцякла. Можа, і той яшчэ стаяў каля плота, чакаў, бо яна раз-другі адхінала фіранку і, здаецца, махала рукою.

«З некім жа во дражніцца...— падумаў ён.— Нехта ж жаніхаецца ўжо... Хто? Ці талковы хоць? Можа, які ветрагон...»

Адчуў трывогу. За даччын лёс. Не дай бог, спакусіць, ашукае які паганец. Што тады? Праўду людзі кажуць: узяў кавалер дачку за руку, а бацькоў бярэ за сэрца...

Калі яна неўзабаве распранулася і легла на свой ложак, побач з малодшаю сястрою, дык доўга не магла заснуць — варочалася, нібы ёй было мулка ляжаць, падымалася і, седзячы, зноў угледжвалася ў акно, слухала ваколіцу. Ён не спаў, чуў і бачыў усё, але маўчаў. Што ён мог сказаць? Ні воклічам, ні пагрозаю ўжо нічога не зменіш. Вырасла дачка, стала паненкаю. Уступіла ў пару, калі трэба ўжо жыць іна-

чай, думаць пра сталае. Калі пазяхнуў — здаецца, і ціха,— Зося ўпала на падушку, сцішылася, затаілася.

Заснула. Услед за ёю заснула і маці — яна гэтаксама ўсё чула, ціхенька ўздыхала, адчуваючы, што хутка гэтая вячорніца паляціць з бацькоўскай хаты, шаптала малітвы — замольвала свае грахі ды, відаць, прасіла бога ўсцерагчы дачку. Усцешна бацьку, маці, калі дачка здаровая, пагляднная, калі вакол яе рояцца хлопцы, але і трывожна. Непакоіліся раней, пакуль не выйшла замуж, за старэйшую, за Галену, цяпер вось прыйшоў час непакоіцца за гэтую страказу.

Цяпер, калі ўжо ўсе ў хаце спалі, дык падступаў сон і да яго. Ён драмаў, нават засынаў. Падхопліваўся: можа, ужо і шмат спаў! Можа, ужо і задушылася Лялька! Лаючы сябе, такога нядбайнага гаспадара, спаўзаў з куфра і ішоў у хлеў. Дзякуй богу, Лялька была жывая. Ён жагнаўся, радуючыся: адна ж кароўка на сям'ю — на пяцярых. А без каровы — ды такой доўнай,— як і без каня, якое жыццё?! Праўда, смятаны ці масла ад Лялькі яны самі мала калі бачылі, як і мёд ад іхніх пчолак, бо прадавалі Шлёму. Збіралі ўжо Зосі пасаг. Але маслёнкі, кіслага малака, тварагу мелі ўдосталь.

Вось зноў падхапіўся. Сеў. Не мог даўмецца, колькі спаў. Няма ж гадзінніка. Ні на руцэ, ні на сцяне. Час мералі па пеўневых кукарэканнях. Першы раз певень то прапяваў ужо, другі раз, здаецца, яшчэ не абзываўся. Мішук абмацаў на току каля куфра ліхтар з прытушаным агнём, патупаў з хаты.

На двары было не вельмі цёмна, але холадна. Цяў сакавіцкі мароз. Рыпеў снег. Здаецца, на ўсю вёску.

У хляве пабольшыў у ліхтары агонь. Захваляваўся: каля бурай каровы ляжала гэтакае ж бурае цяля, а сама карова якраз пазбаўлялася ад паследу. Добра, што паспеў у час. З'ела б Лялька гэты паслед — сапсавала б, як кажуць, надоўга малако.

«Дай бог, каб цялушка! — падумаў, зачыняючы за сабою шчыльна ўцепленыя саломаю дзверы.— Была б Зосі ў пасаг... Не сёлета, дык налета пойдзе ўжо замуж...» Па яго і жончыных назірках Лялька павінна была ашчасліваць іх якраз цялушачкаю: была не жвавая — на бычка, а цяжкая, марудлівая — на цялушачку.

Мінуў загарадку, дзе ляжаў конь, увайшоў у кароўскую загарадзь. Пастаяў, любуючыся на рыжае — ад Нямкевічавага быка — цяля, пасля прыбраў наслед. Карове, здаецца, пайшлося ўсё добра, яна даволі моцна стаяла на нагах і цяпер адразу, павярнуўшыся, пачала аблізваць цёплае вільготнае цяля.

«Усё ж халаднавата ў хляве,— падумаў.— Змерзне гэтае немаўлятка. Трэба забраць яго ў хату».

Але адразу не браў, чакаў, калі цяля акрыяе, стане на ногі і смактане матчынага малака — адчуе голад і смак, будзе па-добраму ўжо сапраўдны жылец на гэтым свеце.

Агледзеў: цялушачка! Дзякуй богу! Пачуў заступнік іхнюю просьбу, уважыў!

Пасля, калі цяля падалося, пачало станавіцца на пярэднія ногі, шкрэбацца, але і тут жа падаць, тыцкацца мордачкаю ў дол, памог яму, кволаму, падняцца, падапхнуў да вымя. Цяля ўткнулася, смактанула і, як дзіця, папярхнулася.

— Эх ты! — усміхнуўся.— Недарэка!

Калі цяля здаволілася і мацней стала на тоненькія ногі, падхапіў і, укрываючы поламі кажуха, панёс яго, усё яшчэ цёплае, жаданае, мілае, у хату пад жалобны і трывожны каровін мык.

— Ну хто? — запытала ў хаце жонка, відаць, прачнуўшыся ад яго тупату ў сенцах, ад бразгання клямкаю.

— Цялушачка! — адказаў, несучы цяля на зага-

дзя прыгатаваную каля печы пасцель з саломы і лахманоў.

— Дзякуй богу! — перажагналася жонка.

— Толькі ж заўтра нічога нікому не пазычай,— перасцярог.— Уведаюць, што карова ацялілася, дык каторы наўмысле прыйдзе нешта пазычыць.

— Ну што я — дурная?

— Будзе наша паненка з пасагам...— парадаваўся, апускаючы цяля долу.

А іхняя паненка моцна, па-маладому спала, і, каб хто зблізку зірнуў на яе, дык убачыў бы: яна ўсміхалася ў сне.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### 1

— Алеська, сынок,— яшчэ ў парозе спаткала яго з бедаваннем Собаліха,— ды наш жа Юры гарыць, як жар... Бедненькі, і ночачку, і сёння, цэлы дзень, як полымя палае...

Алесь адразу, не скідаючы паліта, уздоўж шырокай, пацямнелай за зіму печы, пліты, на камінку якой дымела лучына, а пасля пасярод вялікай, на адну палавіну, хаты падаўся да супрацьлеглай ад парога, малаасветленай, са сполахамі ад скупога агню сцяны — да драўлянага ложка. На ім, накрыўшыся і коўдраю, і кажухом, ляжаў у паўзмроку Собалішын кватарант. Яго лоб быў захінуты ручніком,— відаць, змочаным у халоднай вадзе. З-пад краю ручніка тырчэлі востры прамы нос, вусы і вузенькая бародка-клінок.

Падышоўшы, Алесь запыніўся. Падумаў: можа, Казлоў спіць, дык няхай адпачывае. Кажуць, у сне

чалавек лягчэй пераносіць хваробу, хоць і сняцца тады яму трывожныя і пагрозныя сны.

Добры вечар, Аляксандр Іванавіч,— аднак ціха прамовіў той,— сядайце, калі ласка, і прабачце велікадушна, што я сёння такі...

— Добры вечар, Юры Васільевіч,— адказаў Алесь, пазіраючы, як хворы прыпадымае ручнік, паказвае запалыя, цёмныя (а яны ў яго звычайна блакітныя) вочы, высокі прыгожы лоб. Па слабым голасе адчуў: у Казлова сапраўды вялікая тэмпература.— Прабачце, вы пасылалі па Андрэя Мікітавіча?

— Не. Мяне цётка Франя лечыць,— адказаў той.— Зёлкі парыць, малако з мёдам дае. Андрэй Мікітавіч, кажуць, сам хварэе...

— Дарэмна, Юры Васільевіч, вы так не шануецеся,— паўшчуваў Алесь.— Калі Андрэй Мікітавіч не даў бы рады, дык завезлі б вас у бальніцу ў Налібакі. Зёлкі зёлкамі, а вам, можа, трэба і большая помач.

— Ці варта вам так клапаціцца, даражэнькі? Хто я вам? Родзіч? Аднадумец? Чужы, лішні чалавек...

— Пасля разбяромся, Юры Васільевіч, хто мы... Цяпер трэба вас ратаваць, не запускаць вашай хваробы.

— Яна запушчаная ўжо, даражэнькі,— уздыхнуў Казлоў, выцягнуў уздоўж цела доўгія, з тонкімі худымі пальцамі рукі, чамусьці саромеючыся трымаць іх на грудзіне.— Хранічнае запаленне лёгкіх — пакуль што мой самы трывалы набытак за апошнія гады... Таежны падарунак...

Алесь, як ні затрымліваў яго Казлоў і просьбамі ды выбачэннямі, зноў падаўся на двор. Па Чарнова. Ішоў хутка па рыпучым снезе, у марозную цёмную ноч. Адчуваў трывогу з-за хворага — як з-за блізкага ці роднага нямоглага чалавека, хоць ведаў таго ўсяго трэці месяц. Трывога тая была, можа, і з-за дабрыні, адзінокасці, бездапаможнасці і ў той жа час вялікай

духоўнай сілы Казлова. Ён спадабаўся Алесю. Сваёй чалавечай мужнасцю, вернасцю сваім ідэалам.

Казлоў — пра яго, «бунтара супраць заведзеных богам парадкаў», высыльнага, гаварыў Нямкевічам Гарбацэвіч на лузе — жыў тут, у Янкавінах, з каляд. Яму, масквічу, яшчэ два гады таму дазволілі выехаць з далёкага Табольска, але не далі згоды вярнуцца адразу ў Маскву, дзе Казлоў і жыў, і рэвалюцыянерыў, браў удзел у падзеях 1905 года, змусілі запыніцца спачатку на поўдні, а пасля тут, у Паўночна-Заходнім краі,— хацелі патрымаць у розных мясцінах з розным кліматам. Быў ён чалавек сярэдніх гадоў, недзе пад сорак, невысокага росту, русявы, падслепаваты (амаль нічога не бачыў без акуляраў), спакойны, адзінокі. Старэнькія яго бацькі, як расказваў, памерлі ўжо ў невялікім сяле пад Арлом, а жонка, як толькі саслалі яго ў Сібір — маці і мачаху ўсіх высыльных,— адраклася ад яго і выйшла замуж у Маскве за паліцэйскага ротмістра, за таго чалавека, які ў свой час вёў допыт Казлова.

«Мы з вамі абодва, даражэнькі, адрынуты і Мікалаем Другім, і кабетамі...— нядаўна з горкай усмешкаю гаварыў гэты Казлоў Алесю.— А гэта значыць, што мы цалкам выбіты з жыццёвай каляі...»

Алесь ні раней, ні цяпер не меў цягі ўступіць у якую-небудзь палітычную партыю, але з бальшавіком Казловым блізка сышоўся. Упадабаў за розум, бываласць, культурнасць, за сумленнасць. За апошні час яны нямала пагаварылі пра жыццё-быццё, пра гісторыю чалавецтва, Расійскай імперыі, яе народаў, пра падзеі пачатку гэтага стагоддзя, пра партыі і іхнія праграмы. На шмат што яны мелі адну думку, па сім-тым не згаджаліся адзін з адным, спрачаліся — надта па гісторыі ўсходніх славян. На тое-сёе, што дзеялася ў сівую даўніну, мелі розны погляд. Але спрэчкі, як часта бывае, не зрабілі іх ворагамі.

Наадварот. Здаецца, абодва захацелі яшчэ бліжэй сысціся, яшчэ болей пагаварыць, яшчэ болей уведаць. Казлоў падрадзіўся даваць яму чытаць крамольныя кнігі, а ён, Алесь,— кнігі па гісторыі краю, па яго культуры. У дадатак Казлоў з ахвотаю ўзяўся вывучаць беларускую мову. Ды да Казлова прыходзіў не толькі адзін Алесь. Заходзілі вечарамі і іншыя янкавінцы — паслухаць новага ў вёсцы, бывалага чалавека і пагаварыць.

Спяшаючыся, Алесь мінуў чамусьці сёння не асветлены, а цёмны ўжо дом Сяргеенкаў. Яго звычайна — ці то ўдзень, ці то ўночы — мінаў з вялікім хваляваннем. Шмат разоў хадзіў ён сюдою паблізу, а то нават і ў гэты дом, куды цяпер яму няма ходу. Цяпер там находжвае іншы. Яму, іншаму, дорыць Кацярына маладосць, сваё каханне. Сёння, аднак, усё яшчэ не зарубцаваны боль не засадніў. А можа, яго проста не адчуў, думаючы пра іншае. Завіхаючыся, ён мінуў Сяло, шумлівую хату Сцяпана Супраневіча, прыйшоў у Засценак, да флігельчыка, дзе ў адной палавіне жыў пісар Дзяжко, у другой — Чарноў.

У хаце Чарнова яшчэ гарэла святло. Яно звычайна свяцілася позна, пазней, чым у каго ў вёсцы, бо Чарноў, халасцяк, чалавек кампанейскі, любіў прымаць гасцей, і госці любілі ў яго атабарыцца. І Дзяжко, і паштавік Гарбуковіч, і ўраднік Петухоў — халасцякі — любілі спажыць гасціннасць, а то і цягу Чарнова да чаркі — пасвіліся тут, пакуль былі ў гаспадара грошы. Абабраўшы, яны цураліся Чарнова, а ён не кідаў піць — браў гарэлку за свае візіты да хворых ці ў доўг у карчмара Шлёмы. У апошні час, казалі, усё больш і больш прызвычайваўся піць адзін.

І цяпер, увечар, хтосьці быў у Чарнова з гасцей, бо з хаты чуўся гоман. Алесь не мог сабе дазволіць пастаяць, падслухаць ці выцягнуцца, стаць на дыбачкі і падцікаваць у завешанае толькі ніжнімі фі-

ранкамі і чамусьці падмерзлае толькі знізу акно — пайшоў у дом.

У хаце па яго сэрцы сцебанула пачуццё прыкрасці: тут, у пярэднім пакоі з невялічкай печчу, кухонным сталом і крэсламі, пад вісячай лямпай насупраць Чарнова сядзеў Лядзяш, той грозны Лядзяш, што напісаў «куды трэба», як гаварыў на Шубіне Гарбацэвіч, і Алеся звольнілі з работы.

Лядзяш — незвычайная асоба. Раней пра яго ў Янкавінах ніхто не чуў, не бачыў у вочы. Ён заявіўся тут гады тры назад з бяздзетнай, ціхай, далікатнай жонкаю, купіў дом у Засценку і асеў, здаецца, навек. Яго, афіцэра, казалі, прагналі са службы за крадзеж вайсковай маёмасці і за п'янства.

У Янкавінах Лядзяш павёўся дзіўна альбо нават і небывала — пачаў «выпраўляцца», са страсцю і з настойлівасцю наводзіць «казармавы», як гаварылі, лад у воласці, дабівацца ад усіх адданай веры і любові да «веры, цара і Айчыны» — да таго, каму сам шмат нашкодзіў. Кожны выпадак у воласці, а ў Янкавінах найперш,— побытавы, антымаральны ці антыідэйны — не абмінаў яго ўвагі, на кожным ён намагаўся «прыняць меры» —адчытваў, дакладваў начальству, пісаў у павет і губерню. Простыя людзі адразу ж неўзлюбілі раз'юшанага «абаронцу», аблаялі за вочы — набрыдзь. Тутэйшае начальства спачатку глядзела на такое «рвенне» Ледзяша як на «патрыятызм», падхвальвала. Але паволі пачало бачыць, што і як робіць гэты «верны сын», бо ў апошні час той усё больш і больш пускаў стрэлы і ў яго — у айца Феадора, валаснога старшыню Сяргеенку, пісара Дзяжко, паштавіка Гарбуковіча, урадніка Петухова і пастаўнікаў, папікаючы іх усіх у «недастаткова прыкладным служэнні». Скардзіўся на іх у павет, а калі, як лічыў, павет марудзіў, не караў, дык скардзіўся

ўжо на павет у губерню. І няўрымслівасці гэтай, здаецца, не было відаць канца.

Старыя звычкі ў Ледзяша не зніклі. Бадай, яшчэ болей укараніліся. Надта набольшала прага да гарэлкі. Баючыся, амаль усе янкавінцы запрашалі яго на вяселлі, хрэсьбіны, бяседы і мелі ад гэтага шмат клопатаў і непрыемнасцей; Лядзяш не толькі любіў выпіць і з'есці дармавога, але і адхіляў гаспадара, свата ці кума і ўвесь рэй браў у свае рукі, камандаваў, даводзячы кожную гулянку ці да шаленства, ці да абсурду.

З Алесем яны не сышліся адразу ж. Ён, уведаўшы, што Алесь піша ў газету, друкуецца, прычапіўся, каб Алесь прачытаў і паправіў яго мемуары. Іх у яго было шмат, але іх нідзе не хацелі браць. Калі ж Алесь цярпліва прачытаў некалькі тоўстых папак і па шчырасці сказаў, што правіць няможна, бо ўся гэтая пісаніна непісьменная лухта, Лядзяш не толькі незалюбіў ды пакрыўдзіўся, але палічыў яго за свайго ворага і за «ворага Айчыны».

— А, Алесь Іванавіч,— Чарноў падняў цяжкую, сіваватую ўжо галаву, зірнуў асалавелымі ад зацяжнога піцця, пачырванелымі вачыма. Пад імі была цёмная правіслая пульхніна.— Заходзьце, дружок. Вы самы дарагі для мяне госць. Вы і ходзіце рэдка, вы і самы высакародны тут чалавек. У мяне ж, бачыце, сіндром. Сіндром Чарнова.

Галава яго не трымалася, боўталася ўніз. Алесь пашкадаваў яго і сёння: і сімпатычны чалавек, сярэдняга росту, сівbooаваты, і шчыры, сумленны, і добры лекар, а вось так бясслаўна гіне ад гарэлкі. Лядзяш — пажылаваты, лысы, тоўсты, з магутным зубрыным каркам ды падбародкам, амбітны і ўладалюбівы да жахлівасці, здаецца, дзень і ноч у заношаным мундзіры з падпалкоўніцкімі пагонамі ды з некалькімі медалямі, схмурыўся, апусціў вочы.

— Вось гэты унцер Прышыбееў, Алесь Іванавіч, сядзіць над маёй душою, як ястраб над перапёлкаю...— паскардзіўся Чарноў, бязвольна махнуўшы колькі разоў на свайго суседа.— Ён дабіваецца, каб я данёс яму, што вы думаеце і пішаце начамі дома, пра што мы гаворым у Казлова, пра што гавораць тыя высыльныя, што прыязджаюць з Івянца.

— Папрашу не зневажаць! — уладна, строгім голасам запатрабаваў Лядзяш.— Я не нейкі унцер, я падпалкоўнік! Па-другое, [redacted] не гуляю з вамі ў кошкі ды мышкі, я выконваю свой абавязак у інтарэсах бяспекі імперыі... У мяне вялікая місія...

— Якая к чорту місія! Дурасць! — перапыніў яго Чарноў.— Мне таксама, калі пасылалі сюды, гаварылі: ты едзеш з вышэйшай місіяй! А якая мая ці ўсіх нас тут місія? Мы павінны дарабіць тое, што генерал Мураўёў не дарабіў тут у 1863—1864 шыбеніцамі... Алесь Іванавіч,— павярнуўся да Алеся.— Я — п'яніца. Горкі, як тут у вас кажуць, п'янюга! — захліпаў і застукаў у грудзіну кулаком.— Я страціў гонар, але я маю яшчэ сумленне. Я не даносчык, не здраднік, не падлюга. Я п'яніца. Я сумленны, шчыры рускі інтэлігент, рускі чалавек. Мяне можна прынізіць, зняважыць, але мяне няможна купіць. Усё магу аддаць. Усё. Але душы сваёй не аддам. Ён, гэты «выратавальнік» Айчыны, мяне і страшыць, і сваім дакументам у вочы тыцкае, і спакушае вышэйшай місіяй, але я не... Ніколі! Я шчыры, сумленны чалавек... Ды я за вас, мілы мой Алеська, за такога высакароднага чалавека, жыцця свайго не пашкадую...— падхапіўся, хістаючыся, падышоў, абняў Алеся.— І вы шчыры, сумленны інтэлігент. І высакародны, мужны, любімы людзьмі, патрэбны бо не губіце, як я, свой дар у гарэлцы, а працуеце... Я...— і зноў ведама, п'яны чалавек, пачаў паўтараць ужо сказанае, а пасля з настойлівасцю запрашаць прысесці і выпіць.

Ад яго чуўся непрыемны пах тытуню і некалькі дзён таму спажытай гарэлкі.

— Андрэй Мікітавіч,— падтрымліваючы яго, сказаў Алесь.— Юры Васільевіч вельмі хворы. Ці маглі б вы падысці і паглядзець яго?

— Бедны Юры! — застагнаў, павісшы на Алесевым плечуку, Чарноў.— Дурні — здаровыя, як быкі, а сумленныя — хворыя і слабыя...

— Сумленны! — з пагардаю і злосцю азваўся Лядзяш.— Здраднік Айчыны!

— Вон! — азірнуўся, закрычаў Чарноў.— Я папрашу вас, унцер, прэч з маёй кватэры! Я адзін магу выслухоўваць вашую старэчую бязглуздзіцу, лухту, дурноту, каб як урач паназіраць, як нізка можа плясн уцца чалавек як гома сапіенс, але не дазволю абражаць маіх сяброў... Вон! — затыкаў у таго пальцам.— Вон, каб і духу вашага тут не было!

— Бач, спеліся! — Лядзяш схапіў са сцяны фуражку, шынель і, не апранаючыся, шыбнуў з кватэры.— Ну, пачакай, п'янчужка! Я табе ўстаўлю розум, павучу пазнаваць сяброў і непрыяцеляў!

— Божа! — зноў застагнаў Чарноў.— І такія дурні «служаць» справе! Яны ж ганьбяць яе. Бедныя мы... Столькі ў нас дурноты, пошасці! Але вы, Аляксандр Іванавіч, не засмучайцеся. Я ваш шчыры сябра...

— Андрэй Мікітавіч,— напомніў Алесь,— пайшлі!

— Сходзім, сходзім, дружок! — падрадзіўся Чарноў, хістаючыся, пáдаючы, падаўся ў лепшы пакой і пачаў збіраць сваё доктарскае начынне ў знаёмы ўсім чорны саквояжык.

Пасля, калі ўжо ішлі па начной ціхай, амаль без святла вуліцы, ён зноў пачаў расказваць, як Лядзяш змушаў яго даносіць на іх, але ён адмовіўся, бо ён сумленны чалавек і не хоча служыць Айчыне гэткім

чынам, як ён любіць іх, Алеся і свайго земляка Казлова, як Лядзяш ганьбіць Айчыну, кляўся, што яны ідуць да Казлова і Лядзяш туды прыйдзе — пад вокны, каб усё выслухаць. Гаварыў, што добра кажа Казлоў: калі рэжым пачынае больш траціць на паліцыю, чым на настаўнікаў ды культуру, дык будучыні ў такога рэжыму няма...

Перад Собалішынай хатай Чарноў акрыяў. Сам зайшоў, распрануўся і яшчэ ў парозе закамандаваў Собалісе:

— Вады, цётка Франя. У доктара заўсёды павінны быць чыстыя рукі!

Амаль не хістаючыся, пайшоў з саквояжыкам да Казлова, сеў, зняў ручнік, прыклаў руку хвораму да лоба.

— О, Юры Васільевіч! Ды вы як у пекле! — пашкадаваў.— Чаму ж вы, дружок, такі сціплы? Чаму вы раней не паклікалі мяне? — паклаў на калені саквояжык, адчыніўшы яго, дастаў трубку. Выслухаў ёю грудзі, плечы Казлова.— Двухбаковае запаленне лёгкіх, дружок. Не ставілі банечкі? Тады давайце, цётка Франя, лучыну, пакулле, першачок.

Собаліха хутка ўсё падрыхтавала. Чарноў змусіў Казлова перавярнуцца ніцма, задраў кашулю і пачаў спрытна на худыя плечы ставіць банькі — тыцне агнём у баньку і хлоп яе, памутнелую, на лапаткі ці пад лапаткі. Каторыя банькі адразу ж уцягвалі ў сябе цела, абчырвоньвалі яго, іншыя адпадалі: плечы Казлова былі вельмі худыя, здаецца, нават без тлушчу, дык за іх цяжка было ўхапіцца.

— Праз хвілінак пятнаццаць здымем, і вам, дружок, павінна палягчэць,— сказаў Чарноў, аддаў Франі яе начынне, сам падняўся, схадзіў, памыў рукі і зноў сеў паблізу Казлова. Прыхінуўся да біла ложка. Пасядзеў ціха з хвіліну-другую, а пасля нечакана засоп.

Алесь асцярожна перавёў яго на тапчан, уклаў, накрыўшы Франіным кажухом. Сам пасядзеў ля Казлова, каб неўзабаве зняць банькі. Ледзь толькі зняў, пакінуўшы на целе аж сінія кружочкі, і сабраўся ісці дадому, як у хату пастукалі і зайшлі госці — сябры Казлова па высылцы, Якаў Агуркоў і Аркадзь Кіеўскі, што гэтаксама ад каляд жылі ў Івянцы. Алесь, каб не замінаць сябрам,— а ім, відаць, трэба было пагаварыць пра свае партыйныя клопаты — пайшоў дадому. Выходзячы на двор, заўважыў, што ад плота мільганула постаць, пабегла ў цемень. Няйначай, нехта —Лядзяш ці шпік ураднiка Петухова, як і перасцерагаў Чарноў,— падкрадваўся тут пад вокны.

## 2

Алесь які ўжо год прызвычаіўся класціся спаць позна. Дык і сёння, вярнуўшыся ад Казлова, рашыў яшчэ пасядзець.

Маці з бацькам ці ўжо спалі, ці ціха ляжалі ў першай, як казалі ў Янкавінах, цёмнай хаце; Янка з Кастусяю былі яшчэ ў вёсцы, на вячорках; Ядзя з дзецьмі спала ўжо ў лепшай, чыстай, альбо, як яшчэ называюць, белай хаце. Дарэчы, тут быў і яго пакойчык, адгароджаны ад Ядзінага шафаю (Ядзя, як і ўсе дзяўчаты з Засценка, мела ў пасаг не куфар, а шафу). Янка атабарваўся там, з бацькамі; тут з Ядзіным сынам спала на вольным Гiполевым ложку Кастуся. Алесь у сваім пакоі меў канапку.

Распрануўшыся, ён ціхенька, стараючыся не пабудзіць ні братавай, ні яе дзяцей, зайшоў у свой пакойчык, запаліў лямпу з абажурам. Зняў яе з дроту і паставіў на стале — каб сабе было больш святла, а каб Ядзі яно не надакучала.

Як і заўсёды, калі заходзіў сюды, не мог, каб спачатку не зірнуць з замілаваннем на дзве паліцы з кні-

гамі — самы вялікі яго скарб, які ён сабраў за сваю вучобу ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, за гады настаўніцкай работы на Віцебшчыне і тут, на радзіме — тое-сёе са старых выданняў перадаў яму матчын брат, які цяпер жыве ў Маскве. На паліцах стаялі і старажытныя кнігі — Скарыны, Буднага, Полацкага, і прыжыццёвыя выданні — Пушкіна, Лермантава, Талстога, Дастаеўскага, Чэхава, Міцкевіча, Сянкевіча, Шаўчэнкі, і перакладныя — Гётэ, Бёрнса, Бальзака, Мапасана, а таксама фальклорна-этнаграфічныя зборнікі — Насовіча, Раманава, Шэйна, Нікіфароўскага, Дабравольскага, Федароўскага, і радок тоненькіх беларускіх кніжачак Багушэвіча, Купалы, Коласа, Багдановіча. На ніжніх паліцах — календары, камплекты «Нашай нівы», што ён выпісваў не на сябе, а на бацьку [1].

Яго сябры, Лямбовіч і Кірыковіч, бывае, і цяпер здзіўляюцца, дапытваюцца: ну, прызнайся, як ты, сялянскі сын, сабраў такую бібліятэку? У гэтых пытаннях, мусіць, не толькі ўражанне, але і іншае: хіба трэба селяніну кнігі? Хіба ён здатны для іх? Няўжо не аддасць іх за гарэлку?

На ніжэйшых паліцах — звязаныя аборамі старыя, пацёртыя папкі. Там былі сабраныя ім народныя словы да будучых слоўнікаў беларускай мовы — тлумачальнага, фразеалагічнага, сінонімаў і блізказначных слоў, да слоўнікаў руска-беларускай, беларуска-рускай, польска-беларускай і беларуска-польскай моў. Словам, тут было звыш дзесяці гадоў яго, лічы, штодзённай працы. Работы дарагой і любімай. Без яе ён ужо не мог. Праўда, сёе-тое з гэтых папак — прадмовы да слоўнікаў, гістарычны на-

---

[1] Маецца на ўвазе тое, што царскія ўлады не дазвалялі выпісваць «Нашу ніву» чыноўнікам, настаўнікам, вайскоўцам, студэнтам, вучням.

рыс роднай мовы — забрала з сабою паліцыя, калі рабіла вобыск.

Разгарнуў папку са словамі да слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў. Ён амаль усю гэтую зіму рыхтаваў яго, дайшоў вось складаць да слоў на літару «П».

— Папракаць,— прачытаў уголас і ўсміхнуўся. І трэба ж так, каб якраз з гэтага слова трэба было пачынаць цяпер працу. Чаго-чаго, а папрокаў ён наслухаўся за сваё жыццё. Пачаў чытаць далей.— Дакараць, наракаць, папікаць, прыставаць, пароць у вочы, тыцкаць у нос, упікаць, чапляцца...

Перачытаў. Адчуў: нешта тут не так, чагосьці не хапае. Народная мова багатая, гнуткая, трэба толькі ведаць, вывучаць яе — усё на ёй можаш сказаць. Самыя далікатныя і тонкія пачуцці. Думаў-думаў, але нешта сёння не было ўвагі, кемнасці, знаходкі.

«Ехаць ці не ехаць у тую Вільню?» — нечакана падумалася.

Каб не суд, дык шмат не варажыў бы, бегма пабег бы. Усё ж там культурны цэнтр краю. Адзіная свая газета, пісьменнікі, артысты, вучоныя, сябры і знаёмыя. Там хутчэй давёў бы да ладу і, можа, каб хто памог, дык і выдаў бы свае слоўнікі. Але ўся затрымка з-за гэтага суда. Ён, можа, і апраўдае, ён, можа, рэзка і зменіць яго лёс — гвалтоўна спаралізуе яго, пазбавіць волі... Лягчэй бы было, каб нават ведаў, калі будзе той суд. Год хутка міне — а пра яго ні слова...

Ён раней вельмі пакутаваў. І ад таго, што трапіў у лапы паліцыі, што на яго завялі дасье як на злачынцу, звольнілі з працы, абняславілі. На першым часе нават збянтэжыўся, збаяўся: а можа, ён сапраўды зламыснік, робіць нешта паганае? Можа, як кажуць, на самай справе займаецца недазволеным, падточвае, як той каварны шашаль, моц? Але пасля

разважыў: а чаму недазволенае, злачыннае тое, што дарагое сэрцу? Хто каму даў права такое забараняць? Ці ўсё ж, як кажуць, няможна ўсім ці не ў час гаварыць праўду? Бо, гавораць, праўда можа забіць чалавека, калі яна не ў час выяўляецца. Паволі пазбавіўся сумненняў, апраўдаў сябе і цярпліва, мужна прывык да новай ролі гнанага чалавека, пачаў не баяцца ні суда, ні турмы. Можа, толькі стаў больш задумлівы, нават патайны, чым быў раней. Пачаў шмат думаць. Раней ён мог гаварыць усё, што прасілася на язык, запальваўся як порах, цяпер жа пачаў вучыцца стрымліваць сябе, больш разважаць і менш гаварыць.

«А можа, марсянуць услед за старэйшым братам у Амерыку?» Як кажуць, у краіну мільянераў, раскошы, дэмакратыі, новага мастацтва, рамантыкаў, гангстэраў, у краіну, што нечакана і хутка стала з канца мінулага стагоддзя першай у свеце? Знайсці сто пяцьдзесят рублёў, купіць шыфкартку і падацца з Рыгі ў той новы, багаты свет, дзе, як кажуць, грабуць грошы лапатаю, наняцца ў рабочыя, парабкі, зарабіць тысячы і выдаць там слоўнікі — зрабіць для свайго народа тое, што яму вельмі трэба. Але дзе ўзяць тыя сто пяцьдзесят рублёў? Ні ў яго, ні ў бацькі такіх грошай няма. У іхняй Ядзі крыху ёсць, тое, што прысылае ёй кожны месяц Гіполь. Але ён дазваляе браць ёй на дробную трату мала, астатняе загадвае лажыць на ашчадную кніжку. Збірае на зямлю, на лес — хоча ўзбіцца на сваю гаспадарку. Ні Ядзя, бадай, не асмеліцца даць яму заробленыя мужам на чужыне грошы, ні сам ён не можа іх папрасіць. Хіба толькі пазычыць у сабакі вочы?!

Ды ёсць яшчэ пра Амерыку адна закавыка. Ці заробіш там тыя тысячы, ці знойдзеш выдаўца, пакупнікоў? І, па-трэцяе альбо нават і па-чацвёртае, ці зразумее яго ўцёкі вёска? Ці не скажуць свае ж людзі з

пагардаю: падбіваў-падбіваў нас да свядомасці, а сам, як прышчамілі крыху хвост, кінуў-рынуў нас, адмовіўся ад сваёй веры і пагнаўся па вялікія грошы?! А казаў жа ўвесь час, што ёсць нешта і больш важнае, чым грошы!

Не, адчуў, уцякаць яму няможна. Як бы ні склаўся яго лёс, а ён мусіць быць тут, побач са сваімі людзьмі. Трэба не нікнуць, не маркоціцца, а далей рабіць сваё, каб некалі, калі памрэ, успаміналі яго з павагаю, гаварылі: можа, і не ўсё ён зрабіў і не так, як трэба, але рабіў усё шчыра, сумленна, колькі меў розуму і сілы, нідзе і ніколі не хітраваў, не здраджваў ні сабе, ні людзям, ні жыццю, не прыстасоўваўся і не подлічаў.

Але што ўсё ж рабіць? За што жыць самому, як памагчы бацькам? Прадаць кнігі? Шкода. Столькі збіраў іх. Нават бацька, ведаючы, што за іх можна купіць і каня, і карову, не змушае прадаваць. Кажа: растуць дзеці, дык і ім кнігі трэба будуць. Бо штораз і простаму чалавеку ўсё цяжэй і цяжэй без навукі.

Узяў ліст, што ляжаў тут жа, на стале. Яго прыслаў учора даўні сябрук, Сямён Васілевіч. Перачытаў.

«Паважаны дзядзька Алесь!

Як ты там, у сваім лясным Эдэме? Не зажурыўся, не паў духам зусім? Ці, можа, ажаніўся, аддаў усе сілы жонцы, гаспадарцы і забыўся пра душу і сэрца? Калі жывы, не адмяніўся і не адцураўся таго, ад чаго мы не павінны цурацца ніколі, прыязджай у Вільню. Я гаварыў пра цябе з дзядзькам Янкам Купалам, ён зацікавіўся тваім лёсам і абяцае памагчы. А памагчы цяпер ён можа, бо з 7 сакавіка становіцца афіцыйным рэдактарам «Нашай нівы», а неўзабаве, можа, стане і ўвогуле яе рэдактарам-выдаўцом. Дык яму трэба і добрыя аўтары, і добрыя супрацоўнікі, каб падняць узровень газеты, нашай працы. Чакаю, дзядзька, у

Вільні. Тады і пагаворым пра ўсё, што хвалюе, пра нашых прыяцеляў і нашых ворагаў.

З пашанаю твой баламутны сябра С. В.»

Алесь згарнуў лісток, паклаў яго ў канверт і зноў задумаўся.

Дзіва: хто і калі ўсклаў на яго такую ношку — жыць не толькі сваімі страўнікавымі, але яшчэ і высакароднымі думамі і пачуццямі, быць свядомым, рабіць тое, што не прыносіць дабрабыту, а толькі непрыемнасці, пакуты? Чаму яна, тая ношка, дзе думы, пачуцці, свядомасць, чужая, лішняя, абыякавая, а то нават проста невядомая іншым? З аднаго боку прыемна, радасна, што ты надзелены вялікім болем і вялікай радасцю, можаш сам сабе падумаць: «Калі не я, дык хто іншы?» Ці сказаць: «А я ад вашага імені...», а з іншага боку цяжка. Цяжка і несці гэтую ношу, і адрачыся ад яе (ці не таму часамі бываюць вельмі злыя, нядобрыя і небяспечныя людзі, што шукалі праўды ці адказаў на свае пытанні — не знайшлі, а раз не знайшлі — пачалі помсціць, ненавідзець, жыццё, людзей?!). Чаму так бог дае: адзін пакутуе, а іншы, абыякавы, вясёлы, эгаістычны, жыве, нібы сырам плаваючы ў масле, і ніколі не папікне сябе? Шчаслівейшыя ці, наадварот, вартыя жалю тыя ж Дзяжко, Гарбуковіч —удачлівыя землякі, што выбіліся, як і ён, з сялян, не хвалююцца за тое, што яму не дае спакою, цураюцца таго, за што баліць яму душа, п'юць, смачна ядуць, папасваюцца каля кабет, адным словам, думаюць пра свой страўнік, а не пра сваю душу? Ці прыйдзецца ім калі задумацца, адпакутаваць за сваю хітрасць, абыякавасць, чужасць да сваіх бацькоў, людзей? Ці будзе і для іх судны дзень?

Ды хто ж ведае: дзе ісціна??? І ці ёсць яна ўвогуле??? Можа, і ёсць, можа, яе і няма! Можа, жыццё і складаецца з адных пытанняў, сумненняў, пошукаў, памылак, расчараванняў??? Відаць, трэба ўсё ж ехаць

у Вільню. Што ён тут выседзіць цяпер? Дый пратрэсціся, адарвацца ад суму, нудоты не зашкодзіць. Як і з'ехаць хоць на трохі з вачэй бацькоў. Бо яны ж яшчэ больш за яго перажываюць, што цяпер без працы, трапіў у няміласць. Няхай і яны адпачнуць ад яго.

Паразважаў сам з сабою, пасля змусіў сябе папрацаваць. Здзівіўся: колькі ж шмат слоў на літару «П». Уюшыўся, адарваўся ад зямлі, часу, паляцеўшы ў свет слоў, дык вярнулі яго з самазабыцця толькі позпія гулякі Янка ды Кастуся, што вярнуліся з вячоркаў. Янка застаўся там, у цёмнай хаце, а Кастуся прыйшла сюды.

— Можна?

— Заходзь,— сказаў, намагаючыся зноў вярнуцца на гэтую святую і грэшную зямлю.— Нацешыліся? Награшыліся?

— Мы то людзі як людзі, а ты вот слепіш і слепіш вочы над гэтымі паперамі,— папікнула як зусім сталая, села насупраць на крэсла, падпёрла далонькай падбародак, стрэльнула па ім цыганскімі вачыма.— Хутка лысы будзеш. Цемя ўжо праз валасэ свеціцца.

— Я ж не дзяўчына, мне няма чаго баяцца за сваю красу...

— Сказаць табе нештачка? — прашаптала, перамяніўшы размову.

— Ну, скажы.

Кастуся павагалася, а пасля прамовіла:

— Сёння Кацярына са сваім Арнольдам пабілася. Ён, кажуць, абазваў яе брыдка, і яна выгнала яго з хаты... Ён сышоў да Дзежкі...

Прамаўчаў.

— А я з Кацярынаю гаварыла... Як ішла да Чорных. Яна спаткала мяне, белая ўся, як снег, толькі плямы чырвоныя на шчоках... Запыніла... Пагаварылі

абы пра што, а потым яна і пытаецца: «А ці праўда, што ваш Алесь у Вільню паедзе?»

— Не выцерпела-такі! — папікнуў.— А я ж вас усіх прасіў маўчаць! Бо Петухоў ці Лядзяш уведаюць — усё прапала тады...

— Далібог, я ёй не гаварыла,— паклялася Кастуся.— Яна сама запытала. Я аж здзівілася, адкуль яна ведае. Яна прызналася: ёй якраз Петухоў і сказаў усё. А таму — Гарбуковіч. Адкрыў адрасаванае табе пісьмо на пошце, прачытаў...

Яму стала прыкра. Колькі ўжо гадоў нехта як стаіць над яго душою, не спускае з яго вока, пазірае нібы праз прыцэл. Кожны яго крок, кожны яго ўдых і выдых пад назіркам. І пад вядомым, яўным, і тайным. Думаў паехаць у Вільню ўпотай ад Петухова, наліцы — цяпер не ўдасца. Не ўцячэш, нідзе не схаваешся ад «всевидящего глаза» і «всеслышащих ушей».

«Еду! На гэтым жа тыдні! — рашыў.— Кацярына — Кацярынаю... Няма пра што цяпер нам з ёю гаварыць! Яна сама ўсё абарвала. Асароміла, паздзекавалася з маіх пачуццяў. У яе цяпер сваё, а ў мяне нічога...»

Пазней, калі ўжо Алесь спрабаваў заснуць на сваёй канапцы і не мог, яму ўспомнілася адно, ужо няблізкае лета, адзін цёплы дзень. Ён, хлапчук, тады пасвіў пры налібацкай дарозе на сваім папары каровы, сядзеў на ўзбочыне і выразаў сцізорыкам узор на кійку. Пачуў рып калёс. Падняў галаву: з Налібак, з лесу, у мігатлівае мроіва поля выехалі дзве фурманкі. Збоку пярэдняй ішоў іхні невысокі сусед, Гарбацэвіч.

Алесь са сполахам зірнуў на каровы: ці не ўбілася каторая на Пётрыкава поле — сусед быў строгі і сярдзіты. Не, дзякуй богу, каровы не забрылі на чужое.

*«Вярнуліся ў Янкавіны пад вечар, у колкі мароз».*

Калі фурманкі над'ехалі бліжэй, Алесь яшчэ больш угледзеўся: на пярэдніх калёсах сядзелі чужыя мужчына і кабета. Маладога веку і, што самае нечаканае,— не тутэйшыя, не вясковыя людзі. Мужчына быў у белым капелюшы, у светлым касцюме і жоўтых туфлях, кабета — у белай доўгай сукенцы, гэтаксама ў капялюшыку. А ззаду калёс сядзела маленькая дзяўчынка. Як і кабета, у белай сукенцы, у капялюшыку і ў беленькіх туфліках.

Мужчына і кабета са здзіўленнем зірнулі на яго і, перазірнуўшыся, усміхнуліся.

— Дитя лесов, пущи! — прамовіў мужчына.— Босой, наголо стриженный, пугливый, грязный, рабски покорный! Вот тебе, Аннушка, и здешний тип!

— А мы ведь здесь будем жить...— уздыхнула кабета.

Алесь заліўся сорамам і, канечне ж, чырванню. Бо са здзіўленнем зірнула на яго і дзяўчынка, а пасля пагардліва паказала яму язык.

Тая дзяўчынка і была Кацярына Сяргеенка — яе бацьку прыслалі здалёку сюды на службу.

Прыезд новага валаснога старшыні змяніў усё Алесева жыццё: пазней і яго маленства, і юнацтва ішлі пад знакам Кацярынінага пасталення і хараства: Сяргеенку перавыбіралі на старшынёўскую пасаду рата за ратай. Гэтак жа, як і ён, закахаліся ў Кацярыну і іншыя янкавінскія хлапчукі дый хлопцы, але яны неяк у час зразумелі, што лапаць боту не пара, адышлі, пабралі іншых — сваіх і з іншых вёсак дзяўчат,— а ён не адмовіўся, усё чапляўся, кахаў толькі яе — і вось на, калі ласка, адны пакуты ад гэтага...

## 3

На здзіўленне, ніхто не супярэчыў, каб Алесь ехаў ці не ехаў шукаць збавенне ці шчасце ў Вільні. Бацька ні абяліў, ні ачарніў, запытаў толькі, калі ён едзе, і пачаў моўчкі, нешта думаючы сваё, рыхтаваць сані ды каня ў дарогу — падвезці яго ў Стоўбцы да цягніка, а ўсхваляваная маці, спачатку збаяўшыся за яго жыццё ў тым вялікім горадзе (яна ніколі не была ні ў якім горадзе, але змалку думала пра гарады як пра штосьці жахлівае, небяспечнае), паплакала, пасля супакоілася (усё ж ён быў не дзіця, бачыў гарады і жыў у іх), гэтаксама пачала моўчкі, але толькі глытаючы слёзы, збіраць яму дарожны пляцак — адзенне, харч.

Выехалі ранейька, задоўга да світання. Павёз яго Янка. Усю дарогу — а да Стоўбцаў было пад сорак кіламетраў — ехалі, лічы, моўчкі. Толькі некалькі разоў перакінуліся пра халодную і цёплую цяпер зіму, цемень, пра добра выезджаную дарогу, пра вёскі — цёмныя, ахутаныя чарнатой Дзераўную, Заброддзе, шэрыя ад суцемак Брухачы, светлыя ад маладога сонца Шашкі, Апечкі.

Гэтая негаварлівасць была невыпадковая і не ўпершыню. Яна ўжо заявілася даўно, як толькі Алесь у свой час пакінуў родную хату, гаспадарскую работу, вёску і паехаў вучыцца ў Нясвіж, калі скінуў лапці, кажух, світкі і пачаў насіць чаравікі, паліто, капелюшы — гэта значыць вырваўся з таго свету, у якім яшчэ і, відаць, навек застаўся Янка, і трапіў у іншы — інтэлігенцкі — свет. Дык штосьці само нібы правяло мяжу між ім і Янкам ды старэйшым братам, Гіполем. Яму было ўжо лягчэй знаходзіць, сыходзіцца, каб заяўлялася шчырая, зразумелая ды блізкая яму і іншым размова, з чужымі людзьмі, гэткімі, як і ён, напрыклад, з Васілевічам, Мухам, Лідскім, а то на-

ват і з Кацярынаю, Казловым ці з Чарновым, чым з братамі (праўда, з такімі інтэлігентамі, як Дзяжко ці Гарбуковіч, не мог знайсці паразумення). Браты, нават і бацькі пачалі нібы саромецца яго, лічыць калі не за пана, дык ужо за нейкага вышэйшага чалавека, усяк адвадзжвалі яго ад сялянскай чорнай працы. Рабілі ўсё самі, а яго нібы бераглі — для кніжак, для гонару, дзеля людзей. Вось таму Алесь ад Кастусі ведаў, што іхні Янка мае вока на Мішукову Зосю, не ўмее, не можа знайсці да яе падыходу, але ні Янка не раіцца з ім, ні ён сам як-небудзь яму не памагае. І па гэтай далікатнасці Алесь адчуваў: нялёгкі лёс у вясковай інтэлігенцыі.

У Стоўбцах Алесь памог Янку купіць селядцоў, глячок лёку за тры капейкі, пяціфунтовую булку за пятнаццаць, шкло да лямпы за пяць ды некалькі пачак папярос — па дзесяць штук у кожным пачку — за тры капейкі, схадзілі ў карчму, папалуднавалі і развіталіся.

Янка падаўся дадому, Алесь — на вакзал. Застаўшыся адзін, ён адчуў нібы палёгку. Цяпер ён на адзіноце, вольны, сам-насам са сваімі думамі ды пачуццямі.

На мястэчковым вакзальчыку было мала людзей. Чалавек пяць стаяла каля акенца касы, малады цыбаты хлопец дыбаўся збоку, задраўшы галаву, пазіраў на чамусьці высока прыбіты расклад руху цягнікоў, і, як заўважыў Алесь, справа, у пачакальні, сядзела на лаўках чалавек шэсць-сем ужо, відаць, абілечаных мужчын і кабет. Злева, ля буфета, стаялі і весела гаманілі рослы здаравяка-жандар і чыгуначны дзяжурны. Падлога ў вакзальчыку, выкладзеная з руда-жоўтай пліткі, была свежавымытая, блішчэла, і Алесь ішоў па ёй, як кот па лёдзе.

Прыладкаваўся за апошнім у чарзе — інтэлігенцкага выгляду хлапчынам гадоў дваццаці пяці, над-

рыхтаваў грошы на білет. Падыходзячы да акенца, спачатку прачытаў на ліштве таблічку з прозвішчам касіркі — «А. М. Анушка», а пасля ўбачыў і саму яе, мажную, прыгожую маладзіцу прыкладна свайго ўзросту.

Даўшы білет і здачу хлапчыне, яна падняла галаву.

— Мне, калі ласка, білет да Вільні,— прамовіў ён, падаючы грошы.

Яна сцягнула пухленькай ручкаю грошы з прылаўка сабе на стол, апусціла галаву, пакорпалася ў скрыначцы, звонячы капейкамі, і неўзабаве падала білет ды здачу.

— Не магу! — цяжка, нібы ад болю ў жываце, уздыхнула, скрывілася.— Шляпа на галаве, а эсцецікі нет!

— Прабачце,— збянтэжыўся Алесь, гадаючы, дзе не так, як трэба, ён ступіў, загаварыў. Нават абгледзеў сябе, можа, пасля язды на сене ды санях як след не аправіўся ці дрэнна ішоў па падлозе.— А што вам, уласна, не спадабалася?

— Як вы гаворыце па-мужыцку! — прамовіла без ніякага сумнення ды збянтэжання, адвярнулася.

Яму аж забіла дых. Ніяк не чакаў такой непрыемнай пстрычкі ад гэтай красуні. Нечаканае замілаванне да яе, прыгожай кабеты, збянтэжанасць змяніліся на раптоўную крыўду ды злосць.

— Скажыце, калі ласка,— прамовіў ціха, але годна.— Вам вельмі прыемна мяне зневажаць?

Тая аж разгубілася, залыпала вейкамі.

— Вы ж не мужык? — запытала.— Інтэлігент?

— А вы? — запытаў ён.— З дваран? З-за мяжы?

Сумелася.

«Анучка ты, а не Анушка! — хацелася абразіць яе, але стрымаўся, змаўчаў.— Вось табе і мае Стоўб-

цы! Задрыпанае мястэчка, а пыхі, фанабэрыі ў некаторых яго насельнікаў на вялізны горад!»

Забраў білет і рэшту. Гнеў не праходзіў, але ён рашыў адысці ад гэтай «інтэлігентнай» цыпы. Што з ёю выспрачаеш? У кожнага шаўца, як пісаў Казьма Пруткоў, свой позірк на мастацтва! Звернеш толькі ўвагу жандара, і той, канечне ж, заступіцца за гэтую Анушку, а не за яго, выпадковага пасажыра.

— Ну што, мілая, атрымалі?! — падышоў, зазірнуў у акенца інтэлігентнага выгляду хлапчына, што быў паблізу і чуў гэтую перапалку. Ён, можа, быў і знаёмы гэтай Анушкі.— Цяпер гучыць горда: чалавек! народ! дэмакрацыя! Бачыце, не саромеецца, прэцца наперад са сваім мужыкоўствам і патрабуе, каб яму саступілі месца, каб яго паважалі, цанілі. Мужыкі — людзі!!! Народ!!! Газетку сваю маюць, кніжак пару... Тэатрык былі сарганізавалі, ды толькі ў час яго разагналі... Спытайце яго: пэўне ж, паэт, вершы пра вёску, пра мужыкоў пляце, бачыць сябе мясцовым Пушкіным, а мясцовую літаратуру на ўзроўні сусветнай... І такое цяпер робіцца, паверце, і ў Вільні, і ў Кіеве... Адным словам, нарабіў наш цар сабе бяды са сваёю дэмакрацыяй... У Вільню, бачыце, едзе. Туды, дзе іхняе асінае гняздо...

Спрачацца і з гэтым напышлівым індыком — а ён, відаць, быў з блізкай ад Стоўбцаў нейкай вёскі — Алесь не стаў. Зірнуў толькі з пагардаю на яго паношаны капялюшык, акуляры, на манішку і старое паліто, ад усёй душы ўклаўшы ў свой позірк красамоўны прысуд: «Сам ты, пацяробак, аса» — і падаўся з вакзала на двор на яснае сакавіцкае сонца. Чуў: яго выхавальнікі сышліся, асуджалі наўздагон.

Аднак доўга не мог супакоіцца. Нават ужо і ў вагоне, калі сядзеў пры сцяне і пазіраў у акно на ўсё тое, што бегла насустрач і заставалася ззаду,— на

голыя прыдарожныя беластволыя бярозы, адзінокія сосны, белае поле, зялёны лес, на блакітнае, з яркім сонцам неба, на малыя і вялікія, мізэрныя і бедныя, вялікія і з некаторымі багатымі на твар дамамі вёскі. Ён не першы раз меў ужо такія пстрычкі. Відаць, атрымаў яе, пстрычку, і не ў апошні. На добры толк варта было б ужо іх выслухоўваць спакойна, з годнасцю, адказваць на іх пагардлівай усмешкай, што, праўда, злуе, паддае ярасці выхавальнікам, і тады яны пачынаюць зневажаць на чым свет стаіць. Але не, не мог быць спакойны. За кожным разам, як і сёння, яго сэрца гарэла, балюча садніла, як і ад кожнай незаслужанай абразы ды знявагі.

Ён ніяк не мог зразумець, чаму можа быць такая пячорная, дзікая пагарда, нянавісць да селяніна? Сам з вяскоўцаў, адрокся ад вёскі, маці і бацькі — што ж, жыві як умееш, як хочаш, але чаго зневажаеш таго, хто шануе вёску, бацькоў, жыве не так, як ты? За што ж так люта ненавідзець кожны яго крок, кожнае слова? Няўжо ён замінае жыць, псуе апетыт? Няўжо было б гэтай Анушцы ці яе спачувальніку-акулярыку лягчэй, каб і ён, Алесь, выдаваў сябе за пана?

Уздыхнуў: цяжка, нявесела.

Адчуваў: можа, і дарэмна пакутуе. Не ўсе так думаюць, як ён. У кожнага свой свет, свая адукацыя і культура. Ёсць людзі неадукаваныя, але вельмі культурныя, ёсць людзі адукаваныя, але некультурныя, нават пявыхаваныя — да хамства. А толькі вялікай культуры чалавек будзе шмат ведаць, паважаць і любіць, ніколі не зняважыць простага чалавека за тое, што ён просты чалавек. Зрэшты, можа, і не віна гэтай Анушкі ці яе прыхільніка, што яны так думаюць, гавораць: можа, гэта — іхняя бяда. Мала ведаюць, а яшчэ меней умеюць шанаваць, паважаць і любіць, цалкам паддаюцца модзе. Куды вецер, туды і яны.

Быў бы вецер з іншага боку, дык, можа, і яны былі б іншыя...

Хто ведае, як склаўся б далей яго лёс,— можа, гэтак, як і лёс яго аднагодкаў, дзядзькавага сына, Аляксандра Нямкевіча (таго, хто ўзяў замуж старэйшую Мішукову дачку-красуню) ці Вінцука Драздовіча, што гэтаксама абодва маглі добра вучыцца, стаць інтэлігентамі, але іхнія бацькі не паслалі іх вучыцца далей, пакінулі на гаспадарцы. Яго лёс зыначыў бацька. Ён — на шчасце ці на бяду сабе і Алесю — паслухаў настаўніка і вырашыў завезці сына ў Нясвіж.

Праўда, у настаўніцкую семінарыю яго першы год не ўзялі. Забракавалі, як сказалі выкладчыкі, «за моцны сялянскі акцэнт». Падлаўчыўшыся па вечарах у настаўніка, трапіў туды на другі год.

У Нясвіжы Алесь павучыўся, як мог падвучыцца сын небагатага селяніна, на настаўніка пачатковай школы. Некаторыя семінарысты гэтым і задаволіліся. Але ён не лайдачыў, шмат чытаў яшчэ і па сваёй ахвоце (і з семінарскай бібліятэкі, і з уласнага кнігазбору настаўніка рускай мовы Сідаровіча), сам паспрабаваў вывучыць нямецкую і англійскую мовы. А ў апошні год вучобы хтосьці прынёс і паказаў газету «Наша доля». Каторыя семінарысты са зняважаю пасмяяліся з яе, бо, бачыце, запахла для іх «глінаю ды хлявамі», каторыя былі абыякавыя, а той-сёй здзівіўся і ўзрадаваўся. Алесь быў з тых, хто не паверыў сваім вачам: няўжо можна на «мужыцкай», як многія кажуць, мове мець газеты, кнігі, тэатр, школы? Дык чаму цар не даваў на гэта дазвол раней 1905 года?

Ён задумаўся, і гэтыя думкі зрабілі ў яго душы пераварот. Як і з'езд маладых настаўнікаў у Мікалаеўшчыне. Хоць гэты з'езд паліцыя разагнала, але пра яго тады шмат гаварылі. Хвалілі тых настаўнікаў, што падалі свой голас — голас праўды і гневу

супраць несправядлівага ладу. Яго калегі па семінарыі Васілевіч і Лашковіч прасілі ўсіх падтрымаць тых звольненых з працы настаўнікаў, заклікалі не займаць іхнія настаўніцкія пасады ў школах.

Муху, Васілевіча і яго, Алеся, паслалі ў «немяцежныя» школы; Лашковіча пасылалі ў тую, дзе раней настаўнічаў адзін са звольненых. Лашковіч не паехаў, нейкі час быў без працы, пазней далучыўся да сацыялістаў-рэвалюцыянераў, разам з імі рабіў замах на жыццё мінскага паліцмайстара, за што быў арыштаваны і сасланы на вечную катаргу ў Сібір.

Калі працаваў на Віцебшчыне настаўнікам, Алесь пачаў пісаць у «Нашу ніву», друкаваўся пад псеўданімам. Але па нечыім даносе дырэкцыя народных вучылішчаў даведалася, што ён піша і піша ў забароненую для настаўнікаў газету, і змусіла яго як «ненадзейнага» пакінуць Віцебшчыну. Ён папрасіўся на сваю радзіму. Яму дазволілі, і ён пранастаўнічаў у сваёй вёсцы з Кацярынай звыш трох гадоў. І Кацярыну, і дзераўнянскіх, і налібацкіх настаўнікаў (а ў Налібаках адным з іх быў яго знаёмы па семінарыі Лямбовіч) падбіваў жыць інацай, чым яны жылі дагэтуль. Алесь захацеў згуртаваць з іх і са здольнай тутэйшай моладзі хор, тэатр — не ўсе згадзіліся, многія толькі абсмяялі яго. Не пра люд, не пра яго прасвятленне ды заўтрашні дзень, а болей пра свой жывот дбалі. Пайшоў з ім у адну дарогу прудскі настаўнік, яны з ім усё ж з прудзян і янкавічан зляпілі невялікі хор, тэатрык, выпускалі рукапісны літаратурны часопіс. Звычайна перад спектаклем і хорам выступаў спачатку Алесь і расказваў пра гісторыю Беларусі, пра яе культуру, пра тое, што цяпер робіцца на свеце.

Пра іхні тэатр, хор, пра Алесевы прамовы ўсё больш і больш уведвалі ў тутэйшых вёсках. Калі прыходзілі ці прыязджалі на фурманцы ў новае сяло,

дык іх сустракалі з ахвотаю. Бывала, падчас яго прамовы альбо пасля яе засыпалі яго рознымі пытаннямі. Пра зямлю, пра царскую палітыку.

Аднойчы, калі выступалі ў Пільніцы, на іхні канцэрт наскочыла паліцыя. Яна паслухала яго прамову, а пасля паклікала на двор, адабрала паперы, з якіх ён чытаў, патрэсла яго і дома — канфіскавала літаратурны часопіс, дзе былі перапісаны яго прамовы, пытанні сялян і яго адказы на іх.

— Вот что, молодой человек,— сказаў яму на развітанне паліцэйскі чын.— Занимаетесь вы не невинными представлениями, а под видом шуток да плясок налицо пропаганда противоправительственных идей среди крестьян... А это уже преступление... Призываю прекратить всякую агитацию, навеки похоронить местнический хор и театр. После нашего отъезда никуда не отлучаться, ждать надлежащего ответа...

Так яно і выйшла. Неўзабаве дырэкцыя народных вучылішчаў прыслала і яму, і прудскаму настаўніку Кірыковічу запіскі, што яны звольнены з работы. Праўда, ні аднаму з іх не напісалі, за што яны вінаватыя. Звольнены — і ўсё.

Іх абодвух дапытаў сам станавы прыстаў, узяў іхнія тлумачэнні, распіскі, што нікуды не выедуць без дазволу, і знік. Пасля ўсяго гэтага пацягнулася доўгае чаканне: што будзе? Убачаць у іхнім хоры, тэатры, рукапісным часопісе «противоправительственное преступление» ці не ўгледзяць?

Час ішоў, навін ніякіх ні з павета, ні з губерні не было, і ўсё гэта страшэнна прыгнятала Алеся. Папершае, хваляваўся за свой лёс, не хацеў, каб быў пазначаны судом і турмою, па-другое, пакутаваў без работы, ад бяздзеяння.

Прудскі настаўнік паў духам. І збаяўся кары, і палічыў, што сапраўды злачыніў, рабіў лішняе. Па-

напісваў усюды лісты з пакаяннем, што рабіў усё несвядома, прасіў адпавіць яго на настаўніцкай пасадзе, з сябра стаў Алесю ворагам. Сам Алесь нікуды лістоў не пісаў, ні ў чым, апроч сваіх промахаў, не каяўся.

Чым далей вось цяпер ад'язджаў ад Янкавін, ад Стоўбцаў, тым больш новыя думкі займалі яго. Ён ужо не думаў пра Кацярыну, якая прыслала яму праз Кастусю запіску з просьбай сустрэцца (на сустрэчу ён не пайшоў), забыўся паволі па Ледзяша, на Анушку і яе аднадумца. Думаў ужо пра Вільню. Як яна, Васілевіч, Муха, Лідскі сустрэнуць яго? Як спаткае Янка Купала — беларускі Шаўчэнка, як каторыя яго называюць? Ён жа зачараваны яго паэзіяй, закаханы ў яго як у выдатнага паэта, а той... Ці стануць сталіца, былыя сябры блізкімі? Якую работу змогуць даць яму ў рэдакцыі? Ці зладзіць ён з ёю? А пасля ўсё ж пачала праследаваць, гнясці думка: не ўцёк у Амерыку, але ўсё роўна ўцякае ад сваіх людзей, Кацярыны, хоць і суцяшаў сябе, што там, у Янкавінах, няма чаго яму рабіць, там ён можа зачахнуць. Як у пакоі без фортачкі, са спёртым паветрам.

Успомніўшы зноў Кацярыну, падакараў сябе: усё ж кепска ён зрабіў, што не адгукнуўся на яе просьбу, не пайшоў на сустрэчу.

## 4

Янка, вярнуўшыся са Стоўбцаў, і сёння ўвечар пайшоў да Чорных.

І сёння Зося ўцякла ад яго, дабегла да лагчыны, дзе за дзень, мяккі і цёплы, сабралася лужынка талай вады. Зося запыніла бег, каб не пакаўзнуцца, дык Янка яе тут і дагнаў, схапіў за плячук, а пасля, каб не вырвалася,— за локаць.

Не ўскрыкнула: ведала, канечне, што гэта ён. Яна першая, ён за ёю — адно за адным — ціха пайшлі ўзбоч лужынкі, што падмерзла ўжо, цьмяна льснілася ў цемнаце. Пакуль міналі ваду, ён вольнаю рукою нечакана рвануў з яе рукі хустку з вышываннем.

— Пусці! — не то папрасіла, не то запатрабавала за лужынкаю, спрабуючы заадно забраць ад яго і свой вузел.

Ні на міг не запынялася, бегла, нібы ляцела наперад, да блізкай сваёй хаты. Янка ўпёрся, а пасля ўвогуле стаў — яна колькі крокаў цягнула яго за руку. Пакуль слізгалі па лёдзе падэшвы яго падшытых скураю валёнак ды не ткнуліся пасля ў снег. Тады яна запынілася. Здалася.

— Ну пусці...— папрасіла, перарывіста дыхаючы.— Чаго ты прыстаў? Не адчапіцца, як ад цяню!

— Не пушчу,— адказаў, не выпускаючы яе рукі. Усяк нераадольваў нерашучасць.— Ці прасіся, ці злуй, ці плач — сёння не адпушчу...

— Які паганы! — пapікнула. Здаецца, злосна.

— Няхай сабе буду і паганы! — прамовіў пераадольваючы хваляванне.— Адпушчу — дык і сёння ўцячэш.

— Не, не ўцяку...— прамовіла ўжо лагодней.

— Не-не,— адказаў і яшчэ прыблізіўся. Адчуў яе, пруткую, побач.

— Што ты ўздумаў? — нібы жахнулася, стараючыся адступіць. Чым далей.— І не брыдка табе!

«Яшчэ як брыдка! — падумаў.— Але ж... Сёння не адпушчу».

— А за што мне будзе брыдка? — запытаў. Абы завесці гамонку.— Хіба я рэжу ці рабую цябе?

— Ды прыстаў жа нечага!

— Вот руку тваю халодную сагрэю — тады адпушчу...

— Вот кажаш! — нібы ўсміхнулася.— Пачуюць ці ўбачаць людзі!

— Хто ўбачыць? У такую цемень!

Усё ж наважылася ісці.

Пакрочылі. Поплеч. І болей Зося не вырывалася.

— Людзі і ўночы ўсё бачаць...— сказала.— Ды яшчэ як!

І толькі ён крыху аслабаніў яе руку, як яна рванулася. Утрымаў. Абхапіў рукамі яе за стан.

— Не ўцячэш сёння...— прамовіў, прыцісHуўся грудзінай да яе спіны, ткнуўся носам да яе хусткі, што пахла яе валасамі, відаць, учора вымытымі ў настоі з мяты.

Яна ж раптоўна наструнілася, папрутчэла. Усё яе цела, здаецца, было мігам падрыхтавана да абароны. Янка аж сам збаяўся сваёй такой смеласці. Адчуваў: зараз будзе нешта страшнае. Зося не тая дзяўчына, каб не абараніцца, дазволіць некаму вялікую смеласць. Яна як агонь. Даць хлопцу аплявуху — для яе нічога не значыць.

— Янак! — паклікала да разважнасці. Але не злосна, а з хваляваннем.— Далібог жа, убачаць і смяяцца будуць.

— Ну і што?

— Як — што? Хіба табе сяроўна, што людзі брахаць будуць?

— Сяроўна ж кажуць...

— Што — кажуць?

— Ну, што мы з табою... любімся...

— Дурны! — ускліквула і раптоўна замалаціла абоімі локцямі яму ў рэбры, стараючыся выцерабіцца з яго рук.

— Хай сабе і дурны,— усміхнуўся, пад'юшчваючыся, што яна неяк па-добраму сярдзітая.— Але адпускаць цябе ўжо больш не буду. Буду кожны вечар падводзіць дадому.

— А я тады на вячоркі не заяўлюся. Нават з хаты не выйду.

— А я да вас прыйду. У хату.

— Папробуй толькі! — прыстрашыла.

— Не збаюся.

— Смелы!

— А вот і смелы! — сціснуў, аж адчуў далонямі яе пруткія грудзі.

— Мядзведзь! — войкнула, уздыхнула.— Адпусці хоць крыху. Усе косці паломіш. Не дзіва, што можаш замест каня плуг цягнуць...

— Хіба ты пані, што ў цябе косці гэтакія слабыя? — ткнуўся шчакою да яе шчакі. Яна ўся ўздрыгнула, нібы да яе шчакі даткнуліся гарачым вуглём. Зноў ірванулася, але ён не адпусціў. Зацішылася. Аж было дзіва: чаму стала гэткая пакорлівая?

— Ну і калючы! — неўзабаве прамовіла з папрокам.— Правёў падбародкам, дык шчака, як ад агню, гарыць.

— Нейкая ты пані, далібог,— усміхнуўся.— Надта ж далікатная!

— Далікатная, далікатная! — перакрывіла.— Галіцца кожны дзень трэба, дык і не будзе падбародак як тарка.

— Няўжо мой падбародак як тарка? — пажартаваў, зноў прытуліў шчаку да яе шчакі. Яна адварочвалася. І зусім ужо не рэзка.— І хіба рукі мае такія благія?

Душою адчуў: трэба цяпер жа пераступіць мяжу асцярогі да смеласці, пралажыць след да новага між ім і Зосяю — трэба яе пацалаваць. Кажуць жа мужчыны: дзяўчаты надта баяцца, каб іх не пацалаваў хлопец, але заадно і надта любяць пацалункі. Аж млеюць ад іх. Надта тады, калі іх цалуюць у шыю ці ў грудзі. У шыю ці ў грудзі цяпер не пацалуеш, дык ён і не будзе туды цалаваць, а вось у губы —

трэба было б. Але як ні з таго ні з сяго пацалаваць? Сорамна ж. Падумае: нейкі лізун! Як кабета! Гэта ж яны, кабеты, любяць цалавацца.

Адчуваў: не асмеліцца цяпер, дык не асмеліцца і пазней. Ізноў будзе тое ж: нясмелыя позіркі, без'языкасць. Вялікім намаганнем волі перамог сваю нерашучасць. Цмокнуў. Хутка і далікатна. У шчаку.

Мігам адхінуўся, адпусціў яе: чакаў злоснага штуршка ў грудзі, а то і горш — удару локцем у нос. Але Зося не рванулася, не напалохалася, як чакаў.

— Ці не здурэў? — нібы здзівілася і ўжо, здаецца, не збіралася ўцякаць. Стаяла на адным месцы.

— Здурэў... І даўно ўжо...— прамовіў ціха. З перарывістым хваляваннем. Адчуўшы яе паблажлівасць, павярнуў яе, зноў абняў, прыткнуўся ўжо грудзінай да яе грудзіны і смела пацалаваў у шчаку, а пасля пачаў шукаць яе вусны.

Зося па-ранейшаму не вырывалася, але гулліва адварочвала галаву і, адштурхоўваючы яго рукамі, не давала свае вусны. І — дзіва! — гарэзна ўсміхалася. Ці ад таго, што ён такі няўмека, ці ад таго, што яна гэтак спрытна ўхіляецца ад пацалунку. І сорам, і яе гарэзнасць пад'юшчылі, і ён мацней сціснуў яе, што яна абвяла. Цяпер напраўду, можа, забалелі яе косці. Але маўчала. Дык ён урэшце ўпершыню дакрануўся да яе халодных і нібы шорсткіх вуснаў. Засаромеўся, аж запалалі вушы. Цалуе ж! Дзяўчыну! Зосю! А яна, усё гарэзуючы, сціснула вусны. Схавала. І ціха, не адкрываючы рот, пасміхоўвалася. Аж, здаецца, трапяталася нешта ў яе горле. Пацалаваў раз, другі. Недзе каля яе рота.

Адчуў: ніякай радасці ад гэтых пацалункаў. Зусім не тое, як думаў раней. Адзін толькі сорам.

Зноў папрутчэла, пачала выкручвацца з рук. Ён не адпускаў.

— Ідуць! Блізка ўжо! — прашаптала.— Пайшлі. Каб не дагналі.

Рушылі. Хутка-хутка. Зося, сама ўжо несучы вузельчык, не ўцякала. І тое, што яна нядаўна гэтак прашаптала пра небяспеку для іх абаіх, што ідзе побач, трывожна хвалявала: між імі змова!

Моўчкі падышлі да невысокай Мішуковай хаты, што стаяла шчытом да вуліцы. Здаецца, пагрозна на іх абаіх пазірала цёмнае акенца.

— Ідзі...— пошаптам прамовіла Зося, запыніўшыся і пазіраючы ў цемені яму ў вочы.— Нехта ж зусім блізка...

— Давай яшчэ крыху пастаім.— Хай сабе бачаць. Такая бяда.

— І нашы яшчэ ўбачаць... Крычаць будуць...

Крокі набліжаліся. Нехта — здаецца, удвух — ішоў ужо за лагчынаю.

— Давай пастаім яшчэ крыху за вашымі сенцамі...— папрасіў.

— Толькі крыху...— перасцерагла.— Ідзі ціха. Каб не пабудзіць нашых. Я пайду першая. Бо іначай сабака брэху наробіць.

І яны — Зося паперадзе, Янка воддаль за ёю,— мусіць, абое з адным страхам пазіраючы спачатку на вулічнае, а пасля і на дворнае цьмянае акно, на дыбачках падаліся за нізкія сенцы. Вось і ён мінуў іх, ледзь не ўзбіўшыся на санкі з абледзянелым цэбрам,— толькі піхнуў іх, пасунуў крыху наперад,— з бояззю зірнуў у яшчэ адно, кухоннае, акенца і завярнуў за глухую сцяну хаты, ля якой узвышалася пад самы вільчык высокая складня сухіх дроў — Мішук быў дбайны гаспадар.

— Ціха, Жук, ціха! — сказала Зося сабаку, які не вылез з недалёкай будкі, але з незадавальненнем забурчэў.

Янка падышоў да яе. Зося абапёрлася спіною аб складцю дроў, падняла ўверх руку.

— Ціха! — па-змоўніцку прашаптала ўжо яму. Прыслухалася. І ён затаіўся: ці не рыпнуць дзверы, ці не пачуецца звонкі голас старой Мішучыхі? Не. Ціха. Толькі блізка, па вуліцы, ішлі і гаманілі начныя хадакі. Мінулі хату. Усё замерла, утапілася ў ціш і сон.

Янка, хвалюючыся, прыблізіўся, прыціснуўся да Зосі. І праз свой кажух і яе кажушок пачуў яе пруткае цела, грудзі. Абняў, скрыжаваўшы рукі на яе паясніцы.

Яна падняла галаву, зірнула. Здаецца, з усмешкаю. Жартам павяла раз-другі казытлівым брывом па яго шчацэ. Прыткнуліся шчака да шчакі. Абое перарывіста дыхалі, не маглі пераадолець хваляванне. Ён даткнуўся вуснамі да яе халаднаватай мочкі вуха — адчуў неяк, што яно выехала з-пад хусткі. Ап'янеў ад паху яе валасоў. Папусціў рукі ўніз.

— Што ты задумаў? — усміхнулася.

— Нічога благога...

— Ну і не добрае.

— Чаму?

— Ды таму, што канчаецца на «у»...

Янка правёў вуснамі па яе ўжо цёплай, нават гарачай шчацэ — да вуснаў. Яна ж зноў папрутчэла, сціснула вусны і, як там, на вуліцы, зноў ціхенька заўсміхалася, забуркатала, як галубіца. І цяпер ён пацалаваў толькі ў яе самкнутыя вусны.

— Хіба ты забыўся: пост жа велькі цяпер! — як толькі адвёў вусны, запытала лагодна: — Дык ці можна так грашыць?

— Які ж тут грэх? — усміхнуўся.

— Грэх! І велькі! Замест таго каб маліцца, дык...— запнулася, не дагаварыла.— Грэшым...

— І даў жа бог гэтых пастоў! — паскардзіўся.—

I малых, і велькіх! I не з'еш, чаго хочаш, і не скажы, і не...

— Маўчы ты! — нібы спалохалася.— Без дай прычыны не ўспамінай бога і не наракай.

Адчуваў: вось жартуюць, лічы, але і ў яго, і ў яе, відаць, адна цяпер думка ў галаве: яны ж разам! I не выпадкам!

— Зося...— прашаптаў, запнуўся. Аж жахнуўся: дзе, дзе тыя патрэбныя словы? Куды яны зніклі? — Я даўно хачу нешта сказаць...

Затаіла дыханне. Чакала, што скажа. А ён разгубіўся: не можа сказаць тое, пра што думае. Не паварочваецца на тое язык. А яна маўчыць. Каб загаварыла, запытала, дык яму было б нашмат лягчэй.

— Давай будзем кожны вечар бачыцца...— выпаліў нечакана зусім не тое, што хацеў сказаць.

— А можа, ты да якой другой хочаш хадзіць? — усміхнулася.— Да Волькі ці да Веры? Ці да малодшай пападзянкі?

— Не! — усклікнуў.— Я не хачу да іх хадзіць!

— Ціха ты! — сыкнула.— Раскрычаўся!

— Я не крычу. Я толькі гавару.

— А можа, да Кацярыны Сяргеенкавай хочаш хадзіць?

— Не. Ды як я магу да яе хадзіць? Яна ж замужняя...

— Бывае, і да замужніх хлопцы ходзяць. Уладак жа летась да сваёй суседкі падходжваў... Як памазалі вароты глінаю, дык уцякла ў Пруды, да бацькоў...

— Можа, хто і хадзіў ці ходзіць. Але я не хачу так...

— А харошая яна, праўда? — запытала з захапленнем.

Прамаўчаў.

— Самая харошая ў нашых Янкавінах,— пазайздросціла.— Не дзіва, што Алесь ваш, чалавек вуча-

пы, з добраю душою, яе некалі так упанаравіў! Красуня, што ні кажы!

— Уга,— не згадзіўся.— Ест і харашэйшыя.

— Хто ж? — здзівілася.

— Ваша Галена і ты...

— Скажаш! — нібы не згадзілася, але, здаецца, узрадавана.— Хіба ў нас такі далікатны твар, такія беленькія ручкі? Хіба мы такія вучаныя, культурныя, так файна апранаемся? Яна як пані, а мы... Мы простыя...

— Хай сабе і простыя, але сяроўна самыя пагляднныя. Усе ж так кажуць. А Кацярына, можа, і пані... Бо ні змалку, ні цяпер не робіць нашай работы. Не жне, не грабе, не ходзіць каля быдла. Дык не дзіва, што ў яе ці ў пападзянак беленькія ручкі. Бо яны — гультайкі...

— Які хітры! — прамовіла гарэзна.— За вочы нагаворвае, а ў вочы лістам сцелецца! Вот і пядаўна, казалі дзяўчаты, ты з Кацярынаю як спаткаўся, пасміхоўваўся...

— Не...

— Скажаш, не бачыўся? — прыстала.— Будзеш яшчэ маніць?

— Яна сама перастрэла мяне, запыніла,— пачаў апраўдвацца, як грэшнік.— Пра Алеся нашага пытала... Яна не толькі ў мяне, але і ў нашай Кастусі пытаецца пра яго.

— І чаго яна хоча? — Зося запытала паспакайнелым ужо голасам.— Апраўдацца?

— Можа... Але ўсяго ў вочы не кажа. То ўздыхае, то хліпае, то як бы ненаўмысля прызнаецца, што яна ненавідзіць свайго Арнольда...

— Цяпер, можа, і ненавідзіць. Але ж гэтак пагана абышлася з вашым Алесем...— з абурэннем загаварыла.— Як толькі яго звольнілі са школы, дык яна і шмыгнула да другога.

— А ты?
— Што — я? — здзівілася.
— Шмыгнула б?
— Я — не! Каб аднаму паклялася ўжо, дык...
— А ты нікому яшчэ не клялася?
— А каму ж я магла пакпясціся? — усміхнулася.
— Можа, Уладаку? Са шляхты ж!
— Таму, скалазубаму? — запытала зняважліва.— Ён жа брахун, хвалько! Ён жа каля Веркі ўецца як уюн.
— Можа, хочаш, каб да цябе хадзілі Дзежка ці паштавік Гарбук?
— От кажаш! — абарвала Зося, гэтымі словамі нібы мёдам мажучы яму па сэрцы.— Сяргеенкавы падбрэхічы! Ганарыстыя дурні! З іх жа смяюцца ўсе.
— Дык давай каля вашай грушы за гумном сыходзіцца! — прашаптаў ён радасна, сціснуў.— Кожны вечар!
— Туляцца па загуменні? — усміхнулася.
— Ты ж не хочаш, каб я ў хату заходзіў...
— Не.
— Дык выйдзеш заўтра, калі сцямнее, за гумно? — мацней сціснуў, што ёй, можа, было цяжка не тое што адказаць, але і дыхнуць.
— Ну і сіліпча ў цябе! — хіхікнула.— Пусці, дай дыхнуць.
— Кажы: выйдзеш? Паклянешся, дык адпушчу.
Зося не паспела нічога адказаць: пачуўся нечаканы стук у раму кухоннага акна. Рэзкі, адрывісты.
— Зося! — данёсся сюды глухаваты з-за сцяны Мішучышын голас.— Дзе ты там дзелася, каб ты не даждала! Ідзі ў хату!

Яны мігам адхінуліся адно ад аднаго. Збаяліся абое выкрыцця і кары. Як дзеці-свавольнікі.
— Ці чуеш ты, паненка! Ідзі ў хату! Бо калі выйду зараз з чапялою, дык і на табе, і на тваім кавале-

ру паламлю яе! Нагуляю! Пабуркачу! Катэ марцовыя!

— Бяжы, Яначак! — зашаптала Зося.— І не каля акон, а скачы праз плот у поле...

— Дык выйдзеш заўтра ўвечар пад грушу?

— Выйду, Яначак. Выйду. Бяжы!

Ён раптоўна абняў яе, прыпаў да вуснаў, і яна — о дзіва! — паслухмяна дала іх, халодныя, трапяткія. На міг. Тут жа адштурхнула — і ён, наструнены ад страху ды ўражаны Зосіным пацалункам, гойснуў, як сам не свой, да блізкага плота. У цемру ночы.

5

У восеці, што стаяла воддаль і ад хаты, і ад вёскі, была цемнач. Як пальцам у вока. Уладак патраціў шмат слоў, сілы, каб заманіць сюды Веру. У гэты ж вечар, у тыя хвіліны, калі Янка Нямкевіч затрымліваў на лагчыне Мішукову Зосю.

Уладак і Вера сядзелі на лаўцы ў тым закутку, дзе стаяла паблізу невялікая печ, цяпер халодная. Дык тут было настыла, як у лядоўні. Пахла некалішнім лёнам, каноплямі, атрэп'ем, мышамі, а гэтаксама і нежылым духам запавуціненай будыніны.

Сёння Уладак быў ужо хітрэйшы: не ціснуў без дай прычыны Верку, не выкручваў ёй рук, не ляпаў крыўдлівыя словы, а заліваўся салаўём: гаварыў ціха, нават пошаптам, ласкава, кляўся, што без яе не можа жыць. Але, надзіва, гэтая пяшчота больш палохала Веру, чым яго ранейшая грубасць. Можа, і таму, што грубасць была заўсёды шчырая, а яго ласкавасць падманлівая, хітрая. Раз за разам Вера імкнулася пайсці адгэтуль, з яго пасткі, не дазваляла абдымацца. Ні вучаная пападзянка, ні іншаверка Шлёмава дачка не былі гэткія асцярожныя і ўпартыя.

— Верачка! — зноў прашаптаў ён тым голасам, ад якога, ведаў жа добра, аж млеюць дзяўчаты.— Ну чаго ты ўсё баішся мяне? Няўжо думаеш, што падману, кіну? Не. Я ж толькі цябе хачу ўзяць замуж. Адну цябе, чуеш? — пацалаваў. Яна адказала на яго пацалунак, але была напагатове.— Мілая мая, харошанькая, дарагая!

Безупынку шаптаў, цалаваў і, здаецца, памалу затуманьваў ёй розум, дабіваўся слухмянасці і пакоры.

Неўзабаве яна нібы страціла сілу, не супраціўлялася, толькі ціхенька ды жаласна прасілася, але ён не зважаў на яе просьбы...

...Пазней, калі пакінуў яе ў спакоі, хацеў хутчэй пазбавіцца, сысці адгэтуль. Ведаў: трэба будзе шмат супакойваць, зноў гаварыць ласкавыя, пяшчотныя словы. Ды толькі цяпер казаць іх не хочацца.

Вера не падымалася. Ляжала і плакала.

— Ну не трэба...— прамовіў нехаця, дзеля адчэпнага пагладзіў па плечуку.

— Якая я брыдкая! — паскардзілася, а заадно і паганіла сябе.

— Вот выдумляеш, пляцеш абы-што...— буркнуў.— Супакойся, усё будзе добра... Чуеш?

Не слухала, не магла стрымаць слёзы ды адчай. Выйсця не было, пачаў супакойваць.

І пасля, калі вёў яе, ціхую, пакорлівую, дадому, вучыў:

— Толькі ж ты нікому нічога не кажы. Ні маці, ні сяброўкам сваім. Разнясуць па вёсцы — толькі перашкодзяць нам... А так усё будзе добра. Паходзім крыху, пагуляем, а тады... Ну, увосень якую і пажэнімся...

Верка маўчала. Суцішыла плач, але не зусім супакоілася, усё яшчэ была ашаломленая.

— У суботу, як сцямнее, зноў прыходзь у во-

сець,— сказаў на развітанне.— Цяпер мы, лічы, муж і жонка...

Яна зноў нічога не прамовіла. Не пачакала, каб ён прытуліў зноў, адрачона пасунулася ў свой цёмны двор.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### 1

Да Вільні Алесь пад'ехаў на світанні.

Ён быў ужо тут колькі разоў, дык і ў ранішніх суцемках пазнаваў адмысловыя віленскія пагоркі, бачаныя ўжо хаты, дрэвы, слупы. Прыгарад — не ў прыклад прылеглым вёскам — быў не цёмны, а шчодра асвечаны. І чым паглыбляліся ў Вільню, чым вышэлі дамы, тым было святлей.

Цягнік усё сцішаў і сцішаў ход, урэшце паторгаўся, спыніўся, і Алесь са сваім пляцаком падаўся з вагона. На пероне іх, пасажыраў, чакалі ўжо лянівыя, абыякавыя, але, здаецца, ганарлівыя насільшчыкі з каляскамі, выцікоўваючы багатых кліентаў. Алесь абмінаў іх і пайшоў услед за стракатым на адзенні і паходжанні людам з вагонаў трэцяга класа да падземнага тунеля, што вёў на вакзал і ў горад.

Адчувалася: тут ужо і ў ранне шматлюдна, гармідарна. Перад вакзалам шнырылі шустрыя газетчыкі, з першага позірку, здаецца, ведаючы, каму і якую параіць газету. Адзін прычапіўся і да яго:

— Купеце, пан харошы, «Новое время» і «Виленский вестник».

— А «Нашу ніву» маеш? — запытаў Алесь прыпыняючыся.

— Не-е,— заківаў той галавою.— Але яна ё ў кіёску.

— Беларус? — беручы газеты, усміхнуўся Алесь.
— Не-е. Ліцвін.
— Літовец?
— Не-е. Ліцвін.

Прасілі сысці з дарогі насільшчыкі, везучы ад багажнай каморы валізкі на калясках да цягніка, якога яшчэ не было тут, але які, відаць, вось-вось павінен быў падысці, а ля парога стаяла група апратных, выгаленых людзей з надпісамі гасцініц на залатых абручах чырвоных шапак, выкрыквала назвы тых гатэляў — на рускай мове, але хто з беларускім, хто з літоўскім акцэнтам. Мінуўшы іх, Алесь зайшоў у вакзал.

Мінуў залу і падышоў да кніжнага кіёска. Якраз там статная, паглядная маладзіца разразала пожыкам вяровачкі, распакоўвала папяровыя пачкі, брала кіпу газет, лажыла яе пасярэдзіне на сагнутую руку, хуценька лічыла правіслыя канцы і, падлічыўшы, клала газеты на прылавак. Ля кіёска стоўпіўся гурт інтэлігентных людзей. Стаў за высокім чыноўнікам-юрыстам і ён, пачаў чакаць. Спяшацца не было куды: родзічаў у Вільні не меў.

Праўда, ён ведаў тут двух землякоў, з Налібак, і сяброў. Да землякоў у апошнія гады ён стараўся не заходзіць: і Адам Зялёнка, былы настаўнік, удзельнік паўстання 1863—1864 гадоў, вярнуўшыся з Сібіры, і яго сям'я адцураліся ад сваіх былых ідэалаў і сустракалі з непрыхільнасцю ды з недаверам, а Фелікс Ключнік, былы студэнт Пецярбургскага універсітэта, нарадаволец, звар'яцеў і нікога не пазнаваў. Да сяброў, Мухі ды Лідскага, не хацеў ісці зранку. З ахвотаю пайшоў бы да Васілевіча, каб той меў, як Муха і Лідскі, свой дом, але Васілевіч наймаў у чужых людзей невялічкі пакойчык, цеснячыся ў ім з немалою сям'ёю, дык не варта было яму падакучаць. Сустрэнецца ўжо з ім пад полудзень — у рэдакцыі.

Калі праз хвілін дваццаць дачакаўся сваёй калейкі, папрасіў «Нашу ніву». Маладзіца са здзіўленнем зірнула на яго, па прыкладзе некаторых іншых кіяскёрш перасцерагла:

— Пан ведае, што гэтая газэта папросту?

Ён кіўнуў галавою.

Яна пакорпалася сярод кіп, пасля дастала спадыспаду тонкі стосік, падала газету з усмешкай:

— Калі ласка.

Ён падзякаваў, аддаў плату. Кіяскёрша паклала тоненькую кіпку навідавоку, усміхнулася ўжо новаму пакупніку:

— І вам, пане, такую газэтку?

— Не, не! — той аж закрыўся рукамі.— Я не любіцель такога выдання.

Алесь адышоў.

Рашыў не аціраціа тут, не знаходзячы сабе кутка, а выйсці на свежае паветра. На марозік.

На двары ўжо было амаль светла. Вулічныя ліхтары былі патушаныя.

За вакзалам, чакаючы пасажыраў, бавілі час возчыкі. Хто сядзеў на фурманцы, пацепваючы плячыма ад холаду, хто гаманіў, сабраўшыся ў гурты. Калі ж услед за Алесем падышоў да іх важны пан у баброваі шапцы і ў футры, дык і з аднаго гурту, і з другога загаварылі з ім па-польску: пан быў паляк. На яго ж, на Алеся, з абодвух гуртоў зірнулі абыякава, нагледжаным ужо вокам адчуваючы, што яму возчыкі не трэба. Алесь заўсёды здзіўляўся гэтаму спрактыкаванаму ўменню гараджан: шмат іх, не ведаюць адзін аднаго, але чуйна, выдатна адчуваюць, хто ёсць хто, па адзенні, звычках, манеры размаўляць. Як і здзіўляўся, як спрытна ўмеюць усе гараджане — надта перад вясковым простым людам, увогуле правінцыяламі — пусціць пыл у вочы, мець у кішэні капейку, а падаць сябе чалавекам з туга напханым ка-

шэльком, і яшчэ да гэтага разумным, усёведайкам. Мешчанін есць скарынку, запівае вадою, спіць на падлозе, на саломе, як і каторы селянін, але выйдзе на вуліцу паголены, у сурдуце, задзярэ галаву — дык і пан! Ён жа мешчанін! Тут няма той шчырасці, блізкасці і ўзаемапаразумення, што ў вёсцы. Гэтая гарадская пыха заўжды вельмі прыгнятала Алеся.

З боку фурманак стаялі пустыя яшчэ будкі. Паселіцца ў іх шум удзень, калі тут пойдзе бойкі гандаль. Цяпер каля адной з будак тупаў толькі дворнік, вусаты стары дзядзька ў шэрым халаце — біў ломам яшчэ асенні, брудны лёд і спіхаў яго рыдлёўкаю за будку, да ладнай ужо кучы.

Алесь перасек прасторную, ужо без снегу, а сямтам і без лёду плошчу і падаўся да Вострай брамы. Тут была святыня. І яе паважалі ўсе веруючыя.

Алесь крыху паназіраў, як ужо і цяпер стаялі на каленях і маліліся людзі, пасля паблукаў да цэнтра горада, да зліцця Вілейкі і Віллі, да высачэзнай круглай Замкавай гары — улетку падобнай на велізарны стог сена, а цяпер, узімку, не такой пышнай, крышку сумнай. Кожны госць, відаць, жадаў трапіць сюды, да падножжа і высокай гары, да старой вежы, да гарматы, што кожны дзень роўна а дванаццатай гадзіне бухала на ўвесь горад. З гары можна было ўбачыць, лічы, усю Вільню — плён розуму, працы літоўцаў і беларусаў, іншых народаў за некалькі стагоддзяў.

Алесь не быў ні ў Кіеве — бацьку гарадоў усходнеславянскіх, ні ў Маскве ці Пецярбурзе — гэтаксама, як кажуць, вельмі прыгожых гарадах. Ён бачыў толькі Віцебск, Мінск, Смаленск. Яны спадабаліся яму, хоць нічым надта не здзівілі, не зачаравалі. Болей здзівіў, адабраў душы Полацк — стары горад, як лічаць, равеснік сівога Кіева. У Полацку, надта ля вялізнага каменя са старажытным надпісам, ля Са-

фійскага сабора, што пачынаўся будавацца яшчэ на самым пачатку адзінаццатага стагоддзя, ля Спаса-Ефрасіннеўскай царквы дванаццатага веку, дзе ў невялічкай келлі жыла, малілася за людзей і працавала слынная Ефрасіння Полацкая, адкуль выйшлі майстра залатых рук Лазар Богша, беларускі першадрукар Скарына, выдатны вучоны, асветнік Сымон Полацкі, ля старажытных муроў, камяніц, гарадзішча Алесь кожнаю жылкаю адчуваў: некалі тут было моцнае княства, была вялікая культура, але па волі няшчаслівага лёсу княства не ўстаяла, заняпала, а культура была раскрадзена, занядбана, стаптана, апаганена і забыта. У Полацку пахавана, спіць вечным сном самабытная, можа, найменш ваяўнічая за сваіх суседзяў краіна, што не адбылася, і на надмагільнай пліце яе няма нават надпісу, у Полацку над пылам, забыццём, здзічэлымі селішчамі бруіцца крыніца, і яе ўжо ніхто не бачыць, не ведае, і яна, можа, за апошняе стагоддзе пачала выбівацца аж у Вільні, спрабуючы выліцца там у новую раку... Полацк жыў, ныў у Алесевым сэрцы, але... Трэба ўжо не столькі стагнаць, прыкрывацца сваёй шматпакутнасцю, а болей дбаць пра сваё новае...

Шмат было прычын, але Алесь, паважаючы і нябачаныя і бачаныя ім гарады, шчыра лічыў: самы дарагі для яго, самы прыгожы горад па свеце — Вільня. Ён разумеў, што, можа, і памыляецца, шмат яшчэ чаго не пабачыўшы на свеце, як, мала ведаючы, яго бацька шчыра лічыць, што самы файны горад — Нясвіж, а той-сёй з вёскі — Навагародак. Тыя гарады, значыць, дзе ім выпала быць.

Пазней Вільня не толькі прыемна ўражвала, але і цяжка азмрочвала — тым, што ён убачыў за бляскам, раскошаю. Але гэтае прыгнечанне не адварочвала ад Вільні — не, станавілася болем яго душы.

У Вільні жыло нямала люду розных нацыяналь-

пасцей, але, бадай, нідзе гэтак не пагарджалі ды не здзекаваліся «вышэйшыя» з «ніжэйшых», як тут. Можна было здзіўляцца і здзіўляцца, як яшчэ здольваюць «ніжэйшыя» не толькі выжываць пад цяжкім і змрочным покрывам рэакцыі, але і прабівацца на свет божы парасткамі духоўнай творчасці, веры і надзеі, чалавекалюбства! Сціплае, мужнае тое імкненне вабіла не адну душу, запальвала свечачку жыцця. Як ні намагалася цемра праглынуць, патушыць святло, ды не магла: як кажуць мудрыя людзі, чым гусцейшая цемра, тым далей і лепш відаць нават маленькі агеньчык...

Вільня прачнулася, прыйшла ў рух. Насустрач Алесю па вуліцы пнуўся ламавоз, цягнучы на вялікім возе з гумовымі коламі гару ўсякіх кулёў, скрынак. Побач з возам клыпаў светлавалосы абадраны і брудны вознік. Падыходзячы да Вострай брамы, зняў шапку. Ад вакзала ляцелі сюды гудкі паравозаў, з горада — сірэны заводаў, аўтамабіляў, людскія крыкі. Адным словам, пакрыху ўсталёўваўся звыклы гарадскі гул, які потым будзе стаяць увесь дзень і ў водгаласе якога пасля не разбярэш, што гудзе.

Насустрач Алесю ішлі ўжо і людзі — найбольш беднага саслоўя. Мабыць, качагары, слесары, падсобныя рабочыя, а то і дробныя служачыя, а з жанчын — прыбіральшчыцы, кухаркі. Твары ў шмат каго былі нявыспаныя, нясвежыя, заклапочаныя. На яго не зважалі, як на шмат каго не зважалі, бо і ён для іх быў такі ж выпадковы падарожны.

Ідучы без пэўнай мэты, Алесь апынуўся каля Універсітэцкага пляца. Даўно ўжо цар Мікалай I зачыніў той славуты стары, з 1579 года, універсітэт — дарэчы, старэйшую вышэйшую навучальную ўстанову Расійскай імперыі,— але назва старая ўцалела. Бог ведае чаму, але Алеся сюды заўжды вабіла.

Можа, хацеў зірнуць на шаноўны будынак, можа,

цягнула кінуць позірк на чыгуннага Мураўёва, які стаяў на пляцы, падпёршыся кіёчкам, і — мёртвы — па-ранейшаму пільна пазіраў на Вільню і край. І на цябе таксама. Здаецца, не ты, а ён лавіў твой позірк і прыжмурваў вочы. Спачатку хацелася ўбачыць, што ў тых генералавых вачах, які выславіўся не ў перамозе над чужым ворагам, а на крыві, слёзах сумленных людзей? І што якраз цяпер?! Раскаянне? Спагада?

Шмат хто казаў: доўга пазіраць у тыя чыгунныя вочы няможна. У іх застыла пагарда, злосць, пагроза, і гэтая застыласць ледзяніла душу, паралізоўвала волю.

Але цяпер, здаецца, статуя ссутулілася. Можа, і ад Алесевай усмешкі.

Алесь успомніў адзін смелы ўчынак, калі пацешыліся з Мураўёва. Як паставілі гэты помнік, нехта ўночы вымазаў яго воўчым тлушчам — раніцай з усёй Вільні збегліся сабакі і нарабілі брэху...

«Божа, чаму ты такі крыўдзіцель? — падумаў.— Помнік душыцелю, вешацелю лепшых сыноў даўно ўжо стаіць, а помніка ахвяры няма і невядома, калі яго паставяць...»

## 2

— Во спакутаваўся! — цiснучы руку, бойка сустрэў Алеся Васілевіч.— А схуднеў! Вочы запалі! Скроні пасівелі!

Алесь быў збіты з панталыку. Па-першае, перад гэтым саромеўся заходзіць у рэдакцыю (нямала часу патаптаўся вакол будынка, перш чым зайсці сюды), а Сямён атакаваў яго гэтак знянацку, па-другое, у пакоі сядзеў франтаваты дзядзька, які слухаў і з іроніяй пасміхоўваўся. З іх абодвух. А Сямён — нізкі, Алесю па плячук, кучаравісты, у шэрым даўгаватым

сурдуце — не зважаў ні на што, гаварыў тое, што думаў. Ён такі — шчыры, эмацыянальны, без ніякіх хітрыкаў, можа, часамі і залішне ўжо непасрэдны,— быў заўжды.

— Ды распрапі ты, балаболка, чалавека, дай яму аддыхацца,— паўшчуваў яго франтаваты дзядзька.

— Распранайся,— Сямён пачаў сцягваць з яго паліто.— У нас, праўда, не зусім цёпла, бо беражом вугаль і дровы, але ты, як і кожны вясковы чалавек, не павінен баяцца холаду...

І, як толькі ён распрануўся, прычасаўся, павалок яго з пакоя.

У пакоі, куды неўзабаве падштурхнуў яго Сямён, сядзела двое мужчын. Адзін бландзін, у сціплым, але акуратным шэрым гарнітурчыку, з невялікімі вусікамі, гадоў дваццаці пяці, гэта, відаць, і быў Янка Купала (Янку Купалу на той час было ўжо крышку за трыццаць), другі мужчына быў гадоў пяцідзесяці, мажнаваты, з буйнымі вусамі.

— Выбачайце, дзядзька Янка. Я прывёў госця, Алеся Нямкевіча,— сказаў Васілевіч.

— Прыемна,— прамовіў маладзейшы, устаў, падаў руку. Зірнуўшы зблізку, Алесь убачыў: у Янкі Купалы амаль карыя вочы, узмужалы, хітравата-насмешлівы позірк.— Янка. А гэта,— кіўнуў на старэйшага,— дарагі наш Ігнат Буйніцкі.

Той гэтаксама падняўся і падаў Сямёну і Алесю цёплую руку.

— Яшчэ раз выбачайце,— папрасіў Сямён,— не будзем замінаць, зойдзем пазней.

— Пасядзіце з намі, калі ласка,— грудным голасам прамовіў Янка Купала.— Замінаць нам вы не будзеце. Бо мы гаворым не толькі пра сваё, а пра наша агульнае. Вось дзядзька Ігнат хоча туды пад май даць такую аб'яву...— узяў са стала паперку, падаў Сямёну,— а што датычыць вас, дарагі Алесю, дык

працуйце. Я веру Сямёнавай атэстацыі. Сямён пакажа вам ваша месца, дасць вам работу. А пагаварыць яшчэ пагаворым не раз.... Жыць вам у Вільні будзе нялёгка, дык прыйдзецца, можа, знайсці яшчэ які і пабочны заробак... Калі не памогуць вам знайсці яго вашы сябры, дык звяртайцеся, можа, памагу яго знайсці я...

— Дзякую,— схіліў галаву Алесь.

— Калі ласка,— усміхнуўся той. І ў яго вачах бліснуў ужо не ўсмешліва-гарэзны ці перасцерагальна-пільны, як Алесю здавалася напачатку, а спрыяльны позірк. Адчувалася: гэты бландзін-прыгажун эмацыянальны, але стрыманы, а то нават і сарамлівы чалавек.— Выбачайце, Алесю, вы з каталікаў?

— У нас, у прыналібацкім краі, амаль усе каталікі. Але я з праваслаўнай вёскі,— адказаў Алесь.— У праваслаўе мы трапілі пасля 1863—1864 гадоў...

— Дык ваша вёска моліцца на ўсход сонца, а ўсе астатнія вакол — на заход? — усміхнуўся Купала.

— Не. І ў нас, і ў іншых вёсках амаль усе сяляне лічаць сябе «тутэйшымі»...

— Дзякуй богу, калі так! — прамовіў Купала.— Бо нам з дзядзькам Ігнатам, на жаль, шмат дзе і тут, у Вільні, гэтаксама прыходзілася бачыць якраз адваротнае. Занепакоены, я нават думаю напісаць і надрукаваць пра гэта спецыяльны артыкул... Як, на ваш погляд, вось такія думкі? — Ён узяў са стала лісток і пачаў чытаць з яго: — «Апрача палітычнай і эканамічнай залежнасці, была і другая прычына, асляпіўшая светапогляд беларуса,— гэта рэлігійная нязгода двух хрысціянскіх абрадаў у нашым краі: каталіцтва і праваслаўя. Гэтыя дзве царквы — заходняя і ўсходняя, ведучы вечную спрэчку паміж сабою, раздзяляюць наш ядыны народ на дзве часці, адных і тых жа дзяцей сваёй маткі-зямлі водзяць паміж сабой, даводзячы нават часта да бойкі за святы знак

хрысціянства — крыж... Гэта змаганне дзвюх вер не толькі дзеліць беларусаў на дзве часці па рэлігіі, але, самае важнае, забівае ў іх свядомасць і пачуццё нацыянальнай еднасці. Беларусу-каталіку ўгаварваюць, што раз ён каталік, то ён — паляк, і не павінны братацца з тым, хто іншай веры; беларусу-праваслаўнаму кажуць, што раз ён праваслаўны, то ён — расіец, і каталіка-беларуса павінен сцерагчыся, бо ён — паляк. І што з гэтага выходзіць? Расце нязгода, расце нянавісць — рэчы, нікому не патрэбныя, апрача хіба ворагам нашага народа...» [1].

— Дакладна ўсё і слушна,— як Купала скончыў чытаць, першы загаварыў Сямён.— Такі артыкул, дзядзька Янка, трэба мусова надрукаваць. Ён вельмі своечасовы, патрэбны.

— Добра, Сямён. Надрукуем,— усміхнуўся Купала. Зірнуў на Алеся.— Як жывуць налібачане? Пра што іх найбольшы клопат?

— Пра зямлю,— адказаў Алесь.— Як і ўсюды, мусіць.

— Надта не паверылі, што Сталыпін ашчаслівіць?

— Не. У нас мала хто пайшоў на хутар, узяў водруб.[2] Вельмі не асмеліліся лезці ў пятлю пазямельнага банка, браць крэдыты. Як не кінулася-рынулася шмат і ў Сібір.

— Сталыпін хацеў суцішыць вясковы люд, але не суцішыў,— пахітаў галавою Купала.— Багатыя пабагацелі, а бедныя засталіся беднымі. Але вёска разварушылася. Многія ўжо не вераць у салодкія абяцанкі, бачаць несправядлівасць... Нам трэба вель-

---

[1] Артыкул Янкі Купалы «Вера і нацыянальнасць» надрукаваны ў «Нашай ніве», 1914, № 27 пад подпісам: І. Л., а таксама — у Зборы твораў, 1976, т. 7, с. 212.

[2] Селянін пры водрубным надзеле не пераносіў сядзібу на ўчастак, а жыў у вёсцы.

мі пільна сачыць, добра ведаць, што робіцца ў вёсцы, чаго хоча селянін. Бо ў вёсках — беларускі люд [1], наш чытач. Горад наш іншамоўны [2]. Чужародны, як кажуць.

— І яшчэ ў апошні час вельмі пра вайну загаварылі...

— Порахам папраўдзе вельмі запахла...— уздыхнуў Купала.— І ў Пецярбурзе, і тут, у Вільні, таксама пра яе шмат гавораць. І калі вайна ўсім страшная, дык нам удвая. Калі нехта можа спадзявацца, што ўліха будзе ўбаку, дык мы, на жаль, на такое спадзявацца не можам... Зямлі нашай вайна не абміне, як ніколі не абмінала... Бо нам бог чамусьці вызначыў жыць на скрыжаванні ваенных дарог...— замаўчаў, падумаў.— Ну, а «Нашу ніву» ў вас чытаюць? Вераць ёй? Ці абыякавыя?

— Чытаюць, але не ўсе...— прызнаўся Алесь.— Таму...

— Ясна,— усміхнуўся Купала.— Ну што ж, Алесю, памагайце і вы змагацца за розум і душу кожнага нашага чалавека...

Як адыходзіліся, з ветлівасцю зірнуў Алесю ў вочы і Ігнат Буйніцкі, што маўчаў увесь час. Яго з тэатрам і хорам Алесь бачыў у Нясвіжы там пазалетась, але цяпер адразу не пазнаў. Відаць, адразу ж пазнаў бы ў танцы. Буйніцкі танцаваў адмыслова — шпарка, агніста, самааддана. Як і напісана ў Купалавых радках:

---

[1] На 1.1.1913 года ў Беларусі (у сучасных межах) у гарадах жыло 990,0 тысяч чалавек (14 %), па вёсках — 5909,0 (86 %). «Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя». БелСЭ, 1981, т. 4, с. 9.

[2] Паводле перапісу 1897 года ў Беларусі (у сучасных межах) найбольшы працэнт беларусаў у параўнанні з Мінскам, Гродна, Віцебскам быў у Магілёве і складаў 30 %.

Важна рэй Ігнат Буйніцкі
У танцах нашых водзіць,
Аж здаецца — усё чыста
Хадыром з ім ходзіць.

Ці «Мяцеліца», ці «Юрка»,
«Мельнік» ці «Антошка» —
Усё ў яго сыходзіць гладка,
Не змыліць ні трошка.

Пад дуду і пад цымбалы
Топне, прыспявае...
Сцеражыцеся, ўсе людзі:
Беларус гуляе!

Алесь і Сямён выйшлі з пакоя.

— «Збіраю аб'язную беларускую трупу,— запыніўшыся, пачаў чытаць Сямён запіску ўголас.— Хто хоча далучыцца да яе, прашу ў беларускую кнігарню (Вільня, Завальная, 7) на маё імя паведаміць. Ад артыстаў вымагаецца, каб мелі добры беларускі акцэнт у мове, знялі ўжо сцэну, маглі спяваць і танцаваць на сцэне. Ігнат Буйніцкі». Во, браце, пан! Паболей бы нам такіх паноў! Маёнтак свой прадаў, у даўгі залез, а свой тэатр і хор падымае! Грошай няма, улады забараняюць гастролі, баючыся папулярнасці гэтага тэатра і хору, а Буйніцкі ўсё роўна не здаецца! Во дзе прыклад для самаахвярнага служэння мастацтву, народу!

— На жаль, мала ў нас такіх паноў, дваран,— сказаў Алесь.— Усё больш абыякавыя ці фанабэрыстыя, непрыяцелі.

— Чаму — былі, ёсць і талковыя. Вось Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч, Каліноўскі. Вось Альгерд Абуховіч. Гэты адмовіўся ад багатага маёнтка, ад сям'і, жыў на свой заробак, пісаў, перакладаў на родную з рускай, польскай, французскай, італьянскай, англійскай, нямецкай і іспанскай моў... Кажуць, ён

перакладаў «Фаўст» Гётэ, «Разбойнікі» Шылера, некаторыя вершы Гюго, Байрана, Дантэ, Пушкіна, Лермантава, Адама Міцкевіча... Можа, усё гэта калі і будзе выдадзена. Бо гэта вельмі трэба — каб паказаць, што і наша мова гнуткая, і на ёй можа добра гучаць сусветная класіка... А што да Янкі Купалы і Ігната Буйніцкага, дык мы, можа, толькі калісьці, праз стагоддзе якое, убачым ды ацэнім, што гэта за асобы, што яны зрабілі...

Яны запыніліся, паўз іх, усміхнуўшыся, прайшоў чалавек, відаць, аўтар газеты, але Сямён не пазважаў, лапатаў як малатарня.

— Калі Мураўёў задушыў паўстанне Каліноўскага, усё тут нібы амярцвела. Шмат каго пакаралі смерцю, саслалі ў Сібір, змусілі эміграваць, замаўчаць ці расчаравацца. Падавалі голас толькі вучоныя, што запісвалі фальклор, мову як нечы дыялект. Мастацкіх кніжак не было, лічы, трыццаць гадоў. Тыя, што пазней выйшлі (а іх на пачатак нашага стагоддзя заявілася не больш дзесяці), друкаваліся за межамі краю і не ўсе сюды траплялі. Карацей, аж праз сорак гадоў акрыяла культура, дух, высакароднасць. А тэатр... Што раней было? Невялічкія аматарскія групкі ў канцы таго і ў пачатку гэтага стагоддзя! А цяпер? Цяпер мы маем культурны тэатр!

«Кожны чалавек павінен за сваё жыццё пасадзіць дрэўца...— слухаючы Сямёна, падумаў Алесь.— Хто яго садзіць вельмі позна, хто зусім не садзіць. Але знаходзяцца людзі, што робяць усё змоладу і робяць добра. Купала, Колас, Багдановіч, Буйніцкі — такія... Ім, можа, хтосьці зверху напрарочыў выключную ролю, узваліўшы на іхнія плечы важкую ношу... І нясуць яны яе горда. Вось у каго трэба вучыцца, як жыць і працаваць!»

— Праўда, у Буйніцкага своеасаблівы лёс,— не сціхаў Сямён.— Спачатку ён мастачыў толькі ў сва-

ім маёнтку. Можа, быў бы ў ім і ўсё сваё жыццё, як і шмат хто з народных талентаў-самародкаў. Шмат яму памог Алесь Бурбіс (помніш, я летась знаёміў з ім цябе ў «Беларускай хатцы»?). Ён, як вярнуўся з турмы, загарэўся зладзіць тут, у Вільні, тэатр і хор. Запрашаў у трупу ўсіх, хто хоча. І я тады нават пад настрой запісаўся, і нас у хоры было не меней ста чалавек...

Алесь слухаў і ўсміхаўся: па-першае, Сямён не меў вялікага дару да спеваў, але запісаўся ў хор па шчырым парыве, а па-другое, ён ужо расказваў пра ўсё гэта. Але перабіваць Сямёна не варта было. Ён датуль не супакоіцца, пакуль не нагаворыцца.

— Як цяпер помню, першая наша вечарынка была 12 лютага 1910 года...— Сямёнаў твар аж свяціўся ад узрушэння.— Сядзеў я ў зале, і білі мяне дрыжыкі: ці не асвішчуць гледачы нашых акцёраў і ўсё наша разам з імі? Паказалі спектакль «Па рэвізіі» — няблага, слухалі, ляскалі ў ладкі, праспявалі «Чаму ж мне не пець?», «Ох ты, дуб!», «Прыляцелі гусі» — добра. А як выступіў са сваёю трупаю Буйніцкі — а яго нехта, лічы, выпадкова запрасіў на вечарынку,— дык зала аж ашалела ад яго віхурных танцаў, меладычных песень, змушала па тры-чатыры разы танцаваць, крычала: «Брава! Біс! Брава, беларусы!» Павер, далібог, я не выцерпеў, заплакаў. І іншыя заплакалі...— і цяпер у Сямёна заблішчэлі вочы.— Ведаеш, аж у душы нешта перавярнулася: і мы ж людзі! І мы нешта ўмеем! І тое наша «нешта» — людское! А на другой вечарынцы, што была праз дзён дзесяць, калі ўпершыню заспявалі «А хто там ідзе?», дык уся паўнюткая зала паднялася, заляскала, а пасля бясконца змушала бісаваць актораў Буйніцкага... Вось тады мы і сказалі Буйніцкаму: вы, дзядзька Ігнаце, мусіце ўзяць усё ў свае рукі... Стварайце вялікі тэатр і едзьце з ім па ўсім краі! Бо,

калі ўлічыць, якія ў нас грамацеі[1], хто жыве ў горадзе,— дык вы са сваім тэатрам цяпер зробіце больш, чым мы праз газету... Але і ўлады былі не дурні, не хацелі даваць дазвол на такія вандроўкі. Адчувалі, што можа зрабіць гэты тэатр... Толькі саліднасць дзядзькі Ігната ды яго ўменне гаварыць з начальствам памаглі вырваць такі дазвол у канцы лета 1910 — ездзіць па гарадах і мястэчках. Я ўжо, брат, працаваў у «Нашай ніве», дык сам чытаў, як з захапленнем пісалі да нас пра канцэрты, спектаклі Буйніцкага з Полацка, Дзісны, Свянцян, Пастаў, Капыля, Нясвіжа, Клецка, Мінска, Вілейкі, Смаргоні, Ашмян... Зняважлівыя галасы патаналі ў хоры захаплення... Праўда, яны, гэтыя галасы, зрабілі сваё. У 1912 годзе ўлады не далі дазволу на новыя вандроўкі. Улады ўбачылі: гэтыя вандроўкі — не забава, не пацеха, а рэвалюцыя. Культурная рэвалюцыя. Пазалетась Буйніцкі выступіў толькі ў Пецярбурзе, а летась — у Варшаве... Каб былі грошы, каб улады не заміналі, дык дзядзька Ігнат вунь бы як яшчэ разварушыў наш люд! Бо песня, танец, тэатр кожнага бяруць за душу! Нават самага непісьменнага і несвядомага... Дасць бог, у маі, можа, зноў пачнецца ўсё гэта з новаю сілаю... Во ў чыіх руках павінен быць наш тэатр! Вось для каго! Для народа!

Скончыўшы расказваць, Сямён прыгледзеўся да Алесевых вачэй, да ўсмешкі, а пасля і сам з няёмкасцю ўсміхнуўся:

— Ды я ж табе, змей, расказваў ужо пра гэта! А ты маўчыш...

— Пра такое прыемна і яшчэ пачуць...

— Ладна,— крышку сумеўся Васілевіч.— Да працы прыступіш заўтра, будзеш на першым часе апра-

---

[1] Паводле перапісу 1897 года 68 % насельнікаў Беларусі былі непісьменныя.

цоўваць лісты, карэспандэнцыі нашых аўтараў. А сёння хадзем пагуляем па Вільні. Пасля паедзем да мяне. Будзеш жыць у нас.

— Табе самому няма дзе павярнуцца, а ты яшчэ і мяне хочаш уціснуць у свой церам-церамок...— усміхнуўся Алесь.

— Памесцімся. У мяне табе будзе ўтульней, чым у Мухавых пакоях...

— Як ён цяпер жыве? — усміхнуўся Алесь.

— Анічога. Круглее і шчаслівее.

— Сварыцеся ўсё па-ранейшаму?

— А пайшоў ён к чорту са сваімі хітрыкамі! — Сямён зноў узбудзіўся. Толькі цяпер ужо загневаўся.— З усімі хоча быць добры. І з уладаю, і з бунтарамі. Са мною і з Лідскім.

Неўзабаве, калі апрануліся і выйшлі з рэдакцыі на сонечны цёплы, са шчодрым капяжом двор, Сямён раззлаваўся яшчэ болей і на Муху, і на Лідскага. Мусіць, яму добра ад тых за нешта дасталося. Тыя — вялікія хітруны. Умеюць паслухаць, памаўчаць, выбраць спрыяльную хвіліну і ўзяць верх адным словам.

— Ну, скажы, за што не паладзілі? — зноў усміхнуўся Алесь.

— Ды з-за вёскі...— страсна адказаў Сямён.— Скажу табе шчыра. З усіх вас мне некалі найбольш падабаўся Лідскі. Нават больш — я любіў яго. Вясёлы, разумны, разважлівы, смелы... Мы тут з ім шмат перагаварылі. Пра жыццё, пра гісторыю, пра вялікія і малыя народы, пра найвышэйшую мэту чалавецтва, пра ролю культуры, літаратуры ўрэшце... Але гаварылі-гаварылі і, як ты кажаш, не паладзілі. Я лічу: нам трэба найперш трымацца за вёску. Там — наша душа, моц. Праўда, за вёску трымаюцца і сацыялісты-рэвалюцыянеры. Я не за іх (не прымаю іхняй цягі да тэрору, погляду на нацыянальнае пытанне).

Я — грамадовец [1]. Я — за сваю праграму. Я, паўтару, веру найбольш у нашых сялян і ў іхніх сыноў-інтэлігентаў. А Юры смяецца з мяне: мужык ёсць мужык, на нешта высакароднае, самаахвярнае, вялікае не здатны. Ён — усяго толькі цяглавая жывёліна...

— Няўжо ў яго заявілася такая фанабэрыя? — здзівіўся Алесь.— Ён жа сам з мястэчка! З пашанаю раней гаварыў пра сялян!

— Ён хітры. У яго і цяпер на вуснах мёд: братэрства, роўнасць, воля...

— Нічога не разумею... — прызнаўся Алесь.

— І я доўга не разумеў,— пацішэў, але не перастаў гневацца Сямён.— А нядаўна здагадаўся. Ён вяшчае святыя пачуцці не шчыра, а з хітрыкаю. Ён усыпляе імі. Хоча, каб мы сталі рахманыя. Для чаго? Ды каб узяць нас у свае рукі...

— Перабольшваеш ты штосьці, Сямён,— не згадзіўся Алесь.

— Наадварот, яшчэ мала адчуваю ўсёй небяспекі... — запалiста адказаў той.— Лідскі хоча таго, чаго мы не ведаем. Ён нібы за ўсіх, за ўвесь чалавечы род. Але на самай справе ён толькі за сябе.

— Ды што ў яго за мара? — усміхнуўся Алесь.— З якою ён партыяй?

— Ён — нібы беспартыйны. Ён — агульначалавек, агульназвер з лісы, ваўка і зайца. «Што ж,— гаварыў яму,— дбаць пра ўсіхнае шчасце — высакародна. Але як яго дабіцца?» — «Трэба,— адказвае,— адна для ўсіх рэлігія, культура, мова, эканоміка».— «Добра,— адказваю.— Цяпер у чалавечым родзе ёсць бедныя і

---

[1] Маецца на ўвазе Беларуская сацыялістычная грамада — «дробнабуржуазная нацыянальная партыя леванародніцкага кірунку ў 1902—1918 гадах». («Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя», т. 1, с. 102.)

багатыя, светлыя душы і цемрашалы, тыраны і заняволеныя. Як служыць усім? Як іх усіх зрабіць шчаслівымі. Багацеям і тыранам адмаўляюся спрыяць. Хачу служыць толькі бедным, заняволеным. Да такой службы мяне ўпаўнаважваюць тыя ж вёска, сяляне, бацькі. А хто даручае табе выступаць ад усіхнага імя? І селянін, і пан, і цар? Дык адкажы, будзь ласкавы: ці не дабіваешся ты, каб нейкі тыран стаў усіхным тыранам, а нас меў за сваіх парабкаў?» Думаеш, толкам мне адказаў на гэта? Не. Напускаў туману, папікаў мяне ў цемнаце, а пасля зларадна засмяяўся: ну, ідзі-ідзі са сваімі мужычкамі — мужыком і застанешся...

— Такой бяды,— прамовіў Алесь.— Няхай ён прапаведуе сваё, а мы будзем рабіць сваё. Час сам пакажа, што будзе з гэтага...

— Дзівак ты, далібог! — Сямён хітнуў галавою, аж адчайна ўсміхнуўся.— Ды ён жа ганьбіць нас, вёску і сялян. Не дае ўзрасці нашай справе. Дык мы што — дзякаваць за гэта яму павінны? Разам з чарнасоценцамі? За тое, што яны не хочуць, каб абудзіліся здаровыя народныя сілы?

— А што Муха? — запытаў Алесь.— Ён заадно з Лідскім?

— Той,— адмысловы сялянскі сын,— схмурыўся Сямён.— Выбраўся з вёскі, выбіўся ў людзі — махнуў на ўсё рукою. Абы яму сыта было. Мы часта кажам: трэба будзіць селяніна. А ці такі ўжо сонны, абыякавы наш чалавек?! Ды ён жа з-за працы, бяспраўя, беззямелля ды пакут не бачыць свету! Не, браце! Трэба раскатурхваць такіх сялянскіх сыноў, як Муха. Адукаваных, разумных, але хітрых, асцярожных. Яны ўсё разумеюць, умеюць мудра і прыгожа гаварыць, але ні кропелькі не дбаюць пра тое, пра што трэба дбаць...— Уздыхнуў.— Але паспрабуй ты змусіць яго

зняць з душы замок, не служыць царскім аднадзёнкам-прадпісанням, а быць мужным, мець у сэрцы хоць кропельку агню і падбаць пра сваіх жа бацькоў!

Сямён жыў на ўскраіне Вільні. Лічы, у вёсцы. Меў у драўлянай хаце чыгуначнага служачага адзін пакой.

Прыйшлі яны сюды ўжо ўвечар, калі пахадзілі па Вільні, пабылі ў «Беларускай кнігарні», нагаварыліся ўдосталь. Сямён, засумаваўшы за гэтую зіму па цярплівым слухачу, лічы, замарыў Алеся сваёю страснаю гамонкаю. Ён лапатаў без перадыху, як млын. Расказваў пра тое, чаго на самай справе хоча Лідскі. Казаў, што ён нямала прачытаў кніг пра такіх, як той, дык ужо добра ведае іхнія мары. Амаль усё, што гаварыў, было разумнае, цікавае, але амаль і ўсё палемічнае, яшчэ добра неасэнсаванае. У Сямёнавай галаве, колькі разоў падумаў сам сабе Алесь, калі не хаос, дык вялізны неспакой, вялізная неўладкаванасць думак. І так Сямён, здаецца, будзе пакутаваць да той часіны, пакуль не знойдзе такога разумнага чалавека, што здолее не толькі слухаць, спрачацца, гаварыць сваё, але адным махам зрыне ўсе яго канцэпцыі, вылучыць сваю, магутную і павядзе, як цяля на вяровачцы, за сабою. Здаецца, Сямён чакае такой асобы. Не дачакаецца — відаць, і далей будзе гэткі з «завіхрэннямі», як кажа Муха. Хоць, здаецца, заадно ў Сямёна ёсць і боязь той магнетычнай асобы.

Цяпер, увечар, якраз браўся марозік. Спягваў тонкаю скібінай талую ваду (а яе ўжо даволі шмат стаяла ў лагчынках), падшурхваў палягчэлы, зярністы снег.

— Вясна! — нібы ўрэшце прытаміўшыся ад сваёй гамонкі, заўважыў прыроду, змены ў ёй Сямён.— Праўда, тут, у горадзе, яна прыходзіць неяк непрыкметна. А ў вёсцы — шумна, весела! Колькі вады, ра-

дасці дзецям! Жыву ў горадзе, а душа там, у вёсцы! Хоць, праўда, паеду ў вёску — сумую без горада...

Алесь тупаў моўчкі. Каторую часіну, як Сямён не толькі папрасіў, але загадаў, што зойдуць да яго і ён будзе жыць у іх, пакутаваў: будзе ў цяжар Васілевічавай сям'і.

У пакойчыку, што займаў Сямён, была ўся яго сям'я — жонка, дзеці. Жонка, Таня, невысокая, тоненькая, яшчэ зусім маладая, зірнула на іх абодвух неяк жаласна, а дзеці — малыя, ад чатырох гадоў да года, адно пад адно — сыпанулі, як гарох, да Сямёна, абшчапілі яго за ногі, відаць, за дзень засумаваўшы ў гэтай клетцы без свежага чалавека, без бацькі.

Сямёнаў сямейны лёс быў незвычайны, як і ўсё яго жыццё. Калі ён вярнуўся з турмы і працаваў ужо ў Вільні, аднойчы сустрэў маладзенькае заплаканае дзяўчо. Яно стаяла каля поўнай пасля дажджу Віліі і плакала. Падарожныя гараджане міналі яго, не зважаючы на горкі плач, ён жа запыніўся, распытаў дзяўчыну пра яе гора. Уведаў: яе, семнаццацігадовую пакаёўку, сірату, спакусіў гаспадар — багаты віленскі банкір. Але па загадзе разгневанай жонкі выгнаў з дому, як кажуць, голую і галодную. Сямён, пашкадаваўшы, прывёў яе на сваю кватэру, змусіў жыць у ёй, змусіў дазволіць узяць на сябе чужы грэх, усынавіў чужое дзіця, а пазней, палюбаваўшыся, знайшоў з ёю яшчэ дзве дзяўчынкі. У свае дваццаць гадоў з маленечкім хвосцікам Таня была ўжо маці траіх дзяцей. Спачатку яна была радая, што Сямён выратаваў яе ад смерці, абараніў яе гонар, а пазней, акрыяўшы, адчуўшы сябе гаспадыняю, уладаркаю малагаспадарлівага, але дабрадушнага мужа, пачала папікаць, грызці пацiху яго — за беднасць, за тое, што іншыя яго аднагодкі, той жа Муха ды Лідскі жывуць як паны. Гэтыя папрокі, а яшчэ болей тое, што Таня не разумела ні Сямёнавых думак, ні яго работы ў га-

зеце, здаецца, змусілі яго адумацца, жахнуцца: ён зрабіў неабдуманы крок. Непісьменная, малой культуры Таня — не памочніца яму. Але і пакінуць яе з траімі дзецьмі ён не мог. «Кіне ён, дэспат, яе ўсё роўна,— гаварыў Алесю аднойчы летась Муха,— яго дабрыні яму на шмат не хапае... Такія ўжо баламуты гэтыя людзі — з завіхрэннямі... Пакутуюць самі і змушаюць пакутаваць іншых».

— Дайце распрануцца мне, вараняты... — усміхнуўся Сямён, гладзячы па галоўках сына і дачок. Меншанькую, гадовую, узяў на рукі. Тая, радуючыся, пачала чамусьці турзаць за бацькаў вялікі, з бародавачкаю на левай наздрыне нос. Ён жа прыклаў вусны да яе лобіка.— Таня, ды яна ж з тэмператураю! Ты клікала доктара?

— За што? — тая няветліва зірнула на яго. У яе глыбокіх чорных вачах стаяў нязводны сум.

«Якая яна худая!— здзівіўся Алесь.— Як быліначка!»

Сямён зірнуў з незадаволенасцю на жонку, нібы гаворачы позіркам: нашто ж ты так ляпаеш пры чужым чалавеку? Але тая не сумелася. Насупілася, седзячы на ложку ды апусціўшы на калені тонкія худыя рукі.

— Выклікайце доктара — я маю заплаціць... — прамовіў Алесь.

— Дасць бог, усё будзе добра,— сказаў Сямён, спускаючы долу дачку ды запрашаючы яго распрануцца.— А ты, Таня, дай нам, калі ласка, чаёчку.

Тая зірнула на яго і са злосцю, і са скаргаю. Алесь, распранаючыся, адчуў: дарэмна ён паддаўся на Сямёнавы ўгаворы, не варта было яму сюды ісці, як не трэба плішчыцца сюды жыць. Трэба шукаць сабе кватэру. А плату на яе, сабе на пражытак шукаць у пабочных заробках, як і гаварыў у рэдакцыі Янка Купала.

Дзе ж тут жыць? Метры тры ў шырыню, метры чатыры ў даўжыню пакойчык. Ложак, куфэрчык, шафка на кнігі, стол, два крэслы абапал яго. Лічы, і няма вольнага месца.

— Таня, чаёчку... — паўтарыў Сямён.

— У нас жа ні цукру, ні булкі, ні масла няма... — адказала тая.— Думала, што куплю, але ж, кажу, гаспадыня забрала апошнія грошы. Драбок цукру быў, але Волька ўлезла ў куфар, выцягнула...

— Ладна,— махнуў рукою Сямён.— Давай і без цукру. Гэта зашыкоўна — піць чай з булкаю, з маслам, з цукрам. У нас цукеркі ёсць.

Алесь якраз і трымаў пакецік з гасцінцам. Разгарнуў яго і паднёс да самай меншай Сямёнавай дачкі — тая ўзяла верхнюю цукерку, серадольшая дачка дастала дзве цукеркі, а самы большы, хлапчук, запусціў руку ў пакецік і выцягнуў адтуль жменьку цукерак. Калі ж Алесь паднёс пакецік да гаспадыні, тая ні ўсміхнулася, ні падзякавала, толькі зірнула на яго больш прыязна, узяла пакецік нібы з неахвотаю. А ён шчыра пашкадаваў, што пакінуў на вакзале ў багажнай каморы клунак: там жа быў бохан хлеба, аполец сала. Паклаў бы зараз на стол, няхай паласаваліся б Таня з дзецьмі.

Таня паклала цукеркі на стол,— пайшла з пакоя; Сямён і Алесь прыселі за сталом і замоўклі ў няёмкасці. Абодва ўсё добра адчувалі, разумелі, ды не ведалі, як пра ўсё гэта сказаць. Але каб парушыць няёмкасць, абодва павярнулі сваю ўвагу не адзін на аднаго, а на дзяцей. Алесь як халасцяк быў крышку дзікаваты з імі, не ведаў добра, як з імі знацца, а Сямён, чамусьці раптоўна пачырванелы, весела, можа, нават крышку ненатуральна жвава распачаў разумную, просценькую гамонку. І яны ткнуліся да яго калень, наперабой адказвалі на яго запытанні: якое

сёння было сонца, як купаліся ў лужынках вераб'і, як Дзед Мароз пайшоў сустракаць красуню Вясну.

Неўзабаве Таня прынесла чайнік, кубкі, сподачкі. Яны, мужчыны і дзеці, папілі чаю. Дзеці з цукеркамі, а яны так — з моцнаю заваркаю.

— Смачна? — стараючыся не пазіраць ні на Алеся, ні на жонку, дапытваўся ў дзяцей Сямён.

Тыя ківалі галовамі.

— Ого, яшчэ як смачна! — падхвальваў Сямён.— А заўтра мы яшчэ добра і пад'едзімо! Чаго? Не скажу. Самі пабачыце.

Пасля Сямён і Алесь амаль моўчкі, пераключыўшы ўсю ўвагу на іншае, пагулялі ў шахматы, але абодва сёння гулялі нядбала, з памылкамі. Абодва стараліся дароўваць адзін аднаму памылкі, і, здаецца, гэтае дараванне было не зусім шчырае. Каб зберагчы паліва ды не парушаць гаспадыні спакой, леглі спаць досыць рана. Таня з дзецьмі прымасцілася на ложку — з меншаю дачкою ў нагах старэйшых дзяцей, а Сямён і Алесь леглі на падлозе, на старым матрацы, засланым белым кужэльным прасцірадлам. Накрыліся адной ватняй, пацягнутай чырвоным матэрыялам коўдраю.

— Хоць на падлозе, дружа, але ў Вільні! — пажартаваў Сямён.— Некалі, чорт пабяры, будзем спаць і на пярынах!

— Што — некалі! — з іроніяю адазвалася жонка.— Хутка, можа, зноў будзеш спаць на турэмных нарах!

— Колькі яшчэ турмою палохаць! — не згадзіўся Сямён.— Не баімся мы ўжо яе... Бо ўсіх у турму не перасадзяць...

«Цяжка Тані з Сямёнам...— паразважыў Алесь.— Ён фантазёр, рамантык, мысліцель. Хоча нешта зрабіць у гісторыі, этнаграфіі, літаратуры, філасофіі. А Тані, дзецям ён трэба найперш як гаспадар. А які

з яго гаспадар? Ён умее мысліць, ён мае ідэі, ідэал, а не ўмее здабываць грошы... Сам то ён, можа, неяк і перакідаўся б з вады на квас, але ж у яго сям'я... Можа, праўда, як кажа Муха, не варта яму было праяўляць такую высакароднасць да Тані? Звязаў жа ён сябе па руках і нагах. Але ж і цяжка ўявіць яго без высакароднасці...»

3

Алесь ішоў да Мухаў з дзіўным пачуццём. Спачатку ён думаў: ніколі не пойдзе туды. Пазаўчора, ідучы з рэдакцыі, амаль нос у нос сутыкнуўся з Васілёвай жонкаю, Антанінай, кінуўся насустрач, як кажуць, аж расплыўся ва ўсмешцы, але тая, здаецца, прыкінулася, што не пазнала, і хуценька адышлася. Ён быў не тое што разгублены — анямелы. Усё ж разам столькі гадоў вучыліся, сябравалі, і раптам на табе: пабегла прэч, як ад гіены!

Даваў урокі дзецям Лемешава, а пасля ляжаў на канапцы ў пакойчыку, што знайшоў на ўскраіне Вільні, ашаломлены: яму не толькі не рады, ад яго ўцякаюць! Сябры! Пасля супакоіўся. Разважыў: Антаніна, канечне ж, збаялася. Добра сябраваць, калі ты ў пашане, але калі ты ў апале, дык знацца з такім небяспечна. Хоць Мухі даўнавата ўжо, як адчуваў, пераменіліся да яго. Хто ён? Вясковы, правінцыйны настаўнік. А Васіль? Васіль скончыў універсітэт у Маскве, на сённяшні дзень вядомы ў Вільні і ў краі гісторык-прафесар. Алесь, як і астатнія вясковыя настаўнікі, былыя сябры па семінарыі, цягнуўся ў Вільню, да Васіля, а ён імкнуўся да іншага — заводзіў знаёмствы, сяброўства з важнымі людзьмі губернскага праўлення, дваранскіх суполак, з купцамі, банкірамі, вучонымі, журналістамі,— і на іх, на такіх, як Алесь, глядзеў так, як глядзіць удачлівы шчаслівец

на далёкіх бедных родзічаў ці зусім непатрэбных яму знаёмых. Ды і Антаніна адваджвала яго ад дому — сваімі скаргамі, што ў іх заўсёды шмат гасцей, што Васіль прыахвоціўся да гарэлкі, што ім цяжка жыць, ледзь зводзяць канцы з канцамі. А можа, Мухі і не цураліся яго? Можа, Алесю было крыўдна, цяжка ад непрыемнасцей, якіх багата выпала яму за апошні час, дык і здавалася: не толькі Мухі, але і ўвесь свет супраць яго. Калі крыўдзяць, зневажаюць, караюць за тое, што найбольш табе дарагое, калі проста не шанцуе ў жыцці, дык, відаць, кожны тады крышку шкадуе сябе і недалюблівае шчасліўцаў.

Яшчэ раней ахаладнеў да Васіля Сямён. Ён не любіў, што ў Васіля, бадай, больш, чым у каго з іх, былых сяброў, цягі да багацця, заможнасці, сувязей ды ўлады. Ён трапіў пад тайфун таго, што прыйшло з Амерыкі ці з Еўропы, падхапіла шмат каго ў Расіі на пачатку новага стагоддзя. Васіль пачаў працаваць найбольш для кавалка хлеба. На першы погляд, гэта было нармальна. Як для ўсіх. Але паволі гэтая праца для кавалка хлеба змусіла Васіля дбаць пра найменшую трату сіл, сумлення. Ён пачаў падаць нізка маральна, як і шмат хто ў грамадстве. Ён, можа, і адчуваў гэта. Але не пакутаваў. Ён усяк апраўдваў сябе. Калі ж яго напікалі, крыўдаваў, злаваўся. Пазбягаў урэшце і знаходзіў сабе аднадумцаў. А іх, «высокапастаўленых хлопцаў», у яго было нямала, і сяброўствам з імі ён ганарыўся, хоць тое сяброўства доўга не бярог. Гналі каго прэч з высокай пасады — Васіль адразу ж ірваў з тым тое сяброўства, заводзіў новае — выгаднае, надзейнае.

Яго вучонасць, уменне паразважаць, пагаварыць — усё гэта было, мусіць, толькі ўласцівасцю інтэлігентаў, што ўмеюць думаць, прыгожа і мудра вяшчаць, але амаль ніколі не жывуць у зладзе са сваімі вяшчаннямі, бо баяцца страціць той кавалак хлеба,

свае сувязі, сяброўствы. І ў гэтай боязі могуць паказваць цуды прыстасаванства, цуды раўнадушнасці, а то нават і непрыязні да тых, хто жыве іначай — шчыра, сумленна. Часамі, праўда, і ў іх можа заныць сумленне, зайздрасць за тых, хто жыве бядней, але па законах высокай маралі і высокага абавязку, але ненадоўга. Ды яны пра гэта маўчаць, бо добра ведаюць склад чалавечага розуму: расказваеш пра сябе — шкодзіш сабе. Пахвальбе тваёй мала хто верыць, а вось самапрызнанню ці самазневажанню — з ахвотаю і з трыумфам. У гэтых людзей разлічаны кожны крок. Нават на некалькі гадоў наперад.

Так думаў пра Васіля Алесь. Можа, і памыляўся. Можа, Васіль быў іншы — мудрэйшы, болей зямны чалавек без лішняй рамантыкі ды дзёрзкасці.

Да трохпавярховага асабняка, дзе на другім паверсе яны, Мухі, займалі пяць пакояў, Васіль вярнуўся позна.

Пазваніў — дзверы адчыніла пакаёўка, маладзенькая дзяўчына Вандзя, родам з-пад Баранавіч. Высакаватая, стройная, але не худая, сарамлівая. Вось і цяпер лыпнула на яго смуглявымі вочкамі і апусціла позірк.

— Якая ты сёння файная! — ціха прамовіў ён, тулячы яе да сябе і шукаючы ўпартых дзявочых вуснаў. Як і раней, Вандзя пачала вызваляцца ад яго абдымкаў, адчуваючы пагрозу для сябе.— Ну чаго ты, дурненькая?! Я ж табе новую сукенку куплю, пазней замуж добра аддам...

— Пане Васілю... — вызвалялася і прасілася, не зважаючы на яго дакляраванні.— Ну не трэба... Я баюся... Пані Антаніна дома, госць тут... Ну пусціце, пане Васілю...

Сілком прытуліў, пацалаваў у самкнутыя вусны.

— Заўтра, калі пані Антаніна захоча паехаць да

краўчыхі, застанься дома,— прашаптаў.— Скажы, што забалела галава... Чуеш?

Вандзя, не адказаўшы, вырвалася. У яго ж дробна закалаціліся ад хвалявання рукі — ад дзявочай красы і адчування, што ён мог бы ўжо ці неўзабаве і зможа заўладаць ёю. Нідзе не дзенецца, не ўстоіць. Як не ўстояла і тая, ранейшая, цакаёўка.

Толькі павесіла Вандзя яго паліто і капялюш, як зайшла сюды жонка. Можа, і пачула нядаўнюю валтузню. Ён, стрымліваючы хваляванне і збянтэжанасць, пільна зірнуў ёй у вочы. Не, тыя былі спакойныя.

— Ну дзе ты так доўга бавішся? — запытала яна.— Алесь каторы ўжо час тут, чакае.

Ён не спяшаўся адказваць, нібы не бачыў, але кожнаю жылкаю адчуваў, як шмыгнула адгэтуль Вандзя, знёсшы з сабою маладую натхнёнасць.

— Ну прабач, дарагая,— прамовіў, абняў невысокую, але поўную жонку, не адчуваючы ад яе ніякага хвалявання.— О, ты ў новай сукенцы!

Антаніна дала яму свае поўныя спакойныя вусны, не парывіста, а звыкла адказала на яго пацалунак, павярнулася:

— Не вельмі нязграбная я ў ёй?

— Што ты, сукенка вельмі табе да твару. І стужкі, і каруначкі, і мой любімы блакітны колер...

— Я ж сёння без гарсэта, адчуваеш? — запытала яна і, відаць, пра самае галоўнае для сябе.— Цяпер ужо кідаюць насіць гарсэт з прамой планшэткай. Цяпер жывот вольны і нават крышку абазначаны. Не нязграбна?

— Выдатна! — усміхнуўся.— Хоць на баль!

— Маглі б некуды і з'ездзіць,— адказала з крыўдаю.— Каб ты не запрасіў госця. А так прыйдзецца змарнаваць увесь вечар, слухаць пра наракanні на свой лёс... Я ніяк не магу зразумець, нашто ён табе?..

— Хоць ён і няўдачнік, але хлопец кемны. Не зашкодзіць ведаць, пра што ён і як цяпер думае, чаго хоча, што яму ўдаецца. Разумееш?

— Пра сябе ты думаеш, а пра мяне ні кроплі,— паскардзілася.— І клопаты. І... Сёння хоць свяці вачыма: я ж пазнала ўчора яго, але адвярнулася...

— Чаго свяціць?! Прыкідвайся: нікога не бачыла, нічога не чула...

Паспакайнелая, Антаніна патупала з ім у гасцінную. Там, на канапе, засланай шыкоўным чырвонасінім пледам, сядзелі іхнія тры дачкі. Усе ў белых сукеначках, з белымі банцікамі. Старэйшая дачка была падобна на яго, на бацьку,— надта яго былі ў яе высокі лоб і глыбока запалыя блакітныя вочы, меншыя ўдаліся ў чарнявую Антаніну. І ў іх, як і ў маці, былі кірпатыя насы, пульхныя шчочкі ды такія ж выпуклыя чарнявыя вочы.

— Бачыш, якія ў мяне паненкі ўжо! — усміхнуўся ён, паджартаваў: — Калі яшчэ трохі пахаласцякуеш, дык можаш ужо і ў мяне знайсці нявесту! Юля — вучаніца, Надзі пяты годзік, Вользе — другі...

Госць, Алесь, высакаваты, худы і тонкі, з вялікімі залысінамі, не прыгажун, але і не нязграбны, падняўся з мяккага крэсла.

— Я сапраўды шмат што праспаў ужо! — усміхнуўся са збянтэжаннем.— А то і ўвогуле нічога яшчэ не дабіўся ў жыцці... А людзі як кажуць? Калі да дваццаці гадоў не вырас, да трыццаці не набраўся розуму, да сарака не жаніўся, да пяцідзесяці не разбагацеў, дык гані таго ў хлеў!

Васіль усміхнуўся. Не з адказу-прымаўкі (хоць ён гэтай прымаўкі яшчэ і не чуў), а з госцевага адзення. З суконнага чорнага не новага касцюма (гузікі на пінжаку былі розныя), з падрапаных наскоў чаравікаў (відаць, недзе спатыкнуўся і падрапаў ужо тут, у горадзе). Але ведаў: правінцыялы — людзі чуйныя,

самалюбівыя, востра ўсё адчуваюць, дык хутка адвёў позірк ад адзення, падаў руку.

— Думаю ж, да сарака ажэнішся і да пяцідзесяці разбагацееш... — зноў уступіў ён у гамонку, Антаніна маўчала. Відаць, усё не магла валодаць сабою. Вочы яе бегалі-бегалі, як у вінаватага дзіцяці. Хоць можна было падумаць, што яна саромеецца невялікай сваёй касавокасці.— А розум трэба набіраць усё жыццё... — узяў пад локаць.— Сядай, калі ласка. Відаць, каб не запрасілі, дык і не зайшоў бы да нас. Пакрыўдзіўся, можа, па нешта, як і Сямён.

Адчуў з радасцю: змусіў таго збянтэжыцца, пачырванець. Замітусілася і Антаніна, затупалася, а пасля папрасіла выбачэння і падалася з гасцінай, павёўшы з сабою і дачок.

— Ну, як пайшлася праца ў «Нашай ніве»? — як бы нічога і няма няёмкага ў гэтую хвіліну, запытаў.— Строгі ваш рэдактар?

— Яшчэ не разабраўся. Колькі ж я працую... Пакуль што Сямён, лічы, усё за мяне робіць. І вучыць, і карэспандэнцыі апрацоўвае.

— Ты менш слухай таго баламута. Бо ён затлуміць табе галаву сваімі ідэямі і завіхрэннямі...

Бачыў: Алесь не можа пазбавіцца ад збянтэжанасці. Відаць, вагаецца: убачыў учора Антаніну ці іншую кабету палічыў за яе?

Пасядзелі, пагаварылі пра навіны ў Вільні, Пецярбурзе, у свеце, пра чуткі пра новую вайну. Ён сказаў, што вайна будзе. За перадзел свету. І, відаць, пачне вайну Германія. Ёй менш, чым каму з вялікіх дзяржаў, дасталося чужых зямель, калоній. А што такое чужыя землі, калоніі? Гэта — будучыня, магутнасць. І ў гэтым перадзеле кожны, Мікалай II таксама, пастараецца ўварваць сабе яшчэ болей, каб быць гаспадаром, дыктатарам у свеце.

— Вайна, канечне, будзе,— сказаў Васіль.— Па

той простай і складанай прычыне, на якой была не адна тысяча войнаў і да нашых дзён... Калі яна пачнецца — можа, ніхто толкам і не ведае. Бо, можа, пачнецца раптоўна і з нейкай дробязнай зачэпкі... Хоць не здагадваешся, чаму цяпер яшчэ і наўмысна буржуазны друк, ідэолагі палохаюць вайною, знішчэннем? Не задумваўся?

Алесь паціснуў плячыма.

— Ці не запалохваюць люд, змушаюць яго думаць пра небяспеку, пра смерць?! — усміхнуўся Васіль.— Напалоханы чалавек (а кожны разумны чалавек хоча жыць) будзе дрыжэць і не зважаць на «дробязі»... На беднасць, на прыгнечанне сваё, на тыранію і рэакцыю... Дзе тут да жыру, быць бы толькі жыву! Як ты лічыш,— прыжмурыў вочы,— ці не ёсць такое свядомае запалохванне?! Ці не карыстаюцца старым прыёмам, страшачы судным днём, канцом свету?!

Алесь не паспеў адказаць. Якраз заявілася Антаніна — ужо ў новай, чорнай з чырвонымі вялікімі кветкамі сукенцы, у гарсэце ( у гарсэце патанела, але гэтая «грацыя», мусіць, прыносіла ёй нямала нязручнасцей ды пакут), пры залатых пярсцёнках і завушніцах, падфарбаваная, ненатуральна ўрачыстая ды пыхлівая — і запрасіла іх у залу.

Праз асобны калідор, дзе стаялі масіўныя, выразáныя шафы з кнігамі, дзе вісеў тэлефон, зайшлі ў ярка асветлены электрычнымі лямпачкамі, прасторны пакой. Святло падала з высокай прыгожай крышталёвай і пазалочанай люстры, асвечвала файныя, з чырвонага дрэва камоды з дарагою нямецкаю пасудаю, жоўценькі паркет, шыкоўную канапу з круглымі жоўтымі аксамітнымі падлакотнікамі і круглы стол з вытачанымі круглымі ножкамі, што стаяў пасярэдзіне пакоя і вялікага шматколернага персідскага дывана. На палічцы аднаго з камодаў стаяў вялікі кан-

дэлябр з шасцю адгалінаванымі лямпачкамі ў выглядзе свечак.

Алеся, здаецца, найбольш з усяго ўразіў вялікі партрэт Мікалая II. Той быў намаляваны ва ўвесь рост, у ботах, пры ўсіх сваіх рэгаліях, без галаўнога ўбору, строгі і, здаецца, зычлівы.

— Не зважай... — усміхнуўся Васіль.— Даніна модзе... Не больш таго... Сядай за стол.

Стол быў не бедны. Пасярод красаваліся бутэлькі марачнага каньяку, гарэлкі і віна, абапал іх — фужэры і чаркі, вялікія і малыя, круглыя і прадаўгаватыя нямецкія талеркі з абчышчаным і пасыпаным зялёнаю цыбуляю селядцом, сухой рудой, з белымі кавалачкамі сала кілбасой, паляндвіцай, квашанінай, мяснымі і рыбнымі салатамі, аздобленых пятрушкай, салёнымі гуркамі, з кружочкамі белай цыбулі.

— Садзіся, садзіся во тут,— падспешыў госця Васіль, усаджваючы таго тварам да партрэта імператара. Няхай, падумаў, крыху паёрзаецца, панікне перад неадчэпным позіркам яго вялікасці.— Павячэраем чым бог паслаў.

— Ды не крыўдзіць вас бог! — прамовіў Алесь.

— Гавары! — азвалася Антаніна.— Што ж тут такога? Звычайная вячэра.

Васіль, вялікі любіцель і спец выпіць ды закусіць, лагодна ўсміхаючыся, спрытна сарваў з пляшкі каньяку накрыўку, наліў спачатку крышку сабе, пасля госцю і жонцы, тады ўжо дапоўніў і сваю чарку. Рабіў спакойна ўсё, годна, не так, як вясковы гаспадар. Той стараецца дагадзіць госцю, не зважае на сябе. Васіль жа не мітусіўся, не ўгоджваў, ведаў сабе цану.

— Ну, прыбівайся да надзейнага берага! — сказаў і зазваніў верхам сваёй крышталёвай чаркі аб верх госцевай.

Алесь падзякаваў, пасля дакрануўся да чаркі, што

трымала Антаніна. Тут жа адным махам кульнуў усё пітво сабе ў рот. Васіль усміхнуўся: хіба так п'юць каньяк? Антаніна выпіла маленечкімі глыточкамі менш паўчаркі, а ён, каб не саромець госця, паволі апаражніў усю. Убачыў: Алесь успыхнуў чырванню. Адчуў свой промах.

«Мужыкі вы яшчэ, хлопцы,— падумаў, пацешыўся Васіль.— Каб зрабіць з вас сапраўдных інтэлігентаў, дык трэба вас яшчэ шараваць ды шараваць, навучаць добрым манерам...»

І пасля, калі пачалі закусваць, Алесь, здаецца, пакутаваў: яму муляла, не ўдавалася як след трымаць сярэбраны відэлец у левай руцэ, а нож — у правай. То не мог адрэзаць тупым нажом кавалачак кілбасы, соўваў-коўзаў яе па сваім сподачку, то не здольваў зачапіць скрылік відэльцам. Відаць, у думках кляў таго, хто выдумаў такі этыкет, парушыўшы сялянскую натуральнасць.

Неўзабаве Антаніна, як па яе камандзе пакаёўка падала на вялікай талерцы вараную бульбу з кавалкамі тушанай курыцы і капусту, захацела пакінуць іх. Алесь спрабаваў затрымаць яе, але Васіль з іранічнаю ўсмешкаю перапыніў:

— Няхай ідзе. А то яна зараз і задрэмле. Сон — самы любімы яе занятак.

Васіль пасміхаўся, але насмешачка яго была своеасаблівая. Было, ён не толькі кпіў з жонкі, але і ў запале злосці бэсціў і біў Антаніну.

— Ну, Мушка! — не пакрыўдзілася, а, здаецца, паасцерагалася спрачацца яна ды паскардзілася: — Табе толькі б насміхацца з мяне перад чужымі людзьмі...

— Ідзі-ідзі, дай маленькага храпачка,— мякка пададгнаў ён і нават лёгка ляпнуў яе па мяккім клубе.— А мы з Алесем яшчэ пафіласофствуем крыху.

— Толькі не грызіцеся, як ты счэпліваешся з Сямёнам,— перасцерагла.

— Хіба Алесь такі кіпень, як Сямён? — усміхнуўся ён. Застаўшыся ўдвух, наліў яшчэ ў чаркі. Ужо гарэлкі. Да бульбы.

— Расказваў табе той баламут пра свае зацятыя спрэчкі з Юрыем? — усміхнуўся Васіль, скідаючы пінжак ды сцягваючы гальштук. Застаўся ў белай кашулі і камізэльцы. Параіў і Алесю скінуць верхнік, але той адмовіўся. Можа, і таму, што яго кашуля была не вельмі новая.

— Расказваў.

— Ён мне ў пачатку года з месяц галаву тлуміў пра гэта...— ён сеў, закурыў, адкінуўся на спінку крэсла.— Тое, што спрачаюцца разумныя людзі, не бяда. Няхай адточваюць розум, шукаюць ісціну. Які ж чалавек, а інтэлігент тым больш, без думак, ідэй, палемікі?! Я табе скажу шчыра: я, як многія знаёмыя мне хлопцы, што займаюць адказныя пасады, ні за Сямёна, ні за Юрыя, хоць некаторыя Сямёнавы думкі мне падабаюцца. Я адчуваю, бачу, пра што ён гаворыць, за што кліча трымацца. Юры заваблівае туды, чаго я не ведаю і не бачу. Я не спяшаюся ісці за ім. Мне хапае таго, што мы жывём пад адным небам, дыхаем адным паветрам, па-руску кажучы, общаемся. А па-другое, я не спакушаюся на рай! Першыя людзі, Адам і Ева, бадай, сапраўды страцілі яго назаўсёды... Хто — Юры яго верне ці новы створыць?

Алесь уважліва слухаў. Той — закаранелы вясковец, прагны да чужых думак, але не спяшаецца сказаць сваю, каб не асароміцца. Ён, Васіль, таксама часамі тое-сёе недагаворваў, але па іншай прычыне, каб патрымаць патрэбныя веды пры сабе, не паказаць сваё «я». Але сёння яму хацелася пагаварыць. Можа, і ад добрага настрою. Можа, і ад жадання па-

казацца ліբералам, а то і Алесь, а Сямён удвая, лічыць яго за кансерватара.

— Я не з сялянскай сям'і, як ведаеш, але з вёскі... — сказаў Васіль, прыжмурваючы левае вока ад дыму.— Мой бацька — сельскі лекар, маці — настаўніца. Маленства, дзяцінства прайшлі ў вёсцы. Яна дала мне шмат добрага і прыгожага. Таму я люблю яе, спачуваю гаротнаму селяніну. Але я не стаўлю такой вялікай стаўкі на вёску і селяніна, як ставіце вы з Сямёнам... Чаму? — зірнуў пільна.— Патлумачу. Табе. Сямён — вясковы фанатык, Юры — незычлівец... Помню, гады два таму ён, Юры, запрасіў мяне схадзіць на вечарынку Ігната Буйніцкага. Але як запрасіў! «Хадзем,— кажа,— паімітуем захапленне «высокадухоўнымі» мужыцкімі скокамі ды песнямі-завываннямі!» Паздзекаваўся, а мне ў душы аж усё перавярнулася... Увогуле Юры — сектант нейкі. Чаму? — ухмыльнуўся.— Бо ні кроплі гарэлкі не бярэ. Беражэ сябе для «вялікай місіі»... П'е толькі сокі і прастаквашу перад сном... Але давай паразважаем пра вёску і сялян... Што самае галоўнае для чалавека? Доўжыць жыццё на Зямлі? Працаваць? Асвойваць, губіць і берагчы прыроду і ўсё жывое? Шчыраваць? Сумленнічаць? Кахаць? Ненавідзець? Несці нейкую высокую місію, што даецца толькі чалавеку? Не несці ніякай місіі, жыць як набяжыць і не імкнуцца нават нешта змяніць? Усё жыццё пакутаваць, але верыць у выпакутаванае шчасце на тым свеце?.. Хто ж ведае! Але, мусіць, усё ж некалі глыбока зразумелі мудрыя людзі: вельмі важнае для чалавека — пазнаць самога сябе...

Не зводзіў з Алеся позірку. Той па сваёй звычцы апусціў вочы і слухаў, не перабіваў.

— Пазнаеш сам сябе — пазнаеш сэнс чалавека, народа, чалавецтва, гісторыі, усіх тых мэт, дзеля якіх

імкнуліся і імкнуцца перайначыць свет ці, наадварот, утрымаць такім, як ён ёсць... — гаварыў Васіль, і яму нават падабалася, як ён разважае. Здавалася, ніхто іншы таго не ведае, што знае ён. Хоць і сам усё гэта пачуў ад людзей, але вынасіў веды, упарадкаваў і паволі «аформіў» у сваю ідэю.— Дык вось пра вёску, пра наш боль... Лічу: і мы, і нашы продкі — спрадвечныя сяляне... Дык вось у нашых сялян — своеасаблівы лёс. Не ведаю які: драматычны, трагічны, шматпакутны ці шчаслівы, але — паўтараю — своеасаблівы... Яны таго не дабіліся, чаго дамагліся іншыя — шматлюдныя ці нават меншлюдныя суседзі. Ні Полацкае, ні Тураўскае, ні іншыя магутныя ў свой час княствы не здолелі сцвердзіцца. Як, дарэчы, не змаглі ўстояць і Наўгародскае ды Кіеўскае княствы. Полацк ды Тураў заняпалі з-за многіх прычын. Можа, і з-за сваёй спрыяльнай і ў той жа час неспрыяльнай геаграфіі, можа, і з-за характару лясной, багністай ціхай прыроды, можа, з-за ціплага, спакойнага ды цярплівага людскога характару... Ваяўнічасць была толькі тады, калі з агнём і мячом прыходзіў вораг... Юры гэта — ціпласць, сарамлівасць, ды яшчэ ўгодлівасць, цямноту, галоту — толькі і бачыць у характары нашага селяніна. Наўмысна, канечне. Каб ён, селянін, і далей такі быў! Каб не рыпаўся! Бачу: хочаш запярэчыць, як пярэчыць тут і Сямён. Бачыце: шмат чаго няма, але селянін, вёска жывуць! Нямала страцілі, але нямала і захавалі. Так, жывуць, захавалі. У гэтым, лічу, вялікая загадка нашага селяніна. Бо шмат якія меншыя і большыя народы пазнікалі за гісторыю, а наш селянін не знікнуў. У жудасных нават умовах... Але ў чым жа сакрэт?

Усміхнуўся. Пачакаў, што скажа Алесь. Той не падымаў галавы, слухаў. Цяпер Васілю спадабалася такая марудлівасць, маўклівасць: яны былі ўжо адзнакаю мудрасці. Але ён ведаў, што неўзабаве распя-

чэ, змусіць запаліцца госця: ведае, дзе яго боль, знае, што зачапіць.

— Я лічу цвёрда: сакрэт той — якраз у сялянскім характары. У ім, выходзіць, вельмі шмат закладзена. Што іменна? Цярплівасць і ўменне прыстасоўвацца да самых жудасных умоў... Успомні: хто толькі не прыходзіў з мячом, лічыў наша дрэўца адросткам свайго вялікага дрэва! Сяляне не пярэчылі, здаваліся на міласць дужэйшага. Чаму? Ды баяліся, каб іх не выразалі! І пасля паводзіліся ціхамірна. Страчвалі волю, імя, лічылі сябе за тых, пад кім былі, але захавалі душу! Выжылі! Дык не мудрыя яны, гэтыя «мужыкі»?.. Але мы загаварыліся. Давай возьмем яшчэ па кроплі.

— Хопіць,— папрасіў Алесь.— Мы ўжо добра выпілі.

— У маладосці ўсе мы, Алесь, фантазёры, бунтары ці шчырыя крыкуны,— зноў загаварыў Васіль.— Амаль ва ўсіх, калі хочаш, тады абвостраныя болевыя пачуцці. Не перастае балець і пазней. Боль ёсць боль. Але ці разумна ўвесь час крычаць, дзе і што табе баліць? Усяму свету?! Сябрам і непрыяцелям?! — Усміхнуўся.— Адчуваю, папікнеш: грэх, сорам, ганьба маўчаць, хітраваць! Можа, і так. Але ці большы толк кідацца Дон-Кіхотам на непрыступную сцяну, быць неабачлівым?

Алесь сам сабе ўсміхнуўся. Васіль аж збянтэжыўся: якія яго словы выклікалі ўсмешку? Замаўчаў.

— Можна, здаецца, апраўдацца, калі захочаш,— прамовіў той.— За ўсё і ва ўсім...

— Лічыш: сваёю тэорыяю я апраўдваю толькі сябе? — запытаў Васіль, адчуваючы, як да галавы лінула кроў.— Не хочаш бачыць, што я рэаліст?!

— Ты нават звышрэаліст,— пажартаваў той.— Здаецца, даўно ўжо не ведаеш, што такое здзіўленне, захапленне, дзёрзкі парыў...

«Ды затое я нешта маю, а вы з Сямёнам — нягшчасныя фантазёры і галадранцы»,— падумаў са злосцю, уголас сказаў:

— Што мне ні гаварылі б іншае, я стаю на сваім: селянін — мудры чалавек. І ад мудрасці, калі захоча жыць, не адмовіцца і не пойдзе за вамі, не кінецца туды, куды вы яго вабіце... Ён не захоча рызыкаваць. Пра геаграфію, гэта значыць стратэгічныя дарогі, і пра ўласны характар я ўжо казаў. Яшчэ. Далёка мора... А што без мора? Ніякай сувязі... Зямля бедная... Як кажуць, у ёй няма ні нафты, ні руды, ні вугалю, ні золата... Сялянскі правіцель хадзіў бы ў лапцях, жыў бы ў палацы, накрытым саломаю, сядзеў бы і спаў на лаве... Селянін усё гэта адчувае выдатна, таму і не рызыкуе, хоць, як пісаў Пушкін, часамі і чуюцца ад яго «...и тихие сетованья народа, издревле нам родного...». Але, наракаючы, паўтару, селянін з прагаю жыве, лічыць гаспадаром сваёй гаспадаркі самога сябе...

— Не ведаю: можа, селянін і такі,— прамовіў Алесь.— Але як нам, інтэлігентам, асуджаць сябе на такую ролю? Няўжо не павінны натхняць нас паўстанні Спартака? Пугачова? Касцюшкі? Гарыбальдзі? Каліноўскага? Дзекабрыстаў? 1905-ты?

— Натхняе... — мусіў згадзіцца Васіль.— Нядаўна 1905-ты тое-сёе даў, абнавіў. І нашы не праспалі, нешта ўхапілі ў Мікалая II. Упрасіць ці змусіць зняць забарону з роднай мовы — гэта ўжо ўдача. Але ці надоўга такая адліга?

— Значыць, большых перамен ужо не будзе? — запытаў Алесь, збіваючы ход яго думак і разваг.— Мы, інтэлігенты, асуджаны на лёс Сяргея Палуяна [1]?

---

[1] Беларускі пісьменнік Сяргей Палуян ва ўмовах сталыпінскай рэакцыі па дваццаць першым годзе скончыў жыццё самагубствам.

— Адліга, лічу, мінулася. 1905-ты больш не паўторыцца,— адказаў Васіль.— І ты зусім дарэмна паляцеў матыльком на святло, бо абпаліў аб агонь крылы... Чаго ты дабіўся? Вызвалілі з пасады, а неўзабаве будуць і судзіць! Думаеш, суд заступіцца за цябе, не будзе аберагаць інтарэсаў «веры, цара і Айчыны»?! Не суцяшайся, суд будзе суровы... Пасадзяць — сапсаваў, лічы, сабе жыццё. Усюды будзе «асадзі назад». Каб ты цяпер, да слова, напісаў куды трэба, пакаяўся, падакляраваў, што будзеш «верна-падданы яго імператарскай вялікасці», дык я цябе толькі пахваліў бы. За сялянскую мудрасць.

— Ну, а як тады я жыў бы?

— Як і ўсе.

— А калі ненавідзіш такую «мудрасць»?

— Ну, тады... — Васіль развёў рукі.— Будзь адрынуты.

— Ты вось, Васіль, знойдзеш дзесятак зачэпак, каб сказаць «супраць», і ні адной, каб сказаць «за»... — прамовіў Алесь.— А цяпер ёсць сілы, на якія можна спадзявацца.

— Якія сілы? — запытаў з нянавісцю ў душы. За тое, што Алесь не толькі абвяргае яго ідэі, але нібы ўздымаецца над ім. Як асоба.

— Сёй-той, Сямён, здаецца, таксама, шмат спадзяецца на вёску, на свае сілы,— адказаў Алесь.— Я лічу: нам трэба найперш спадзявацца на Расію. На братэрскі, спагадны яе народ, з якім мы разам ідзём ужо не адно стагоддзе, маем адны радасці і беды, а таксама на перадавых яе людзей. На рэвалюцыянераў. Калі мы пойдзем з імі разам, зрынем цара, тыранію, яны паспачуваюць нам, памогуць.

— Ну і з якімі рэвалюцыянерамі ты хочаш пайсці? — усміхнуўся Васіль.— Ці не з бальшавікамі? Ці не на іхнія ты спакусіўся лозунгі?

— З бальшавікамі.

— Ты — што? — усклікнуў Васіль, міжволі абводзячы жаласным позіркам камоды з кандэлябрамі, дыван, канапу, люстру, багаты стол, нібы ўсё гэта мог тут жа страціць.— Дык яны ж супраць прыватнаіі маёмасці,— спахапіўся, што лішне ўзгарачыўся.— Яны супраць рэлігіі, тых асноў, на якіх у нас шмат трымаецца. За іх, можа, лепш ісці Юрыю...

— Бальшавікі — за роўнасць, за справядлівасць. На сённяшні дзень, наколькі я разбіраюся ў палітычных партыях, гэта адзіная партыя, што шчыра і занепакоена дбае пра мір, людское шчасце, пра будучае... А што датычыць барацьбы з царызмам, дык яшчэ Герцэн падахвочваў: як можна апраўдаць існуючы лад, так жа можна апраўдаць і барацьбу супраць...

— Я гісторык, Алесь,— прамовіў спакойна, намагаючыся перамагчы субяседніка не эмоцыямі, а доказамі,— дык ведаю: свет здаўна і не адзін раз хацелі перайначыць рэлігіяй, войнамі і рэвалюцыямі... Бунтуе найчасцей моладзь, ці нехта лоўка спажывае маладзёжны бунт. У маладых шмат эмоцый, але мала развагі, мудрасці. Кінь палымяны кліч — моладзь нясецца ў агонь... Канечне, рана ці позна вялікія ідэі, што кіруюць эпохамі, дзяржавамі, абрастаюць, як драўляныя зрубы калодзежаў, мохам фармалізму, мёртвай непатрэбшчыны, яны здаюцца слабыя, і моладзь кіпіць, здзірае мох, топча і лічыць, што топча старыя ідэі. Аж дудкі, ідэі жывучыя. Ды іх і аберагаюць. Урад, армія, паліцыя, прапагандысцкі апарат. Можа, помніш: яшчэ Адам Міцкевіч у «Пане Тадэвушы» пісаў: «...З царом хто хоць раз быў у споры, то ўжо аніколі ■ ім не пагодзіцца шчыра і змушаны будзе ці біцца, ці гніць у Сібіры». І такія «споры» канчаюцца ці віселіцай, ці ў Сібіры. І будуць канчацца. Дык усе «споры» — толькі дзёрзкія намеры...

— А хіба не трэба і «дзёрзкія намеры»? Хіба яны

не свецяцца праз вякі чароўным святлом волі, сумленнасці, высакародства?

Васіль і здзіўляўся, і абураўся: Алесь сёння выбіваў і выбіваў з раўнавагі. Толькі самавалоданне памагала не здацца, адстойваць сваю думку, хоць усё роўна адчуваў трывогу: «выцягваюць» з-пад будынка яго ідэі «цагліну», і той будынак нахіляецца, не мае цвёрдай апоры.

— Якое высакародства? — папікнуў.— Змяніць лад? Я, мілы, з вялікаю асцярогаю гляджу на цяперашнюю дэмагогію... Да дабра яна не давядзе. Люд, калі глядзіць на ўладу як на ўладу божую, ён верыць, слухаецца, баіцца. Калі ўладу забяруць ад цара (ад бога, як кажуць) і яна будзе ад чалавека — люд тады нічога не будзе баяцца. Ён разбэсціцца... Я чытаю нават тутэйшыя «Северо-западную жизнь», «Виленский вестник», «Нашу ніву» і часамі жахаюся: што нарабіў маніфест 17 кастрычніка 1905-га «Аб удасканаленні дзяржаўнага парадку»! Што нарабілі гэтыя «недатыкальнасць асобы», «свабода мыслення, слова, сходаў і саюзаў», «амністыя палітычным вязням», «пашырэнне выбарчага права ў Дзяржаўную думу»! Ты скажаш, што гэта — усяго толькі манеўр, але колькі каштуе і ён! Ты зірні, паспрабуй цяпер разабрацца ў нашай грамадскай думцы! Просты чалавек, а то і звычайны інтэлігент не разбяруцца. Грамадская думка пасля 1905-га пастаўлена ў недаўменне, ёй наўмысна кінута столькі супярэчлівых разваг, думак, ідэй, што, лічы, кожны цяпер згубіўся ў іх лабірынце, і некаторыя ўжо лічаць: а ці не лепш — не мець ніякай думкі? Нашто ўсё ведаць, няхай усё ведае той, хто намі кіруе?! А хто сёння, апрача Мікалая II, кіруе? Шмат хто, цёмны мужык Грышка ў тым ліку. Мы не ўсе сілы бачым, ведаем, але адчуваем. Яны наўмысна размнажаюць сярод люду дрэнныя звычкі, страсці, каб пасеяць хаос і каб у гэтым хаосе

ніхто не мог разабрацца, каб людзі пачалі не разумець адзін аднаго. Але хто падае здаровы голас, таго ці замоўчваюць, ці збіваюць. Ярлыкамі. І што? Цяпер і ў многіх сумленных людзей апусціліся рукі...

— Дык вось рэвалюцыя павінна ўсё праясніць,— уставіў слова Алесь.— Смецце знясе, а галоўную лінію пакажа...

— Не рэвалюцыя нам трэба,— не згадзіўся Васіль.— А новы, разумны, нават мудры, валявы цар.

— Так лічыш ты, Васіль, а народу ўжо надакучылі казкі пра добрага і мудрага цара, што адным узмахам навядзе лад, зробіць усіх шчаслівымі. Народу трэба не манархія, а рэспубліка. Вольная, дэмакратычная. Народу трэба зямля, школы, вышэйшыя навучальныя ўстановы, тэатры, кнігі...

— Не, Алесь. Лічы мяне кім ці чым хочаш, але народу найперш трэба цвёрдая рука, дыктатар,— рашуча сказаў Васіль.— Хлопцы, што высока сядзяць і далёка глядзяць, кажуць: Расія на парозе не толькі выпрабаванняў, але, можа, і пагібелі. З-за баламутаў. З-за тых, хто рупна збірае шматстагоддзевае смецце. І не для таго, каб ачысціць хату, а каб кінуць яго ў твар гаспадару...

4

У гаспадаровай палавіне яшчэ гарэла святло, аднак Алесь не пайшоў туды, ціхенька падаўся ў свой пакойчык. Яму трэба было адпачыць, абдумаць усё, што сёння нечакана нагаварыў Муха. Такі цяпер неспакойны ды гаманкі час, што і маўклівыя, і хітрыя не могуць, каб не пагаварыць.

Прызнацца, Алесь спадзяваўся, што яго пакіне нанач Васіль. Але той, як папілі кавы, не загаворваў пра начлег, і Алесь мусіў пасняшацца дадому. Васіль неяк мітуслівa, стараючыся не пазіраць у вочы, па-

магаў апранацца, праводзіў, знайшоў на вуліцы экіпажык, усадзіў яго і нават сам заплаціў наперад за праезд. Як кажуць, збыў з рук.

У дзверы пастукалі.

— Пожалуйста,— сказаў Алесь, вешаючы паліто. Наўмысна сказаў па-руску: гаспадары былі рускія.

Зайшла ў пакой худая невысокая гаспадыня, а за ёю ўсунуўся тоўсты жандар у ботах, у шынялі, з шапкаю і з рудою папкаю ў руцэ.

— Честь имею,— сказаў жандар і казырнуў.— Вы — Немкевич Александр Иванович, уроженец деревни Янковины Ошмянского уезда?

— Я,— адказаў Алесь, так і не павесіўшы паліто.

Жандар разгарнуў папку, дастаў невялікую белую паперку.

— Вам предписывается в течение трех суток оставить Вильно,— сказаў жандар.— Не оставите — будете выдворены по месту жительства под конвоем. Вот, пожалуйста, прошу расписаться о получении вышеуказанного повеления.

Паклаў на загорнутую папку паперку, падаў самапіску. Алесь амаль несвядома распісаўся, дзе яму паказалі тоўстым, жоўтым ад тытуню і з брудным пазногцем пальцам. Жандар адарваў ніз паперкі з яго подпісам, а верхнюю палову з аддрукаваным на машынцы тэкстам аддаў яму.

— За што мяне выганяюць? — ціха запытаў Алесь.

— Не могу знать.

Казырнуў і падаўся з пакоя. Гаспадыня кінулася яго праводзіць.

Алесь сеў на старэнькую рыпучую канапку, паклаў паліто на калені. Пасыпаліся на фарбаваную старую падлогу капейкі з кішэні, але ён не зважаў на іх. Так добра зачапіўся ў Вільні і — на табе: вон!

«Знайшлі мяне і тут... — падумаў.— Напраўду, як

казаў Васіль, сапсаваў я сам сваю кар'еру... Паднаглядны!»

На шчасце, гаспадыня не зайшла сюды. І ён, распрануўшыся, патушыў святло, лёг і слухаў, як сёння, ужо ў безмарозную ноч, цурчыць на двары вада з даху. Розныя думкі мроіліся ў галаве. Адна страшнейшая за другую. Няўжо ўсё жыццё цяпер ён будзе пад назіркам, гнаны? Няўжо, як кажа мудры Муха, усё тое, што ён рабіў і хоча рабіць, марнае?

Заснуў, відаць, далёка за апоўнач. Але паспаў, мусіць, мала. Бо, здаецца, адразу прыбіўся сон. Нібы ён у шэрань, здаецца, уранні, стаіць за сваімі Янкавінамі каля Гаспадара-каменя. Распасцёртыя рукі і ногі прыкаваны тоўстым ланцугом, цела аголенае да пояса. Ён падымае галаву і бачыць: у шэрым паўзмроку, шырока раскінуўшы крылы, ляціць вялізны шэры ястраб. Імкнецца да яго. Вось апусціўся, абдаў ветрам і прыляпіўся на яго поясе, аж запусціў у жывот кіпцюры. Мільганула каля вачэй яго чорная глюга, заблішчэлі чамусьці жоўтыя вочы. Галава яго таксама была жоўтая, лысая, а карак мясісты, тоўсты. Прыгледзеўшыся, Алесь бачыць: ястраб зусім не шэры. І не ў пер'і. На ім — адзенне. І вельмі знаёмага колеру.

«Ды гэта ж Лядзяш!»

«Я! Я! Я! — зашыпеў ястраб.— Мяне паслалі з вялікай місіяй — дзяўбці тваю грудзіну і піць кроў».

Алесь і ў сне адчуваў, што гэта сон, дурны сон, але не мог прачнуцца, як і яшчэ болей не мог адагнаць ад сябе жудасны прывід.

«Ты саграшыў,— шыпеў ястраб.— Ты крадзеш ад яго вялікасці агонь і даеш яго чэрні... Ты адшчапенец. Ты шмат гаворыш. Не ўмееш маўчаць, адракацца сам ад сябе. Бо не слухаеш мудрых людзей. За гэта ты асуджаны на лютую смерць. І я ўволю нап'юся тваёй крыві».

*«Знак пра блізкі судны дзень ёсць, а свет як стаяў, так і стаіць! — і здзівіўся, і парадаваўся Нямкевіч.— І я вось стаю каля сваёй сядзібы, пра свае клопаты думаю...»*

І адхінуў галаву, а пасля дзеўбануў яму востраю крывою глюгаю ў левую грудзіну. Здаецца, пад самае сэрца.

Ад гэтага болю Алесь прачнуўся. Прывід знік, але сэрца яго — бадай, упершыню за жыццё — білася, нібы яму было цесна ў грудзіне, балела, а ўся скура на целе нібы сшэрхла. Штосьці дзіўна шумела ў вушах, аж не чуваць было плёскату веснавога дажджу за акном.

## 5

Вясна настойліва змагалася за сваю волю; ужо адзін за адным пацягнуліся мокрыя, змрочныя, сцюдзёныя дні.

Настрой у людзей такою часінаю панылы. Але ўсе заўсёды чакаюць, што такое ліхое надвор'е не можа быць доўга, мінецца праз тыдзень-другі, і настане цяпло. Дык усе чакалі яго, святло, і лепшыя змены ў жыцці, хоць ніхто добра і не ведаў, якія іменна змены могуць быць.

У адзін з такіх дзён Гарбацэвіч рашыў схадзіць на сваё поле. Праўда, спачатку ён хацеў рэзаць з Віцем дровы, што навазіў на новую зіму за апошні кароткі час, калі трымаўся шарпак, але не дазволіла жонка. Пачала папікаць: у гэткае надвор'е добры гаспадар сабаку на двор не выганяе, а ты прэш хваравітага сына. Ён аблаяў і сына, і жонку, што лезе не ў сваё, замінае, плюнуў і пайшоў паглядзець, як перазімавала жыта.

Напрадвесні кожнаму гаспадару карціць такі клопат. Не прапала — будзеш з хлебам і да хлеба, сапрэла ці змерзла — будзеш ляскаць сам зубамі, будзе без вобмешкі і быдла.

Спачатку ішоў па тупкай вуліцы, тулячы твар ад калючага ветру і мокрага хляпістага снегу ў каўнер

кажуха. Калі мінуў парослыя хвойнічкам Могліцы, убачыў: з дарогі на абочыну пракладзены глыбокія сляды. Нехта, відаць, гэтаксама пайшоў на сваё поле. Запыніўся, зірнуў: так, на полі, на невялікай прагалінцы, сядзіць чалавек і нібы мацае зямлю. Сусед, Ясь Нямкевіч.

«Ну і ўпраўны! — зазлаваў сам сябе Гарбацэвіч.— Я толькі яшчэ падумаў схадзіць на поле, а ён ужо тут!»

Рашыў: не трэба абмінаць суседа. Трэба і зірнуць, якое ж у яго жыта, і заадноісці далей па шляху замірэння, якое пачалося і вялося пасля той паездкі на Шубін, вясці яго, можа, да сваяцтва.

Збочыў і па глыбокіх слядах, па мяжы — налева быў Гарбацэвічаў шнур, а направа Нямкевічаў — пацягнуўся да суседа. За ўзбочынаю была вялікая лапіна чорнай зямлі: на ёй зеляненеліся прыцярушаныя белай наледдзю зялёненькія касмылікі жыта.

«Добрае ж! — пазайздросціў.— І не змерзла, і не сапрэла...»

Нямкевіч убачыў яго, падняўся, абчысціў рукі. Чакаў, усміхаўся: «Убачыў, што я пайшоў, дык і ты бегам за мною?!»

Падышоў. Парукаліся.

— Здароў.

— Здароў.

— Ну што? — усміхаўся Нямкевіч.— Не сядзіцца дома? І ў сцюжу такую?

— Ведама...

— Добра, дзякуй богу, перазімавала,— ужо сур'ёзна прамовіў Нямкевіч,— хоць я, прызнаюся, чакаў горшага. Усё ж увосень снег лёг не на зусім умерзлую зямлю. І многа яго было сёлета. Дык думаў: папрэе ў лагчынках жыта. Аж не, дзякуй богу.

Гарбацэвічаў кавал быў недалёка, за некалькі чужых шнуроў, але яны, не змаўляючыся, пайшлі і

туды. Не мог Гарбацэвіч вярнуцца дадому, не пабачыўшы жыта на сваім полі.

Выйшлі на праталінку — іх, праталінак, на полі было ўжо нямала. Прыселі: і тут зелянелася невысокае, увосень згрызенае каровамі жыта — праўда, дзе гусцей, а дзе радзей.

— Няроўна пасеяна... — нібы прысароміўся Гарбацэвіч.— Відаць, тут хлопец сеяў.

— Такой бяды,— прамовіў Нямкевіч.— Надта ўведаеш, ці гусцей, ці радзей трэба сеяць. Пасееш густа — жыта малое, колас дробны, пасееш рэдка — жыта вялікае, а колас сяроўна дробны і зерне малое. Мусіць, яшчэ і сорт жыта многа значыць...

Гарбацэвіч маўчаў.

Нямкевіч гэтаксама замаўчаў, напусціў лахматыя бровы на вочы, зірнуў раз-другі ўверх, заплюскаў вейкамі: на вочы ляпіўся мокры снег.

— Ці здаецца мне, слухай, ці і праўда недзе нешта пішчыць... — прамовіў.— Няўжо ўжо жаўранкі прыляцелі?

Паўзіраўся ў бела-шэрую, змяістую высь і Гарбацэвіч. Але ён нічога не пачуў і не бачыў. Нават калі і адхіліў ад вуха навушнік аблавухі.

— Можа, і здалося... Не... Дальбуг, Пётрык, зірні: здаецца, цілінькае! — узрушыўся, як дзіця, Нямкевіч.— Няўжо прыляцелі ўжо! На снег!

Ён, Гарбацэвіч, па-ранейшаму нічога не чуў.

— Вунь! — Нямкевіч усё ж угледзеў маленькі цёмны камячок у небе.— Ну, усё. Канец зіме. Прыляцеў жаўранак — абагрэе поле песняю...— Закінуў галаву, паслухаў.— Любіць гэтая птушачка чалавека. Ці то пасеш статак, ці то арэш — а яна паблізу. Вісіць угары і пяе, каб ты не нудзіўся... Як высока ні ўзляціць, а сяроўна пра зямлю дбае...

«І праўда ж, душу цешыць...» — падумаў Гарбацэвіч.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

Раней, калі Алесь мінаў лес і падыходзіў да Янкавін, дык набліжаўся да іх з усходу, са Стоўбцаў. Тады бачыў толькі Засценак. А сёння выйшаў з поўдня, са старога ніўнянскага бору, запыніўся на ўзгорку (гары, як тут казалі), на Пальку, дык убачыў з вышыні і Засценак, і Сяло, і Глінішча — адразу ўсе Янкавіны. Доўгія, лічы, у адну вуліцу. Цяпер спішэлыя пад нізкім шэрым небам. Ды ў вячэрнім мораку.

Здаецца, і не адлучаўся адгэтуль, усё бачыў кожны дзень — шырокую аселіцу, сады і вулічныя дрэвы, драўляную, пафарбаваную ў зялёны колер і ад таго цемнаватую цяпер, знізу чатырохкутнюю і прысадзістую, чым вышэй, дык тым болей танчэйшую, з вострым верхам цэркаўку — самую высокую будыніну ў Янкавінах, а гэтаксама валасны будынак, пошту, школу, дзе ён вучыў дзяцей разам з Кацярынаю.

Бацькавай хаты не было відаць адсюль, з Палька: яна стаяла далёка злева, хавалася за ліпамі ды чужымі стрэхамі.

Адчуў: абманвае сам сябе. Акідвае позіркам усю вёску, але вочы найбольш запыняюцца на пасяродку — на высокім, накрытым бляхаю доме валаснога старшыні.

«Дурань! — аблаяў сам сябе.— Знайшоў, на што пазіраць! На непрыяцеляў сваіх!»

Кляў сябе, адводзіў вочы, але ўсё роўна праз нейкі міг позірк знаходзіў знаёмы дах.

Як убачыў Янкавіны, дом Сяргеенкаў, дык нібы і адабрала ногі. Спыніўся і замёр. Быццам і гэтага было ўжо даволі яго змардаванай душы — толькі зірнуць на ўсё роднае, мілае. Бег бегма ён раней, калі

ўпершыню пакінуў вёску, паехаў вучыцца ў Нясвіж і, засумаваўшы па дому ды сябрах, па Кацярыне, вяртаўся ў вакацыі. Дык вось тады ляцеў да Янкавін! Пасля — у самой вёсцы — ішоў памаленьку, каб усе бачылі: вось ён ідзе! У форме! Гарадскі! І колькі было ўцехі, калі аднойчы ў Засценку яго не пазналі, палічылі за нейкага начальніка і здымалі перад ім вушанкі! Не толькі перад сапраўднымі службоўцамі, але і перад ім, сынам Яся Нямкевіча, кланяліся! Пазней саромеўся за той выпадак. А цяпер, калі ўспомніў яго, дык і зусім стала прыкра.

Крапаў рэдзенькі дожджык. Вясновы. Але невясёлы, нудны.

Снег, глыбокі і белы, з нацярушанымі перамёрзлымі ігліцамі ды карою, ляжаў толькі тут, у зацененым лесе, а вунь на санцапёку — па аселіцы, на людскіх сядзібах — ужо сям-там чарнеліся вялікія лысіны зямлі. Праз які тыдзень будзе вялікая вада. А тут, на аселіцы, паўстане цэлае мора. Як і кожную вясну. За ўсе доўгія вякі.

Алесь, калі быў яшчэ настаўнікам на Віцебшчыне і меў вольны час у вакацыі, дык ездзіў у Вільню, шмат сядзеў у бібліятэках, корпаўся ў старых паперах. Вывучаў гісторыю, культуру краю, заадно шукаў і звесткі пра свае Янкавіны. Калі яны ўзніклі, не абсачыў. Але па многіх упамінках адчуваў: яны здаўна, з сівых часоў.

З папер старых даведаўся: за доўгія вякі Янкавіны маглі не адзін раз знікнуць. Шмат разоў гарэлі. І ад маланак, і ад сваёй неасцярожнасці. Але найчасцей нішчылі іх войны. Каб чаго добрага, а войнаў, заваёўнікаў Янкавіны зведалі procьму.

Паліліся Янкавіны ў шматлікія руска-літоўскія, руска-польскія войны, а пазней — у вайну з Напалеонам. Хто ішоў на Маскву ці адкочваўся ад яе, гэты край быў на яго дарозе. У апошні час, што яшчэ на

памяці многіх пажылых людзей, акружаючы навагрудскіх паўстанцаў [1], вёску спаліла царская армія.

Але Янкавіны не зніклі. Паўставалі, чапляліся за жыццё, як і ўсё жывое на зямлі. І былі не толькі ахвяраю. І янкавінцы, як пісалася ў старых паперах, як перадавалася з вуснаў у вусны ў вёсцы, памагалі запыняць мангола-татараў, біць тэўтонаў у Грунвальдскай бітве 1410 года. Многія служылі ў войску Вялікага княства Літоўскага, дабіваліся шляхецтва (каторыя і па сённяшні дзень лічаць сябе тут шляхтаю, надта ў Засценку), а пазней, пасля падзелу Рэчы Паспалітай і адыходу ў 1793 годзе да Расіі, як і мае быць, служылі ў рускай арміі. Ваявалі з туркамі, з Напалеонам, на Каўказе, у Крымскай вайне. Нямала мужчын пагінула, праліло крыві за волю Балгарыі, а ўжо ў гэтым стагоддзі — у вайне з японцамі. Таму заўсёды і ў Янкавінах было шмат калек, сірот, удоў, заўсёды дзяўчат і кабет было больш, чым хлопцаў і мужчын.

Былі янкавінцы і «злачынцамі»: каторыя траплялі ў бунтаўшчыкі, паўстанцы супраць каралёў і цароў ці памагалі паўстанцам, каторыя сыходзіліся ў разбойніцкія шайкі, рабавалі багатых людзей і службоўцаў. Каго лавілі і каралі, а хто ўцёк з вёскі. Каторыя па сваёй ахвоце пакідалі родны кут, ехалі ў свет шукаць лепшай долі. Дык цяпер янкавінцы, можа, параскідаліся па ўсім свеце. Шмат іх і ў Сібіры, шмат і ў Канадзе, ЗША, Аргенціне, Францыі, Аўстраліі...

Янкавіны нязручныя для свету, а свет нязручны для іх. Яны, як і яшчэ каторыя тутэйшыя вёскі пры Налібацкай пушчы, чамусьці некалі ўвайшлі ў склад Ашмянскага павета Віленскай губерні, хоць тыя Ашмяны былі за светам. Хоча хто справіць які кло-

---

[1] Маюцца на ўвазе падзеі нацыянальна-вызваленчага паўстання супраць царызму на Беларусі ў 1863—1864 гадах.

пат у павеце — едзе ў Стоўбцы, са Стоўбцаў — у Баранавічы ці ў Мінск, а з Баранавіч ці з Мінска — у Ашмяны. Было б намнога лепш, каб іхнім паветам быў Навагародак: ён стаяў праз лес, праз вёрст дваццаць напрасцяк. Таму, лічы, ні адна кабета ніколі не была ў павеце, і не кожны мужчына ездзіў туды, самае вялікае — за сваё жыццё адлучаліся калі-нікалі ў суседнія вёскі. Але ніхто, здаецца, не наракаў на сваю долю: ва ўсіх тутэйшых людзей быў гэткі ж лёс.

Перад мосцікам яго сустрэў знаёмы шэры слуп з пагнутаю таблічкаю.

«Янкавіны,— прашапталі самі губы.— 127 двароў, 488 душ. 263 кабеты і 225 мужчын».

На мосціку запыніўся. Абапёрся грудзінай на парэнчу і зірнуў уніз, на ваду. Плыткую і неглыбокую. Здаецца, яна нібы завесялілася, імчалася і імчалася далей, паўз аселіцу да большай рэчкі, да Шуры, што цякла паўз Янкавін у Крычаты, а за тымі — у Пруды, да Усы, а пасля, зліваючыся з Усою, з Нёманам,— у свет вялікі.

Адчуваючы, што п'янее ад вады, спусціўся з мастка па абтаптаным, коўзкім беразе ўніз. Дыхнула пахам сырой зямлі і травы, мокрага камення. Рыбаю. І цяплом. Аж дзіва было: вакол снег, лёд, а вада дыхае ўжо цёплаю параю.

Пастаяў з хвіліну, пасля нагнуўся, зачарпнуў прыгаршчы вады і са смакам выпіў. Адчуў: па целе цёплаю хваляю пракацілася здаровасць. Нібы родная зямля дала яму волатавай сілы.

## 2

Да акна, што выходзіла на двор і на хлеў, прыпала жаночая галава. Ды гэтая ж кабета — сястра, Кастуся! І тая пазнала, усміхнулася. Азірну-

лася, сказала нешта на хату, а потым пабегла сюды, да сянец.

У акно зірпулі лысаваты, здаецца, з яшчэ больш калматымі бровамі бацька, маці і сусед, Пётрык Гарбацэвіч. Алесь здзівіўся: раней сусед да іх не хадзіў. Яны надта не сварыліся, але надта і не ладзілі, бо, як кажуць, прашмыгнула мыш яшчэ некалі між іхнімі дзядамі, і непрыязнь адных да адных цягнулася ўжо дзесяцігоддзямі.

— Алеська! — ужо тут, на ганку, усклікнула Кастуся, прыпала.— А мы пра цябе сёння гаварылі! Мама благі сон пра цябе сасніла.

Ён, адчуваючы ў горле даўкі камяк, з асцярогаю пагладзіў па яе худаватых плечуках, стараючыся не дакранацца горбіка. Хацеў сказаць шмат цёплага, сардэчнага і не мог. І не таму, што раптоўна ссушэла ў роце. З-за іншага, што меў заўсёды да сястры.

— Ну, добры вечар табе, сястрыца,— прамовіў чамусьці гарэзна, пацалаваў Кастусю ў скронь.— Чаго ж ты плачаш? Бачыш: жывы і здаровы!

— Ды я з радасці...— прызналася яна, шчабятуха і хітрая лісіца, выцерла слёзы.— Хадзем у хату! Чаго ж мы тут топчамся!

З хвіліну яны ўсе маўчалі, пазіралі адно на аднаго. Сёння і маці — а яна, сашчапіўшы рукі, стаяла каля гаспадара, пільна пазірала сюды — чамусьці не кідалася насустрач. Можа, і таму, што ён быў ужо сталы, а можа, і саромелася чужых людзей. Толькі вось часта-часта міргалі яе чорныя вейкі, памутнеў позірк некалі блакітных, а цяпер выцвілых на шэрасць вачэй і затрымцелі-затрымцелі ўжо бяскроўныя тонкія вусны.

— Не чакалі? — усміхнуўся.— І кот не мыўся, а госць заявіўся!

— Які ж ты, сынок, госць! — прамовіла маці, хуценька падняла падол светлага фартуха, выцерла

слёзы. Адвярнулася і заплакала. Ён аж разгубіўся. Зразумеў: маці маркоціцца па ім як па нейкім бяздольніку.

— О то бабы! — усміхнуўся, глыбока хаваючы свае пачуцці, бацька.— Ці праводзяць, ці спатыкаюць — дык у слёзы ды ў слёзы!

Першы падышоў, падаў руку. Моцна пацiснуў. І зірнуў пільна. У вочы, у душу. Але чамусьці не вытрываў позірк, адышоў. Нібы зморшчыўся і прасунуў пад кажушок без рукавоў ды пад кужэльную, фарбаваную пад колер крушыны кашулю далонь, пацёр левую грудзіну.

Тады Алесь ступіў сам, падаў руку суседу, Гарбацэвічу, які быў у нявыдубленым белым кажуху, трымаў у руцэ старую авечую аблавушку.

— Добры вечар, пане Алесь,— лісліва адказаў той, згінаючыся перад ім, як перад нейкім начальнікам.

— Добры вечар, цётка.— Алесь нахіліў галаву перад Гарбацэвічаваю жонкаю.

Вікця — некалі вельмі файная, станістая, а цяпер худая, зморшчаная ды амаль бяззубая кабета — гэтаксама павіталася. Як і маці, усхліпвала і братавая. Яна трымала на руках загорнутую ў дзяружку дачку — большае яе дзіця, сын, стаяў пры яе боку і чамусьці з насцярогаю пазіраў на нечаканага госця.

— Ну здароў, асілак! — Алесь падаў руку Ясіку.

Той, саромеючыся, гэтаксама падаў. Алесь пагладзіў яго па светлых валасах. Янку, як і ўсю гэтую зіму, у хаце ўвечар не ўбачыў.

— Вот вам і голуб! — усміхнуўся Пётрык і першы сеў на лаве пры тым акне, з якога яны нядаўна пазіралі на двор.— Гэта ж сёння, пане Аляксандра, цэлы дзень дзікі голуб у ваша акно біўся. Выйдзе хто з хаты — уцякае. Вернецца ў дом — той зноў да акна. Вот і напрарочыў госця...

Селі вакол стала і бацька, Вікця, Кастуся і Ядзя з дачкою. Толькі маці засталася стаяць каля печы, выцірала фартухом твар. Яна, можа, ужо думала, што яго трэба пакарміць з дарогі.

Алесь скінуў з плячэй небагаты на пакункі свой хатуль — зялёны паляўнічы пляцак, падсунуў пад лаву, пад якой былі склюд і сякера, пачаў распранацца, бянтэжачыся ад пільных позіркаў. І свае, і госці абгледжвалі, што ў тым пляцаку. І каб той быў больш пакоўны, як бывае ў тых, хто вяртаецца з удалых заробкаў, дык Алеся і цяпер, і пазней усе прымалі б з большай радасцю і павагай. І якраз у душы. Бо душа ёсць душа. Яе не абманеш. А ён, здагадваючыся пра гэта, адчуваў няёмкасць і сваю нягоднасць...

Калі здаволілі ахвоту на навіны, «абгледзелі і абмацалі» Алеся, Гарбацэвічы пайшлі дадому.

Бацька затупаў па хаце. Хоць Алесь не казаў, што яго выгналі з Вільні, але стары нешта прадчуваў.

— Садзіся, сынок, за стол,— сказала маці,— перакусіш крыху з дарогі.

— Дзякую, мама,— адказаў.— Я еў у Стоўбцах, у шынку «Порт-Артур».

— От не кажы так,— як пакрыўдзілася маці, тупаючы каля паліцы, дзе ляжаў хлеб.— Вярнуўся ў родную хату, дык няхай родная хата і прывеціць. Чым багаты, дык тым і рады...

Алесь, ужо моўчкі згаджаючыся з маці, развязаў хатуль і пачаў даставаць гасцінцы і падарункі — дзецям цукеркі і пернікі, булачкі, кабетам — па хусцінцы, шпулькі нітак, іголкі, гузікі, бацьку — цвікоў і яшчэ сякой-такой драбязы для гаспадаркі, Япаку, курцу,— папярос «Шуры-муры».

Кастуся, як толькі атрымала дарунак, адразу пад-

скочыла да акна, скінула старую белую хустку і начапіла новую — чорную, з вялікімі чырвонымі кветкамі.

— Ну як, мама? — азірнулася і ўсміхнулася.

— Як цыганка,— адказала маці з усмешкаю, крышачы ўжо на кружку крамяны і прыемна пахкі качан кіслай капусты.

— Дзякую, братка,— сказала Кастуся, падскочыла, цмокнула яго ў шчаку, схапіла падарункі для братавай і дзяцей, пашыбавала туды, у белую хату.

— От каза! — з любасцю сказала маці.— Гэтак ужо чакала цябе!

Замаўчала, ён пастаяў крыху каля яе, адчуваючы, што трэба неяк прылашчыць добрую маці, але не здагадаўся, як гэта можна зрабіць, падаўся ў белую хату. Туды, дзе былі падлога, кафляны з трох, светлых, бакоў стаяк, ложкі, іхні — стары, цьмяна-зялёны — куфар і новая, светла-жоўтая, з яркімі ружовымі кветкамі Ядзіна шафа.

Усміхнуўся: стаіць каля стаяка, прымярае новую хустку і Ядзя. Побач стаіць Кастуся, трымае свечку і маленечкае круглае люстэрачка.

Пачулі крокі, убачылі яго — абедзве сарамліва пырснулі смехам. А ён, махнуўшы рукою, каб не заважалі, скіраваў позірк на жаночыя цені, у кут: на зробленыя бацькам паліцы з кнігамі і яго рукапісамі.

Абмінуў круглы стол, засланы абрусам і з доўгім вузкім гладышыкам, у якім былі галінкі вярбы, падышоў да паліц. З замілаваннем зірнуў на рознакаляровыя вокладкі старых і новых кніг.

Падышла Кастуся.

— Тата, як ты паехаў, заходзіў сюды. Пастаіць, паглядзіць на кнігі і адыдзецца. Я раз запытала: можа, што хочаце пачытаць? Хваціць, махнуў рукою, чытакоў і без мяне... А вот паперы твае, сказаў, трэба было б спаліць... А я адказала, калі змарнуеце та-

кую вялікую Алесеву працу, утаплюся... І газэты рваць на цыгаркі не даю...

— Дзякую, сястра,— усміхнуўся, пацІснуў яе за плячук.— Гэтым ты калі не выратавала мне жыццё, дык захавала мне радасць і надзею на шмат што... Мусіць, не толькі бацька злы на мяне за мае паводзіны? Але і ўсе ў вёсцы... Клянуць недзе, ганяць...

— Не. Якраз усе добра гавораць пра цябе.

Алесь адчуў: лягчэе на душы. Нібы адтуль зваліўся нейкі камень. Нічога, мусіць, няма больш цяжкага за злосць і нянавісць землякоў і нічога, здаецца, няма больш шчаслівага за іх любоў і павагу!

— А Кацярына дык кожны дзень пыталася пра цябе...— прашаптала Кастуся.— Ці пішаш што? Ці пра яе ўспамінаеш? Калі вернешся?

Апала сэрца, заціхла. Устрапянулася. Адвёў позірк ад сястры і невідушча зірнуў у цёмнае ўжо акно. Ведаў: заўтра з раніцы ўсе з Янкавін — Кацярына гэтаксама — будуць знаць: ён вярнуўся дадому.

— Сказаць, пра што на днях нашы тата з мамаю паміж сабой гаварылі? — зноў зашаптала Кастуся.

— Ну, калі не сакрэт вялікі...— усміхнуўся.

— Пра нашага Янака. Хочуць яго сёлета ажаніць. І, ведаеш, з кім? З Анелькаю Гарбацэвіч.

— А ён?

— А ён мае вока на Зосю Мішукову.

— Ды тая ж Зося яшчэ дзіця! — здзівіўся.— У рэшаце спіць!

— У якім рэшаце! — пасміхнулася з яго Кастуся.— Ёй жа больш на год, чым мне...

— А ты — перастарка?

— Ну, і не маленькая! — адказала з годнасцю.— Мне сёлета ўжо семнаццаць было! Але Янак пра Анельку і слухаць не хоча. Кажа: яе не вазьму...

«Дык, можа, таму і бацькі з суседам ладзіць па-

чалі? — падумаў Алесь.— Можа, і хочуць парадніцца з багатыром?»

Пачуліся цяжкія бацькавы крокі. Той падышоў сюды, зірнуў на іх.

— Што? — усміхнуўся.— Як магнэзам цягнуць гэтыя кнігі?

— Цягнуць...— усміхнуўся Алесь.

— Я вот не раз думаў: а трэба ж шмат розуму, каб іх напісаць.

Бацька гаварыў адно, але Алесь разумеў: старому не церпіцца даведацца пра іншае.

— Выгнала мяне, тата, паліцыя з Вільні...— Алесь не захацеў ні маніць, ні адцягваць гамонку.

— Я і ведаў, што гэтак будзе,— уздыхнуў бацька.— Толькі маўчаў, не хацеў запыняць. А Лядзяш пахвальваўся: нічаво, найдзём і ў Вільні! Ото чалавек! Ото пабрыдзь паганая! Хоць бы каго пахваліў, хоць бы за што парадаваўся!

## 3

Гарбацэвіч раўняў гной у загарадцы маладой каровы. За восень і за зіму яна натаптала шмат подсцілу, натрусіла сена. Каля яслей— старой, цяпер нібы ўрослай у дол скрынкі — стала ўжо так высока, што Зязюля ўпіралася каркам у вышкі. Каля брамкі, наадварот, было нізка. Вось ён, як на дварэ пацяплела, а ў хляве пачало адтаваць каля сцен, садраў гной каля яслей, перакінуў яго бліжэй да парога.

Разагнуўся, выцер рукавом фрэнча пот з лоба. Млеў, ныў карак — ведама, рабіў дагэтуль согінкам ды согінкам. Падняў са здзіўленнем галаву: паблізу зазумкала муха.

— Рана ж ты, халера, выпаўзла,— буркнуў, махнуў на яе, вялікую ды чорную, канцом сахарышча.

Любіў пагаманіць сам-насам. Калі б хто хацеў падслухаць, дык пры яго рабоце мог бы ўведаць усе яго сакрэты. Бо сам сабе расказваў, што мае, сам з сабою раіўся, што трэба рабіць.

Муха ўзвілася. Некуды ўгору. Пасярод загарадкі. І раптоўна завішчэла. Прыгледзеўся: муха трапіла ў густую шэрую павуціну між жэрдак. Павуцінне загайдалася, адзін краёк нават адарваўся ад вышак, павіс — і муха, трапечучыся, закалыхалася. І тут жа, выпаўзшы з вышак ды не ўцэліўшы на разгайданую павуціну, раптоўна паляцеў уніз і павіс каля яго грудзіны на танюсенькай павуцінцы вялікі шэры павук.

— Цьфу ты, злыдзень,— плюнуў на яго Гарбацэвіч. Адчуў: спусціўся павук — будзе нейкая навіна. Добра б, каб прыемная. Але якія цяпер прыемныя навіны?

Павук пакруціўся на тонкай павуцінцы, нібы хто там, уверсе, узяў тую павуцінку ў абедзве далоні і круціў яе, а пасля хутка пабраўся на ёй наверх. І так спрытна, нібы хто цягнуў яго ўгору.

— Увішны, каб ты здох,— здзівіўся ён, пазіраючы, як уміг павук апынуўся ўжо на павуціне, каля мухі. Тая, адчуўшы смерць, завішчэла яшчэ пісклявей.

«Зараз пачне смактаць з яе сокі...— падумаў.— І стане праз колькі дзён з яе труха... Хоць усе мы — мухі, па кожнага з нас процьма павукоў. З усіх нас стане рана ці позна труха...»

Прыхінуў сахор да загарадкі і пайшоў у гумно.

Гумно — вялікае, з моцнага дрэва, яшчэ не з пачарнелаю, як хлеў ці хата, а з жаўтаватаю саломаю — стаяла воддаль ад прыбудоў, што былі пад адным дахам. Адамкнуў — а гумно было заўсёды, і ўдзень, і ўночы, замкнёнае,— адчыніў адну палавінку дзвярэй і ступіў на ток, дзе злева, каля сцяны, стаяла сяч-

карня, а справа, у розных загарадках, ляжала сена, жытнёвая, ячная, аўсяная і грэцкая салома.

Нарадавалася душа: усяго яшчэ шмат. Не толькі хопіць быдлу да пашы, але яшчэ нямала і застанецца. Мог бы трымаць яшчэ адну-другую карову, каня.

Залез у загарадку з жытнёваю саломаю, наскуб спадцізу старой, сточанай мышамі, яшчэ пазалеташняй. Занёс і раструсіў ахапак у загарадцы маладой каровы. Тады падаўся да стойла старой каровы, намерваючыся і там падраўняць гной. І ўлетку, і ўзімку ён, лічы, увесь светлы дзень не стыкаўся ў хаце. Быў то ў полі, то ў лесе, то ў гумне ці ў хляве — пільнаваў, каб усюды быў лад. На кабет, на сына, а яшчэ больш на парабкаў малая надзея. Яны, свае, самае вялікае могуць пагаспадарыць толькі ў хаце — каля печы. Ці на гародзе. Вось і сёння, як толькі папалуднаваў, дык і пацягнуўся ў хлеў. Ды цяпер, пацяплелаю і светлаю часінаю, і цяжка ўседзець у хаце. Млосна, цягне на сон. А ён не пан, каб спаць яшчэ і ўдзень.

«Трэба ўжо неяк і наймітаў апытваць...— падумаў.— Не агледзішся, як зараз снег злезе, сеяць трэба будзе. Валока зямлі, сенакос... Сам не ўправішся. З Янкавін нікога не ноймеш. Тыя гады некага з Чорных наймаў. Сёлета і з іх нікога не паклічаш. Усе сталыя паехалі на заробкі. Толькі ў Сцяпана хлопец, Пятрусь, дома. Але які з яго яшчэ работнік! Падшыванец. Дык трэба некага з Налібак ці з Прудоў наняць. Пагавару сёння-заўтра са Шлёмам, каб нараіў каго добрага. Той усё ведае...»

Ідучы па вузкім калідоры — дваім каровам ледзь размінуцца — спіною адчуў: нехта пазірае ў хлеў. Мігам азірнуўся: прыхіліўшыся да вушака дзвярэй, стаяў невысокі, рабацiністы карчмароў сын, Фоля.

«Каб яны павылазілі, твае лупы,— без дай пры-

чыны пакляў яго Гарбацэвіч.— Прэ ж цябе халера ў чужы хлеў! Падышоў, а сабака, каб ён здох, і не гаўкнуў нават. На ўсіх брэша, аж зямлю лапамі дзярэ, а на Шлёмаў не... Вот у людзей вочы! Самы злы сабака ад іх рахманы, як цяля!»

Гарбацэвіч век не любіў, калі нехта імкнуўся ўсунуць свой нос у яго хлеў, у кладоўку ці ў гумно. Баяўся чужых ліхіх вачэй, зляку. І ад дзеда, і ад бацькі запомніў: благія вочы шкодзяць і чалавеку, і быдлу, і гаспадарцы. Ці марнее ўсё ад іх, ці зусім гіне. Зводзіцца свая парода. А ў яго, дзякуй богу, завяліся, прыручыліся добрыя каровы (галяндэркі, як тут казалі), свінні (вялікія белыя), коні (свае, янкавінскія, і латвійскія запражныя). Прыдбаў усё гэта ў хатаўскога пана, туды ж, на панскую стайню, каб не звесці пароду, вадзіў скрыжоўваць сваіх кароў і кабыл, купіў у пана і пачаў сеяць канюшыну. Ён першы з Янкавін стаў, як казалі, культурным гаспадаром, атрымаў на рукі паперу за ўзорную гаспадарку.

Завёўшы добрую пароду, ён і чужых вачэй баяўся, і на развод яе нікому не даваў. А людзі, каб на іх мор, паганыя: не толькі каторы сурочвае ліхім позіркам, але і падкідвае ў гаспадарку ўсякія нашаптаныя паскудствы. Колькі ён знаходзіў пры хляве ці і ў самім ім усякую пошасць — чужую шэрсць, сухіх жаб, здохлых птушак і катоў. Хоць што казаць! Калі сусед, Нямкевіч, некалі купіў на кірмашы ад занямонцаў чырвоную, як казалі, надта ж малочную карову, дык і ён усяк варажыў, каб звесці ў суседа новую добрую пароду. Ды не звёў: не толькі Нямкевіч, але і яго сваякі развялі чырвоныя каровы. І добрыя каровы. Калі карова з пашы ідзе наперадзе статка — дойная, ззаду — не. Дык гэтыя чырвоныя ў сваіх статках вяртаюцца дадому самыя першыя.

Гарбацэвіч патупаў з хлява.

— Дзяньдобвы, пане Гаўбацэвіч,— як і бацька,

добра не вымаўляючы «р» і «л», першы павітаў яго Фоля. Гэты Фоля — сын хітрага чалавека, але сам не хітры. Бадай, такі ж няўдалы ў Шлёмы, як і ў яго Віця, залішне спакойны, даверлівы. Не давучыўся ў епыбоце — духоўнай семінарыі: выгналі за нешта. Трэцца цяпер пры бацьках, але адмаўляецца ісці па бацькавых сцежках. Кажуць, вершыкі піша, хоча рабіць тое ж, што і Нямкевічаў Алесь. Можа, і таму — абодва кемныя, вучоныя — сябруюць.

— Дзяньдобры,— буркнуў ён, выходзячы на двор, зірнуў на старую і маладую каровы: яны стаялі каля плота, грэліся на сонцы.

— Гвадзенькія кавоўкі! — паварочваючыся за ім, пахваліў Фоля.— Шэўсць ставая вунь ужо выкачався, злінява. Шыі блішчаць.

«Соль табе ў вочы!» — адвярнуўся, плюнуў Гарбацэвіч, а ўголас адказаў абыякава:

— От не бачыў ты тады добрых кароў, хлопец! Якія некалі ў Свістунова былі! Вот у каго парода была!

— Не кажэце. І тата хваліць: вы добры гаспадар,— як стары, пахваліў Фоля. Стаў побач. Нізкі, у стаптаных валёнках і ў новым чорным кажушку. Рыжы, нос дзюбаты.— Усё ў вас у павадку. І хата, і хлеў, і поле.

— Бо мы ж, хлопец, з гэтага і жывём. Гэта вы з другога жывяце. Можна сказаць, лёгкі хлеб маеце...

— Дзе там лёгкі, пане Гаўбацэвіч,— уздыхнуў Фоля.— Сабачы!

— Але вы самі не сееце, не косіце, не жняце, словам, не лье з вас цурком пот на полі ці на лузе. Не берацё на пуп...— кальнуў, як шылам, Гарбацэвіч. Каб бацьку яго, дык не выказаў бы так усё ў вочы, што думаў, а гэтаму падшыванцу ўсё выпаліў.— Лёгкі ваш занятак. Танна купіў — дорага прадаў! Вы тут самыя багатыя людзі. Золата дык золата ў вас!

Ды і ўсе грошы ў вашых руках! Бо крамар, як камар: дзе сядзе, там і п'е.

— Не, пане Гаўбацэвіч,— прамовіў той, не згаджаючыся.— Тата кажа: вы самы багаты ў Янкавінах.

— Мала што твой бацька кажа. Ён, можа, і табе, хлопец, не хоча прызнацца, колькі чаго мае. Ён хітры. Ён не хваліцца — прыкідваецца жабраком. Павохкае — ды і выцягне з мужыцкай кішэні астатнюю капейку... Карчмарова вока і праз лахманы грыўну ўбачыць!

— Не. Тата кажа: у нас няма золата. А вы, кажа, кулак, як кажуць рэвалюцыянеры ў Расеі.

— Які кулак? — здзівіўся Гарбацэвіч.

— Багатыр, як тут у нас гавораць. Мужыцкі пан.

— Які ж я пан, хлопец? Чалавек, як і ўсе тутэйшыя людзі. Толькі што маю больш за каторых на пару дзесяцін зямлі... Але ж я іх не ўкраў. За мазалі свае здабыў.

Той не адказаў. Толькі ўсміхнуўся. Гарбацэвічу стала пяёмка, што апраўдваецца. Ён заўсёды асцерагаўся, калі яго хвалілі. Хваляць — значыць, зайздросцяць і ненавідзяць. Дык і чакай бяды.

«Зрачэ, падшыванец»,— збаяўся Гарбацэвіч, бачачы, як Фоля зыркае на маладую карову. Пайшоў, павёў за сабою нечаканага госця з двара.

— Ты так, хлопец, зайшоў ці па патрэбе якой? — запытаў.

— Гэта ж тата толькі што вярнуўся са Стоўбцаў, тавары ўсякія прывёз,— адказаў той.— Дык казаў, каб вы зайшлі, тое-сёе ўзялі.

— І што ён прывёз?

— Ды тое-сёе,— адказаў той.— Лёк, селядцы, запалкі, газу...

— То добра,— прамовіў.— Скажы: іду.

Фоля пайшоў.

Гарбацэвіч запыніўся каля плота, што адгароджваў іхні двор ад быдлячага. Хацеў пачысціць у снезе лапці. Зірнуў вакол: сонца паўзе ўніз, скупее на цяпло і светлату; паветра халаднее. Шурхне. Значыць, будзе ўночы мароз. Вялікая адліга затрымліваецца, будзе пазней.

Выйшаў з сянец сын. Без кажушка і шапкі. Светлыя валасы рассыпаліся на бакі, аж зіхацяць на сонцы, прамовіў здалёку:

— Тата, усе ідуць у краму. Мама кажа: ідзіце і вы, а то людзі разбяруць усё. Ці нам грошы дайце — мы сходзім.

— Мы, мы! Дурымы! — перакрывіў ён і аж затупаў са злосці нагамі. Рантоўна закіпеў, як вада ў гаршку.— Пэўне ж, запытаў Шлёмаў сын, дзе я. А вы адразу, пэўне ж, падаткнулі: у хляве! Шліцё чужога чалавека да быдла... Не маглі самі задніцы свае з хаты вынесці, самі мне сказаць.

Віця, збіты з панталыку, шмыгнуў назад у хату.

«Колькі ні вучы, усё роўна дурныя! А ўжо і адно, і другое жаніцца, замуж ісці хоча...»

У хату не заходзіў. Папрастаў да Шлёмы. Ідучы па двары, на якім ужо відаць былі з-пад зярністага снегу выкінутыя зімою з печы чорныя галавешкі, вуголле і попел, усё яшчэ сунуў ногі па снезе — чысціў падэшвы старых лапцей. Заўважыў: каля частаколін растаў снег, пацёк, канечне, на доле вадою. Адтаў снег, сышоў вадою і каля слупоў: частаколіны і слупы награваліся за дзень ад сонца, дык і слязілі вакол сябе снег.

На макраватай — з лужынкамі — вуліцы пакруціў туды-сюды галавою: дзе што відаць ці чуваць? Ішлі сюды, у гэты канец, па аднаму і па двое-трое сталыя людзі — да Шлёмы. За Нямкевічавым шваграм, Грыгарцэвічам, таўкліся дзеці. З усяго Глінішча. Відаць, агледзелі маленькую ручаінку, што ўжо

спрабавала церабіць сабе дарогу з высокага поля на аселіцу. Дзеці пашыралі ёй шлях, капалі снег, ды, здаецца, тая ручаінка яшчэ гублялася ў снезе.

Насупраць Нямкевічавы сыны — сярэдняга росту Алесь і здаравіла Янка — чысцілі двор. Скідалі вялікімі драўлянымі лапатамі за плот, у гародчык, снег. Хочуць, каб на вялікдзень было ў двары суха. Каля іх цёрся пляменнік Ясік.

Гарбацэвіч не запыніўся, толькі кіўнуў хлопцам галавою. Кіўнуў у адказ Алесь: «зяць», Янка, прыкінуўся: нічога не бачыць. Хоць, канечне ж, бачыў.

Алесь усміхаўся, нешта гаварыў брату — можа, і пра яго, Гарбацэвіча,— але той не пазіраў сюды.

«Саромеецца...— мільганула ў яго галаве.— Ужо ж не раз у іхняй хаце гаварылі, каб параднікца... Няхай саромеецца. Лепш зяць ціхманы, чым негадзівы...»

Шлёмавы будыніны стаялі перад развілкаю дарог — на Пруды і Налібакі. Будыніны былі амаль новыя, высокія, светлыя, з мноствам вялікіх акон. Не такія, як у янкавінцаў. У іх амаль ва ўсіх хатах было па аднаму-два невялікія акенцы: людзі тут лічылі марнатраўствам рабіць шмат ці вялікія вокны ды дзверы, стараліся чым найменш мець у хаце дзірак, каб мала выходзіла ў неба цяпла. Калі ж хто рабіў большыя вокны ці яшчэ адно, трэцяе, дык таго усе дружна абгаворвалі.

Раней у Шлёмы — надта ўвосень ці зімою — церлася шмат люду. Запыняліся па дарозе прыезджыя, заходзілі свае, за грошы, за збожжа ці ў доўг бралі гарэлку, селядзец, садзіліся ў піўным пакоі за сталы, пілі, перабіваючы адзін аднаго, гаманілі, уведвалі навіны, чужыя беды ды радасці, расказвалі свае і мяняліся на вачах — трацілі маўклівасць, хмурнасць ды зацятасць, смяяліся, весяліліся, з нейкаю незвычайнаю ўвагаю ды з болем слухалі Шлёмавага музы-

канта, скрыпача Лейбу, плакалі, а часамі біліся і тады-сяды, бывала, забівалі каго і насмерць. Нехта меў адгэтуль дарогу на ложак ці на могілкі, нехта — у турму. Моцную ўладу мела над людзьмі гарэлка, а разам з гарэлкаю моцную ўладу над Янкавінамі меў і Шлёма. Недарэмна некалі, здаецца, яшчэ ў тым стагоддзі, у адным з рускіх часопісаў быў аднойчы такі малюнак з подпісам «Белоруссия». На малюнку была карчма, на яе ганку стаяў распаўнелы карчмар, а ля ганка ледзь не поўзаў на карачках п'яны худы і абарваны селянін у лапцях, спяваючы: «Без музыкі, без дуды ногі водзяць не туды».

Цяпер, як надышоў пост, карчма пацішэла: тутэйшыя людзі перасталі прыходзіць сюды па вечарах і ў святы, папрылiпалі, як мухі пад восень, да сваіх хат, чакаючы вялікадня. Збіраліся ў каго на вячоркі і баялі ўсякія гісторыі, легенды. Толькі сёй-той забягаў да Шлёмы ўпотай.

Цяпер у Шлёмы запыняюцца толькі праезджыя. Паставяць у стадоле каня, а самі паядуць, пап'юць чаю з самавара і, калі трэба, пераспяць у гасцінным пакоі. Кажуць, ім, праезджым, Шлёма і цяпер, у вялікі пост, прадае ўпотай гарэлку. Але не дазваляе піць яе ў карчме.

Калі Гарбацэвіч падыходзіў ужо да гэтай будыніны, пачуў ззаду звонкія шаламкі. Азірнуўся: па вуліцы неслася тройка сіва-белых, у чорныя яблыкі, коней. Сярэдні конь — над ім была чырвоная дуга, шаламкі — бег, горда падняўшы галаву, а два бакавыя пазварочвалі галовы набок. Саступіў дарогу: ехаў хатаўскі пан Свістуноў, сын таго Свістунова, у якога ён некалі парабкаваў. Зняў шапку, сагнуўся.

Бачыў: ні барадаты фурман — ён сядзеў у перадку на коленцах,— ні пан і яго жонка нават не зірнулі. Паглядзелі, можа, як на нізкія, крытыя саломаю хаты янкавінцаў ці як на дрэва. Працесліся сані як

віхор, мільганулі і ўраз схаваліся за Могліцамі — за маладым хвойнікам на ўзгорку. Ён толькі паспеў заўважыць: Свістуноў — амаль яго аднагодак — зусім схуднеў. Востры твар, тонкі нос. Кажуць, хворы на сухоты. Колькі ні лячыўся за мяжою, не памагае. А яго нашмат маладзейшая жонка ўсё яшчэ не старэе, маладая, свежая. Як царэўна вунь у бабровым футры і ў пышнай рыжай шапцы.

Як ні меў крыўду, а на гэтага Свістунова не залаваў за такую няўвагу і пагарду: ён жа некалі вазіў яго на пагулянкі да паненак у суседнія маёнткі, колькі цягаў п'янага, аднойчы вырataваў нават ад вернай смерці. Хто ён, каб злаваць ці крыўдаваць? Ён чорны людзін, а Свістуноў пан! Хоць і той Свістуноў, і гэты не трымаюць цяпер яго ў сваіх руках, не могуць пусціць па свеце з торбаю, ён сам сабе гаспадар, але ўсё роўна бярэ душу нейкі страх перад імі, як і перад вялікім ці малым начальствам. Як кажуць, дух простага вясковага чалавека забіты вякамі і заўсёды воддаль ад дому ці перад чужымі ён чуе страх над нагамі. А што пра панаву няўвагу, дык ведама, чаго ён злуе. Як плялі, стары Свістуноў кахаўся з Вікцяю, сваёю пакаёўкаю, прыдбаў нават Віцю і Анельку, а перад смерцю наказваў ім вялікую долю грошай. Але гэты пан, сын, нічога не даў і слухаць не любіў, калі хто і ў жарт напамінаў пра бацькаў наказ. Ды і не мог ён нічога даць. Прагуляў усё, сам жыў у даўгах. Ён, Гарбацэвіч, ніколі і не дабіваўся тых грошай. Але ўсё роўна быў ненавісны.

«Паехаў у Налібакі...— падумаў.— Да пана Нявдомскага... Кажуць жа, той кахаецца з яго жонкаю... Той малады яшчэ, здаровы, лятае да маладых кабет: яго жонка старая, хворая, злая, як і Свістуноў...»

Разгублены, Гарбацэвіч усунуўся ў краму, што была збоку шынка. У ёй, у цесным пакойчыку, было

ўжо процьма людзей. І найбольш з Засцепка. Тыя, канечне, першыя ўбачылі, што вяртаецца па стаўбцоўскай дарозе з таварам Шлёма і адразу ж рушылі за ім услед. Ды яны мелі сякія-такія грошы. Упарадзе, каля адгародкі, стаяла Алена Драздовіч, за ёю — скалазубы Уладак Дзямідовіч, за ім — Чорныя, Мішук, за Мішуком прыстроілася замужняя дачка, Галена. Каля яе стаяла і, пасміхоўваючыся, нешта шаптала ёй вясковая распусніца бяздзетная Марыся Драздовіч. Яна, як і Алена, прыйшла нявесткаю да Драздовічаў з Брынічава. Але з Аленаю не ладзіла. Цяпер, калі Аленін муж, Вінцук, быў у заробках, дык Марыся, бойкая, сварлівая, кажуць, як хоча здзекуецца з пакорлівай Алены і яе дзяцей. Яна не зважае на свайго крыклівага, але няўдалага мужа, колькі хацела і хоча гуляе з чужымі мужчынамі — вароты ў Драздовіча ніколі не высыхаюць ад гліны. У гэтую хвіліну, можа, шаптала што-небудзь Галене Грыгарцэвіч пра Вінцука: Галена і Вінцук, казалі, кахаліся і маладымі, і пасля таго, як завялі і свае сем'і,— свёкру гэтаксама даволі часта вымазвалі вароты. Збродлівая кошка збродлівую кошку за вярсту чуе!

За гэтымі маладымі пагляднымі кабетамі стаяў стары Нямкевіч. Апошні. Павітаўшыся, Гарбацэвіч запыніўся за ім.

— Ну сто, Крывы, пакланяўся пану? — высунуўся з гурту і выскаліў белыя зубы Пятро Вайтковіч.

— Пакланяўся,— адказаў.— А табе што, зайздросна?

— Ну і любіс ты лізаць панам задніцы! А з простага цалавека дык здзекуесся... Ну сто лыпаес вацыма, як подмазку з'еўсы?

— Які ест, такі ест,— буркнуў у адказ. Будзе яшчэ апраўдвацца перад Чорным!

«Ну, пачакай-пачакай! — падумаў са злосцю пра Пятра.— Прыйдзеш жа пазычыць нешта ці каня папрасіць, дык так табе я ўсё і дам! Трасцу!» Пакаяўся, што зайшоў сюды. Ускочыў, як Янкель у касцёл! Трэба было ісці адразу ў Шлёмавы пакоі.

— Чуў? — павярнуўся да яго сусед, Нямкевіч.— Нашай Ядзі брата ў Амэрыцы забілі...

— Не, не чуў,— паківаў галавою.— Добры быў хлопец.

— Добры ці не добры — звялі, сусед, з-за сквапнасці...— уздыхнуў Нямкевіч.— А бедныя мае сватэ і ведаць не будуць, дзе сынава магіла. Ён жа з маім Гіполем разам паехаў...

Усе прыціхлі: усіх глыбока кранула гэтая непрыемная вестка. Яшчэ адзін — каторы ўжо — чалавек з Янкавін не вернецца дадому са свету. А ў Нямкевічавых сватоў гэты хлопец быў адзін сын. Значыць, у Янкавінах звядзецца яшчэ адно прозвішча — Лукашэвіч. Бо астатнія дзеці ў тых — дзяўчаты. Заціхлі цяпер і сакатухі Галена ды Марыся. Яны, канечне, ведалі ўжо пра гібель Лукашэвічавага сына, перажывалі, пасля крыху забыліся. Цяпер зноў засмуціліся.

У цішыні рыпнулі дзверы, і з бакоўкі магутны Шлёмаў парабак, аднавокі Арон, укаціў за адгародку-прылавак ужо адчыненую бочку з селядцамі. За ім, несучы чарпак, увайшоў невысокі рыжы гаспадар, усміхнуўся.

— Добры вечар усім! — пакланіўся, здаецца, кожнаму зазіраючы ў вочы.

Дастаў з кішэні доўгага чорнага фартуха звязку ключоў, адамкнуў вялікаваты замок на дзверцах і расхінуў іх у бакі, узяў на кручкі: на сцяне, на паліцах паказаўся яго звыклы тавар. Хораша складзеныя пачкі цыгарэт, карабкоў з запалкамі, бутэлечкі з адэкалонам і духамі. Пасля спаднізу, з-пад прылаўка, падняў і паставіў на драўляную перагародку жалез-

ную вагу з дзвюма — па абодва бакі — жалезнымі чорнымі талеркамі.

— Ох, сёння і селядцы! Ох, сёння і лёк! — зацмокаў Шлёма, паціраючы рукі.— Аж сліну гоніць, аж язык ад смаку ўцякае ў с-ку! Ды толькі мала прывёз — адну бочачку. І тую ледзь дастаў. Ледзь выпрасіў у сваіх знаёмых. І не за дарэмна. Падмазаў добра. Усё ж даражэе цяпер. Не дакупіцца...

І праўда, у краме водарна і смачна запахла селядцамі — соллю, воцатам, перцам і размяклым лаўровым лістом. Мусіць, ва ўсіх у гэтую хвіліну наплыло ў рот сліны, усе глынулі яе.

— Не селядцы, а парасяты! — усё хваліўся Шлёма.

— Ці не думаес ты, Слёма, зноў падвысіць цану на лёк і селядцы? — абарваў яго Пятро.— Надта с ты заспяваў! Як салавей!

— От бачыце, вы не верыце, што нічога няма нідзе, што я гэта, лічы, з-пад зямлі выпараў...— завойкаў Шлёма ў адказ.— Вам што! Абы есці! Вам усё роўна, што я калеў усю дарогу, выпрошваў, пераплаціў! Вы толькі сваю больку чуеце: не цэніце, што пра вас нехта клапоціцца, вам спрыяе...— павярнуўся да першага пакупніка ў калейцы.— Дык што вам, пані Алена?

— Ды хунты тры селядцоў і во збаночак лёку,— адказала тая, ставячы на перагародку стары, з патрэсканаю лускою збанок. Ва ўсіх тутэйшых збанкі, гліняныя міскі і лыжкі былі работы блізкіх івянецкіх майстроў.

— Калі ласачка, пані Алена, калі ласачка,— замітусіўся Шлёма, вялікім відэльцам на тры доўгія зубы ўзяў зверху ў бочцы некалькі ладных сапраўды тлустых селядцоў, строс з іх лёк, паклаў на вагу, на другую талерку паставіў пузаценькую гірку, даклаў яшчэ пару селядцоў.— Вот вам і тры хунцікі, пані

Алена. Ешце па здароўе з картофелькаю! Не селядцы, а палявдвіца! Пальцы лізаць будзеце!

— Нешта ж надта мала селядцоў на тры хунты,— сказаў Міхайла Супраневіч.— Мусіць, ты круціш, Шлёма. Надта нейкія хітрыя твае вагі.

— Ой, што вы кажаце, пане Міхайла! Хіба я круцель? — завойкаў Шлёма, свідруючы Чорнага маленькімі бегатлівымі вочкамі.— Можа, хто з крамнікаў і хітрун, а я не! Я самы чэсны з усіх крамнікаў. Я ніколі нікога не абманваю. Я лепш сваё папушчу, бачым на чужое паганюся. Бо ведаю, якія вы тут багацеі...

— Ты не шашоль, як шашаль! — перапыніў яго Міхайла, дастаў з-пад кажуха невялікі чорны бязмен, паштурхаўся да прылаўка.— Давай пераважым. На мае вагі.

— Нашто важыць? — развёў рукі Шлёма.— Нашто чалавеку не верыць? Ды каму? Мне! Калі на тое пайшло, хай маё прападае.

Міхайла, працісвуўшыся ўперад, начапіў на кручок бязмена селядцы за хвасты — той, што дабавіў Шлёма, гэтаксама — падняў за вяровачку бязмен угору.

— Глядзі на свае бельмы,— тыцнуў яму ледзь не пад нос селядцы, пасля азірнуўся,— глядзіце ўсе, колькі тут! Хіба тры хупты?

— Які ў вас бязмен, пане Міхайла! — заскакаў, то хаваючыся за яго, то вызіраючы, Шлёма.— Ілжэ, на чым свет стаіць. У мяне добрыя вагі. Нямецкія.

— Дабаў, дабаў селядзец! — павярнуўся да яго Міхайла, змусіў начапіць яшчэ адну рыбіну.— Во цяпер, бачыш, тры хунты!

— Кепскі твой бязмен! — паныла прамовіў Шлёма.— Нешта ты змудраваў у ім. Ці на булаве яго паўхунта бруду накарэла.

— Не, Шлёма,— сказаў Міхайла.— Просты наш бязмен, не такі хітры, як твае нямецкія вагі, але справядлівы.

— Не я вас, а вы мяне рабуеце...—застагнаў Шлёма, нагнуўся, нешта падкруціў у сваіх вагах, адчапіў селядцы з Міхайлавага бязмена, паклаў іх на талерку, зноў падкруціў.— Я да вас з дабром, а вы да мяне са злом... Грэх здзекавацца з беднага чалавека...— і пачаў наліваць чарпаком лёк у Аленін збанок.

— Колькі цяпер тваё гэтае пойла? — запытаў Міхайла, не адыходзячыся ад перагародкі.

— Гляк — пяць капеек...

— Той жа раз прадаваў за чатыры! — усклікнуў Міхайла.

— Той жа раз лягчэй дастаў, а гэты раз, казаў жа, ледзьве-ледзьве знайшоў...

— Ну і драла!

— Вот бачыце, вот бачыце, якія вы! — паскардзіўся Шлёма,— ніякай падзякі за дабро! Да вас з дабром, а вы са злом.

— А гадоў пяць, таўчы яго камары, гляк лёку быў усяго тры капейкі...— уставіў сваё слова «кніжнік» Сцяпан Супраневіч.— Шкло да лямпы — пяць капеек. А цяпер шкло шэсць капеек.

— Што ж рабіць,— паскардзіўся Шлёма, беручы ад Алены грошы,— усё даражэе...

— Каму гора, а каму і нажытак...— буркнуў Міхайла і пасунуўся са сваім бязменам на сваё месца ў калейку.

— Арон,— Шлёма павярнуўся да свайго аднавокага парабка, што прысланіўся да сцяны і маўкліва назіраў за ўсім,— ідзі скажы, хай сюды ідзе Фоля. Ды варушыся ты, падла! Гультаіна! — мусіць, злосць ела Шлёму, і ён выліваў яе на сваім дужым, але паслухмяным парабку.

Прыйшоў Фоля. Здаецца, з неахвотаю, кіслы. Хмурыў лоб, сунуў на вочы рыжыя бровы.

Шлёма выйшаў з-за перагародкі.

— Пане Гарбацэвіч,— паклікаў,— хадзем да мяне, маю да вас інтэрас. Я там вам усё дам.

— Пётрык,— стаў на дарозе Сцяпан. Загаварыў рахмана: — Пазыч з паўрубля. Зусім збіўся з капейкі... Адраблю ўвесну.

— Што ў мяне — банк? — схмурыўся ён. Быў злы на Пятра, дык меў нянавісць і на ўсіх Чорных.— Якую і меў капейку, дык аддаў летась усю за зямлю Свістунову. Цяпер сам голы, як бізун.

— Пане Шлёма,— пачціва загаварыў пасля да крамніка Сцяпан Супраневіч,— можа, далі б нам у доўг. Адробім ці аддадзім гатоўкаю.

— Шлёма памажы, а вы дык...— паскардзіўся той і павярнуўся да сына.— Дай. Толькі запішы, хто будзе браць у доўг...

Гарбацэвіч пацісн уўся да Шлёмы. Выйшаў за ім на гаспадарову невялікую кухню, дзе грувасцілася на палову пакоя вялікая, даўно беленая ўжо печ. Ля печы стаяла хмурная, заўсёды нібы санлівая Бэйля, абапёршыся на качаргу. За сталом сядзела маладзенькая файная Шлёмава дачка, Сора. Кажуць, вельмі ўлюбчывая. Гаварылі, круцілася летась з Уладакам Дзямідовічам, не зважаючы на свае законы. Так гэта ці не, але Шлёма быў звёз яе з дому ў Івянец да сваіх сваякоў. Цяпер вось вярнулася дадому.

— Бачыце, пане Гарбацэвіч, які цяпер люд,— паскардзіўся яму Шлёма.— Злы і нядобры.

— Гэтыя Чорныя век такія...— падтакнуў яму Гарбацэвіч.— Думаеце, да мяне яны лепшыя? Каб сумелі, дык у лыжцы вады ўтапілі б, усю маю гаспадарку расцягнулі б! Косткаю яна стаіць ім у горле...— паддобрываўся, бо ведаў, што размова будзе пра наймітаў і трэба Шлёмава добрая парада.— Самі

гультае, п'яніцы, балбатуны, а жыць хочуць па-панску... Скажы што насуперак ім, не саступі — спаляць.

— Спаляць, пане Гарбацэвіч. Мне ўжо колькі разоў, як не пазычу яму што, крычаў Пятро: спалю!

— Гэта адпетыя зладзеі і забойцы, пане Шлёма. Ім, прыблудам, і рука не дрыгане, каб звесці са свету чалавека.

І замоўк: агледзеў, што ў цёмным кутку кухні сядзіць пажылы мужчына — чорны-чорны, як цыган. Пакланіўся яму.

Незнаёмы кіўнуў галавою. І не надта прыязна.

— Гэта стрыечны брат мой, пане Гарбацэвіч,— пазнаёміў Шлёма.— Эля. З Мінска. У госці прыехаў. На свята наша. На Пурым...— паказаў рукою на яшчэ адны дзверы. У белую хату.— Хадзем сюды, пане. Пагешэфтуем троху. Бэйля зараз усё вам прыгатуе, што трэба. Панясе Сора Сяргеенку, папу, паштавіку, ураднiку дадому, дык і вам па давозе падасць...

— Я і сам, пане Шлёма, запясу. Нязломак.

Шлёма адчыніў філянговыя дзверы і прапусціў яго ў белую хату — вялікі, але не зусім утульны ды чысты пакой. Справа грувасціўся старадаўні запылены камод, на ім стаялі масянджовыя падсвечнікі, медны пацямнелы самавар, у самім камодзе былі талеркі, чаркі. Пасярэдзіне пакоя вісеў на жалезным круку, прывінчаным да бэлькі, бронзавы сямісвечнік. Ён надаваў гэтай сялянскай хаце нейкую панскую пышнасць.

Фарбаваныя, белыя сцены былі голыя. Толькі злева, над старым, з абабітымі рагамі куфрам, ад усходу, вісела вялікая карціна — мізрах, як чуў ужо Гарбацэвіч. Тут Шлёма, як бачыў, маліўся тры разы на дзень. Аднойчы, як Гарбацэвіч першы раз зайшоў сюды, Шлёма сам расказаў: на гэтай карціне намаляваны далёкі адгэтуль горад з дзівоснымі дамамі і вежамі, з руінамі замка. Унізе карціны было напісана на

старой яўрэйскай мове: «Ніколі цябе не забуду, Іерусалім». Уверсе карціны нібы віселі ў паветры два крылатыя львы. У пярэдніх лапах у іх быў невялікі ліст паперы, на якім залатымі літарамі былі напісаны дзесяць наказаў.

Яшчэ лявей — цагляны стаяк, спальня. Шлёма вынес адтуль зэдлік, паставіў каля стаяка.

— Сядайце, пане Гарбацэвіч,— прамовіў.— Я пастаю, а вы садзецеся. Вы самы паважаны ў мяне чалавек.

«Каб ты жыў, як ты праўду кажаш! — падумаў Гарбацэвіч.— У цябе праўды, як у жабрака грошай. Пер'ем сцелеш, а спаць мулка».

— Можа, пан чарачку возьме? Я маю...— усміхнуўся той.

— Не трэба, пане Шлёма. Пост жа цяпер. Ды я ніколі не меў прагнення да гэтай атруты.

— Пан малайчына, набожны. Хоць вас і абгаворваюць у вёсцы ўсякія шылахвосты і галякі, але вы талковы чалавек, талковы гаспадар. О, каб усе такія былі! Дык і мне зусім іншы гандаль быў. Бо які мне цяпер гандаль? Самі бачыце. Вёска малая, людзі асцярожныя, аглядлівыя, стараюцца жыць усім сваім, без лішніх трат, без прысмакаў. Тут жа ні адна баба ні парфумы, ні духоў не купіць. Не кожны мужчына цыгарэты возьме, смаляць свой горкі самасад. Майму сыну ў Налібаках лепш. Там мястэчка, там больш багатыя і культурныя людзі. Там большы гандаль... — уздыхнуў.— Я самы бедны з тутэйшых крамнікаў. Каб яшчэ цяпер ахвотней бралі гарэлку, дык і я меў бы, канечне, большы нажытак.

— Але ж дзяцей павывучвалі, пане Шлёма,— прамовіў Гарбацэвіч.— У вёсцы мала хто далажыў да навукі, а вы і сыноў, дачку адукавалі...

— З астатняга вучыў. У даўгах увесь... Бачыце: я такі бедны, што нават і камісіянера не маю.

«А сыны і дачка з залатымі зубамі!»

— Адно, чым магу пахваліцца, дык гэта тое, што шмат заўсёды навін ведаю... — Шлёма стаў каля стаяка, прыклаў да яго невялікія белыя, з тонкімі пальцамі рукі.— Езджу часта ўсюды, дык і бачу, чую многа. І сёння пачуў: хутка вайна будзе.

— Ды каторы час ужо людзі пра гэта балабоняць,— спакойна адказаў Гарбацэвіч.

— Каторы-то каторы! — таямніча прамовіў Шлёма.— Але я цяпер ведаю, калі іменна яна пачнецца!

— Калі ж?

— Хіба можна мне распускаць такія чуткі? Ляпнеце каму — дык мяне пасадзяць як панікёра ці правакатара.

— Скажыце, пане Шлёма. Мы з вамі ж добра, па лагодзе жывём...

— Кажу ж, пане Гарбацэвіч, то сакрэт велькі... Можна сказаць, дзяржаўная тайна. Можа, нават таго цар наш не ведае...

— Хіба я каму скажу, пане Шлёма! — склаў як у клятве рукі Гарбацэвіч.— Хай язык мне адсохне, мова адымецца, калі скажу каму што. Вы ж знаеце: я не люблю лішне лапатаць языком, як Чорныя.

— Надта ж сакрэт гэта вялікі, кажу,— заінтрыгоўваў, заманьваў Шлёма.— Не тое што пасадзяць, а можа, нават і павесяць, калі пушчу першы чутку і гэта па людзях пойдзе... Але ж я ад вас ніколі не таіўся, па дружбе з вамі жыў. І вы са мною заўсюды хаўрусавалі.

— Праўда, пане Шлёма. Не бойцеся — кажэце.

— То надта важная навіна, пане. Надта для вас. А самі ведаеце, што значыць, калі загадзя ўсё ведаеш. Гэта як разведка для арміі. А разведка для арміі — гэта і вушы, і вочы. Выйграе часамі той, у каго лепшая разведка...

— Я ж аддзячу... — па-свойму зразумеў Шлёмаву казань.— Не бойцеся.

— Я бедны чалавек, дык для мяне і кожная навіна — тавар, заробак. Дык от пяць рублёў з вас, пане Гарбацэвіч.

Ён здзівіўся, відаць, вырачыў вочы: за што такія грошы?!

— Важная навіна, пане Гарбацэвіч,— запэўніў Шлёма.— Пашкадуеце пяць рублёў — страціце ўсё. А вы ж, відаць, добрую капейку сабралі!

— Якія там грошы, пане Шлёма! — прамовіў Гарбацэвіч, задумваючыся, а ці не наганяе туманоў часамі гэтая старая ліса? Можа, хоча выпытаць, колькі ў яго грошай, дзе схаваны, а потым падашле злодзея? Хітры ж і вёрткі злыдзень. Ён сам колькі разоў прыпільноўваў: уночы ўсякія людзі да яго прыязджаюць і заходзяць, і сам Шлёма са сваім Аронам нешта на сваіх санях некуды загорнутае возіць. І яшчэ, казалі, Шлёма мае хаўрус з паліцыяю.

— Не кажыце, пане Гарбацэвіч, добрую капейку маеце...

— Ды не!

— Ну, а ўсё ж, колькі сабралі? Не бойцеся, я ж нікому не скажу.

— Ды колькі там сабраў! Трошку!

— Каб трошку было, дык гэтак цяпер не пабялелі б! — усміхнуўся Шлёма.— Але такой бяды. Ваша ест ваша. Толькі вот можаце, кажу, усё страціць. Попусту, марна. За адзін дзень. У вайну ж усё знікае, даражэе, а грошы абясцэньваюцца. Ды могуць і чужыя грошы пайсці.

— Рубель хоць вазьміце за сакрэт, пане Шлёма.

— Што вы, пане! Такая навіна!

— Ну, два,— здаўся Гарбацэвіч, шкадуючы і гэтыя грошы.

— Не. Калі і спушчу, дык толькі рубель.

*«— Дык давай каля вашай грушы за гумном сыходзіцца! — прашаптаў ён радасна, сціснуў.— Кожны вечар!»*

— Ну, тры... Змілуйцеся, пане Шлёма.

— Спажываеце вы маю дабрату, пане Гарбацэвіч,— уздыхнуў Шлёма.— Тры дык тры. Але больш ні капейкі не спушчу. І цяпер давайце. Яно так найлепш — з рук у рукі.

— А можа, яшчэ хоць з рубель збавілі б?

— Не-не,— замахаў Шлёма рукою,— альбо тры рублі, альбо я маўчу. Як вады ў рот набяру. Страціце ўсё — дык тады самі сябе за локаць кусайце...

«Каб ты выдах, вымаганец! Таргуецца, як за душу!» — пакляў Гарбацэвіч крамніка, хоць і сам заўсёды стараўся ашукаць таго. Устаў, падумаў, рашыўся: трэба даць тры рублі. Раптам страціш задарма ўсе грошы. Калі Шлёма перасцерагае, дык нешта знае. Адвярнуўся, расшпіліў рэмень, адсунуў верхнія штаны і з падвязанага да паясніцы споднікаў капшука дастаў грошы. Падаў. Шлёма хапнуў, засунуў у кішэню.

— Дык вот, пане Гарбацэвіч. Вайна пачнецца сёлета. Улетку.

Сказаў, як цвік убіў у Гарбацэвічава сэрца.

— Калі ўлетку? — здзівіўся ён.

— У які іменна дзень — не ведаю. Можа, і пасярэдзіне лета...— чамусьці вельмі спакойна гаварыў гаспадар.

— Што вы кажаце! — паківаў галавою Гарбацэвіч «Вот табе і павук! Вот табе і навіна!»

— Толькі вы маўчыце. Нікому пра гэта не гаварыце. А самі не спіце ў шапку, рабіце тое, што трэба.

— А што ж рабіць, пане Шлёма? — разгублена запытаў Гарбацэвіч.

— Пускайце назапашаныя грошы ў ход. Лес, зямлю купляйце ці што залатое. Тое не прападзе...

— Ой-ёй-ёй! — зацмокаў Гарбацэвіч.— Каб трасца на іх, на гэтых цароў! Чаго яны не падзеляць!

— Пане Гарбацэвіч, вы ж такі пабожны, верны ўраду чалавек...— усміхнуўся Шлёма.— А тут... Я вам яшчэ больш скажу. За вайною, можа, будзе яшчэ і бура. І вялікая. Ураган. Ён, можа, не толькі з гнілымі карэннямі дуб паваліць. Ён, можа, і ўсе вялікія дрэвы паваляе... Ён і вас зачэпіць. Бо вы ж у Янкавінах самы багаты чалавек...

Гарбацэвіч зусім ужо разгубіўся.

— Мяняйце грошы на золата, пане Гарбацэвіч. Золата ніколі не прападзе. Самі ведаеце: хто золата мае, той і перад каралём шапкі не здымае!

— А можа, не будзе вайны?..— прамовіў Гарбацэвіч, ужо шкадуючы, што паспяшаўся, усунуў таму тры рублі.

— Вы мне не верыце? Думаеце, я вас дарма палохаю? — усміхнуўся той.— Пажывяце — успомніце маё слова. Хіба я вам пекалі не казаў, што 1905-ты будзе? Казаў. Я многа ведаю, хоць і тут жыву. Знаю нават тое, што ў Пецярбургу, у царовай спальні, робіцца. Я ўсе наперад законы ды ўказы знаю, што яшчэ збіраюцца выйсці... Каб я гэтага не ведаў, дык даўно ўжо прапаў і не выжыў бы! Я ж кажу, навіны для мяне — той жа тавар, заробак. Я толькі па дружбе сёння мала з вас узяў.

«І так чорт ведае за што садраў тры рублі! — падумаў Гарбацэвіч.— Аграбіў сярод дня! Дзе ні ступіш, што ні зробіш — усё за грошы. Абы які хаўрус — дык і абдзярэ, што не агледзішся. Вот яшчэ ж трэба гаварыць і пра парабка...»

— Раз сёння, пане Шлёма, вы мне, а я вам добра зрабілі, дык парайце мне добрых работнікаў,— сказаў уголас, спадзеючыся за тыя тры рублі заадно апытаць і наймітаў.— З Прудоў, з Пільніцы ці з Рудні.

«Дурны, як варона, а хітры, як ліс!» — здаецца, падумаў пра яго Шлёма.

— Ведаю, чаму не,— адказаў уголас.— І добрых

хлопцаў знаю. Спрытных, працавітых. Але фатыга, пане, за фатыгу. Яшчэ тры рублі...

— Дык я ж заплаціў вам ужо!

— Тое за адно, а гэта ж прашу за другое...— усміхнуўся той.

«Вот выцяганец, каб цябе халера ўдушыла! — пакляў у думках Гарбацэвіч — Драла! Злодзей! Ашуканец!»

4

— Нешта тата доўга ў Шлёмы...— сказала Анелька, раз за разам пазіраючы ў акно.

— Відаць, нейкі важны гешэфт маюць,— адказала маці. Яна сядзела на столачку пры камінку і мыла ў вялікім гаршку бульбу. Каб неўзабаве паставіць яе варыць на пліце. З'ядуць потым з лёкам — нальюць яго ў міску і будуць мачаць бульбу. Смак! А тады зап'юць наварам з ліпы. Па пяць-шэсць кубкаў. Як і заўсёды пасля салёнага.

— Ужо і вялікдзень скора... — уздыхнула маці.— Але наўрад ці абсохне сёлета да яго. Будзе мокра. Трэба напомніць бацьку, каб мелу ў Шлёмы купіў. Паразбіраюць людзі — дык застанецца хата наша нябеленая.

Зірнулі ў дворнае акно: каля яго мільгануўся гаспадар. Але не завярнуў у хату, пашыбаваў да хлява, хоць яны ўжо самі загналі ў загарадкі каровы. Ды так пасільгаў, як з шыбеніцы сарваўся.

Анелька, куляючыся з боку на бок, як качка, падалася на двор. Маці і сын з акна бачылі: толькі рыпнулі дзверы ў сенцах, гаспадар адхіліўся ад сцяны, азірнуўся, хто ідзе? Убачыў Анельку, пачакаў яе і аддаў ёй у рукі скрутак, чужы, канечне ж, Шлёмаў збанок. Пэўне, з лёкам. Сам пайшоў у гумно — відаць, па сена. Анелька падалася за ім. Вось схаваліся

абое ў гумне. Не выскачыла — значыць, яе бацька не выгнаў. Вытурыў бы пад злосць жонку і Віцю.

— І чаму ён сам не прынёс у хату? — здзівіўся Віця.

— Відаць, і напраўду яму блага,— сказала маці, пайшла да камінка мыць далей бульбу.— Стары ён ужо, спрацаваны. Ды, відаць, і сёння патраціўся...

— На тое ж і грошы, каб імі плаціць.

— Будзеш, сынок, некалі сам гаспадаром, дык і сам будзеш ведаць, як даецца і цэніцца свая праца...— заступалася сёння за мужа гаспадыня.— Ды яшчэ такі ў бацькі і характар. А характар не пераіначыш.

— Мама... — памуляўся Віця, стаў непадалёку.

— Ну што, сын? — падняла галаву. Матчыным сэрцам адчула: той хоча сказаць ёй нейкую сваю тайну. Бацьку ніколі не скажа. Між імі, мужчынамі, здаецца, ніколі не было і няма шчырай, даверлівай ды спакойнай размовы, як бывае між бацькам і сынам у іншых сем'ях. Бо Пётрык ніколі не выяўляе да Віці ласкі. Век сярдзіты, век толькі крычыць.

— Янак Нямкевічаў да Зосі Мішуковай ходзіць... — прамовіў з жальбою.— Абое ўжо да Чорных не паказваюцца. Кажуць усе, недзе ўпотай спатыкаюцца...

— Што ж,— ціха прамовіла.— Добрая пара. Адно да аднаго.

Замаўчаў. На бледны твар яго лёг цень, а пасля заявілася і пакута.

Яна ўсё зразумела жаночаю душою. Віцю кінулася ў вочы Зося. І не дзіва. Віця, хоць і чуллівы, мяккі, няспрактыкаваны нават да работы і жыцця, але чуйны да красы. Ён можа гадзінамі любавацца і красою летняга неба, кветак, травы, любіць музыку. Дык вось і Зосіна краса завабіла, запаланіла яго. Зірнула пільна, пашкадавала сына. Ведама: гэтае

каханне прынясе яму нямала пакут. Бо каханне кожнаму прыносіць клопаты, але Віцю прыйдзецца паспытаць усяго горшага ўдвая. Зноў нагнула галаву, пачала выбіраць з вялікага гаршка неабіраную бульбу і накладаць яе ў невялікі гаршчочак. Зразумела, чаго так хвалюецца сын: казаў жа Пётрык, нагледзеў у Прудах дзяўчыну з добрым пасагам, думае пасля вялікадня паслаць да яе сватоў.

— Падкладай, сын, у пліце,— ціха прамовіла.

І пакуль сын падпальваў, наліла ў гаршчок вады, паставіла на пліту. Наліла вады і яшчэ ў адзін гаршчок — для ліповага навару. Заўважыла: па сынавай шчацэ са светлымі валаскамі плыве буйная слязіна.

— Вельмі Зося ўпадабалася? — ціха запытала.

Сын кіўнуў са згодаю галавою, выцер расянасць на шчацэ далонню.

— Дык чаму тады не ходзіш да яе?

— Яна ж... Я не...

— Не хоча з табою хадзіць?

— Не. Я... Яна ж такая смелая, бойкая... І з Янкам во ходзіць...

— Дык што ж я табе памагу? — прамовіла са спачуваннем.— Я ж не павяду цябе за руку да яе і Янака ад яе не адганю. Сам ужо асмельвайся. Ты ж хлопец. І не маладзенькі ўжо.

— Мама, пагаварыце яшчэ з татам, каб паслаў пасля вялікадня да Зосі сватоў,— папрасіў. Усхліпнуў.— А то Янак першы пашле і забярэ яе.

— Пагаварыў бы з бацькам сам.

— Я баюся... — стаў каля камінка, апусціў рукі.

«Божа! — лаківала галавою.— Што ж гэта ў нас за сям'я: сын баіцца пагаварыць з бацькам!»

— Думаеш, калі я скажу, дык лепей будзе? — прамовіла ўголас.— Ён жа, чуў сам, у Прудах табе дзяўчыну з добрым пасагам нагледзеў. А бацькава воля — закон.

— Я яе бачыў адзін раз. Я яе не хачу... — нечакана з рашучасцю сказаў Віця.— Альбо Зося, альбо ніхто!

— Добрае вока ты, сын, маеш: Зося — спрытная, пагляднaя дзяўчына,— сказала яна.— Але паслухай ты мяне, маці. Я ведаю ўжо тое, чаго ты яшчэ не ведаеш. Занадта файная гэтая Зося... Возьмеш яе, але ці ўтрымаеш? Усе ж хлопцы і маладыя мужчыны, як мухі да мёду, да яе ліпнуць будуць. У каго надта харошая жонка, той заўсёды шмат клопатаў і бяды мае. Сам жа ведаеш, якая яе старэйшая сястра. Галена. Мала і трымалася свайго Аляксандры, з другім гуляла, з Вінцуком Драздовічам... Дык згарыш, сын, без пары. Ссохнеш. Ці адыдзешся ад дому, ці спаць ляжаш, а адно ў галаве будзе: а можа, жонка ўжо дзе з другім гуляе?

Маўчаў. Нічога не казаў.

— Мала, сынок, ест дзе шчаслівых сем'яў, дзе жонка надта файная... — уздыхнула маці.— Не сама гаспадыня скруціцца, дык яе сяроўна спакусяць. Краса жаночая, сын, вялікі божы дар, але яна ж і чортава спакуса...

— Я другую не хачу... — паўтарыў Віця.

— Што ж, прасі бацьку, каб згадзіўся,— уздыхнула маці.— Хоць, кажу, не па табе гэтая Зося. Ты надта ж спакойны, добры. Ты сталы хлопец ужо, а цябе яшчэ кожнае дзіця папіхае. Не ўмееш ты ні абараніцца, ні за каго заступіцца. Абы што — дык адразу ў слёзы...

## 5

Да Нямкевічаў нечакана прыйшоў Фоля. Зачыніў за сабою дзверы, ледзь не збіў агонь з лучыны на камінку і разгублена запыніўся за паро-

гам: у хаце былі якраз усе — бацькі, Янка, Кастуся, Ядзя з дзецьмі, Алесь.

Павітаўся.

— Чаго ж ты стаў, хлопец, як бежанец які? — усміхнулася гаспадыня. Яна ўжо аблівала цёплаю вадою, што ўвесь дзень стаяла ў чыгуне ў печы, складзеную ў мядніцу пасуду. Яны толькі што павячэралі.— Заходзь, садзіся.

— Я ненадоўга,— засаромеўся той.— Я да пана Аляксандры.

— Якія ж мы паны, хлопец? — адказала маці.— Гэтакія простыя людзі, як і ўсе ў вёсцы. І Алесь наш не пан.

Алесь, усміхаючыся, падняўся са столка. Ён даўно ўжо адчуваў: гэты спакойны, разумны юнак горнецца да яго, але нібы бянтэжыцца. А можа, і не бянтэжыцца. Можа, не ведае, як сказаць пра тое, што ў яго на душы. А што ён носіць нешта нялёгкае, нават пакутлівае на душы,— гэта добра было відаць. Нават па тым, што ён ужо, у свае маладыя гады, амаль злысеў.

— Распранайся, Фоля,— запрасіў Алесь. А калі той скінуў вушанку і кажушок, узяў вопратку і павесіў на цвік пры парозе.— Хадзем у тую хату.— І, ужо ідучы туды, паскардзіўся: — Нешта не заходзіш ты да нас апошнім часам. Я ўжо сам думаў зайсці да цябе на днях.

— Бацька не пускае... — прызнаўся той.

Зайшлі ў белую хату.

— Садзіся, а я запалю свечку,— сказаў Алесь.

— Не, не,— загаварыў той.— Не паліце.

— Чаму? — здзівіўся Алесь.— Сустрэча наша павінна быць сакрэтная?

— Я не ведаю, ці казаць... — Фоля быў усё яшчэ разгублены.— Але скажу. Як я ішоў да вас, дык убачыў: каля вашых акон стаіць чалавек. Падслухоўваў, што вы гаварылі... Пачуў мяне — выбег з двара.

— Што ты кажаш? — здзівіўся Алесь, падышоў да акна, угледзеўся.— Не пазнаў хто?

— Добра не пазнаў. Але здаецца, Дзяжко... Толькі вы не кажэце...

— Ну што ты! — Алесь вярнуўся, сеў паблізу Фолі каля стала.— Значыць, і гэтая сволач па-ранейшаму сочыць за мною!

Сядзелі ў паўзмроку. Толькі скупа падалі сюды водсветы ад лучыны з чорнай хаты.

— Нешта ты невясёлы, Фоля,— заўважыў Алесь.— Пакутуеш, што выключылі з ешыбота?

— Ды няма чаго весяліцца,— апусціў галаву Фоля.— Каб весяліцца, трэба ехаць жыць у горад ці жыць бесклапотна. А жыць, ці жыць марна, няма ніякай ахвоты...

— Ну, Фоля! — здзівіўся Алесь.— Не чакаў я ад цябе такога. Малады, здаровы, а так заныў! Я старэйшы, на чацвёрты дзесятак падаўся, нашмат больш палучыў па карку, але так не падаю духам. Я хачу жыць. І лічу: жыццё, хоць нялёгкае, але дарагое... Нават у турме, куды некалі пайду, думаю жыць...

Фоля зірнуў яму ў вочы, здаецца, вельмі глыбока ўгледзеўся ў душу і нават нібы супакоіўся. Хоць Алесь адчуў: сёння той рашыўся нешта расказаць яму вельмі важнае.

— Калі верыш мне, дык давай пагаворым пра твае пакуты... — ён першы пайшоў насустрач шчырасці.— Я ўжо крыху біты, дык, можа, што і параю...

Фоля хуценька дастаў з унутранай кішэні пінжака загорнуты папалавіне сшытак. Падаў.

— Пан Аляксандра... вот... ну, тут мае вершы... Паглядзіце...

— Па-першае, і я, і мае бацькі колькі ўжо табе кажам: ніякія мы не паны. Дык называй мяне проста: Алесь, альбо Алесь Іванавіч,— усміхнуўся ён.— Па-другое, я, брат, не вельмі вялікі дарадца па паэзіі.

Я вершаў не пісаў і не пішу. Але я магу паслаць іх у Вільню. Няхай іх там паглядзяць, ацэняць.

— Не. Пачытайце спачатку вы, калі ласка,— папрасіў Фоля.— Я хачу пачуць іменна ваша слова.

— Чаму не, пачытаю,— згадзіўся Алесь.— Тым больш што і ты, і я абодва няўдачнікі, нешчаслівыя. Я трапіў у няміласць да Мікалая Другога, ты — да сваіх...

— Не толькі трапіў... — уздыхнуў Фоля.— І мяне хутка будуць судзіць. Свае, як вы кажаце.

— За што? — здзівіўся Алесь. Тут жа і спахапіўся.— Выбачай, калі задаю лішнія пытанні.

— Вось за гэта мяне якраз і будуць судзіць: за лішнія пытанні... — той апусціў галаву.— Але я вам усё раскажу. Усю праўду. Хоць мне расказваць гэтага няможна... Я не хацеў ісці вучыцца ў ешыбот. Але тата настояў: ідзі, вучыся, будзь настаўнікам. Калі тутэйшыя дзецюкі не вучацца, дык яны неразумныя, ім няма каму добра параіць. Але каб вы, пане Аляксандра, ведалі, як «лёгка» там вучыцца. Пакута — кожны дзень вучыць на памяць талмуд. Ён, па-першае, на старой нашай мове, па-другое, тэкст, што напісаны дзве тысячы гадоў назад, груваcткі, блытаны. Ды яшчэ столькі ў ім каментарыяў...— прыклаў далоні да вушэй, паківаў галавою.— А каментатары спрачаюцца адзін з адным, спасылаюцца то на аднаго, то на другога прарока і на іхнія працы, і каб разабрацца ў адным раздзеле, дык трэба чытаць шмат тамоў... А чым больш чытаеш, дык тым больш заблытваешся... Рош-гашыва, галава ешыбота, сам даваў кожны дзень новы раздзел для чытання. Кожны чацвер сам правяраў, як мы запомнілі той раздзел. Гаварылі пра кожны абзац. Вялі дыскусіі. Па раздзеле, па каментарыях, па тым, як трэба жыць... І чым я болей чытаў, слухаў павучанні, тым больш здзіўляўся, задумваўся: а чаму мудры і справядлівы

бог выбраў у любімы, мудры і святы толькі адзін народ? Ці справядліва гэта, калі ў бацькі шмат сыноў, а ён аддае душу і сэрца толькі аднаму?! Чаму любімы сын павінен панаваць, быць багаты, адукаваны, а ўсе астатнія, нічым не горшыя, мусяць парабкаваць?

Алесь не перапыняў, слухаў споведзь маладога чалавека.

— Сам я, пане... Аляксандр Іванавіч, і на гэтыя, і на іншыя пытанні не мог адказаць. Тады асмеліўся запытацца пра ўсё, што не давала спакою, у рошгашывы. Сказаў яму — а ён аж збялеў! «Маўчаць! — закрычаў.— Адумайся, нікчэмнік, і не задавай болей такіх пытанняў, не май сумнення ў тым, што святое! Скіроўвай свой розум на іншае, на тое, чаму мы цябе вучым! Дык і будзеш любімы ў бога, багаты, мудры, уладар, хоць ніколі і нікому гэтага няможна паказваць...» Адным словам, супраць мяне настроілі ўсіх ешыботнікаў, судзілі і прысудзілі малкес, бізуны. Біў сам машгіях, інспектар, раменнай дзягай. А потым, як ведаеце, зусім выгналі...

— За новыя пытанні?

— Яшчэ і за іншае... — ніжэй апусціў галаву Фоля.— За дзяўчыну... Нехта данёс, што я знаюся з тамтутэйшай дзяўчынай, што магу «змяшаць кроў»...

— Ёсць, на жаль, вось такія недарэчныя забароны і забабоны... — уздыхнуў Алесь.

— А ці настане, Аляксандр Іванавіч, той час, калі ўсе паразумеюцца, будуць жыць у міры, згодзе, роўнасці, братэрстве? — запытаў Фоля, падняў галаву.— Калі нішто: ні рэлігія, ні нацыянальнасць, ні светапогляд, ні мовы — не будуць замінаць!

— Можа, і настане, Фоля. Але трэба ўсім ісці туды шчыра, сумленна, без кропелькі маны, крывадушнасці, без фанабэрыстага адчування сваёй перавагі, без карыслівых мэт...

— Тады доўга яшчэ трэба чакаць той залатой часіны...

— Ты гэтага хочаш, я хачу — значыць, ужо такая ідэя жыве...

— Аляксандр Іванавіч, вы баіцеся суда, турмы ці не? — трывожна запытаў Фоля.

— Не вельмі баюся, але і не радуюся, што туды траплю...

— А я вельмі баюся... — прызнаўся малады госць.— Ды што мне рабіць? Пакаяцца? Прыкінуцца паслухмяным? Уцячы ў свет?

— Не ведаю, што табе і параіць, Фоля,— развёў рукамі Алесь.— Адно адчуваю, і перад табою паўстаў жыццёвы выбар... А выбар, мусіць, трэба зрабіць найперш самому.

— Ці можна прыходзіць да вас і раіцца? Ці вы ўжо маеце да мяне перасцярогу пасля таго, што я вам сёння расказаў?

— Не, Фоля,— усміхнуўся Алесь.— Я табе веру, рады. Мне прыемна, што ты шчыры. Не магу ж я з-за аднаго таго рош-гашывы кепска пра ўсіх думаць. Ва ўсіх ёсць шчырыя, сумленныя, ёсць і хціўцы, крывадушнікі, фанабэрыкі, цемрашалы... Пачакай,— схамянуўся, адгарнуў сшытак, спрабуючы ўбачыць у змроку напісанае.— А як ты пішаш? Калі пасвайму, дык я не прачытаю.

— Я прынёс вам беларускія вершы.

— Ну і Фоля! — здзівіўся Алесь.— Ашаламіў ты мяне сёння!

— Вось чаму я да вас іменна і прыйшоў,— той усміхнуўся, зірнуў на яго з надзеяю.— Вы адзіны тут, хто можа мне памагчы. Я ведаю старую нашу мову, але... Яе ведаюць тут добра толькі рабін ды настаўнікі. А астатнія, лічы, ужо не знаюць. І тата, і мама не разумеюць. Самі ж бачыце і чуеце, яны гавораць так, як і ўсе тут, у Янкавінах. Дык я падумаў:

а чаму мне не пісаць вершы так, як і наш Змітрок Бядуля? Яго ж добра тут прымаюць!

— Што ж я магу параіць і тут табе, Фоля?! — паціснуў плячыма Алесь.— Пішы пра тое і па той мове, якую больш любіш, на якой можаш лепш сказаць, што думаеш. А мовы, па-мойму, усе прыгожыя. Бо яны — дар божы, вялікі файны букет з самых розных кветак.

— Я люблю паэзію. Пушкіна, Лермантава, Цютчава, Фета, Багушэвіча, Купалу, Коласа, Багдановіча. Я хацеў бы вучыцца, вывучаць мовы і літаратуры, сам пісаць. Але тата ў горад мяне не пусціць. Кажа: не хацеў вучыцца на настаўніка, дык ідзі па маіх слядах. Я стары, скора памру, дык будзеш трымаць маю крамку. А каб вы, пане Аляксандра, ведалі, як я не хачу быць крамнікам! Гандляваць, усякімі хітрыкамі вырываць капейкі. А не будзеш вырываць, абманваць — пойдзеш з торбаю па свеце...

— Яно так... — уздыхнуў Алесь.— Гэта закон уласнасці. Думай пра сябе, а не пра іншага. Абманвай, абірай, занявольвай, як можаш. Такі Свістуноў, Невядомскі, Гарбацэвіч, твой бацька і любы іншы ўласнік... Ад іх аднолькава пакутліва гаруюць усе бедныя людзі...

— Але вы можаце спачуваць беднаму, ганіць багатага, дабівацца справядлівасці. Я — не,— сказаў Фоля.— Багатыя баяцца, каб не аслабела іх моц. Жабацінскі, адзін з нашых правадыроў, сказаў: «Хто з нас прызнае класавую барацьбу, той — нацыянальны здраднік». Таму нават тата забараняе скардзіцца на багатага. Кажа: усе мы — бедныя, але павінны імкнуцца пабагацець. Але ж гэта не так, не ўсе бедныя. Ёсць нават і мільянеры. Дык як жыць з манаю? Ці не ўцячы, пане Аляксандра, у горад, да рэвалюцыянераў — сумленных людзей?

— Глядзі сам, Фоля. Кожны ж, відаць, павінен найперш сам выбраць сабе дарогу ў жыццё.

— А вы будзеце зноў п'ескі ставіць, хор ладзіць, вершыкі чытаць?

— Можа, і буду. Хай пост скончыцца. Ды ўлады дазволяць, людзі гэтага захочуць...

— Можа, вы і мяне ў свой гурток узялі б? — падняўся Фоля.— Я, можа, таму і вершы пісаць пачаў, што ўсё тое ваша мне ў душу запала...

— Калі ласка, Фоля,— падняўся і Алесь.— Давай разам будзем усё рабіць. Ні ад сумеснай работы, ні ад сяброўства я не адмаўляюся. Абы мы былі шчырыя, верылі, памагалі адно аднаму.

## 6

— От, разводзіце толькі сырасць у хаце...— з незадавальненнем сказаў Мішук, каторую ўжо хвіліну назіраючы, як старэйшая дачка, Галена, прысела і трэ рукамі камякі мелу, мяшае яго ў вялікай мядніцы з вадою. Вось падышла Зося, пачала ліць у мядніцу са збанка свежае малако.

Дочкі прамаўчалі; гаспадыня, тоўстая, як капа, усё яшчэ прыгожая кабеціна, не змаўчала, гэтаксама накінулася на буркатлівага мужа:

— Па-твойму, няхай і на вялікдзень будзе ў хаце чорна, як у пуні?

Мішук — тонкі, худы мужчына — не саступіў. Павёў тонкім носам, шморгнуў вусамі:

— Вам абы ваду ліць...

Яны, старыя Мішукі, усё жыццё вось так: Мішук крычыць на жонку, Мішучыха — на яго. Ніхто нікому не саступае.

— Вы не сварыліся б, тата, а лепш дубэльты даcталі б,— прамовіла Зося,— дык мы заадно і вокны памылі б.

— Нагрэлася падта! — забурчэў Мішук, пайшоў да печы, выкаціў чапялою з пода гарачы вуголь, прыпаліў цыгарку. Пыхнуў дымам.— Яшчэ і стары снег ляжыць, і новы можа нападаць.

— Няўстойлівая сёлета вясна,— сказала старэйшая дачка, Галена, каб, мусіць, звесці на іншае гутарку.— То сонца, то хмурнасць. То мароз, то дождж...

Мішук змаўчаў; ён быў з тых мужчын, што не любяць амаль усёй жаночай работы. Ён ведаў: трэба кабеце зварыць есці, спячы хлеб, заслаць ложкі і падмесці ў хаце, памыць бялізну, замяшаць едзіва свінням і курам. Гэта спрадвеку жаночая работа. Але не мог цярпець, калі жонка ці дочкі праз дзень-другі мылі ўсё ў хаце, часта мазалі мелам сцяну і печ, часцей, чым трэба, мылі бялізну ці мыліся самі — разводзілі сырасць у хаце, як лічыў. Хоць пасля, калі свяжэла, харашэла ў хаце, калі спаў чысты і ў чыстай пасцелі, бачыў, што так і трэба, але ўсё роўна век грызся з жонкаю, пасля са старэйшаю дачкою, а цяпер з Зосяю, што тыя без пары згнояць хату.

— Ідзі ў хлеў ці ў гумно, рабі сваё,— сказала яму цяпер жонка.— Не лезь да бабскай работы. Мы ж да цябе не чапляемся, калі ты што сваё робіш з сякераю ці з сахаром. Хоць каб не дыміў у хаце, дык напалавіну чысцей было б.

— Хваціць? — запытала Зося ў Галены.

— Лі, лі,— адказала тая.— Больш млека — менш мел потым будзе брацца за плечы,— і, паварочваючы галаву ў белай касынцы да бацькі, усміхнулася: — Сёлета, тата, мусова трэба хату пабяліць, прыбраць...

Зося — гэтаксама ў белай касынцы, завязанай па патыліцы, у старой белай блузцы з кароткімі рукавамі і ў спадніцы, босая — з насцярогаю зірнула на сястру: у той на свежых поўных вуснах блукала гарэзная ўсмешка, а ў файных вялікіх чорных вачах пабліськвалі вясёлыя агеньчыкі.

— А што ж сёлета за мус такі? — нібы перакрывіў Мішук.

— Тоіцеся ўсё... — хітра зірнула, нібы пакрыўдзілася Галепа.— І ад усёй вёскі, і ад мяне, дачкі... Ведама ж, я ўжо не ваша, у чужой сям'і жыву... Дык можна мне ўжо і не гаварыць...

І Мішук, і Мішучыха, знерухомеўшы, са здзіўленнем зірнулі на старэйшую дачку: якія сакрэты? А яна нераваяла хітры позірк па Зосю — у той раптоўна зачырванелася вуха. І пайшла-пайшла чырвань па твары.

Зося падхапілася, бы яе ткнулі іголкаю, зірнула бездапаможна на маці, не вытрывала позірку той, панесла ў парог, да паліцы, пусты збанок.

— Чаго вы гэтак абое на мяне пазіраеце? — усміхнулася Галена, далоньмі абцерла з рук крапінкі мелу.— Як і не ведаеце нічога...

Мішук змаўчаў; даўно ўжо на Галену, замужнюю дачку, маці дваіх дзяцей, не гамаціў. Гамаціць па яе ёсць каму — мужу, свёкрам. Падвучваў некалі, калі быў яшчэ дома яе Аляксандра, гамаціць на яе, жонку,— калі пайшоў па вёсцы поголас, што Галена ўпотай любіцца з Вінцуком Драздовічам, калі сватам пачалі мазаць уночы вароты глінаю.

— Ды кажы ўжо, што ты ведаеш і што мы табе не гаворым... — азвалася Мішучыха, запыніўшыся каля печы.

Галена ўстала, лёгка, пагойдваючыся, іграючы клубамі, падышла да маці, нагнулася, сунула рукі ў бадню з цёплаю вадою і, усміхаючыся, абмылася. Потым усё з усмешкаю зірнула на Зосю — тая, збянтэжаная, як абмерла каля паліцы, хмурна пазірала на яе, напусціўшы на вялікія вочы чорныя броўкі. А тады паказала язык, паляпала па ім пальцам — брашы, сястрычка, брашы.

— Усе ў вёсцы кажуць, што вяселле ў вас сёлета будзе...

І бацька, і маці мігам зірнулі на Зосю. Тая сцялася пад іхнімі позіркамі, яшчэ гусцей пачырванела. Здаецца, дакраніся да яе пічок — пырснуць, як саспелы памідор.

— От брэша брэхні, а вы слухаеце... — урэшце Зося апамяталася. Нікому не пазіраючы ў вочы, апаласкала збанок і сівую ваду з яго выліла ў мядніцу. У ёй ужо муць і бель пакрыху асядалі на дно, наверсе выстойвалася празрыстая вада.

— Не брашу, сястрычка,— адказала тая.— Ужо каторы час у вёсцы кажуць, што ты ходзіш з хлопцам.

— Казалі-гаварылі, ходзіць Базыль да Марылі! — незалюбіла Зося.— А ты выслухоўваеш і разносіш плёткі.

— Не, міленькая. Без агню дыму не бывае.

— Я такі і здагадвалася, што да нашай паненкі ўжо кавалер ходзіць,— разгублена прамовіла Мішучыха.— Усю ж зіму па Сяло бегала. І цяпер абы вечар — дык і шмыг з хаты... Пад вакном стаяла раз з некім, бубніла...

— І добры хлопец ходзіць,— паважна сказала Галена.

— Хто ж? — зацікавілася маці.

— Ды сваяк мой,— усміхнулася Галена.— Янак Нямкевічаў. Кажуць, другі год ужо адно з аднаго вачэй не зводзяць. А сёлета ўжо і любяцца як галубы.

— Дурная! — абазвала Зося, не змогшы больш нічога крыўдлівага сказаць сястры. Адчула боязь: усё, яе тайны ужо больш няма. Выходзіць, у вёсцы ўжо ведаюць, што яны спатыкаюцца з Янкам. І бацька, і маці ўжо знаць будуць. Расказала ж! Ціпун ёй на язык!

Ні Мішук, ні Мішучыха нічога кепскага на Янку не сказалі: і бацьку яго паважалі, і пра самога яго

блага не думалі. Нават часта хвалілі, гаворачы між сабою: і працавіты, і спрытны, і разумны хлопец.

— Не слухайце яе... — лічы, ускрыкнула Зося, пазіраючы ўжо на маўклівых, разгубленых маці і бацьку.— Ілжэ яна, кепікі строіць. А на Сяло я так хадзіла... Вышываць... З дзяўчатамі пагаварыць...

— Ведаем,— усміхнулася Галена,— чаго не спіцца і ў хаце не сядзіцца!

— Яшчэ матчынае млека на губах не абсохла, а ўжо юр у галаве... — незадаволена прамовіў Мішук, патаптаўся і пайшоў у парог. Па кажух.— Зарана ж, аднак, надта...

— Яна лжэ... — перабіла бацьку крыкам Зося. Усхліпнула.— Складае складанцы, а вы...

Мішук нічога не адказаў. Пасунуўся з хаты. Можа, і ў хлеў ці ў гумно — да сваёй работы. І заадно, канечне, падумаць пра гэтую навіну. Гэта яны, бацькі, лічылі: Зося яшчэ зусім маладая, мала думалі пра яе замужжа, а яна вылюдзела раптоўна, што і не агледзеліся.

— Не складаю я ніякія складанцы,— ужо без жартаў прамовіла Галена.— Што праўда — тое праўда. А праўды, як і агню, не схаваеш. І нашто хаваць? Янак — хлопец добры. І калі бярэ, дык гэта толькі радасць нам павінна быць. Хто б з вёскі не хацеў бы парадніцца з Нямкевічамі!

І потым, калі пачалі ўжо мазаць мелам хату,— Галена і Зося столь, а маці ўслед за імі сцяну,— гаварылі. Галена з маткаю. Зося маўчала. Думала. Трымала адною рукою глыбокую гліняную міску з разведзеным мелам, другой тыцкала ў яе квач са свіной шэрсці, шоргала іх па задымленай і прапыленай столі і разважала. Пра Янку, пра сябе.

«Ведаюць ужо ўсе, што ён ходзіць да мяне... — думала.— Можа, няхай бы я гэты час не паказвалася на Сяле, яму на вочы. І не было б яшчэ ніякіх плё-

так... Але як было не паказацца, калі гэтак нешта цягнула выйсці з хаты... Дык і выйшла ўсё, як у сне».

Дзіва адно: як сыходзяцца хлопец і дзяўчына?! Некалі, калі былі зусім малыя, яна не толькі не бачыла яго, але здаецца, і не ведала, што ён ёсць на свеце. Ён рос у сваіх Глінішчах, яна — каля Сяла. Выпадкова, можа, і спатыкаліся — на вячорках, на чыім вяселлі,— але адно на аднаго не зважалі, не запомнілі. Пасля, калі падрасла ў падлетка, ёй падабаўся серадольшы сын Сцяпана Сулрапевіча, які ўжо жанаты і цяпер у заробках. А як пайшла ў школу, дык ёй прыпаў да яе дзіцячага сэрца малады настаўнік — высокі, светлы, з блакітнымі вачыма. Ён вельмі хораша іграў на гармоніку, спяваў. Але ён пабыў мала, гады з два ці тры. Пасля на яго месца заступіла Кацярына Сяргеенка, а ўслед за ёю заявіўся і Алесь Нямкевіч.

Ішлі гады, яна ішла ў юнацтва, а нешта светлае і далікатнае пра таго настаўніка заставалася ў яе душы, прыемна хвалявала і часта скіроўвала па прыемныя мары пра каханне.

А ■ Янкам завязалася ўсё пазалетась, калі яны, Мішукі, Грыгарцэвічы, Нямкевічы — іх палоскі на полі былі побач — жалі жыта.

Лета тое было спякотнае, грымотнае — сонца смаліла неміласэрна, аж вяла зеляніна і бялела зямля, і часта, найбольш з маленькіх сівых хмарак, бушавалі навальніцы. Тады забіла перуном дваіх янкавінцаў: маці Сцяпана Чорнага (яна ў адну з навальніц не пабегла з поля, а схавалася ў мэндлік, дык туды і ўцэліў пярун) і малодшага сына Драздовіча (яго пярун забіў на возе са снапамі).

У адзін з сухіх дзён Зося жала з маці. Галена, ужо замужняя, насунуўшы на вочы хустку, гнула спіну на свёкравым полі. Спіна ў Зосі ныла — хоць работа жняі была для яе звычная ўжо, аднак сагнуцца-раза-

гнуцца тысячы разоў, парэзаць сярпом без адпачынку, напячыся на сонцы — якая ні будзь здаровая, звыклая, усё роўна зморышся. Дык яна і натамілася, чакала, калі нарэжа сноп, каб звязаць яго і, калі ён будзе дзесяты, пачаць ставіць мэндлік. Вось тады, калі ставіла мэндлік, носячы з поля снапы, што ляжалі, як авечкі, і хітравала — выраўнівала спіну, адпачывала, кідала позіркі на вялікае жытнёвае поле: хто з янкавінцаў колькі нажаў. Ганарылася, што яна з маці нажала столькі ж, колькі і Галена са свекрывёю ці Нямкевічы ўтраіх — маці, Кастуся і Янка. Лічы, пароўну ва ўсіх мэндлікаў. Пазіраючы на светлавалосага, босага Янку, здзіўлялася: хлопец, а жне. І жне добра.

Як зноў жала, дык пачула крык. І яна, і ўсе кабеты на полі паднялі галовы: крычала на сваім полі Кастуся. Туды ўжо бегла Галена — суседка і заадно сваячка Нямкевічаў: яе муж, Аляксандра, быў родным пляменнікам Нямкевічу.

— Бяжым і мы,— сказала маці,— нешта ж блага з Анцяю.

Калі яны прыбеглі, дык убачылі: на ржышчы ляжыць дагары Нямкевічыха — доўгая і белая. Ля яе на коленцах стаялі Кастуся і Янак. Кастуся галасіла.

— Мамачка, родненькая! — лямантавала яна.— Што ж з табою?

— Гэта ад сонца памрачэнне найшло... — сказала прыціхламу гурту кабет Галена.— Трэба даць цётцы Анці вады і занесці яе ў цень. Халодны кампрэс на лоб палажыць. Бяжы, Янка, па ваду,— закамандавала, апусцілася каля пажылой кабеты, прыклала галаву да грудзіны і паслухала.— Сэрца, дзякуй богу, б'ецца...

Янка падхапіўся, пабег дадому — не ў хату, а да недалёкай дзікай грушы на сваім полі, дзе ўсе блізкія

жнеі паставілі свае збанкі з вадою ў цені. Прынёс, падаў Галене. Тая набрала ў рот вады, апырскала Анцін твар, лінула вады той на губы. Вада не трапіла ў рот, пацякла па худой маршчыністай шыі.

— Давайце ж, бабы, занясём яе ў цень пад грушу...

Але Янка, апамятаўшыся ўжо, не даў, падняў сам маці на рукі і лёгка панёс. Як маленькую. Яны, кабеты, рушылі следам. Цяпер ужо загаманілі. Хто — што.

— Можа, і сонца, а можа, і сэрца.

— Век у рабоце і ў рабоце...

— У яе ж век малакроўе і малакроўе...

— А глядзіце, бабы, які ўжо дужы яе меншы сын!

— Спраўны хлопец!

Зося, ідучы ўслед, зірнула на Янку: і праўда, высокі, шырокі ў плячах. І пасля, калі Янка данёс маці да грушы, паклаў у цень, калі кабеты пачалі то падкладаць свае фартухі Анці пад галаву, то мачыць у вадзе хусткі і класці той на лоб, Зося пазірала на Янку — засяроджанага, з апушчанымі светла-рыжымі бровамі, з цёмным шчаціннем пад носам і на падбародку.

«Як ён любіць маці! — падумала.— Ён, мусіць, цяпер надта пакутуе?»

Ён неяк адчуў гэты позірк і перавёў вочы на яе. І зірнуў так, нібы ўбачыў яе ўпершыню: абгледзеў і белую касынку на галаве, і яе твар, і невысокія яшчэ грудзі, аголеныя да плячэй, загарэлыя, з белымі крапінамі — ад ржышча — рукі, босыя ногі. Яна аж сцялася ад гэтага позірку, адчула: ён ужо не дзяціны — хлапечы. Збянтэжылася, схавалася за спіны.

І пасля, калі жала зноў, калі Анця паляжала крыху пад грушаю і зноў вярнулася на поле, яна не-пе дый кідала позірк на Нямкевічава поле, на Янку, і ён,

здаецца, часта пазіраў сюды, на яе, бянтэжачы яе і трывожачы.

Пасля гэтага дня адчула: Янка чагосьці пачаў пазіраць на яе незвычайна — пільна, учэпіста. Аж яе сэрца замірала. Ёй было брыдка, яна і сама баялася яго гэткіх позіркаў, і асцерагалася, што пачнуць абы-што гаварыць людзі. Але дзіва: на вячорках ці забавах, пры выпадковых сустрэчах пазірае пільна, а не загаворыць, не зачэпіць. З кожным годам хлопцы ўсё больш і больш ліплі да яе, нібы толькі яна адна была дзяўчына ў Янкавінах — жартавалі, спрабавалі абдымаць,— а ён не. І яна пачала баяцца яго: нешта ён носіць у душы на яе няладнае. Уцякала, хавалася, каб не трапіць яму на вочы. І дзіва: больш думала пра яго, хацела бачыцца і зноў адчуваць тыя магічныя позіркі. Можа, і яшчэ б доўга маўчалі, баяліся б адно аднаго, каб ён гэтак нядаўна не пасмялеў, сілаю не затрымаў яе, калі вярталіся ад Чорных. А як пацалаваў тады першы раз — пацалаваў без яе згоды,— дык усю ноч не спала. Адчула: любіць яе. Таму і пазіраў так дагэтуль, маўчаў. Збаялася, хадзіла з тыдзень як чужая. Праўда, цяпер ужо спіць. Не баіцца ні яго, ні сустрэч. Чакае іх з нецярпеннем...

— Зося! — паклікала яе раз-другі Галена.— Ты што? Не бачыш: і сама абліваешся, і ток мелам зліла? Паменей мачай.

Схамянулася. Задумалася і не заўважыла, што марнуе мел.

«Сёння ж падакляравала, што вышываную хустачку яму дам... — зноў думкі клікалі на сваё.— Прыгатавала, схавала пад сеннікам. Хоць бы толькі мама ці Юзя не агледзелі...»

Пазней, калі маці выйшла на двор, да Зосі загаварыла Галена:

— Ці не злуеш ты на мяне, Зоська?

— Маеш жа доўгі язык! — адказала.

— Ходзіш-такі з ім? — усміхнулася тая.— Не маняць людзі?

— А вот не скажу!

— Дурненькая! — Галена лагодна зірнула на яе, апусціла, відаць, здранцвелыя рукі.— Не злуй! Я ж хачу, каб табе як найлепей было. Сама ты ні тату, ні маме ніколі не скажаш, каго любіш, за каго замуж выйсці хочаш. Па сабе ведаю. Бо нейкая дурная брыдкасць вочы і душу выядае. А я цяпер магу сказаць. За цябе. Хай ведаюць старыя, раяцца, хай не будуць табе ворагамі...

«І праўда,— падумала Зося.— Можа, яно так будзе і лепей».

Усміхнулася ў адказ. І Галена лагодна ўсміхнулася. Файная яна. Высакаватая, поўненькая, з пышнымі грудзьмі. Чарнявая. Як цыганка. Усе кажуць: Зося па ёй пайшла. Толькі яшчэ танейшая і не такая чарнявая.

— Хоць я табе, сястра, праўду горкую скажу: няма вялікага шчасця замужам... — уздыхнула Галена. — Работа і работа, клопаты, трывогі. Зусім не тое, як думаеш пра замуж дзяўчынаю. Але ж,— і ўсміхнулася,— і без замужжа няможна. І людзі засмяюць, і сама грызці душу сваю будзеш... А ён табе надта да вока прыпаў?

Зося збянтэжылася. Апусціла позірк на міску з квачом.

— Ну, прызнайся. Я ж нікому не скажу.

— А табе? — усміхнулася.

— Наравіцца,— прызналася Галена.— Ён, відаць, хлопец добры, ласкавы, гарачы. Ён па Гіполю пайшоў. А Ядзя кажа: Гіполь гарачы...

— От кажаш! — сорам хлынуў да Зосі.— Я не пра тое пыталася...

— Гэта не абы-што, сястра,— уздыхнула Галена.— Усё трэба адно да аднаго... Думаеш, мне лёгка,

што мой Аляксандра халодны? Яго не зачапі — ён цябе і тыдзень, і месяц не зачэпіць. Не прылашчыцца, не прыгорнецца, ніколі не пацалуе. Спаць лажам — адвернецца і храпе... Не тое, што Вінцук...— усміхнулася, і нейкая цёплая, лагодная хваля пайшла па яе твары, і твар яе засвяціўся чароўнай жаночай красою.— Той штодзень гарыць як агонь і цябе агнём паліць...

«Якая яна распусніца! — падумала Зося.— Не дзіва, што свёкру вароты глінаю мазалі...»

— Не пазірай на мяне так, сястра,— горка ўсміхнулася Галена, ужо сама ў задуме круцячы квач у меле.— Цяпер ты мяне сяроўна не поймеш. Вот калі станеш кабетаю, тады сама ва ўсім разбярэшся. Не зусім праўду сказала мама: не самае важнае для чалавека — зямля... Ест і яшчэ нешта важнае... Каханне гэтаксама. Без яго жыць цяжка. Пусты ты колас. Камень. Не будзеш любіць мужа — другога палюбіш... Бо мусіш некага любіць... Ды не буду тлуміць табе галавы. Толькі адно параю табе... — не пазірала ў вочы, убок.— Толькі не паддавайся да шлюбу! Бо потым, калі і возьме цябе, усё жыццё папікаць будзе: ага, паддалася дзяўчынаю мне, дык, можа, паддавалася дзяўчынаю і некаму... Яны, мужчыны, дурныя. Няхай ён даўжэй пацерпіць, папакутуе — потым ох які ласкавы, гарачы будзе...

— От гаворыш! — адвярнулася Зося, злезла са столка, пайшла да мядніцы. Браць мел.— Абы-што!

— Вучу цябе, сястрычка... — прамовіла тая наўздагон.— У жыцці ўсё ведаць трэба. Сама ўсяго адразу не ўведаеш, дык можаш памыліцца. Дык і слухай старэйшых. Пажывеш, навучышся і сама, і ад людзей і салодкаму, і горкаму — другіх, маладзейшых, вучыць будзеш.

7

Увечар, калі ўжо Галена пабегла дадому, да свёкраў, калі ў хаце каторыя сцены — найбліжэй да печы — і столь амаль высахлі, бялеліся чысцінёй, а тая сцяна, што мазалі найпазней, цьмяна яшчэ шарэла, пахла сырасцю, Зося памагла маці ўхадзіцца па гаспадарцы, памылася і пераапранулася.

Ніяк сёння не магла дачакацца цемнаты. Здаецца, занадта доўга заходзіла сёння сонца, што вызірнула і выясніла неба толькі пасля поўдня, занадта доўга трымалася на двары светлата. І хоць сёння было клопатна, шмат работы ў хаце, надзіва рана ўхадзіліся, а пасля вярнуліся ў хату бацька ды маці.

Маці адразу ж скеміла, што яна навастрылася ісці на Сяло. Спачатку сачыла за ёю, як яна то садзілася, то падхоплівалася, ішла да куфра і глядзелася ў маленькае люстэрка, зазірала ў вулічнае акно.

— Ох, няўседна! — забурчала маці.— Натамілася ж, ляж, адпачні.

— Я не стамілася,— адказала Зося.— Мне трэба схадзіць на Сяло.

— Кавалер там чакаць будзе?

— Пажартавала Галена, а вы вот верыце, думаеце абы-што... — адказала.— Схаджу да Волькі, нітак чырвоных пазычу.

— Папрасі ў жабрака хлеба...— чагосьці злавала маці.— Пойдзе да Чорных у пазыкі!

Сёння бацька маўчаў. Сядзеў пры стале і маўкліва курыў. Ці напрацаваўся, ці яго гэтак збянтэжыла Галеніна вестка, што іхняя Зося мае ўжо кавалера.

— Сыходнія тыдні вялікага поста, самая жалоба, дык трэба кінуць гэтае вышыванне, гэтыя гульбішчы,— сказала маці, дастаючы з печы гаршчок з астаткамі палуднёвай варанай капусты.

— Як пачнецца скора ў полі работа — дык самі па сабе прападуць тыя гульбішчы, як вы кажаце.

— Вам і ўвесну ды ўлетку ўпынку няма...

Выйшла Зося з хаты, калі павячэралі, калі бацька запаліў на камінку лучыну, а маці, стогнучы, здаецца, ледзь носячы свой вялікі жывот, пачала парадкаваць пасуду.

Вымкнуўшыся на цёмную ўжо вуліцу, супынілася, агледзелася: ці не ідзе следам бацька ці маці? Ці не супецца хто з Сяла ці з Глінішча? Дзякуй богу, ціха.

Янкавіны зноў, як і пазаўчора, учора, наважыліся спаць. Але не ўсе. Ёй вось не да сну. Азірнулася на хату: праз не завешанае сёння фіранкаю акно ўбачыла: маці і бацька сышліся і стаяць каля печы. Здаецца, гамоняць. Ціха, спакойна, разважна. Можа, і пра яе.

Няхай гавораць. Яна пайшла. Па шарсткаватай — пасля дзённага прыгрэву і цяперашняга марозіку — вуліцы. Аж да Будніка — да павароткі на хутар, на сценку. Парадавалася: каля Буднікавай студні — высокага рыпучага жураўля — нікога няма. Звычайна тут ранелька ці позна ўвечар сыходзяцца і стаяць гаспадыні. Прыйдуць па ваду, пабяруць вёдры, але не могуць разысціся, пакуль не перакажуць усе навіны ці каго не абгавораць.

З павароткі звярнула на сценку, са сценкі — да свайго гумна. Як і раней, зрабіла вялікі круг, каб трапіць да сваёй сядзібы. Трэба. Угледзелася: тут Янка ўжо ці яшчэ няма? Здаецца, няма. І што гэта з ім здарылася? Тыя разы першы прыходзіў, казаў, што шмат чакаў.

Падышла да дзвярэй, што цяпер, на зіму, замкнёныя з сярэдзіны гумна. Яны адчыняюцца толькі летам — укідаць сена. Ля шула дзвярэй варухнуўся цень. Ён, Янка! Ужо тут!

— Во аж калі... — прамовіў з крыўдаю.— Я ўжо, лічы, скалеў чакаючы.

— Выйсці раней не магла,— адказала падыходзячы.

Падышла зусім блізка. Абняў. Яна паслухмяна прыпала да яго грудзіны. Дала вусны — адчула яго халодныя, уладныя губы. І сёння не калючы. Штодзень цяпер голіцца.

Ад пацалунку закружылася галава. Аслаблі ногі. Пайшла-пабегла цяплынь па целе.

«Праўду казала Галена,— падумала,— пацалункі — агонь... Аж палымнее кроў...»

— Дык даўно ўжо чакаеш? — адарвалася, прашаптала.

Не адказаў. Зноў пачаў шукаць губамі яе вусны.

— Пачакай, — папрасіла, — дай перадыхнуць. Надта ж закружылася галава.

— І ў мяне,— прашаптаў.— Як у п'янага.

— І чаму гэта так? — здзівілася.

— А бог яго ведае... — прызнаўся.

— Ва ўсіх так кружыцца ці толькі ў нас адных?

— А хто ж яго ведае...

— Ты ж, відаць, цалаваўся, дык ведаеш!

— Ага! Ні з кім я не цалаваўся! — сказаў і ўспомніў: маніць, цалаваўся аднойчы. З братавою, Ядзяю. На сене. Не было больш грэшнага, але цалаваўся. Утаіў гэты свой грэх. Не асмеліўся прызнацца.

Стаялі абняўшыся. Памаўчалі.

— Раскажы што,— абазвалася.

— Што?

— Ну, што цікавае.

— Я нічога цікавага не ведаю.

— Дык раскажы тады што нецікавае...

— Што?

— Ну, што ты рабіў сёння?

— Работа звыклая... — адказаў.— Парадкавалі ў хляве і ў гумне. А ты? Памазалі хату?

— Памазалі. Дзякуй богу, мел добры трапіўся. Беленькі. Павінна быць у хаце светла.

— Прыйду калі, зірну,— пажартаваў, ведаючы, што яна вельмі ж баіцца, каб ён не зайшоў у хату.

— Цяпер ужо не зойдзеш... — адказала для яго нечакана.

— Чаму?

— Нашы ўжо ведаюць, што мы з табою ходзім.

— Адкуль? — здзівіўся.

— Галена наша сёння сказала.

— Ну і што? — запытаў з хваляваннем.— Крычалі на цябе?

— Не,— адказала.— Але і мама, і тата неяк спахмурнелі...

— Можа, не хочуць, каб іменна я да цябе хадзіў?

— Не. Такога яны не гаварылі.

— Ну што ж. Ведаюць, дык і добра.

— Добра то добра, а мне цяпер няпроста і з хаты выйсці. Ведаюць жа, куды і чаго пайшла...

— Ну і няхай! — мацней прытуліў.— Усё роўна рана ці позна трэба прызнавацца.

— Ваш Алесь з Кацярынаю не памірыўся? — нечакана для самой сябе запытала яна пра старон-няе.

— Здаецца, не.

— Нейкі ён дзівак,— прамовіла.— Кажуць, і дзень, і вечар увесь у хаце сядзіць. Чытае, піша нешта. А Кацярына, можа, і наўмысна гэтыя дні па вуліцы і ўдзень, і ўвечар шпацыруе, можа, хоча яго спаткаць. Сустрэла ўчора мяне каля Буднікавай студні. Запыніла. Разгаварыліся. Дык, ведаеш, што яна мне сказала? Кажа: выходзь замуж толькі па каханні. Ніколі не ідзі за нялюбага. Я вот, кажа, некалі не зрабіла так, памылілася, дык цяпер пакутую...

— І Алесь наш, здаецца, пакутуе...

— Вот дзе чалавек! — пазайздросціла.— Разумны, культурны! Відаць, многа-многа ўсяго ведае.

— Многа.

— Толькі ж надта ён спакойны і ціхі. Зусім не ганарлівы, як Гарбук ці Дзежка, просты.

Прамаўчаў. Што ён мог сказаць кепскага пра брата?

— Карова ваша ацялілася? — запытала яна.

— Ага.

Пагаварылі пра вясковыя навіны. Зноў пачалі цалавацца.

— Зоська,— прашаптаў, ціснучы колькі хапала сіл.— Я прышлю пасля вялікадня сватоў. Добра?

— Рана ж яшчэ. Колькі мы там хадзілі разам.

— Хіба я цябе не ведаю ці ты мяне не ведаеш?

— Ну, сяроўна...

— Дык прыедуць другія. Нашы каторыя ці з Налібак. Альбо з Дзераўной.

— Я за нікога чужога не пайду.

— А калі багаты які прыедзе?

— І за багатага не пайду.

— А за мяне?

— Пайду, калі мяне любіць будзеш. Як ніколі-ніколі не крыкнеш на мяне, рукі не падымеш. Калі век увесь Зоськаю, як цяпер, будзеш называць.

— І не крыкну, і рукі не падыму,— падакляраваў.— Я пагавару са сваімі, каб адразу пасля вялікадня прыслалі сватоў да вас...

— Але ж тата добрага пасагу мне не дасць,— ціха сказала.— Самае вялікае — дзве дзесяціны зямлі.

— Я не пра пасаг, Зоська, думаю. А пра цябе.

Спадабалася ёй. Аддана прыпала, надоўга дала вусны. Цалаваліся датуль, пакуль не задыхнуліся ў пацалунку.

— Будзем жывыя — усё нажывём...— сказаў.

— А пра Анельку Гарбацэвічаву бацька твой ні-

чога больш не гаворыць? — запытала. Ён расказаў ёй ужо раней пра тую гутарку, што адбылася некалі на Шубіне між бацькам і суседам Гарбацэвічам.

— Не. А вашы пра Віцю нічога не гаварылі?

— Не,— адказала,— а хоць бы і гаварылі, думалі што, але я за яго ніколі не пайду. Можа, і неблагі ён хлопец, ціхі, спакойны, мухі не зачэпіць, але ж недарэка. Кажуць, ён не то баба, не то мужчына.

— Як уломіць бацьку і прышле сватоў, дык вашы, можа, і пагоняцца на яго зямлю?

— Можа, і пагоняцца. Але я не паганюся... Ніколі!!!

— Ну, глядзі...

— Гляджу... Сам ты, можа, на Анельчын пасаг пагонішся! А яна ў пасаг не дзве дзесяціны прынясе. Можа, і тры разы па дзве...

— Я-то не паганюся! Я толькі цябе адну хачу ўзяць,— сказаў. І гэтак запальчыва, ад усёй душы, як ніколі яшчэ ні ў чым не кляўся.

Зося адчула гэта, паклала даверліва галаву на яго плячук і мела вялікую асалоду ад яго гэтых слоў, плывучы паволі думкамі ў нейкі новы, таямнічы свет. Свет новага — замужняга — жыцця.

— А як мы з табою, Янка, жыць будзем? — прашаптала.

— Добра.

— Як — добра? Ты скажы.

— Будзем рана ўставаць, ісці на работу, рабіць цэлы дзень,— гаварыў, заадно і абдумваючы тое новае жыццё.— Увечар спаць разам ляжам...

— Балабон! — ажывілася, затуліла яму рот далонню.— Грэшнік!

Адарваў яе далонь. Усміхнуўся.

— Чаму? — пагарэзнічаў.— На тое ж усе і жэняцца. Каб працаваць, жыць разам, каб дзеці пайшлі...

— Перастань! —закамандавала.— Не гавары абы-што.

— А я не абы-што гавару...— смялеў.— Спачатку ў нас будзе хлопчык, а потым дзяўчынка.

— Дурны! — зноў хацела затуліць яму рот далонню. Але ён не даўся. Павалтузіліся. Узгарачаныя, зноў замёрлі ў пацалунку.

— Няўжо некалі і нашы бацькі гэтак во, як мы, спатыкаліся ўпотай? — адхіліўшыся ў стоме, здзівілася Зося.— Няўжо яны адно аднаму такое гаварылі?

— Можа, і так.

— А мне здаецца, што не. У нас першых усё гэта так. Ва ўсіх або зусім гэтага не было, або было іначай.

— А ты ж не хацела гэтага, уцякала...

— Маўчы! — прамовіла.— Нічога ты не ведаеш...

— Скажы.

— Не. Некалі хіба.

— Цяпер скажы.

— Не-не. І не прасі.

— А калі ўсё ж добра папрашу?

— Дурны! — зразумела яго намёк, тыцнула ў грудзіну.— Калі будзеш такое гаварыць, дык не буду выходзіць.

— Не буду,— паспяшаўся заспакоіць.— А ці прынесла ты тое, што падакляравала?

— Прынесла,— адказала і дастала з кішэні кажушка згорнутую белую вышываную хустачку. На ёй былі вышыты тры знакі: «З» + «Я».

Узяў. Адчуў: хустачка пахне духамі. Цеплынёю аблілося сэрца: Зося ўжо напраўду толькі яго. Такая ў Янкавінах спрадвеку завядзёнка: калі дзяўчына дае хлопцу вышытую ёй самой хустачку, дзе вышывае першую літару свайго імя і імя хлопца,— дык яна аддае заадно яму і сваю душу, сваё сэрца. Яна пасля гэтага ўжо яго.

— Дзякую,— прашаптаў.— Буду век яе берагчы.

— Не кляніся. Можа, яшчэ зменіш на файнейшую, даражэйшую...

— Не. Ніколі,— абняў, пацалаваў.— Мы з табою, Зоська, самыя шчаслівыя будзем!

## 8

— Ну, вот бачыш, як нам добра...— шаптаў Уладак Веры.

І сёння яны былі ў цёмнай, пахкай ільном восеці, кахаліся.

Сёння Вера была ўжо зусім іншая, чым у тыя вечары, сёння яна не плакала і не ўпарцілася, не прымала яго спакойна і пакорліва, а адзывалася на ўсе яго рухі, гарэла і яго паліла агнём.

— О, божачка! — шаптала, раз-пораз цалуючы яго ў вусны і ў шчокі.— Як я цябе люблю! Я твая. Чуеш, толькі твая.

— Чую, чую,— адказаў ён.— Бачыш, які я хлопец!

Яна моўчкі, гарэзна пляскала яго далонню па баку. А ён ад гэтага яшчэ больш гарэзаваў, шпурляў яе, здаецца, у полымя ласак і пяшчоты. Вера стагнала, гарнулася да яго, хацела зусім быць яго.

Пасля яны доўга ляжалі побач. У мінулы раз нават і заснулі адно каля аднаго. І сёння іх ледзь не агарнуў сон.

Як толькі адчула, што зліпаюцца вочы, Вера падхапілася. Села на калені.

— Уладачак,— узяла далонямі яго галаву, прымусіла яго падняцца, прысесці гэтаксама на каленях.— Ты не насмяешся? Не кінеш мяне?

— Не,— прамовіў. Ляніва і нехаця, трывожачыся, што Вера ўжо не на жарт прыліпла да яго. Пра-

пусціў пару вечароў, не прыйшоў на спатканне, дык яна назаўтра сама ўдзень яго шукала.

— Калі ж ты падманеш, я... Утаплюся!

— Чаго ж я буду кідаць цябе? — усміхнуўся.— Ты ж такая мякенькая!

— Бачыш! — пакрыўдзілася. — Пацяшаешся з мяне!

— Не.

— Уладак...— прашаптала. Але тут жа і змаўчала. Ад хвалявання.

— Ну што?

— А калі ты ў сваты прыедзеш? Пасля вялікадня ці ўвосень?

«Во халера! — жахнуўся.— Ці не ўскочыў я ў вір? Прыстае як смала...»

— Можа, увосень...

— А чаму не пасля вялікадня?

— Ну...— замяўся. Зрабіў паўзу. Доўгую-доўгую. Абдумваў, як выкруціцца.— Яшчэ ж трэба з бацькамі пагаварыць, падшыкавацца...

— А можа, ты і не думаеш мяне браць?

— От, скажаш!

— Я сама вінаватая...— нечакана аслабла, апусцілася душою.— Не трэба было ўсё гэта да шлюбу...

— Вот дурніца! — незалюбіў. Падумаў: «Нічога, мусіць, няма страшней за бабскія споведзі ды слёзы...»

— Дык не праўда, Уладачак? — прыпала.— Ты ж кахаў і кахаць мяне будзеш?

— Хіба не бачыш? — хіхікнуў.

— Я не пра тое,— ціха прамовіла.— Я пра тое, што ў цябе на душы. Ты ж цяпер мне і ласкавага слова не кажаш...

«Ну і Чорная! — здзівіўся.— За жывое, за душу тую ж бярэ...»

— І на душы тое,— заспакоіў.— Ці ты думаеш: я

каменны ўжо нейкі?! Як той Гаспадар-камень? Калі мала гавару, дык ужо зчужэў, ці што? Не. Што было, тое і маю.

— Роднепькі! — Вера абхапіла за шыю рукамі, асыпала яго пацалункамі.— Дык ведай: я за табою і ў агонь, і ў ваду, і па край свету пайду...— пакорпалася ў кішэні кажушка, дастала штосьці белае.—На...

— Што гэта? — нібы здзівіўся. Узяў у руку. Хусцачка.— Нашто?

— Як нашто? — здзівілася і яна.— Хіба не ведаеш? Гэта знак такі, памяць, што я ўжо твая, а ты мой...

— А...— прамовіў расцягваючы, нехаця сунуў хустачку сабе ў кішэню, думаючы, што цяпер будзе шмат марокі. Трэба ж будзе хаваць яе і ад бацькоў, і ад меншых брата і сястры.

«Вар'ятка! — падумаў.—Вот і адчапіся ад такой!»

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### 1

— Дык, кажаце, інтэлігенцыя ў Вільні дыспутуе? — усміхнуўся Казлоў, папраўляючы на плячах кажух. Быў пасля нядаўняй хваробы зусім худы, бела-жоўты, а вусы і бародка-клінок усохліся ды ссівелі.— Пасля маніфеста «Аб удасканаленні дзяржаўнага парадку» у Думе і па-за Думаю нямала чарнасоценцаў, цемрашалаў, але і нямала лібералаў, звычайных гаваруноў. Апошнія, лібералы і гаваруны, заўсёды красамоўнічалі, але, бадай, і заўсёды не ішлі далей сваіх мудрых і прыгожых слоў... Ваш сябрук Муха — яркі прыклад... Ён дзеля свайго дабрабыту

будзе да магілы служыць «веры, цару і Айчыне», пальцам не варухне, каб нешта змяніць у затхлай сістэме... Зразумела, зусім зразумела, чаму ён накінуўся рысем на вас, калі вы сказалі цёплае слова пра нас, бальшавікоў, заклікалі ісці з намі... Ён звярыным нюхам адчувае, чаго мы хочам, і баіцца гэтага... Я такіх тыпаў добра ведаю: на словах ён — змагар за ўсё светлае, на справе — учэплівы прыстасаванец... Ці не так гавару?

— Бадай, так,— прамовіў Алесь.

— Іншыя вашы сябрукі мяне таксама насцярожылі...— зморшчыўся Казлоў.— Васілевіч, як я зразумеў, шчыры, няўрымслівы, але ўсё ж у нечым абмежаваны, катэгарычны, а Лідскі — спекулянт... Таму, даражэнькі Аляксандр Іванавіч, не буду таіцца: [illegible] вельмі рады, як вы з імі паводзіліся, што гаварылі. Вы выказвалі найбольш свядомыя думкі. І пра тое, што і цяпер, у цяжкі час, трэба быць разам з Расіяю, яе народам, і пра тое, што трэба дабівацца лепшай будучыні з рускімі перадавымі людзьмі, у прыватнасці з намі, бальшавікамі. Так што шчыра дзякую...— паклаў белую руку на яго, ружаватую і свежую.

— Да Расіі, яе народа ў мяне заўсёды, Юры Васільевіч, былі сімпатыя, павага, любоў,— усміхнуўся Алесь,— а вось увагу да бальшавікоў выхавалі ў мяне вы... Без вас я не разабраўся б у праграмах шматлікіх нашых партый.

— Рады, рады гэта чуць, Аляксандр Іванавіч,— Казлоў, як ніколі, быў сёння ўзрушаны.— Як і дакляраваў, дам вам сёння пачытаць работы Леніна. Наўмысна папрасіў у івянецкіх сяброў іменна для вас.— Дастаў з кішэні кажуха згорнутыя сашмараваныя лісткі, паклаў на стол.— Тут «Крытычныя заметкі па нацыянальнаму пытанню» і яшчэ тое-сёе. Я вам ужо гаварыў: Ленін вымушаны жыць за мяжою, хавацца ад царызму, але сочыць за Расіяй, за

вашай Беларуссю таксама. Нямала піша пра вас, падтрымлівае ваш нацыянальны рух. Праўда, толькі яго дэмакратычны пласт. Супраць рэакцыйнага рашуча змагаецца.— Адгарнуў вокладку.— Глядзіце: якая дасведчанасць, вастрыня ўжо з першага сказа «Крытычных заметак»: «Что национальный вопрос выдвинулся в настоящее время на видное место среди вопросов общественной жизни России, это очевидно,... все это безусловно обязывает нас уделить больше, чем прежде, внимания национальному вопросу».— Перагарнуў старонку.— Ці вось яшчэ: «Национальная программа рабочей демократии: никаких безусловно привилегий ни одной нации, ни одному языку; решение вопроса о политическом самоопределении наций, т. е. государственном отделении их, вполне свободным, демократическим путем; издание общегосударственного закона, в силу которого любое мероприятие (земское, городское, общинное и т. д. и т. п.), проводящее в чем бы то ни было привилегию одной из наций, нарушающее равноправие наций или права национального меньшинства, объявляется незаконным и недействительным — и любой гражданин государства вправе требовать отмены такого мероприятия, как противоконституционного, и уголовного наказания тех, кто стал бы проводить его в жизнь». Чулі? Клянуся вам: так сумленна і смела цяпер не кажа ні адна партыя, апрача нашай!

Казлоў аддаў яму гэтыя лісткі.

— Бярыце, чытайце,— прамовіў.— Нешта не зразумееце — гаварыце, будзем разбірацца разам.

Алесь з хваляваннем трымаў гэтыя лісткі, што, відаць, шмат дзе і ў шмат якіх руках пабывалі ўжо. Яны былі для яго першаю падпольнаю марксісцкаю літаратураю.

— У канцы «Крытычных заметак» Ленін паведамляе, што будзе яшчэ яго работа аб праве нацый

на самавызначэнне,— дадаў Казлоў.— Атрымаем такую работу — дам і вам яе пачытаць... Толькі вы нікому вельмі не хваліцеся, што чытаеце такое, не паказвайце гэтых лісткоў. Уведае Лядзяш — данясе. А за чытанне марксісцкай літаратуры па галоўцы не гладзяць... Між іншым, пра суд свой нічога не пачулі?

— Не,— апусціў галаву Алесь.— Як і казаў, выгналі з Вільні, але пра далейшы мой лёс ні слова не сказалі.

— Царызм жорсткі,— уздыхнуў Казлоў.— Умее папамучыць.

— Юры Васільевіч, хачу даўно ўжо ў вас запытацца,— сказаў Алесь, каб змяніць гамонку і каб Казлоў гэтак не шкадаваў яго.— Шмат хто вылучае праграмы перабудовы ўсяго свету, вы, бальшавікі, таксама думаеце пра ўвесь свет. Як вы хочаце перайначыць яго?

— Дазвольце патлумачыць...— адказаў той, і на яго ўпалых шчоках выступіла лёгкая чырвань.— Як я разумею, у маіх адказах павінен умясціцца, бадай, увесь сэнс нашай барацьбы.

Алесь уважліва слухаў; праўда, на міг зірнуўшы ў акно, заўважыў, што ўжо даволі позна, недзе за апоўнач; перавёўшы позірк, урэшце прыкмеціў, што і гаспадыня, Собаліха, таксама яшчэ не спіць, ціхенька сядзіць пры камінку і нячутна мяняе лучыну — каб ім было відна. На яе каленях амаль ужо гатовая шкарпэтка, што яна вяжа для свайго хваравітага кватаранта. Пачуўшы, што на хвіліну запанавала маўчанне, яна, здаецца, са здзіўленнем зірнула на іх: гавораць увесь вечар і гавораць спакойна, выслухоўваючы адзін аднаго, хоць часамі і спрачаючыся.

— А вы, Аляксандр Іванавіч, самі не задумваліся пра гэта? — спытаў Казлоў.

— Думаў,— адказаў Алесь.— Мне здаецца, што

ёсць мара памірыць народы, навучыць іх жыць у міры. Але... Але ў мяне ўзнікае нямала гэтых «але»...

— Вы блізка ля ісціны,— усміхнуўся Казлоў.— Хіба мала за доўгую гісторыю было войнаў? Шмат! Хіба мала прынеслі яны людскіх страт, разрух, хвароб, гора і слёз? Шмат! Хіба не страшнейшыя новыя войны? Страшнейшыя! Дык чаму, як вы, даражэнькі, кажаце, не памірыць народы, не навучыць іх жыць у міры?

— А як гэта зрабіць?

— Трэба забраць уладу ў эксплуатататараў, што вядуць войны для свайго ўзбагачэння, і аддаць яе працоўным. Калі ва ўсім свеце возьмуць уладу працоўныя, калі аб'яднаюцца ў адзін вялікі саюз, дык дзеля чаго ім тады будуць тыя войны?

— І вы, Юры Васільевіч, непахісна верыце, што, па-першае, працоўныя могуць перамагчы, а па-другое, што тады можна будзе навек запыніць войны, жыць у спакоі, еднасці?

— Веру! Паўтараю: гэта будзе толькі тады, калі ў адзін саюз аб'ядцаецца не абы-хто, скажам, селянін, рабочы і пан, а іменна тады, калі аб'яднаюцца толькі пралетарыі...

— А ці не зменіцца па сваёй прыродзе чалавецтва без войнаў?

— Можа, і зменіцца. Хоць дужацца, «ваяваць» людзі змогуць і ў працы, і ў спорце...— Казлоў запаліўся, пачаў гаварыць натхнёна, узнёсла.— Па-другое, тады не будзе болей несправядлівасці, грабяжу і гвалту. Хіба і ад гэтага не стогне чалавек, чалавецтва? Стогнуць! І не адно тысячагоддзе! Змучыў і змучвае гэты драпежны лозунг капіталу: «Разделяй и властвуй!»

— Ну, а калі яшчэ доўга не будзе той перамогі, Юры Васільевіч?

— Значыць, трэба яшчэ доўга змагацца за яе!

— Колькі?

— Калі трэба, дык і ўсё жыццё! — адказаў Казлоў.

Алесь задумаўся. Казлоў неўзабаве заўважыў гэта, усміхнуўся:

— Што — не ўсё зразумела?

— Можа, і не ўсё,— усміхнуўся і Алесь.— Цяжка ўявіць, які будзе свет, калі ўсё выйдзе па-вашаму?! Ці, скажам, якая ўлада будзе ў працоўных людзей? Ці здолеюць яны ўтрымаць яе?!

— Трэба ўмець, даражэнькі Аляксандр Іванавіч, і марыць...— адказаў Казлоў.— Але мы жывём і змагаемся не толькі марамі, але і навукаю... Калі буду жывы, дык пакрыху, лыжачкамі, як кажуць, пачну знаёміць вас з ёю... З марксізмам гэта значыць... Згода?

— Згода,— адказаў Алесь.

— Можа б, вы, людзі, гарбаты выпілі б? — скарыстаўшы перапынак у іхняй размове, сказала Собаліха.— Хай адпачнуць вашы галовы. Божа мой, божа, колькі ў іх чаго разумнага! І як яны толькі трываюць!

— Позна ўжо, цётка Франя,— Алесь падняўся.— Я пайду дадому, а вы Юрыя Васільевіча папаіце цёпленькім.

— Кашляюць ды кашляюць яны, Алеська,— пахітала галавою Собаліха, з крэктам падымаючыся і ідучы да печы, дзе стаяў саганок з гарбатаю, што яны пілі ўжо раней, увечары.— Не паправіўся ён яшчэ. Я дык не пускаю на двор: не ідзіце, кажу, на холад, бо цяпер сама скразнякі, самы благі вецер на лёгкія. Але не слухаюцца, ідуць, кажуць: цяжка ўседзець у хаце...

— Цётка Франя, як маці, мяне шануе...— падыходзячы з брашурамі да Алеся, усміхнуўся Казлоў.— Каб не яна, дык я ўжо, мусіць, аддаў бы некаму ду-

шу, пайшоў бы на суд божы... Хоць мінецца холад, стане цёпла — акрыяю. Толькі, як кажуць, да мая дажыць бы!

## 2

Калі на некалькі дзён запар распачадрылася сонца, Янкавіны ажылі.

Алесь Нямкевіч гэтаксама быў, як і ўсе, узбуджаны вясною. Але ён спажываў вольны ад работы ў полі час, лічы, не выходзіў з хаты. Засеў за свае запісы — за слоўнікі.

У адзін з такіх дзён Алеся нечакана запрасілі ў Налібакі да былога калегі, Лямбовіча. Гэта запрашэнне — паперку ў заклееным блакітным канверце — прывёз Уладакаў бацька, стараста, які быў там па сваіх клопатах. Алесь здзівіўся, што пра яго яшчэ ўспомнілі, але паслухаў, паехаў.

У прыпушчанскія Налібакі (праўда, пішуць усюды Налібокі, Налібоцкая пушча, а тутэйшыя людзі ўпарта гавораць: Налібакі, Налібацкая пушча) ён падаўся пасля снядання.

У тутэйшых прыівянецкіх паўднёва-заходніх мясцінах было шмат невялікіх вёсак, хутароў, але былі і два вялікія мястэчкі: Налібакі і Дзераўная. Янкавіны былі якраз паміж імі — па стаўбцоўска-кляцішчанскай дарозе.

За вякі склалася так, што Янкавіны заўсёды цягнуліся да Налібак. Можа, і таму, што янкавінцы некалі былі прыгонныя налібацкага пана, былі з налібачанамі ў адной касцельнай парафіі, хадзілі туды ў касцёл і хавалі па налібацкіх магілках сваіх нябожчыкаў (праўда, цяпер, пры праваслаўі, мусілі завесці пры вёсцы свае могілкі), можа, яшчэ і таму, што ў Налібаках доўгі час была іхняя тутэйшая ўлада — гміна, воласць, паліцэйскі стан. Спрадвеку ян-

кавінцы хадзілі ў Налібакі і ў заробкі — да пана, арандатараў ці заможных гаспадароў, на жалезную фабрыку і тамтутэйшых яўрэяў, якія падпісвалі з уладамі кантракты і «вялі распрацоўку тутэйшых багаццяў». Янкавінцы памагалі ім абмяраць пушчу, секчы лесасекі, паляваць на ласёў, дзікоў, коз, лавіць у Кромані рыбу, рэзаць пушчанскі лес, і ўсё гэта дабро сплаўлялі па Нёмане ў Коўна, з Коўна — за мяжу, «аж у прусы».

Яшчэ гадоў пяцьдзесят таму назад людзі амаль усіх тутэйшых мястэчак, вёсак і хутароў былі некалькі стагоддзяў католікі, пільнаваліся «польскіх» свят, бралі шлюб і хрысцілі дзяцей у касцёле, мелі польскія імёны і лічылі сябе палякамі, хоць папольску не гаварылі і, лічы, не ўмелі гаварыць. Каталіцкая вера, мусіць, пачала пускаць тут свае першыя карэньчыкі пасля Крэўскай уніі, а першы касцёл у тутэйшым баку — у Дзераўной — заявіўся ў 1590 годзе. З янкавінцаў некалі толькі адны Чорныя, што прыйшлі сюды з-за Нёмана, былі праваслаўныя, спраўлялі «рускія» святы і давалі дзецям «рускія» імёны.

А цяпер Янкавіны — усе праваслаўныя, «рускія». Сталі з таго часу, калі адбылося паўстанне 1863—1864 гадоў, і царскі ўрад, перамогшы, пачаў не толькі ў самой Польшчы, але і тут душыць «дух польскі», паставіў у Янкавінах цэркаўку, спадзеючыся выціснуць каталіцызм праваслаўем, прывіць «дух царскі». Як тады казалі, што не дарабіў штык, павінен дарабіць дзяк. Вось тады ўсе ўстановы з Налібак пераехалі ў Янкавіны; на службу ў тутэйшыя мясціны — у земскія ўстановы, воласці, у паліцыю — прысылаліся толькі праваслаўныя, выхадцы з пазамагілёўскіх губерняў.

Дзераўная і Налібакі адстаялі касцёлы, засталіся католікамі; янкавінцы здаліся — пад прымусам бой-

кага папа і валаснога старшыні пачалі спраўляць толькі праваслаўныя святы, хадзілі толькі ў сваю цэркаўку, і іх людзі з тутэйшых вёсак пачалі называць «смагалямі» і «кацапамі».

Налібакі, хоць з іх і з'ехалі ўсе ўстановы і зачынілася жалезная фабрыка, не занялалі. Былі па-ранейшаму буйныя, двароў за дзвесце, з касцёлам, маёнткам папа Невядомскага, са школаю, з лясніцтвам, лесапільняю, карчмою, кірмашом, бальніцаю, аптэкаю. Са шляхтаю. Як і ў Дзераўной, так і ў Налібаках было пямала заможных, паважаных, гапарлівых гаспадароў, «старой» шляхты, і парадніцца з імі для ўсіх навакольных вёсак быў вялікі гонар.

Прыехаўшы ў Налібакі, Алесь прыпыніў капя каля абламанага школьнага плота, завязаў лейцы за трухлявае шула. І тут, у Налібаках, блакітнелі азёрцы вады. Вёска, здаецца, стаяла на астравах. Сям-там на ўзгорках, па санцапёку, між вады, чарнелася зямля. Толькі Алесь кінуў капю сена, як паблізу, у суседнім гаспадарскім садзе, свіснуў шпак. І не маркотна, здаецца, а весела, бадзёрыста.

Алесь аж устрапянуўся: сядзіць спявак па мокрай галіне яблыні і абуджае наваколле песняю! Малайчына! Яшчэ ж і корму амаль нідзе няма ніякага, апрача сметнікаў, а во не маркоціцца, вітае вясну і цяпло! Пахла адталаю зямлёю — ад плота, дзе ўзвышаліся чорна-жоўтыя намяклыя груды, што летась увосень нарыў крот. Там жа, каля плота, між шэрай гнілой травы сям-там бледна зяляпеліся асобныя парасткі — лопуху і хрэну.

У школцы — даўгаватай, на дзве палавіны, накрытай старою дранкаю, з двума комінамі будынке — чуўся вясёлы, гуртавы дзяціны шум. Ад яго аж забілася Алесева настаўніцкае сэрца! Як ён даўно ўжо не чуў яго!

Спадзяваўся: вось-вось выбежыць на высокі каменны, а зверху выкладзены плітамі ганак Лямбовіч, basхопіць у абдымкі. Але таго не было. Няўжо не бачыць?

І ток на верандзе, і падлога ў калідоры былі мокрыя — ведама, такая хлёпанка на дварэ. Цёпла дыхаў стаяк, хоць сюды, на калідор, выходзіла яго зусім крыху — краёк з дзверцамі, бо ўсё астатняе было ў класным пакоі. Між тыльным бокам стаяка і атынкаванаю гліпаю сцяпою ляжалі, сохнучы, бярозавыя дровы.

Алесь адчыніў дзверы класнага пакоя — дзеці-падлеткі пабеглі да сваіх сталоў, паселі, угнуліся, пасля той-сёй не вытрываў, азірнуўся. Мурзатыя ад крэйды. У сукопных чорных фрэнчыках і даматканых портках, у лапцях. Са сталымі не па гадах позіркамі.

— Дзень добры, налібачане! — павітаў, не пераходзячы парога.

— Здраўствуйця,— азірнуўшыся, усе адказалі нястройным хорам. Адно за адным пачалі падымацца.

— Дзе ж ваш настаўнік? — запытаў.

— Яго Анця паклікала...— адказаў высокі хлапчук з апошняй лаўкі.

Многіх хлапчукоў і дзяўчатак Алесь пазнаў. Па бацьках. Налібацкіх людзей ведаў няблага. І яго тут зналі.

Сказаў, каб дзеці садзіліся, а сам падаўся з калідора. Калі ішоў да другой палавіны, да настаўніцкага пакоя, угінаўся пад вокнамі: каб Лямбовіч не ўбачыў.

У гэтай, другой верандзе было суха і чыста. За парогам ляжала сухая ануча — кавал самаробнай дзяругі. У кутку стаяў цабэрчык з пасечанаю бульбаю, свіное вядро. Лямбовіч абжыўся ўжо, трымае і карову, падсвінаку, і курэй, і ўсё гэта, як і раней,

даглядае школьная прыбіральшчыца. Робіць за дзяржаўную плату і сваю і не сваю работу.

Пастукаў.

— Заходзьце,— пачуўся мяккі жаночы голас.

Зайшоў.

У невялікай, адгароджанай дошкамі і паклеенай сіне-белымі шпалерамі кухні было цемнавата, бо сёння і на дварэ гусцілася шэрань і вокны былі зацягнуты фіранкамі. Ля невялікай печы стаяла маладая кабета і крышыла абіраную бульбу ў гаршчок, дзе былі відаць кавалкі свініны. Гаспадарыла Анця Жаўнерчык, замужняя кабета гадоў дваццаці пяці. І ў паўзмроку было відаць: шчокі яе свежыя, ружаватыя. Можа, і ад печы, у якой дагараў, атухаў жар.

За сталом, што стаяў справа, пад абразікам, сядзеў ён, Лямбовіч. У белай, расшпіленай на грудзіне кашулі. Дык відаць яго поўная, з падволічам шыя, белы крыжык на ланцужку. І Лямбовіч пунсовы. А цяпер яшчэ ў яго вузкаватых вачах застыў спалах. Трымаў на відэльцы надкусаны дранік — з яго, жоўценькага, печанага, канечне ж, на алеі, капаў на стол, на белы льняны настольнік цёплы тлушч.

— Дзед! — усклікнуў Лямбовіч, называючы яго па семінарскай мянушцы. Падхапіўся.

— Стары ўжо, не адракаюся! — усміхнуўся Алесь.— А ты спачатку думаў: інспектар?

Агледзеў гаспадара: ён, невысокі, быў як гарбуз. Поўны і на твары, і з вялікім жыватом.

— Здароў, коце! — здушыў Лямбовіч яго ў абдымках.— Здароў, злачынец!

— Здароў, Кот! — заляпаў яго па мяккай спіне Алесь, гэтаксама называючы па семінарскай мянушцы.— Не вучыш дзяцей, гультай, а ласуешся дранікамі!

— Дзеці нідзе не дзенуцца! — адказаў той.— Абы было сала!

Таўсцюк, але здаровы, што мядзведзь. Так цісне, што і дыхнуць няма чым. І яшчэ Алесь здзівіўся: той адлучыўся на колькі хвілін з урока, але во босы, у тапачках!

— Але ж і худы ты, братка,— здзівіўся Лямбовіч, адпускаючы з абдымкаў.— Адна скура ды косці! Во што значыць апа́ла!

— Абы былі косці, мяса нарасце...— усміхнуўся Алесь, ківаючы галавою Анці.

— Садзіся, коце, расказвай віленскія навіны, удыхні ў мой сумны побыт які новы струменьчык...— сказаў Лямбовіч, сеў на зэдліку і запрасіў рукою яго садзіцца.— А то я зачах тут зусім!

— Яно відаць...— паківаў галавою Алесь.— З-за шчок і вушэй не відно!

Сказаць шчыра, ён не здзівіўся, што Лямбовіч за апошнюю зіму яшчэ папраўіўся. Бо ведаў: той любіць добра паесці, паспаць, амаль нічога не чытае і, маючы спакойны характар, ні за што ніколі не хвалюецца. Разумны, жартаўлівы, але гультай з гультаёў. Яго інтарэсы далей пляшкі гарэлкі, файнай кабеты і паляванпя ды рыбацтва не сягалі. Уся яго жыццёвая філасофія, пазіцыя была ў яго любімым выслоўі: «Абы было сала, астатняе ўсё будзе!» Ён змаладу, яшчэ не атрымаўшы ні ў чым пакут, асалоды, ужо расчараваўся ва ўсім; нешта яшчэ крыху жадаў, але ілюзій даўно не меў ніякіх. Ён, праўда, часамі скардзіўся, што хоча шмат чаго цудоўнага, але жорсткае, беднае жыццё душыць яго. Што ён ні ўкусіць, адразу ж да таго ўжо не чуе смаку.

— Анцечка,— павярнуўся Лямбовіч да сваёй прыбіральшчыцы.— Можа, скумекала б, даражэнькая, дзе пляшачку?

— А дзеці? — здзівіўся Алесь.— Ты ж яшчэ, відаць, павінен адзін урок даць!

— Абы сала, коце,— махнуў той рукою,— а дзеці

будуць. Хто хоча вучыцца, той і сам навучыцца, а хто не хоча, дык таго не навучыш!

— Ясна...— прамовіў Алесь.— Які ты быў, такі і застаўся! Сала, па-твойму, даражэй за ўсё! Дык не перабівай смаку, ласуйся дранікамі, а я давай пайду да дзяцей. Хоць адзін урок правяду! Хоць адвяду душу!

— А ты лічыш: чалавек асуджаны на работу? — паздзекаваўся Лямбовіч.— Кім? Дзеля чаго? Дзеля справядлівасці? Высакароднасці? Хто ж даручыў мне такое? Кажуць, бога няма, але чаму яго наказы застаюцца? Я лічу: справядлівасць, высакароднасць — не прызванне, праца — не абавязак...

— Што там у цябе зараз павінна быць па раскладзе? — звёў гутарку на іншае Алесь.

— Роднае слова...— нехаця адказаў Лямбовіч.— Дык, па-першае, ці варта табе зноў псаваць настрой? А па-другое, хіба табе гэтыя бараны яшчэ ў печані не сядзяць? Дурні, брат, дурні! Свавольнікі аднетыя... Анцечка, ідзі, коце, адпусці іх дадому. Скажы: у мяне зуб забалеў.

— Ну і працаўнік на ніве асветы! — паківаў галавою Алесь.

— А! — махнуў той рукою.— Каму трэба гэтая асвета? Які з яе толк? Мужык наш тупы да навукі, як калун. Яго занятак — плуг, каса, сякера...

— Ну, брат, і думкі! — зноў паківаў галавою Алесь.— З імі мы век не выведзем народ з цемры непісьменнасці, не паможам яму народам, людзьмі назвацца!

— А! — і той зноў махнуў рукою.— Праўда ёсць праўда. Ніколі не ўздымецца, не стане на ногі, не раскрасуецца духоўна гэты наш «народ»! Быць яму век у цемнаце, беднасці, пакоры і ў рабскай рабоце...

Анця, як толькі дакрышыла бульбу, накрыла гаршчок патэльняю, паставіла яго ў печ, сама ўзяла ў

парозе кажушок, накінула на гладкія плечы і, зашумеўшы доўгаю спадніцаю, падалася на двор.

«Жыве як мядзведзь у бярлозе».

— Ну, як мая новая старожка? — запытаў Лямбовіч. Невялікія, лічы, заплытыя яго рудыя вочы заззялі, вялікі нос раздзьмуўся. Глыбокія залысіны пачырванелі.

— Кабета як кабета. Файная.

— Спраўная, коце, і гарачая як агонь! — прыплюшчыў вока Лямбовіч, пагладзіў сябе па грудзіне.— Хоць не са сваёй кішэні даю тры рублі на месяц, але ёсць за што даць... Муж у Амерыцы каторы час, сама маладая, я халасцяк цяпер...

— Распуснік!

— А што рабіць тут, у глушы? Хоць гэта хай будзе за радасць!

Зашумелі, загаманілі на двары дзеці: недзе, мусіць, з радасцю пабеглі дадому. Да вады.

— А ты са сваёю Кацярынай не паладзіў?

— Не,— апусціў галаву Алесь.— У яе сваё, у мяне сваё.

— Ну і дурань! — сказаў Лямбовіч.— Не дзьміся, а спажывай, пакуль можна спажываць. Яна цяпер сама пагорнецца да цябе. Адчувае, што вінаватая, дык захоча падлагодзіцца. Я ж іх, баб, ведаю...

Сеў на свайго канька. Пагаварыць пра кабет, гарэлку, паляванне — любімая тэма для Лямбовіча. Астатняе яго мала што цікавіла.

— Ды баба — зямля...— сказаў яшчэ Лямбовіч.— А чапаная зямля, коце, плуга патрабуе і патрабуе...

— Ну, што тут у вас, у Налібаках, змянілася? — перавёў на іншае размову Алесь.— Ёсць якое абнаўленне?

— Якое тут табе абнаўленне! — зморшчыўся той.— Што было, тое і ёсць. І што змяніцца можа? Ды што трэба? Усё,— махнуў рукою,— дрэнь, аб-

ман, лухта, бруд! І як падумаць добра, дык жыццё — недарэчная рэч! Ды я не думаю надта пра гэта. Ды і ні пра што не думаю. Ад думак можна зайсці ў тупік, звар'яцець... Абы было сала, а астатняе ўсё... Нашто пакутаваць? Добраахвотна? Жыві як жывецца! Хто сам шмат, без дай прычыны думае, хто дакарае сябе, той атручвае сабе жыццё. І хто мітусіцца шмат, гарыць без пары. На свеце, канечне, шмат дарог, але ўсе яны вядуць да магілы...

«Вось і пагаворы з гэткім барсуком! — падумаў Алесь, здзіўляючыся, як мог раней шмат гаварыць з Лямбовічам, спрачацца, клікаць таго да спачування. І не толькі да спачування, але і да нейкай работы.— А ён жа яшчэ малады! Што з ім будзе пад старасць?»

— Слухай, як тут жыве Невядомскі? — зноў пераравёў гамонку на іншае Алесь, адчуваючы, што не бачыліся з гаспадаром больш трох месяцаў, а пагаварыць няма пра што. З Васілём Мухам было пра што. Бо той, калі не думаў пра тое, пра што думаў Алесь, дык хоць меў далёкія помыслы пра самога сябе, ясна і дакладна ацэньваў тое, што робіцца ў Расіі і ў тутэйшым краі, з улікам новых умоў выбіраў сабе новую дарогу. Яго ж, Лямбовіча, нічым не зварушыш.

— Як жыве?! — здзівіўся той.— А і чорт яго не бярэ! Палюе, балюе, за ўсімі спрытнымі тутэйшымі кабетамі бегае. У яго райскае жыццё! Не трэба, як нам, зарабляць на кавалак хлеба... Ён...

— Ты пісаў, што ён кліча мяне да сябе...— перапыніў яго Алесь.— Не ведаеш чаго?

— Чаму не, знаю,— адказаў той.— Хоча запрасіць цябе ў свой маёнтак. Настаўнікам. І з большаю, чым у мяне, платаю.

— У якую школу? — здзівіўся Алесь.

— У прыватную. Хоча пачаць вучыць тутэйшых дзяцей па-польску.

— Дзеля чаго?

— У свеце, кажа, наспяваюць вялікія змены. Можа, хутка будзе новы лёс і ў Польшчы. Дык вось ён па нарадзе сваіх сяброў-паноў хоча выхаваць тутэйшае маладое пакаленне ў патрэбным яму духу. На ўсякі выпадак. А вось спатрэбіцца. А вось і тут зноў ён будзе ва ўладзе... А па-другое, ён лічыў і лічыць, што нашы землі — гэта спрадвеку іхнія землі...

— Што ты кажаш?! — не паверыў Алесь.— Пангуляка стаў палітык!

— Які з яго палітык, не ведаю. Але з новаю сілаю пачаў верыць у адраджэнне Польшчы. Кажа, хутка і Аўстра-Венгрыя, і Прусія, і царская Расія змушаны будуць даць ім волю, каб самім не мець вялікіх непрыемнасцей... Рухне, лічы, стопяцідзесяцігадовае рабства для яго і яго аднакрэвічаў... Дваццатае стагоддзе — стагоддзе імкнення заняволеных народаў да волі... А ў яго там, на радзіме, рыхтуюцца выбуховыя падзеі...

— А чаму іменна мяне ён запрашае? — запытаў Алесь.

— Ты вольны казак, добра ведаеш польскую мову, продкі твае былі католікі...— усміхнуўся Лямбовіч.— Дык чаму і не знюхацца?

— Я цябе папрашу,— прамовіў Алесь, лічы, з мальбою,— перадай яму: я не магу згадзіцца... Скажы, што я захварэў... А цяпер, каб не трапляць яму на вочы, я панясуся дадому. Бывай!

— Пачакай, гульнём, пабуслуем крыху...— той аж падхапіўся і схапіў за локаць.— Колькі таго жыцця!

— Не-не! — адмовіўся Алесь.— Мне трэба даваць драла з вашых Налібак! І чым хутчэй!

## 3

Вясна дужэла, набірала моцы. Спегу на полі ўжо не было; зямля чарнела і рабела; вада з пагоркаў сцякла ў лагчыны. Надта ж шмат яе было на аселіцы. Лічы, мора. У ветранае надвор'е па ёй аж беглі хвалі. У ціхія сонечныя хвіліны, што зрэдзь надараліся сярод шэрых, мокрых дзён, вада на аселіцы мірна блакітпела, паволі сцякала ў Шуру. Шура, разліўшыся, затапіла ў Засценку не толькі прырэчныя надзелы і грады, але падышла і да падвалін хлявоў і гумнаў. Балазе, у Засценку ўсе гаспадары ставілі хаты, прыбудовы на высокіх каменных падмурках.

Калі хто пазіраў на Янкавіны збоку ці здалёку, дык яны былі абкружаныя вадою ды маўклівым лесам, панылыя, ціхія. Аднак гэта было ўжо не так. Янкавіны ўжо зусім абудзіліся, прыйшлі ў рух пасля доўгай зімы. Калі хто заходзіў з хаты, дык бачыў: павесялелі людзі, ажывіліся. Беляць сцены, столь і печы з плітамі, стаякі, дзяруць рыдлёўкамі гліняныя такі, шаруюць падлогу, мыюць бялізну, амаль усе пааддзіралі ўжо ад акон дубэльты — ва ўсіх у думках блізкі вялікдзень. Кожны як пра новую вялікую радасць у сваім жыцці думае пра свята, гульбішчы, вяселлі, пра тое, што хутка выганяць быдла на пашу ды пачынаць веснавую работу ў полі.

Сёння, у сераду, прыбіралі хату і Нямкевічы — Анця, Кастуся, Ядзя. А мужчыны, каб не замінаць кабетам, выйшлі ў гумно. Рэзалі сечку. На шмат дзён наперад: у суботу будзе ж благавешчанне, адно з самых вялікіх «двунадесяти» — дванаццаці — праваслаўных свят, а ў нядзелю — вербніца. Меў стары Нямкевіч на ўвазе і тое, што ў нядзелю пачнецца каталіцкі вялікдзень. Хоць яго ў Янкавінах не святкавалі, але стараліся на яго не працаваць. Каб не ма-

золіць вочы і не гневаць каталіцкія Налібакі: з імі, як казалася ўжо, Янкавіны мелі цесную повязь, гарнуліся да іх, як ні да адной з тутэйшых вёсак.

Старая, агораная яшчэ дзедам сячкарня стаяла пасярод току; Алесь круціў ручку з аднаго боку, Янка — з іншага. Бацька падаваў у скрынку, у нажы мешанку — сена, салому, канюшыну. Мешанка ішла ў зубчастыя валы высокім гарбом, уціскалася ў валах у тугі пласт — і тады яе спрытна чыкалі вострыя нажы. Сечка пырскалася, падала на адкосы жолаб і паўзла па ім долу. Мігам, здаецца, нападвала яе і мігам расла яе горка, упіралася ў нажы. Тады яны запыняліся, Янка адгортваў сечку ад нажоў, браў яе ў абярэмак і адносіў у катушок, што быў пры самых дзвярах. Там ужо была ладная горка сечкі.

Алесь адпачываў і пазіраў на бацьку: той у гэты міг, калі не трэба было падаваць у карытца, пералазіў праз застаронак, ішоў па сена, салому, канюшыну, перакідаў сюды на ток, пасля ператрасаў. І ўвесь час упіраў языком пад верхнюю губу, выпінаў пад ёю нібы гулу. Значыць, думаў.

Думаў ён усе гэтыя дні. Быў ціхі, маркотны. Нават, здаецца, панылы. Можа, віною гэтаму быў і ён, Алесь. Не так, праўда, ён сам, як яго расказ пра тое, што ён пачуў у Налібаках: у некаторых гаспадароў, што не змаглі вярнуць доўг, пазямельны банк адабраў зямлю.

— Рабаўнік гэты банк...— прамовіў бацька.— Я спачатку быў загарэўся звязацца з ім, а цяпер баюся... Усунешся ў багну — не выскачыш... Усе абманшчыкі! І Сталыпін-нябожчык, і... На словах усе за мужыка, а на самай справе гатовы садраць з яго астатнія порткі. Языкачосы! Брахуны!

— Ясь! — здзівілася, паўшчувала маці, якая была тады ў хаце.— Дзеці ж малыя ў хаце...

— Дык цярпення ж не хапае...— як апраўдаўся

бацька. Сядзеў за сталом і не ведаў, дзе дзець вочы.— І ў тым, і ў гэтым веку ўсё гавораць і гавораць, спачуваюць вясковаму чалавеку, дакляруюць кавалак зямлі, а як дойдзе да якога дзела, дык хвігу пад нос гэтаму дурному мужыку! А як ім, дык усё дай! І ў войска ідзі, біся за іх, каб вас халера ўдушыла!

— Вось і вы, тата, загневаліся...— усміхнуўся Алесь, седзячы пры стале насупраць бацькі.— Праўда, яшчэ глуха, ціха, але ўжо свядома. Бо бачыце несправядлівасць. Сацыяльную. А каб вы яшчэ, як і я, адчулі несправядлівасць і іншую, дык... Ды каб усе вясковыя гэта адчулі... Былі б, былі б мы вольныя людзі, роўныя сярод роўных!

Бацька нічога не адказаў; напусціў на вочы калматыя бровы, зморшчыў высокі лоб.

— Які ўжо з мяне бунтаўшчык! — неўзабаве адказаў, пацiраючы далонню стомлены твар.— Хваціць, што ты бунтуеш! Я кажу пра тое, пра што душа баліць... Рэформа, рэформа ўсе крычаць! Новае, лепшае ўсё будзе! А дзе ж яно, тое лепшае? На словах? Словы мне не трэба, я іх усякіх — горкіх, салодкіх, як мёд —гэтулькі наслухаўся за свой век, што злосць ужо ад іх бярэ! Меней ужо трэба гэтых слоў, абяцанак, а больш дзела. Трэба ж ужо хоць крыху даць люду палёгку! Мы ўсё ж людзі, а не цяглавое быдла! Хоць добры гаспадар быдла лепш глядзіць, чым сябе... Паны гэтыя!.. Каб на панскую хітрасць ды не мужыцкая мудрасць, то даўно прапалі б!

— Вы гаворыце, тата, горкую праўду...— сказаў Алесь.

— Каб яшчэ мне ад гэтай праўды лягчэй было, дык і добра было б...— прамовіў бацька і выйшаў на двор. Вось і задумлівы ўсе гэтыя дні, ціхі ды панылы. Страціў, відаць, усякую надзею на тое, каб прыдбаць яшчэ зямлю, зрабіць Гіполя, Янку і Кастусю гаспадарамі.

Нешта так і пацягнула Алеся высунуцца з гумна на дворышча: у ім — а гумно было з хлявом пад адною страхою — было мокра, гразка. Адтала леташняя перамяшаная свіннямі хлёпанка. Сухое дзірваністае дворышча было з таго боку гумна — кудою пад'язджалі да шырокіх дзвярэй з калясьмі, дзе ўлетку сушылі сена. Выйшаў і замёр: над іхнімі старымі раскідзістымі яблынямі ляцелі дзве птушкі. Вялікія, чорна-белыя, з нібы палінялымі чырвонымі дзюбамі і, здаецца, ратуючыся ад холаду, падкручвалі пад сябе, да пер'я і пуху, лапы.

— Буслы! — як дзіця ўзрадаваўся Алесь.

Выйшлі з гумна і бацька, Янка. Гэтаксама задралі галовы, пазіралі ў засмужанае, з няяркім, схаваным за шэрымі хмарамі сонцам неба. Буслы мільгнулі над гумном — пераляцелі іхні двор. Відаць, паляцелі за Шлёму, да высокай ліпы, дзе было старое гняздо. На тую ліпу, што была воддаль ад вёскі, яны, хлопцы, некалі гуртам завалаклі старую барану. Хацелі, каб буслы, што з ахвотаю жылі ў Янкавінах, гнездаваліся далей ад вёскі, каб не насілі блізка ад хат усякага гадаўя ці галавешак з агнём. Праўда, Шлёма, як заявіўся тут, хацеў раскідаць буслянку, бо тое, чаго баялася вёска, было над яго прыбудовамі. Але разбураць гняздо яму не дазволілі: усе лічылі, гэта будзе вялікі грэх, і бог можа злосна пакараць вёску за такую крыўду святых птушак. Усе ў Янкавінах спрадвеку казалі: буслы — божыя, прарочыя птушкі. Як толькі некалі Янкавіны меліся гарэць, дык заўсёды перад гэтым буслы пакідалі свае гнёзды, вёску, пераляталі ў Крычаты. А калі буслы ў вёсцы — значыць, спі спакойна.

— Усё, вясна зіму пераламала...— задуменна прамовіў бацька.— Хоць кажуць: калі вясна раней звяставаня, дык яшчэ многа марозу будзе. А другія кажуць: на звяставаня мароз — гуркі добрыя будуць.

Мокрае звяставаня — на грыбное лета. Звяставаня без ластавак — халодная вясна.

— Дык што? — запытаў Алесь.— Па сёлетніх прыкметах будзе халодная вясна, позна сеяць людзі пачнуць?

— Хто ж яго ведае,— адказаў бацька.— Прыкметы гэтыя, як ты кажаш, не заўсюды і праўдзяць. І неба, бывае, дакляруе адно, а дзеіць зусім не тое... Але ж звяставаня, кажуць,— добрыя весткі. Навін, чутак сёлета то процьма, а вот ці добрыя яны ці не, дык яшчэ сказаць цяжка...

Вярнуліся ў гумно, зноў пачалі рэзаць сечку. Янка маўчаў. Увесь час, здаецца, пра нешта думаў. Можа, і пра сваю Зосю. Як толькі вечарэе, дык і ідзе да яе. Жаніх, сталы ўжо хлопец. Бацьку трэба чухаць галаву, як зрабіць цяпер, увесну, ці ўвосень вяселле, як трымаць у злагадзе яшчэ адну сям'ю ў хаце. Ёсць, канечне, пра што думаць старому. На добры толк яму, Алесю, трэба было ўжо добра памагаць бацькам. А ён... сам сядзіць усё яшчэ на іхнім карку... Сорамна. Трэба шукаць нейкай працы. Калі не ў школе, дык дзе ў воласці, лясніцтве ці на пошце. Абы не есці дарма бацькоўскі хлеб, даць у хату якую капейку. А па вечарах, як надумаўся, адкрые сваю, прыватную школку. Будзе тутэйшых дзяцей вучыць беларускай грамаце. Колькі ні прыйдзе — столькіх будзе і вучыць. А вось тое семя хоць некалі ды ўзыдзе, дасць плод.

Пазней, у перадышку, бацька не пайшоў у загарадку па сена ды салому, а абапёрся грудзінай аб сячкарню.

— А што...— здаецца, уголас прадоўжыў свае думкі.— Калі кліча пан Невядомскі ў сваю школу, дык ідзі. Пакуль усё ўсталюецца, дык заробіш на які акрывак.

— Можа, і ўсё за грошы купляецца, тата, але не

ўсё за грошы прадаецца...— аддыхваючыся, ціха прамовіў Алесь.

Бацька, бадай, не зразумеў яго слоў. Ці зразумеў, ды ўразіўся, разгубіўся.

— А чаму, тата, мне самому прыватную школу не адчыніць?

— А хто ж табе, хлопец, дазволіць такую школу адчыніць? — горка ўсміхнуўся бацька, кіўнуў галавою.— Хто ў яе пойдзе? Ды нашто яна?

— Вось і вы, бачыце, не разумееце...— адказаў Алесь.— А я хачу, каб маладыя ўсё зразумелі. Будуць вучыцца — зразумеюць...

— Шалёная ў цябе галава, хлопец! Вот што я табе скажу! — кашлянуў бацька.— Зноў лезеш на ражон. Сам!!! У святой кнізе напісана: разумны бачыць бяду і хаваецца, ціха жыве, а той, што без вялікага розуму, ідзе наперад, трапляе ў бяду ці палучае па карку. Гонар для чалавека, там пішацца, у час адысці ад бяды, бо ўсякі дурань толькі запалісты. Ну, пазалетась-летась усюды лез, не асцерагаўся, бо быў малады. А цяпер?! Правучаны, пабіты! Але зноў за сваё!

— Відаць, доля ў мяне такая, тата,— уздыхнуў Алесь.— Мне баліць тое, што іншым не баліць... Адмысловая мая хвароба, адмысловы мой боль...

— Ды ведаю, што ты хочаш сказаць...— зноў закашляўся бацька.— Але і я, стары, цёмны, табе скажу: не было таго і не будзе! Бо ні ад прадзеда, ні ад дзеда, ні ад бацькі, ні з кніг, урэшце, я не чуў, каб было тут тое, што ты хочаш... І мова наша ніколі, кажуць, панскаю не была. Толькі мужыцкая.

— А вы хто, тата? — нечакана запытаў Алесь.

— Як хто? — здзівіўся бацька.

— Ну, як чалавек?

— Чалавек і ест. Тутэйшы.

— Але ж у чалавека павінны быць і род, імя...

— Вот не сяроўна хто...

— А можа, і не ўсё роўна! І чарвяк жыве. Нараджаецца, робіць і робіць, як самі ведаеце, шмат карыснага для зямлі. Але ён не ведае ні сваёй радзімы, ні свайго імя, ні таго, хто ён. Ён — чарвяк!!! Ён вегетуе!!! Значыць, усяго толькі заяўляецца на свет, расце, жыццёва дзейнічае і знікае... Але ж гэтага для чалавека мала! Чалавек — самая разумная на свеце істота! Чалавек жыве не толькі работаю, не толькі хлебам надзённым. Яму і яшчэ нешта трэба. І вялікае. Яму душа трэба!

Бацька замаўчаў. Відаць, ашаламіў яго Алесь, збіў думкі, растрывожыў душу.

— А калі чалавек адчуе, што ён чалавек, а не толькі быдла ці мужык, дык ён і захоча ўсяго чалавечага. А захацеўшы, усё сваё найперш палічыць за чалавечае...

— Ох, сын! — уздыхнуў бацька, прыпадняўся і патупаў у загарадку.

## 4

Пасля вячэры Алесь запаліў свечку і сеў за стол у белай хаце, разгарнуў знаёмую сінюю папку. У ёй былі словы да слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў. Ён усе гэтыя вечары сядзеў над імі, дайшоў вось правіць, рэдагаваць да слоў на літару «у».

Але як і часта дагэтуль здаралася, напрацаваўшыся, і стаміўся, і страціў ахвоту. Нават больш — пачаў думаць, што яго гэтая праца марная, нікому не патрэбная. Ды каму яна можа прыдацца, калі нават свае, родныя абыякавыя да яе? І не толькі раўнадушныя. Але яшчэ нават і папікаюць за гэты занятак.

Ён баяўся такога настрою. Пасля яго заўсёды

прыходзілі адчай, апатыя, а часамі і не хацелася нават жыць. Нейкі ўнутраны голас дакараў: чаго ты, небарака, жывеш, мітусішся, пакутуеш сам і змушаеш пакутаваць іншых? Усё, што ні робіш, нібы мітусня, памылкі, а то і дробязі, нікчэмнасць, лухта. Трэба жыць і працаваць зусім інакш — шырока, паўнакроўна, светла, на радасць, надзею і ўцеху людзям! І ён гадаў, думаў: а як жыць інакш, патрэбней? Трывожыў-растрывожваў свой розум, сваю душу і не мог знайсці адказу, бо не мог перамагчы свой боль, свае надзеі і памкненні. Відаць, сам лёс напрарочыў яму такую нялёгкую долю. Можа, і нейкую новую сізіфаву працу, сізіфаў клопат — знясільваючы, марны.

Жыццё расчароўвала яго, даводзіла да падзення ці апошняга кроку, жыццё і вяртала яму сілы, веру, цярплівасць і працавітасць. І ён жыў, каціў, як той Сізіф, свой цяжкі камень на высачэзную гару. Але цяпер, сёння, Алесю было яшчэ цяжка, і ён рашыў выйсці з хаты, паблукаць па начных Янкавінах, пастарацца калі не супакоіцца, дык хоць знайсці нейкую маленечкую ўпэўненасць. Рух, пешая хада часамі добра спрыяюць на гэта.

Апрануўся і выйшаў з хаты. На двары пасля перадвечаровай яснасці быў марозік. Гэта добра. Значыць, будзе сцягвацца вада і паволі сушэць зямля. На вялікдзень, дасць бог, можа, і не будзе хлёпанкі.

Пайшоў па вуліцы. Сам таго не адчуваючы, паспяшаўся да дома Сяргеенкаў. Міжволі хацелася зірнуць хоць на знаёмы плот, дрэвы, вокны.

Калі наблізіўся, падняў галаву, павёў туды вачыма. Адчуў: раптоўна займае дух. У пачатку плота, каля тоўстай ліпы, здаецца, зачарнелася чалавечая постаць. Пайшоў як не сваімі нагамі. Хто гэта? Высакаваты, ва ўсім цёмным. Здушыла дыханне: ці не кабета? Ці не Кацярына? Яна ж носіць чорнае фут-

ра, бабровую шапку. Вясковыя кабеты шапкі не начэпяць. Ды ў іх і няма тых шапак.

Постаць закраталася. Можа, і заасцерагалася яго, нечаканага начнога хадака. Што рабіць? Можа, павярнуцца і закрочыць назад?

Падышоў. Яна, Кацярына. Нешта вось таксама выгнала яе з цёплай хаты на халодны двор. Цяпер не дасі драпака. Позна. Сам лёс звёў іх. Ён не бачыў у цемені яе твару, але адчуваў: апушчаныя рукі ў пальчатках сашчэмленыя. Яны, рукі, ціснулі, мялі адна адну.

— Добры вечар...— прамовіў хвалюючыся. Да хвалявання прымяшаўся яшчэ і сорам. Сядзеў увесь апошні час дома, як барсук у нары, не хацеў сустрэцца з ёю. Нават на запіску не пазважаў.

Яна не адказала. Расчапіла рукі, выцягнула адну — да яго плечука. Пасля раптоўна прыпала да грудзіны. Адчуў знаёмы пах духоў, футра і шапкі. Лёгка, як незнаёмага ці сяброўку, пацалавала яго тры разы ў шчаку. Была і чужая, і зусім блізкая.

— Извини...— ціха прашаптала. Апусцілася. Каб стаць, здаецца, на калені.— Извини, Сашенька. Я очень дурная, плохая. Совсем противное создание...

— Што ты! — збянтэжыўся ён, зусім гэтага не чакаўшы, падхапіў пад пахі і падняў яе, тонкую, лёгкую.

Яна абняла яго за шыю, уткнулася яму ў твар. Адчуў на шчацэ яе цёплыя слёзы.

— Не трэба...— папрасіў. Адчуў: усю ранейшую злосць, крыўду на яе як рукою зняло ў адзін гэты міг.

— Ты простишь меня? Простишь? — адхілілася, стараючыся ўбачыць яго вочы.

— Я...— мармытаў, не знаходзячы патрэбных слоў.— Разумееш... Мне вельмі... Але... Я...

— Мой хороший...— пацалавала. У губы. Ужо

іначай, чым раней. Некалі толькі адказвала на пацалункі, а цяпер пацалавала парывіста, моцна, з любоўю. І ён адказаў цёпла. Нібы ў падзяку яна загаварыла па-янкавінску: — Ты самы харошы. Ты самы добры. Я твая. Чуеш, я была і буду толькі твая. Я не зразумела ў свой час тваіх думак, пачуццяў, тваёй справы. Я зграшыла, здрадзіла табе, паслухаўшы бацьку. Але я пакутую, чакаю цябе... А ты... Дакарай, гань, набі, калі хочаш, мяне, такую няверную! Ведаю: табе цяжка, вельмі цяжка!

Ён і не ведаў, і не мог што сказаць. Бо яна не давала і слова прамовіць. Цалавала і сама гаварыла.

— Я адчувала: ты выйдзеш. Прыйдзеш сюды. Не можа быць, каб ты ахаладнеў да мяне.

— Прабач,— прамовіў,— я не мог прыйсці... Бо лічыў...

— Ведаю, ведаю...— перапыніла.— Ты лічыш, што між намі ўсё ўжо скончана, што мы ўжо зусім чужыя людзі.

— А ты думаеш іначай?

— Іначай... Я думаю: нічога не скончана. Усё сама пачацца можа.

Алесь прамаўчаў. Здзівіўся: што яна надумала?

— Ты, Алеська, пачакай яшчэ месяц-другі,— папрасіла,— скончыцца вучоба ў школе, я разлічуся, развядуся з Арнольдам... Хочаш, я развядуся з ім? Буду твая самая-самая верная жонка!

Зноў змаўчаў.

— Я зусім не люблю яго. Ён зусім мне чужы... Я не магу з ім жыць...

— Вёска асудзіць мяне, Кацярына. За тое, што я разбурыў сям'ю. Ды і бацькі твае ніколі не прымуць мяне.

— Што — вёска! Што — мае бацькі! Мы з'едзем адгэтуль. Нават калі цябе сашлюць у Сібір, я згодна ехаць за табою. Толькі ты згадзіся, пакліч. Я зусім,

Алеська, спакутавалася за гэтыя дні. Хоць бы дзе паказаўся! Колькі разоў сама збіралася зайсці да вас! Скажы: ты ж адчуваў, што нехта пра цябе думае? Адчуваў, што палаюць шчокі?

— Адчуваў.

— Бо не мог не адчуваць, Алеська. Не мог сваім чулым сэрцам не адчуць боль майго сэрца! — тулілася, шукала яго вуснаў. І ён здаўся. На хвіліну замерлі ў пацалунку.— Дык упячом адгэтуль? Нават да твайго суда!

— Хіба я табе пара, Кацярына? — быў задаволены, але разам з тым і разгублены.— Я ж гол як сакол. Я магу паабяцаць табе толькі нягоды, нястачы, ліхія прыгоды, пакуты. Бо я нешчаслівы, няўдачлівы ў жыцці чалавек...

— А я хачу быць з табою побач,— не збаялася.— А пражыць — неяк пражывем. Мы ж абое маладыя, здаровыя. Дык як ты? Не разлюбіў мяне яшчэ? Можаш паклікаць? Кіўнуць хоць пальцам?

— Скажу шчыра, Кацярына: не ведаю. Каб адбыўся хоць мой суд, каб я ведаў пра свой далейшы лёс, дык... Не ведаю, што табе адказаць...

— Ты гаворыш ад імя розуму, а ты сказаў бы ад імя сэрца, пачуцця,— папікнула.— Няўжо тваё сэрца не хоча адчуваць маё сэрца?

Прамаўчаў.

— Прабач за настойлівасць,— прашаптала. — Няўжо мы цяпер не можам быць шчаслівыя?

Кацярына прачнулася позна.

Расплюшчыла вочы — на двары светлы, сонечны дзень. Можа, бярэцца і пад полудзень ужо. Але не гэта яе адразу ж здзівіла — іншае: упершыню за апошні час яна спала моцна, не трызніла — а сны дагэтуль сніліся, лічы, кожную ноч. Як і ўразіла, што

яна сёння пасля моцнага сну нібы нейкая новая. Маладая, спакойная, лёгкая, шчаслівая і ахвочая да жыцця. Павярнулася, легла на тое, цяпер ужо халаднаватае, месца, дзе да раніцы ляжаў Алесь.

Варухнулася нешта сарамлівае на душы: ці тою платаю купіла сабе гэтую абнову? Здрадзіла ж свайму мужу, Арнольду!

Але адчуванне віны было неглыбокае. Хіба яна здрадзіла? Калі яна каму і здрадзіла, дык толькі Алесю. Тады, калі яго звольнілі з работы, а яна хуценька, як і раіў бацька, пайшла замуж за новага прыезджага настаўніка, якога зусім не кахала. Дык чаго цяпер каяцца, пакутаваць? Яна належыць таму, каго кахае. Тым больш што ён дараваў ёй усё, гэтаксама кахае, як і кахаў.

Супакоіўшыся, Кацярына з асалодаю выцягнулася пад цёплаю коўдраю, адчуваючы бадзёрасць. З прыемнасцю ўявіла: цяпер часта будуць сустракацца, гарэць у адным агні, раскажуць адно аднаму пра свае няшчасці, пакуты і цяпер ужо ніколі не разлучацца. Ён лёгка пайшоў за ёю і яшчэ пойдзе, калі і куды яна толькі захоча...

Рыпнулі дзверы. Цікнула сюды пакаёўка Стася — пажылая тоўстая кабеціна з роду Емельяновічаў, нейкая далёкая радня Нямкевічам. Паглядзела: ці спіць яна? Пасля зайшла, хітра стуліла вузкія вусны, не зводзячы позірку з яе адзення, што ляжала разбэрсанае на крэсле.

— Нешта сёння пані Кацярына надта разаспалася! — усміхнулася.

— Нешта сёння добра спалася,— Кацярына нацягнула коўдру на голы смуглы плячук, схавала і яго, і шыю.

— Уночы падсыпала спяжку, дык на двары надта светла, бела і чыста. І, ведаеце,— нібы з асцярогаю, а на самай справе, здаецца, з хітрасцю панізіла го-

лас,— нехта хадзіў перад раніцаю па вашым двары...

— Што вы кажаце? — «спалохалася» Кацярына.

— Праўда, не скажу, што шмат натантаў. Мусіць, пастаяў на ганку, паслухаў ці і патурзаў за клямку. Як вы моцна спалі і не адчынілі, дык паваломся дадому. Сляды роўненькія як шнурочак.

— Ой-ёй-ёй! — паківала Кацярына галавою «ад страху».

— Вы вот пацяшаецеся з мяне, старой, а нехта, можа, і ведаў, што вы адна дома, дык і прыходзіў ці абакрасці, ці напалохаць.

— І хто ж гэта мог быць? Можа, Арнольд?

— Хто ж яго ведае? А можа, які і кавалер. На вас тут усе кавалеры пазіраюць, як каты на кілбасу. Бо вы надта ж харошая. Дык вот я і падумала: больш я вас адну не пакіну. Не дай бог што якое — дык тады ваша мама і тата мяне з'ядуць! — Перажагналася.— Не дай божа!

— Не бойцеся,— усміхнулася Кацярына.— Пакідайце смела мяне і адну. Ніхто мяне не зачэпіць. Нікому я не трэба. Бачыце, муж сышоў ад мяне, такой добрай жонкі, і не вяртаецца.

— Не кажэце. Іменна да вас прыходзілі і доўга стаялі, калі яшчэ і снег не ішоў... Каб у снег прыходзілі, дык два рады слядоў было б — і сюды, і адгэтуль. А так адзін рад...

«Падглядзела хітрая лісіца ці толькі здагадваецца? — падумала сама сабе Кацярына.— Бо і ўчора ж не хацела ісці дадому, ледзьве я яе адправіла. І чаму такая цікаўнасць? Няўжо таму, што сама ніколі замужам не была, век жыве пакаёўкаю ў багатых людзей?»

— Няма на вас, пані Кацярына, старасці! — здзівілася Стася, прытуляючыся да яшчэ цёплага, мусіць, стаяка.— Маладзенькая і харошая. Вот і цяпер як лялечка. Як царэўна.

— Соль вам у вочы, цётка, як тут кажуць,— сказала Кацярына.— Якая ж яшчэ павінна быць у мяне старасць? Мне яшчэ ж толькі дваццаць пяць гадоў! Я яшчэ, лічы, не жыла, нічога не бачыла, а вы...

— Надта ж маладая вы сёння! — прамовіла Стася.— Відаць, у вас па сэрцы лёгка. Калі ў чалавека на сэрцы лёгка, дык ён тады молада выглядзе і вясёлы.

«Лёгка, цётка, лёгка»,— падумала Кацярына і ўсміхнулася тою загадкаваю жаночаю ўсмешкаю, што, аднак, пра ўсё гаворыць іншай кабеце.

Пазней, калі паднялася і нацягнула на сябе халат, доўга стаяла каля трумо з вялікім люстэркам і выглядалася. І праўда ж, зніклі маршчынкі на лобе і ля вачэй, сышоў з твару цень, вялікія вочы паглыбелі, ажывіліся жыццём, радасцю. На целе адчувалася і слабасць, і моц, яно, здаецца, уваскрасілася.

Увесь дзень Кацярына адчувала: сёння яна іншая. Спакойная, але ўражлівая: рукі мацней адчувалі цяпло стаяка ці холад стала, акон, твар пяшчотней адчуваў паветра, вочы — святло, і ўсё вакол Янкавін — панылы лес, вольная пасля расталага новага снегу зямля, азёры блакітнай вады на аселіцы — здавалася адноўленае, свежае, нібы нанава ўбачанае, быццам нехта ўсемагутны ва ўсё гэта ўдыхнуў чароўнае хараство. На бледнаватых шчоках зайграў гарэзны чырванец, скура на іх зрабілася мяккая і чыстая, гладкая. Вочы ззялі, у куточках вуснаў увесь дзень не знікала патаемная шчаслівая ўсмешка.

Кацярына не магла ні хадзіць па двары, ні ўседзець у хаце. Спрабавала чытаць, але ні «Новая книга. Записки об ужасах полового безумия Парижа» ці «Мир половых страстей. Картина половой жизни женщины и мужчины. Брачные и безбрачные наслаждения», ні «Санін» Арцыбашава і «Ключы шчасця» Вярбіцкай сёння яе не прывабілі. Наадварот,

адбівалі ахвоту ад чытання. Яна як узяла, так і гэтак хуценька збавілася ад дзвюх першых кніжак — запхнула іх далей ад сваіх і чужых вачэй, саромеючыся, што нядаўна паслухала нясвіжскай сяброўкі і ўзяла ад яе чытаць гэтыя кнігі. «Што ты! — зацікаўлівала тая.— Вось тут дык каханне!»

...Бацькі вярнуліся, калі пачынала ўжо шарэць, халаднець.

Кацярына накінула на плечы цёплы пуховы шалік, выбегла на двор спатыкаць; маці — яшчэ не старая, гадоў пад сорак пяць, файная (Кацярына ўдалася ў яе), толькі запаўнаватая ўжо — якраз злезла з калёс і выбірала з аблямоўкі кажушка саломінкі.

— Мамачка! — падбегла да яе Кацярына, абняла.— Як я чакала цябе!

— Ціха ты! Паваліш у гразь! — выпрасталася, прамовіла лагодна. Пасля са здзіўленнем зірнула ў вочы.— Ды што гэта з табою сёння? Тыя дні хадзіла як цень, а сёння цвіцеш проста? Можа, Арнольд вярнуўся?

— Не, мама,— адказала, зусім не смуткуючы па мужу-ўцекачу.— Благавешчанне ж, мама! Вось-вось і вялікдзень! Вясна! Цяпло! Зеляніна!

— Весной все молодые женщины сходят с ума...— топчучыся каля хамута, пажартаваў бацька. Быў на добрым падпітку. Значыць, вясёлы.— Марац же, как здесь говорят!

— Тата! — не з крыўдаю, а з лёгкім папрокам паўшчувала Кацярына.— Як вам не сорамна такое гаварыць свайму дзіцяці!

— Што ты хочаш, дачка, ад п'янага чалавека! — сказала маці, ужо беручы з калёс клуначак.

Маці не проста так гаварыла. Бацька яшчэ і цяпер быў памаўзлівец. Калі да яго ў воласць заходзіла вабная маладзіца, дык не выпускаў непашчыпаную. З пападдзёю некалі падгульваў — маці з тою не-

калькі гадоў не гаварыла, не хадзіла ў папоўскі дом. Словам, нічога добрага за бацькам — чалавекам і легкадумным, і заадно жорсткім ды разбэшчаным — не ўбачыла, кінуўшы дзеля яго калісьці родны дом, сваякоў, добры пасаг, без роздуму аддаўшы яму сваю маладосць, шчырасць, пяшчоту. Цяпер маці, можа, і каялася, што некалі звязала свой лёс з гэткім пахатлівым і зусім не разумным ды смелым чалавекам, як ёй калісьці здавалася, але было ўжо ўсё згублена, і яна паціху старылася ў гэтай глушы, ужо не ўяўляючы лепшага жыцця. Яна ўжо ніколі, здаецца, і не ўспамінала свой горад, бацькаў вялікі дом, радню, тэатр, бал, піяніна. Яна цяпер усё больш і больш цягнулася да вясковых кабет, гаманіла з імі пра тутэйшыя навіны, пра тое, што калі час сеяць, садзіць ці збіраць. Яна нават ужо выдатна навучылася гаварыць па-тутэйшаму.

Маці стамілася за гасцяванне і за дарогу, дык як толькі зайшла ў хату і распранулася, хацела прылегчы. Але Кацярыне хацелася папрытульвацца да пяшчотнай і добрай маці, дык яна не дала той заснуць, змусіла яе ўсё расказаць — пра гаспадароў, нарадзіху і дзіця, пра госці. І пакуль маці расказвала пра сваіх сяброў, дзе яны былі ў адведках, наступілі прыцемкі. А ўвечар, як толькі запалілі лямпу, а бацька сеў піць любімы свой чай, прыйшлі госці. Тутэйшыя, пастаянныя. Поп з пападдзёю і дочкамі, пісар Дзяжко, начальнік пошты Гарбуковіч, ураднік Пятухоў. Усе бацькавы прыяцелі, напарнікі па выпіўках, картах. Тая кампанія, што трымала ў сваіх руках усю воласць.

— Прыпёс жа вас чорт! — відаць, як і думаў папраўдзе, так і сказаў гасцям размяклы гаспадар. Ён ужо, седзячы каля стала з самаварам, піў ці не пяты кубак чаю.— Я сама думаў легчы ды...

— Адкладзіце ўжо, Юры Апанасавіч, справы на

*«— Ну, а калі яшчэ доўга не будзе той перамогі, Юры Васільевіч? — запытаў Алесь.*

*— Значыць, трэба яшчэ доўга змагацца за яе!*

*— Колькі?*

*— Калі трэба, дык і ўсё жыццё! — адказаў Казлоў».*

заўтра,— мякенька ўсміхнуўся пісар Дзяжко, малады франтаваты халасцяк (Дзяжко, Гарбуковіч, Петухоў — усе былі халасцякамі, амаль аднаго веку — пад трыццаць).

— Ад кахання, друг мой, нідзе няма спакою: ні ў касцёле, ні на дзеле, ні на пасцелі! — дапіваючы чай, адказаў бацька. Ён заўсёды з усімі быў смелы і грубаваты, хоць іншым вялікай смеласці, жартаў не дазваляў. У злосці і таму ж Дзяжко ды Гарбуковічу (пра простых вяскоўцаў няма чаго і гаварыць) мог заляпіць і аплявуху.— І адклад тут не ідзе на лад.

— Юры! — паўшчувала гаспадыня. Злезшы з ложка, абувала пакаёвыя цёплыя валёнкі.— Пасаромейся дзяўчат і нас, кабет.

— Гэтыя дзяўчаткі болей за нас усё ведаюць, Ганна Пятроўна...

Невысокая, поўненькая, у маці, «булачка», як гаварыў Уладак Дземідовіч, Маша хітра ўсміхнулася; доўгая і худая Валя пагардліва падціснула тонкія бяскроўныя вусны. Яна, Валя, была строгая, цнатлівая, канечне ж, і ў свае сталыя гады яшчэ ніколі і не цалавалася з хлопцам. З-за яе, кажуць, поп і паіў Дзяжко, Гарбуковіча, Петухова, спадзеючыся выпхнуць старэйшую дачку за каторага, але тыя, надта Дзяжко і Петухоў, спраўна жлукцілі папоўскую гарэлку, але на папоўскі кручок не траплялі.

Госці распрануліся, паселі; гаспадыня сама прыбрала са стала медны самавар і панесла яго на кухню. Каб, можа, Стася зноў нагрэла яго — для гасцей. Вярнулася.

Петухоў — нізкарослы таўсцяк — сёння быў без мундзіра, дык, здаецца, быў іншы чалавек, хлапчаня; непаваротлівы, гэтаксама поўны Дзяжко старанна вычэсваў патыліцу, збіраў там доўгія рэдкія русявыя пасмы валасоў і хаваў імі бледную лысіну; тонкі і худы, як пападзянка Валя, рабаціністы Гар-

буковіч, наадварот, доўга драў грабеньчыкам густую рыжую чупрыну, што, лічы, хавала лоб, абвісала за вушы бакенбардамі.

— Не падобен сам на сябе, Ерафей Іларыёнавіч,— паківаў галавой гаспадар, пазіраючы на Петухова. Любіў жартаваць. І сёння свае кепікі пачаў з Петухова.— У мундзіры мужчына, без мундзіра падшыванец. Ніякай саліднасці. Відаць, без мундзіра Маша і Валя не зважаюць на цябе, мой друг...

Пад вачыма ў Петухова былі цёмныя ўпадзіны, шчокі азызлыя. Ад гарэлкі. І, відаць, ад недасыпання ў апошнія дні.

— Мундзір — форменнае, аднастайнае адзенне, але кожнага ўпрыгожвае,— уставіў сваё слова айцец Феадор.— І рослага ды сталага чалавека, і салапяку...

— Не на кафтане честь, а под кафтаном! — адказаў Петухоў, здаецца, умела абараняючыся.

— Честь добра, да съесть нельзя...— не змаўчала, пацягнула Петухова з нябёс на зямлю Кацярына.— Паліцыя ў гэтае стагоддзе «выдатна» беражэ свой «гонар»!

— Гэта ўжо не жарт, Кацярына Юр'еўна,— незалюбіў Петухоў.— Гэта ўжо абраза, знявага! І не толькі паліцыі. Але і ўсёй нашай улады.

— Ды ведаем, што-што, а калечыць людзей вы ўмееце...

— Кацярына Юр'еўна! — затузаўся той, пакрыўджаны за гонар свайго мундзіра.— Я прашу не зневажаць сумленную службу маіх калег. Яны шчыра і сумленна ратуюць Айчыну ад зламысных бунтароў. Некаторая жорсткасць ад абставін...

— «Некаторая»! — перакрывіла Кацярына.— Ды гэтая жорсткасць будзе чорнаю плямаю ў гісторыі Расіі. Яна, гэтая жорсткасць, мінае ўжо ўсе межы. Народ жыве пад дуламі вінтовак, пад казацкімі бізунамі...

— Раней так вы не гаварылі...

— Бо не разумела шмат. Ці подленька маўчала, нібы не бачачы тое, што перад вачыма...

— А цяпер усё ўбачылі? Зразумелі?

— Убачыла! Зразумела! — задзірыста адказала Кацярына.— Расія наша захлынаецца ад маны, двурушша, насілля, разбэшчанасці...

— Гэта не вашы словы, Кацярына Юр'еўна. Гэтую бязглуздзіцу вам убіў у галаву Аляксандр Нямкевіч, адшчапенец і закляты вораг. Вы зноў, відаць, падпалі пад яго шкодны ўплыў.

— Падпала...— гарэзна адказала яна, адчуваючы, што сёння будзе ўжо рашуча бараніць Алеся. Не дазволіць зневажаць яго, як дазваляла раней.— І магу галаву палажыць на калодку: ніякі ён не адшчапенец. Ён болей любіць, паважае Айчыну, яе народы, чым вы... Вы гледзіцё і на свой родны, і на тутэйшы просты народ як на быдла, цяглавых валоў, трымаеце яго ў страху, цешыцеся сваёй уладаю, злоўжываеце ёю як можаце, а Нямкевіч робіць для народа ўсё толькі высакароднае...

Петухоў нервова сціснуў тонкія рашучыя вусны; на поўных шчоках захадзілі злосныя жаўлакі і выступілі чырвоныя пляміны; невысокі лоб пакрыўся потам.

— Дык ён, бунтар, зламыснік,— герой? А я, той, хто даваў прысягу цару на вернасць, хто ўсімі сіламі беражэ яго Айчыну? Злыдзень?

— А вы думаеце, што люд вас за вочы інакшай заве? Любіць? Паважае? Цэніць? — запытала Кацярына.— Памыляецеся.

— Люд! Народ! Народны! — перакрывіў дачку Сяргеенка.— Усе цяпер навучыліся гаварыць красамоўна і пышна! І жук, і жаба! Усе не абы пра што думаюць, а пра народ! Я разумею, што хоча сказаць Ерафей Іларыёнавіч, калі гаворыць пра сваю верную

службу цару, Айчыне. Хіба можна раўняць «рэвалюцыянера» Аляксандра Нямкевіча і Ерафея Іларыёнавіча? Ерафей Іларыёнавіч сапраўды слуга Айчыны, яе вялікім інтарэсам. Пакуль тут ён, я, айцец Феадор — можна жыць спакойна. Усё будзе наша: зямля і тое, што ў зямлі і на зямлі, паветра, дух, людзі. У нас будзе засланка ад Захаду. Калі ж падымуць галовы і не дай бог прыйдуць да ўлады Нямкевічы, дык...— паківаў у небяспецы галавою.— Яшчэ трэба падумаць, ці будзе тады нам тут месца, трэба пагадаць, якое тут будзе паветра, дух які?

— Выганіць нас Нямкевіч, Юры Апанасавіч,— успыхнуў Петухоў,— ці падамне...

— Цяпер, канечне, мода лаяць цароў,— Сяргеенка яшчэ не замоўк.— Аднак цары не дурныя былі, калі землі і багацце збіралі да сумы, калі адмыслова пра пасады тут думалі, аддаючы найперш нам перавагу, прывівалі надзейны дух...

— І вы думаеце, тата, стагоддзямі вам, айцу Феадору, Петухову, мне і нашым дзецям ды ўнукам трэба быць тут толькі з такою місіяю?

— Стагоддзямі...— адказаў той.

— Дык чаму тады Афрыка ненавідзіць каланізатараў: англічан, французаў, немцаў, партугальцаў і іншых, што стагоддзямі ўжо рабуюць яе багацце, душаць яе дух? Няўжо вам ніколі не зачапілі ні розуму, ні сэрца прызнанні свядомых нашых людзей: імператар наш — «душагуб», «турэмшчык над народамі»?!

— Дзяўчынка! — надзіва цвяроза разважаў п'яны бацька.— Што ты кеміш у палітыцы! У вялікай палітыцы! Ты разважаеш, як твой любімец Нямкевіч... «Душагубка», «турма народаў»... Усё гэта выдумкі «свядомых» бальшавікоў. Яны — нашы ворагі. Яны хочуць аслабіць краіну, зрабіць з яе для сябе вотчыну, дык і туманяць людзям галовы, дэкларуюць

ім рай на зямлі, загульваюць з нацыянальнымі меншасцямі, абяцаючы ім усім волю, роўнасць... Краіна павінна быць адзіная і непадзельная! Магутная! Сярод славян! У свеце! А на астатняе ўсё напляваць... На ўсякіх Нямкевічаў і ім спачуваючых...

— Які вы эгаіст, шавініст, тата! — паківала галавою Кацярына.— Ні кроплі ў вас няма велікадушнасці. Здаровы, дужы, моцны павінен найперш спачуваць слабому і хвораму.

— Глупства! — абсек яе бацька.— Дужы павінен кіраваць, а слабы падпарадкоўвацца. І дурань вялікі будзе той дужы, хто пачне дзяліцца сваёй уладаю ды магутнасцю. Цяпер такая эпоха, што без сілы ты ніхто!

— Цяжка вам, тата, будзе цяпер з такімі думкамі...— паспачувала Кацярына.— Цяпер новы час. Цяпер пачынаецца не толькі новае стагоддзе — эпоха радыё, самалётаў, электрычнасці,— але і новая эпоха цягі ўсіх народаў свету да вызвалення ад усякіх петляў. Усе хочуць адчыніць у сваім пакоі хоць фортачку, дыхнуць свежым паветрам...

— Заварушылася, быдла! — сціснуў кулакі Петухоў, гаварыў, нібы перцам сыпаў.— Мала, мала іх душылі! Не вырвалі разам з дрэўкам і карэнне!

Дзяжко і Гарбуковіч, абодва з Янкавіц, маўчалі, як панабіралі ў рот вады. Звычайна Дзяжко быў гаваркі, любіў жартачкі, пацешкі і з імі жыў, рабіў дабро і зло; Гарбуковіч быў ціхманы, сам сабе суддзя і дарадца, сарамлівы. Але сарамлівасць не замінала яму быць даносчыкам. І гэта ён употай адкрыў віленскі ліст Сямёна да Алеся Нямкевіча, прачытаў, перапісаў і занёс копію Петухову. Той паказаў яе Сяргеенку.

— Які вы, аднак, страшны, пане Петухоў! — здзівілася гаспадыня. Яна, як і панаддзя, стаяла каля

цёплага стаяка, грэла спіну.— Нецярпімы, злы і крыважэрны!

— Мяне злуюць, Ганна Пятроўна, 1905 год, Дума, дэмакратыя...— пацішэў, апраўдаўся Петухоў.— Далі волю бунтарам, парадзілі беспарадкі... Свабода слова, свабода друку! Не давядзе гэта да дабра. Стагоддзі трэба былі, каб выбіць з памяці ўсякіх Нямкевічаў іхняе імя, а цяпер яны, асмялеўшы ад свабод, нічога і нікога не баючыся, гавораць пра сябе! Яны ж мігам зноў насеюць шкоднага насення!

— Вось бы вам, Ерафей Іларыёнавіч, сядзець на царскім троне,— падкусіла Кацярына.— Дык бы вы запхнулі ўсіх у мяшок, дык вы не толькі Казлова, Нямкевіча, але і ўсіх бы сумленных людзей усёй вялікай Расіі патапілі б у крыві...

— Пачакайце, Кацярына Юр'еўна, пачакайце! — пастрашыў Петухоў.— Плакаць яшчэ будзеце вы ад новых змен, ад гэтых Нямкевічаў!

— Баіцёся? — парадавалася Кацярына.— Канечне, баіцёся. За тое, што натварылі. А мяне не палохайце. Я не баюся. Я нічога, можа, добрага не зрабіла яшчэ, але і подласці, здзекаў, злачыннасці, жорсткасці не мела... Дык і не баюся новай Расіі, тутэйшага люду... І я рада, што разумею Аляксандра Нямкевіча, якога вы заўсёды за іншамыснасць ненавідзелі, тапілі... Гадáмі сачылі за ім, пляткарылі, шкрэблі на яго даносы, пакуль не звольнілі з работы. Таму і баіцеся яго.

Усе змаўчалі; ніхто не мог сказаць ёй супраць: яе словы былі праўдзівыя.

— Непуцёвы інтэлігент...— уздыхнуў мажны, з маленькімі вочкамі і мясістым носам айцец Феадор.— Гарэлкі п'е мала, у карты не гуляе, да кабет не хадзіць, да прыстойнай кампаніі не імкнецца. Ці з мужыкамі ўсякія багамерзкія і антыдзяржаўныя размовы вядзе, ці чытае, п'е атруту з урэдных пісаній...

Наслухаўся ўсялякіх Герцэнаў, Каліноўскіх, Горкіх, Ленінаў! «Воля!» «Чалавек — гучыць горда!» Бяда — калі чалавек смелы, не пакорлівы, не лагодны, не ціхі ды не рахманы, не баіцца бога! Бяда, калі чалавек лічыць, што яму ўсё дазволена! Людзі сталі злыя, гнеўныя. Не зважаюць, што гнеў ці сам рух гневу ёсць падзенне для чалавека. Людзі сталі гордыя. І слухаць не хочуць, што прыйдзе гордасць, прыйдзе і пасаромленне. Гордасць вядзе да пагібелі, пыха — да падзення.

— Цяпер, айцец Феадор, эпоха вызвалення чалавека. Ад ланцугоў царквы, забабонаў, тыраніі...

— Спакойны, ціхі адказ, Кацярына Юр'еўна, адхіляе гнеў, а зневажальнае слова павялічвае ярасць... А ваша гэтая «новая» эпоха, вы, цяперашнія «новыя», вызваляючыся ад «забабонаў», не слухаеце парад, не прымаеце выкрывання, дык і не станеце мудрыя, наробіце смуты, бяды, падарвеце ўсе асновы самадзяржаўя. Успыльчывыя толькі ўзбуджаюць разлад, а цярплівыя суцішаюць сваркі, звады... Шчаслівыя ніколі не будзеце. Бо хто не беражэ вусны свае і язык свой, той не беражэ ад бед душу сваю... А прыстойная кампанія...

— Маўчалі б, айцец Феадор, пра прыстойную кампанію! — не саступіла і папу сёння Кацярына.— Хто — мы прыстойная кампанія? Чалавеканенавіснікі, карцёжнікі, п'яніцы, плеткары, адарваныя ад народа людзі!

Феадор з маркотаю ды са здзіўленнем паківаў вялікаю галавою з доўгімі густымі русявымі валасамі. Ён быў у гэтай кампаніі самы старэйшы, шмат пакруціўся ў свой час ля ўсякага начальства, як аблупленых ведаў усіх сваіх гэтых кампаньёнаў. Характар яго вызначыць было і не так лёгка. У ім была і разважнасць, і памяркоўнасць, і ўвага. А разам з тым

было і шмат раўнадушша, іроніі, здзеку з усяго, святога таксама. Часамі здавалася: ён не поп, а яры бязбожнік.

— І вы, айцец Феадор, думайце...— сказаў Петухоў.— Бо можа закалыхацца грунт і пад вамі. Цяпер, самі ведаеце, трасуць рэвалюцыянеры за бараду і бога! Хочуць свет перайначыць без яго. А з д'яблам, са змеем.

— Без бога нічога не будзе...— сказаў той.— Без бога ўсё само па сабе разбурыцца. Калі нячысты спакусіць, дык нячысты і загубіць.

— І на Нямкевічаў гэтых насылайце анафему,— наступаў Петухоў.— Што мы, а што і вы павінны ўсмірыць!

— Вось дзе героі! — сказаў Сяргеенка, паказаў рукою на Дзяжко і Гарбуковіча.— Калі вы хочаце ўбачыць душу сапраўднага, адукаванага, шчырага і адданага мясцовага інтэлігента, дык зірніце ў іхнія блакітныя вочы — і вы ўбачыце яе...

— Яшчэ б! Яны ж і ад мовы сваёй, і ад культуры, і ад імён ды прозвішчаў сваіх сапраўдных адракліся...— дадала Кацярына са здзекам.— І ў іхніх славутых блакітных вачах якраз тое, што і хочацца бачыць: пакорлівасць, падхалімства перад дужымі, здзек з безабаронных. І яшчэ ў гэтых вачах процьма гарэлкі.

— Ты, дачка, яшчэ раз скажу: больш перажываеш за Нямкевіча, чым сам Нямкевіч! — паківаў галавою бацька.— Ты нібы і не Сяргеенкава. Быццам чужая нам... А паны Дзяжко і Гарбуковіч самі паскідалі лапці, шарачковыя світкі, абуліся і апрануліся як сапраўдныя інтэлігенты, пайшлі на сумленную службу, адракліся ад кваснага вясковага патрыятызму! І хіба ім горш цяпер? Што добрыя пасады маюць? Што з намі ў адной кампаніі?

— Ды што казаць! — абазваўся Дзяжко.— Ням-

кевічавы званы даўно ўжо адзвінелі... Гэтага не бачыць толькі Нямкевіч ды во Кацярына Юр'еўна.

— Чула? — прыгнуў галаву бацька.— Вось дзе голас сапраўдных сыноў, мудрых людзей!

— Толькі мне здаецца, што люд глядзіць на сваіх «сыноў», як на вырадкаў...

— Бо мужыкі нам зайздросцяць,— зноў азваўся Дзяжко.— Што мы, як кажа пан Сяргеенка, скінулі лапці ды світкі, носім боты ды сюртукі, што не аром і не косім...

— Дык вы «ўзвысіліся» над «мужыкамі»? — пасміхнулася Кацярына.— І бачачы, што Дзяжко запнуўся, здзекавалася далей: — Няўжо вы не адчуваеце: вы ж смешныя?! Па-правінцыйнаму фанабэрыстыя, недарэчныя! Каб вы былі сапраўдныя інтэлігенты, дык вы не ганарыліся б сваім «узвышэннем», а дбалі б пра іншае. Усюды ж, і тут, і там у нас, у Расіі, ненавідзяць гэткіх «узвышэнцаў» з мужыкоў... Вы бярыце прыклад з Казлова ды Чарнова. Вось дзе інтэлігенты!

— Адзін палітычны злачынец, а другі п'яніца! — хмыкнуў Петухоў.

— Затое абодва сумленныя інтэлігенты,— адказала Кацярына.— Вось кім павінны ганарыцца!

— Нейкі юр сёння напаў на Кацярыну Юр'еўну...— жартам паспрабаваў выкруціцца з няёмкага стану Дзяжко.— Нікому слова не дае сказаць. Вясна на дварэ, трэба пра каханне гаварыць, а яна — пра палітыку!

— Я вот, панове, слухаю яе,— кіўнула на дачку гаспадыня,— і думаю: а праўду ж яна кажа. З адной жа плоці мы, людзі, а пamірыцца ніяк не можам. Той вялікі, той «нікчэмны»! Той разумны, той «дурны»! Той павінен быць толькі панам, а гэты — парабкам! Нашто ж так дзяліць людзей? Усе ж людзі перад богам роўныя. І на Нямкевіча вы дарэмна па-

гаворваецс. Ён жа вельмі сціплы, пічыры і, як кажа Кацярына, больш пра людзей дбае, чым пра сябе. Ды, як відаць, цяжка жыць добраму чалавеку...

— Так, так,— падтрымала і пападдзя.— З усіх Нямкевічаў Аляксандр самы талковы. І не толькі Нямкевічаў, але і з усёй вёскі. Аж дзіва, чаму нашы мужчыны гэтак яго неўзлюбілі?! Калі ты добра да чалавека адносішся, дык і ён ласкавы да цябе. Цкуеш яго бесперастанку — дык рана-позна агрызнецца...

— Вось так, хлопцы! — нечакана памякчэў, паківаў галавою Сяргеенка.— Не вы, а Аляксандр Нямкевіч — любімец нашых кабет. Не вы, а ён заваяваў жаночыя сэрцы.

— Не мы, другі, не зрабілі сваёй місіі, а люд ёй не зусім паддаўся. Устоялі олухі...— уздыхнуў айцец Феадор, перасеў з канапы да стала, заклікаючы гэтым жэстам адысці ад такой цяжкай сёння размовы (а яны, такія задзірыстыя спрэчкі, у апошні час пачалі ўзнікаць усё часцей, бо, хочаш ці не хочаш, трэба было гаварыць сваю думку пра новыя падзеі) і пачаць гульню ў карты.— Толькі вось дзіва дзіўнае: «Зачем мятутся народы и племена замышляют тщетное?» Нашто? Чаму?

Усе замаўчалі.

Айцец Феадор нечакана павярнуўся, зірнуў у акно. Хуценька схаваў калоду карт у кішэню.

— Усё, панове! Гульня адмяняецца! — прамовіў.— Сатана прэцца!

Праз хвіліну ў хату ў звыклым шыняльку, у ботах і ў фуражцы зайшоў Лядзяш.

Размова пры ім павялася спакойная, рахманая. Ды і кароткая. Бо раптам усе пачалі ўспамінаць, што ў іх яшчэ шмат клопатаў, і разыходзіцца.

# Частка другая. ТУРМА

> Стогне і ў цемрадзі ночы злавесцай народ наш
> Вобмацкам долі шукае.
>
> *Мікола Гусоўскі*

> Чем же виноваты люди, понявшие боль страждущих прежде их самих и указавшие им не только ее, но и путь к выходу?
>
> *Аляксандр Герцэн*

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

За гуменцам Сцяпана Супраневіча, на яшчэ не зусім тупкім грудзе, палала полымя. Гарэла ламачча, на днях падгрэбленыя на панадворку і выпетраныя, падсохлыя ўжо на сонцы і ветры трэскі ды смецце, рыззё.

Языкі агню ўзвіваліся, здаецца, вышэй гумна, былі відаць, канечне ж, на ўсю вёску, а тут высвечвалі вымеценае, з купкамі старой зеленаватай травы загуменне, хлопцаў і дзяўчат, што стаялі вакол цяпла, адганялі цемру — яна гусцілася паблізу шчыльнаю сцяною, стараючыся глынуць і гэтае, не дзённае, а зробленае людзьмі святло, ды апякалася, адступала. Вакол агню парылася, сушэла зямля, кругамі шарэў, сох пясок.

Сёння ў Янкавінах палілі зіму, збіраліся гукаць вясну.

Кацярына заўсёды чакала гэтую часіну, што прыносіла нешта таямнічае, мабыць, язычніцкае і заадно дакляроўвала нейкае абнаўленне ў свеце, на душы. Не дарэмна ж людзі кажуць: як і з якім настроем благавешчанне сустрэнеш і правядзеш, такі будзеш і

ўвесь год. Ні Дзяжко, Гарбуковіч, ні Петухоў сюды, да «мужыкоў», не пайшлі, засталіся гуляць у карты, а яна з пападзянкамі прыйшла. Стаяла цяпер з імі і Кастусяю Нямкевіч і цяпер любіла няшчасную, але добрую душой дзяўчыну, як сястру. Непадалёку іх сталі Зося Мішук, стрыечныя сёстры Волька і Верка Чорныя — усе сяброўкі, асобна, воддаль ад усіх, трымалася яшчэ адна жаночая кампанія: дзяўчатышляхцянкі з Засценка. Каля дзяўчат таўкліся вясёлыя цяпер хлопцы, дзеці.

Вось прыйшоў Уладак Дземідовіч. Валок пад пахаю пляскаты шэры сяннік. Хлопцы расступіліся, далі дарогу.

— Кідай, Уладак, і сяннік у агонь! — пакпіў Янка Нямкевіч.— Згарыць і ён, затое згараць і ўсе шляхецкія блохі!

Усе зарагаталі. Усім абы дай зачэпку — выбухнуць смехам.

— Ты не пільнуй мае сеннікі, свае папалі! — агрызнуўся той, апусціў сяннік долу, учапіўся за распораты верх, разадраў ніткі, а пасля пачаў вытрасаць у агонь салому — суцэльны пласт.

— Ну і збіў! — зноў падкалоў Янка.— Відаць, варочаўся, круціўся па начах!

Зноў усе засмяяліся, падкінулі па слову, па два. Уладак агрызаўся, але няўдала.

Агонь накрыўся пластам, папоўз у бакі; пацямнела. Салома затрашчала.

— Во трашчаць блохі! — паківаў галавою Пятрусь Чорны.

Уладак не стрываў — заехаў таму поўху, збіў шапку. Пакуль Пятрусь сабраўся падымаць яе, дык Уладак падбіў яе нагою ў агонь. Той выхапіў сваю аблавушку, абдымленую ўжо. Зноў усе зарагаталі, ужо з Петруся. Уладак хлябнуў яшчэ раз-другі па ім сеннікам. У нос ударыў сухі пыл.

— Фу! — зафыркалі абедзве пападзянкі.

— Не пылі, Уладак,— сказала Маша.— Адыдзіся і добра вытрасі свой сяннік.

Уладак выскаліўся, паказаў свае буйныя пярэднія зубы, але Машы нічога не сказаў.

— Ды ў агонь яго трэба...— Пятрусь вярнуўся, ухапіўся за край сенніка і пацягнуў да полымя.— Ён прасмердзеў увесь. Шляхецкімі духамі.

— Я табе спалю! — Уладак ірвануў сяннік, скруціў і ўзяў пад паху.— Сваё палі, багацей гэткі.

Кацярына смяялася разам з усімі: яна прывыкла ўжо да гэткіх жартаў. Каму, можа, яны і не падабаліся. А яна заўсёды здзіўлялася, што тутэйшыя старыя і маладыя, як ім ні цяжка, умеюць жартаваць, кпіць з сябе і іншых. І іншых весялілі, і самі супакойваліся, праганялі нудоту.

Яна слухала, як далей кідалі адзін аднаму рэплікі маладыя, валтузіліся, усміхаліся, і думкі яе зноў вярнуліся да Алеся. Няхай бы і ён быў сёння тут, з усімі, пасмяяўся. Але ён апошні час, пасля звальнення са службы, нібы саромеецца выходзіць з хаты. Сустракаюцца яны толькі ўвечар. Хоць цяпер, можа, гэтаксама думае пра яе. Відаць, не можа апомніцца, уражаны, што яна завабіла ў свой дом. Можа, і асуджае, лічыць яе гулякаю. Спаткаліся, пацалаваліся — і ў пасцель. Нават не пагаварылі, не расказалі адно аднаму, як жылі дагэтуль. Ну і няхай! Як выйшла, так і добра! Будзе яшчэ час, пагаворыць. Цяпер яны будуць толькі разам, будуць сустракацца кожны дзень. Ён ужо будзе яе. Толькі яе. Яна нікому яго не аддасць. І сама нікога іншага не хоча і мець не будзе. Можа, тут яны ўжо больш і не будуць — на вачах у людзей. Збяруцца і сапраўды паедуць куды ў іншае месца. Каб жыць і працаваць разам, каб ніхто ім не замінаў.

Кацярына, нават не адчуваючы, мацней пры-

ціскала да сябе Кастусіну руку, нібы то была не яе, а Алесева, а Кастуся, мабыць, пра ўсё здагадваючыся, зазірала з пяшчотаю ў вочы і ўсміхалася аддана, радасна, цеплячыся яе і Алесевай тайнай ды радуючыся, што яны зноў паладзілі.

Хлопцы пачалі паказваць свой спрыт — скакаць праз агонь. А ён зноў быў высокі, шаматкі: угаралася Уладакава салома. Павіліся, паплылі ў дрыготкім паветры яе чорныя агаркі. Вось разагнаўся, гойснуў праз вогнішча Янка Нямкевіч. Агонь лізнуў яго ногі, спіну, але не паспеў зачапіць: Янка мігам прысеў аж за агнём, мігам падхапіўся і адбегся.

Вось разагнаўся Уладак — у кажушку, у ботах. Затупаў як мядзведзь, адпіхнуўся каля агню і гэтаксама пераскочыў. За ім панёсся яго сусед, Антон Емельяновіч, стрыечны брат Янакавай братавай, Ядзі, але ён адпіхнуўся занадта далёка ад агню, дык не перагойснуў, шуснуў у полымя, узбіў ахапак гарачых чырвоных іскраў.

Усе выбухнулі рогатам.

— Няўмека!

— Не быў бы шляхцюк!

Пад гул Уладак Дземідовіч падхапіў пад пахі Віцю Гарбацэвіча. Той дагэтуль стаяў воддаль ад агню, горбіўся, не асмельваючыся скокнуць праз агонь, але зайздросцячы тым, хто гэтак спрытна пераскільгвае.

— Скачы! — закамандаваў Уладак, папхнуў да агню. Віця спалохаўся, аж вырачыў вочы, упіраўся, вырываўся, але цяжка было яму, хірляваму, вырвацца ад такога бугая. Усе зноў засмяяліся — з Віцевага сполаху. Здаецца, ні ў адной з бліжэйшых вёсак так не пакеплівалі з сына багатага чалавека, як у Янкавінах з Віці.

І тут неспадзявана для ўсіх з таго гурту, дзе стаялі засцянковыя шляхцянкі, выскачыла Анелька Гар-

бацэвіч. Куляючыся на бакі, як качка, дабегла да хлопцаў і запусціла пазногці ва Уладакаў твар.

Той адразу ж адпусціў Віцю, са злосцю піхнуў Анельку. Яна павалілася долу.

— Чаго ты дзярэшся, каб цябе ястраб задраў! — як апраўдваўся Уладак, лэпаючы далонню па твары, што, відаць, засмылеў ад ранак.

— А не здзекуйся! — падняўшыся, прамовіла Анелька. Натапырылася, як курыца-квахтуха перад катом. «Кураня», Віця, стаяў безабаронны, бездапаможны і асаромлены.— Папрывыкалі...

— Малайчына, Анелька! — прамовіла Кацярына.— Ніколі не думала, што яна такая храбрая. Не брат яе, а яна брата аберагае.

Уладак, як пабіты сабака, пасунуўся ад агню. У паўзмрок.

— Кыш, кураняты! — накінуўся на малых дзяцей, што стаялі за сталымі цэлаю плоймаю.— Кыш на седала!

Тыя пырхнулі, як вераб'і, у цемень.

— Скалазубы! Скалазубы! — загукалі з цемры.

Уладак улёг за імі. Каб дагнаць хоць каго, хоць на кім выліць свой сорам і сваю злосць. Заўсёды ж нехта ёсць у вёсцы, хто любіць дзяцей і хто здзекуецца з іх, слабых і шчырых. Уладак — хлопец жорсткі і бессардэчны, пудзіла і пагроза для дзяцей.

— Якая дзікасць! — скрывілася Валя-пападзянка.

— Што ёсць, тое ёсць,— прамовіла Кацярына.

— І ўвогуле гэтыя гулі варварскія...— хмыкнула Валя.

— Народу, Валечка, трэба забавы,— зноў адказала ёй Кацярына.— І ён весяліцца, як можа. І не горш, чым мы, адукаваныя. Бо ў нас бывае яшчэ большае, адукаванае, хамства...

Валя з крыўдаю змаўчала. Надзьмулася. Сястра яе, Маша, хіхікнула. І зноў ды зноў зіркала на Янку

Нямкевіча. Але той не паварочваў сюды галавы. Часта кідаў позірк на Зосю Мішук. І тая, як бачыла Кацярына, адказвала закаханымі позіркамі.

Загуў Уладак. Усе абярнуліся: Уладак з-пад гумна Чорных цёр перад сабою некага пераапранутага — пад Дзеда Мароза. Той быў у валёнках, вывернутым белым кажуху, з вусамі і з барадою з доўгай мяккай кудзелі, у зімовай, з кавалкамі белай ваты, шапцы. На твары былі прычэпленыя шырокія калматыя, з пакулля, бровы і вялікі, ці не з рэдзькі, нос. Дзед Мароз трымаў у руках доўгую жардзіну, а да жардзіны была прывязана няўклюдная лялька-кабета — напхнуты саломаю ці сенам мех, на мяху было старое, без дна вядро, на вядры вуглем былі намаляваныя вялікія вочы, нос, шырокі рот. Замест рук — голле. Гэта была «Зіма».

— Замарожу! — кінуўся Дзед Мароз да ўсіх, тыцнуў «Зімою» дзяўчат-шляхцянак.— Паадмарожваю насы і шчокі! — махнуў па доле лялькаю. Нехта быў з мужчын. Можа, хто і з Чорных. Міхайла ці Пятро.

Дзяўчаты завішчэлі, кінуліся прэч. Дзед Мароз — за імі. Не дагнаўшы, павярнуўся і прыстаў да іншых — да гурту, дзе была Зося, а пасля і да гурту, дзе стаяла Кацярына. І яны, смеючыся, адбегліся.

Дзед Мароз уволю напабегаў за ўсімі, пакуль не замарыў дзяўчат і не здаўся сам, а пасля закрычаў:

— Прасеце, каб я спаліў зіму! Каб не памарозіў!

— Просім, просім! — загалёкала Зося-весялуха.

— Не ўсе просяць! — паскардзіўся Дзед Мароз.— Каторыя яшчэ не хочуць цяпла, вялікадня, вяселляў! Работы ў полі!

Тады ўсе закрычалі. Хорам.

— Вось цяпер бачу: усе гоніце зіму,— сказаў Дзед Мароз, запыняючыся каля вогнішча.— Цяпер станавецеся ўсе ў круг вакол цяпла і клічце вясну.

Моладзь паслухала. Абступіла з усіх бакоў агонь, узялася за рукі.

— Пачынайце! — закамандаваў Дзед Мароз. Пачаў першы:

Ой, выйдзем мы на горку
Ды паклічам бога
Адамкнуць зямліцу,
Выпусціць расіцу.

— Ну, усе разам...

Тады заспявала Зося. Прыгожым меладычным голасам. За ёю падхапілі ўсе.

Вол бушуе — вясну чуе,
Вол бушуе — вясну чуе,
Воран крача — сыру хоча.

Воран крача — сыру хоча,
Воран крача — сыру хоча,
Дзеўка плача — замуж хоча.

Не бушуй, воле,— пойдзеш у поле
Ды і ў полі паарэшся!

Не плач, дзеўка, пойдзеш замуж,
Не плач, дзеўка, пойдзеш замуж
Дый замужам нажывешся!

Наараўся вол, улёгся.
Воран крача, сыру з'еўшы.
Дзеўка плача, сына меўшы.

— Надта ж невясёлая песня,— сказаў Дзед Мароз, адзін тупаючы каля агню, пасярод круга.— Давайце весялейшую!

— А якая, Дзед Мароз, можа быць вясёлая песня? — запытала Зося. Зноў завяла першая:

Вол бушуе — вясну чуе,
Дзеўка плача — замуж хоча.
Не бушуй, воле, наарэшся,
Не плач, дзеўка,— нажывешся:
Пойдзеш замуж за жаўнера.

Жаўнер будзе ваяваці,
А ты будзеш жабраваці.

«Не дай бог, калі будзе вайна! — падумала Кацярына.— На яе ж могуць забраць і Алеся...»

Загуў Янка Нямкевіч. Не зусім смела ды ўмела, але тут жа ўсе падхапілі, заспявалі на ўсё навакольле.

— Ах ты, вясна, ты красна,
А што ж ты нам прынясла?
— На зямельку травіцу,
На травіцу расіцу,
На лясочак лісточак,
На дзяўчатак вяночак,
На дзяўчатак красотку,
На хлопчыкаў сухотку.

— Ну што, Валя? — нагнулася, шапнула Кацярына суседцы злева, Валі-пападзянцы.— Дзікасць? Ці сімвалічнасць, мудрасць ды натуральнае хараство? Шчырасць, непасрэднасць?

Тая нічога не адказала. Толькі ўсміхнулася. З пасаромленасцю.

Зноў заспявала Зося. Файна, урачыста.

Благаславі, божа, зіму замыкаці,
Зіму замыкаці, вясну загукаці,
Дай, божа, на жытачка род,
На статачак плод,
Людзям на здароўе.

«Дай божа! — падумала Кацярына, сёння, як ніколі, адчуваючы еднасць з гэтымі янкавінскімі сялянскімі хлопцамі і дзяўчатамі.— Дай божа ўсім вам шчасця!»

— Гары, ліхая зіма! — сказаў Дзед Мароз і кінуў у агонь ляльку.— Прэч лютая і халодная!

## 2

Відаць, кожны гаспадар найбольш і найлепш думае, калі ён адзін і працуе. І пра тое, што на свеце робіцца, і пра тое, што яму найбліжэй і наймацней баліць.

«Хоць бы было і сёлета ціха. Хутчэй бы вярталіся ўжо дадому Кірыла і Андрэй з заробкаў,— думаў Сцяпан Чорны, мяшаючы карове сечку ў цэбры.— Хай бы ўжо самі гаспадарылі, глядзелі б сваіх жонак і дзяцей, а я намёр бы ўжо... Зусім падбіўся, зусім жыць не хачу... Хоць, таўчы яго камары, і лягчэй, калі няма дома сыноў. Калі дома, дык у хаце калатня. Не так задзіраюцца яны, браты, як іхнія жонкі. Нявесткі. Ненавідзяць адна адну, кожная хацела б другую выгнаць з хаты. Завядуцца — счэпліваюцца, як певуны, і мужы. А без іх нявесткі злуюць, сварацца, не гавораць адна з адной, але бойкі, крыві ў хаце, дзякуй богу, няма».

Панёс цэбар з сечкаю ў цёмную загарадку, дзе стаяла высокая чырвоная карова. Худая. Побач у катушку, пад курыным седалам,— бычок.

«Як не шанцуе, дык не шанцуе, таўчы яго камары. Каб была цялушачка, дык, глядзі, праз год-другі яшчэ адна карова была б! Хоць пад старасць, можа, смятаны з тварагом з'еў бы».

Выходзячы з хлява, са скрухай зірнуў на самую першую ад дзвярэй загарадку: тут яшчэ нядаўна стаяў іхні стары конь. Цяпер яго няма. Як звазіў на ім з Шубіна сабе і іншым за плату сена, дык той пакепаў пару дзён і паў.

«І што буду ўвесну рабіць? — зноў жахнуўся.— Як буду гной вазіць? Араць? Пазычыш каня — у такі хамут залезеш, што і не выцерабішся з яго. На ўсё лета. За жыта, за картофлю, што ўзяў у Гарбацэвіча,— адрабі, за каня — адрабі, дык... Ці мне, старо-

му, адрабляць! Маладыя гаспадарылі б. Вот, таўчы яго камары, не шанцуе, дык не шанцуе. У Гарбацэвіча і кароў, і коней вунь колькі — і ніякая трасца іх не бярэ. А тут... Праўду кажуць: багатаму чорт і дзяцей калыша».

Выйшаў з хлява.

Убачыў: ідзе ў двор чалавек. Ага, Алесь Нямкевіч.

— Добры вечар, дзядзька Сцяпан,— усміхнуўся Алесь. Вясёлы, здаецца, памаладзелы.

— Добры вечар, Алеська,— адказаў ён, не могучы зірнуць шчыраму, неразлучнаму маладзейшаму сябру ў вочы. Той, кажуць, кахаецца з Кацярынаю Сяргеенкаваю: як толькі Алесь вярнуўся з Вільні, дык Сяргеенку вымазалі гліпаю вароты. Але і ўчора, кажуць, Алесь і Кацярына сустракаліся. Дык вось неяк і няёмка пазіраць у вочы таму, хто падходжвае да замужняй кабеты.

Парукаліся. Сталі каля пахіленага плота.

— Няма, дзядзька, сапраўднай вясны.

— Ды чорт яго ведае, што робіцца! І на свеце, і з прыродаю.

— Прачыталі газеты? — усміхнуўся Алесь.

— Чытаць-то начытаўся,— махнуў ён рукою.— Але хіба разбярэшся, што робіцца на свеце, у Пецярбурзе? Не разбярэшся. Туманоў, таўчы яго камары, многа. Усе ж дакляруюць табе залатыя горы, а карысці ад іх дакларацый ні халеры...

— Перамелецца ўсё неўзабаве...

— Перамелецца, канечне,— згадзіўся Чорны.— Дык хадзем у хату, аддам газеты. Бо Міхайла і Пятро мае агледзелі, просяць даць. А ім дай — дык, лічы, і прапала. Скурацъ.

— Чытайце самі і ім дайце,— сказаў Алесь.— Я шмат газет навёз. Хопіць нам, хопіць і вам. Я да вас па другім дзеле, дзядзька Сцяпан. Хачу, як і

ўчора казаў, сваю школку ў Янкавінах адчыніць. Адразу пасля вялікадня. Собаліха надмелася ўпусціць у хату. Дык вот збіраю вучняў. Павучу, калі днём, калі ўвечар. Хай умеюць чытаць, пісаць і па-свойму.

— Яно так, Алеська,— згадзіўся Сцяпан Чорны.— Дзела гэта добрае. Я сваіх унукаў трымаць не буду. Хай ідуць, хай дакладаюцца. Як вы кажаце, хоць трохі павучацца, пакуль пасвіць каровы. Але ж... Я вам цяпер не магу заплаціць... Ніяк... Каторы ўжо час няма хлеба. Картофлі на насенне не хваціць...

— Я ж не гавару пра плату,— прамовіў Алесь.

— Мала што не гаворыце. Я ж ведаю: чалавеку за працу трэба плаціць. Хіба ўжо ўвосень заплацім...

— Я ні ад кога нічога не вымагаю, дзядзька. Аддасцё ўвосень — добра, не аддасцё — такої бяды. Абы дзеці вучыліся, не раслі невукамі...

— Залатая ў вас душа, Алеська! — паківаў галавою Чорны.— Такіх людзей мала цяпер на свеце.

— Што пра гэта думаць,— сумеўся Алесь.— Іншае мне баліць: не ўсе хочуць пускаць дзяцей у маю школу. Нават і мае дзядзькі, Грыгарцэвічы і Касцюкевічы. Ды што пра дзядзькоў гаварыць? І бацька супраць, каб я адчыняў школу. І ў Засценку мнуцца. То кажуць, настае час ячмень, авёс сеяць, кароў пасвіць, то... Вот увосень ужо могуць пусціць... Баяцца, словам, маёй школы. Бо і Сяргеенка, і Лядзяш адбіваюць, палохаюць.

— Люд наш асцярожны...— уздыхнуў Чорны.— Але калі надумаліся, Алеська, дык адчыняйце. Я сваіх унукаў прышлю. І браты мае сваіх дзяцей пусцяць. Навука не зашкодзіць. Навука ест навука. Мы ні Сяргеенку, ні Ледзяша баяцца не будзем. Бо нічым не ўскураюць яны нас.

— Ну то дзякуй, дзядзька,— пацёр рукі Алесь,

зарадаваўся.— Пайду ў Засценак. Пастараюся і шляхцічоў уламаць. Уламлю тых, дык за імі ўсе сваіх дзяцей пусцяць...

Гарбацэвіч якраз сядзеў у хаце, падшываў хамут. Як зайшоў ён, Чорны, падняў галаву з рэдкімі ўскудлачанымі, злямчанымі русявымі валасамі, зірнуў праз акуляры, што віселі, лічы, на самым кончыку тоўстага носа. Акуляры былі зачэплены ніткамі за вушы. У адным вочку было трэснутае цьмянае шкло, у другім шкла зусім не мелася.

Гарбацэвіч тут жа апусціў галаву. Як і не заўважыў яго, гэткага госця.

Сцяпану такая ўвага была не ў навіну. Ён ведаў: ні ў Засценку шляхта, ні тут Гарбацэвіч не лічаць яго за чалавека. Ды яшчэ, можа, гаспадар быў і раззлаваны: у хаце, як ён чуў з двара, сварыліся. Праўда, як ён зайшоў, усе адразу ж змоўклі. Гаспадыня, Віцця, стаяла пры камінку, пры лучыне, і выцірала далоняю слёзы на шчоках, дзеці, Віця і Анелька, сядзелі абапал стала насупленыя, як маладыя совы. Можа, і ад таго насупіліся, што іх не пусцілі ў вёску на гулянку. Бо ўсе цяпер, на сходніх днях вялікага посту, не пускаюць сваіх маладых на гулі, змушаюць больш, чым калі, маліцца, чытаць святыя кнігі.

— Добры вечар у хату! — павітаўся Сцяпан бадзёра.

— Добры вечар,— адказала Віцця, кіўнула яшчэ і галавою, падсунула пад хустку каля вушэй пасмы сівых валасоў, абцягнула ўверх і саму хустку. Гаварыла шапялявячы: не было пярэдніх зубоў. Казалі, іх яшчэ ў маладосці павыбіваў злы муж.

— Садзіся, калі зайшоў,— буркнуў. Сцяпан паслухмяна сеў. У парозе на лаве.

— Ой, макрэча! — уздыхнуў ён, пачынаючы гутарку здалёку.— І снег, і дождж на дварэ. А паслязаўтра ж вялікдзень.

Яму адказала Вікця. З ёю яны і гаманілі. І пра надвор'е, і пра вясковыя навіны, і пра вялікдзень, і пра перамены ў свеце.

— Хто ж ведае...— уздыхнуў Сцяпан.— Можа ж, і будуць якія перамены...

— Многа ты хочаш! — абарваў яго Гарбацэвіч.

— Каб жа многа, пане Гарбацэвіч,— зноў уздыхнуў.— Не многа. Хачу, каб Андрэй ды Кірыла мае вярнуліся, каб зямлі сваёй троху прыдбалі. Хоць каб на старасці хлеба ўволю паесці... З мякінай лёгка хадзіць, ды цяжка ногі цягаць.

— Зноў у пазыкі прыйшоў? — адразу зразумеў яго «заход» Гарбацэвіч, падняў узлахмачаную галаву.

— Ды хоць бы пуд які яшчэ жытняй мукі...— адказаў Сцяпан, а сам падумаў: «Загавару спачатку хоць пра пуд. Зачаплюся, дык папрашу, таўчы яго камары, і больш...» Сказаў: — Жыць весела, ды есці нечага...

— Надта ж скора вы таго паўмяшка ўходалі...

— Якое ж, пане Гарбацэвіч, «скора»! Мы таго паўмяшка елі больш чым два месяцы! Іашчаджалі! Але вялікая сям'я! Як кажуць, жывём: тры дні без хлеба, а два дні так!

— Усё роўна ясцё, як не ў сябе.

— Хлеб разы два спяклі. Не больш. Пераварылі ўсё на зацірку. Адным словам, не за тое згалелі, што саладка пілі і смачна елі, а за тое, што ліхадзеі тоўстае горла мелі...

— І як ты думаеш аддаць? Ці думаеш: па тваім пяску ўсё сёлета парасце?

— Што аддадзім увосень, пане Гарбацэвіч, што адробім...

— Хто адробіць? Ты?

— Што я, што Пятрусь і нашы бабы...

— Якія работнікі з цябе і з твайго Петруся! — грэбліва махнуў той рукою.— А па-другое, няма і ў мяне ўжо лішняга жыта. Абы самому хваціла да нова-га хлеба. Мы не ядзім па гэтульні, як вы. Ашча-джаем. Хлеб з лупінамі, з шаройкамі пячом. Вот ба-бы ўзгарэліся на вялікдзень булкі, сухарыкі спячы. А я не даю пшанічнай мукі. Бо яе мала.

«Скупеча ты і жмінда несусветная! — падумаў Сцяпан.— І маеш усяго ўволю, і сам сабе ўсяго шка-дуеш. Морыш сям'ю голадам».

— Яно ж ведама, пане Гарбацэвіч, і вам усё з не-ба не валіцца...— сказаў уголас.— Усё ж і вы з ма-заля агоралі. Але вот пакрыху і выбіліся ў людзі, ста-лі на ногі. Пан ужо, лічы...— наўмысна паліслівіў, каб размякчыць яго злую чэрствую душу.— І хто, калі не вы, паможа нам? Толькі вы. Хай вам ужо бог за гэта дасць здароўя і сілы... Гэта ж вялікдзень ідзе, а мы не тое што булак, але і хлеба чорнага не маем, заціркі няма з чаго зварыць...

— Не магу памагчы,— прамовіў Гарбацэвіч.— Кажу ж, няма.

— Дзеці апухаць з голаду пачынаюць...— жалас-на прамовіў Сцяпан, пазіраючы ўжо больш на гаспа-дыню. Ведаў: у яе душа іншая, чым у мужа, доб-рая.— Жываты як бубны... Енчаць, душу грызуць: дай ды дай есці. Каб які хоць пуд мукі...

— Няма,— адрэзаў Гарбацэвіч.

Так ні з чым і пасунуўся Сцяпан з хаты. На ду-шы было не тое што згрызотна, а смяртэльна пуста і прыкра. Жыць не хацелася. Кляў у думках сваё жыццё, Гарбацэвіча. Ведаў жа: той мае. Але не дае. Змушае прасіць, кланяцца, набівае большую цану.

Яно так і было. Як толькі Сцяпан выйшаў з хаты, Віцця сказала мужу:

— Грэх жа, Пётрык, гэтак здзекавацца з чалавека. Мы ж можам пазычыць. І не толькі пуд ці два...

— Пабяжы, вярні! Дай, калі такая добрая! — агрызнуўся той, зноў даючы волю свайму сварліваму характару.— Чорнага ўгнявіў! Гэткага пана! Унадзіліся, як зайцы ў капусту!

— Бога пабойся, Пётрык. Ці забыўся, як сам некалі жадзён быў кавалачку хлеба?

— Хай не распускаюць языкі, як пугі! — адказаў са злосцю, маючы на ўвазе тыя крыўды і зняважгі, што нядаўна меў ад братоў гэтага Чорнага ў Шлёмавай карчме.— Яны брэшуць на мяне, а я павінен ім у ногі кланяцца. Хай пагаладаюць, дык, можа, не такія языкатыя будуць! Дый калі пазычаць — вочы салаўіныя, аддаваць — савіныя!

— Нядобра так, Пётрык. Свае ж людзі...

— Сам ведаю, што добра, а што нядобра. Не суньcя са сваім курыным розумам абы-куды без патрэбы. Не пан, прыйдзе і яшчэ, папросіць. Нідзе не дзенецца! Маё дабро, дык што хачу, тое з ім і зраблю! Хачу пазычу, хачу — не!!! Ды на пазыкі знойдзецца ахвотнікаў... Паўвёскі просіць, каб пазычыў хоць пуд, хоць паўпуда...— і бубніў-бубніў сам сабе, распаляючыся: — Хай ведаюць, хай глядзяць як на чалавека, а не як на сабаку. Ты яму дай, выратуй ад смерці галоднай, а ён на цябе брэша, гаўкае, як на ваўка...

У хату Сцяпан Чорны вярнуўся позна.

За гэтыя дні нізкая хата пахарашэла. Не пусцілі больш вячорнікаў, і нявесткі з дачкою памазалі столь, сцены, печ мелам, надралі рыдлёўкаю гліняны дол. Але на душы весялей не рабілася.

Жонка пільна зірнула на яго з печы. Каторы ўжо

дзень ляжыць. Даядаюць яе сухоты — спадчынная іхняя хвароба.

— Не пазычыў? — ціха запытала.

— Не,— адказаў, скінуў і павесіў у парозе нявыдублены, некалі белы, а цяпер ужо чорны, укарэлы кажух, сеў пры стале на лаве.

— От дзе чалавек! — застагнала жонка.— Ні душы, ні сэрца! Як каменны! Як той Гаспадар-камень!

Старэйшая нявестка, худая і хмурная, чорная, нібы цыганка, Аўдоля моўчкі стаяла ля палаючай печы, малодшая, тоўсценькая, зграбная Ганя — каля стала, рэзала ў вялізную місу, лічы, мядніцу, кіслыя гуркі. У мядніцы з палову было старога салёнага расолу.

Нявесткі між сабою каторую пару ўжо не гаварылі. На тапчане, на ложку дурэлі, енчылі, пішчэлі ўнукі. Як ніколі, сёння рвалі нервы.

— Ціха, таўчы вас камары! — крыкнуў на іх Сцяпан, хоць увогуле крычаў рэдка, а біць, лічы, ніколі не біў. Тыя — босыя, з бруднымі, аж чорнымі падэшвамі, чарнамазыя, як цыганяты, заціхлі, паселі, пасміхоўваючыся і штурхаючы адзін аднаго локцямі, зноў пад'юшчваючыся да дураслівых гуляў. Тут жа і адчуў: дарэмна злуе на дзяцей. Хіба яны вінаватыя? Яны на тое і дзеці, каб дурэць, гуляць. Але як ён можа іх пацешыць, што даць для іхняга дзяцінства? Адно толькі яму па сіле — наплесці ім лапцей.

Вочы запыніліся на малодшай нявестцы. Яна ўжо абірала цыбулю, плюшчылася ад слёз. Нешта завысока падняўся яе жывот, нешта пад вясну — пад бясхлебіцу — пачала яна надта правіцца.

«Няўжо грубая? — жахнуўся.— Але ад каго? Андрэя ж яе ўжо каля двух гадоў няма дома. Няўжо з вясковым якім падгуляла? Ці з нашым меншым? З Петрусём?»

Зірнуў на яго. Той воддаль сядзеў на лаве. Адвёў вочы.

«Можа, і з гэтым падшыванцам нагуляла. Пасміхоўваліся ж абое рапей, разам ды разам рабілі ўсё на двары, часта былі адны ў гумне... Але ж смаркач яшчэ, васемнаццаці няма. А яна ж баба, пад трыццаць...»

Лінула цяплынь да твару. Галава забалела, як на ёй ячмень змалацілі. І гэтак заўсёды: расхвалюецца — баліць галава.

Старэйшая нявестка дастала з печы чыгун з бульбаю, адцадзіла ваду і, трымаючы перад сабою, прынесла чыгун сюды і высыпала з яго бульбу проста па стол. Уверх узвілася пара.

Зноў завішчэлі ўнукі, адпіхваючы адзін аднаго, імтануліся да стала, абляпілі яго з усіх бакоў. Васьмёра бэйбусаў, будзь здароў едакоў. Пахапалі па самай вялікай бульбіне, адзіралі пазногцямі з яе лупіну.

«Добрыя людзі сёння будуць есці селядцы, грыбпы суп, аладачкі з макам і цукрам, белы кісель...— падумаў Сцяпан са скрухаю,— а тут, таўчы яго камары, штодня бульба, вада ды вада... І Шлёма, паганец, не даў напавер ужо селядцоў і лёку...»

Малодшая нявестка адгарнула пасярод стала бульбу, паставіла туды мядніцу з расолам, пасля прынесла і шпурнула драўляныя лыжкі. Найбліжэй туды, дзе сядзела трое яе дзяцей, самыя меншыя тут.

— Матцы крыху адлі і падай,— сказаў малодшай нявестцы Сцяпан.

Таня паслухала, моўчкі сваёю лыжкаю зачарпнула з мядніцы расолу, наліла палову глінянай міскі, узяла пару бульбін і панесла да печы.

Селі каля стала і нявесткі, Пятрусь.

Тут жа ўнукі, сяк-так абабраўшы бульбіны, па-

чалі адзін перад адным чэрпаць з мядніцы і сёрбаць расол. Лілі ад мядніцы да сябе сцежачкі.

— Не разлівайце! — злосна сёння сказаў Сцяпан.— Куды вас халера гоніць! Паменш бярыце, аглаеды! — падакараў, аднак і сам завіхаўся абіраць бульбу, ведаў, калі падрэмлеш, дык і не спатоліш голад. З восені і па пачатку зімы ён надта не гнаўся за дзецьмі, думаў, няхай яны найперш пад'ядуць, але цяпер, пад весну, адчуў: трэба шанаваць сябе. Пад весну пачаў ён слабець. А слабець не трэба было: наперадзе шмат работы. І сваёй, і чужой. Дык цяпер, калі на дне мядніцы неўзабаве засталося зусім мала расолу, нешта дурное пад'юшчыла яго. Ён непрыкметна ўзяў са стала крыху ліпкіх лупін, патрымаў пад сталом, а потым падняўся, нібы з-пад сябе ўзяў іх, з грэблівасцю скрывіўся, патрос, а пасля сказаў: «Фу!» — і шпурнуў скамечаныя лупіны на дно мядніцы.

— Цьфу! — шпурнула на стол лыжку старэйшая нявестка, Аўдоля.— Старыя, а што цэп дурныя! А яшчэ кніжкі чытаеце!

Наклалі лыжкі і Гапя, Пятрусь. За імі адсунуліся з неахвотаю ад мядніцы і ўнукі.

— Вам гідліва, а мне, старому, усё роўна! — усміхнуўся ён, падсунуў да сябе мядніцу. Пачаў сёрбаць з яе. Ведаў: недаядуць дзеці сёння, даядуць праз дзень. На вялікдзень. Будуць разам са старэйшымі ў валачобніках, дык і ім перападзе ласункаў ад чужых людзей.

Высербаў усё, быў поўны жывот, але есці ўсё роўна хацелася. Падумаў: трэба схадзіць на вёску. Да Міхайлы ці Пятра. Можа, тыя якраз вячэраюць і запросяць за стол. І сабраўся, пайшоў. Але не пажывіўся. Тыя павячэралі ўжо, і Пятро, усміхаючыся, сказаў яму: «А мы якраз, брацец, думалі да цябе ісці...»

## 3

Як свёкар пацягнуўся з хаты, Ганя пачала рабіць знакі Петрусю, каб ён выйшаў на двор.

Ён патупаўся-патупаўся, апрануўся і пад пільны, здаецца, зларадны позірк старэйшай нявесткі падаўся на двор. Да гумна. Праз колькі хвілін выскачыла за ім і Ганя.

Ён хацеў адчыніць дзверы — каб зайсці ў гумно. Як і раней. Але Ганя сёння не пайшла за ім, спыніла.

— Петрусёк! — прытулілася.— Што будзе? Паўнею ж не па днях, а па гадзінах! Бачыў, як бацька сёння пазіраў! Як ні ўціскай жывот, усё роўна ён паўнее і паўнее. Скора во пад самы нос падапрэ.

Пятрусь маўчаў. Ды што ён, шкоднік, мог сказаць? Цяпер ён стараўся як мага менш бачыцца з ёю. Як мог уцякаў з хаты, лічы, не стыкаўся дома. Але Ганя каторы ўжо дзень спрытна яго лавіла, скардзілася і плакала, разрываючы яму душу.

«Сама ж вінаватая...— падумаў.— Я ж першы не лез да яе. Я да яе ні з адной дзяўчынай не знаўся. Яна сама першая падкацілася. Ды гэтак лоўка, што і я не агледзеўся, як прыліп да яе...»

— Ну, чаго ты маўчыш? — панікнула, усхліпнула.— Скажы што.

— А што я скажу? — разгублена запытаў у адказ.

— Каб жа я ведала такое, дык ніколі-ніколі цябе не падпусціла б! — заламала рукі.— Але ж я думала, што ты ўпільнуешся, не нашкодзіш...— І, ужо не саромеючыся яго, каялася, кляла сябе за тыя ночы, калі не магла спаць, чуючы, як ён варочаецца паблізу, як хацела нават пры свёкрах прыйсці ўночы да яго на тапчан, як загульвала з ім і як наўмысна аднойчы, калі ведала, што ён адзін у гумне, зайшла туды...

— О, божачка! — пачала плакаць.— Другія бабы гуляюць з чужымі мужчынамі, з хлопцамі — і нічога... А гэта... Як я скора ўсім у вочы зірну? Свёкрам? Вёсцы? Што Андрэю, калі вернецца, скажу? Адна наша змяя пераграызе мне нутро...

«А што я Андрэю скажу? — жахнуўся і ён.— Заб'е ён мяне, як муху... ды ў вёсцы ўсе зубы скаліць будуць...»

На ўсяночную ў царкву сабралася шмат людзей. Высыпалі, лічы, усе з Янкавін, прыйшлі людзі і з Прудоў, Крычатоў, Рудні, Пільніцы, з хутароў — з усіх тутэйшых праваслаўных вёсак. Кожны — ці то стары, ці то малады, ці зусім падлетак — прынёс з сабою клуначак: выфарбаваныя ў настоі ад лушпін з цыбулі яйкі, карабкі з соллю, хлеб. Каб усё гэта пасвянціць. І яшчэ кожны ўзяў з сабою бутэлечку. На свянцоную ваду. Хоць былі праваслаўныя, але шмат якія абрады спраўлялі як і католікі.

У царкве спачатку было вельмі холадна, стыла. Аж білі дрыжыкі. Пасля, калі паволі ўвагрэлі паветра, крыху пацяплела.

Янка заўсёды каля царквы ці ў царкве чуўся ніякавата. Ён не меў вялікай набожнасці, але і на бога абы-чаго не гаварыў, шчыра верыў і асцерагаўся лішні раз успамінаць яго імя. Царква змушала яго да пакоры, маўклівасці і нейкай стоенай урачыстасці: і высозная столь, вялікія малюнкі на сценах, з якіх пазіралі строгія святыя, і поп за царскімі дзвярыма, і кліpac з пеўчымі, свечкі. І яшчэ рэха, што кацілася па царкве, калі гаварыў поп ці спяваў хор. Што ні кажы, у царкве мяняешся, думаеш не пра свой двор, а пра нешта, што і ўцяміць не можаш.

І сёння Янка ціха стаяў па мужчынскай палове сярод сталых мужчын і хлопцаў у кажухах, з падстрыжанымі патыліцамі, выгаленымі шчокамі і набіраўся таямнічасці ды ўрачыстасці і, лічы, не пазі-

раў на другую палавіну, дзе сярод кабет і дзяўчат стаяла Зося і зусім не пазірала ў яго бок. Як і не бачыла яго, аддавалася толькі малітвам, богу. Невядома, як яна, а ён, амаль не пазіраючы, усё ж вельмі добра бачыў яе.

Жыццё ішло сваёю калейкаю і ў царкве. Па-першае, наперадзе, перад царскімі дзвярыма, стаялі самыя шаноўныя людзі: Сяргеенка, Лядзяш, Чарноў, Дзяжко, Гарбуковіч, Гарбацэвіч, за імі — Дземідовічава радня, воддаль — іхняя, Янкава, а ўжо за імі стаялі Мішукі, за Мішукамі — Чорныя.

Адны стоена маўчалі, аддаючы сэрца богу, іншыя кашлялі, перамаўляліся, а дзеці нават і хіхікалі, штурхаліся — па мужчынскай палове паходжваў раз ад разу дзяк і сыкаў на дзятву, ківаючы на папа,— каб таго больш слухалі. Дзяк быў родны брат старасты Дземідовіча.

Вось ён, невысокі, таўсматы, запыніўся за Янкам.

— Ціха вы, жэўжыкі! — сыкнуў на дзяцей.— Знайшлі дзе шаптацца і шчыпацца! Слухайце, іроды, бацюшку! Тут вам не вечарынка! — і, адыходзячы, зацягнуў басам: — Крэ-сці-і-це-ся-я-я!

Усе пачыналі жагнацца. Дзяк Дземідовіч ішоў да царскіх дзвярэй і цягнуў: «Во Хрыста аблекоцеся!» І калі ён замаўкаў, зноў нешта на зразумелай і ў той жа час на зусім незразумелай старой царкоўнай мове гаварыў поп, айцец Феадор, спяваў хор на клірысе ці падпяваў Дземідовіч — і здавалася: душа цяпер ляціць некуды далёка і высока.

Неўзабаве поп і дзяк памкнуліся праз усю царкву на выхад. Народ рассоўваўся, даваў дарогу.

На двары — пасля крэснага ходу вакол царквы — айцец Феадор падышоў да загадзя раскладзенага, а цяпер амаль патухлага вогнішча, памаліўся каля яго, каля цэбра з вадою, апусціў у яе крыж.

І ледзь адышоўся, як да вогнішча і цэбра хлынуў люд. На святыя вугольчыкі, ваду.

Штурхаліся, сварыліся.

— Ды хваціць табе,— злаваў на некага Міхайла Чорны.— Зачэрпаў троху — адыходзься. Ты ж піць яе не будзеш. Абы папырскаць троху было.

— Табе толькі аднаму трэба! — адказаў нехта з чужой вёскі.

— Ды не лезь ты, не тапчыся!

— Ой! — піскнула нейкая дзяўчына.

— Што? — загуў нейкі мужчына.— Укралі нешта?

Калі набралі ўсе вады, вугольчыкаў, дык палічылі: усяночная скончана. Усе павалілі дадому, несучы з сабою свянцонае, з чаго заўтра раніцай і пачнецца сытны сняданак.

## 4

Назаўтра ранелька люд зноў пацягнуўся ў царкву. Але яго ўжо было не столькі шмат, як учора, і ён быў не такі расхваляваны, урачысты — вясёлы. Прыйшлі толькі «выбраныя» ад кожнай сям'і ці радні.

Поп і сёння чытаў малітвы. А пасля падаўся да амбона.

— Праваслаўныя! — падняўшыся, прамовіў.— Хрыстос уваскрэс!

— Ва ісціну ўваскрэс! — адказаў дзяк, а за ім сказалі хорам і веруючыя.

— Праваслаўныя! — выцягнуўшы белую руку, сказаў айцец Феадор.— І сёння гасподзь бог падказвае мне сказаць вам гасподняе слова. І сёлета, дзеці мае, рабы божыя, вялікдзень будзе ў смуце. Бо ў Расіі-матухне няма аднадумства, адной, моцнай веры і любові да веры, цара і айчыны. І сёлета шмат усякіх

*«Ясь, як і кожны гаспадар, шанаваў свайго каня».*

антыхрыстаў бунтуюць праваслаўны люд, хочуць, каб наша святая Русь раздзіралася ад людскіх страсцей. Рабы божыя маюць злосць на сваіх гаспод. З-за сквапнасці на зямлю і вы, хрысціяне, траціце часамі развагу. А ў дадатак яшчэ той-сёй нацкоўвае народы на народы, хоча адасаблення і аслаблення святой нашай Русі. У святым пісанні сказана, хрысціяне, што калі гасподзь бог працягвае руку з ласкаю, дык антыхрыст з кавярзою. Дык не паддавайцеся на кавярзу антыхрыста, не майце злосці на брата свайго, не ідзіце за бунтаўшчыкамі ці за тымі, хто кліча вас да няверпасці, глуму над хрысціянскімі парадкамі, як не ідзіце і за тымі, што клічуць вас у другую, меней верную каталіцкую, веру...

Кацярына слухала і раз-пораз кідала позіркі па мужчынскую палову: там побач з Янкам стаяў Алесь. Канечне, яму такія казані айца Феадора не падабаліся. Учора айцец Феадор быў у іх, і яны з бацькам дамаўляліся, што поп сёння з амбона ў сваёй казані асудзіць Алеся. За яго стараппе адчыніць у Янкавінах прыватную школу.

— Паганы, праваслаўныя, прыклад вам падае ваш вучаны зямляк, сын Яся Нямкевіча,— сапраўды загаварыў пра Алеся айцец Феадор,— ён самы вучаны з вас, але ён кепскі хрысціянін. Ён будзіць у вас непавагу да святыні, хоча адарваць вас ад сапраўднай веры. Не пасылайце сваіх дзяцей у яго антыхрыставу школу. Яна нічому іх не навучыць. Пасее толькі зло...

Усе маўчалі. Слухалі. Гаварыць ужо будуць на двары.

«Пакутуе, бедны! — пашкадавала Кацярына Алеся, пазіраючы, як ён бялее на твары.— А бацюшка наш стаў ужо не поп, а палітык... Двурушна апаганьвае Алеся».

— Праваслаўныя! — сказаў айцец Феадор у заканчэнне сваёй казані.— Сёння доўгі пост канчаецца, сёння вы можаце з'есці ўволю сытнага. Але залішне не давайце волі свайму апетыту. Помніце: вашы страўнікі адвыклі ад сытнага і могуць цяпер не вытрымаць сытнай ежы, і можа быць у вас заварот кішак... Як і ўвечары, на вечарынцы, не давайце волі сваёй злосці...

— Цаго баяцца! — парушыў маўчанне веруючых Пятро Чорны.— Калі няма ні мяса, ні сала...

— У каго няма, а ў каго і ест...— адказаў яму Міхайла.

— Дык той, моза, і не пасціў, увесь цас сытное еў...— адказаў Пятро.

Як выходзілі з царквы, Кацярына запынілася: чакала Алеся. Ён ішоў разам са Сцяпанам Чорным.

— Не зважайце, Алеська, на гэткую казань,— гаварыў той яму.— Які гэта поп!..— але ўбачыў Кацярыну, асекся, адышоў.

Алесь ішоў ёй насустрач, усміхаўся. Але на душы ў яго было пагана. Яна ўжо добра магла разумець яго стан. Вывучыла.

— Хрыстос уваскрэс, Аляксандр Іванавіч! — прамовіла яна важна. Дзеля людзей, дзеля Янкі, што ішоў за братам. І калі ён падышоў, працягнула рукі, паклала яму на плечукі, тры разы пацалавала яго ў вусны.

Бачыла: выйшаў з царквы бацька з Дзяжко і Гарбуковічам. Згледзеў яе, пахмурыўся. Але нічога не прамовіў, пайшоў прэч. Затое маці зірнула са здзіўленнем і, здаецца, са спачуваннем.

— Прыходзь сёння да Собаліхі, нешта скажу вельмі важнае,— шапнула Алесю, а пасля гарэзна памкнулася да Янкі. Пахрыстосавацца.

Пацалаваліся. Але бедны збянтэжыўся, заазіраўся: ці не бачыць гэты пацалунак Зося?

...Дадому Алесь ішоў маўклівы. Маўчаў і Янка. Гаварыла толькі Кастуся. Але яе, лічы, не падтрымлівалі і суседзі, Віця ды Анелька. Бо тыя ўвогуле былі негаваркія.

У хаце іх ужо чакалі. Вымытыя, убраныя па-святочнаму. Вясёлыя. Бацька трымаў у руцэ старую святую кніжачку без вокладак, старыя акуляры з ніткамі замест дужак. Ён быў чалавек набожны, заўсёды па вялікдзень змушаў усіх памаліцца, а тады ўжо садзіцца за стол. Алесь ніколі не адмаўляўся, прымаў усё гэта як нейкую ўрачыстую цырымонію. Адчуваў: добра, што людзі цяпер, пасля доўгага паста, адразу не накінуцца на сытную яду і пітво, а спачатку зробяць святы рытуал. І сёння бацька чытаў нейкую далёкую ад сённяшняга дня гісторыю, лічачы яе вельмі патрэбнай, святой, а яны, родныя, укленчыўшы, слухалі ці паўтаралі за ім.

Пазней, падняўшыся, бацька з усмешкаю акрапіў усіх вярбою. Святою вадою.

— Будзьце ўсе здаровыя, дужыя,— усміхаўся,— і шчаслівыя. Няхай збудзецца ўсё тое, пра што кожны думае.

Пасля падаўся ў хлеў акрапіць і быдла. А кабеты ў гэты час пачалі ставіць на стол прысмакі. Тушанае ўчора, а цяпер ужо астуджанае і парэзанае на скрылі сала ды мяса, бульбу, хлеб, гуркі, капусту, налісцікі, смятану, булкі, сухарыкі.

Калі вярнуўся стары з двара, усе селі за стол. Пачалі са свянцоных яек і солі. А пасля гаспадар, усміхаючыся, наліў усім па кроплі гарэлкі.

## 5

Першыя на ўсіх Янкавінах адышліся ад сталоў і выкуліліся на двор дзеці. Трэба ж, каб усе ў вёсцы ўбачылі, хто што мае новае з адзення і абут-

ку, трэба ж пабіцца ў біткі ды паспрабаваць сабраць набітых яек. Ды і хто, можа, пачастуе прысмакамі — булкаю, сухарыкам.

Сталыя патрошку выпілі, нетаропка пад'елі. Да полудня ўсе з іх будуць дома, пасля, калі ўполудзень уходзяцца, разыдуцца адны да адных у госці. Радня да радні.

У дзяцей па аселіцы рэй вялі ўнукі, дзеці Чорных. Яны сабралі гурт з усіх Япкавін тут, дзе, як і заўсёды па вялікдзень, гуляюць у «чыжыка», у «немца», у «ножык» ці з мячыкам.

Балазе, пад вялікдзень пачалі ўжо добра несціся куры — амаль усе прыйшлі з фарбаванымі яйкамі.

— Ну давайце біцца,— першы параіў пачаць збор яек унук Сцяпана Чорнага Язэп. За яго старэйшы быў Кастусь (той, які нёс з дзедам вязанку дроў з лесу, калі Алесь Нямкевіч вярнуўся дадому з Вільні, які ўражліва слухаў, здзіўляўся, як гэта можа стагнаць зямля). Але Кастусь быў ціхманы, і ім лёгка камандаваў малодшы брат.— Падстаўляйце!

Сам трымаў у руцэ чырвонае яйка, паказваў толькі вяршок — чамусьці не зусім гладкі.

— А ты пакажы, пакажы сваё яйка! — усумніўся Мішукоў Казік, Зосін брат. Ведаў: Чорныя, гэты Язэп найперш вялікія майстры на ўсякія круцельствы.

— Пакажы, пакажы! — агрызнуўся Язэп, насунуў на вочы брылёўку. Рухавы, дзёрзкі, як і стрыечны дзед, Пятро.— А не хочаш у казы! Давай, Казёл, падстаўляй яйка!

Казлом дражнілі Казіка.

Той падставіў. Язэп лузнуў у нос і спод — Казікава яйка пабілася. Той зморшчыўся, але нічога не зробіш, яйка трэба аддаваць. Аддаў.

— У цябе драўлянае яйка! — папікнуў.

— Драўлянае, драўлянае! — нацягнуў таму аж

на нос брылёўку Язэп.— Сам ты, Казёл, драўляны! Давай яшчэ раз біцца.

Але Казік новага яйка з кішэні кароткіх, перашытых з бацькавых, нортак не даставаў. Відаць, думаў біцца з некім другім.

Язэп пабіўся яшчэ з некалькімі — і ўсе яйкі пабіў. Выйграў ужо цэлую кішэню. Але пасля ўсе пачалі ўжо прыставаць, каб паказаў сваё яйка. Не паказаў. Дык адмовіліся з ім біцца.

Падышоў Юрась Дземідовіч — малодшы Уладакаў брат. Гэткі самы скалазубы — выпнутыя ўперад зубы ніяк не хавалі і вусны.

— Глядзіце, які чысценькі! — скрывіўся Язэп.— Шляхцючок!

На Юрасю быў новенькі чорны, прысланы дзядзькам з Амерыкі, касцюмчык, белая кашулька і новыя чорныя чаравікі. Астатнія такіх абновак не мелі. Калі хто што і меў, дык самае вялікае толькі ці кашульку, ці брылёўку, ці порткі.

Язэп піхнуў Юрася. Той упаў на яшчэ вільготную зямлю. Падхапіўся. Але не паспеў падняць брылёўкі. Язэп падбіў яе лапцем. Пагнаў па аселіцы. Гурт рушыў за ім. Юрась — у слёзы. Бег за імі, плакаў, а пасля завярнуўся, прыстрашыў:

— Я тату скажу! Ён вам дасць.

— Кажы, кажы! — не збаяўся Язэп.— Скора твайго тату патураць са старасты! Бо ён сабака!

— Сам ты сабака! — асмялеў здалёку Юрась.— Усе вы, Чорныя, галякі, зладзеі і бандзіты! Мужыкі! Галадранцы!

Язэп, нічога не гаворачы, улёг за ім. Юрась — ходу. Так уцякаў, што, здаецца, і ногі за галаву закідваў.

Упершыню Янка за апошнія гады зайшоў да Мішуковых у хату. Удзень. Зайшоў пасля полудня наўмысна: ён яшчэ дома ўбачыў, як прыйшлі да старэй-

шай дачкі, Галены, Мішукі і малодшыя дзеці. Дык ведаў: цяпер Зося ў хаце адна.

Зося сустрэла яго са збянтэжаннем. Зірнула, як ён зачыніў дзверы і ступіў у хату — здаецца, усё яго мужчынскае натаемнае, пагрознае ўбачыла ў яго вачах і замітусілася. Не кінулася насустрач, як кідалася ўвечар, калі сустракаліся за бацькавым гумном.

— Хрыстос уваскрэс! — прамовіў ён. Усміхнуўся. Але і ў самога застукала сэрца, сціснула ў горле.

— Во ўпадабаў хрыстосавацца! — адказала. Канечне, бачыла, як ён сёння цалаваўся з Кацярынаю.

Ён, бянтэжачыся, пазіраў і цешыўся: файная сёння як ніколі. У белай доўгай сукенцы і чорных, куплёных туфлях, з доўгаю касою. Румяная, нібы з падфарбаванымі вуснамі і бровамі. Падышоў.

— Трэба ж пахрыстосавацца...— усміхнуўся. Няёмка. І ад таго, што зайшоў сюды, і ад таго, што цяпер па-святочнаму апрануты. У чорны суконны касцюм, у хромавыя — бацькавыя боты.

Прыгарнуў, пацалаваў. Яна ж адказала з неахвотаю, тут жа крутнулася, села на край ложка. Ён прымасціўся побач.

— Я ж казала: не ідзі ў хату! — папікнула.— Цяпер ужо ўсе ўбачаць. Як ужо бачылі і ў царкве, што ты ўсё пазіраў і пазіраў...

— А ты хіба бачыла? — здзівіўся.— Ты ж не падымала і галавы.

— Бачыла!

— Дык няхай і ўсе бачаць! — адказаў.— Колькі ж таіцца будзем?

— Колькі трэба...

— На...— дастаў з кішэні, падаў жменю дарагіх, закручаных у паперкі цукерак, што купіў на днях употай у Шлёмавай лаўцы.— З'еш і не будзь такая злосная.

— Калі ж ты нядобры...— не ўлагодзілася вельмі, але цукеркі ўзяла.— Не слухаеш...

— Ну, не злуй,— прытуліўся.— Што ж я зраблю, калі мяне сюды як магнэзам цягне?

— Увечар спаткаліся б. Там... за гумном.

— Далёка да вечара! Ды я ведаў: ты цяпер адна...

— Ну дык і што, калі адна? — зірнула з падазрэннем.— Дык ты наўмысна зайшоў?

— А як жа,— абняў. Пахіліў на горку падушак, накрытых накідкаю, што яна вышывала на вячорках у Чорных усю зіму.

Выцерабілася. Ён зноў злавіў, пахіліў яе на падушкі. У валтузні і барацьбе ўзяў верх. Адчуў перад сабою яе грудзі, калені. Аж уздрыгнуўся. Цалаваў. У вусны і ў шчокі.

— Здурэў...— усміхнулася. Але болей не адштурхоўвала.

— Даўно ўжо...— прашаптаў, пусціў у ход рукі. Правёў далонню па каленях, па сцёгнах.

Яна ўстрапянулася, ірванулася. Нібы адчула: трапіла ў пастку. У небяспеку. Але не крычала, не прасілася.

Адплюшчыў вочы, што заплюшчыў чамусьці неяк нават і незаўважна для самога сябе. Зосіны вочы гэтаксама былі самкнутыя, шчокі яе нібы загарэліся, суха запалымнелі.

«Ці жывая? Чаму такая нерухомая?»

Затрымаў руку, не даў ёй гарэзнай волі. І тут жа Зося нібы апамяталася.

— Пусці...— прашаптала.

Узрадаваўся: жывая. Не паслухаў. Зноў прыпаў да яе вуснаў, зноў даў волю сваёй рупэ. І ўжо большую, як раней.

— Яначак, міленькі, не трэба...— прамовіла зу-

сім ціха.— Што хочаш, толькі не гэта... Прашу... Пашкадуй...

Ён маўчаў. Але дзёрзкія свае намеры запыніў. Бачыш жа, не згаджаецца. Ці баіцца, ці не верыць яму. Можа, і не кахае.

— Усё пасля шлюбу...— нібы супакоіла.

— А цяпер? — прашаптаў.

— Цяпер — не...

— Не бойся. Я не... Я... Ну...

— Яначак, міленькі, родненькі...— прасілася.— Ну пусці.

Сабраў апошнія сілы, адпусціў яе. Лёг на спіну. Пакутаваў. І ад таго, што не ўдаліся яго намеры, і таму, што рабілася сорамна. Не мог зірнуць ёй у вочы. Які недарэчны быў яго прыход сюды!

— Не злуй, Яначак,— паднялася і яна, прыхілілася.— Ты не думай абы-што. Не. Так трэба... Я табе потым усё раскажу... Потым... А цяпер ідзём на двор, сядзем на лаўку. Няхай і бачаць нас разам людзі, няхай...

«Хлопец я ці не хлопец? — слухаючы яе, усё пакутаваў.— Ці памяло, анучка?»

## 6

Жонка і дзеці ў нядзелю ці на вялікія святы любілі выйсці на вёску, пасядзець з кім і пагаманіць, а ён, Гарбацэвіч, не меў вялікай звычкі хадзіць да людзей, попусту мянціць языком, любіў прылегчы і ўсмак паспаць. Узяць тое, чаго ніколі ўволю не меў.

Праўда, учора, а сёння найбольш доўга вагаўся: ці легчы паспаць, ці запрасіць у госці суседа з суседкаю? Раней жа, калі той з сынам на Шубіне памагаў накладаць сена, падымаць перакуленыя сані, дакляраваў, што пакліча, добра пачастуе. Але сёння ўрэшце наказаў сабе: не будзе клікаць. І гарэлка, і

сытнае яшчэ спатрэбяцца, няхай надалей будуць. Ды адных старых няёмка запрашаць, трэба заадно паклікаць і хлопцаў. Алеся ды Янку, нявестку Ядзю, дачку Кастусю. А гэта ўжо шмат людзей, вялікі гурт. Нямкевічы добра робяць, але добра і ядуць. Каб пачаставаць іх, трэба нямала наставіць на стол.

Паляжаў крыху, падумаў пра свае клопаты (неўзабаве араць, сеяць, а ён яшчэ толькі аднаго найміта апытаў), а пасля і заснуў. Але сёння адпачываў мала. Разбудзілі без пары. Тармасілі за плячо.

— Тата! — як прачнуўся, пачуў доччын голас.— Тата, уставайце!

— Ну што? — буркнуў.— Чаго?

Сеў на ложку, спусціў долу босыя ногі.

— Чорныя дзеляць зямлю!

Нахмурыўся, зірнуў на напалоханую Анельку: што яна пляце? Якую, чыю дзеляць зямлю? Як?

— Ды гавары ты толкам! — незалюбіў.

— Сабе забіраюць...— зноў няясна адказала тая. З-пад хусткі ў яе выехалі валасы, твар успацеў — відаць, спяшалася, бегла дадому адпекуль з вёскі, дык і задыхалася.

— Кажу ж,— паўтарыў,— гавары да толку!

— Мераюць за аселіцаю наша поле і адмерваюць сабе...

Ён аж падскочыў. Нібыта ткнулі яго іголкаю. Як гэта: Чорныя пасягнулі на яго дабро? На яго зямлю? Самачынна? Спачатку не спалохаўся, толькі здзівіўся: як яны могуць адабраць ад яго зямлю? Хто ім такое дазволіць? А пасля захваляваўся: там, за аселіцаю, найлепшая яго зямля. І ва ўсёй вёсцы самая лепшая.

— Зладзюгі! — падскочыў з ложка.— Бандзюгі! — усунуў босыя ногі ў валёнкі, пабег па кажух.

— Тата, вы ж у споднiках! — прыпыніла Анелька.— Порткі адзеньце.

Вярнуўся да ложка. Па штаны, што ляжалі на біле ложка, пачаў усцягваць іх, але ніяк не мог трапіць нагамі ў калашыны.

— А Віця дзе? — запытаў.

— У вёсцы.

— Скажы, хай ідзе туды, на поле...

— Ён баіцца...

— Баіцца, баіцца! — перакрывіў.— О то сын, о то гаспадар!..— Бяжы да Нямкевічаў, ім скажы, яшчэ каму скажы...

Як апрануўся, выбег з хаты. Калі прыхапіў каля хлява пакалак (ім мяшаў сечку ў цэбры) і шыбаваў праз яшчэ шэрую пасля снегу аселіцу да свайго поля, дык успомніў: не замкнуў хаты. Адчуў: і дачка не замкне. Бо яго дзеці бесталковыя. Але не запыняўся і не вяртаўся, шыбаваў да поля. Задыхваўся.

Мінуў аселіцу, малады хваёвы гуртавы лясок, што самачынна заняў лапіну груду за аселіцаю. Убачыў: напраўду на яго полі таўкуцца мужчыны. Міхайла, Пятро Чорныя і іхнія сталейшыя сыны-падлеткі.

Пятро вось нагнуўся і пачаў забіваць у дол калок. Каменем. Згледзелі яго, паўставалі. За колькі крокаў бачыў: твары ва ўсіх чорныя, змрочныя, толькі вочы бліскаюць бялкамі. Пятро і Міхайла п'яныя. Дык дабра ад іх не чакай.

Зусім выбіўся з сіл, трусячы па мяккай зямлі, дзе ён летась садзіў бульбу. На галёшы мо па пуду набралася гразі.

Апошнія крокі ледзь ішоў.

— Якой трасцы вы тут топчацеся! — зазлаваў. Стаў за крокі тры, аддыхваўся.— У такі святы дзень!

— Святое і надумалі! — адказаў Пятро. Вочы яго аж гарэлі ад шалу.— Хваціц аднаму раскашавацца, а другому здыхац ад голаду! Бацыс, ён нават паўпуда мукі галодным дзецям пазыцыц не хоца!

«Відаць, схібіў! — падумаў Гарбацэвіч.— Трэба было пазычыць — дык не ўз'юшыліся б гэтак цяпер злыдні...»

— Вот бяром у цябе па дзесяціне! — сказаў Пятро.— Скацы ці не скацы, а бяром. Чатыры дзесяціны — на мяне, на яго,— кіўнуў на брата,— на Сцяпана і на Юзіка... Вот калэ... Адмералі... Зрушыш — па месцы пакладзём...

— У цюрму засаджу! — закрычаў Гарбацэвіч.— У Сібір!

— Чаго ты разявіў рот, хоць з калёсамі ў яго заязджай!

— Напалохаў! Выдраў лысаму валасэ! — глядзеў ваўком Пятро.

— Згнаю! — крыкнуў ён.

Гарбацэвіч бачыў: цяпер не згоніш сілаю. Саб'юць, скалечаць. Не папраўляй на п'яным шапку, бо ў морду дасць! А тут не шапку папраўляць... Адчуў страх: а што, калі і папраўдзе забяруць гэтае поле, пасеюць што ці пасадзяць? Паспрабуй абараніся ад такой плоймы. Але ж збойся, адсунься ты, дык адразу сядзе тры!

Убачыў: Чорныя зірнулі на вёску. Азірнуўся і ўсцешыўся: спяшаюцца адтуль людзі.

— Сыдзіце з майго поля,— сказаў смялей і ступіў, піхнуў нагою ўбіты ў зямлю кол.— Разявілі рот на чужое!

— Не на тваё! — бліснуў маланкаю Міхайла.

— А на чыё ж? Што — ты мне гэтую зямлю прыдбаў?

— І ты не за сваё прыдбаў!

— А за чыё ж?

— За жонку... Пан нарабіў табе бесталковых бэйбусаў і заплаціў зямлёю... А ты ўжо герой! Хай бы сам стаў на ногі! Як мы!

Гарбацэвіч зморшчыўся: Міхаіла балюча пасыпаў яму солі на незагойныя раны.

— Не руш...— нібы і астыў, убачыўшы яго пакуту, нібы і не астываў Міхайла.

«Сяроўна ўжо...» — падумаў Гарбацэвіч і памкнуўся спіхнуць нагою пакалак.

— Сказана: не руш! — падскочыў Пятро, піхнуў яго ў плячук.— А то во,— павагаў на руцэ каменем,— разаб'ю нюхаўку!

— Паспрабуй! — прыгразіў Гарбацэвіч.— Згніеш у Сібіры! — І, зусім асмялеўшы, дарэшты павáліў кол.

— Ах, ты так! — уз'юшыўся Пятро, кінуў камень і замахнуўся, пляснуў яму поўху. Ён, аглушаны, паляцеў долу. Чуў: б'е той нагамі.

Падняўся. Стукнуў Пятра пакалкам па галаве. Той захістаўся.

— Заб'ю! — зашыпеў, кінуўся і пачаў душыць за шыю. Яны счапіліся, пачалі валтузіцца. Ён быў нізшы, але больш таўсматы, учэпісты. Збоку скакаў Міхаіла, тоўк у бакі.

Валтузіліся, пакуль не дабеглі Нямкевічы. Сам Ясь і сыны.

Ясь стары, але мігам параскідаў іх.

— Ці не здурэлі вы, людзі! — не могучы аддыхацца, прысароміў.— Святы дзень, а вы бойкі заводзіце!

— Сам жа, Ясь, бачыш,— паскардзіўся Гарбацэвіч.— Не я, а яны... На маё поле ўзлезлі, бойку завялі.

— А вы, старыя ўжо людзі, што робіце?! — пазіраючы на Чорных, наківаў галавою стары Нямкевіч.

— Калі ж цярпенне лопнула...— сказаў Пятро.— Вялікдзень, а ў нас ні хлеба, ні сала. Заціркі няма з чаго зварыць. Дык колькі ж гэта будзе, га?! У яго валока, а ў мяне дзве дзесяціны пясоцку!

— І я не багацей,— прамовіў Нямкевіч,— дык што, і мне сілаю забіраць у некага зямлю? Самаадумам? Не. Так зямлі не возьмеш. Трэба чакаць закону. Каб па законе ўсё...

— Закон! — усхліпнуў Пятро.— Калі ж і ён не за нас!

Мацнуў рукою на лобе над шапкаю: рука стала чырвоная. Відаць, на галаве была рана ад Гарбацэвічавага пакалка. Неўзабаве па шчацэ яго пацёк струёк крыві.

Якраз у гэты час дапалі і кабеты — Міхайлава і Пятрова жонкі, дочкі, Віцця з Анелькаю.

— Кроў! — заламала рукі Пятрова жонка, Франя.— Ой, забіў, ірад! — гэта ўжо на Гарбацэвіча.— Каб цябе пярун забіў! Каб цябе свінні лычамі варочалі! Каб ты дзень і ноч на сцяпу дзёрся!

— Ціха ты! — сыкнуў на яе Ясь Нямкевіч.— Чаго крычыш? Жывы твой Пятро! А кроў яму дурную спусцілі. Вот сабралася за доўгую зіму, за пост вялікі — дык і спусцілі... Сам вінаваты... Чаго лез на чужое?

Віцця і Анелька не кідаліся да Гарбацэвіча, не шкадавалі. Ці баяліся яго, ці саромеліся людзей. І гэта вельмі ўразіла сёння Гарбацэвіча.

«Як не муж, як не бацька я ім,— горка надумаў ён.— Бы чужаніца сяроўна...»

— Разыходзьцеся, людзі,— спакойна, але цвёрда сказаў усім Ясь.— Ніякага ні дзіва, ні бяды тут няма. Выпілі крыху людзі — дык затуманіла ім розум гарэлка...

— Не гарэлка, Ясь, вінаватая...— паспрабаваў ці агрызацца, ці апраўдвацца Пятро.— Не толькі гарэлка...

— Пайшлі, пайшлі дадому,— пастояў Ясь, і Гарбацэвіч паддаўся яго волі. За імі пакрочылі і кабе-

ты. Чорныя засталіся яшчэ на полі, але і іх жонкі ды дочкі пачалі ўгаворваць ісці на Сяло.

— Божа мой, божа! — жахалася Нямкевічыха.— Падурэлі людзі! Адзін на аднаго пайшлі! З каламі! Дабро чужое адбіраць!

— Яшчэ не тое будзе, мама...— прамовіў Алесь.— І ў горадзе, і ў вёсцы... Па ўсёй Расіі. Не такая бойка будзе за зямлю!

— І заступіцца няма каму...— упершыню падала свой голас Вікця.— Пабегла да Сяргеенкі — не ідзе. Кажа: я святкую. Пабегла да Петухова — а ён схаваўся...

— Баяцца Чорных...— прамовіла Нямкевічыха.— А тыя пашалелі!

«Спаляць ці звядуць са свету мяне Чорныя...— ідучы разам з Нямкевічамі дадому, думаў Гарбацэвіч.— Адзін жа тут, без радні, без апоры... Цяпер то іменна трэба радніцца з Нямкевічамі. Нямкевічы, калі што якое, абароняць. Калі папросяць і добры пасаг, дык трэба будзе даць. Усё ж зямля будзе за дачкою, а не за чортам лысым...»

І ён цяпер паклікаў Нямкевічаў дадому. І, па яго радасць, маладыя, Алесь ды Янка, падзякавалі і не пайшлі, згадзіліся завітаць толькі старыя.

Па-сапраўднаму «дурную кроў» спусцілі ўжо ўвечар, на забаве.

Хлопцы «купілі» хату ў Сцяпана Чорнага, даўшы яму бутэльку гарэлкі, апольчык сала і бохан хлеба, прывялі з Крычатоў музыканта, гарбаценькага баяніста Бліна. Сышлася, лічы, уся янкавінская моладзь, прысунуліся сталыя людзі.

Старыя — сярод іх сядзеў і падпіты, ружовы, здаецца, дабрадушны сёння Лядзяш — паселі на лавах, на тапчанах, сачылі за ўсімі і шэптам абгаворвалі

ўсіх; маладыя, хто ўмеў, танцавалі вальс, польку, падыспан, кракавяк, лявоніху, юрачку ці спявалі, дурэлі, выходзілі на двор астудзіць плечы і пакрыху плялі павуціну змоў, дзелячыся на варожыя групкі, зласцелі для бойкі.

Праўда, спрабаваў задзірацца Пятро Чорны. Падыходзіў то да аднаго, то да другога хлопца, прасіў: «Дай закурыць. Даўно не курыў, аж вушы паапухалі»,— хто не даваў, хто даваў, але з гэтага прыставання бойка не ўзнікала.

Збоку цяжка было і ўбачыць завадатараў. Бо яны самі не высоўваліся на вочы, падбухторвалі да бойкі спадцішка, праз іншых. Таму і пільныя кабеты, і сталыя мужчыны не бачылі: сёння сярод хлопцаў хоча «спусціць дурную кроў» Уладак Дземідовіч. Яго даўно ўжо брала цяга адпомсціць Янку Нямкевічу. За тое, што Янка набіў яго летась на вялікдзень, сёлета колькі разоў бухаў яго ў сцяну ў Сцяпанавых сенцах. І яшчэ прычынаю была Зося. Уладак не мог выцерпець, што да яе ходзіць Янка.

У разгар новай полькі, калі Янкавы два стрыечныя браты, Грыгарцэвіч і Касцюкевіч, скакалі, стукалі ботамі і страсалі грывы з твару, упацелі, незаўважна для іншых — за печчу — паслужнік Уладака Антон Емельяновіч распусціў на лапці абору, без лішніх цырымоній узяў за руку Верку Чорную, што ўвесь вечар не зводзіла вачэй з Уладака і аж млела ад шчасця, калі ён разы са два ўзяў яе ў танец, і пайшоў у круг. Закруціўся, скокнуў колькі разоў, пакуль да яго не падкружыўся Кастусь Грыгарцэвіч, а пасля нібы спатыкнуўся, упаў. І тут жа мігам падхапіўся, учапіўся Кастусю ў плечы.

— То што ногі топчаш? — закрычаў.

— Абору во парваў...— «заступіўся» за Антона Уладак.

Танцоры налятаді адны па адных, збіліся ў кучу. Кастусь толькі адштурхнуў Антона — бойка адразу ж закіпела. Тут як тут варожыя гурты счапіліся, пачалі дубасіць адзін аднаго кулакамі. У гэтую хвіліну Лядзяш надхапіўся з лаўкі і бокам-бокам вышмыгнуў з хаты. Бо ведаў: абзавецца цяпер хоць словам — дадуць па шапцы.

Уладак сачыў: дзе Янка? Ён трымаў пад пахаю груз ад бязмена з кароткаю, адламанаю ручкаю, дык цяпер чакаў тоіі спрыяльнай хвіліны, калі можна будзе выхапіць груз і смалянуць па карку суперніка. Але і Янка, хоць вось трос беднага Антона, нібы вытрасаў з яго душу, не спускаў з яго вачэй. Ніяк не даваўся, каб можна было зайсці за спіну.

— Бі свалачэй! — ускочыў з лаўкі і Пятро Чорны, шыбнуў у гурт.

— Куды ты! Стары чалавек! — закрычала Франця, кідаючыся за ім.

І ўжо нікога не чуваць было: кабеты, дзяўчаты падпялі ў хаце такі лямант, піск, што хата, здаецца, аж трэслася. Уладак згледзеў: Кастусь Грыгарцэвіч пад нагамі. Дык тоўк-тоўк наскамі ботаў, зганяючы злосць і пад'юшчваючыся. І ў шале выпусціў на хвіліну з-пад увагі Янку. Той скарыстаў гэта адразу ж: абрушыў кулак на яго шыю.

Уладак адчуў: шыя нібы хруснула, у галаве зазвінела. І тут ужо не трэба было таіцца, саступаць ворагу. Ён выхапіў з-за пазухі груз ад бязмена і рынуўся на ворага. Але Янка, убачыўшы гірку, нечакана так смалянуў яму нагою пад жывот, што ён скурчыўся ад дзікага болю і ўжо не чуў: ці яго білі яшчэ, ці не білі. Здаецца, страціў прытомнасць.

— Забілі! — нібы камаровы піск, чуў Верчын лямант. Ужо калі адплюшчыў вочы, убачыў: у хаце няма дзербуноў. Стаяў крык і піск на двары. Тут толькі кабеты, жонкі братоў Чорных, трымалі за рукі

раскудлачанага і з расхрыстанай капуляй Пятра, угаворвалі, каб ён не рваўся на двор, застаўся ў хаце.

— Што ж яны?! — не то скардзіўся, не то дураслівіў той.— Час пайшоў: дасі ў морду — біцца лезе!

— Дык чаго ты, стары чалавек, лезеш да маладых?

— Каб жа я каму калі што якое, а то ж ніколі нікому ніцога ніякага...

— Напіўся! — папікалі кабеты.— Вочы засляпіў! Рукам волю даў!

— Напіўся! — пацяшаўся Пятро.— Што папіваў, папіваў, а што казлоў падзіраў, во так напіўся!

— Жывы! — узрадавалася Верка. Яна разам з сястрою стаяла на каленях каля яго.

— Ну сто, братка? — зачапіў Пятро.— Адна калоша поўная, а другую як завязаць?

Уладак падняўся. Быў як ватны. Убачыў: па лаве ляжыць Кастусь Грыгарцэвіч. На спіне. Доўгі-доўгі. Твар акрываўлены. Каля яго мітусіцца швагерка, Галена, Зосіна сястра.

— Божачка мой, божачка! — плакала Галена.— І за што, за што гэтак збілі? Як не жывы во... Свята гэта ці чортава паталочышча?!

Адчуваючы віну (можа, якраз і ён расквасіў Кастусю нагамі нос), Уладак пасунуўся з хаты.

На двары не сціхаў лямант, трашчалі калы — ламалі чужыя платы, вырываючы частаколіны. Ад удараў частаколін па спінах ішло рэха — нібы хто выбіваў аб плот мяхі.

Насцярожыўся: авось паблізу дзе сцеражэ яго Янка. Яшчэ ўдубасіць калом па галаве — і канцы. Шмыгнуў уздоўж плота — у свой канец вёскі. Не глядзеў, дзе Антон Емельяновіч і іншыя дружбакі. Чэрці з імі. Дадуць ім — дык такой бяды. Учуў: нехта бяжыць за ім.

Кінуўся ўцякаць. Азіраўся: постаць гоніцца за

ім. Шалеў ад страху. Але пасля ўчуў: кліча яго жаночы голас. Пачакаў. Падбегла Вера Чорпая.

— Чаго ты ўцякаеш? — запытала. Задыханая. Прытулілася.— Як з багны выскачыў сяроўна!

— Чаму! Чаму! — зазлаваў.— І не ўцякаю я. Бягу па прэнт!

— Уладачак, не звязвайся! Заб'юць!

— Я ім заб'ю! — прыстрашыў, перад Вераю паказаў сваю смеласць.— Я яго недзе прыпільную! За ўсё адплачу! Быць не можа...

— Я баюся...

— Чаго?

— Заб'юць яшчэ цябе...

— Не заб'юць! — буркнуў. І зноў незалюбіў, што яна перажывае за яго, як сястра. А можа, яшчэ і больш чулліва.— Ну, хадзем. У восець.

— Не.

— Ну чаго ты? Пасядзім хоць,— буркнуў, бо цяпер яму было не да яе. Пяклі боль, злосць і сорам. Усе, усе ж бачылі, як яго, шляхціца, стараставага сына, набілі.

— Уладак,— прашаптала, ужо ідучы.— Бяда.

— Якая?

— У мяне няма...

— Чаго?

— Ну, на кашулі...

— Як гэта? — здзівіўся. Гэтага яшчэ не хапала!

— Ды, здаецца, я...— запнулася.— Ну, нібы грубая я...

— Ты што? — аж стаў, аж забіла яму дыханне. Што за дурны дзень сёння! Адны непрыемнасці! Адчуўся воўкам у пастцы. Зазлаваў. Ужо на Веру. Разява!

— Я не вінаваты,— прамовіў.— Не магло быць ад мяне.

— Уладачак! Пабойся бога! — узмалілася.

— Можа, ты яшчэ з кім гуляла?!

— Уладачак! — сказала ўсёю душою.— Што ты кажаш! Як у цябе язык на такое?.. Ні з кім, далібог жа. Толькі з табою...— прыгарнулася.— Дык што рабіць?

— Адкуль я ведаю!

— Парай... Тваё ж гэта...

Маўчаў. Хацелася збегчы. І больш нікога не бачыць. Ні вёскі, ні сваёй радні, ні Веры. Збегчы ў які лес, на край свету.

— Можа, у Крычаты схадзі...— пасля адумаўся.— Там, кажуць, ест баба, што...

— А ты не хочаш?

— Што?

— Каб яно было...

Каб бачыла яго твар у цемені, дык згледзела б: ён вылупіў вочы. Па яблыку.

— Ты што? — аж задыхнуўся.— Ты што надумала?

— Ты ж казаў: возьмеш мяне. Дык няхай і будзе... Наша ж...

«Бачыш ты яе, як разрахавала ўсё!»

— А да бабы я баюся ісці...

— Баюся-баюся! — перакрывіў.— Мала што баішся. Трэба ісці. Бо яшчэ невядома, ці дазволіць мне бацька браць цябе...

— Як? — жахнулася.

— Вось так. Ён хоча, каб я браў багатую. Анельку Гарбацэвіч.

— Ты ж казаў: настоіш — і ўсё будзе па-твойму.

«Мала што казаў! Казаў, каб абдурыць цябе!»

— Настоіш! — прамовіў уголас.— Паспрабуй з маім бацькам настояць!

— А ты кляўся! Я ж паверыла табе.

Замаўчаў.

— Дык ты ашукваў? Скажы: ашукваў? — прыстала, трасянула за белую кашулю.— Ну? Дабіваўся толькі ўцехі, дурыў мяне?

— От прычапілася! — адкінуў яе рукі, адвярнуў твар.

Закрыла твар далоньмі. Заплакала.

— О, божачка! — забедавала. Рэзала яго гэтым саплачам нібы сярпом па сэрцы.— Якая я дурніца! Самая дурная на свеце! Вось плата за маю веру! За мой грэх!

Ён маўчаў, ні супакойваў, ні дакляроўваў нічога. Яна ў роспачы кінулася прэч, да свайго дому. Ён не затрымліваў, не бег услед. Радаваўся, што ўцякла, збавіла яго ад згрызоты. Хоць гэтае збавенне было часовае, маласуцяшальнае: наперадзе былі яшчэ вялікія непрыемнасці. Не тыя Чорныя людзі, каб дараваць яму такі грэх. Ды і бацька, калі даведаецца пра ўсё, усыпле дык усыпле.

...На гэты вялікдзень Алесь добра падгуляў. Дома, пасля дадаў яшчэ ў аднаго і другога дзядзькі. Адмаўляўся, але тыя змусілі пачаставацца. Грэх, казалі, не выпіць на вялікдзень, не прывітаць вясну, работу ў полі, цёплыя, вясёлыя ды жыццярадасныя дні.

Увечар, калі скончылася гасцяванне на хатах, мужчыны пацягнуліся ў карчму. Хто хацеў тут яшчэ выпіць, хто ішоў, каб паслухаць і пагаварыць пра жыццё-быццё — здаўна Янкавіны сыходзіліся ў карчме нібы на нейкае сваё, вясковае веча. Тут можна было пачуць усе навіны, разумныя парады, строгія ацэнкі і прысуды, справіць свае клопаты і, канечне, падвесяліцца — пажартаваць, пакпіць, паспяваць песні, паслухаць музыку, паплакаць, даць пекаму ці самому атрымаць па карку. Гаспадар карчмы, гарэлка добра выяўлялі: хто што варты і як трэба з кожным паводзіцца.

Карчмар найбольш пакручваўся каля ганаровых

людзей. А іх сёння было нямала. За сталом, што быў блізка каля перагародкі, у куце, сядзелі Дзяжко, Гарбуковіч, Чарноў (быў з імі і Лядзяш, але, калі ап'янелы Чарноў аблаяў яго пры ўсіх, дык знік адгэтуль). За другім сталом размясціліся браты Дземідовічы, Гарбацэвіч, Алесь, бацька з братамі.

Ззаду, пасярод залы, сядзеў Мішук з Емельяновічамі, а далей, пры самым парозе, уселіся Чорныя (Пятро, калі карчмар перастаў даваць напавер гарэлку, пашыбаваў услед за Ледзяшом у вёску, на танцы, думаючы там чым-небудзь пажывіцца).

За Алесевым сталом пілі мала — узялі па чарцы, прыкусілі хлебам, скрылікам кілбасы і гурка ды гамонілі. Баяў байкі вясёлы сёння староста, Дземідовіч; стары Нямкевіч слухаў, зрэдзь устаўляючы і сваё паважнае слова; Гарбацэвіч, пачырванелы і, бадай, упершыню сёлета не нудны, не хмурны, зусім маўчаў, чуючыся са сваімі шаноўнымі ў вёсцы суседзямі, як за сцяною. Здаецца, зусім не баяўся Чорных, што люта ацякалі позіркамі яго спіну.

— Пры гэтай, як кажуць, сталыпінскай рэформе можна пажыцца, калі маеш крыху ў кішэні і ў галаве...— гаварыў Дземідовіч.— Можа, і дарэмна мы баяліся зрывацца з месца, ісці на хутары. Хто не мае ніякага запасу, дык, канечне, прападзе там, а вось той, хто мае, не прападзе. Наадварот, набагацее. Каб іншы які хітрун, дык не баяўся б, а мы, кажу, асцерагаемся ўзяць тое, што нам даюць...

Крутнуўшыся ад стала, дзе сядзелі Дзяжко і Гарбуковіч ды спаў ужо, апусціўшы галаву на рукі, Чарноў, ля іх нечакана паўстаў гаспадар — сёння таксама ў святочнай кашулі, у камізэльцы, вясёлы.

— Вазьміце яшчэ па чарачцы, панове,— ласкава загаварыў.— Сёння ж ваша свята, радасць. Не сушыце галовы, а павесяліцеся. Гарэлачка ж весяліць душу.

— Ці не спаіць нас захацеў? — усміхнуўся Дземідовіч.

— Што вы, пане стараста! — той аж закрыўся рукамі.— Хіба я маю такія паганыя намеры? Мне хочацца ўслужыць вам, каб вы адпачылі.

— Дзякуй табе, але мы больш піць не будзем,— рашуча сказаў Дземідовіч.— Бо атрута гэтая да дабра не давядзе.

— Гэй, Шлёма! — загукаў з далёкага стала Міхайла Чорны.— Нам нясі. Запішы і гэтую бутэльку на чорную кніжку. І селядзец яшчэ падай.

— Можа, паны хочуць паслухаць музыку? — нібы не чуючы Чорных, якія шмат п'юць, але не плацяць, а толькі бяруць у пазыку, запытаў гаспадар.— Можа, жадаеце, каб вашу душу пацешыла скрыпка?

— Вось музыку паслухаем,— згадзіўся Дземідовіч.— А змеева зелле прыбяры з вачэй. Хопіць. Яно вяселіць, калі яго вып'еш у меру. А калі перабярэш, дык яно абсвіньвае цябе...

— Чуеш ты, злыдзень, ці не? — зноў закрычаў Міхайла, грукнуў кулаком па стале.— Нясі яшчэ бутэльку! Не дасі — карчму тваю ўверх нагамі пераверне.

Гаспадар, прыгнуўшыся, пашыбаваў да Чорных, наставіў на іхні стол пляшку, кіўнуў дачцэ (яна стаяла пры дзвярах), каб падала сюды і селядзец ды паклікала Лейбу.

Неўзабаве той, высокі, з густымі чорнымі валасамі, вусамі ды барадой, у чорным касцюме, нейкі сумны, ды таямнічы, нібы дэман, і выйшаў са скрыпкаю (яе, адкраўшы ад сына, прадаў карчмару Гарбацэвіч). Прыклаў скрыпку да плечука, прыціснуў шчакою і пачаў вадзіць па струнах смыком. Па зале паплыла жаласная, нібы жалобны плач, музыка.

Усе гулякі замоўклі, з павагаю і ўзрушанасцю пазіралі на скрыпача-чараўніка: той, заплюшчыўшы

вочы, вадзіў і вадзіў смыком, змушаючы, здавалася б, мёртвае дрэва, струны і смык плакаць, а людскія душы — развярэджвацца, адклікацца сэрцам на найтанчэйшыя музычныя выявы. Нават не верылася, што гаспадароў парабак у гэтыя хвіліны такі боскі, недаступны, а сяляне-слухачы — гэткія чуйныя, падатлівыя да чараў гукаў, мелодыі, што бралі ў палон больш, чым словы.

Сыграўшы, Лейба схіліў галаву. У адказ яму гучна запляскалі. Нават Чарноў прачнуўся, зірнуў на ўсіх няўцямна. З апошняга стала падняўся Сцяпан Чорны. З чаркаю гарэлкі.

— Выпі, братка,— сказаў падышоўшы. Падаў чарку.— Душу ж пераварочваеш. Чыстаю яе робіш.

Той памяркоўна ўсміхнуўся, узяў чарку і выпіў з яе адным махам. Не закусіўшы, зноў зайграў. Ужо не жалобна, але і не зусім весела — неспакойна-адчужана і запытальна.

Сцяпан пастаяў з хвіліну, нібы памыліў вуснамі, а пасля заспяваў. І трапна, не зусім гучна, але прыемна:

Все сверстники мои давно уж на покое,
И младшие давно сошли уж на покой,
Зачем же я один несу ярмо земное,
Забытый каторжник на каторге земной?
Не я ли искупил ценой страданий многих
Все, чем пред промыслом я быть виновным мог?
Иль только для меня своих законов строгих
Не властен отменить злопамятливый бог? [1]

Алесь шчыра запляскаў у ладкі. І за музыку, і за песню. Не вельмі хочучы, запляскалі Чорнаму і ўсе астатнія за яго сталом: ён, Чорны, нібы ўзвысіўся ў гэтую хвіліну над імі, што не мелі такога музычнага і песеннага дару.

Падхапіўся са свайго месца Чарноў; хістаючыся, пайшоў да скрыпача і спевака.

---

[1] Верш П. Вяземскага.

— Дзякую,— патрос кожнаму руку. Пакорпаўся ў кішэнях, мусіць, шукаючы грошай. Не знайшоўшы, махнуў рукою, абхапіў у абдымкі спачатку Сцяпана, пасля — скрыпача і кожнага пацалаваў у шчаку. Выціраючы пад вачыма слёзы, вярнуўся да свайго стала.

Расчулены скрыпач не іграў. Чакаў, хто што папросіць сыграць. Канечне, за плату. Але ніхто не паспеў нічога папрасіць: у залу ўбег расхрыстаны Лядзяш, трымаючы ў руках фуражку. Быў спалатнелы, аж белы. Запыніўся каля стала, дзе сядзеў Алесь, зірнуў на старога Нямкевіча і на старасту, Дзямідовіча.

— Уйміце сваіх галаварэзаў! — загадаў. Гнеўна, строга.— Яны там усіх перарэжуць ці пераб'юць...— Шлёму, які нібы з-пад зямлі паўстаў побач, таксама загадаў: — Гарэлкі! Фужэр!

І бацька, і Дзямідовіч сумеліся: адчулі, што на танцах завяліся біцца іхнія сыны. Можа, па-маладому і не саступілі недзе адно аднаму, можа, і ўспыхнуў сыр-бор з-за дзяўчыны. Бадай, на кожны вялікдзень хлопцы — і не толькі хлопцы,— падпіўшы, б'юцца, кулакамі дабіваюцца сваёй праўды.

Бацька і Дзямідовіч, а за імі астатнія пакорпаліся ў кішэнях суконных чорных фрэнчаў, дасталі капейкі (плату за гарэлку і за музыку), паклалі на стол і пайшлі з карчмы.

— Панове,— выбег ім наперад гаспадар,— пасядзіце яшчэ, выпіце, паслухайце музыку, паспявайце... Усё абыдзецца добра. Маладыя ж пеўнікі любяць падзяўбціся... Спусцяць дурную кроў — супакояцца...

Але мужчыны не паслухалі яго, усе гуртам падаліся, відаць, на вечарынку, каб уціхамірыць задзіракаў.

Тыя, што засталіся, сядзелі позна. Дзяжко і Гар-

буковіч упіліся; Чарноў, аблакаціўшыся на стол, зноў заснуў; Лядзяш, дадаўшы да фужэра яшчэ колькі чарак гарэлкі, як кажуць, акасеў і пачаў прыдзірацца да ўсіх. Чапляўся, надышоўшы, да Алеся (да яго падсеў Сцяпан Супраневіч), а пасля прыліп да Чорных, папікаючы іх за бязбожнасць. Слова за слова — і схапіліся загрудкі. Лядзяш і Міхайла. Відаць было: яны аднагодкі, але вёрткі, жылісты Чорны натаўчэ суперніка-таўстуна.

Сцяпан і Алесь кінуліся развесці запальчывых крыкуноў; бачачы, што могуць набіць уплывовага Ледзяша, а таксама памалаціць вокны, сталы ды лаўкі, гаспадар пачаў выправаджваць позніх гуляк дадому.

— Пане Дзяжко, пане Гарбуковіч,— пачаў ён упрошваць то аднаго, то другога,— будзіце пана Чарнова і вядзіце яго ў цёплую і мяккую пасцельку! Пане Аляксандра, пане Сцяпан, памажыце зайсці да свайго дому пану Ледзяшу.

— Ты што, вырыванец? — пачуўшы гэта, Лядзяш схапіў карчмара за камізэльку.— Ты за каго мяне лічыш? За п'яніцу?! — Рвануў безабароннага гаспадара за камізэльку, аж запырскалі з яе гузікі.— Не смей, нехрысць! Я афіцэр! Салдат яго вялікасці, Айчыны! Што захачу, тое і зраблю!

— Што вы, пане,— залепятаў той, не вырываючыся, а паслухмяна вытрымліваючы ўсе здзекі.— Хіба ж я слоўца кепскае сказаў на вас? Хіба не паважаю? Я хачу, каб пане Аляксандра і пане Сцяпан пайшлі разам з вамі, каб вас ніхто не зачапіў, каб вы здаровенькія і цэленькія былі, яшчэ многа паслужылі на карысць...

Лядзяш прыхінуў яго да сябе, пяўцямна пазіраючы таму ў бегатлівыя вочы, а пасля, мусіць, зразумеў, што яму толькі што сказалі, задаволіўся.

— Ладна! — адштурхнуў ад сябе ахвяру.— Ты —

жулік, але патрэбны чалавек. Нясі гарэлку. За свой кошт.

Алесь міргнуў гаспадару: не трэба больш нікому даваць пітва, бачыце, якія ўсе ап'янелыя. Той адказаў яму таксама падміргваннем: лепш даць, чым пашкадаваць. Не дасі — пераверпуць усё тут дагары нагамі, дасі — вып'юць, зусім ап'янеюць і стануць болей рахманыя, бязвольныя.

Сапраўды, пазней і Лядзяш, і Чорныя пацішэлі. Сцяпан павалок дадому братоў, а Алесю прыйшлося клапаціцца пра ненавіснага Ледзяша (Дзяжко, Гарбуковіч, каб не весці Ледзяша, неўзабаве шмыгнулі з карчмы).

Лядзяш, ацяжэлы, лічы, віснуў на Алесевым плячы і, як кажуць, ганяў гусей — хістаўся ў бакі, гроб нагамі зямлю, падаў. Каб кінуў яго, дык і не падняўся б, заснуў тут жа на двары.

Ішлі паблізу цёмных ужо платоў, часта абапіраючыся на іх. Адпачывалі з хвіліну, а пасля Алесь вёў Ледзяша далей. Усё бліжэй да Засценка.

— Куды ты мяне цягнеш? — нібы бараніўся, нібы бурчэў бязвольны «ісцінны абаронца веры, цара і Айчыны».— Ці не да Шуры? Ці не ўтапіць? — Спатыкаўся, падаў, і Алесь з цяжкасцю зноў ставіў яго на ногі, вёў.— Чаму не, Ледзяша можна ўжо і ўтапіць... Ледзяша, ісціннага патрыёта, можна праганяць як сабаку са службы, заганяць у гэты глухі кут... Але не, Лядзяш не прападзе. Ён дакажа, падатрэ ўсім нос... Мемуары...— Прамовіў, ледзь не ўсхліпнуў.— Нідзе, ні ў Вільні, ні ў Пецярбурзе, не бяруць... Як і мае праекты дзяржаўнай перабудовы... Не трэба ім. Ёсць, бачыце, большыя розумы, патрыёты, чым Лядзяш... Адпісачкі ўсякія з насмешачкамі мне даюць. Насмяюцца! На сваю галаву!

Лядзяш то тупаў, то бег нібы не сваімі нагамі, бубніў і бубніў і, мусіць, зусім не цяміў, хто і куды

яго цяпер вядзе. Алесь жа цярпліва слухаў гэтыя п'яныя нараканні, д'яблаву споведзь, сам сабе не верачы ў тое, што чуе. Няўжо чалавек не адчувае, што займаецца лухтою?

— Убачаць! Ацэняць хутка Ледзяша! — не сціхаў той.— Калі прачытаюць маю цыдулку пра казнакрада Сяргеенку, пра п'яніцу айца Феадора, пра гультая Дзяжко і доўбню Гарбуковіча, фанабэрыстага хвалько Петухова ды зламысніка Нямкевіча... Калі даведаюцца, што я пачаў хадзіць па вёсках і збіраць старыя кнігі, рукапісы, дакументы. Прыстрашу — аддаюць. Аддадуць — палю ўсё ўпотай... Накідаю без памяці, гісторыі... Каб былі ніхто! Хай жывуць, каб толькі даваць мяса, малако, жыта, бульбу, лён, садавіну і гародніну, рыбу, лес... З'едзена, выпіта — і ўсё забыта...

«Божа! — жахнуўся Алесь.— Ці не ўтапіць мне сапраўды злыдня? Ці трэба ратаваць яго?»

— Я ўсё перайначу...— спавядаўся Лядзяш.— Даб'юся, каб Янкавіны назвалі якімі Глупікамі, Налібакі — Сабачым Сялом, Дзераўную — Балотам, Рудню — Жабракамі... З'ем гэтую школку, не дапушчу заразы... Бачыце, чаго захацеў! Не! Лядзяш зробіць сваё... Убачаць! Ацэняць! Самому цару-бацьку напішу, калі не ўбачаць і не ацэняць! Цар зразумее, узнагародзіць свайго вернага салдата... Дарує за тое, за што са службы прагналі... Бо выкупіў віну... Цалкам выкупіў... Вернаю службаю!

Лядзяш пагаманіў яшчэ крыху, пакуль меў нейкія сілы. Пасля пачаў толькі мармытаць, зусім ацяжэў, што Алесь выбіўся з моцы, пакуль давалок яго дадому.

Іх сустрэла гаспадыня — невысокая, ціхая, інтэлігентная, састарэлая без пары бабулька. Яна, як відаць было, спаць яшчэ не клалася, чакала мужа-гуляку. У вялікіх яе вачах быў застылы сум, маркота.

Гаспадыня завойкала, застагнала, памагла, лічы, занесці абвялага мужа ў спальню, скінуць шынель і разуць. Лядзяш як сноп кульнуўся на ложак, падкурчыўшы ногі. Зірнуўшы на яго жоўтыя ступакі, старэчыя маршчыны, Алесь не адчуў болей злосці, а толькі шкадаванне. Пажылы чалавек, але па сваёй дурноце шкодзіць і сабе, і людзям.

— Дзякую, Алеська,— праводзячы яго на двор, сказала гаспадыня.— Выбачайце. За клопаты, за... Я ведаю: мой стары псаваў і псуе вам кроў. Я колькі разоў гаварыла: куды ты і чаго лезеш? Маеш пенсію — жыві як чалавек, не грызіся з людзьмі, не знамысьнічай. Не слухае. Убіў сабе нешта ў галаву і пасвойму ўсё робіць... А ён жа з простай, лічы, сям'і. Бацька яго быў вайсковы лекар, добры, спагадны чалавек. І ён, гаспадар мой, змоладу быў, здаецца, неблагі. А потым, як стаў афіцэр, як падмянілі яго. Колькі я пагаравала, Алеська, за ім! Піў, гуляў, біўся... Прагналі са службы — думала: ну, адумаецца чалавек, па-людску жыць пачне. Не. Яшчэ болей здурнеў... Самі ж ведаеце, як выслужыцца хоча... Зненавідзелі ўсе. З-за яго на людзі выйсці не магу... Няма сілы людзям у вочы зірнуць...— Усхліпнула.— Іншы раз, няхай гасподзь даруе, прашу смерці... Ці яму, ці мне... Выбачайце, кажу, Алеська. На вечным судзе за ўсё адкажа... За вас таксама... За тое, што вам, можа, і жытачку сапсаваў...

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### 1

Пасля вялікадня пачало цяплець. Павышэла, пачысцела неба, памацнеў вецер-скразняк, выдзімаючы холад і наганяючы цяпло. Каб хоць адна

парная ноч — пырснула б ужо зелянота. На зямлі, на дрэвах.

На трэці дзень вялікадня, увечар, Алесь сабраў дзяцей у Собалішыну хату (Казлоў якраз падаўся да сваіх сяброў у Івянец нібы святкаваць вялікдзень, а на самай справе пабыць па сходцы). Праўда, прыйшло толькі палову тых дзяцей, каго ён клікаў.

Цяпер вось яны сядзелі на лавах. Усе са стрыжанымі пажніцамі валасамі, з «паласатымі» галовамі.

Неўзабаве на двары пачуўся тупат. Алесь зірнуў у акно: ішоў дзяк-псаломшчык, Дземідовіч. Не хітры, не вельмі паганы, але надакучлівы чалавек.

«Сам ідзе? Айцец Феадор падаслаў?»

Алесь сустрэў нечаканага госця пры парозе, падаў руку. Той зняў шапку, са здзіўленнем зірнуў на ўсіх. Быў падпіты. Калі б не ўзяў чарку, дык, відаць, не асмеліўся б тут паказацца. Алесь запрасіў садзіцца на сваё месца — на крэсла каля стала.

Дзеці прымоўклі: не вельмі ладзілі з дзякам. Той заўсёды вёў з імі вайну. То за папоўскі сад, то за паводзіны ў царкве.

— Дык сабралася, як мышэй! — пахітаў галавою Дземідовіч.— А казалі, ніхто не пойдзе ў гэтую школу!

— Прыйшлі, як бачыце,— усміхнуўся Алесь.— Думаю, пазней і яшчэ болей прыйдзе...— А пасля, каб крыху падлагодзіцца, каб не насцярожваць госця, папрасіў:— Можа, пане Дземідовіч, скажаце што, як кажуць, на дарогу дзецям?

— Магу,— згадзіўся ўсцешаны госць.— Але толькі хрысціянскую казань.

— Калі ласка.

Госць устаў, прыгладзіў далонню русявыя валасы.

— Ну вот, вучаніке,— прамовіў напышліва.— Іванавіч хоча навучыць вас...— Запнуўся, падумаў і нечакана выпаліў ні з таго ні з сяго:— Але ж вы дурныя, як цапэ!..

Усе моўчкі паўгіналі галовы. Можа, былі ўжо і не радыя, што прыйшлі сюды — пачне зараз Дземідовіч саромець ды папікаць. Алесь адчуў вялікую пагрозу ад такой дзякавай «педагогікі», але маўчаў. Абы не ўгнявіць таго, абы той не паплявузгаў абычаго папу. Хай пагугніць ды сыходзіць.

— Пагляджу вот, якія вы кемныя,— ажывіўся дзяк.— Загадаю вам загадку. Слухайце. Што такое: корч выкінуў, а яму панёс з сабою?

Усе маўчалі.

— Цапэ! Цапэ! — паківаў галавою «педагог».— Тады яшчэ дам задачку,— пацёр далонь аб далонь.— Вот. Нёс дзядзька за плячыма ў мяху капусту, у адной руцэ вёў казу, у другой — ваўка. Падышоў да рэчкі. Трэба пераправіцца на лодцы на той бок. А як пераправіцца? У лодку ж можна сесці толькі самому і яшчэ нешта толькі адно ўзяць. Каго?

— Казу,— падаў голас Язэп Чорны.

— Дурань! Як і ўсе Чорныя! — абсек яго Дземідовіч.— Перавязе дзядзька казу — воўк капусты есці не будзе,— падняў уверх закарэлы здаўна палец, прыплюшчыў шэрае вока.— Вернецца дзядзька, што цяпер возьме? Забярэ капусту — каза з'есць яе, забярэ ваўка, кіне яго і паедзе па капусту — воўк з'есць казу... Ну...— пастукаў пальцам у скроні.— Хто адкажа? У каго галава не дурная?

Усе маўчалі. І Ясік, Алесеў пляменнік, і пляменнікі Грыгарцэвічы ды Касцюкевічы, і Мішуковы дзеці, і пляменнік братавай Ядзі — адзін хлопчык, хто прыйшоў сюды з Засценка. Астатнія шляхцюкі-засцянкоўцы дзяцей сюды не пусцілі.

— Ну што, нябесныя олухі? — ззяў вачыма дзяк.— Ніхто не цяміць?

— Я,— нясмела падняў руку Кастусь Чорны.— Дзядзька завязе казу, потым прыедзе па капусту. Капусту кіне, забярэ з сабою казу. Казу пакіне, забярэ ваўка. Воўк жа капусту не з'есць. А тады вернецца і забярэ казу...

— Ах, каб на цябе халера! — здзівіўся дзяк, пляснуў рукамі.— Расшалопіў! І хто, Іванавіч! — па-змоўніцку павярнуўся, зірнуў на Алеся.— Чорны! Галадранец!

— Тады задача па арыфметыцы,— падняў зноў брудны палец угору дзяк.— Вот. Слухайце. Тры рублі рублямі, рубель пятакамі, рубель і пятак, тры капейкі па капейцы і капейка так... Дык колькі гэта будзе?

Усе маўчалі.

Дзяк зноў паўтарыў сваю задачку.

— Баранэ! — пасля махнуў рукою.— Не вучыць іх трэба, Іванавіч, а дакладаць да работы. Праўду кажа Шлёма, мужыцкія галовы дурныя, не для навукі!

— Няпраўда, Пятровіч,— мякка не згадзіўся з ім Алесь.— І нашы, мужыцкія галовы здатныя для навукі. Калі будуць умовы, калі будуць добра вучыцца, дык і з іх,— кіўнуў на дзяцей,— могуць вялікія людзі быць. Вучоныя, пісьменнікі, артысты, генералы.

— З Чорных — генералы?! — ухмыльнуўся дзяк.— З іх парабкі ўсе. Ды канакрады, бандзіты! Толькі адзін іхні дзед,— кіўнуў на Язэпа і Кастуся, Сцяпанавых унукаў,— не дурны. Але звар'яцеў ад чытання. Бо што ні кажэце, мужыцкія галовы не могуць мець вялікі розум...

— А я, Пятровіч, думаю іначай.

— Ну што ж,— усміхнуўся дзяк.— Можа, вы,

Іванавіч, і зробіце з іх вучаных. Вучыце. Калі маеце ахвоту. А вы, баранэ,— павярнуўся да дзяцей,— шануйце бога і слова божае. Бо вам найперш з боскаю навукаю трэба жыць. Вот хто ты? — тыцнуў у грудзіну Язэпа.

— Язэп,— адказаў той.

— Дурань. Ты раб божы!

Алесь зморшчыўся. Пакутліва слухаў, як дзяк пачаў расказваць пра стварэнне свету, пра Адама і Еву, іхні грэх, пра патоп, пра Хрыста, яго пакуты, смерць і ўваскрэсанне. Пасля папырскаў святою вадою — з вярбы — хату, дзяцей, пералсагнаўся і пасунуўся з хаты. Але паклікаў з сабою і Алеся.

— Іванавіч,— ліслІва загаварыў у сенцах,— вот, лічы, на праступнасць пайшоў дзеля вас! Бацьку вашага і вас самога паважаючы. Айцец Феадор казаў сёння: не ідзі, не благаслаўляй, бо праступна. А я пайшоў. Дык...

Алесь дастаў з кішэні рубель. Даў.

— Благадаран,— усміхнуўся.— Чалавек не быдла: гарэлкі на ваду не мяняе...— сагнуўся ў паклоне дзяк. Шмыгнуў з сянец.

— Цяпер ён, Алеська, будзе драць і драць з вас,— сказала з печы гаспадыня, старая Собаліха, калі ён вярнуўся ў хату.— З ім звязацца — як у бруд выкачацца...

Алесь, усміхнуўшыся, падышоў да дзяцей. Стаў пасярод пакоя.

— Дзеці,— прамовіў з хваляваннем,— не апускайце галовы. Няхай вы і забыліся шмат, чаму вучыліся, няхай вы яшчэ шмат чаго і не ведаеце, але верце: і вы здольныя да навукі. Няпраўда, што нехта іншы, «панскі», здольны, а вы, сялянскія дзеці, не! Няпраўда! Здольныя і мы да навукі ды культуры. Вы гэта рана ці позна самі ўбачыце. З месяц мы павучымся на некалькі гадзін вечарам, а потым, як

пойдзе работа ў полі, трэба будзе пасвіць каровы, будзем вучыцца і ў полі ці на пашы. Я не буду ні крычаць на вас, ні біць, ні ставіць у кут ці на калені. Не. Я хачу, каб вы хадзілі сюды толькі па сваёй волі, каб вы самі ведалі: вы павінны ведаць і родную мову, культуру. Вот вам алоўкі, папера,— расшпіліў сумку і раздаў, што меў з ранейшых запасаў, што дала яму Кацярына.— А вучыцца мы будзем не па званку, а па вашым жаданні. Я не буду ні ставіць ацэнкі, ні строга правяраць дамашняе заданне. Але спачатку я вось што хачу ў вас запытаць. Як вы думаеце, хто мы з вамі? Як народ?

Усе маўчалі.

— Не бойцеся,— усміхнуўся Алесь.— Гаварыце тое, што думаеце. Я не буду злавацца, караць.

— Мы рускія,— сказаў Язэп Чорны.

— Не,— запярэчыў Ядзін пляменнік.— Мы не рускія. Мы палякі...

— Не,— яму запярэчыў Язэп.— Мы не палякі. Мы ж не гаворым, як у Налібаках гаворыць пан Невядомскі.

— Але ж мы не гаворым, як тут гаворыць Сяргеенка і айцец Феадор,— стаяў на сваім Ядзін пляменнік.

— Ну-ну, дзеці, думайце,— усміхнуўся Алесь.— На пачатку ўжо дваццатага стагоддзя трэба ведаць, хто ты...

— Я ведаю, хто мы...— падняў руку Кастусь Чорны.

— Ну, хто ж мы? — усміхнуўся Алесь.

— Мы ліцвіны.

— Не, Кастусёк.

— Мы тутэйшыя...

— Але ж, Кастусёк, нідзе на свеце няма такой нацыі: тутэйшыя. Ёсць рускія, палякі, англічане, французы, немцы, украінцы, літоўцы, грузіны... Так,

мы тутэйшыя. Але не без роду і племені. Ты, Кастусёк, беларус...

Усміхнуўся. Пазіраў на дзяцей: яны пазіралі на яго са здзіўленнем. Ім жа ніхто дагэтуль пра гэта не гаварыў. Калі хто і ўспамінаў гэтае слова, дык з сорамам ці з насмешкаю.

— Я, дзеці, хачу навучыць вас пісаць і чытаць так, як гаварылі вашы дзяды, як гавораць цяпер вашы бацькі і як гаворыце вы,— сказаў Алесь.— Пазней вы даведаецеся, што я нічога не выдумляю... Навучыўшыся пісаць і чытаць, шмат чаго даведаўшыся, вы перастанеце саромецца, адчуеце сябе людзьмі сярод людзей. Хоць гэта не значыць, што пасля вы можаце ўжо і не паважаць іншых. Не. Мы павінны заўсёды ўсіх паважаць, і тады ўсе нас будуць шанаваць... Некалі вялікі рускі пісьменнік Аляксандр Сяргеевіч Пушкін пісаў: «Два чувства дивно близки нам — в них обретает сердце пищу — любовь к родному пепелищу, любовь к отеческим гробам». Мы павінны прыслухацца да гэтых слоў і шанаваць памяць — гісторыю, продкаў, культуру. Чалавек без памяці — не чалавек, толькі нейкая паўразумная істота. Я раскажу вам на нашых уроках пра далёкіх прашчураў — крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, пра гісторыю, культуру, пра гарады. А гарады тут старажытныя: Полацк з 862 года, Віцебск з 974, Тураў з 980, Брэст з 1019, Мінск і Орша з 1067, Пінск з 1097, Гродна з 1128, Гомель з 1142... На жаль, сёння часамі не толькі дзеці, але і сталыя адукаваныя дзядзькі ўсё да драбніц ведаюць пра нейкі далёкі астравок у акіяне, а вось пра гарады, што я назваў, не знаюць амаль нічога... Здзіўляемся, не верым, калі нехта скажа, што, да слова, Полацкае княства з канца дзевятага стагоддзя было ў складзе Кіеўскай Русі, на пачатку адзінаццатага адасобілася, стала моцнаю суполкаю дзяр-

жаўнага тыпу. Праз Полацк ішоў славуты шлях «з варагаў у грэкі», сам Полацк гандляваў з краінамі Усходу, з Паўднёвай Руссю, з блізкімі суседзямі, меў магутныя фінансы, узброеныя сілы, высокаразвітую архітэктуру, жывапіс, прыкладное мастацтва, пісьменнасць...

Алесь зірнуў на дзяцей: тыя слухалі ўважліва, лічы, не міргаючы, пазіралі на яго. Яму хацелася заплакаць: здаецца, дзеці думалі, што ён расказвае ім не пра блізкі Полацк, а пра далёкі Марс.

— У 1044—1161 гадах быў пабудаваны славуты Полацкі Сафійскі сабор, у 1152—1161 — Полацкая Спаса-Ефрасіньеўская царква, мясцовы таленавіты майстра Лазар Богша для асветніцы Ефрасінні Полацкай зрабіў славуты крыж — шэдэўр тагачаснага мастацтва. У 14 стагоддзі — дарэчы, як кажуць, у гэтую эпоху заявілася назва Белая Русь у дачыненні да нашых зямель — створана вядомае Друцкае Евангелле. Продкі мелі высокі ўзровень яшчэ ў ліцейнай справе, апрацоўцы металаў, ганчарным і сталярным рамястве, вырабе адзення, у ювелірным мастацтве, мастацкай разьбе па касці, камені і дрэве... Калі яны па пэўных прычынах у 13—14 стагоддзях злучыліся з Літвою, дык займелі ў новай дзяржаве, Вялікім княстве Літоўскім, добрую павагу. Першая сталіца яе была ў Навагародку, тагачасная беларуская мова стала афіцыйнай у Вялікім княстве Літоўскім [1], на ёй вялося справаводства і судаводства, пісаліся статуты, граматы, сеймавыя пастановы, летапісы і хронікі, а таксама мастацкія і царкоўныя творы... [2] Былі вялікія бібліятэкі ў По-

---

[1] «Руская» (беларуская) мова абвешчана афіцыйнай мовай дзяржавы артыкулам Статута Вялікага княства Літоўскага 1588. БелСЭ. Кароткая энцыклапедыя, 1978, т. 1, с. 168.

[2] Там жа, с. 171.

лацку, Слуцку, Супраслі, Гродне, Навагародку, Брэсце, выдатнае выяўленчае мастацтва, свецкія хоры і капэлы, аркестры... І як узлёт, як лебядзіная песня культуры таго часу — кнігі палачаніна Францішка Скарыны. Ён першы з усходніх славян у 1517 годзе пачаў кнігадрукаванне, пры гэтым на роднай мове... Пасля былі яшчэ творы Гусоўскага, Полацкага, першы на Беларусі і на Украіне буквар Лаўрэнція Зізанія і яго ж слоўнік роднай мовы, кнігі Стэфана Зізанія, Буднага, Цяпінскага, Собаля... Вялікае княства Літоўскае памагло запыніць нашэсце тэўтонаў і татара-манголаў... Пазней, пасля злучэння Вялікага княства Літоўскага з Польшчай, наша культура пачала занепадаць: у 1696 годзе Рэч Паспалітая забараніла ўжыванне беларускай мовы, і яна, гэтая забарона, на жаль, цягнулася аж да 1905 года... У 1772, 1793 і 1795 гадах нашы землі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі...

Алесь схамянуўся. Адчуў: загаварыўся.

— Яшчэ мы, дзеці, будзем таксама вывучаць рускую мову і літаратуру, сувязі з нашай мовай і літаратурай, гісторыю, геаграфію і закон божы,— дадаў ён пазней.— Можа, яшчэ і тое-сёе з біялогіі?

## 2

У паштовым калідорчыку Алесь пачуў крык. Крычаў паштавік Гарбуковіч.

— Відзіш: я заняг! — чуўся яго піскдявы голас.— Не магу жа я аднаўрэменна іспалняць дзве работы!

Алесь зайшоў на пошту. Тут, у невялічкай прыёмнай, дзе былі толькі прыхінуты да пабеленай мелам сцяны стол, дзве старыя табурэткі, стаяла засцянкоўка Алена Драздовіч. Трымала ў руцэ клуначак — здаецца, з паўдзесятка яек у старой хустцы.

Гарбуковіч, згледзеўшы гэткага непажаданага госця, як ён, Алесь, угнуў галаву — тырчала толькі з-за перагародкі пасма яго рыжых валасоў.

Алесь павітаўся.

Гарбуковіч, не падымаючы галавы, буркнуў; Алена, невысокая, у доўгай шэрай спадніцы і кажушку, непрыгожая кабеціна, зірнула на яго нібы з нейкаю надзеяю: у яе глыбокіх зялёных вачах блiснула пільнасць.

— Вы маеце нейкі клопат, Алена? — запытаў Алесь.

Гарбуковіч маўчаў; Алена нібы засаромелася за свой клуначак і не ведала, што сказаць.

— У пана Гарбуковіча шмат работы,— пасля прамовіла як вінаватая,— а я хацела папрасіць, каб яны пісьмо напісалі...

— Вінцуку? — запытаў Алесь.— У Амерыку?

Алена кіўнула галавою, зачырванелася: і не старая яшчэ, і шляхцянка, а ні чытаць, ні пісаць не ўмее. Саромелася вось, прасіла начальніка пошты, каб ён напісаў, а той не спяшаўся, наганяў сабе цану.

— Здаецца, ваш жа свёкар умее пісаць,— прамовіў Алесь.

— Умее...— Алена хавала вочы.— Але ж ён зусім аслеп. Ды я хацела ад сябе напісаць...

— Ну што ж,— сказаў Алесь.— Давайце я напішу вам ліст. Калі верыце мне, канечне.

З яе мужам, Вінцуком, ён калісьці сябраваў, а вось яе мала ведаў: яна прыйшла ў Драздовічаву сям'ю з чужой вёскі.

— Чаму мне не верыць вам, пане Аляксандра...— спахапілася яна, каб крый божа не падумалі пра яе кепскага.

Гарбуковіч моўчкі паклаў на перагародку паперу, канверт, буркнуў пра плату.

Алесь узяў складзеную надвая сінюю, у лінейку, паперыну — у левым кутку яе была намалявана нейкая царква,— запрасіў Алену садзіцца, сам сеў, дастаў самапіску. Крышку засаромеўся: самапіска была падаравана яму на днях Кацярынаю. Дык, можа, яе, гэтую самапіску, і ведалі. Надта Гарбуковіч — пляткар і даносчык. Расказвае, нагаворвае пра цябе некаму, сустрэнецца з табою, разгаварыся — дык ён тут жа будзе пляткарыць табе пра іншага.

— Ну, з чаго пачнем? — усміхнуўся Алесь.

— Як і ўсе людзі...— адказала Алена, стараючыся на-ранейшаму не пазіраць у вочы. Сарамлівая, баязлівая была. Лічы, ніколі і не выходзіла на людзі.— Што жывыя і здаровыя, чаго і яму зычым...

— А можа, я папросту буду пісаць? — запытаў, а пасля, бачачы яе здзіўленне, патлумачыў:— Ну так, як гавораць тут, у Янкавінах?

— Па мне, пане Аляксандра, пішыце як хочаце. Абы ён там прачытаў. Бо і ён жа не большы грамацей, як я...

— Не прапусціт цэнзура,— падаў тонкі, як у дзяўчынкі, голас Гарбуковіч.— Можа вярнуцца пісьмо абратна.

— Мы ж не будзем пісаць пра ваенныя тайны...— сказаў Алесь і пачаў пісаць.

— Напішыце, пане Аляксандра, што дзеці, Янка і Франак, здаровыя, дзякуй богу, добра мне памагаюць. А вот Ірка наша хварэе і хварэе. Бацька зусім слабы... Кажа, можа, і памру ўжо сёлета, не дачакаюся ні вясны, ні сына свайго, Вінцука... Ляжыць усю зіму. І яшчэ кажа, што чырвоныя літары на небе бачыў. На вайну...— і ўжо далей нібы прасіла пісаць мужу, нібы скардзілася яму, Алесю.— Як свёкар быў здаровы, дужы, дык мне было лягчэй. Заступаўся за мяне. А цяпер жа, як злёг, не гаспа-

дарыць, дык яны...— заплюскала-заплюскала вейкамі, а пасля і ўсхліпнула, на худыя рукі яе закапалі буйныя слёзы.— Дык яны, Марыся і Ясь, здзекуюцца і з мяне, і з дзяцей. Яны ж дзяцей сваіх не маюць, дык і маіх не любяць. Не ступі, не засмейся, не...— канцом вузялка выцерла слёзы на шчацэ.— Надта ж ужо Марыся грызе мяне. А цяпер свёкру есці даваць не хоча. Раней, як прыйшла ў хату, дык падлагоджвалася: тата ды тата ўсё казала, хочучы, каб на іх больш зямлі адпісаў, а цяпер хоча, каб скарэй памёр... А калі памрэ свёкар, дык жыцця мне ўжо не будзе. Буду парабчанкаю ў іх...

— Невясёлы ліст пойдзе аж у Амерыку...— амаль усё напісаўшы, што гаварыла Алена, пацмокаў Алесь.

— Я ж не выдумляю,— як апраўдалася Алена.— Каб Вінцук быў дома, дык такога не было б. Ні Ясь, ні Марыся перад ім гэтак не шалелі б. Дык і трэба напісаць, хай кідае тыя заработкі ды едзе дадому. Неяк жыць будзем...

«Каб быў дома твой Вінцук, дык пекла было б у майго дзядзькі...» — падумаў Алесь: Вінцук і хлопцам і мужчынам падходжваў да жонкі яго стрыечнага брата, Галены.

Напісаў ліст. Прачытаў.

— Ну вось аж у Амерыку, за акіян, няхай ляціць наша слова! — усміхнуўся Алесь.— А вы, Алена, не маркоцьцеся ўжо гэтак. Нешта ж будзе. Не прападзіцё.

— Дзякую, пане Аляксандра,— пачала кланяцца яму Алена,— вот вам за фатыгу,— падала клуначак,—вазьміце. І няхай вам бог дасць здароўечка за ваша добрае сэрца.

— Не трэба. Што вы! — збянтэжыўся Алесь.— Нясіце яйкі дзецям.

Яна яшчэ доўга ўпрошвала ўзяць плату, але ён

адмовіўся наадрэз. Пайшла дадому, здаецца, аж павесялелая. Што расказала мужу сваё гора, што ёй паспачувалі.

— О, цёмны народ! — азваўся, як толькі яна выйшла, Гарбуковіч.— І не старая яшчэ, пад сорак недзе, а ні чытаць, ні пісаць не ўмее...

— Гэта не смех, а бяда наша! — адказаў Алесь. Стрымана. Яны з Гарбуковічам, як і з Дзяжко, былі непрыяцелі. Ды дагэтуль яны як маглі тапілі яго. Падаў лісты. У Вільню. Васілю і ў газету «Наша ніва», Васілевічу.— Заказнымі, калі ласка.

Гарбуковіч, не пазіраючы яму ў вочы, узяў лісты. Зірнуў і тут жа вярнуў назад, паклаў на прылавак.

— Не паложана,— прамовіў. Як і дагэтуль, як кажуць, корчыў з сябе інтэлігента, уплывовага чалавека. Пан — здорам боты вымазаў і скурку з'еў.

— Чаму? — здзівіўся Алесь.

— Паштовыя адпраўленні афармляюцца толькі афіцыйна,— адказаў.— А вы парушаеце інструкцыю.

— І вялікае вельмі злачынства раблю?

Гарбуковіч зразумеў здзек, змаўчаў.

— Няўжо ты такі чэрствы? — запытаў Алесь.— Ці так баіцёся кары?

— Не. Я не люблю тое, што любіце вы,— раптоўна шчыра прызнаўся той.— Я саромлюся, што мой бацька — мужык, што я з вёскі. Мужыкі — кара́ўцы. І ўсё наша каравае, грубае...

— Вось якія мы! Самаеды! Самаадрачэнцы!

— А вы? — ехідна ўсміхнуўся Гарбуковіч.— Вы рады, што вы з вёскі? Заўсёды і ўсюды хваліцеся, што з мужыкоў? У горадзе? У лаўцы? У тэатры? У пажонднай кампаніі?

Алесь сумеўся: было, што і ён саромеўся і ў Нясвіжы, і ў Вільні, што ён з вёскі, з сялян, як кажа

гэты рыжы, не хацеў, каб надта бачылі, хто ён, ды пасміхоўваліся.

— Вось...— пазлараднічаў, нібы ўзрадаваўся той.— І вы не такі ўжо непахісны вясковец! Бо і ў вас недзе ўсё ж б'ецца жылка: мужыкі мы, не раўня некаму... І дарэмна вы адчынілі школку! Якая з яе карысць? Каму яна трэба? Яна толькі прынясе шкоду. Найперш вам. Калі хочаце, дык магу сказаць па сакрэце: Лядзяш напісаў ужо на вас у губерню данос...

«Ён, агідзіна, не толькі мае лісты ўпотай чытае, але і сваіх сяброў...» — з прыкрасцю падумаў Алесь. Не ведаў, што і сказаць. Не стрываў, абразіў са злосці і крыўды.

— Вырадак ты, пустазелле! — апаліў яшчэ, мусіць, і агнёвым позіркам.— Але перасцерагаю: я сам магу ставіцца да сябе, да сваіх пачуццяў і да сваёй душы з іроніяю, але разаб'ю рыла таму, хто ўздумае кпіць з мяне, з вёскі, з сялян. Я ўсякія хітрыя прыёмы ведаю. Са мною жарты кепскія. І забіць магу. Як муху! — гаварыў і бачыў, што Гарбуковіч аж палатнее ад страху.— Я ўжо траіх сёлета ў Стоўбцах і ў Вільні са свету звёў. Укакошыў — і рука не здрыганулася!

Гарбуковіч адступіўся, не мог, здаецца, ад перапалоху вымавіць і слова. Алесь павярнуўся і пайшоў з пошты. Не ўтрываў, усміхнуўся: сам не разумеў, нашто так гарэзнічаў і палохаў гэтага Гарбуковіча. Каб прыйшлося біцца ці барукацца, дык наўрад ці адолеў бы гэтага рыжага боўдзілу! Ды яго, Алеся, часта некалі і тут, у Янкавінах, і ў Нясвіжы дзеці і хлопцы білі, а ён не тое што ніколі нікога не біў, але нікому па-добраму і здачы не даў.

## 3

— Забудзься ты пра гэтага рыжага пса,— сказала Кацярына, тулячыся да яго плечука.— Ён не толькі даносчык, пляткар, баязлівец, але і самы сапраўдны дурань. Вось бачыш: ён збаяўся ўзяць ад цябе ліст, а ў Налібаках не збаяліся, адправілі. Дык і хопіць пра яго. Хопіць і пра тваю школу. Ясна: ты ва ўсіх цяпер тут на языку. Людзі цябе хваляць, паважаюць! Але ты не ганарыся, не ўпівайся славаю. Ты думай пра мяне, гавары мне добрыя словы...

Ляжалі ў пасцелі. У Собалішынай хаце. Уночы. Цяпер ужо стомленыя пасля кахання. І ўжо не саромеліся адно аднаго. Прывыклі за гэтыя дні — пасля Алесевага вяртання з Вільні. Кацярына заплаціла Собалісе — і за хату, і за маўчанне,— і яны ўжо кожны вечар спатыкаліся тут.

— Чуеш? — тулілася, лашчылася, як кацяня, Кацярына.— Кажы мне добрыя словы.

— А хіба яно ўсё не зразумела? — адгаворваўся ён.— Ці я табе ўжо не казаў?

— Што?

— Пра тое, што ў мяне на сэрцы да цябе...

— Мала, што відаць...— капрызіла.— Ты яшчэ і кажы. Ты можаш маўчаць са сваімі паперамі, з кнігамі, а са мною не маўчы. Скажы, як ты мяне кахаеш...

— Я не мастак на высакапарныя словы.

— Будзь ім! — загадвала.— Каб ты раней быў мастак і на словы, і на смеласць, дык я была б толькі твая...— узнялася і ў цемені знайшла яго вусны, пацалавала. Не саромелася, што ў яе неакрытыя шыя, грудзі.— Чуеш, дарагі?

— Чую.

— «Чую! Чую!» — перакрывіла.— Ці кахаеш?

— Канечне ж.

— Кажы як трэба! — зноў загадала.— Кахаеш?

— Крыху,— пажартаваў.

— А як крыху? — блазнавала.— Крыху «крыху» ці шмат «крыху»?

— Шмат.

— Ну, кажы! Кажы мне харошыя словы! Пра сваё каханне...

— А хіба трэба пра гэта шмат гаварыць? Пра тое, што на душы? Ці не абясцэняцца тады гэтыя словы?

— Не, не абясцэняцца! Яны заўсёды жаданыя для кабеты...— уздыхнула. Здаецца, гарэзна.— Эх вы, бульбянікі! Усё вы робіце моўчкі! І арацё, сееце, косіце, і кабету берацё, кахаеце... Самае вялікае, што можаце, дык гэта памармытаць сабе пад нос вясёлы матыў ды па галаве пагладзіць.

— Не важна, што ўсё робім моўчкі ці мармычучы сабе пад нос,— усміхнуўся Алесь,— важна, каб добра рабілі ўсё!

— Робіце, праўда, усё няблага...

Яна казала так, а ён думаў: усё ж яны розныя людзі. Ён спакойны, ураўнаважаны, а яна страсная, бойкая. Ёй, можа, трэба не такі, як ён, цяльпук. Ёй трэба чалавек такі, як і яна. Але яму добра ад яе пачуцця і жадання, што яна абрушыла ў апошні час на яго з вялікаю сілаю.

За гэты час, зрэшты, яны абое змяніліся. Кацярына пахудзела, займела сінявятыя кругі пад вачыма, а самі вочы паглыбелі, яшчэ пабольшалі, свяціліся цяплом і ласкаю. І ён выветраў, аж пацямнеў, і з яго вачэй, як бачыў часамі з люстэрка, пазірала лагоднасць, дабрыня. І ён надзіва спакайнеў, мудрэў і ў той жа час быў часамі бяздумны, як дзіця, усё больш трапляючы ў Кацярынін палон.

У вёсцы ўжо, канечне, ведалі пра іхняе каханне.

Недарэмна ж у апошнія дні вымазвалі Сяргеенкавы вароты глінаю. Нейкі невядомы строгі суддзя не пашкадаваў нават і яго, Алеся. Ды ён не крыўдзіўся. Справядлівасць ёсць справядлівасць.

Яе словы, пацалункі зноў узбудзілі Алеся. Зноў яны запалымнелі, гарэлі ў агні.

— Сыночка хачу, сыночка...— рыбінаю білася ў яго абдымках Кацярына.— Такога ж, як ты! Яшчэ аднаго Алеську! Чуеш? Чуеш, Алеська?

Ён лагоднае, задаволенае мармытаў у адказ.

— Я спалю, вып'ю цябе! — шаптала.— Да канца. Ты будзеш толькі мой. Ты не зірнеш ні на адну жанчыну. Ты забудзешся пра кнігі і свае паперы. Пра сваю школу. Барацьбу. Бо я табе пакажу тое, што ніхто табе такога не пакажа. Бо я ўся твая. Усё аддаю табе. Чуеш?

— Чую...— шаптаў, адчуваючы, што сапраўды забірае яго ўсяго.

Пасля, калі, знясіленыя, ляжалі побач, Кацярына зноў загаварыла. Але ўжо іначай — не парывіста, натхнёна, а неяк сцішана і трывожна.

— Ты не баішся мяне такой, Алеська?

— Не.

— І ты будзеш кахаць мяне такую?

— Буду.

— Не надакучу я табе?

— Не.

— Можа, і надакучу, Алеська,— прашаптала.— Мы ўсё ж розныя людзі. Я летуценніца, але баба. Эгаістка. І страшэнная. Я хачу мець мужа, сям'ю. Мае ідэалы не такія высокія і вялікія, як твае. Ты не толькі зямны чалавек. Ты... Табе бог даў адчуць місію: ты між небам і роднаю вёскаю. Я разумею гэта, спачуваю, але... Які я тут табе памочнік?! Амаль ніякі. Адно, што я магу рабіць, дык гэта не замінаць табе... Але ж не магу і не замінаць. Бо люб-

лю цябе. Бо хачу, каб ты быў толькі мой! Я ведаю: табе са мною будзе цяжка... А пра яго не думай,— прамовіла, маючы на ўвазе свайго мужа,— я яго не кахаю. Што б ні здарылася, жыць з ім я не буду. Мы зусім чужыя.

## 4

Зося і маці растрасалі гной у гародчыку. На грады.

За апошнія дні рэзка пацяплела. Пала парнасць, зямля задыхала жыватворна — адскочыла маладая зялёненькая крапіва каля платоў, пырснулі пупышкі на дрэвах, на яблынях сям-там пупышкі ўжо далікатна заружавеліся, збіраючыся неўзабаве распусціцца ў белыя кветкі.

— Сёння дзіўны мне сон прысніўся,— трасучы сахаром гной, сказала Зося.

— Які? — запытала маці. Яны размаўлялі пажаночаму даверліва. Як маці і сталая ўжо дачка.

— Сню: сяджу каля нашага кухоннага акна. Пазіраю ў двор. А там светла-светла. І вот прыляцелі два галубы. Селі на наш плот і вуркочуць. Вур-вур-вур... Аж, калі прыслухалася, дык яны гавораць пачалавечаму. Як людзі. Адзін пазірае на мяне і кажа: «А гэта во Зося...» Другі кажа: «Гавары цішэй, а то яна пачуе». І далей, пра што яны гаварылі, я ўжо не чула...

— Дык я табе пэўне магу сказаць, дзеўка, пра што яны гаварылі...— усміхнулася маці.

Зося разагнулася, зірнула на маці. Тая, ужо босая, як і яна, дачка, трэсла гной рукамі і не то ўсміхалася, не то моршчылася ад перажывання.

— Адкуль вы ведаеце, мама, тое? — здзівілася Зося. Яна шчыра верыла: маці разгадвае сны так, як клубок нітак разматвае.

— А што ж тут не ведаць! — разагнулася і маці, рукавом шэрай сукенкі выцерла лоб.— Галубэ — на сватэ...

— На якія сватэ?

— На самыя сапраўдныя,— адказала маці.— Не сёння, дык заўтра чакай свата, маладога!

Кроў шугнула да Зосінага твару: будуць сваты! Да яе! Канечне ж, прыйдзе Янка! Не раз ужо казаў: прыйду пасля вялікадня ў сваты з дзядзькам — хрышчоным бацькам!

— Радая нябось? — як пасароміла маці.— Як каліна зачырванелася, загарэлася!

— От кажаце вы, мама,— схамянулася, зноў узялася сахаром растрасаць загадзя наношаны сюды копчык гною і торфу.— Як я толькі пра гэта і думаю!

— Каб не думала, дык не сасніла б пра гэта...

— Можа, гэта і не на сватэ. Можа, госці якія будуць.

— На сватэ,— запэўніла маці.— І я некалі сніла галубоў. Першы раз сасніла — пасватаўся Гарбацэвіч. Як другі раз — дык хлопец з Налібак. А як трэці раз сасніла, дык пасватаўся твой бацька. А хто, па-твойму, прыйдзе да цябе?

— Ніхто не прыйдзе,— паспешна адказала яна.— Ды я і не хачу яшчэ замуж.

— Няма яшчэ дзяўчыны на свеце, каб не хацела замуж...— уздыхнула маці.— Гэта потым каюцца, што пайшлі... Я вот, дзеўка, не ведаю: казаць табе ці не?

Зося насцярожылася. Адчула: нешта маці сапраўды ведае і недагаворвае. Бо і залішне сёння ўважлівая, гаварлівая.

— Калі спадзяешся, дачка, што прыйдзе ў сваты Янка Нямкевіч, дык надта не спадзявайся...

Кроў адхлынула ад Зосінага твару: чаму не прый-

дзе? Няўжо яны, бацькі, супраць гэтакага добрага хлопца? Моўчкі трэсла гной і пакутавала — ад падазрэнняў і нядобрай здагадкі.

— Думала не казаць, але скажу...— загаварыла зноў маці.— Гэта была я сёння ў Гліпіпчы, бачыла Галену. Дык ёй сказала свякроў, а свекрыві сказала Ядзя, што яны свайго Янку будуць сватаць да Гарбацэвічавай Анелькі...

Пацямнела ў Зосіных вачах. Няўжо Янка пойдзе да той качкі ў сваты? Няўжо як сляпое каця́ня будзе слухацца бацькі? Няўжо кіне яе, Зосю? Няўжо не кахае, падманвае?

— Анелька ж — багатая нявеста,— сказала маці.— Дзесяцін сем ці восем прынясе ў пасаг. У нашай вёсцы багацейшай за яе і няма.

Лютая злосць заварушылася ў Зосіным сэрцы на Анельку. Не файная, не стройная, але вось багатая, дык пра яе больш думаюць, чым пра іншых. Дык і ёй іменна можа быць шчасце.

— Да Анелькі, чула я, і Дземідовіч хоча свайго Уладака пасватаць...— чуючы, што дачка маўчыць, відаць, пакутуе, сказала маці. Паразважыла са сваёй мудрасцю: — Анелька — неблагая дзяўчына. Працавітая, паслухмяная. Праўда, брыдкая. Ні стану, ні твару, ні хады. Але багатая. А калі багатая, дык... і першая нявеста на ўсю вёску! Так здавён, спакон вякоў, было.

«Што ж гэта? — хацелася запытаць не толькі ў маці, але і ва ўсяго свету Зосі. Але яна маўчала. Толькі крычала нема яе душа.— Няўжо зямля, грошы даражэй людзям за сэрца, за душу?»

Маці, відаць, цяпер гэтаксама было не зусім лёгка. З-за дачкі-красуні. Як-ніяк, а вось могуць абмінуць іх, даць ганьбу: хадзіў-хадзіў хлопец да іхняй дачкі, тлуміў ёй галаву, а як у сваты — дык да іншай. Што ж скажуць людзі? Будуць смяяцца з іх.

Каб сватаўся Янка да Зосі, дык думалі б, аддаваць ці не аддаваць за яго дачку, а калі не сватаецца, абмінае, дык гэта — смех і плёткі, абгаворы для ўсёй вёскі.

Яна ж, Зося, думала іначай: яна, маладая, яшчэ не магла так думаць.

«Не! — супакойвала яна сама сябе.— Не пойдзе Янка да той качкі ў сваты. Ён жа сам казаў: хачу хадзіць толькі з табою. І ходзіць кожны дзень, і гэтак хораша лашчыць, добрыя словы гаворыць... Ён жа на вялікдзень...— успомніла тое, засаромелася.— А можа, няхай бы я не ўпарцілася? Тады б... Але не... Да шлюбу не...»

— Чуе, дачка, маё сэрца: паляціш хутка з дому! — не то супакойвала яе, не то шкадавала маці.— Гадавала-гадавала цябе, а дастанешся некаму. Мужу, свекрыві. А я з самымі меншымі застануся, зноў уся бабская работа будзе толькі на маіх руках...

Зося не адказала. Новыя думкі і трывогі апанавалі яе.

Сваты прыехалі праз колькі дзён. У суботу.

Пад самы вечар Зося падмяла двор, вуліцу каля свайго дома, пасыпала жоўтым пясочкам і вярнулася ў хату, каб прыбрацца і пайсці на Сяло. Цяпер, пацяплелаю парою, вёска ўжо доўга не спала. Моладзь збіралася на лаўцы паблізу хаты Сцяпана Чорнага, спявала, жартавала, не давала нікому рана заснуць. Ды і старыя людзі пачалі ўжо даўжэй затрымлівацца на дварэ — корпацца ў градах, познім часам сядзець на прызбах.

Зося пераапранулася, як пачула вясёлы грук колаў па бруку.

Шыбнула да акна: хто едзе? Здзівілася: цемнаваты, а на самай справе, відаць, рыжы конь спыніў-

ся каля іхняга плота, за ўжо зацемненым бэзавым кустом. На калёсах — два мужчыны.

— Мама, да нас людзі,— азірнуўшыся, перасцерагла маці. Тая яшчэ тапталася каля печы.

«Няўжо сваякі з Дзераўной? — падумала.— Але чаму так позна?»

Маці, выціраючы фартухом рукі, прытупала да акна. Стала за ёю.

— Сватэ, дачка,— прыклала маці рукі да грудзей.— Дуга вунь увабраная.

Зося анямела: сваты! І з нечаканага — з-пад Засценка — боку. І праўда, у колцы на дузе — зялёная хваёвая галінка і белаватая папяровая кветка. Хто ж гэта?

— Дзежка! — здзівілася маці.— З Дземідовічам!

Дзяжко — у чорным галіфэ, у хромавых ботах і ў капелюшы — прывязваў лейцы да шула, а яго сват, Дземідовіч, гэтаксама ў галіфэ і ў ботах, у брылёўцы, нешта гаварыў яму і смяяўся. Вось Дземідовіч узяў з-пад дзяружкі на калёсах клуначак і пайшоў сюды, у двор.

— А я во...— замітусілася маці.— Як стаяла ля печы, дык гэтак і стаю. Брудная... І бацька ж недзе дзеўся...

«І чаго гэты Дзежка прыпёрся? — здзівілася Зося.— Ён жа не хадзіў да мяне, ніколі нічога не гаварыў такога. Толькі зыркаў неяк спадылба, калі прыходзіла чаго ў валасць».

— Мама, я ўцякаю,— сказала.— Схаваюся!

— Куды ты? — як спалохалася маці, папраўляючы на галаве хустку.— А што ж я адна?..

Але Зося, ужо не слухаючы яе, шыбнула ў сенцы. У сенцах хутчэй ката ўскочыла па драбіне наверх, на гарышча. І, не задумваючыся, нават усцягнула за сабою наверх драбіну.

Прыклала руку да грудзіны: гэтак білася-трапя-

талася сэрца. Не на жарт спалохалася. Бач, Дзежка на яе замахнуўся! Лысы, фанабэрысты, п'яніца! Што ён важны чалавек, валасны пісар, дык гэта ёй не ішло і не ехала.

У хаце госці сядзелі досыць доўга. Але колькі Зося ні прыціскала вуха долу, да зляжалай кастрыцы, як ні прыслухоўвалася, нічога не пачула. Толькі ўчула, калі рыпнулі дзверы і нехта выйшаў з хаты.

— Зося! — пачуўся матчын голас.— Дзе ты там? Ідзі! Сама скажы што!

Маўчала. Як мыш пад венікам.

Потым з аблёгкаю пачула: пасунуліся з хаты і нечаканыя госці. Моўчкі.

— Капызяцца яшчэ! — ужо на двары сказаў Дземідовіч.— Красуня! Каралевіча чакаюць!

— Мужычка! Ніхто яе, апроч мужыкоў, не возьме! — адказаў Дзяжко.

Калі пачула, як ад'ехаліся, апусціла драбіну, злезла. Вярнулася ў хату.

Маці сядзела пры стале. Узбуджаная, паружавелая.

— Туляешся! — прамовіла з незадавальненнем.— Ты, маці, адказвай!

— А што вы сказалі? — падсела да яе Зося.

— Што ты аж прагнеш замуж...

— Ну, мама, скажэце...— папрасіла.

— Ну што я магла сказаць? Што ты маладая яшчэ, што рана яшчэ табе замуж. Малады, Дзежка, маўчаў, а Дземідовіч хваліў яго, казаў: лепшага жаніха і не знойдзеце. Вучаны, пры службе добрай. Паняю за ім будзеш.

— Дзякую, мамачка,— цмокнула яе ў шчаку Зося.— Добра, што выправадзілі! Калі ён пан, дык няхай і едзе да якой пані!

— І ў Налібокі, і ў Пруды, і ў Дзераўную гойсаў

па багатых дзяўчатах, але нідзе во гэткага пана не прынялі,— сказала маці.— Але будзе ўжо заўтра языкоў. Усе ж будуць гаварыць пра гэтыя сватэ. Ды такой бяды... Дурны ж дык дурны гэты індык! Сядзіць, надзьмуўся, як не лопне, а тут скок яму на калені з печы наш кот. Дык Дзежка як скрывіцца, як марсяне з калень ката: «Прэч, псіна, з майго суконнага галіфэ, бо як дам носцыкам хромавага бота, дык і мужыцкія лапы задзярэш!»

«Янка сказаў: ніколі не пайду ў сваты да Анелькі,— падумала Зося, не зважаючы на Дзежкавы дурноты.— І я яму сёння скажу: і я толькі твая...»

## 5

Красавік з кожным днём цяплеў. Пастаялі дзве-тры парныя ночы — і наваколлі — зямля, дрэвы — пырснулі далікатнаю зелянотаю. Сярод гэтай зеляноты сям-там пышнеліся белыя вэлюмы: цвілі яблыні.

Янкавінцы і радаваліся, што пасля вялікадня гэтак дружна ды смела пайшлася вясна, і непакоіліся: калі, крый божа, мароз, дык не будзе сёлета садавіны.

Гарбацэвічы, усе ўзрушаныя, былі на двары. Сёння яны разам з суседзямі, Нямкевічамі, меліся, як казалі ў Янкавінах, запасваць статак. Змовіліся і нанялі разам пастушка — унука Сцяпана Чорнага, Кастуся.

Першы ў хлеў пайшоў ён сам, гаспадар. Са свянцонаю вярбою. Адчыняў брамкі ў загарадках і выганяў быдла — каровы, авечкі. Лёгка махаў вярбою, мармытаў малітву. На двары, калі быдла стоўпілася, кінуў цераз яго загадзя прыгатаваныя тры каменьчыкі, каб статак за ўсю пашу ваўкі не зачапілі, а пасля выцягнуў са страхі колькі саломін і абнёс

быдла — каб тое не адбівалася ад свайго хлява і двара.

Потым, махаючы вярбою, пагнаў быдла на выган, куды меўся прыгнаць сваю карову і авечак сусед. Неўзабаве паказаўся і той. І гэтаксама гнаў быдла з вярбою ў руках. Як і за ім, Гарбацэвічам, так і за суседам ішлі ўзбуджаныя жонка, дачка, нявестка з дзецьмі.

Каровы сышліся, пачалі хадзіць адна каля адной, крывячыся і настаўляючы рогі. Малодшая чорна-белая Гарбацэвічава адразу ж саступіла суседавай чырвонай карове, саступіла і серадольшая, а вось старэйшая, шэра-белая Зязюля, счапілася. І яны, упёршыся рагамі ды лбамі, пачалі дужацца. Суседава сапхнула. Значыць, стала ў гэтай чарадзе глаўнісяю.

Каб тыя гады, дык Гарбацэвіч зазлаваў бы, што яго быдла зноў саступіла суседавай карове, а сёлета пераджыў гэта досыць спакойна: сёлета яны памірыліся з суседам на вялікдзень і, падпіўшы, нават цалаваліся, дамовіліся, што звядуць разам сваіх дзяцей. Ды во нешта толькі сусед не прысылае сватоў! Няўжо брыкаецца Янка?

Яны, гаспадары, сышліся, паназіралі, як ходзяць адна каля адной каровы, абнюхваюцца і яшчэ не нагінаюць галоў да зямлі, бо, лічы, яшчэ няма той травы.

— Хай паходзяць, пратрасуцца. Увечар смачней з'ядуць,— сказаў Нямкевіч.— А табе, пастушок, каб не спаў раніцай, не травіў чужога поля, не губляў быдла, на гасцінец,— і даў паўрубля, а пасля гаспадыня падала яму клуначак, дзе, відаць, былі хлеб, сала, яйкі.

— Я ўвечар ужо дам,— сказаў Гарбацэвіч, чакаючы, што Ясь зараз, можа, загаворыць пра сваты. Але той не загаварыў. Дык і разышліся без яснасці.

— Не кажа ж нічога во...— ужо дома Гарбацэвіч паскардзіўся Вікці на суседаву стрыманасць.

— А ты што хочаш? Каб адразу ўсё!..

— Адразу! Адразу! — перакрывіў.— Зараз араць, сеяць будзе, дык хіба да сватоў і да вяселля мне будзе?!

Анелька, прыгнечаная, маўчала. Яна ведала: Янка ходзіць да Зосі, на яе не зважае. Але старыя хочуць прымусам злучыць іх. Яна-то з вялікай радасцю пайшла б за Янку, бо ён вельмі падабаўся ёй, яна нават употай кахала яго, але цяпер гэтай бацькоўскай волі была не зусім радая. Ведала: Янка яе не кахае. Маўчаў і Віця. Але той, наадварот, усцешваўся. Ён хацеў бы, каб Янку звялі з яго сястрою, каб Зося засталася вольнаю. Адно, што яго насцярожыла і не давала спакою, гэта тое, што да Зосі пачалі ўжо і іншыя ездзіць у сваты.

— Вы, тата, можа, першага Віцю жанілі б,— сказала Анелька, каб паспачуваць брату і заадно аддаліць ад сябе трывожныя падзеі бацькавай задумы.— Ён жа і старэйшы, ён жа і яшчэ адны рукі ў хату прывядзе, зямлі прынясе вам...

— А можа, і праўда, Пётрык, яна кажа,— седзячы каля стала, прамовіла Вікця.— Анелька ж яшчэ зусім маладая. Ды няведама яшчэ, ці захоча яе Янка ўзяць...

— Захоча! Не захоча! — незалюбіў ён.— Што бацька скажа, тое і будзе! А сама ж чула, што Ясь сказаў: параднімся... Хлопца я калі захачу жаню, а вот дзеўку калі хочаш замуж не аддасі. Ды ў сваёй вёсцы, ды ў добрую сям'ю... Каб і ёй, і каб мне добра было. Аддадзім замуж яе, тады жэнім і яго.

Вікця замаўчала, ведала: спрачацца з мужам — ваду ў ступе таўчы. Не перавернеш на сваё.

— А я не хачу той прудской...— нечакана смела сказаў Віця, міргаючы-міргаючы вейкамі.

— А каго ж ты хочаш? — сеўшы ля стала, запытаў бацька.— Купчыху? Гарадскую? Царэўну?

Віця не адказаў.

— Ён Зосю Мішукову хоча,— падказала дачка.

— Зосю-Барбосю! — перакрывіў Гарбацэвіч.— А можа, Верку Чорную? Яшчэ ж багацейшая!

— Ён не з-за багацця яе хоча ўзяць...

— А з-за чаго ж? — рэзка запытаў Гарбацэвіч у дачкі.

Анелька не ведала, як сказаць тое, пра што думала.

— Ды не кіпі-сквірчы ты, як скварка на патэльні,— ціха папрасіла жонка.— Па-людску хоць раз з дзецьмі пагавары.

— Ні пра якую Зосю і думаць не трэба! — закрычаў Гарбацэвіч.— Я ж сказаў: у Прудах добрую дзяўчыну нагледзеў. Можа, дзесяцін і сем зямлі прынясе ў пасаг.

— Павешуся, але той не вазьму! — асмялеў Віця.

— Вешайся! — не збаяўся бацька.— Будзе па-мойму, а не па-вашаму! — і пачаў як разважаць сам з сабою.— Ён Зосю возьме! Дзве дзесяціны! Бачыце, ён не думае, каб дабро сабраць, гаспадаром быць. Ён хоча толькі на бацькавым дабры раскашавацца! Яму зямля не трэба! Яму краса трэба! Які толк з тваёй красы? Яна сёння ест, заўтра яе няма. А вот зямля была і будзе. Дык і трэба думаць найперш пра яе. Каб і табе было, каб і тваім дзецям яшчэ болей засталося. Бо іначай жа ў трэцім ці ў чацвёртым калене ты сваю радню ў парабкі завядзеш... Ды хіба тая, прудская дзеўка благая? Крывая? Сляпая? Не. Дзеўка якраз круглая, гладкая, залаты зуб у роце... Пра яе,— зірнуў на Анельку,— няма чаго гаварыць. Яна дзяўчына. Яе трэба аддаць замуж. І без добрага пасагу не аддасі. А вот ты ж,— зірнуў на

Віцю,— хлопец. За цябе ўжо трэба і добра ўзяць... Наша некалі возьмеш у свае рукі — дык мусіш яшчэ багацейшы стаць, чым я... А калі ты так не думаеш, дык які тады з цябе гаспадар?!

Маўчалі. Усе.

— Не ўмееце вы па-гаспадарску думаць, дык буду я, пакуль жывы, гаспадаром у хаце! — сказаў цвёрда.— Што скажу, тое і будзе. Памру — тады як хочаце жывіце. Хоць і чорту лысаму аддайце маё дабро, што я па кропельцы ўвесь свой век збіраў, а самі ідзіце ў парабкі...

Зноў усе маўчалі. Гнятліва. Ён, хоць і задушыў усіхнюю волю, аднак адчуваў: няма радасці. Не разумеюць жа яго. Як ён вораг ім — і жонцы, і дзецям. Не вытрываў, пацягнуўся на двор. Падумаў: трэба было б перасыпаць частакол у гародчыку. Але цяпер жа няможна: яшчэ не сеялі. Кажуць жа, зерне ўваб'ецца ў зямлю і не выб'ецца і дажджу ўсё лета не будзе. Праклянуць тады людзі. Як летась клялі Чорных. Казалі, што з-за іх недзе, можа, і з месяц стаяла летась сухмень.

Гарбацэвіч не гаварыў ні з кім з родных да самага вечара. І да яго не загаворвалі. Дзеці гаманілі толькі з маці, хадзілі каля яе, як кураняты каля квактухі.

Ён пыніў работу ў хляве і ў гумне моўчкі, думаў, разважаў сам з сабою. Увечар, калі павячэралі, сеў пры лучыне правіць конскую збрую. Бо ні хвіліны не мог быць без работы.

Вікця тапталася каля печы, дзеці шмыгнулі з хаты. На гулянку.

Але хвілін праз колькі дачка вярнулася. Нейкая натапыраная, напалоханая.

— Мама,— запынілася ў парозе, сашчапіла рукі.— У Віці абора... Ён пайшоў у гумно...

Ён раптоўна падняў галаву, зірнуў са здзіўлен-

нем, нічога не разумеючы. Вікця аж адкінулася спіною назад, трымаючы ў руках міску, і раптоўна пачала бялець-бялець. Хутка прыклала правую далонь пад грудзі.

— Чаго ты сядзіш? — выдыхнула, здаецца, з нянавісцю пазіраючы на яго.— Бяжы! У гумно!

Цяпер і ён зразумеў: сукін сын, задумаў нешта няладнае. Падхапіўся, кінуў на табурэтку вобраць і памчаўся з хаты на двор. Там ужо было цёмна.

Дзверы ў гумно былі зашчэпленыя. Але не знадворку — не на замок, а з сярэдзіны.

— Віця! — крыкнуў.— Ты тут?

Следам прыбеглі і жонка з дачкою.

— Ну, што? — запытала Вікця.

— Во, замкнёныя...

— Віцечка! — ускрыкнула Вікця.— Ты тут, сынок?

Маўчанне.

— Скажы ж хоць слоўца, дзіцятка!

— Тут,— пачуўся слабы сынаў голас.

— А чаго ж ты там?

— Адчыняй і выходзь! — не чакаючы, што адкажа сын, закрычаў Гарбацэвіч.— Смаркач! Няўдаліца! Ёлупень!

— Не выйду! — адказаў сын.— Калі будзеце сватаць да прудской, павешуся! Не хачу ні жаніцца, ні жыць!

— А божачка! — ускрыкнула Вікця.— Што ж ты надумаў, сынок?

— Я яму зараз дам пятлю! — заскрыгатаў зубамі Гарбацэвіч.— Ён яшчэ палохаць бацькоў будзе! Вешацца! Ах ты, шыбенік! — турзаў за клямку, а пасля дрыготкімі рукамі дастаў з кішэні складанчык, адчыніў і прасунуў лязо між палавінкамі дзвярэй, каб скінуць крук. Але той, цяжкі, было нялёгка прыпадняць вузенькім лязом.

— Сынок! Міленькі! Родненькі! — галасіла Віцця.— Адчыні! Выйдзі! Што ж ты, дурненькі, надумаў?! Што ж ты набраў у галаву?

— Хай тата будзе толькі адзін багаты! — пачуўся адчайны сынаў голас.— А я не хачу быць багаты! Я вешаюся! Ма...— і раптоўна замычэў. Заціх.

Гарбацэвіч напружыўся, скінуў крук. Той ляснуў аб вушак. Разяхліў дзверы. І ў цемені ўбачыў: ківаюцца над праходам ногі. Павесіўся! Самагубец!

— О! — толькі віснула Віцця і аб'ехала долу. Залямантавала дачка.

Ён жа, гаспадар, абхапіў ногі, прытрымаў і зусім ужо дрыготкімі пальцамі павёў па адзенні, дабраўся да шыі: і праўда, на ёй абора. Трэба разрэзаць яе! Але як? Ён невысокага росту, не дастае вышэй сынавай галавы. Але няма чаго чакаць. Пачаў чыкаць нажом абору за Віцевым каркам. Можа, тыкаў лязом і ў шыю. Але не зважаў. Абы разрэзаць абору.

Чыкаў па аборы, здаецца, цэлую вечнасць. Урэшце разрэзаў, але не паспеў утрымаць сынава цела. Яно рухнула ўніз. На сячкарню. Не здагадаўся стары дурань, каб стаў на яе, дык і дастаў да аборы.

З сячкарні Віця скаціўся долу. Гарбацэвіч нагнуўся да яго, стукнуўся лобам аб кола. Абмацаў чамусьці сынаву шыю — на ёй пятлі не было. Але сын, здаецца, нежывы. Што рабіць? Трэба вынесці яго на двор. На свежае паветра. Ой, які дурны хлопец! Ой, што набраў у галаву! І хто б падумаў на яго такое!

Паспрабаваў падняць. Цяжкі. Не па яго ўжо сіле. Узяў пад пахі, павярнуў галавою да дзвярэй і пацягнуў. Там, за імі, ляжала Віцця, галасіла Анелька. Бог ведае да каго кідацца: ці да сына, ці да жонкі?

— Бяжы па ваду! — загадаў дачцэ, адчуваючы нечакана дзіўную разважлівасць.

Пабегла. І калі ён выцягнуў сына з гумна, паклаў каля маці, Анелька вярнулася. З вядром. Ён зачэрпнуў з вядра прыгаршчы вады, лінуў на сына, а пасля — на жонку.

Першая апамяталася Вікця. Прыўзнялася, убачыла сына, што ляжаў нерухома побач, падпаўзла да яго, загаласіла:

— Сынок! Родненькі! Міленькі!

— Ды ціха ты! — асек Гарбацэвіч.— Нарабіла крыку на ўсю вёску! Панеслі ў хату.

Ён пад пахі, а яны, кабеты, за ногі панеслі Віцю ў дом. Паклалі ў кухні на лаве.

Віця быў з заплюшчанымі вачыма, белы-белы, як снег. Ні крывінкі на ім. Нават на шыі, што была падрапана складанчыкам, няма крыві.

Няўжо памёр? Няўжо смерць у хаце? І такая гвалтоўная! З сорамам, з ганьбаю на ўсю воласць!

— З'еў, з'еў дзіця, ірад! — залямантавала Вікця, становячыся на калені каля сына.— За ненажэрнасць сваю загубіў! Сынок! Ці жывы ты? Адплюшч вочкі, Віцечка! Скажы слоўца! Нашто ж ты так пакараў нас?

Гарбацэвіч чуў недзе: топельнікам ці вісельнікам на хуткую часіну трэба падымаць і апускаць рукі, а гэтаксама старацца ўдыхнуць ім у рот са свайго рота. Дык ён пачаў падымаць і апускаць сынавы рукі — а яны ўжо былі, здаецца, халодныя, як лёд,— а пасля нагнуўся, разамкнуў губы, але, не могучы разамкнуць зубы, задыхаў.

— З'еў, з'еў без пары дзіця! — не пераставала дакараць яго Вікця. Але ён маўчаў, не зважаў, стараўся даць Віцю нейкі ратунак.

І вось, здаецца, Віця ўздыхнуў, варухнуў галавою. Гарбацэвіч запыніўся: пабегла-пабегла па сынавым белым твары жывая хваля, варухнулася ніжняя пашчэнка.

— Жывы! — радасна прашаптаў.

Вікця і Анелька перасталі лямантаваць, узняліся.

— Жывенькі! Сыночак! — усклікнула Вікця, пяшчотна гладзіла Віцеў высокі лоб, белыя ўпалыя шчокі, шыю. Вось цяпер на параненай шыі паказалася кроў, што пачала набухаць у буйныя кроплі.

— Нашто, нашто адратавалі? — калі апамятаўся, прашаптаў Віця.— Сяроўна, сяроўна павешуся!

— Сыночак, што ты кажаш! Гэта ж такі грэх! — цалавала яго Вікця.— Няма ж большага граху і сораму, калі хто вешаецца! Усім жа нам ганьба на ўсё жыццё! Вялікая пляма на наш род!

— Сяроўна, сяроўна...— шаптаў аслабелы, нямоглы Віця.— Скрыпку забралі, Шлёму прадалі... Душу маю забралі, прадалі... Цяпер... увесь свет ад мяне забіраюць, прадаюць... Сяроўна...

— Не кажы так,— прасіла Вікця.— Праўся, станавіся на ногі, і мы ўсе разам упросім бацьку, каб ён не сватаў цябе да той прудской, каб дазволіў сватацца да той, да якой ты сам хочаш. Няхай прападзе, згіне тая зямля, няхай сінім агнём гарадь тыя грошы! Хіба ж яны даражэйшыя за жыццё? Хіба бацька — звер? Вораг? Непрыяцель свайму дзіцяці? Хіба ў яго каменнае сэрца, як у таго Гаспадара-каменя? Хіба пагоніць цябе з-за багацця без часу, без пары ў магілу?!

— О, даў бог сына! — калі небяспека Віцевай гвалтоўнай смерці прайшла, уздыхнуў Гарбацэвіч, сеў на табурэцік, адчуваючы, як у самога баліць, нібы вырываючыся з грудзей, сэрца, трасуцца рукі.— Няма ў мяне сына! Хіба гэта сын?! Хіба бацькава апора?

— Маўчы, Пётрык,— не баючыся, зноў асекла яго жонка.— Што ты пляцеш? Што гневіш бога? Дзякаваў бы, што дзіця жывое засталося! Век жыву, а не ведаю: што ты за чалавек?! Дзіця рукі на

сябе пакладае, а ты... Адна сляза нагарнулася і тая назад вярнулася! Цахкае і цахкае, як воўк зубамі!

...Нямкевічы гэтыя дні таксама сварыліся. У іх хаце каторы ўжо дзень панавала непрыязь. Такога ў іх яшчэ ніколі не было.

— А я кажу: нечага варажыць, калі пад носам ляжыць! — вось і цяпер, седзячы каля стала, стукаў па стале кулаком гаспадар, Ясь.— Падахвоціўся Пётрык парадніцца з намі — дык трэба богу дзякаваць за гэта! Мала-веля сем дзесяцін у пасаг дасць! Гэта ж які кавал! Гэта ж ужо гаспадарка большая за нашу цяперашнюю!

— Не хачу! — адмаўляўся Янка, стоячы ля камінка.— Ні зямлі яго, ні гаспадаркі!

— Бо дурань! — і са злосцю, і з горыччу, што сыны слухаюць яго ўсё менш і менш, не стрываў, крыкнуў бацька.— Самы дурны ёлуп і асталоп! Асёл! Бязмен! — Так раззлаваўся, што аж разгубіўся. Пасля, перамогшы злосць, паскардзіўся, развёўшы рукі: — Гэта ж само шчасце ў рукі ідзе, а ён нос адварочвае. Будзе зямля, будзе сенакос, лес свой, аддзелім, паставім хату — гаспадар будзеш! Чалавек!!! Дык не хоча! Давай яму красуню, хоць і голую! Ён сядзе, будзе любавацца на яе — і ў хаце, у хляве ды ў гумне ў яго ад гэтага любавання ўсяго поўна будзе!

Бацька быў з тых людзей, што любілі і ўмелі думаць, разважаць, абдумваць загадзя кожны свой крок і рабілі ўсё па задуме, ішлі да жаданага спакойна, без мітусні. Бывала, ён нешта значнае рабіў і спехам, па інтуіцыі, па нейкай важнай прычыне, дык тады, не маючы часу, раіўся з усімі, усіх слухаў і часамі, калі з ім не згаджаліся, разгубліваўся, нават крыўдаваў і злаваўся, асцерагаючыся, што яго не разумеюць, што не выйдзе так, як ён думае, будзе горш. Не толькі яму. Але і ўсёй сям'і. Вось і сёння ён быў выбіты з раўнавагі. І яшчэ таму, што адчу-

ваў: што ні кажы, а ўсё ж ён цяпер не зусім мае рацыю, нечага хоча дабіцца гвалтам, супраць сынавай волі, і тое «нешта» калі не злачыннае, дык не зусім прыстойнае, чалавечае.

— Праўду ж, сынок, бацька кажа...— мякка ўставіла сваё слова маці, стоячы каля печы.— Паслухаў бы ты. Так ужо заведзена на свеце: дзеці павінны бацькоў слухаць! Бацькі ж дзецям ліха не зычаць.

— А калі ён ненавідзіць гэтую Анельку! — улезла ў гамонку Кастуся. Яна сядзела на лаве ля акна. Зірнула чамусьці не на бацькоў, а на Алеся, які сядзеў пры стале.— Калі ён любіць Зосю!

— Любіць! Не любіць! — перакрывіў бацька.— Гэтыя бздыкі... гэты сверб... гэтая ўпартасць... Ад маладых гадоў! Ад дурноты!

— Гэта самае дарагое, тата, што мае чалавек...— ціха прамовіў Алесь.— Без гэтага ён тая ж жывёліна... Звялі — развялі... Зноў праз год звялі... Царква асуджае каханне без шлюбу, а народная мудрасць, народныя песні — шлюб без кахання...

— А ты маўчаў бы! — не вытрымаў, напаў і на яго сёння бацька. Здаецца, даўно ўжо хацеў напасці, ды шукаў толькі зачэпку.— Са сваёю навукаю! Са сваімі бздыкамі! З Вільняю! Са школаю сваёю! І са сваёю любасцю...— уздыхнуў, а пасля паказаў пальцам: — Вунь сівыя валасэ на скронях, вучаны-правучаны, а вырабляеш, як і яны...— кіўнуў на малодшых, на Янку і Кастусю.— З замужняю сплёўся... Нашто? Дзяўчат хіба мала? З-за цябе брыдка цяпер на вёску выйсці, людзям у вочы зірнуць! Дзеці дык дзеці ў Нямкевіча! Адно мудрэй выштукоўвае за другое! Во радасць мне на старасць! Во цешыце!

— Вы і Алеся не разумееце, тата...— заступілася Кастуся...

— Што — не разумею?! — выгукнуў бацька, наліваючыся крывёю. Здаецца, ніколі такі злосны не

быў. Нібы шалёная муха ўкусіла яго за вуха.— Што я — дурань? Вы ўсе разумныя, добра ўсё робіце, а я здурэў на старасць? Я смяшу людзей? — падхапіўся, скрывіўся ад болю.— Не-э! Я вас дабру вучу! Успомніце некалі гэта, за локаць сябе ўкусіце...— і выйшаў з хаты, са злосцю ляпнуў дзвярыма. Не вытрывалі, распусціліся нервы і ў яго, спакойнага, разважлівага ды памяркоўнага чалавека. Мусіць, кожны чалавек не можа ўзяць на сэрца, вытрымаць без меры думак, згрызот, бяды і гора, бо сэрца рана ці позна стамляецца, хутчэй і памалей ганяе жыватворную кроў, аслабляе, адбірае ад чалавека моц і трываласць.

## 6

Як і часта бывае, у Янкавіны ўвесну прыйшла смерць. Чалавек хварэў, марнеў, гібеў усю зіму, пазней, у цяпло, акрыяў і, здаецца, стаў на ногі, зноў зачапіўся за жыццё. Аж не. Тут, калі ён расслабіўся, паверыў у сваю моц, смерць падпільнавала яго ў ціхім закутку і гвалтоўна скасіла.

На першы погляд, гэтая смерць не павінна была вельмі ўзрушыць Янкавіны. Памёр не свой, не тутэйшы чалавек, а чужаніца. Дый той пражыў у вёсцы па выпадковай волі лёсу ўсяго некалькі месяцаў. Але гэтая смерць уразіла янкавінцаў: памёр усё ж малады чалавек, яму трэба было яшчэ жыць ды жыць, памёр чалавек шчыры, сумленны і, па-трэцяе, памёр чалавек адзінокі, як той выпадкам ацалелы колас на жніўі. Адышоў ён ціха, непрыкметна. Уночы позна, як расказвала Собаліха, сядзеў за сталом, пісаў, пасля лёг у пасцель, але доўга не спаў. Потым урэшце заснуў, спаў ціха, падняўся пазнавата, выйшаў на двор, памыўся і нечакана паміж васьмю з паловаю і дзевяццю гадзінамі раніцы адчуў

сябе кепска. Прылёг — і не ўстаў. Нават слова не сказаў. Відаць, раптоўна спынілася сэрца. «Лёгкая смерць у чалавека,— гаварылі ў Янкавінах.— Значыць, чалавек быў добры. Душа хутка, лёгка развіталася з целам».

Алеся смерць Казлова выбіла з раўнавагі. Хоць і мала яшчэ ведаў гэтага чалавека, хоць не зусім мог зразумець яго і цалкам згадзіцца з яго думкамі, з яго ідэямі, але меў ужо яго за добрага сябра. Лічыў: Сямён Васілевіч ды Казлоў і Чарноў на цяперашні час тыя людзі, з кім можа пагаварыць па шчырасці, хто заўсёды ўмее памагчы. І вось на табе, не стала гэтага высакароднага чалавека.

Алесь пастараўся, каб пахаваць добрага адзінокага чалавека пачэсна, даць нябожчыку прытулак на янкавінскай зямлі. Ён паклапаціўся, каб людзі (Міхайла і Пятро Чорныя) выкапалі магілу на грудку, каля адзінокай старой сасны — дрэва, што сам вельмі любіў, каб яны памылі нябожчыка і зрабілі яму дамавіну. За ўсё заплаціў свае грошы, бо ўвесь скарб, што застаўся ад Казлова, параіўшыся з івянецкімі знаёмымі, рашыў выслаць у Маскву, нябожчыкавай былой жонцы.

Айцец Феадор адмовіўся прыйсці на пахаванне «бязбожніка», але янкавінцы, не зважаючы на бацюшкаву пагарду, прыйшлі ў Собалішыну хату, развіталіся з Казловым. Старыя пасядзелі пры ім, адпелі, пагаварылі пра яго цяжкі чалавечы лёс, пра яго дабрыню, успамінаючы, калі і каму ён сказаў, парадзіў нешта добрае, маладыя і дзеці сціхана пастаялі ў парозе. Назаўтра амаль уся вёска, апрача службоўцаў, выйшла праводзіць Казлова ў апошні шлях.

Дзень надзіва стаяў пагодны, сонечны. Неба было высокае, блакітнае, ні ветрыку; вакол, на аселіцы, паплавах, узбоч дарогі, што вяла на Пруды,

на дрэвах циатліва лашчыла вочы маладая зелянота.

Казлова везлі на іхнім, Нямкевічавым кані. Алесь, калі сказаў бацьку, каб ён завёз нябожчыка, не адмаўляўся, згадзіўся з аднаго слова.

Казлоў — у сваім навейшым чорным касцюме і ў чорных туфлях, са скрыжаванымі на грудзіне рукамі — ляжаў у дамавіне спакойны. Алесь, як і астатнія, здзіўляўся: з нябожчыкавага твару зніклі пакуты, цень, стомленасць. Твар нават папаўнеў, пакругле́ў, на ім заявіліся спакой, лёгкасць, і ён, твар, з вусікамі ды сівой бародкай, стаў вельмі прыгожы, малады. Раней Казлоў здаваўся нашмат старэйшым, пажылым ужо дзядзькам, а гэта ляжаў яшчэ малады чалавек.

Алесь ішоў з Чарновым услед за івянецкімі калегамі Казлова. І тыя, і Чарноў, што ішоў побач з Алесем, здаецца, раптоўна пастарэлі, былі як старыя дзядзькі. Чарноў і ўчора, і сёння не піў, нібы шкадуючы земляка, нібы раптоўна сам збаяўшыся смерці, але цяпер і ад гэтага, мусіць, быў яшчэ болей спакутаваны. Здаецца, і яго скроні за сённяшнюю ноч пакрыліся серабром.

Алесь пазіраў на спакойны, малады твар Казлова і думаў, што той пажыў вельмі мала, не паспеў зрабіць і дзесятай долі таго, што ведаў, што хацеў ды мог. Яго ідэя была яшчэ высока ў аблоках, і, можа, яна ніколі і не спусціцца на зямлю. Дык як лічыць: жыццё Казлова было ўдалае ці няўдалае? Трэба было яму ісці якраз па гэтай дарозе ці не? Ці ацэняць яго як трэба? Будуць памятаць альбо забудуць? У спісе герояў, што не пашкадавалі свайго жыцця за светлую будучыню, будзе яго імя? Гэты ж Казлоў, не вагаючыся, аддаў усе сілы, пачуцці не для сябе і свайго дабрабыту, а для ўсёй Расіі і яе шматлікіх народаў, для чалавецтва. Ён страціў сваё самае дара-

*«Сёння ў Янкавінах палілі зіму, збіраліся гукаць вясну».*

гое для нечага шчасця. Праўду, канечне, некалі казаў Чарноў: Казлоў — сапраўдны рускі інтэлігент, рэвалюцыянер. Знацца з ім, сябраваць было сапраўднае шчасце. І хто ведае, можа, каб ён жыў, дык яго і Алесевы дарогі неўзабаве і сышліся б. На ўсё жыццё. Бо няможна было не верыць у шчырасць, сумленнасць, высакародныя намеры Казлова, у новую Расію, сапраўдным сынам якой ён быў. Праўда, гэтая, мікалаеўская Расія была і для яго, рускага, неміласэрная.

Няўжо будзе несправядлівасць і Казлоў трапіць у лік «і іншыя»? Ці забылася пра яго нявернaя жонка, забудуцца сябры, Янкавіны, і праз дзесятак гадоў, калі прыйдзе новае пакаленне, стане яго магілка безымяннаю? Хіба мала на свеце гэткіх безымянных магілак?

Падумаў і пра сябе. Ці так ён жыве? Ці тое робіць? Ці не заблытваецца ён часамі ў жыццёвым клубку? Ці не бачыць ніякага выйсця? Колькі яму яшчэ засталося жыць? Як яго будуць хаваць? Будуць шкадаваць людзі ці збудуць з рук як гаротніка, няўдачніка? Ці застанецца ён у памяці людской? Ці трэба будзе калі ўся яго цяперашняя работа? Ці засвеціць каму агеньчык яго душы? Той агеньчык, што гарыць ад пакут!

На магілках — а яны яшчэ былі невялікія, толькі праваслаўныя — Чорныя, Алесь, Чарноў ды іванецкія высыльныя знялі труну з калёс, паставілі яе каля глыбокай панылай ямы. Людзі абступілі яе з усіх бакоў, пазіраючы на малады нябожчыкаў твар. Кабеты заплакалі.

— Божа мой, божа! — выціраючы куточкам чорнай хусткі на шчацэ слёзы, пабедавала Нямкевічыха, Алесева маці.— Адзінокі чалавек! Як палец! Хоць бы адна родная душа была цяпер тут!

— А які паглядны! — сказала Мішучыха.— Жы-

вы быў, дык худы, белы, стары, а гэта такі маладьі, файны! Жыць ды жыць яшчэ трэба было чалавеку!

— Відаць, доля яго такая ўжо...

— Мусіць, лёгка цяпер на душы ў яго...

— Невядома, дзе ўжо тая душа...

— Хай бы прыйшоў хоць Дземідовіч. Як гэта так, каб без усяго царкоўнага хаваць чалавека? З хрысціянаў жа ўсё ж...

— Грамадзяне янкавінцы! — пачуўся ў гэтай гамане голас івянецкага высыльнага, Кіеўскага, невысокага, поўнага чорнавалосага чалавека.— Мы аддадзім зараз на вечны супакой у вашай зямлі пудоўнага чалавека. Ён з новых, перадавых людзей, што прысвяцілі сваё жыццё светлай будучыні людзей усяго свету, Расіі, за вашы лепшыя новыя дні, грамадзяне янкавінцы! Гэта быў адукаваны, шчыры, сумленны чалавек, стойкі баец, што змагаўся з несправядлівасцю, умеў цярпець усе пакуты і нягоды, што, на жаль, наша вялікая Айчына шчодра адпускае сваім лепшым сынам, жорстка праследуе і карае...

— Спыніце антыдзяржаўныя прамовы! — недзе ззаду пачуўся голас Ледзяша, які, выходзіць, таксама прыйшоў сюды.— Аддаў чорту душу адшчапенец — дык і зарывайце!

Прамоўца збянтэжыўся, паўзіраўся чорнымі вачыма ў натоўп, шукаючы позіркам таго, хто не толькі замінаў гаварыць, але і так непрыстойна кашчунстваваў. Сумеліся, пачалі азірацца з насцярогаю і янкавінцы.

Каб не разладзіць пахаванне, Алесь знайшоў, дзе той Ледзяш, а пасля хутка праціснуўся цераз гурт і сутыкнуўся з ім твар у твар. Той, у мундзіры, у ботах, з фуражкаю ў руцэ, пазіраў насуплена. Шчокі былі падрапаныя — пасля нядаўніх, велікодных, прыгод.

— Перастаньце! — нягучна, але строга прамовіў Алесь.— Няўжо не маеце ні кропелькі такту, розуму? Вы ж таксама смертны...

— Толькі без мітынгаў...— агрызнуўся той.— І не сыкай, панімаеш! Я хутка знайду ўправу! На цябе — таксама... Не доўга ўжо табе гуляць...

— Не дзеля нас, дзеля новай Расіі — памаўчыце, калі ласка!

— Не-э! Не будзе, не дачакаецеся вы ніякай «новай Расіі»...

— І праўда,— загаманіў Міхайла Чорны,— дайце пахаваць чалавека...

— От цалавек! — загневаўся і Пятро Чорны.— Нават і тут яго трасца дрэнцыць...

— Вот паглядзім, хто на яго пахаванне сюды прыйдзе...

— Ды ніхто!

— ...Барацьба, што вёў наш друг, не закончылася, не мае яшчэ перамогі,— адчуўшы падтрымку, загаварыў далей Кіеўскі,— мы, сябры, аднадумцы, будзем весці яе далей. І мы даб'емся свайго. І верце, грамадзяне янкавінцы, не вы, дык вашы дзеці будуць жыць у той светлы час, за які аддаў жыццё наш незабыўны Юры Васільевіч. Пухам табе зямля, дружа!

Замаўчаў, спахмурнеў у жалобе. Пасля пацалаваў у лоб, адышоўся. За ім развіталіся і яго калегі.

Пасля, калі Чорныя забілі цвікамі века труны і апусцілі яе вяроўкамі на дно ямы, калі засыпалі яе жоўтым пяском, выраўнялі магілку, калі той-сёй (Чорныя, Алесь, Чарноў, івянецкія высыльныя) пайшлі да Собаліхі на вячэру. Чарноў падпіў, разжалобіўся і плакаў Алесю:

— Аляксандр Восіпавіч, якога чалавека мы сёння пахавалі! Якіх выдатных сыноў губляе Расія! З кім мы застанёмся? З кім будзем жыць?

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### 1

Сцяпан Чорны зірнуў у акно: на двара светлата, цеплынь. Каторы ўжо дзень. Усё смялей зелянее вакол. Абедзве нявесткі, дзеці ў гародчыку — капаюць грады, разбіваюць камякі зямлі, вытрасаюць пустазелле. Вось дзеці загулі, закрычалі, пабеглі да плота. Старэйшыя, Кастусь, Язэп, перасягнулі яго, пашыбавалі ўздоўж старога плота і вуліцы. Сцяпан прыплюшчыў блізарукія вочы: насустрач ім на мыліцах, на адной назе чыльгікае чалавек. Адна нага ў чаравіку, другой няма. Замест яе пустая калашына, што падаткнута пад пояс. Паліто расхінутае, дык гэта ўсё добра відаць. І як пабегла з гародчыка старэйшая нявестка, Аўдоля, абамлела сэрца: ды гэта ж старэйшы сын! Кірыла! Без нагі!

Аўдоля вось выбегла з двара, павісла на Кірылавай шыі; дзеці, Кірылавы і Андрэевы, абляпілі іх.

— Паўліна...— прашаптаў ён, падняўся.— Кірыла вярнуўся... Без нагі...

— О, божа! — спалохалася жонка, пагрэблася з печы. Спаўзла, хістаючыся, патэпала да акна. Жахнулася, убачыўшы.— Без нагі! Калека!

Ён адчуў, чаму бегла з лямантам Аўдоля, чаму так жахнулася яна, маці. Ён і сам у першую хвіліну тое ж падумаў: які цяпер з Кірылы работнік! Будзе ўжо век гараваць сам, будзе жыць у галечы сям'я!

— Дзякуй богу, што жывы...— прамовіў уголас...— Колькі вунь нашых і чужых мужчын пагінула і ў Сібіры, і ў Амерыцы!

Аўдоля і дзеці адпусцілі Кірылу; ён, падскакаючы на адной назе, спрытна пакіраваў сюды, да хаты. Ідучы па двары, спачатку памахаў рукою бра-

тавай, Гані, тая, чамусьці прыкрываючы абедзвюма рукамі жывот, усё яшчэ стаяла ў гародчыку і сіратліва пазірала на яго, а пасля, з няёмкасцю ўсміхаючыся, памахаў рукою і ім, бацькам.

— Божачка! — прашаптала Паўліна.— А сівысівы ўжо! Як і ты!

— Што ж ты хочаш,— прамовіў ён,— не на гулянцы, не ля мора цёплага быў. У шахце...

Кірыла пераставіў мыліцы цераз парог — дзверы яму адчынілі сыны,— пераскочыў.

— Кірылка! Сыночак ты мой! — падалася да яго маці. Той зморшчыўся. Ад болю. І свайго, і ад таго, што такая слабая, нямоглая маці. Не жывы чалавек, а, лічы, цень ужо ад яго.— Што ж яны з табою зрабілі? Нашто ж яны так цябе скалечылі?

Зайшоўшы ў хату і закрыўшы бруднымі — ад чорнай, перагноенай зямлі — рукамі твар, галасіла і Аўдоля.

— Ціха вы, бабы! — сыкнуў на іх Сцяпан.— Галосіце як па нябожчыку. Жывы — дык і добра!

Падышоў павітацца з сынам. Ныла душа, але трымаўся. Не плакаць жа яшчэ і яму. Бачыў: у сынавых стомленых вачах слёзы. Канечне, быў блізка каля смерці і не надта рады цяпер, што ўцалеў. Моцна парукаліся, прыпалі, цярнулі адзін аднаго калючымі шчокамі.

— Дык прымаеце інваліда, калеку? — горка ўсміхнуўся Кірыла. Высокі, гэткі чарнявы, з вялікімі вачыма і з гарбаватым ды прыгнутым да губы носам, як і бацька. Адмысловы Чорны. Характарам удаўся, праўда, не ў ціхманага бацьку, а ў гарэзнага дзядзьку Міхайлу.— Не выганіце з хаты?

— Што ты кажаш, сыночак?! — сашчапіла белыя, з тоўстымі сінімі жыламі рукі маці.

— Выганім...— знайшоў сілы пажартаваць Сцяпан.— Хіба ты нам трэба такі?

— От! — незалюбіла жонка.— Жарты яму!

Праз хвілін колькі, абласканы і аплаканы маткаю ды жонкаю, Кірыла сядзеў ужо за сталом, трымаў на каленях малодшага, чатырохгадовага Ігара, які ўжо не помніў яго і ўцякаў з калень, сёрбаў рэдкую капусту, даваў есці са сваёй лыжкі і сыну, а заадно і расказваў па просьбе кабет, як яго заваліла ў сібірскай шахце пародаю. Большыя сыны, Кастусь і Язэп, ужо валтузіліся, змагаліся за бацькаву чорную, з бліскучым брылём фуражку. Урэшце баявейшы Язэп вырваў яе і кінуўся з ёю на двор. Відаць, каб пахваліцца ёю перад усёй вуліцай. Астатнія дзеці шыбанулі за ім. Уцёк ад бацькі і Ігар.

— Зчужэў я дзецям...— пасміхнуўся Кірыла.— А Кастусь, Язэп ужо вялікія! Пад кавалераў! А дзе Пятрусь? Чаму Ганя ў хату не ідзе?

Ніхто яму толкам нічога не адказаў (пасля, уночы, усё пра Ганю і Петруся нашэпча Кірылу на вуха Аўдоля), звялі гамонку на іншае.

— А як наш Андрэй? — дапытваўся Кірыла пра серадольшага сына.— Ці жывы хоць у той Амэрыцы?

— Жывы,— адказаў бацька,— хоць заробкі, піша, не дужа вялікія.— Тамтутэйшыя паны стараюцца сілы ўсе высмактаць, а заплаціць як мага меней. Скора паварочаюцца ўжо. І ён, і Гіполь Нямкевічаў, і Вінцук Драздовічаў... Праўда, Гіполь і Вінцук пішуць, што Андрэй наш там паліцікуе, што амэрыканская паліцыя страшыць, што выганіць.

— Праўды нідзе не любяць,— паківаў галавою Кірыла.— Ні ў нас, ні на свеце... Відаць жа, чулі пра расстрэл, што быў на Ленскім рудніку?

— Чулі,— адказаў Сцяпан.

— І бацька, і сын — палітыканты,— уздыхнула маці.— Каму, каму, а ім трэба як найболей усюды свой язык усоўваць.

Пасля, калі Кірыла расказаў усё пра сябе, дык пачалі бацькі распытваць у яго пра астатніх мужчын і хлопцаў з вёскі, што былі ў Сібіры. Кірыла расказаў і пра янкавінцаў і не янкавінцаў, людзей з бліжэйшых вёсак, з якімі быў паблізу. Паўздыхаў, што не ўсе добра зарабілі. Хоць той-сёй думае выклікаць сям'ю і навек застацца там, у Сібіры.

## 2

Янка пайшоў у хату напіць вады, а яны, бацька і Алесь, засталіся тут, у хляве, удвух. Прыпыніліся, абперліся аб загарадкі — адпачывалі.

— Не пазнаць Янака...— пачаў здалёку Алесь тую гамонку, якую абдумваў усе апошнія дні.— Змарнеў. Як сам не свой.

Бацька прамаўчаў. Можа, і не было што сказаць.

— Камень на сэрцы...

— Ох, бяда дык бяда! — ухмыльнуўся стары.— Маці ці бацька памерлі!

— Душа памірае... Усё харошае... Хай бы вы, тата, уважылі яго — паслалі б сватоў да Мішукоў. Хай бы браў, каго хоча. Жыў па любові.

— Зацірку посную едучы і босы ходзячы...— зноў пакпіў стары.

— Можа, ужо і занадта слепіць нам вочы гэтае багацце! — уздыхнуў Алесь.— Ніхто супраць яго не ўстоіць. Ні адзін чалавек! Нават, здавалася, і самы шчыры, сумленны, разумны. Любога яно купіць і прадасць. Скалечыць.

— Ну і без зямлі ды капейкі чалавек не чалавек. Галяк! Чарвяк! Хто ні наступіць, той і раздушыць... Ці век пазірай як сабака на свайго гаспадара... Кленчы, прасі... Недаяддай...

— Зломіць — і чалавек ужо не чалавек. Усё добрае ў яго стаптана, закінута ў нейкія закуткі душы...

— Дык што ж рабіць? — уздыхнуў бацька.— Як іначай жыць? Я ж хачу, каб усё як найлепей было!

— На першы погляд, яно найлепей, а на самай справе яно ж век каменем у печанях будзе сядзець.

— Тлуміш ты мне, хлопец, галаву. Я і сам думаю — і так, і гэтак... І апраўдваю сябе, і ганю. А ты... і ён... Адно дзеўбяцё! Можа, ніхто і не жыве так на свеце, як ты хочаш.

— А вы не замінайце. Няхай ён жыве, як сам хоча. Няхай сам сябе пасля хваліць ці лае.

— Ды знаю: будзе не раз хацець локаць укусіць,— здаецца, здаючыся, прамовіў бацька.

— А можа, і не! Уступіце, тата, дазвольце Янку пасватацца да той, да якой ён сам хоча. Не няволь-це. Вы ж разумны, мудры чалавек!

— Разумны, мудры! Каб быў разумны, дык, можа, не прастарэкаваў бы столькі з вамі!

— Дык дазваляеце? — усміхнуўся Алесь.— Каб па яго ўсё было?

— Рабіце, што хочаце...

— Дык давайце пашлем да Мішукоў сватоў!

— Па пакровах толькі.

— Дзякую, тата. Я ведаў: вы чулы чалавек. Можа, і самы, кажу, высакародны ў вёсцы.

— Родны, благародны! — перакрывіў стары, зноў узяўся выкідаць гной з хлява.— Якая каму карысць ад гэтага! Нікому! Я ўжо, каб бог забраў, дык і паміраць гатоў... Адны згрызоты век ды згрызоты!

## 3

Зося парадкавала грады — жалезнымі драпкамі разбівала цвёрдыя камякі, баранавала зямлю і выгрэбвала пустазелле. Калі разагнулася, каб узяць паблізу, каля шула, рыдлёўку і пракапаць барозенкі-сцежкі, міжволі зірнула на вуліцу і зне-

рухомела: у іхні двор праз адчыненую брамку заходзілі два мужчыны. Аднолькавага, сярэдняга, росту. Толькі адзін быў малады, тонкі і худы, другі — сталы, каржакаваты. Абодва былі ў святочных касцюмах, белых кашулях. Яна заміргала, збянтэжылася — не то ад яркага веснавога сонца, што няшчотна азалочвала маладое блакітнае неба ды кволую маладую зеляноту, не то ад мужчынскіх позіркаў. Малады зірнуў на яе і тут жа красамоўна апусціў вочы, засаромеўся, а сталы не зводзіў з яе гарэзнага позірку, пасміхаўся.

Сталы звярнуў да плота — а ён быў са старога яловага частаколу,— расхінуў старое колле і зірнуў на яе, здаецца, з захапленнем.

— Ну, добры дзень табе,— прамовіў і, калі яна кіўнула галавою ў адказ, агледзеў грады, тады зноў абмацаў вачыма яе.— І праўда, паненка ўжо! Красуня! — кіўнуў на грады.— Сама ўсё зрабіла?

Зосі не вельмі спадабаліся госцевы паводзіны, і яна не адказала, адвяла вочы. Заўважыла: малады на яе не пазірае, хаваецца за сталым.

— Во, хрэснік,— прамовіў сталы.— Людзі добра кажуць: шукай жонку не ў карагодзе, а ў агародзе... Ну... Пайшлі, можа, каралеўна, у хату. Бо інтэрас да цябе маем...

Яна ўспыхнула: здаецца, да твару хлынула кроў, гарачыня. Апусціла вочы, адчула: у грудзіне ўстрапянулася сэрца, забілася, як б'ецца сэрца ў злоўленага чалавекам птушаняці.

— Заходзьце ж у хату! Салвэська! Віця! — пачуўся з ганка бацькаў радасны голас.— Чаго ж вы стаіцё на дварэ? Як ужо і баіцёся зайсці!

— Ну, дык хадзі ў хату і ты, дзяўчына,— ужо без усмешкі ды жарту, а сур'ёзна прамовіў Салвэсь Гарбацэвіч і падаўся насустрач гаспадару.

Яна бачыла: парукаліся. Потым бацька — па-

хатняму ў старым чорным галіфэ, у галёшах, у паношанай кужэльнай кашулі з белым, крамным, каўнерыкам — падаў руку і Віцю, закланяўся, запрашаў і запрашаў зайсці ў хату. Ля ганка саступіў, і госці выцерлі, пашмараваўшы, на падножцы падэшвы бліскучых хромавых ботаў, падаліся ў сенцы: спераду стары, з клуначкам пад пахаю, за ім малады, ■ за імі ўжо — бацька. Узышоўшы на ганак і зачыняючы за сабою дзверы, махнуў ёй рукою: хадзі і ты сюды!

Зося не адчула ні страху, ні трывогі. Толькі здзівілася ці нават знедаўмелася. Чаму ён, Віця, як і Дзяжко, прыйшоў у сваты? Яны і не хадзілі разам і, лічы, ніколі не сустракаліся сам-насам, не перамовіліся па-добраму ні адным словам. Але калі ўбачыла, што ідзе з пустым вядром да Буднікавай студні суседка, Чорная, за ёю спяшаецца яшчэ адна кабета, здаецца, кідаючы цікаўныя позіркі то ў іхні двор, то на яе, дык аж пахаладнела на душы. Зноў сваты! І зноў неспадзяваныя, нежаданыя!

«Не пайду ў хату! — рашыла.— Схаваюся».

Не ведаючы, дзе будзе хавацца, падалася між старых з набухлымі пупышкамі, а то нават і з бела-чырвонымі кветкамі яблынь у канец гародчыка, пералезла цераз дзірку ў плоце і пайшла па разорыне.

Стаілася за старым, накрытым саломаю гумном, каля маленькага гародчыка, дзе бацька садзіў тытунь, а гэтаксама гадаваў саджанцы яблынь, сліў, груш, вішань. Цяпер гэтыя дубчыкі рыхтаваліся пырснуць зелянотаю — наверсе забухмаціліся пупышкі. Заўважыла: прынесла з сабою рыдлёўку. І калі яна яе ўзяла? Дзеля чаго?

«І што ён надумаў сабе? — не магла апамятацца.— Чаму іменна да мяне прыйшоў сватацца? Ведае ж, што я з Янакам хаджу...»

— Зося! — пачуўся з двара матчын вокліч.

Сцішылася, не адказвала. Але маці знайшла яе. Прыйшла сюды. Зірнуўшы на яе поўную постаць, Зося яшчэ не меней здзівілася: маці была ўжо не босая, не ў шэрым фартуху, а ў святочнай сукенцы і белай хустцы.

— Сватэ ж да цябе, Зосечка...— мякка і лагодна прамовіла яна, усхваляваная і радая.— Ідзі ж памыйся, пераадзенься. Я табе вынесла з хаты апратку, у кладоўцы на скрыню паклала.

— Нікуды я, мама, не пайду,— адказала яна.

Маці зірнула на рыдлёўку, што яна ўсё яшчэ трымала, і, здаецца, завагалася: настойваць на сваім ці не?

— Надакучылі мне ўжо сватэ...

— Гэтыя сватэ, дачушка, не тыя,— спахапілася і ажывілася маці.— Ад гэтых сватоў няможна хавацца, уцякаць.

— Сяроўна я ў хату не пайду, за стол не сяду!— рэзка абарвала маці Зося.— Вам, можа, гэтыя сватэ і дарагія, а мне — не.

— Не гнявi, Зосечка, бацьку,— перасцерагла маці.— Ён не будзе ўгаворваць, пераліваць з пустога ў парожняе, як я.

— Няхай і заб'е! — не збаялася Зося, тулячыся да старога, падгнілага знізу і рудога шульца.— Я і тату тое скажу, што вам сказала.

— Ён-то, Пётрык, ліхі чалавек,— паразважала маці, тручы памытыя нядаўна, але не белыя, а парэпаныя, чарнаватыя ля пазногцяў рукі.— Вікця — кабета добрая, спагадлівая. І сам Віця — хлопец ціхі, спакойны... Ды што казаць, багатырэ ж! Першыя на Янкавіны людзі! І не толькі на нашы Янкавіны. Усяго ж — і зямлі, і лесу, і сенакосу — удосталь. Ды на двое! Падзеліць стары абоім папалавіне — дык і то кожнае самае багатае ў вёсцы стане. Ніколі не будзе жаднае кавалку хлеба, не будзе голае...

— Ну, мама, самі падумайце! — спыніла матчыны развагі-мары Зося.— Хіба ён мужчына? Ён жа, кажуць, не то хлопец, не то дзяўчына! І без вусоў, і голас пісклявы.

— От плятуць абы-што людзі, дачушка,— зноў мякка, не павышаючы голасу, сказала маці.— З-за зайздрасці. Абы нагаварыць на хлопца. Чаму ж ён не мужчына? Хлопец як хлопец. Бяда вялікая, што вусы слаба растуць, голас тонкі... Ну, а што ціхі, памяркоўны, маўклівы, дрэмны, як кажуць, дык хіба гэта ўжо так і блага? Хіба ўсе могуць быць ругавыя, агністыя? Хіба надта добра, калі каторы гарачы, як агонь, але злы, крыклівы, рукі без дай прычыны ў ход пускае? Лепш жа, калі маўчыць і не б'ецца... А так, можа, усё мірненька, дружненька будзе... Ды чаго сварыцца, біцца ў дабры жывучы? Як сыр у масле плаваючы!

— Дабро дабром, мама. Бывае, што і дабро тое не мілае...

— Хто ж ведае, дачушка. Бывае, як ты кажаш, не мілае і дабро, але яшчэ найгарчэйшая, мусіць, беднасць, нястача...

— Лепш, мама, не даесці, чым пераплакаць...— адказала Зося.

— Бяда без дзяцей, але бяда і з дзецьмі...— зноў уздыхнула маці, відаць, ад таго, што не змагла яе ўгаварыць. Як маці дачку.

Абедзве пачулі хуткія крокі, азірнуліся: сюды шыбаваў бацька. Па-ранейшаму без пінжака, без брылёўкі. Не пераапрануўся. Але гэта Зосю не супакоіла, наадварот, яшчэ больш узрушыла: у руцэ бацька трымаў дубец ад веніка. Яна не дзіця ўжо, каб збаяцца гневу ці пакарання за непаслухмянасць, але ёй зрабілася не па сабе ад таго, што іменна змусіла бацьку выцягнуць з дзеркача дубец.

— Ідзі ў хату. Адны ж там людзі... Кінуліся-

рынуліся ўсе з двара! — буркнуў жонцы. Тая раней любіла з ім, сварлівым, агрызацца, а сёння надзіва была пакорлівая. Пашыбавала адгэтуль.

— Тата...— прамовіла, зірнула на бацьку з мальбою.— Ну, чаму вы хочаце выгнаць мяне з хаты? Хіба я вам ужо лішняя? Аб'ела вас, абпіла?

Ён, канечне ж, не чакаў яе такога спакойнага, вельмі чуллівага наступу. Штосьці сціснула, змякчыла яго бацькоўскае сэрца: апусціў руку з дубцом.

— Не мы з маткаю, дачка, а гора, бяда змушае ісці цябе не ў надта шаноўную, але багатую хату...— адказаў спакойна, раздумна.— Ды рана ці позна трэба аддаць цябе замуж.

Адвярнулася ў адчаі. Адчула: бацька загарэўся — і яго цяпер лёгка не пераломіш.

— Увойдзеш у Гарбацэвічаву сям'ю — гаспадыняю над гаспадынямі будзеш! — пачаў яшчэ ўгаворваць, расталкоўваць.— Не будзеш, дзякуй богу, гэтак гараваць, як мы з маткаю гаравалі і гаруем. Не было і няма шчасця нам, дык хоць ты будзеш шчаслівая! Калі маеш розум, дык не адварочвай нос, не кляні нас, бацькоў, а ідзі ў хату, пакланіся такім паважаным людзям...

Маўчала. Зразумела: трапіла ў тупік. І за Віцю ісці як на смерць, і паўставаць супраць бацькоў не хапае ні сілы, ні волі, ні рашучасці.

— Ідзі ў хату і не дуры,— сказаў ужо цвёрда.— Чуеш?! Бо... Бо ў другі раз Гарбацэвіч сватоў не прышле. Адвернецца і плюне на нас. І не назычыць нам ніколі нічога за тое, што мы яго абразілі. Ты ж не толькі пра сябе адну думай, але і пра нас з маткай не забывай...— гаварыў і заадно паддаваў сабе злосці.— Нам жа з маткаю гэтаксама жыць яшчэ трэба, меншых трэба на ногі падняць. А ты... Ідзі, кажу! Не злуй! Бо не пагляджу, што і паненка! Высільгаю во дубцом!

— Біце!!! — закрычала, нібы хацела заадно з крыкам выдыхнуць з сябе ўвесь боль, енк пра несправядлівасць на свеце.— Але не пайду, не пакланюся.

— Не пойдзеш? — закрычаў. Відаць, яе ўпартасць паддала яму злосці.— Не, міленькая! Пойдзеш! Што я скажу, тое і будзе! Бо я яшчэ гаспадар у хаце. Дык і кажу: ідзі туды, бяры ад ганаровых людзей хлеб, кланяйся да самай зямелькі!

Зося не абзыўнулася. Стулілася, нервова кусала пазногці.

Бацька размахнуўся, свіснуў дубцом. Раз-другі. Па клубах і сцягне. Яна спіснулася нібы ў камячок, уздрыгвала і ціхенька завыла. Здаецца, перасільваючы сябе, бацька хліставў і, каб апраўдацца, прыгаворваў:

— Дык не пойдзеш? Зганьбіш людзей? Зганьбіш бацьку і матку? Род наш?

Ад яго рэзкіх удараў запяклі агнём клубы, сцёгны. Яна не ўцякала, бездапаможна ціснулася да плота і цярпліва перамагала боль.

— От яшчэ! — бацька кінуў дубец, ухапіў яе за касу, аж на галаве яе нацягнуліся валасы, папіхнуў перад сабою.

Зося ўжо не з трывогаю, а з адчайнасцю адчула: не ўмее супрацьстаяць ні бацькавай сіле, ні яго волі. І гэта ўміг зламала яе. Не толькі яе кволую дзявочую сілу, але і такую ж незагартаваную волю, дух. Разгубілася: хто ж яна? Сталы ўжо, сам па сабе чалавек ці маленькая кузюрка, лёс якой у нечыіх іншых, уладных сіл? Божых альбо бацькавых. Мала, бачыш, што яна думае і хоча! Выходзіць не па ёй, а так, як нехта хоча, як загадзя рашыў. І той не зважае на яе самыя патаемныя ды запаветныя думкі, ні на яе чулую душу, ён робіць з цвярозасцю і разлікам тое, што сам лічыць самым правільным, сваёю

ўвагаю, ласкаю, сваім клопатам і дабром. Калі ж яна была б дужаю, моцнаю духам, дык ёй трэба было б паўстаць. Цяпер — супраць сваіх бацькоў, супраць усёй вёскі і яе старых жорсткіх законаў. Вось што нарабіла яе краса! Вось якую падрыхтавала ёй долю! Недарэмна ж людзі кажуць: «Не радзіся красівай — радзіся шчаслівай!»

— Тата! Татачка родненькі! — пачала прасіцца яна.— Пашкадуйце! Не губіце мяне! Не хачу я за яго ісці. Чуеце, не хачу!

Бацька не слухаў, пёр яе перад сабою ў хату. Нават і не загадаў пераапранууца ў сенцах; якая была, такую і ўвапхнуў у хату.

За сталом сядзелі сват і малады. Перад імі ляжаў вялікі бохан хлеба і стаяла паўтаралітровая бутэлька гарэлкі. Сват, Віцеў хрышчоны бацька, што жыў у Прудах, сумеўся. Быў ён гэткі ж невысокі, жылісты, заядлы да работы, як і янкавінскі брат Пётрык, але меў болей памяркоўны, спаважаны характар. Відаць, па ім, дзядзьку, удаўся і Віця. Цяпер Віця быў белы-белы, як мярцвяк. Здаецца, нават рэдкая шчэць на шчоках і пад носам не залацілася пушком, як звычайна, а таксама бялелася нездароўчасцю. Ён зірнуў на міг на яе і сарамліва апусціў вочы.

Зося ж запынілася ў памялешніку, закрыла твар рукамі і галасіла.

— Выбачайце, людзі добрыя, госцейкі дарагія,— залісліваў бацька.— Не зважайце надта на дзявочыя слёзы... Маладая яшчэ... Дурная...

— Ды дзела маладое — вядомае...— згадзіўся Салвэсь Гарбацэвіч, хоць, здаецца, быў вельмі ўражаны і збіты з панталыку.

Зося, чуючы, як ліслівіць бацька, зненавідзела яго цяпер больш, чым чужога чалавека, адпетага ворага. І маці сваю знелюбіла: сядзіць вунь на табу-

рэціку каля пліты, выцірае ўпотай слёзы пад вачыма, а не заступіцца за яе.

— Дык, можа, панна маладая, ну, перастала б ужо плакаць? — прамовіў Салвэсь.— Няхай нас, ну, паслухае...

— Ціха! — сыкнуў на яе бацька.— Не раві.

— Мы вот, ну... Я, стары купец, ён, малады, многа ўжо дзе ездзілі па свеце, многа чаго бачылі, але вот...— Салвэсь гаварыў, бянтэжыўся, яму, відаць, гэтыя ўмоўныя, але патрэбныя казанні былі пакутлівыя, горш, чым касіць ці калоць дровы.— Словам, ездзячы па свеце вялікім, мы, кажу, ну, многа чаго бачылі, але нагледзелі: самы лепшы купецкі тавар у вашай хаце. І мы хацелі б, каб больш ужо нідзе не ездзіць, каб мы змовіліся, вы прадалі, а мы купілі гэты тавар. Купец наш, ну, малады...

— Ды што казаць, пане Салвэсь...— памагаючы, перапыніў надзіва гутарлівы сёння Мішук.— Не толькі яны, маладыя, але і мы, бацькі, адно аднаго з маленства ведаем. Дзядоў, прадзедаў знаем. Гарбацэвічы — людзі паважаныя...— прымоўк, нібы ўспомніў, што між сабою браты Гарбацэвічы надта не ладзяць, бо Пётрык некалі жорстка пакрыўдзіў Салвэся.— Словам, няма патрэбы многа гаварыць. Мы рады, што такія купцы якраз у нашай хаце нагледзелі сабе тавар...

— Дык маладая возьме наш хлеб, гарэлку? — запытаў Салвэсь пра галоўнае, рады ўжо, што не трэба шмат перастарэкаваць.

— Возьме, канечне, возьме,— запэўніў Мішук.— Уга, пане Салвэсь, каб адцурацца ад такіх купцоў!— Павярнуўся да яе, загаварыў таксама ліслівa:— Вазьмі, Зосечка, пачастунак. Вазьмі, дачушка! — Тут жа павысіў голас. Зірнуўшы на міг, Зося заўважыла, што яго шчокі гараць чырвонымі плямінамі.— Чуеш? Ну, каму кажу!

— Відаць, панна маладая нас зусім не чакала? — зноў запытаў Салвэсь.— Можа, чакала іншага купца? Ну...

— Рады, рады, пане Салвэсь! — залепятаў бацька.— Хто такіх купцоў не хоча?! Толькі во саромеецца... Самі ведаеце, пане Салвэнь, самі ж жаніліся: малады стыдзіцца ў сваты ехаць, а маладая стыдзіцца прымаць сватоў... Але...— Усміхнуўся.— Сорам хутка пройдзе. Знюхаюцца! Яшчэ як! Бывае, жэняць, зводзяць тых, хто ніколі не бачыў і не чуў адзін пра аднаго! І жывуць! А тут, кажу ж, і мы, і яны з маленства адзін аднаго ведаем. Свае людзі. Злюбяцца. І вадою потым не разальеш... Зося! — змяніў, узмацніў голас.— Ідзі бяры хлеб! Ну, каму кажу! Скарэй!

## 4

На двары пачуўся шматлюдны тупат. Спачатку Алесь не зважаў на яго: часта ў апошнія дні прыходзяць увечар людзі. Пасядзець, паглядзець ды паслухаць, як ён вучыць дзяцей, а пасля застануцца пагаманіць пра жыццё-быццё, пра падзеі ў свеце. Калі ж ля самага акна бліснуў на міг у святле афіцэрскі пагон, па Алесевым сэрцы паласнула трывога. Ідуць цяпер сюды не вяскоўцы! Ідуць іншыя людзі! З іншымі намерамі!

Здзівіўся, як раптоўна перасекся, змяніўся яго голас. Дык не мог далей чытаць апавяданне з «Другога чытання для дзяцей беларусаў» Якуба Коласа, загарнуў і прыціснуў да сэрца кнігу, нібы абарончы шчыт. Дзеці, што сядзелі на лавах абапал сцен і не зводзілі з яго заварожаных позіркаў, здзівіліся ад такой яго перамены, пераглянуліся; Кацярына — а яна была з гаспадыняй, Собаліхай, на печы — хуценька спаўзла з печы і падбегла да акна.

Але там, на цёмным двары, бадай, нічога яна ўжо не згледзела. Бо амаль у гэтую ж хвіліну нехта пазнаёмаму хутка адчыніў у хату дзверы.

Там, у сенцах, стоўпіліся папраўдзе незвычайныя, няпрошаныя госці. З іх гурту першы паважна зайшоў у асветленую Кацярынінаю лямпаю хату высокі, худы пажылы мужчына ў доўгім шэрым плашчы, пры лёгкім квятастым шаліку і пад гэткім, шэрым, капелюшом. Алесь спачатку не пазнаў гэтага чалавека. Калі ж абгледзеў калматыя бровы, вострьі нос і тонкія, бяскроўныя вусны, пазнаў: ды гэта ж сам пан Свістуноў з Хатавы!

Услед за Свістуновым зайшлі камлюкаваты, здаецца, п'яны Сяргеенка, узбуджаны тоўсты, як і заўсёды, у афіцэрскім мундзіры Лядзяш,ураднік Петухоў, у форме. За імі ўсунуўся пісар Дзяжко.

— Вось, калі ласка, ваша сіяцельства! — зайшоў наперад, тыцнуў у Алеся і на дзяцей пальцам Лядзяш.— Вось вячэрняя школа, вось яе навучыцель! Усё на месцы. З усімі доказамі.

Князь Свістуноў, убачыўшы тут і знаёмую Кацярыну, нібы разгубіўся, зняў капялюш. Сяргеенка, сустрэўшыся з доччыным позіркам, збянтэжыўся. Дарма, што быў нецвярозы.

— Праходзьце, госці дарагія,— першая апамяталася Кацярына, прамовіла спаважна, але і з іроніяю.— Дзеткі, пасуньцеся, дайце месца панам.

Дзеці паслухалі, збіліся ў кучку, як авечкі. Тойсёй увогуле ўстаў з лавы. Усе спалохаліся. Бачачы гэта, Алесь адчуваў: трэба падбадзёрыць дзятву. Але як? Не выганяць жа тутэйшае «высшее общество» з хаты! Як і не ліслівіць жа перад ім!

— Прабачайце, канечне...— падыходзячы бліжэй, прамармытаў Свістуноў. Запытаў, здаецца, у Кацярыны:— Што гэта? Вячэрнія дадатковыя заняткі з вучнямі ці... сапраўды падпольная школа?

Кацярына, папраўляючы на сабе пуховы шалік ды ўхутваючы ім плечы, перавяла позірк на Алеся: што адказаць? Можа, выратаваць цябе і зманіць: ага, ідуць цяпер дадатковыя заняткі?!

— Тут, пане, ідуць заняткі прыватнай школы...— прамовіў Алесь.

— Вашай? — запытаў той.

— Маёй.

— Чуеце?! Чуеце?! — падскочыў да Свістунова Лядзяш.

— А вы маеце дазвол на адкрыццё прыватнай школы? — не зважаючы на Ледзяша, запытаў Свістуноў.

— Я адчыніў па дазволе сумлення, пане. Па-другое, праграма не антыўрадавая... Розніца толькі ў тым, што ёсць яшчэ і ўрокі роднай мовы.

— Скажыце, князь, шчыра,— умяшалася ў гамонку Кацярына, каб памагчы яму, Алесю.— Няўжо горш, калі дзеці па вечарах не распусьнічаюць, а вучацца? Па-другое, хіба няма ў нас прыватных школ?

— Але як і чаму тут вучацца? — перапыніў яе Лядзяш.— І дазвольце вас, шаноўная, запытаць: што, і вы тут настаўніца?

— Не, я тут не настаўніца, міласцівы пан,— рэзка адказала тая,— але я памагаю Аляксандру Іванавічу, бо яго школа спрыяе і маёй.

— Чуеце, князь?! — аж затросся Лядзяш.— Хіба не мярзотнікі?

— Няма на свеце больш мярзотнага Навухаданосара, чым вы! — не выцерпела, загарэлася і Кацярына.— Як толькі і зямля вас трымае!

— Прабачце, панове,— прамовіў Алесь.— Дазвольце адпусціць дзяцей...— І, бачачы, што ніхто не замінае, павярнуўся да малечы.— Ідзіце, дзеткі, дадому. Заўтра зноў прыходзьце...

— Я...— прамовіў Лядзяш, але заўважыў сярдзіты позірк Свістунова, сцяўся.

Дзеці, амаль усе босыя, у кароткіх штоніках, кашульках, падстрыжаныя нажніцамі, хуценька, штурхаючыся, паспяшаліся шмыгнуць з хаты.

— Не смейце больш прыходзіць сюды! — не стрываў, сыкнуў ім услед Лядзяш.

Свістуноў зморшчыўся. Можа, і ад прыкрай недалікатнасці Ледзяша. А той, выпучваючы грудзіну, пайшоў па хаце.

— Палюбуйцеся, князь, на «агітацыю»! — паказваў леваю рукою на сцены, дзе віселі аформленыя Алесем і Кацярынаю стэнды па беларускай гісторыі, культуры, педагогіцы. Лядзяш, як казала Собаліха, быў тут аднойчы, абгледзеў усё.— Зірніце на гэтыя «экспанаты»! Адкуль што і ўзялося?!

Свістуноў пільна пазіраў на прыбітыя да сцяны вялікія аркушы паперы, здаецца, нават і чытаў тое, што было на іх напісана.

— Заўважце! — тыцнуў пальцам у стэнд Лядзяш, нібы ніхто не мог прыкмеціць гэтага сам.— Скарына — першадрукар... Які Скарына? Што ён выдумляе? Я такога не чуў!

— Канечне ж, вы не ведаеце яго ні ў твар, ні яго звання! — пацвелілася, мякка, але з ухмылкаю, Кацярына.— Я, прызнацца, нават доўга сумнявалася, што вы чытаць умееце.

— Вы...— ашчэрыўся Лядзяш, пасля рэзка павярнуўся да Сяргеенкі.— Юры Апанасавіч! Уйміце сваю дачку! Я не пацярплю... Я пра ўсе яе мярзоцтвы дакладу дырэкцыі народных вучылішчаў...

— Вось на гэта вы мастак...— не збаялася Кацярына; Свістуноў употай усміхнуўся, а Сяргеенка ды яго янкавінскія сябрукі ледзьве здушылі смех.

— Безабраззе! — пакрыўдзіўся на ўсіх Лядзяш.— Гэта, панове, не жарты. Зірніце! —Перакры-

віў яго, Алесевым, голасам далей папісапае: — «Цяпер у нас, лічы, ніводнай вышэйшай навучальнай установы, ні аднаго народнага тэатра, сапраўды народнай школы, а 3 тысячы цэркваў, 704 сінагогі, 113 касцёлаў, 5 тысяч шынкоў...» Ты што вернеш у адну кучу — святое і д'ябальскае?

— Пан Лядзяш, па-першае, я нічога не выдумляю, даю прыклады з нашай, афіцыйнай, статыстыкі,— адказаў Алесь.— А па-другое, чаму не паказаць такія «рассаднікі культуры»? Яны вунь як памагаюць стаць цывілізаванымі! Якая там бяда, што спойваюць, абіраюць і выроджваюць?!

Лядзяш стрэльнуў па ім лютым позіркам і не здагадаўся, што і як адказаць. Зірнуў з мальбою на Свістунова: памажыце, князь, спыніце гэтага зламысніка!

— Займаецеся вы, малады чалавек, Сізіфавай працаю! — урэшце падаў стражэйшы голас і Свістуноў, азірнуўся: нечакана сюды зайшлі новыя людзі. Чорныя — Сцяпан, Міхайла, Пятро і Алесеў бацька.

Мусіць, дзеці дома расказалі пра візіт нечаканых гасцей, і старыя рашылі прыйсці сюды, паглядзець ды паслухаць, што будзе. А можа, падумалі, што візіцёры прыйшлі Алеся арыштоўваць. Стоўпіліся цяпер у парозе, паздымалі шапкі. Свістуноў толькі на міг азірнуўся, тут жа, не адказаўшы на прывітанне, адвярнуўся.

— ...мардуеце сябе і іншых...— дадаў яшчэ.

Алесь не паспеў нічога адказаць: дарогу яму, як кажуць, перабег Лядзяш.

— Я не ведаю, што было, што будзе, але я ўсё ненавіджу! — выпаліў ён.— Усё жывучае трэба выполваць!

— А што ж, выбачайце, вынішчаць? — нечакана пачуўся ад дзвярэй голас Сцяпана Супраневіча. Усе

азірнуліся. На іх, вясковых мужчын.— Што ж наш Іванавіч робіць благое? Чаму яно так коле вочы? Чаму так хочацца вам усё стаўчы? Няўжо ўсё гэта не людскае? Няўжо мы не людзі?

Лядзяш заміргаў-заміргаў, а пасля перавёў запытальна-абураючы позірк на Свістунова.

— Чуеце? — усклікнуў.— Дажа мужыкі панаглелі!

— А што? — падаў голас Алесеў бацька, камечачы ў руках старую чорную брылёўку.— А колькі ж ужо так будзе: рабі, як вол, і не пікні?! Вол і той рана ці позна замычыць ці ўбрыкне ад ценжару ды ад панукі!

— Вось панове!..— затросся Лядзяш.

— Ды і надакуцыла ўжо быдляцкае жыцце...— падаў голас і Пятро Чорны.— Час ужо нешта і мяняць...

— А што ж хочаце «новае»? — ціха запытаў Свістуноў. Збялеў. Прыклаў руку да грудзіны, падышоў і сеў на лаву.

— А можа, ужо трэба і цара скідаць...— адказаў Пятро.— Парадкі мяняць...

Лядзяш залыпаў вейкамі, хацеў абарваць, але ад абурэння не знаходзіў патрэбных слоў.

— А што вы ўсё ж хочаце? — запытаў Свістуноў.— Рэспублікі? Волі? Багацця? Зямлі? Каб мы ўсе параўняліся?

— Можа, і так...— не збаяўшыся, адказаў Пятро.

— А што далей? — са знявагаю і з грэблівасцю зірнуў на яго Свістуноў.— Захочаце пераўтварэння каменняў у хлеб ды вады ў віно? Жар-птушкі? Дывана-самалёта? Ботаў-скараходаў? Жывой вады? Ну, а што далей?

— Нешта будзе і далей! — Пятро пацiснуў плячыма.

— «Нешта!» — перакрывіў Свістуноў.— Не ве-

даеце, а бударажыце розум і душу. Далей будуць спакусы, сквапнасць, распуста, эгаізм, выраджэнне, як і ў Рымскай імперыі... А вы,— павярнуўся да Алеся,— паддаліся на хітрыкі Варшавы, нешта, можа, і выдумляеце... Я ж маю звесткі: вас клікаў нядаўна пан Невядомскі, прасіў, каб вы адчынілі ў Налібаках прыватную польскую школу, тэатр. Ён, можа, вас і на гэтую школку падбіў. Можа, вялікія грошы вам за гэта плаціць...

— Вельмі вялікія! — усміхнуўся, перамагаючы гнеў і крыўду, Алесь.— Сто рублёў за адзін урок!

— Жарты жартамі,— зірнуў спадылба Свістуноў.— Я незадаволены вамі, але не лічу вас прапашчым чалавекам. Выкіньце дурное з галавы — я выратую вас ад суда, уладжу зноў у школу...

— Дзякую, князь,— адказаў Алесь.— Я, відаць, як і тое цяля: нарадзіўся з лысінкай, з лысінкай і памру... А пана Невядомскага не варта перахвальваць: ён лічыць, што я паддаўся на хітрыкі Пецярбурга...— Усміхнуўся.— Так што мая работа — «плён» хітрыкаў паноў Свістунова і Невядомскага...

— Падумайце. Даю вам тыдзень на развагу. Не згодзіцеся — пашкадуеце. А цяпер мы мусім забраць усю гэтую вашую агітацыю, паслаць яе ў губерню.

Пазней, калі ўжо ішлі ў цемнаце дадому, Алесь першы загаварыў:

— Дзякую, тата.

— За што? — здзівіўся той.

— За тое, што прыйшлі, за тое, што так сказалі... Я сёння, бадай, упершыню паверыў: будзем мы яшчэ доўга жыць! Будзем людзьмі! Рана ці позна!

— Ой, хлопец! — уздыхнуў стары, тупаючы збоку.— Не паслухаў мяне, не паасцерагаўся — чакай вялікай бяды. Душа мая чуе: цяпер-то не размінешся з турмою...

## 5

Янка мінуў амаль апусцелую за зіму дрывотню, загуменне і ішоў-ішоў па старой разорыне — у канец іхняга леташняга бульбянішча. Як згледзеў, што па сценцы, угнуўшыся, ідзе чалавек (спачатку нават не пазнаў, хто гэта), апамятаўся: куды ён сам ідзе? Чаго? З сякераю ў руках? Ішоў жа ў дрывотню — накалоць смалякоў.

Павярнуў назад. Падумаў: не трэба гэтак задумвацца, траціць развагу. Як сам не свой. Ні сну ўночы, ні спакою ўдзень. З-за яе, з-за Зосі.

Што так павернецца ўсё ў іх, што такое яна ўчыніць, ніколі не чакаў. Хадзілі колькі разам, дакляравалі адно аднаму сваё сяброўства, каханне, марылі пажаніцца, яна адмовіла нядаўна Дзежку — і на табе: узяла хлеб і гарэлку ад Гарбацэвічаў! Няўжо хадзіла з ім, мілавалася, а думала пра багацея, пра Віцю? Не, не можа быць. Яна ж смяялася з таго, за хлопца не лічыла. Ці бацькі змусілі?

Вярнуўся ў дрывотню — цемнаватую, з апошняю складнёю сухіх хваёвых і бярозавых дроў, з горкаю смаляных круглячкоў. Запыніўся і зноў забыўся: а чаго ён сюды зайшоў? Ага, насекчы смалякоў.

Раскалоў смаляны круглячок напалавіне, пасля пачаў дзяўбаць адну з палавінак на дробныя трэскі.

Рыпнулі дзверы ў дрывотню — зайшла Кастуся.

— Нашто ты столькі сячэш? — здзівілася.

І праўда, не заўважыў, шмат перасек ужо на трэскі і другую палавіну кругляка. Але сястры нічога не адказаў. Пачаў накладаць карчажку на руку — несці ў хату.

— Я занясу,— сказала Кастуся.— А табе тата сказаў напаіць каня.

Ён скінуў карчажку долу, пайшоў да хлява. Кастуся праводзіла яго здзіўленым позіркам.

Калі вёў за аброць каня да рачулкі, убачыў за Гарбацэвічавым гумном Віцю. Той мёў загуменне. Згледзеў яго — шмыгнуў у гумно.

Баіцца ці саромеецца. Ведае ж: абкрадае яго, Янку. І неспадзявана, бессардэчна.

Конь сам спусціўся па тупкім беразе ля мастка да рачулкі, піў ваду, піў, здаецца, сонца, што кружочкам гайдалася каля яго губ, піў блакітнае неба, падымаў галаву — тады нібы жаваў, і з яго рота падалі ў рэчку буйныя кроплі вады, разбівалі вадзяное сонца, мружылі вадзяное неба,— пазіраў убок, на вёску. Бессвядома азірнуўся і Янка: конь, выходзіць, пазіраў не так на вёску, як на чалавека, што ішоў сюды. На кабету. На Зосю. Яна несла пад пахаю мядніцу з бялізнаю — паласкаць.

Сысці? Уцячы? Ён жа два вечары пазбягае ўжо яе — не прыходзіў у дамоўленае месца на спатканне. Нават не ведаў: яна прыходзіць ці не? Але вось цяпер, удзень яшчэ, могуць сустрэцца. І, можа, не зусім выпадкова.

Але пра што яны будуць гаварыць? Ужо ж без патрэбы ўсякія апраўдальныя ці суцяшальныя словы. Тады ж, калі былі сваты, не адмовілася ўзяць хлеб! Не адмовілася ісці за Віцю, не зберагла іхняе каханне, пакрыўдзіла яго, Янку.

Конь напіўся, выйшаў на бераг. Стаў і нібы наўмысна пазіраў на Зосю, як хваліўся: а мы цябе бачым, чакаем! Нешта пад'юшчыла — і Янка тузнуў каня за вобраць і павёў яго ад рэчкі. Прыкінуўся, што яе, Зосі, не заўважыў. Ішоў і вагаўся: адыходзіцца, крыўдаваць, караць Зосю няўвагаю ды суровасцю ці ўсё ж запыніцца, пагаварыць, паслухаць, што яму скажа? І чым далей адыходзіўся, тым больш вагаўся. Але не запыняўся, не паварочваў назад. Толькі дакараў сябе: не, не па-людску ён робіць. Яна ж не пабаялася нават удзень прыйсці да яго,

можа, і спадзявалася, што ён паможа, а тут такі паварот! Янка ўявіў, пра што яны маглі б гаварыць.

«Два вечары чакала — не прыйшоў...» — пасля некаторага маўчання, мусіць, не то з папрокам, не то са скаргаю сказала б Зося.

«Чаго ісці? — адказаў бы ён.— Сяроўна...»

«Можа, яшчэ і не сяроўна... Няўжо ўжо нічога не перайначыць?»

Ён, відаць, упершыню падняў бы галаву, зазірнуў бы ёй у вочы. Можа, яго позірк і нядобра бліснуў бы. Можа, яна не вытрымала б гэтай пранізлівасці, зніякавела б.

«Мама і тата населі, сілаю пруць...» — не то паскардзілася б, не то апраўдалася б.

Такое апраўданне ён не палічыў бы за апраўданне. Бацькі маглі і сілаю перці, але ці трэба было самой здавацца? Ён жа, як бацька ні гнаў у сваты да Анелькі, не пайшоў! Дзеля яе, Зосі!

«Яначак...— бадай, ступіла б, зірнула, здаецца, не ў вочы, а ў душу.— Давай уцячом з Янкавін! Удваіх! Хоць куды!»

«Куды?» — не зарадаваўся б, а толькі здзівіўся.

«Хоць куды! Куды вочы глядзяць!»

«Як жа ты ўцячэш ужо?! Ты ж хлеб узяла! Клятву, зарок дала!»

«Я не брала хлеб, клятвы не давала! Я толькі падышла да стала, усё за мяне ўзяў тата».

«Сяроўна. Не адмовіла ж».

«Давай уцячом! Жывуць жа людзі і на чужыне...»

«Без хаты? Без зямлі? Без нічога?»

«Пайшлі ў парабкі! Да пана Свістунова! — магла б ажывіцца, і ў яе вачах заблішчэў бы яе чароўны агеньчык.— Ну і што, калі нашы бацькі — не парабкі, а гаспадары! Такой бяды з гонарам! Скажы, пакліч — і я ўцяку з дому, пайду за табою хоць на край свету! Мама і тата пазлуюць, сплацяць тым за

хлеб і гарэлку, але на тым і сядуць... Адпусцяцца потым... Дык і вернемся пасля...»

Адчуў: не асмеліўся б на такі рашучы ўчынак. І не з-за бацькоўскай волі, не з-за страху пачынаць жыццё без кала ды двара, а — з-за ганьбы: гаспадарскі сын ідзе ў парабкі!

«Пан, кажуць, прадае лес, зямлю — збіраецца назусім уцячы адгэтуль...— мусіць, адказаў бы вось так. Не зусім шчыра ды цвёрда.— Дык і не бярэ парабкаў...»

«Што ж рабіць, Яначак? — страціўшы гэтую, можа, і апошнюю надзею на іхняе шчасце, запытала б Зося. Толькі цяпер, бадай, апусціла б мядніцу долу, бо, канечне, забалелі б рукі.— Падкажы! Я ж не хачу за яго замуж! І жыць не хачу!»

Схамянуўся ці, лепш сказаць, разгубіўся: а Зося магла так і не гаварыць.

«Чаму ж ты, такі смелы, першы не прыехаў у сваты? — магла б запытаць і ашаламіць яго гэтым запытаннем.— Чаму толькі я вінаватая, а ты святы?»

«Казаў жа: бацька не пусціў...— паныла мармытнуў бы.— Упёрся: не, да сваёй Зосі-Мангосі не паедзеш! На пакровы пойдзеш сватацца да Анелькі».

«Не пусціў цябе бацька? — ухапілася б за яго адказ, як за нітку збавення ад дакораў.— Дык ты добры, харошы, што паслухаў бацьку? Хочаш, каб і вёска цябе хваліла: малайчына Янка, паважае старыя законы, бацькоў! А я павінна была не паслухаць, абняславіцца? Я кепская, благая, што, як і ты, не дамаглася свайго? Адна я толькі вінаватая?»

Замаўчаў бы. Як мыла з'еўшы. І, бадай, зайшоўся б ад болю, як вось душыць боль цяпер: ён, ён, ён вінаваты, што разладзілася іхняе каханне, што не будуць мужам і жонкаю, што ёй трэба ісці ў паганую сям'ю за нялюбага! Божа, чаму ты не навучыў, не памог быць рашучым, смелым?

## 6

Ураднік Петухоў падаў Алесю паперыну і ручку. Хаваючы мітуслівыя вочы, буркнуў:

— Распішыцеся, што атрымалі, і аддайце мне...

— Пачакайце,— прамовіў Алесь са здрадлівым хваляваннем (ужо сам прыход Петухова не дакляраваў нічога добрага).— Дайце хоць зірнуць, што тут і да чаго.

— Прыемнага мала,— адказаў той. Ямчэй усеўся на лаве каля акна, насупіўся важна, хоць і стараўся быць ветлівы.— Позва на суд.

Сюды, да стала, падышлі ўсе, хто быў цяпер у хаце,— маці, Кастуся, Ядзя. Пасталі, пазіралі з утрапеннем. У хаце стала ціха. Чуваць былі з двара далёкія дзяціныя галасы, а таксама і піск мухі ў кутце над сталом, за абразікам. Яе, канечне ж, злавіў сваім павуціннем павук. Вось Петухоў зірнуў туды, у кут, і, здаецца, у яго зеленаватых вачах, на тонкіх вуснах заблудзіла зларадная ўсмешка, нібы ён хацеў сказаць: «Ну што, папаліся?!»

Уголас, аднак, прамовіў іншае, стрыманае:

— Была б позва белага колеру, дык ішлі б на судзе як сведка, а раз чырвоная...

— «Повестка Виленской судебной палаты,— пачаў чытаць Алесь, каб і ўсе чулі, і каб супакоіцца самому (у позве было шмат скарачэнняў, але ён чытаў усё цалкам).— Кр. Александр Иванов Немкевич, жит. в селе Янковины 3-го стана Ошмянского уезда, на основании 581 ст. Уст. угол. суд. вызывается в судебное заседание Виленской судебной палаты в гор. Минске, в здании окружного суда, в качестве обвиняемого на 21 апреля 1914 г. к 12 часам дня, по делу о нем и другом, обвиняемых по 51 и 129 ст. Угол. улож.».

Усе родзічы па-ранейшаму анямела маўчалі;

Алесь прабег позіркам па бланку: далей, пасля самой позвы, было: «Сведения о расстояниях», «Повестку получил...», «Повестку вручил...», «Порядок вручения повестки», на адвароце — «Последствия неявки в суд», «Законные причины неявки в суд».

— Божачка мілы, за што ж будуць судзіць?! — пляснула рукамі маці.— Ці ж ён украў нешта, ці чалавека забіў?

Петухоў зноў апусціў вочы, напомніў:

— Распішыцеся, Аляксандр Іванавіч, і аддайце позву мне. Мы аддадзім яе прыставу, а той верне судовай палаце.

Алесю стала ўжо няёмка, што Петухоў бачыць разгубленасць і адчай у іхняй сям'і. Каб не даць яму вельмі пацешыцца, ён наўмысна загаварыў да таго:

— Вы не можаце, панураднік,— пры гэтым наўмысна не назваў таго па імені і па бацьку, а толькі як службовую асобу,— растлумачыць, што значаць 51-шы і 129-ты артыкулы?

— Чаму не, магу,— ахвотна згадзіўся той, дастаў з сумачкі «Уголовное уложение».— Артыкул 129 мае на ўвазе асоб, вінаватых «в произнесении или чтении публично речи или сочинения или в распространении или публичном выставлении сочинения или изображения, возбуждающих: 1) к учинению бунтовщического или изменнического деяния; 2) к ниспровержению существующего в государстве общественного строя; 3) к неповиновению или противодействию закону... 6) вражду между отдельными частями или классами населения, между сословиями или между хозяевами и рабочими». За гэта можа быць высылка на пасяленне, зняволенне ў «исправительном доме» альбо ў турме да 3 гадоў (пры абцяжарваючых акалічнасцях да 8 гадоў катаргі).— І далей, не падымаючы галавы, дадаў: —

У артыкуле 51 гаворыцца аб «преступном деянии, учиненном несколькими лицами»...

Маці заламала рукі, глуха застагнала; заміргалі-заміргалі вейкамі Кастуся і Ядзя, плаксіва зморшчыліся.

— Так што наракаць вам не варта...— складваючы паперы ў сумку, прамовіў Петухоў.— Злачынныя дзеянні Аляксандра Іванавіча яўныя, відавочныя. Гэта: і яго прамовы перад канцэртамі, і падбухторванне сялян да змены існуючага ладу, і яго часопісы, і злачынная групаўшчына...

Петухоў зноў стрымана, нібы ветліва развітаўся і пашыбаваў з хаты, важна несучы пад пахаю рудую сумачку.

Маці загаласіла. Зірнуўшы, Алесь убачыў у яе невялікіх, шараватых, нават, бадай, ужо выцвілых вачах страх. Боль за яго, як яна думала, разумнага, добрага, але нешчаслівага сына.

— Пасадзяць цябе, сынок,— прыгарнула да грудзей худыя рукі.— Змарнуюць твае маладыя гады.

Ён і сам цяпер разгубіўся: праўду маці кажа, пасадзяць. Ну што ж, турма дык турма. Урэшце перасталі катаваць душу, рашылі вызначыць яго лёс. Лепш ведаць, што будзе, чым жыць з няясным чаканнем і з няведаннем, што будзе нават заўтра. Перасіліў разгубленасць, адчай, усміхнуўся:

— Не спяшайцеся аплакваць мяне... Я ж не нябожчык. І да пакарання смерцю не прысудзяць...

Але пазней, калі расхваляваныя кабеты пайшлі на двор, у грады, а ён застаўся адзін у цеснай цяпер, здаецца, і няўтульнай хаце, не мог супакоіцца. Нешта зрушылася ў яго душы. Ён стаў сам не свой. Ці можа хто быць спакойны, абыякавы да пагрозы кары, турмы? Ды за што? Калі судзілі б за хітрасць, крадзеж, забойства ці прыстасавальніцтва, дык было б нашмат лягчэй.

«Якія трэба даваць паказанні? — думаў.— Па якой «дзейнасці, што падрывае асновы нашага самадзяржаўя»? Хіба ўсё тое, што я рабіў, можна назваць толькі так? Хіба ніхто не заступіцца?»

Не знаходзіў сёння прытулку ні каля сваіх кніг, ні на ціхім, сонечным двары. Адчуў: трэба сысці некуды, пабыць аднаму. І ён сцежкаю падаўся да Мoгліц, да лесу.

З загумення згледзеў: у сваім двары стаіць, абапёршыся на плот, Шлёма і пазірае на ўсход, удалячынь. Відаць, думае пра сына, які нечакана, тыдзень таму, збег з дому. Ні ім, бацькам, ні яму, Алесю, нічога не сказаў. Учора Шлёма прыходзіў да іх, распытваўся, можа, ён, Алесь, што ведае пра Фолю. Не пачуўшы нічога, змаркотнеў, хітаў галавою, скардзіўся, што бог кепскага сына яму даў.

Малады лес цяпер, яснаю, цёплаю часінаю, быў павесялелы. Свежы, зялёны, абмыты вясеннімі дажджамі. Пад шмат якімі хвоечкамі былі новыя жаўтаватыя ямкі — нехта драў маладое карэнне на кошыкі. Сям-там былі зрэзаныя, зламаныя верхавінкі, замест іх жаўцеліся аголеныя канцы — дзеці скручвалі верхавінкі на стралялкі ці, можа, і на калатушкі. Па хвойніку зелянелася высокая трава, купкі шчаўя; недзе блізка зачэкала сарока; у небе заліваўся жаваранак: паблізу зарыпеў воз, заляскалі колы — відаць, нехта з гаспадароў вёз дровы. Усё знаёмае, звыклае, як і кожны дзень. Ды толькі нязвыкла было, калі не пуста, дык крыўдна, пакутліва, самотна на яго душы.

Алесь сышоў з тупкай дарогі і пайшоў маладняком. Цяпер адчуў: ён павінен не толькі пабыць сам-насам, але мусіць схадзіць да Гаспадаракаменя.

Мінуўшы Могліцы, перасек падсохлае ўжо, з маленькім зялёным пустазеллем аранае ўвосень поле,

гладкую і тупкую стаўбцоўска-кляцішчанскую дарогу-сыпанку і па яе ўзбочыне, дзе было шмат раўчукоў пасля паводкі, змытых з дарогі жоўтых каменьчыкаў і пяску, пайшоў да блізкага маладога бору, да Палосак, як тут казалі. Пазней, каля таго лесу, каля межавых слупоў і табліцы з назваю лесу, павярнуў налева і па іншай, ужо вузейшай і няроўнай дарозе, што вяла ў Сухі Мох, куды людзі ездзілі па бярэзнік, па сена, падаўся да валуна.

Гаспадар-камень быў відаць здалёк. Ён, зверху белаваты, пасярэдзіне нібы ружовы, здаецца, выветраны да шкляной празрыстасці і цвёрдасці, спадыспаду нібы не зусім ужо моцны, шэры, абраслы тоўстым цвёрдым мохам, патрэсканы, быў вышэйшы за чалавека і ёмісты. Цяжка было зразумець, як і калі заявілася тут такая вялізная глыба. Каля валуна ўжо і сёлета нехта быў: на гладкім доле былі відаць сляды ад лапцей, а гэтаксама чарнелася невялікае патухлае цяпельца.

Алесь, падышоўшы, прытуліўся грудзінай, прыклаў далоні да Гаспадара-каменя — паверхня яго з гэтага, паўночнага боку пеканула халадком, бо, выходзіць, намёрзлы за зіму камень не паспеў яшчэ сагрэцца, а адтуль, з сярэдзіны, душою адчувалася спрадвечная стынь, морак, адчувалася магутная нямая цішыня. Гавары, што і як ні крычы, як ні кайся, ні спавядайся, ні прасі памагчы — Гаспадар-камень не пачуе, не паможа. Але чаму ён, нямы і глухі, халодны, так вабіць да сябе людзей?

«Чаго ты тут ляжыш, камень? Дзеля чаго ты тут усяму сведкаю? — падумаў Алесь.— Стагоддзямі ўсё чуеш, бачыш, але маўчыш! Ні душы, ні сэрца ў цябе... Няўжо ты і вабіш толькі таму, каб і нас, людзей, зрабіць нямымі, халоднымі, каменнымі, пазбавіць нас агню, душы і сэрца? Няўжо за гэта ты, Гаспадар-камень, паважаны?»

*«Вось цяпер я разумею, чаму ты, Гаспадар-камень, вабіш, што хочаш сказаць... Цяпер я ведаю ясна, што мне рабіць... Трэба выкрасаць у сабе і ў людскіх сэрцах іскры! Ёсць жа, ёсць яны і ў самым-самым каменным сэрцы!»*

Успомнілася:

Ведай, брат малады, што ў грудзях
у людзей
Сэрцы цвёрдыя, быццам з каменняя.
Разаб'еіцца аб іх слабы верш заўсягды,
Не збудзіўшы святога сумлення.
Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеннем.
Як ударыш ты ім,— ён, як звон, зазвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменняў[1].

— А ці пырсне хоць іскрачка з цябе, лежань ты сонны? — прамовіў, ударыў раз-другі кулаком па Гаспадары-камені.— Хоць раз??? У стагоддзе!!!

Дзе там! Ад гэтых нікчэмных для каменя ўдараў зайшлося, засаднела толькі рабро далоні.

— Нямы!!! Глухі!!! Мёртвы!!! — прастагнаў Алесь.— Дык нашто ты тут? Мёртвы сведка, помнік па жывому? Ці толькі ты, мёртвы, і захаваеш тыя словы, што былі калісьці выбіты на табе з усходняга боку? Ці яны хутка ўжо забудуцца і табою?

Адхіліўся ў знямозе, апусціў галаву. Там, каля ног, вочы заўважылі два невялікія выпадковыя, відаць, нядаўна прынесеныя некім з поля камяні. Алесь, бадай, несвядома нагнуўся, узяў большы камень і, бадай, зноў несвядома, па нейкім нядобрым інстынкце, ударыў ім па Гаспадары-камені. Камень — той, што быў у руцэ, не вытрымаў, раскалоўся, рассыпаўся на дробныя рудаватыя кавалкі, што паляцелі долу, яму на ногі. Тады ён падняў другі, меншы, камень. Адчуў: той больш важкі, а значыць, і больш цвёрды. Размахнуўся і ўдарыў ім бокам. І яшчэ не паспеў адчуць, што ад гэтага ўдару стала балюча яго руцэ, як у здзіўленні, разгубленасці выпусціў камень з рук: ад Гаспадара-каменя адскочылася некалькі іскраў. Яркія, чырванаватыя.

[1] Верш Максіма Багдановіча «Песняру».

13 Зак. 2205

Мільганулі ў вачах, як зорачкі, і патухлі. І яшчэ ў гэты міг заўважыў: ад гэтага ўдару на целе Гаспадара-каменя засталася ранка-выбоінка. І іх, такіх ранак-выбоінак, вакол было вельмі шмат...

— Жыві!!! — прашаптаў уражаны, анямелы.— Боль, агонь у камені!!! А што ж я, дурань, раблю?.. Даруй, любы! — прыткнуў лоб да цёплага ўжо, здаецца, валуна.— Вось цяпер я разумею, чаму ты сюды вабіш... што ты хочаш сказаць... Даруй! Цяпер я ведаю ясна, што мне рабіць... Сёння, заўтра, паслязаўтра, заўсёды. Трэба выкрасаць у сабе і ў людскіх сэрцах іскры! Ёсць жа, ёсць яны нават і ў самым-самым каменным сэрцы!

## 7

Мінск сустрэў Алеся не зусім прыхільна. Неба хмурылася, крапаў дробны халаднаваты дождж. Драўляны Брэсцкі вакзал, будынкі, брук былі мокрыя, зіхоткія, адлюстроўвалі бліскучы халодны водсвет.

Паблізу вакзала якраз стаяў вагон — Алесь толькі зірнуў на мокрыя, бліскучыя спіны тройкі коней, на адзінокага на пярэдняй адкрытай пляцоўцы фурмана пад набрынялым капюшонам, на багата апранутых мужчын і кабет у сярэдзіне вагона і пайшоў уздоўж конкі.

Угнуўшы галаву, крочыў то па дашчатым, цагляным слізкім, то па няроўным, патрэсканым асфальтавым тратуары, пераходзіў брукаваныя вуліцы — шлях яго быў па Маскоўскай, Захараўскай і Губернатарскай вуліцах да Саборнай плошчы. Нікуды не збочваючы, ні да чога асабліва не прыгледжваючыся, ішоў да акругавага суда.

Людзі — у вагонах альбо пешакі-сустрэчныя са стасямітысячнага гурту мінчукоў — не зважалі на

яго. Ды якую ўвагу маглі яны мець да пабочнага чалавека? Адкуль яны ведалі, чаго ён прыехаў у іхні горад: у госці, на пошукі шчасця ці на суд? Каб знаді, куды і чаго шыбуе, дык, можа, пільней прыгледзеліся б. Хто як на дзівака, хто як на злачынцу. Хто паспачуваў бы, а хто і падакараў бы.

«Спакойна,— суцішваў сам сябе.— Толькі не трань дух. Ты ўжо не падлетак, добра ведаеш: пры болі кожны адзін. Колькі б табе ні гаварылі, што і як баліць, але боль можаш адчуць толькі сам».

...Калі выйшаў з акруговага суда, дык аж зажмурыўся: хмары сплылі, неба павышэла, выблакітнілася, і ярка, на ўсю маладую вясновую моц лашчыла зямлю сонца. Будынкі, брук, блізкі гарадскі сквер выпраменьвалі нябачную пару, сушэлі, і ад гэтага прыпарвання было хмельна, крыху млосна, як бывае заўсёды ўвесну, калі яшчэ мала зелені ды беднае паветра на жыватворны, лёгкі і спрыяльны для здароўя водар. З бляшанай белай трубы, што вісела за парадным уваходам, цурчала вада на цьмяны, сям-там з сухімі плямінамі тратуар.

Алесю стала млосна не ад змены надвор'я, нечаканага цяпла. Ад таго, што нядаўна расказаў яго адвакат, Дайлідчык, якога параіў яму Васіль Муха.

Дайлідчык, яшчэ малады, недзе ля сарака гадоў, здаецца, разумны і спачувальны чалавек, сказаў, што «по составу преступления» віна яго невялікая, на добры толк яго маглі б толькі «прыстрашыць» альбо пакараць не зусім строга, але пракурор Севярнёў будзе патрабаваць судзіць яго па 129 артыкуле і дабівацца, каб яму далі не меней трох гадоў турмы. Пракурор — вядомы рэтраград і цемрашал, вельмі непрымірымы да такіх, як Алесь, і да таго, чым яны займаюцца. А школка, якую Алесь адчыніў у сваіх Янкавінах (пра яе ў судовых паперах нямала звестак), толькі паддасць злосці ды помсты.

«Не даруюць, Аляксандр Іванавіч, пасадзяць,— са спачуваннем сказаў Дайлідчык.— Калі пакаецеся, як ваш калега Кірыковіч, дык, можа, мне ўдасца для вас збіць які год альбо і два...»

Дык вось ні змененае надвор'е, ні пагроза яго волі, а вестка пра Кірыковіча засмуціла Алеся. Нават больш — разгубіла, азмрочыла. Кірыковіч, выходзіць, цяпер і каецца за свае «грахі», і ўскладвае ўсю віну толькі на Алеся. Яго, Кірыковіча, бачыце, «падманулі», «спакусілі пайсці злачыннаю сцежкай», ён жа сам і не хацеў і не хоча «зламысьнічаць, шкодзіць веры, цару і Айчыне месніцкімі падбухторваннямі». Гэта, канечне, была здрада. І не толькі аднаму Алесю. Здрада ёсць здрада; як бы ні апраўдваўся, у імя чаго здрадзіў, але ўсялякае апраўданне не можа быць дабрачыннасцю. Балюча: нашто ж так адмаўляцца ад таго, што лічыў сумленнем, светлым? Нашто ж апаганьваць сяброў, справу? Для выратавання свайго гонару? Але ці такім чынам трэба ратавацца? Ці ўсё ж можна апраўдаць і паганыя ўчынкі?

Алесь мінуў будынак акругавага суда — былы базыліянскі мужчынскі кляштар, у адчайнасці ды абурэнні падаўся ўздоўж конкі да Верхняга рынку — гандлёвых радоў. Там, а таксама і ў ажыўленых гандлёвых радах на Ніжнім рынку — адной з самых старажытных мясцін, раёне Мінскага замчышча — ён любіў паблукаць. Да нечага прыглядзецца, штосьці купіць, людзей паслухаць.

Калі лягчэй панеслі з горкі ногі, схамянуўся: куды і чаго ідзе? Калі што прыдбае, дык усё роўна на судзе альбо ў турме адбяруць. Вярнуўся і ўздоўж кранутага зелянотай, з невысокай агароджай сквера вымкнуўся на Саборную плошчу — да трохпавярховага будынка Азоўска-Данскога камерцыйнага банка і купецкага клуба. Тут на першым паверсе, апрача

крам, была і аптэка, куды ён раней не раз зазіраў: аптэку трымаў знаёмы па Стоўбцах чалавек, Штэйман. Але цяпер Алесь не пайшоў да аптэкара, безуважна зірнуў на вывеску «Аптека Штейманна» ды на вузкую і доўгую шыльду «В. М. Берманъ», што была пасярод будынка пасля апошняга паверха на вастраватым паўкруглым узвышэнні. Раней Штэйман любіў з ім пагаварыць, падказваў, дзе і ў каго можна нешта купіць, даваў усялякія парады, але цяпер ісці да таго не хацелася: і не было чым хваліцца, і той яму нічога не паможа.

«Пахаджу па горадзе, пасля пайду да знаёмых прасіцца нанач. А заўтра... начлег дасць ужо ўлада...»

Запыніўся, акінуў позіркам Саборную плошчу.

«А файны Мінск! — здзівіўся.— Раней гэта чамусьці не зусім бачыў, больш захапляўся Вільняю...»

Перад ім як на далоні была старажытная, упарадкаваная мясціна Мінска — яе цэнтр, Верхні горад, Саборная плошча і вуліцы, што адыходзіліся ад яе. Нібы развітваючыся, акінуў усё-ўсё прагным позіркам: просты, але зручны губернатарскі дом, ля яго — высокі белы, з чырвонай чарапіцаю на стрэхах езуіцкі касцёл з некалькімі калонамі, купаламі і нібы пікамі, Казённую палату з вежаю-ўзвышэннем, на якой былі гадзіннікі, а за скверам, насупраць, на рагу Саборнай плошчы і Губернатарскай вуліцы — самы высокі на сённяшні дзень у Мінску гмах, шасціпавярховую, з мноствам акон, балкончыкаў, з мансардамі наверсе гасцініцу «Европа». Над шостым паверхам, на правільным паўкрузе здалёку відаць назва гасцініцы, а над першым паверхам, над крамамі, скрозь яшчэ не густое лісце добра бачыцца вывеска «А. М. Левинъ».

У яго аж забалела сэрца: хутка ён убачыць зусім

іншы краявід — не даўнія і вабныя архітэктурныя ансамблі, вуліцы, скверы, а суровыя мураваныя сцены ды закрачаныя вокны.

Самотна перайшоў выбрукаваную Саборную плошчу і падаўся да Захараўскай вуліцы, зноў бязудзельна пазіраючы на шматлікія спакуслівыя вывескі на Губернатарскай, што заклікалі зайсці то ў «Фруктовую торговлю», у «Меховую», то ў «Табачный магазинъ А. Рудермана, то да «Мышалова», які мог прадаць капялюш, адным словам, горад жыў сваім жыццём, не зважаючы ні на нішто, нехта хацеў штосьці купіць, нехта хацеў штосьці збыць.

На скрыжаванні Алесь запыніўся, з хвіліну павагаўшыся: куды далей ісці? Можа, зайсці ў блізкі «Электро-театръ «Эденъ», паглядзець кіно, крыху развесяліцца? Ды не, не вабіць пазіраць на чалавечкаў, якія то бегаюць безупынку, то хітруюць, абманваюць, крадуць, распусьнічаюць, лупцуюць адзін аднаго і ўсё гэта вытвараюць пад шалёна-вясёлую музыку. Да кіно ён быў абыякавы, нават больш — лічыў, што яно адцягвае ад сур'ёзнага мастацтва, небяспечнае сваімі пацешкамі-хохмачкамі, здзіўляўся і нават баяўся той цягі, якую мела да яго гарадская моладзь.

Захаваўшы і цяпер сваю непрыязнь да кіно, падаўся па Захараўскай вуліцы да кнігарні, куды заўсёды заходзіў і з ахвотаю, і са святам у душы, як у госці да самага разумнага і добрага сябра. Тым больш у гэтай кнігарні заўсёды былі і старыя рэдкія кнігі.

Яшчэ з парога абмацаў вачыма высокія стэлажы з кнігамі, старога рыжага прадаўца, рэдкіх пакупнікоў. У куце, дзе звычайна стаялі самыя даўнія кнігі, згледзеў знаёмую постаць — невысокага, у паношаным касцюмчыку мужчыну.

Алесь падышоў, узяў ззаду таго за локці.

— Грамадзянін! — строга прамовіў.— Вы арыштаваны!

Сямён Васілевіч уздрыгануў, азірнуўся.

— А! Ты! — неяк квола, нярадасна ўсміхнуўся. У яго вачах быў застаялы смутак.— Чаго ты тут?

— А ты?

— Доўгая гісторыя...— Сямён загарнуў кнігу, паставіў яе ў выемку сярод тоўстых старадаўніх кніг. Яны адышліся ад стэлажа, да блізкага акна. За шыбінаю яго (для тых, хто ідзе тратуарам) ляжалі на падаконніку рэкламныя кнігі.— А ты сёння, бачу,— кіўнуў Сямён на пляцак,— сюды прыехаў?

— Сёння. Заўтра мой суд.

Васілевіч нявесела зірнуў на яго, здзівіўся, здаецца, што Алесь гаворыць без засмучэння.

«Што з ім? — здзівіўся і Алесь.— Ніколі не бачыў яго такога сумнага! Пастрашнеў, пастарэў раптоўна. Як дзядок ужо».

— А ўсё ж чаго ты тут? — запытаў.

— Выперлі з Вільні...— хмурна адказаў той.— Шукаю шчасця тут, у Мінску. Каля «Сахі» [1] ці каля новага часопіса «Лучынка» [2].

— А за што змусілі пакінуць Вільню?

— Усё за тое ж... Ды яшчэ і нашы з табой сябручкі паспрыялі...

Алесь не зразумеў: як нашкодзілі «сябручкі»?

— Давай не будзем пра маё...— зморшчыўся Васілевіч.— У цябе і свайго гора хапае. Давай выйдзем, сходзім у Аляксандраўскі сад. Пасядзім, пагаворым, як табе трымацца на судзе.

---

[1] «Саха» — с.-г. часопіс. Выдаваўся з красавіка 1912 года да кастрычніка 1913 г. у Вільні, з лістапада 1913 года да студзеня 1915 у Мінску на беларускай мове штомесячна.

[2] «Лучынка» — юнацкі краязнаўчы ілюстраваны часопіс. Выдаваўся ў 1914 годзе ў Мінску на беларускай мове. Выйшла 6 нумароў.

Падаліся з кнігарні.

— Не, ты ўсё ж раскажы, што здарылася,— адагнаўшы свае думы, сказаў Алесь. Бо не мог быць абыякавы да сябравай бяды. Душою адчуваў: той засмуціўся нездарма.— Паспрачаўся з Юрыем?

— Разышоўся навек...

— З-за вёскі і сялян? — усміхнуўся Алесь.

— Не. На гэты раз па іншай прычыне...— паныла прамовіў той, з адчаем апусціў рукі.— Канцы, Алесь. Мы — адзіночкі... Нас мала хто падтрымлівае... Мы ці згарым самі, ці нас з'ядуць па аднаму...

— Ды скажы ты толкам, што здарылася?

— Што? — Сямён прыпыніўся, у парыве эмоцый даволі недалікатна адпіхнуў яго з тратуара да сцяны недалёкага цаглянага дома. Далей ад людзей.— Юры — забойца, Васіль — памагаты!

Алесь, мусіць, аж вырачыў вочы: што ты, Сямён?

— Не пазірай на мяне як на вар'ята,— сказаў Сямён.— Юры — сапраўды забойца, а Васіль — памагаты! Я ім так і сказаў. У вочы.

— Прашу: растлумач усё,— зноў папрасіў Алесь.

— Разумееш, Юры-крытык мае цікавую методу: любіць браць у пісьменнікаў інтэрв'ю, адказы на пытанні, выказванні і думкі на пэўныя тэмы, аўтабіяграфіі...— запаліста загаварыў Сямён.— Вось ён нядаўна падкаціўся булачкаю і да Янкі Купалы: выкажце, Іван Дамінікавіч, свае погляды да рэгіянальнага ў літаратуры. Дзядзька Янка даў яму прачытаць тэзісы свайго новага, яшчэ рукапіснага, артыкула. Тыдзень таму Муха, Юры і я выступаем на адным літаратурным вечары перад віленскімі настаўнікамі. Юры доўга расхвальваў тэорыі Шапенгаўэра, Ніцшэ, стыль мадэрн у мастацтве, творчасць рускіх сімвалістаў Бальмонта, Мережкоўскага, Гіпіус, Салагуба, Белага і іншых. Вось, маўляў, што

нам цяпер трэба, вось чым жыве сапраўдная літаратура! А што тут у нас робіцца? У нас, панове, нашы Купала і Колас усё ніяк не вырвуцца з «мужыкоўскага» асяроддзя, свету. Пасля кажа са здзекам: «Заўважце, панове: нашы дамарошчаныя «класікі» — не толькі творцы, але і тэарэтыкі. Паслухайце, як шчыра, але наіўна тлумачыць сваё крэда Янка Купала». І прачытаў тыя тэзісы Купалавага артыкула. Ды як чытаў! Са здзекам, з пагардаю, з крыўляннем! Добра, што Муха даў мне слова апошняму. Я тут жа і ўрэзаў Юрыю. Па-першае, сказаў, не табе, жаўтаротаму, раўняцца з Купалам, а па-другое, як ты мог палемізаваць, маючы на ўвазе яшчэ не надрукаваны артыкул? Гэта ж неэтычна, нават непрыстойна! Па-трэцяе, чаму Купала, ужо такая значная асоба, не можа мець свой погляд на жыццё, літаратуру?! Думаеш, Юры ацвярэзіўся? Дудкі! Праз некалькі дзён у «Виленским вестнику» ён надрукаваў адкрыты ліст Янку Купалу, дзе стараўся ўшчэнт апаганіць яго артыкул, абвінавачваючы ў розных «ізмах», абсмяяць, прынізіць яго паэзію і паэзію іншых паэтаў заадно... Ну, дык хто Юры? Не забойца з вялікай дарогі?

Сямён выхапіў з унутранай кішэні пінжака два белыя лісткі.

— Вось копія таго Купалавага артыкула «А ўсё ж такі мы жывём!..»[1] На, пачытай у вольны час. Артыкул вельмі надзённы і здаровы,— адгарнуў ліст, пачаў сам чытаць: «Але ўсё ж такі жыццё ідзе іначай: яго законы сільнейшыя ад якіх бы то ні было законаў чалавецкіх. Старое, струхлеўшае, аджыўшае свой век ідзе проч, на пагібель, а новае, святое, радаснае занімае сваё пачэснае месца і вядзе наро-

---

[1] Надрукаваны ў «Нашай ніве», 1914, № 21—22 пад подпісам: І. Л., а таксама — у Зборы твораў, 1976, т. 7, с. 207.

ды і аддзельных людзей к добраму, вечнаму... І наша Бацькаўшчына перажывала і перажывае тое самае... Будзіцца самапачуццё народнае, падымае старонка наша свае вочы к сонцу і распрастоўвае свае магучыя плечы...» Адным словам, пачытай сам. На, пачытаі і той адкрыты ліст «Литература настоящая и мнимая».

— Аж не верыцца, што Юры мог так зрабіць...— пахітаў галавою Алесь, беручы лісткі.

— Я табе ўжо не адзін раз казаў, хто такі Юры. Толькі ты не заўсёды мне верыў,— папікнуў Сямён.— А Муха ні слоўца не сказаў ні пра Юрава, ні пра маё выступленне, але з таго вечара пайшоў не са мною, а разам з Юрам. Назаўтра я бягом да Мухі. Чаму, змей, змаўчаў, не заступіўся за Купалу? А ён ухмыляецца: «Што — паказытаў Юры самалюбства?» Кінь, кажу, дурныя жарцікі. Козыт той мне ці Купалу страшны, як ваўку сабачая звяга. Па ім будзем жыць. Страшней іншае. Хіба не бачыш, куды цэліцца, у што пасылае стралу злыдзень?! Муха зноў непарушны: «А ты не гарачыся. Не бяда, што нападае. Горш, калі тоіцца і шкодзіць спадцішка. Я наўмысна змаўчаў. Няхай усе самі бачаць, хто ён. Хай пераканаюцца: хоць і цяпер забрахаў, але сабакам быў заўсёды! І не трэба крыўдзіцца (варта быць вышэй), падымаць лямант. Лепш змаўчаць, каб не насцярожыць лішне Пецярбург...»

Сямён расхваляваўся: твар яго пабіла чырвань. Відаць, забалела не вельмі здаровае сэрца.

— Нават і тут, на болі, Муха выгаду сабе знайшоў! І ўсім добры ды харошы! — занегадаваў Сямён.— А дзядзька Янка кажа: не бяда, калі нападае злыдзень, бяда, калі знявераешся, топчаш сваё сам. І напомніў некалішнія свае словы, з артыкула «Думкі з пабыцця на Іматры»: «Дзіўна і несправядліва звініць наша беспералыннае: «Край наш бедны, зям-

лі мала!» Мне здаецца, што не край наш бедны, а толькі мы яго абяднілі ды наша мачыха-доля...» [1]

— А як публіка, чытачы ацанілі адкрыты ліст Юрыя? — запытаў Алесь.

— Па-рознаму. Адны заходзілі ў рэдакцыю і ціснулі Купалу руку ці прысылалі спачувальныя лісты, іншыя прамаўчалі, а той-сёй пры сустрэчы, азіраючыся, казаў: «Я за вас, хлопцы. Толькі вы пра гэта нікому ні кажэце: той паганец можа спрытна падвесці пад палітыку...» Зрэшты, ён, «дабрадзей», цяпер у Мінску. У маці. Зайдзі — пагавары, зірні ў вочы. Не чорцікі, а чорта там убачыш...

— З-за згрызот сумлення пакінуў Вільню ці прыехаў адпачыць?

— Будзе перабірацца ў Пецярбург, ва універсітэт. Ён, бачыце, даўно «перарос» губерню, правінцыю, нас, мужыкоў. Яму трэба прастор! Слава! Дзеля яе ён што хочаш кіне! Куды хочаш паедзе! Ды не хачу больш гаварыць пра мярзотніка. Едзе — няхай з'язджае к чорту. Абыдземся і без яго. Не прападзём. Давай пагаворым пра твой суд. Як думаеш на ім паводзіцца?

— Ды, відаць, трэба трымацца.

— Бог яго ведае, Алесь,— уздыхнуў Сямён.— Можа, мы з табою — дзівакі, дон-кіхоты. Можа, наш мудры Васіль Іванавіч і талковае раіць, калі вучыць не лезці на ражон, а дабівацца свайго ўпотай і спакваля... Сапраўды, ці не брыкаемся мы безнадзейна і марна? Няма ж ні сілы, ні падтрымкі. Зашмат абыякавасці, угодлівасці, хітранькага маўчання, пакоры. І, чорт пабяры, у генах усё гэта...

— Скажу табе шчыра,— прызнаўся Алесь.— Не хочацца ні ісці на суд, ні садзіцца ў турму. Якая

---

[1] Упершыню — у «Нашай ніве», 1910, № 29—30, а таксама — і ў Зборы твораў, т. 7, с. 174.

тут уцеха? Які набытак? Але я ўжо гэтага не баюся. Перажыў. Мне цяпер баліць мацней іншае. Малады, здаровы, тое-сёе ведаеш, умееш, можаш, а талковага робіш зусім мала...

— Не толькі ты адзін вінаваты за гэта,— перапыніў, але прамовіў ціха, нават тужліва Сямён.— Нехта ўладны наўмысна падстройвае, каб такія, як мы, не жылі па законах сумлення, шмат не рабілі. Яны падбіваюць, каб ты хітрыў, прыліпаў, быў халуём альбо чах, калі намагаешся жыць інакш. Уладныя гэтага свету заўсёды ведалі і ведаюць, як спакушаць, разбураць светлыя розумы і сумленныя душы...

— Я таксама думаў часта пра гэта,— сказаў Алесь,— нават задаваў сабе пытанне: як жыць? Сумленна, са светлымі парывамі — не ўдаецца, з хітрыкаю, з разлікам — не хочацца, прыкра... Дык дзе выйсце? Няўжо няма здаровай сілы, смеласці? Няўжо іскры не могуць перарасці ў полымя? Няўжо не жывучая наша ідэя? Няўжо нам толькі адно і застаецца — гамонкі, гамонкі, гамонкі? Дык колькі ж ужо мы будзем толькі варушыць мазгамі, малоць языкамі, вяшчаць, заклікаць і... нічога не рабіць?!

— А датуль, пакуль будуць у моцы ўладныя гэтага свету,— паныла адказаў Сямён.— Але няхай і яны надта не радуюцца за сваю моц. Хоць і перамаглі ў нядаўнюю рэвалюцыю, але сядзяць на бочцы з порахам. Цяпер, пасля перамогі, наш цар-бацюшка ўсё больш і больш усталёўвае не лад ды гармонію, а аднастайныя звычкі. Паняцці дабра і зла — тое, за што самыя светлыя розумы ваявалі стагоддзямі — усё больш і больш змешваюцца з паняццямі «трэба» і «не трэба». А што дае звычка? Яна не толькі прытупляе, але яна і размывае думку, пачуццё, топча чалавечую душу, мізэрніць асобу. Яна, урэшце, запыняе барацьбу, цягу да сапраўднага,

лепшага. Уся ж гісторыя з гэтай барацьбы, цягі! І калі шмат якія народы не маюць гісторыі, дык таму, што не мелі барацьбы, жылі ў спакоі, па разліку, па звычцы... Ці не так?

Алесь зноў прамаўчаў.

— Вось цяпер 1914 год,— горка спавядаўся Сямён.— Як кажуць, найвышэйшая вяршыня для чалавека. Для яго навукі, эканомікі, ваеннай тэхнікі, думкі. Але свет, наша імперыя, як ніколі, шырокімі крокамі ідуць і да пасрэднасці. Бо яна ўсё больш і больш афармляецца. І не абы-якая. А гуртавая. Яна ненавідзіць усё рэзкае, адметнае, яна хоча быць агульнаю. Яна засмоктвае асоб, што глыбока разумеюць, шмат адчуваюць ды хочуць нешта змяніць, і заадно ўжо выхоўвае пакаленні ў духу пасрэднасці... Як у нас кажуць пра асобу адметную, неспакойную? «Ён робіць тое, што ніхто не робіць!» ці «Ён не робіць тое, што ўсе робяць!». Для такой маралі вялікага розуму, пачуцця не трэба. Шчыры, сумленны, неспакойны змагар супраць зла, звычак — значыць, ты дзівак альбо адшчапенец, экстрэміст, а то і вораг «веры, цара і Айчыны». Будзь, як і ўсе,— ты малайчына, разумны чалавек! Воля перад царом, урадам — адно, воля перад грамадою, звычкамі, норавамі, мёртвай сілаю раўнадушнасці, двурушніцтвам, прыстасавальніцтвам, пасрэднасцю — іншае. Можна змусіць і цара, і яго ўрад раскілзаць, папусціць лейцы, як ужо і змусілі тое-сёе аблегчыць пасля 1905-га, але вось паадолець звычку амаль няможна. Бо тая акаменьвае. Як валун. Хочаш ці не хочаш, але трэба ёй падпарадкоўвацца. А гэта яшчэ болей дробніць, мізэрыць густы, інтарэсы, марнуе людскую энергію, зацятвае цінаю «добропорядочности». Розумы, душы бяднеюць. Заяўляюцца падобныя статкавыя тыпы... Таму ты, іншы, не трэба!

— Няўжо няможна пераадолець звычку?

— Бадай, не. Цяпер. Ты зірні, што цяпер робіцца. Карупцыя, крадзеж, апатыя, разбэшчанасць. Падзенне культуры. Паэзія адарвалася ад зямлі, ад чалавека, захліснулася ў віне, дыме, у дэкадэнцкіх выкрунтасах, проза таксама разгубілася, тэатр з Чэхавым трымаўся, а цяпер размываецца. А якая цяпер музыка, танцы, мода! А кіно! Усюды высмейваецца жывое, самабытнае, вылучаецца нешта безабліччнае. Здаровы голас высміхоўваецца, цкуецца...

— Ці не перабольшваеш ты, Сямён? — усміхнуўся Алесь.— Ці не згушчаеш фарбы?

— Не ведаю,— уздыхнуў той.— Я, Саша, разгубіўся... Бачу: свет быў доўга і ёсць неўладкаваны. Было шмат падзей, перамен, але толку, здаецца, мала. Усё марна, самападман і самасуцяшэнне. Адно расчараванне за адным...

...Увечар, развітаўшыся з Сямёнам, Алесь падаўся да Юрыя. Пакуль ён быў на волі, а Юры — тут, у Мінску, дык варта было сустрэцца.

Патрэбную хату ён знайшоў хутка — адразу за рэчкаю, паблізу Траецкай гары. Гэты невысокі і не вельмі прасторны драўляны домік абкружалі плот з высокаю, як і ў некаторых вёсках, брамаю, старыя вішні, бэз — зялёныя, пахкія. Падышоўшы да сянец, убачыў: гэтая, ад вуліцы, палавіна хаты цёмная, а другая, ад гародчыка, асветленая.

«Два гады ўжо не бачыліся,— падумаў.— Які ён цяпер? Па-ранейшаму шустры, хударлявы ці папаўнеў, пасалíднеў?»

На Алесеў званок ніхто доўга не адклікаўся. Толькі праз колькі хвілін дзверы хаты прачыніліся. Але не насцеж — былі ўзяты на ланцужок.

— Хто там? — пачуўся дзявочы голас.

— Гэта — Нямкевіч,— адказаў ён.— Выбачайце, а Юры дома?

— Дома,— пачуўся адказ. Тут жа дзверы адчы-

ніліся зусім, і ён у сенцах-верандзе ўбачыў маладую дзяўчыну. Ці тутэйшую пакаёўку, ці кватарантку — Юры быў у бацькоў (маці — настаўніца, бацька пры жыцці — ювелір) адзін.— Заходзьце. Распранайцеся. Я пайду далажу Юрыю Барысавічу.

— Выбачайце,— зноў перапрасіў дзяўчыну (здаецца, пакаёўку).— Калі ласка, не дакладвайце. Я хачу зайсці знянацку. Можна?

Тая паціснула плечыкамі, павагалася. Дазволіла. Пачала памагаць яму распранацца. І праз колькі хвілін паказала, куды ісці. Мінулі цёмны пакой — відаць, гасціную (тут стаяла канапа, шафка на пасуду, стол), пасля — залу (тут таксама была канапа, стол, а на падлозе ляжаў яшчэ дыван ды абапал сцен стаялі шафы з кнігамі). У залу скупа, праз няшчыльна зачыненыя дзверы, падала святло з суправцьлеглага пакоя. З яго чулася ляпанне машынкі. Там, мусіць, быў Юраў кабінет.

Алесь, падзякаваўшы дзяўчыне за прывод, пастукаў. Тут жа ляпанне машынкі супынілася.

— Зараз. Хвіліначку! — пачуўся Юраў голас.

Алесь пацягнуў на сябе дзверы, адчыніў — сюды хлынула святло ад лямпы, што чамусьці стаяла на падлозе. Анямеў. Запыніўся і з жахам пазіраў у маленькі пакой: лічы, пасярод яго вісеў уверх нагамі Юры. На складзеных адна да адной босых нагах быў мяккі — відаць, скураны і абшыты шэрсцю — ашыйнік, да вýшак ашыйніка былі прывязаны пастронкі. Яны ж былі зачэплены аж на столі — да жалезных крукоў. Паласатыя піжамныя штаны аб'ехалі Юру па худыя, тонкія калені, агаліўшы непрывабныя галёнкі. Пальцы ног, здаецца, аж пасінелі. У іх, канечне ж, цяпер было мала крыві.

«Што з ім? — жахнуўся Алесь.— Сабраўся вешацца? Нагамі ўгору?! Але не, толькі што ж ляпаў на машынцы...»

Юры гайдануўся, павярнуўся. Алесь зірнуў на яго твар. Шчокі, лоб былі чырвоныя, нібы аплылі ад натугі. Юравы рукі ўсё яшчэ абвісалі, даставалі амаль да падлогі. А на ёй, справа ад лямпы, стаяла пішучая машынка.

Калі Алесь перавёў дыханне — дзякуй богу, жывы! — Юры адчапіў каля сцяны ад пятлі ручку (а ручка была ад лябёдкі, што стаяла пры сцяне) і папакруціў. Лябёдка пачала круціцца, нагортваць пастронкі — Юравы ногі апусціліся ўніз. Вось ён лёг на спіну, сеў, расшпіліў на ашыйніку моцныя гаплікі і зняў ашыйнік з ног. Стаў. Хіснуўся. Узяў з блізкага стала акуляры з пазалочанымі дужкамі, начапіў на таўставаты і крышку кірпаты нос. Пазіраў і, здаецца, яшчэ не толькі не мог пазнаць, але і ўбачыць; цёмныя зрэнкі ў карычневых кругах былі пашыраныя. Цела яго за гэтыя два гады прыкметна папаўнела, позірк паглыбеў, на скронях заявілася сівізна.

— Ну і Юры! — паківаў галавою.— Ну напалохаў!

— А, гэта ты, Дзед! — усміхнуўся той.— Здароў.

Даволі ж даўно не бачыліся, але не кінуўся насустрач, не абняў, а толькі падаў руку.

— Ты што — рыхтуешся ў цыркачы? — запытаў Алесь, азіраючы лябёдку.— Ці гэта такая начная гімнастыка?

— Найноўшая метода...— здаецца, крышку збянтэжыўся гаспадар, хоць збянтэжыць яго ўвогуле было цяжка.— Калі падвесішся за ногі, дык уся кроў прылівае да галавы, добра «харчуе» мозг. Тады іначай бачыш свет. Больш ярка і эмацыянальна...

— Заўсёды ты, Юра, у палоне нейкіх метод, тэорый і канцэпцый...— усміхнуўся Алесь.— А што, калі раптам сальецца ўся кроў у галаву і не адхлыне? Раней, як помню, ты, каб больш пісаць, не браў

ні кроплі гарэлкі, піў шмат моцнай кавы, перад сном — прастаквашу.

— Тое — не тое...— усміхнуўся і Юры.— Кава ўзбуджае, псуе сэрца, прастакваша — кішэчнік... А ты не змяніўся! Як быў юнак, так і застаўся ім. Толькі яшчэ схудзеў. Відаць, трапіў ужо ў нечыя сеці, дзетак плойму завёў, аддаўся сям'і...

Юры — жартаўнік. «Шустрачок», як кажа Сямён, ці «цынік», як думае Васіль. Вось пацешыўся. Сам не жаніўся, бо бярог сябе для навукі і крытыкі, і заўсёды пакепліваў з жанатых.

— Я не жыву ні па якой методзе, але яшчэ не жаніўся...

— Калі суд?

— Паслязаўтра.

— Даскакаўся! Па-дурному!

— Ну чаму «па-дурному»? — незалюбіў Алесь.

— Па-дурному, малец,— паблажліва паўтарыў Юры, стараючыся не пазіраць у вочы.— Ты мог бы са сваёю працавітасцю горы перавярнуць, а так змарнуеш попусту свой дар. З турмы выйдзеш з пакалечанаю душою. Неўрастэнікам альбо самаадрачэнцам.

— Пераначуем — тады новае і пачуем...

— Бач, не баіцца! Не каецца!

— Я ж не флюгер, Юры. Ды ў нашы гады трэба ўжо мець ясную і перакананую веру...

— О! — кпліва ўсклікнуў той.— Баец! Рэдкі экземпляр сярод вас, вясковых настаўнікаў... А я, малец, лічыў: пужанулі крыху — ты ў шчыліну. Як клоп. Як і іншыя.

Пазней, калі селі за стол і пілі пададзеную пакаёўкаю гарбату, елі пячэнне, Алесь запытаў:

— Чаму ты, Юры, едзеш у Пецярбург?

— Ты адкуль ведаеш? — здзівіўся той.— Бачыўся тут з Сямёнам?

— Ды сустрэліся нядаўна выпадкова ў кнігарні.

— Які ён? — усміхнуўся гаспадар.— Разгубленыя? Ашалелы? Кляў і шальмаваў мяне на чым свет стаіць?

— Не,— прамовіў Алесь, стараючыся як мага больш пазіраць у вочы, але Юры іх хаваў, адводзіў.— Пры развазе.

— Ды кінь ты жартаваць, малец,— перапыніў яго Юры.— Не было, няма і не будзе ў яго развагі... Ён — хворы чалавек. Псіх, а то яшчэ і горш.

— Сямён — не хворы. Ён шчыры, непасрэдны, захоплены ідэямі.

— Расказаў пра нашу перапалку? Пра мой адкрыты ліст?

— Расказаў.

— Ну і як ты ацаніў усё тое?

— Выбачай, Юры, але ты паводзішся, мякка кажучы, дзіўна...

— У чым? — той прыплюшчыў вочы.

— Ва ўсім.

— Не, малец. Гэта вы з Сямёнам паводзіцеся, мякка кажучы, дзіўна, а не я...— неспадзявана ўзгарэўся Юры.— Аслеплі, пашалелі ад любові да вёскі, сялян ды веры ў іхнія «вялікія сілы»! Набралі сабе ў галаву: сялянскія вершаскладальнікі Купала і Колас — класікі ўжо!

— Хіба грэх — любіць вёску, сялян? Хіба не захаваны там багаты і цудоўны скарб? Няўжо Купала, Колас — усяго толькі вершаскладальнікі, як ты кажаш са зняважаю?

— Пратрыце вочы, прачысціце вушы: вёска наша — закіданы сметнік, сяляне — дурныя куры, а іхнія песняры-самародкі — агародныя пудзілы...

Пачуўшы гэта, Алесь аж закруціў галавою.

— Вось гэта дык нянавісць! — прамовіў.— Як ты толькі і ясі сялянскія бульбу, мяса, хлеб, мёд, п'еш малако?!

— Ладна, не лаві на слове...— незалюбіў ужо Юры.— Я не зневажаю, я хачу, каб вы менш замілоўваліся ды расчульваліся, а больш разважалі, дбалі пра будучыню... Няўжо не бачыш: паэзія тая — прымітыўная?

— Прабач, але я лічу: чалавека, справу губіць не толькі фанабэрыя, але і знявага ды самазнявага. Ты яўна не толькі недаацэньваеш вёску, сялян, фальклор, паэзію Купалы і Коласа, але ўжо і шкодзіш такою ацэнкаю. Ты забіваеш дух, ахвоту, творчыя сілы...

— Ну, дзякуй! — хмыкнуў Юры.— Дзякуй за маю горкую праўду, за мае парады, за жаданне бачыць нашу літаратуру развітай і багатай...

— Я не зусім разумею тваю «зычлівасць»...

— Уцямце вы, мужыччо: каравы лапаць — чыстаму хромаваму боту не таварыш! — уз'юшыўся Юры.— Не намаўляйце, не тлуміце галовы Купалу, Коласу і іншым, што яны «ідуць па плённай дарозе», «адлюстроўваюць народныя думы і пачуцці», адным словам, ужо класікі! Не спяшайцеся з захлёбам хваліцца, што ёсць ужо «сапраўдная літаратура».

— Усё ж ясней патлумач, чаму наш чалавек, па-твойму, быў, ёсць і будзе толькі лапатнік? Чаму ён не мае права на боты?!

— Цяпер — не мае!

— А некалі?

— Думаю, будучыні ў яго няма. Люд наш, як кажуць, «примечательный отдельными личностями, но жалок в целом»...

— Скажу шчыра,— уздыхнуў Алесь,— не хочацца з табою нават гаварыць...

— А ты слухай, слухай! Праўду! Дык, можа, будзеш болей дбаць пра духоўнасць, пазіраць не пад ногі сабе, а ўдалячынь! — рэзка адказаў Юры.— Вось на такім, як піша твой землячок, «Мой родны

кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы! Не раз, утомлены дарогай, жыццём вясны мае ўбогай, к табе я ў думках залятаю і там душою спачываю» [1] ў людзі не выйдзеш...

— Можа, Юры, я нечага і не разумею. Але мне здаецца, што якраз з гэтым, з любоўю, трэба ісці ў людзі. Без любові ўсё будзе не роднае, не мілае і не дарагое.

— Дык любіце свае лучыны, лапці, мужыкоў! — хмыкнуў той.— Выйдзеце ў людзі! Узрасціцё! Аж да нябёс...— Зірнуў у вочы. Бадай, упершыню за вечар доўга, хоць не зусім смела.— Ды зразумейце вы, олухі: вам трэба яшчэ выйсці з пячэры, набыць чалавечы выгляд, а пасля ўжо імкнуцца да цывілізаваных людзей. Зірніце, што і як робяць Бальмонт, Мераджкоўскі, Гіпіус, Белы, Салагуб! Вось гэта новае, важкае слова ў літаратуры! Упоравень з новым стагоддзем, з новым часам! Страснае імкненне ў будучыню!

— А мне здаецца, Юры, што ёсць нямала ў сімвалістаў вартага, але і нямала вытанчанай, але непатрэбнай пены, пустазелля,— спакойна прамовіў Алесь.— Трэба яшчэ падумаць добра: яны будуюць новы гмах ці разбураюць той, што быў ужо? Ці чаго ў іх больш — удалых пошукаў альбо блытаніны?

— Во мужыцкая натура! — пазларадніраў гаспадар.— Старасвецкая, першабытная боязь усяго новага! І рукамі, і нагамі ўхапіўся за свой плоцік і больш нічога не бачу, не хачу!

— Не змешвай, калі ласка, усё ў адзін кош: і новае, і бесталковае...— незалюбіў, але не павысіў голасу Алесь.— Я амаль усё сваё жыццё пражыў у вёсцы, сярод сялян, бачу многія іхнія хібы, пераж ы-

---

[1] Раздзел «Леснікова пасада» з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», адкуль вышэйзгаданыя радкі, упершыню друкаваўся ў «Нашай ніве», 1912, № 28—29.

ваю за іх, але... Я не магу мець да іх нянавісць, адракацца, шукаць сабе нейкае іншае, невядомае мне апірышча... А ты... Я цябе не зусім разумею...

— Зразумейце, нам трэба іншая літаратура,— сказаў Юры, ужо з запалам.— Так, усе мы, лічы, сяляне. Дык давайце і выведзем сапраўдны яго вобраз! А хто наш селянін? Працавіты, цярплівы, памяркоўны, гасцінны, але супярэчлівы, паслужлівы, двудушны, цёмны і дзікі, карыслівы, схільны да п'янства і зладзейства, абыякавы да свайго ж болю... Дык чаму не адлюстраваць усімі фарбамі такога нягодніка?! Можа, прыпячэ яму, хоць крыху заварушыцца?! Можа, такою горкаю праўдай станем цікавыя ўсяму свету?!

— Не ведаю...— разгубіўся Алесь.— Нешта ёсць у тваіх словах слушнае, але шмат і страшнага... Ты хочаш стаць настаўнікам, лідэрам ці нават прарокам, але не ўсе за табою пойдуць...

— Твае ж куміры, Купала і Колас, шмат пішуць пра «сонца», пра «волю»...— павесялеў, нібы беручы над ім верх Юры.— Але хіба не бачыце: наш мужык абыякавы да гэтых поклічаў, ён не дабіваецца ні «сонца», ні «волі». Ён любіць лад, цвёрдую руку. Стогне і ў сваіх стогнах чуе асалоду. Волю любяць дзёрзкія, гордыя... А вы, кажу, паслеплі ад любові да вёскі і селяніна... Ён жа ў любы час адрачэцца ад вас...

— Усё ж ты супярэчны, Юры,— прамовіў Алесь.— Адно без меры ганіш, перад іншым без меры лісліваш...

— Хочаш, скажу папраўдзе? — прыплюшчыў той вочы.

— Ну, скажы.

— А я экзаменую...— ухмыльнуўся. Хітра, з намёкам.— Хачу ўбачыць, хто чаго варты? Хто ўстоіць, а хто не?

— Змей ты, Юры. І, можа, шматгаловы.

— Малайчына! Пранікнёны! — нечакана той зарагатаў, ляпнуў па плечуку.— Я, малец, іншы, чым вы. Вы служыце Творцу, яго ідэям, а я сапраўды прадаў душу Д'яблу.

Творца стварыў свет, прыроду, людзей, усё жывое і нежывое, але не дабіўся гармоніі, ладу,— насміхаючыся, гаварыў Юры.— Ад гэтага колькі ўжо часу адны беды ды няшчасці. Д'ябал хоча пераманіць людзей да сябе і перабудаваць свет. Па сваёй задуме. І ён пераманьвае, перабудоўвае. Поўная яго перамога ўжо блізка.

— Калі ты загаварыў сімваламі, дык дазволь і табе адказаць гэтак жа,— не без ухмылкі, а сур'ёзна сказаў Алесь.— Народная мудрасць засведчыла гэткія спробы Д'ябла, усякіх змеяў. Помніш, шматлікія казкі расказваюць, як на нашы землі прыляталі шматгаловыя Цуды-юды, спакушалі ці заваёўвалі люд, запалоньвалі, пілі кроў, але перамагчы ўсё ж не маглі. Рана ці позна знаходзіўся асілак — нейкі галодны, бедны, босы, маўклівы, але дужы целам і душою Удовін сын — і біў Цуду-юду. Яму памагалі купецкі і царскі сыны, хоць і без вялікай ахвоты ды карысці... Дык няўжо, думаеш, цяпер не знойдзецца на твайго ідала Удовін сын?

— Можа, і знойдзецца,— ухмыльнуўся Юры.— Але ж і новы Цуда-юда будзе хітрэйшы. Ён, можа, ужо не пачне адразу біцца з новым Удовіным сынам, а спачатку гарэлкаю ці іншымі спакусамі абяссіліць, зробіць сляпым служкаю...

— Дык ты...

— Не набірай абы-чаго ў галаву, малец! — перапыніў, не даў гаварыць яму Юры.— Я жартую!

Алесь сумеўся: як і перасцерагаў Сямён, у Юравых вачах гарэзавалі не чорцікі, а скакаў, шалёна гарцаваў сам Д'ябал.

8

Як і ўгадаў адвакат, суд апраўдаў Кірыковіча за «чистосердечное раскаяние», Алеся ж прызнаў «виновным» па 129 артыкуле і даў тры гады турмы.

Адразу ж, пасля прысуду, варта прыняла Алеся да мінскага астрога і аддала яго турэмнай адміністрацыі.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

1

На змовіны разам з Віцем і Салвэсем-сватам прыйшоў і сам Пётрык Гарбацэвіч.

Зося, здаецца, упершыню ўбачыла старога Гарбацэвіча ўвабранага. Звычайна ён і ў святыя, і ў буднія дні не скідаў палатаных штаноў, лапцей, вышмальцаванай шэрай світкі, а тут зайшоў у хромавых ботах, чорным не новым, але мала паношаным, чыстым галіфэ, у белай кашулі, выгалены. Дык нібы чужы. Заадно і страшны. Бо ў яго глыбакаватых вялікіх вачах было штосьці нядобрае. Нейкая злосць ці то пагарда, незадавальненне.

І бацька, і маці засакаталі перад ім, запабегалі. Аж брыдка было пазіраць, як яны ліслівяць.

— Ну то садзіся разам за стол і ты, дзеўка,— зірнуў на яе спадылба Гарбацэвіч.— Разам жа будзем гаманіць, калі на тое ідзе...

— Садзіся, дачушка,— прамовіла маці, пасунулася, даючы паміж Галенаю і сабою на ўслоне месца.

Зося ўстала са свайго ложка і падышла да стала,

села. Якраз насупраць Віці. Ён унурыў галаву, не пазіраў. І сёння белы, як снег, з упалымі паголенымі, сям-там з чырвонымі падрэзамі шчокамі і бляклымі вачыма.

«Хворы ён...— жахнулася Зося.— Чужы...»

Сват, Салвэсь, як зайшоў, павітаўся, дык больш і не разяўляў рота. Шчоўкаў падсмажаныя на алеі семкі, збіраючы ў левую далонь шалупінне. Насыпаў жмені са дзве і на стол, але пакуль што да іх ніхто не дакранаўся.

— Давайце спачатку пагаворым пра пасаг,— сказаў Гарбацэвіч, стараючыся не пазіраць на гаспадыню, і яна не падымала вачэй на яго, нібы ўсё яшчэ саромелася, што некалі адмовілася выйсці за яго замуж.— Не мы першыя, не мы астатнія заводзім такі закон. Усе бацькі маладой даюць, дык і вы... Словам, кажэце, што вы самі думаеце даць.

Зося ўбачыла: у бацькі задрыжэла правая рука, дробна затрымцела па стале. Ведала: і няма надта чаго даць, і шкода. Вось і баіцца стары: а раптам Гарбацэвіч паслухае, паслухае, не згодзіцца параднiцца з імі такімі і пойдзе прэч. Асароміць, зганьбіць на ўсе Янкавіны.

— Конь, Пётрык, у мяне адзін...— хвалюючыся, прамовіў бацька.— Ні каня, ні жарабя, значыць, не магу даць. Ды і яна ж кабета. Ёй не так конь трэба, як карова, свінні, куры, серп... Конь ужо для мужчынскай работы. За гаспадаром, значыць...

Зірнуў, што адкажа Гарбацэвіч.

— Цялушачка ест,— спавядаўся бацька.— Дык цялушачку магу аддаць. Ці цяпер, ці падгадаваную. Потым, як свіння апаросіцца, магу парасят даць.

Гарбацэвіч усё маўчаў. Яму, відаць, не так гэта было ў галаве, як іншае. Зямля, лес.

— Зямлі ж у мяне, як ведаеш, пяць дзесяцін. Дзяцей трое...

Зося адчувала: бацька наўмысне жаліцца, тое-сёе вытаргоўвае. Каб Гарбацэвіч паспачуваў, папрасіў меншы пасаг. Знала: той не паспачувае. Не той чалавек. Бо ў яго і леташняга снегу не дапросішся.

— Дзесяціну якую...— бацькаў голас затрымцеў.— Тую, што на палосках... Каля вас...

— Пасаг дык пасаг! — нядобра ажывіўся, заківаў галавою Гарбацэвіч, чамусьці ў гэтую хвіліну пазіраючы толькі на сына. І з дакорам.— З такім пасагам станеш дык станеш на ногі!

— Потым, Пётрык, можа, і больш паможам...

— Потым! Потым! — перакрывіў Гарбацэвіч.— Потым можна і хвастом накрыцца. Сыпчы потым! Усё сказаў? Тады я сваё скажу. Дасі цяля сваё,— загнуў палец,— трое парасят. Некалі лесу дасі на хлеў, бо на хату ў цябе лес абы-які, і не адну, а чатыры дзесяціны зямлі. І не той, што на палосках каля хвойніку, пясочку, а той, што каля вашай лагчынкі... Музыкантаў ноймем на дваіх. Па палавіне заплацім,— прамовіў і, здаецца, зларадна ўсміхнуўся. Ніхто не ведаў, чаму ён усміхнуўся. А ўсміхнуўся ён ад таго, што «загнуў» такі пасаг. Наўмысна. Гэта была яго апошняя спроба разладзіць вяселле, дабіцца, каб самі Мішукі адмовіліся аддаваць дачку.

Бацька збялеў: о, божа, колькі той просіць!

— Што ты, Пётрык! — прашаптаў.— Як жа я з дваімі дзецьмі буду жыць на дзесяціне пяску?!

— Канечне, дзядзька Пётрык залішне хоча ўжо,— падтрымала бацьку Галена.— Зусім абірае свата.

— Я ж гэтаксама павінен думаць пра сына,— стараючыся не спрачацца, прамовіў Гарбацэвіч.

Маці сядзела як укопаная, уражаная ад таго, што іх чакае. Абдзярэ іх Гарбацэвіч як ліпку. З аднаго боку ўсё ж гэта пойдзе не каму чужому, а іх дачцэ, а з другога боку — гэта ж загоніць іх у галоту.

— Збаў, Пётрык, крыху...— папрасіў бацька.— Сам жа ведаеш, і мы не абы-каго даём. Дзяўчына наша і працавітая, і варухлівая, і пагляднамая. Абое з рукамі будуць, дык не прападуць. А добрыя рукі не раз лепей за поўныя скрыні...

— Дык і пра абоіх думаю...

— Збаў, Пётрык. Вазьмі дзве дзесяціны...

Той зірнуў на брата. Салвэсь не пераставаў шчоўкаць семкі.

— Скажы ты! — загневаўся на яго Пётрык.— Ты ж за свата прыехаў, а не семачкі грызці!

І тут не вытрывала, падхапілася Зося.

— Таргуюцца, як за цялушку! — закрычала.

— Сціхні, Зоська! — засыкала на яе маці.— Што ты пляцеш?

— Тата...— упершыню падняў галаву і азваўся Віця.— У нас жа і свайго ўсяго хватае.

Гарбацэвіч скрывіўся, як раскусіў у роце дробку перцу. І дзіва: нічога не адказаў, хоць усе чакалі, што зараз наробіць на сына крыку. Гэта ж нікому ў Янкавінах не ў навіну. Але не закрычаў. Апусціў галаву. І, канечне, ніхто не зразумеў, чаму сёння меў над бацькам моц Віця.

— Давайце думаць, калі зрабіць вяселле...— толькі прамовіў той, даючы ўжо сваю згоду на такі пасаг, які надумаў даць Зосін бацька.

Пасля, калі змовіліся і запілі, пайшлі дадому, Зося жахнулася: ці яна жыве, як і жыла дагэтуль, ці спіць? Пра яе гавораць у хаце, у вёсцы, усе здзіўляюцца, за каго яна ідзе замуж, а яна сама не можа разабрацца, што робіцца, нібы яе падхапіла нейкае магутнае цячэнне і некуды імчыць-нясе — да нейкага глыбознага, крутлівага віру.

«Вяселле... Праз месяц вяселле...— вось зноў нешта гэтае, зямное, пачало даходзіць да яе. Стаяла каля акна, пазірала на зялёненькі ўжо двор, на лю-

дзей, на нечага каня і калёсы на вуліцы і, здаецца, не разумела, нашто ўсё гэта і дзеля чаго.— Трэба будзе ісці замуж, быць жонкаю яму, хірляваму, беламу, як снег, баязліваму і няўдаламу...»

Значыць, ужо напраўду бывай, Янка! Навек бывай! Не будзе ўжо такіх цёмных ночак, калі спатыкаліся, жартавалі, цалаваліся, шапталі адно аднаму такія цёплыя словы... Цяпер Янка ёй ужо чужы, а блізкі, дарагі, самы мілы павінен быць Віця... О, божа! Як жа яна будзе жыць з ім, калі ні кропелечкі яго не кахае, не паважае?! І трэба ж будзе жыць не дзень, не год, а ўсё жыццё! І як яна пакіне гэты родны дом? Свой ложак, печ, маці, бацьку, брата і сястру?.. Не будзе больш хадзіць па сваім двары, у хлеў ды ў гумно, у грады, бо будуць у яе новыя сцежкі ў чужой гаспадарцы, якая ёй такая нямілая... Бо дома і маці, і бацька нагамоняць, накрычаць, але пашкадуюць, бо яна ж ім дачка, а там яе, чужой, не прылашчаць... І чаму яе такая доля? Ці не толькі адна яна нешчаслівая? Ці ва ўсіх дзяўчат такая доля? А што каб на вялікдзень яна далася Янку, каб стала ад яго грубая? Расказала б пазней пра ўсё маці, тая — бацьку, абое накрычалі б на яе, можа, і набілі б нават, але пасля гэтага, відаць, не перлі б ужо толькі за Віцю, а былі б згодныя аддаць і за Янку... І Янкавы бацькі тады, можа, не ўпіраліся б... Бо ніхто ж, як гавораць, не хоча, каб іхняя кроў набок ішла, гаравала... Грэх — давацца да шлюбу? Які ж гэта грэх, калі вось пабаялася яго, паслухала матчыных і царкоўных наказаў, а яно ўсё яшчэ горш выйшла?! Быў бы грэх, дык было б тады і шчасце! А так ні граху, ні шчасця... Але пачакай... А што было б, каб саграшыла, далася Янку, а ён не ўзяў бы яе... Ці сам адумаўся б, пабег да іншай, ці бацькі ўсё роўна не дазволілі? І што яна тады рабіла б з дзіцем? Уся вёска парола б у вочы: прынесла

ў прыполе байструка! На людзі няможна было б выйсці... Як вось цяпер баіцца выйсці Верка... Волька Супраневіч сказала ёй, Зосі, па сакрэту, што Уладак Дземідовіч падмануў Верку, надакляраваў узяць замуж, спаў не раз з ёю, вось яна цяпер і грубая. А Уладак цяпер адвярнуўся, уцякае ад яе. Верка плача і баіцца прызнацца бацькам, бо яе ж бацька, Міхайла, надта ж злы. Дык што? Не разабрацца, дзе добра, а дзе блага! І так кепска, і так кепска? Няўжо і не так, і не сяк няма і не будзе шчасця? Галена выйшла замуж за нялюбага гэтаксама, але потым любіла другога, Вінцука, таго, за каго хацела выйсці... Употай кахала, грашыла... Сінякі насіла, была абгаворанаая, але была і шчаслівая... Няўжо можна любіць употай? Хто забароніць? Ніхто! Нават і бог! Бо і бог не дабрадзей, калі шкадуе шчасця...

— Дачушка! Зоська! — паклікала маці.

Зося азірнулася: маці стаяла за ёю сашчапіўшы рукі. У вялікіх вачах яе быў страх.

— Дзіцятка! — зірнула з жальбою.— Ды не бяры ты гэтак усяго да галавы. Можа, усё і добра будзе. Лепш, чым ты думаеш.

Прамовіла і, здаецца, зусім утрупела: яна, відаць, чакала, што Зося пачне спрачацца, наракаць ці нервова плакаць, а Зося нечакана нават для самой сябе ўсміхнулася з нейкаю хітрыкаю. Дык маці, відаць, і напужалася, ці не звар'яцела дачка ад роспачы? Колькі ж вунь у песнях пяецца ды людзі расказваюць пра такіх дзяўчат, што вар'яцеюць, сохнуць па сваім любым!

## 2

Як і наказвалі некалі дзед і бацька, Ясь Нямкевіч выехаў на поле араць пад ярыну ў загадзя вызначаны дзень. Тыя заўсёды першае ворыва пачы-

калі толькі ці ў аўторак, ці ў чацвер, а сеялі ўвесну ўсякую ярыну ў той дзень, у які ўвосень выпадаў першы іней ці снег — каб усё добра ўрадзіла. Часамі гэта праўдзіла, часамі і не, але Нямкевіч шанаваў старыя звычаі, помніў, ведаў на ўсе работы свой каляндар. Гной вазіў толькі на поўню, бо, лічыў, вывезеш на сыходніх днях — не абярэшся потым ад пустазелля. Каб добра ўрадзіла, стараўся не пачынаць сеяць першы, чакаў, калі пасее сусед. Пакуль увесну не пасеюць ярыны, дык не забіваў у зямлю і кала, каб зерне не забілася, узышло. Калі араў каля хлява, дык асцерагаўся зачапіць плугам будыніны — каб не калолася быдла, не грызліся свінні... Словам, меў сотні вось такіх прыкмет, не вельмі, праўда, гаварыў пра іх уголас, але людзі ўсё роўна адчувалі, што ён робіць усё «па навуцы», дык пільнаваліся за ім.

І сёння, гледзячы на яго, шмат хто выехаў араць. Сусед, Гарбацэвіч, гэтаксама. Падсохлае ўжо, выветранае шэрае поле ажыло; на ім тужыліся і коні, і людзі, адчуваючы хваляванне і радасць ад работы, якой даўно ўжо чакалі. Хто-хто, а вясковы чалавек такі: стамляецца, падрываецца, старэе ад работы, а ўсё роўна нічога больш на свеце не любіць, як яе.

Ясь Нямкевіч лёгка ішоў за плугам, убіраючы ў сябе цёплы і хмельны пах свежай зямлі, адчуваючы ў руках, здаецца, яшчэ маладую сілу. Ён добра ведаў сваё поле. Знаў, дзе можна заглыбіць плуг, бо там і чорная зямля глыбока, і няма каменняў, знаў, дзе трэба прыпадняць нарог, бо там жоўты пясок і вялікія, якія не зрушыш з месца, камяні.

Даараў да самай мяжы — да Касцюкевічавага шнура. Завярнуў каня, пусціў плуг у зямлю і прыпыніўся. Не, не адпачыць. Пачакаць сына, Янку. Той хадзіў па ворыве і збіраў у кошык каменне, насіў яго пад ігрушу. Ясь любіў, каб поле было чыстае, каб на ім не было ні вялікага, ні малога камення. Хоць коль-

кі ты ні збірай, таго ўсё роўна хапае. Адзін бог ведае, адкуль яно бярэцца. Нібы расце, як грыбы.

— Можа, ты паарэш? — сказаў, калі сын падышоў да яго. Той хацеў прайсці і не падняць нават галавы. Сярдуе, што ў свой час не дазволіў паехаць у сваты да Зосі Мішуковай, перажывае, што тая ідзе замуж за Гарбацэвічавага Віцю.

Ясь адчуваў сваю віну. Праўда, апраўдваў сябе, сваю задуму ажаніць Янку з Гарбацэвічавай Анельскаю, бо той будзе пасля гэтага гаспадар на ўсю вёску, але ўсё роўна адчуваў і няёмкасць: як-ніяк, а пакрыўдзіў, не ўважыў, быў жорсткі. Адно, што суцяшала яго, дык гэта тое, што Гарбацэвіч апярэдзіў, паслаў сватоў да Зосі. Ён колькі разоў апраўдваўся гэтым, але не апраўдаўся, бо і сыны, Янка ды Алесь, і дачка ды жонка ўпотай зацяліся на яго. Нібы ён непрыяцель Янку. І ў хаце іх запанавала маўклівая няшчырасць, непрыязнь.

— Паары, а я пазбіраю... — сказаў.

Янка моўчкі паставіў долу кошык і пайшоў на яго месца. А ён падаўся да каня, нібы перавязаць пастронкі. На самай справе хацеў пагаварыць.

— Ары як трэба, не толькі абы чорным дагары. Рабі ўсякую работу як след, ■ душою. Зямля як і кабета, лашчыш, любіш, трэшся, мацаеш — пададатная, падзяклівая. Не глядзіш, абы-як паводзішся — злая... Дык зямлю трэба любіць і шанаваць. Яна ж карміцелька наша. І корміць, і поіць, і адзяе. Не любіш зямлі, не аддаеш ёй душы — не гаспадар ты...

Янка слухаў бацьку і маўчаў. Сёння ён не вельмі браў да душы, да розуму бацькаву навуку, бо чуў яе ўжо і раней часта, згаджаўся з ёю і ведаў, што якраз па ёй і будзе жыць. Цяпер жа, калі зірнуў на высокую старую грушу, успомніў адно лета, жніво. Тады маці зрабілася кепска, яна ўпала, страціла прытомнасць. Ён прынёс яе да грушы, у цень, куды неў-

забаве збегліся і ўсе кабеты з поля. Сярод іх была і Зося. І яна тады неяк вельмі ж незвычайна, са шчырасцю, са спачуваннем, нават з нейкаю любасцю пазірала на яго, і той яе позірк узварушыў яго душу, помніцца і цяпер і, мусіць, ніколі ўжо не забудзецца...

Бацька перасупоніў хамут, адышоўся. Янка, так нічога і не прамовіўшы, цмокнуў на каня і павёў плуг. Роўна. Не запускаў яго глыбока і не падымаў. Талковы хлопец. Не прападзе, будзе жыць. Але во змяніўся на вачах. Які працавіты, дзёрзкі, такі ж і зацінлівы. Не па ім выйшла — дык бунтаваў, аж, здаецца, хату ледзь не перавярнуў, зацяўся. Калі яшчэ і малы быў, дык меў свой характар. Ужо ў два гады не дала маці грудзей, дык ён не роў і не выў, а так зацяўся, што аж на галаве вошы заявіліся ад жалобы.

«Адпусціцца, нідзе не дзенецца... — падумаў, беручыся за кошык.— Перагарыць, стане ў аглоблі — пасватаем да Анелькі... Пётрык-то цяпер падбівае, каб прысылаў сватоў. Хоча заадно два вяселлі зрабіць. Але цяпер нам цяжка зрабіць вяселле, ды і якое будзе вяселле, калі Янку будзе яно нямілае, калі, можа, ён з другой маладой вачэй не будзе зводзіць... Увосень, па новым хлебе, усё зробім».

### 3

За Буднікаваю хатаю сварыліся кабеты.

— А каб яны прапалі! — лямантавала старая Буднічыха, стоячы ў сваім гародчыку і падпёршы бокі рукамі.— Яны ўжо мне ўсе грады павыграбалі, каб яны падохлі і ты падохлых загрэбла!

— Каб цябе самую калі не сёння, дык заўтра як здыхату загрэблі! — адказала ёй суседка,Ваўчыха, са свайго гародчыка.— Барсучыха ты мардатая.

— Я мардатая? — ускіпела Буднічыха.— А ты якая? Красуня? Ты... Пудзіла ты! Караўка!

— А ты чысцёха? — не ўступала Ваўчыха.— У цябе самой лыжкі ніколі не мытыя, каб цябе на той свет мылі! У хаце ніколі не мецена, ложкі не засланыя! Пад ложкам як наваліў летась кот, дык і цяпер тое ляжыць!

— Павыглядала, каб табе лупы вылезлі! А ў цябе ўсё мецена і заслана?! Ты меней бы бегала па хатах ды выглядала б усё, а сказала б свайму лупавокаму, каб плот загарадзіў!

— А твой не лупавокі?! Зубы як у каня! Дай бог, каб яго зубамі дзеці грушы абівалі!

— Каб...

Але болей лаянкі не пачулася: абедзве кабеты ўбачылі Зосю. Угледзеліся ў яе, праводзілі цікаўнымі позіркамі, хоць ты ім хвігу пакажы.

Якраз насустрач ёй ішоў Сцяпан Чорны.

— За курыцу во так сварацца! — усміхнуўся.— Брэшуць адна на адну, як сучкі, а я вот думаю: вот усё ў людзей баліць, а язык не забаліць ні разу...

— Вы, Чорныя, без'языкія! — незалюбіла, адказала яму Буднічыха.— У вас саміх языкі як мётлы!

— Каб не мы з дзяўчынаю гэтаю, дык ужо скора адна перад адной загаліліся б і дупы паказвалі б...

— Цьфу! Брахун! — незалюбіла і Ваўчыха, пакідаючы свой «бастыён» і імкнучыся ў хату.

Зося моўчкі падалася далей, адчуваючы, што і кабеты, і ўсе з акон пільна пазіраюць ёй услед. Яна ішла ў краму, купіць тое-сёе да вяселля, зайсці да Галены, што шыла ёй белую вясельную сукенку, вэлюм, а заадно мела патайное жаданне — убачыць Нямкевічаву Кастусю.

На шчасце, Кастусю згледзела ў двары — тая стаяла ў акружэнні мноства маленькіх белых і рабых парасят, дражнілася з імі.

Зося запаволіла ход, махнула рукою: хадзі сюды. Тая паслухала, затупала да яе.

Сустрэліся каля брамкі.

— Да мілага свайго ідзеш? — усміхнулася Кастуся.

Зося не адказала. Не ўзлавалася і не пакрыўдзілася.

— Янак дома? — запытала, не саромеючыся і не зводзячы позірку.

— Не-э... — наадварот, збянтэжылася тая.— У полі з татам. Аруць.

— Кастуська, міленькая...— Зося паклала далонь на маленькую Кастусіну руку.— Прашу цябе, ад усяго сэрца. Скажы яму, хай ён прыйдзе ўвечар. Туды... Ён ведае куды.

Кастуся анямела. Не чакала такой гамонкі.

— Толькі ты нікому не кажы,— шаптала ёй Зося.— Толькі яму аднаму. Я цябе прашу, як сястру. Скажаш?

— Скажу,— мармытнула Кастуся.

— О то і дзякуй табе,— прамовіла і, засаромеўшыся, усміхнулася. Але ў гэтай усмешцы Кастуся ўбачыла нейкую хітраватую задуму.

Пазней, калі адышла, была ў Шлёмы па сваіх клопатах, вярталася, ішла да старэйшай сястры, Галены, дык адумалася. Адчувала няёмкасць, сорам: а ці трэба было самой ісці, шукаць і клікаць Янку? Яна ўсё ж дзяўчына, а ён хлопец. Што ён падумае пра яе? І ці прыйдзе? Дык ужо і хацелася ёй: няхай не заявіўся б! Ёй, можа, лягчэй нават было б.

— На, прымерай,— калі вытурыла з хаты свёкра і дзяцей, сказала Галена і падала станік.— Мне ён ужо цесны, а маёй дачцэ да яго яшчэ доўга расці. Калі падыдзе, дык насі на здароўе.

— Ды ў мяне ест свае два станікі,— прамовіла Зося.

— Твае старыя, адзін яшчэ мамін, а гэты зусім новенькі.

— Ды не магу я станік насіць. Цісне, як абцугамі, грудзі. Я гарсэт нашу.

— Гарсэт гарсэтам,— не адступалася Галена.— А станік станікам. Бяры, бяры. Начэпіш, дык грудзі будуць высокенькія! У горадзе дзяўчаты і кабеты кожны дзень у станіках ходзяць. Не зашпіляюць верхнія гузікі блюзак і сукенак, а то вялікія выразы робяць, каб шыя, вяршкі грудзей былі відаць...

— Нашто?

— Каб файна было! Каб мужчыны вачэй не зводзілі.

— Ото распуста! — не ўтрывала свякроў. Яна запынілася тут, у «чыстай хаце», каб паглядзець, як будзе выглядаць на Зосі вясельная сукенка.

Зося скінула блюзку, абсунула на рукі шлейкі кашулі, саромеючыся, схавала аголеныя белыя невялікія тугія грудзі рукою. Галена падала ёй станік, памагла прасунуць яе адну-другую рукі між шлейкамі, накрыла яе грудзі ядвабнымі кружочкамі, сціснула яе цела, зашпільваючы на спіне шлейкі аплікамі.

Грудзіну Зосіну сціснула нібы абцугамі.

— Бачыш! — прамовіла Галена.— Як падняліся! Якія файныя!

— Цісне ж! — паскардзілася Зося, трымаючы кашулю, каб яна не аб'язджала ніжэй гэтага станіка, не агаляла яе белага, што снег, цела.

— Цярпі,— сказала Галена.— От пабачыш зараз, як сукенка добра будзе на гэтым станіку...

Сукенка была яшчэ не пашытая, толькі састрыгаваная. Галена ўссунула яе Зосі праз галаву, абцягнула.

— Бачыш,— правяла па Зосіных грудзях далонню, аж Зося ўздрыгнула ад гэтага дотыку.— Каралеўна! Вот тут падбяром на жываце, тут, пад пахамі, напусцім крыху, як улітая будзе!

— Што файная, то файная дзеўка! — пахваліла Галепіна свякроў.

Дома сёння Зося была паслухмяная, рабіла ўсё, што ні казала маці, і як толькі павячэралі, шмыгнула з хаты. За гумно. Сэрца яе білася часта і дробна, нібы трапяталася, дыханне перасякалася. Здаецца, нават, пазвоньваючы, ляскалі зубы.

Заўважыла: Янка ўжо там, за вушаком дзвярэй.

— Прыйшоў! — прашаптала і адразу прытулілася да яго. Але ён не прамовіў ні слова, не варухнуў рукою. Стаяў, як той сноп.

Яна ж абхапіла яго за шыю, абсыпала яго шчокі пацалункамі.

— Родненькі мой! — прыгаворвала. — Адзіны! А я баялася: не прыйдзеш! Не захочаш мяне нават убачыць. Як і не ведаеш мяне. Аж ты не такі. Ты лепшы...

Цяжка ўздыхнуў. Здаецца, у яго гэтаксама часта і дробна білася, трапяталася сэрца.

— Абдымі мяне,— папрасіла.— Моцненька. Як і некалі...

— То некалі...— скупа працадзіў, па-ранейшаму не падымаючы апушчаныя рукі.

— Прыхілі! — зноў папрасіла. Ён нібы з неахвотаю прыклаў да яе спіны далоні.— Я ж люблю толькі цябе.

Маўчаў. Здаецца, расхваляваўся, аж падрыгвалі калені і нервова затрымцелі рукі. Яна адарвалася ад яго, падняла галаву і зірнула яму ў вочы. Добра не бачыла ў цемені іх, бо яшчэ заміналі і слёзы, што былі і ад чуллівасці ды хвалявання. Яна прыпаднялася на дыбачкі, ён адчуў гэты рух, прыгнуўся, і яны пацалаваліся. Замёрлі ў пацалунку. Бадай, упершыню за ўсе іхнія ранейшыя пацалункі сёння

іх вуспы былі не стрыманыя, не стуленыя, але расстуленыя і соладка цёплыя, нават гарачыя — вуспы маладых, што кахаюць адно аднаго, сумуюць без пацалункаў, баяцца, што больш не будзе вось такіх хвілін. Ад шчырага пацалунку Зося адчула полымя ва ўсім целе, сэрца забілася, здаецца, уся кроў хлынула да твару. Яна бліжэй прытулілася, больш авалодала яго паслухмянымі вуснамі, і Янка перастаў супраціўляцца, моцна сціснуў яе, запалымнеў. Вігадаць, адчуў, зразумеў, што яна хацела сказаць, калі клялася, што толькі яго, бо толькі яго кахае. Можа, ён здолеў забыцца ў гэтую хвіліну, што яна пойдзе замуж за іншага, трымаў яе ў сваіх абдымках, адчуваў праз тонкую сукенку гарсэт, трапяткое яе цела, сэрцабіццё, жар і не думаў ні пра што іншае, бо цяпер розум магло заслапіць пачуццё.

— Хадзем...— прашаптала яна, прачыніла дзверы, першая пайшла ў гумно. Ён як сам не свой ступіў за ёю. Не выпускаючы яго рукі (а іхнія рукі былі гарачыя, дрыготкія), зашчапілася і павяла яго далей да цёмнай загародкі, дзе ляжала крыху сена.

Як толькі яны пералезлі цераз застаронак і падышлі да сена, яна, адпусціўшы яго руку, хуценька знайшла загадзя схаваную тут дзяружку, разаслала яе, і пасля нават нечакана для самой сябе пачала расшпільваць перад ім гарсэт, скінула з сябе сукенку. Надзіва, не адчувала ніякага сораму. Наадварот, ёй здавалася, што робіць усё высакародна, чынна, як і трэба, аддзяквае Янку за яго каханне.

— Ляж...— прашаптала разгубленаму Янку, і ён паслухаў, лёг побач з ёю.— Абдымі мяне моцненька.

Ён прытуліўся, але ўжо не парывіста, як нядаўна, а абняў нібы сястру. Нібы шкадуючы. Яна, канечне, не ведала, па маладосці яшчэ не здагадвалася, што цяпер на яго душы. А ён збаяўся ўжо гэтага яе намеру, бо не зусім разумеў яго і не быў у думках

падрыхтаваны. Яна адчула, што якраз ёй трэба падбадзёрыць яго.

— Янапак,— прашаптала, тулячыся.— Я ж табе праўду кажу: я толькі цябе аднаго люблю. І толькі цябе аднаго хачу любіць. Ён жа ведаў гэта і гвалтам змусіў бацькоў, каб насваталі яго да мяне... А я і бачыць яго не хачу. Дык і не хачу даставацца яму дзяўчынаю... Бо ён разбіў наша шчасце... Дык няхай... Я хачу быць тваёю...

Прамовіла і пачала шукаць яго вуснаў. А ён, дзівак, стрымана адказаў на яе пацалунак.

— А грэх? — прашаптаў.— На вялікдзень жа ты баялася граху...

— То тады... А цяпер не баюся...

## 4

Апошні тыдзень перад вяселлем Зося ледзьве трывала. Яна не была ні хворая ці слабая. Яна спраўлялася і з мужчынскаю, і з жаночаю работаю — можна сказаць, лепш ды спрытней рабіла за якога хлопца. А тут вось нямелі рукі і ногі, ныла спіна, трымцела, здаецца, усё ўсярэдзіне, прапаў моцны сон, і яна хадзіла, працавала, збіраючы апошнія сілы. Працуе-працуе, а пасля, калі ад болю, ад стомы аж пацямнее ў вачах, не вытрывае, стане, прыхіліцца да сцяны ці да печы і стаіць заплюшчыўшы вочы ды думаючы сабе: «Нашто, нашто мне ўсё гэта трэба?» Адпачывае, а думкі нібы бягуць-бягуць і ўрэшце вернуцца да таго, пра што яна апошнія дні найбольш думала.

«А што, калі будзе ў мяне ад Янкі дзіця? — трывожылася.— Кажуць, абы паспала дзяўчына з хлопцам, дык і заявіцца дзіця... Ну што ж. Будзе дык будзе. Лепш ад любага дзіця мець, чым ад нялюбага...»

Маці, бачачы яе пакуты, шкадавала, вінавата гаварыла: «Прысядзь, дачушка. Адпачні. І не бяры гэтак усяго да галавы...»

Шмат што выбіла Зосю з моцы і раўнавагі. І напружанне, з якім яна цяпер жыла, і праца. Бацька закалоў свінню (яе яны раней думалі адсадзіць, карміць на зіму, цяпер жа прыйдзецца замест яе пакінуць на кормніка падсвінаку), дык яны з маці рэзалі мяса, прыпраўлялі яго часнаком, кменам, соллю, рабілі кілбасы, варылі печань, лёгкія, сала і рабілі сальцісон; заадно пачалі пячы хлеб, булкі, сухарыкі, варыць свіныя ногі і вушы на квашаніну — лічы, увесь светлы дзень, вечар да цёмнай ночы не адыходзілі ад печы, задыхаючыся ад дыму, чаду і гарачыні, млеючы ад мноства ўсякіх смачных пахаў. І яшчэ было адно, што знядужыла Зосю. Пра тое сорам быў нават думаць. Яна занемагла пасля той ночы, калі спаткалася з Янкам у сваім гумне, сама па сваёй волі аддалася яму. Ён спачатку нібы разгубіўся, а пасля ўзяў яе, узяў з болем, з пакутаю. Назаўтра яна не магла ні нагнуцца, ні разагнуцца, была нібы скалечаная. Але таілася. Як таіла ад маці і тую кашулю, у якой была тады ў тую сустрэчу. Здзіўлялася: чаму ж, калі зблíжэнне так баліць, да яго ўсё роўна імкнуцца не толькі дзяўчаты, але і кабеты? Ці ім, кабетам, яно даецца без болю?

Бацька маўкліва і пакорліва памагаў ім, кабетам; меншыя брат і сястра крыху памагалі, але больш таўкліся пад рукамі ў вясёлым настроі (ім хуткае вяселле было вялікай уцехай, і яны загадзя ўжо ўсяго патроху пасмакавалі з яды) ці бегалі па суседзях і пазычалі ў людзей міскі, талеркі, відэльцы, чаркі.

Прыбягала памагчы ім і Галена. З ёю ж яны ў пятніцу, каб не адкладаць шмат работы на апошні дзень, спяклі вялікі каравай, торт.

У суботу бацька напрыносіў ад суседзяў сталоў,

выкінуў з хаты ў падпавець ложкі, расставіў у хаце сталы, падправіў, падмазаў калёсы. Спакутаваўся за гэтыя тыдні і ён. Запалі вочы і шчокі. У Зосі нечакана аж паменшала да яго злосці, крыўды, з'явілася спачуванне. Ні для чужога ж, для яе вось так стараецца!

— Колькі ўсяго нагатовілі! — бачачы, што яны зрабілі з маці за тыдзень, здзіўлялася Зося.

— Ох, дачка! — уздыхала маці.— Вот паглядзіш: яшчэ і не хваціць. Людзі цяпер, пасля зімы, пасля работы ў полі, згаладалыя. Будуць есці як не ў сябе... Можа ж, помніш, мы Галену ўвосень, калі ўжо, лічы, усе пачалі калоць свіней, аддавалі, гэтаксама многа нагатовілі, а сяроўна не хваціла. Свяцілі вачыма. А цяпер жа яшчэ лепей трэба старацца... Не можам жа гасцей горш, чым Пётрык, прыняць... Абгавораць людзі... І так у нас вясельных меней будзе...

— Вяселле зробіце — а самі потым зубы на паліцу пакладзіцё...— паспачувала Зося.

— Абы табе добра было. Абы цябе ніхто ніколі не папікаў...— адказвала маці.— А мы неяк ужо выжывем, абы здаровыя былі.

Увечар у суботу прыйшлі дру́жкі — Волька і Верка Чорныя, іншыя дзяўчаты. Спачатку памаглі прыбраць у хаце — выдраць рыдлёўкамі гліняны ток, пашкрэбці нажамі і вымыць сталы, лавы, падаконнікі, а пасля пачалі плесці з травы і лясных кветак для яе вянок, часаць ёй валасы, прыбіралі яе ў вясельную сукенку і ў вэлюм, словам, прыйшлі на «вянок», ці на «дзявочнік», як казалі ў Янкавінах.

Апошнія два гады Зосю запрашалі ўжо ў дружкі, дык яна хадзіла на такія «вянкі», і тыя часіны для яе былі ўрачыстыя, вясёлыя. Яна з нейкаю таямнічай радасцю пляла вянкі, памагала ўбіраць маладую, спявала песні. Але сёння і яна, і адна з дружак, Міхайлава Верка, былі невясёлыя, дык вечар быў сумны.

Гэта адчувалі яны і самі, дзяўчаты, адчувала і маці — паходзіць-паходзіць, паглядзіць на іх ды паслухае, а потым складзе на грудзях рукі і замаркоціцца. Маўклівы быў і бацька. Сядзеў моўчкі каля стала і курыў піпку за піпкаю, пазіраючы долу.

— Паспявалі б вы, дзяўчаткі,— папрасіла маці,— некалі ж, калі мы яшчэ хадзілі на «вянок», дык весела было. Паўвёскі прыходзіла пад вокны, каб паслухаць.

Заспявала Волька Сцяпанава, першая Зосіна сяброўка, [redacted] цяпер дружка:

Выйшла Зосечка
За вароцейкі,
Стала сабе
Над калінаю.
Калінку ломіць,
Слёзачкі роніць.
Слоўна не прамовіць.
За ёю, ёю
Мамачка яе.
Стала ў яе пытаціся:
— Дзіцятка маё
Маладзенькае,
Да чаго ж так плачаш?
— Мамачка мая
Родненькая,
Ды як жа мне не плакаць:
Гавораць людзі,
Нашы суседзі,
Што ў вас доўга мне не быць.
— Дзіцятка маё
Маладзенькае,
Не давай людзям веры,
Пайдзі ў садочак,
Нарві красачак,
Сядзь сабе між дзявочак,
Зві сабе, маладзенькая,
Вяночак.
— Не мне ў садочак,
Не мне вяночак,
Не мне між дзявочак.

Прыйдзе Віцечка
У белым цвеце
Ды завяжа мне свецік.

— А мне ж, Зосечка, Уладак так свет завязаў! — прытулілася да яе і ўсхліпнула Верка.— Я й не ведаю, што буду далей рабіць. Паверыла яму, а ён гэтак пацешыўся...

— А мне, думаеш, свет не завязаны? — прашаптала Зося ёй у адказ.— Сама ж ведаеш...

І яны, абняўшыся, пачалі плакаць.

Слухаючы песню дыназіраючы за дачкою і Веркаю, пачала хліпаць і маці.

— О то бабы! — злаваў бацька.— Рвяцё сэрца...

Узяўшы вянок, Волька заспявала ўжо новую песню — «Ой, звілі дый вяночак...». Калі праспявала, аддала вянок гаспадыні. Яна падзякавала і запрасіла дружак садзіцца за стол. Тыя адмаўляліся, маўляў, «ой, не трэба, цёця», але ўсё ж селі. Мішукі хацелі захаваць стары звычай — частаваць дружак, каб не гаварылі, што гаспадары скупыя. Праўда, дзяўчаты выпілі толькі па кроплі, не шмат і з'елі, бо саромеліся тых, што стаялі на двары пад вокнамі. Баяліся папроку ў сквапнасці. Канечне, стаяць цяпер пад вокнамі і ў Гарбацэвіча. У таго сёння, казалі, будуць гуляць не толькі асістэнты, але і сваякі, важныя янкавінскія людзі — Лядзяш, поп з пападдзёю, Сяргеенкавы, пісар Дзяжко, стараста, Чарноў, паштавік Гарбуковіч, суседзі Нямкевічы.

У нядзелю ўсе ўсхапіліся раненька. Трэба было ўхадзіцца, прыбраць сталы.

Калі кабеты — а да іх зранку прыбегла і Галена — накрывалі стол, Мішук корпаўся ля калёс. Накрываў іх сенам, пасля схадзіў да Міхайлы Чорнага і, як і дамаўляўся, прывалок і ад яго калёсы. Калі выкладаў мурагом, да яго выйшла жонка.

— Я вот што думаю...— сказала.— Усё ж схадзі

ў Засценак, пазыч у Драздовічаў боты. Пётрык будзе ў ботах, а ты не, дык... Як парабак перад панам...

— Ведаюць жа ўсе, хто ён, а хто я! Ды не хачу я пазычанага. Лепш горшае, ды сваё, чым добрае, але чужое...

— Сяроўна... Схадзі... Калі сам не саромеешся, дык падумай пра дзіця! Як яму будзе пазіраць? Бачыш жа сам: як нежывое ходзіць і так...

Паслухаў. Калі вярнуўся ад Драздовічаў з ботамі, дык ужо прыбеглі дружкі. Прыбралі стужкамі вобраць, намандрыкі, прывязалі званочкі і хваёвыя ды бярозавыя галінкі да дуг. Пасля прывалілі і хлопцы-дружбакі. Выгаленыя, святочныя, як і не янкавінскія: хто з іх смялейшы, палез у хату, да дзяўчат, хто тоўкся каля яго, Мішука, курыў, жартаваў, радуючыся ў прадчуванні выпіўкі, закусі і вясёлых уцех. Раз за разам зіркалі з двара ў той канец, у Глінішча: ці не едзе малады?

А ў хаце тоўпіліся дружкі і кабеты. Каторых кабет і не прасілі, каб яны прыйшлі так рана. Дык самі прыбеглі, іrваліся памагаць то накрываць стол, то лезлі да печы ці ў кладоўку — хацелі ўсё, канечне, выгледзець і выслухаць.

— Багаты стол! — зыркаючы па талерках з салам, з мясам, сальцісонам, ацаніла Будніччыха.

— Ага, Аршулька, добры. Лепшы, чым летась у Касцюкевічаў быў. Тыя ганарацца-ганарацца, а стол бедны зрабілі...— падтакнула ёй Ваўчыха, ужо не зважаючы, што на днях сварылася з Будніччыхаю па смерць. Дадала да гаспадыні: — Але годзе вам, людзі, кешкацца. Усяго ж хватае ўжо. Вунь якая часіна! Няхай прыбіраюць ужо дзеўкі маладую...

Зося стаяла неяк беспрытульна за стаяком каля печы, што цяпер, цёплаю парою, дыхала гарачынёю, і нібы не ведала, дзеля каго яны нагатавалі столькі пітва і яды, дзеля каго састаўлены гэтыя сталы, ідзе-

шуміць такая бязладная гамана. Яна нават не адчувала ўсяго сэнсу ў тым, што ёй цяпер дружкі запляталі валасы ўжо не ў адну касу, а ў дзве касы — як замужняй кабеце.

— Малады едзе! Малады едзе! — загулі на двары, і ўсе там кінуліся да варот, на вуліцу.— Затрымалі каля Будніка! Перагарадзілі дарогу! Стол вынеслі. Таргуюцца...

— Прыбірайся, Зоська,— сказала маці. Яна гэтаксама ўжо вымылася, тут жа, пры кабетах і дзяўчатах, скінула з сябе старую спадніцу, блузку і, дастаўшы з куфра, усцягнула на сваё поўнае цела сінюю, лічы, дзявочую, сукенку, абула туфлі і пачала прычэсваць разбэрсаныя, мокрыя на лобе ад поту валасы палавінкаю старога грэбеня.

Зося саромелася ўбірацца тут жа, пры чужых людзях. Ёй здавалася: тыя толькі кінуць на яе позіркі і адразу ж здагадаюцца, што яна ўжо не дзяўчына. Учора ўвечар, як пайшлі дружкі дадому, яна пры маці мылася ў начоўках і ўвесь час сядзела нібы на іголках: здавалася, на яе сцёгнах захаваліся сляды парушанай цнатлівасці.

Рашыла цяпер спажыць даўні звычай, што быў у Янкавінах: убірацца перад вяселлем, перад прыездам маладога, у чужой хаце. Дык цяпер шапнула Верцы, узяла з сабою белую сукенку, вэлюм і белыя туфлі, і яны з Веркаю пабеглі сценкаю ў хату Міхайлы Супраневіча.

Настуля і Міхайла, нявесткі былі дома.

Схаваўшыся за стаяк, Зося пачала ўбірацца.

— Адкупіліся ўжо! — сказаў Міхайла, пазіраючы ў акно.— Прыехаў малады!

Неўзабаве і тут пачулася музыка: гармонік, скрыпка, цымбалы, бубен. Жаласна гэтая музыка рэзнула па Зосіным сэрцы. Без радасці, з якой яна слухала такую музыку на чужых вяселлях.

Праз колькі хвілін сюды ўжо шыбавалі асістэнты і дружкі — па маладую. З імі былі і Зосіны брат і сястра, Казік і Юзя.

— Дзе тут схавалі маладую? — уваліўшыся ў хату, загукаў Антон Емельяновіч.— Аддавайце! Яна ўжо нам трэба!

Верка вынесла з-за стаяка і падала яму вялікую, скручаную з падушачкі, дзяругі ды хустак ляльку:

— Вот маладая! На!

— Хіба гэта маладая! Гэта старая баба. Нам трэба жывая, маладзенькая і файная.

— За маладзенькую і файную, братка, трэба многа заплаціць! — улез у гаману Міхайла.— Выкупі...

Патаргаваўшыся, Антон мусіў і гаспадарам, і Зосіным меншым брату і сястры даць цукерак. У гэты час Зосіны дружкі прышпілілі да пінжакоў сваіх асістэнтаў, па левы бок грудзін, белыя стужачкі з зялёнаю рутаю. Хлопцы давалі ім за гэта цукеркі, спрабавалі абдымаць — у хаце, як і заўсёды на вяселлі, стаяла вясёлая тузаніна і гамана.

І толькі яны збіраліся выйсці з хаты, як іх запыніла гаспадыня.

— Пачакайце,— сказала яна.— Надта скора забываецеся на старыя звычаі. Няхай во маладая пасядзіць на пасадзе,— і паднесла да Зосі дзежку, накрытую вывернутым кажухом.

Зосі няможна было ўжо садзіцца на дзяжу. Але як не сядзеш? Ад языкоў тады не абярэшся.

«Ці ведае што? — зірнула на Настулю, здаецца, чырванеючы.— Можа, падгледзела?»

Тая хітра ўсміхалася. Зося павагалася і села.

— Вот так, дзеўкі, каб усе замуж выходзілі! — сказала Настуля.— Цэлыя і нечапаныя!

— Не заўсёды так і бывае...— усміхнуўся Міхайла.

Пасля ўжо, калі вялі пад руку асістэнты, а за імі

парамі, дружка са сваім асістэнтам, ішлі па вуліцы, твар у Зосі гарэў.

Каля хаты скупіліся калёсы з коньмі. Дугі, аглоблі, драбіны былі ўтыканыя бярозавымі галінкамі, дзеразой. Як коні трэслі галовамі, дык звінелі шаламкі. Люду-люду было каля двара.

Маладога тут ужо не было. Яго, відаць, ужо сустрэлі бацька і маці, запрасілі ў хату. На двары толькі тоўкся Уладак. Трэба было, каб і ён, як першы Віцеў асістэнт, ішоў па яе, але во не пайшоў. Пэўна ж, збаяўся Міхайлы. Як убачылі працэсію, музыканты зайгралі, ашаламляючы сваёю музыкаю. У Зосінай галаве нібы ўсё паплыло-паплыло.

— Якая файненькая! — хтосьці з кабет прашаптаў ёй услед, калі яна, апусціўшы вочы, ішла па двары ў хату.— Даўно ўжо ў нас не было такой пагляднай маладой!

— Як галубка!

— Але вароне дастаецца...

— Сама ж захацела... На багацце пагналася...

«Соль вам у вочы, дзяркач у зубы!» — як і вучылі ўчора маці ды Галена, падумала яна сама сабе, крыўдзячыся, чаму ўсё ж такія злыя людзі. Хай бы хто і пашкадаваў бы. Пазірала, цікавала, ці ёсць у Віцевай дружыне Янка і Кастуся? Кастуся ёсць, а Янкі няма. Значыць, адмовіўся. І добра. А то ні ёй, ні яму не было б як падняць вочы.

— За каго пайшла!..— дагнаўшы, зашаптаў па вуха Уладак.— Я цябе ўзяў бы...

— Дык чаму ж не ўзяў? — зазлавала.

— Дык ты ж з гэтым блыталася... Каб не ён, дык я... Але ж і хітрая: з адным буські, а за другога замуж...

— А хіба блага? Хіба Віця за вас горшы?

— Дык ты што, па сваёй ахвоце ідзеш? — здзівіўся.— Кажуць жа, бацька сілком цябе прэ...

— Сама іду. Ніхто мяне не гоніць. І толькі за яго. Ні за кога больш не хачу. І за цябе — такога красуна таксама. А ты не выскаляйся вот, а глядзі: не возьмеш замуж Верку — заб'юць Чорныя...

Уладак звяў, адстаў. Яна ж, як аблітая халоднаю вадою, увайшла ў хату. Там людзей было мала: бацька стаяў каля Віці — і сёння белага як снег. Той зірнуў на яе і апусціў вочы. І яна перавяла позірк, не ведаючы, дзе запыніцца. Не вітаючыся з Віцем, падалася да маці, што замыкала куфар. Можа, нядаўна схавала туды зяцеў падарунак.

— Не пазірай, як кот на кілбасы! — наляцеў Уладак, ківаючы галавою Віцю.— Табе яшчэ рана да маладой падыходзіць. Цяпер мы каля яе будзем круціцца.

Памкнуўся да Зосі, убачыў Верку і... асекся. Ужо, здаецца, быў і не рады, што прыскочыў. А ў хату ўжо заходзілі яе і маладога дружкі, асістэнты, запаўнялі, што вось-вось у ёй, малой, і не будзе ўжо дзе павярнуцца. Лезлі і запрошаныя на вяселле і не запрошаныя кабеты.

— Садзіцеся, госцейкі дарагія,— запрашала, недзе ўжо зашчэмленая ў гурце, маці.— Дзе ж тут сват, маладыя? Хай першыя садзяцца.

— Ага, садзіцеся, людцы,— запрасіў і бацька.

Госці патапталіся дзеля прыліку, а пасля палезлі за сталы на кут. Зося са сваімі дружкамі і асістэнтамі села насупраць. Ні яна, ні Віця адно на аднаго не пазіралі.

Ззаду па-ранейшаму тоўпіліся кабеты, дзеці, пазіраючы на іх, на сватоў і на маладых, як на дзіва. На яе, на Зосю, здаецца,— найбольш.

Вось зірнулі на Салвэся Гарбацэвіча: цяпер надыходзіў час яго каманды. Бянтэжачыся, ён устаў, пачаў налівць у чарку гарэлку. Недаліў, хацеў капнуць яшчэ, каб была поўная, ды не разлічыў, лінуў

цераз край чаркі, сабе на руку і на стол.

— Няўмека! — папікнула ціха жонка.

— Будзе ўсяго ў сям'і цераз край...— прашаптаў нехта ззаду.

Салвэсь паставіў чарку на талерку і падаў ёй, Зосі. Яна, ведаючы добра, што рабіць, але бянтэжачыся ад позіркаў, накрыла чарку загадзя прыгатаванай хустачкай. Тады Салвэсь падаў талерку, чарку і хустачку Віцю; той, устаўшы, здаецца, крышку заружавеўшыся, узяў хустачку і паклаў на талерку, мусіць, прыпацелыя ад поту далоні грошы.

— Аж дзесяць залатых рублёў! — зашаптаў, зяхнуўшы, нехта з кабет ззаду.

— А хіба няма?..

— Не кажы. У Гарбацэвіча грошай процьма...

Зося, калі Салвэсь зноў паднёс да яе талерку, абыякава ўзяла грошы. Абы захаваць заведзены звычай. Пасля ўзяла чарку і крыху адпіла.

— Ганарлівая! — сказаў хтосьці ззаду.

— Ну, а цяпер просім бацьку і маці паблаславіць, каб маладыя з маладою павіталіся! — сказаў Салвэсь.

— Просім,— адказала за яе спіною маці.

Зося і Віця ўсталі, падалі адно аднаму рукі ў хустачках.

— Дык выпіце і закусіце, госцікі дарагія,— пачалі запрашаць Мішукі.

Сваты, хлопцы выпілі. Дзяўчаты памачылі толькі губы.

Калі прыкусілі (Зося заўважыла, што маці пазірае на сталы нібы з жахам: здаецца, усе па кавалачку-два ўзялі, а талеркі амаль апусцелі. А яшчэ ж усё вяселле наперадзе, яшчэ вунь колькі гасцей прыйдзе), Салвэсь падаў каманду, усе ўсталі і абышлі вакол сталоў тры разы. Прыселі зноў, але не пілі ўжо і не елі, хоць і Мішук і Мішучыха дзеля прыліку прасілі яшчэ «хоць крыху пасядзець за сталом».

Пасядзеўшы, вылезлі з-за сталоў, стоўпіліся ў хаце. Усім было яшчэ адно відовішча: Зося падышла да маці і бацькі, што селі побач на ўслоне спінамі да сталоў. Бацька трымаў у руках абразік. Каля іх ног ляжала дзяружка. Зося ўкленчыла і ўтупіла галаву між бацькоўскіх каленяў. Не чула, як маці і бацька блаславілі яе да шлюбу, што зычылі: усе яе пакуты, боль вырваліся ў роспач, у плач.

Яна нават не ведала, што сваім плачам вельмі здзівіла янкавінцаў. Звычайна дзяўчаты, калі выходзяць замуж, плачуць — канечне ж, не так горка,— дзеля звычаю, а яна плакала наўзрыд.

Калі ішла да калёс, яе зноў сустрэлі музыканты музыкай. Бацька і маці з хлебам і соллю і чаркамі гарэлкі абышлі тры разы ўсе калёсы. Пасля маці сыпала кругом жыта, а бацька, выпіўшы крыху з чаркі, лінуў астатнюю гарэлку ўверх. Як села на свае калёсы, Зося праз слёзы пазірала на ўсіх і нічога не бачыла як праз туман, бязвольна скубла і кідала сена на дзяўчат — каб тыя хутка выходзілі замуж. Не кінь — пасля не абярэшся ад папрокаў: сама выйшла і пашкадавала, не пазычыла, каб і астатнія дзяўчаты выходзілі.

## 5

У царкве быў таямнічы паўзмрок, холад, таемна было і ад падсвечаных святлом са свечак нізкіх скляпенняў і кратаў на акенцах.

Зося стаяла побач з Віцем на подсцілцы, трымаючы свечкі, і адчувала: не ўстоіць, паваліцца. Ад напружання. Ды яшчэ ад непрыемных пахаў айца Феадора. Той стаяў блізка, прыгнуўшыся над кнігаю, закапанай воскам, трымаў свечку, гаварыў і дыхаў цяжкім пахам гарэлкі — відаць, учора добра нажлукціўся ў Гарбацэвічаў.

— Божа пречістый і всея твары содетелю...— казаў ён не то зразумела, не то незразумела, і гэта пабольшвала загадку таго, што адбываецца.— Іже раба твоего Авраама благословівый і разверзый ложесна Сарріна... іже Ісаака Ревеце даровавый... Подаждь рабом твоім сім Вікенцію і Соф'і жівот мірен...

«Здаецца, пра нас ужо кажа...— устрапянулася Зося.— Відаць, злучае нашы сэрцы...»

— ...долгоденствіе,— гаварыў далей, нахіляючыся і зазіраючы ім у вочы. Здаецца, з хітрыкаю, нібы ўсё ведаў, што на яе душы,— целомудріе... сподобі я відеть чада чадов...

«Здаецца, пра дзяцей кажа!..— аиякло пранізліваю здагадкаю.— Можа, на споведзі мне трэба было яму прызнацца, што іду за Віцю не дзяўчынаю? Ёсць жа тайна споведзі... А то...»

— ...і даждь іма от росы небесныя свыше... імполні домы іх пшеніцы, віна і елея... возвысі я яко кедры ліванскіе...

Дзяк Дземідовіч, што стаяў ззаду, камандаваў, і яна, як і Віця, паслухмяна ўсё рабіла, гаварыла, па знаку надзявала Віцю пярсцёнак на яго тонкі, нібы дзявочы пальчык, а ён — на яе, здаецца, таўсцейшы палец. Пасля, нягледзячы адно на аднаго, пацалаваліся. У Віці былі сухія і халодныя губы.

«Вось ужо і замужняя, як птушка ў клетцы...— думала і з горасцю, і ў той жа час з нейкім дзіўным суцяшэннем, ідучы з Віцем з царквы.— Не Мішук ужо, а Гарбацэвіч...»

Узрушаная, як сама не свая, ехала з Віцем на адным возе дадому, дзе іх удваіх ужо сустракаў з хлебам і соллю бацька (маці па даўнейшаму звычаю спатыкала ў вывернутым кажуху, з векам ад дзяжы, на якім гэтаксама быў хлеб-соль і чаркі гарэлкі. Паблаславіўшы і павіншаваўшы, яна падняла века — і яны ішлі ў хату пад ім: гэта — каб яны былі роў-

ныя, «параўняліся векам»), пасля сядзела на покуце пад абразікам, пазірала, як спраўна пілі і елі дружкі і асістэнты, іхнія госці: выгаленыя, падстрыжаныя, ад таго з белымі патыліцамі і скронямі мужчыны і ўбраныя кабеты, па іх камандзе, калі крычалі «горка!», падымалася і датульвалася да так і не пацяплелых вуснаў свайго мужа. Час ад часу яна пазірала на маці. У той, здаецца, не было сёння радасці, была на твары засяроджанасць. Забярэ са стала пустую талерку, прынясе новую, крышку ўсміхнецца некаму, тое-сёе адкажа, а сама зноў ідзе ў кладоўку. Зося адчувала: выходзіць ужо ўсё, не хопіць да канца вяселля. Бо і праўда, людзі добра ядуць.

Калі ўсе пазней загудзелі, прыйшлі «пяўчыхі». Сёння сярод іх не было Янкавай маці, галасістай цёткі Анці. Былі толькі Марыся Драздовіч, Аўдоля, Фроня Чорныя — надта здатныя на песні кабеты. Без іх не абыходзіцца ні адно вяселле. Не сват, а Лядзяш запатрабаваў цішыні.

Пяўчыхі заспявалі:

Да сваценкі, да галубачкі,
Не смеем вас спытаці,
Ці добрая ў вас зямліца
Ды ці родзіць у вас пшаніца.
Дай, сваценька, караваю,

А не караваю — пірага.
Возьмем вала за рогі,
Сівую кабылу за грыву,
Павядзём яе ў адрыпу,
Адсячом хваста палавіну.

— Надта скора вы захацелі караваю! — не паддалася сваццця Салвэсіха.— Яшчэ саспявайце.

Тыя саспявалі яшчэ некалькі песень. Вось тады Салвэсіха падала ім свой каравай. Тыя ўзялі, але па-свойму аддзячылі:

Дзякуй, сваценка, за каравай,
Харошы, бяленькі,
Толькі ганьба,
Што маленькі.

Да каравая Мішучыха дала пяўчыхам гарэлкі, закусі, і тыя неўзабаве зніклі. Пайшлі да некага баляваць.

Застолле гудзела.

— Сядзь з намі...— прыставаў да Мішука сусед, Міхайла Супраневіч.— Сам гаспадар пакажы пуць, як гарэлку п'юць!

— Перш налі чарку, а тады дай па карку,— усміхнулася Міхайлава жонка, Настуля.

— Не саромейся, сусед,— адказваў Мішук.— Што пастаўлёна — тое благаслаўлёна.

— Ды я госць беспрынукны, не люблю марыць гаспадара...— адказваў Міхайла, ласы на гарэлку, і выпіваў яшчэ чарку, паказваў, што чарка пустая.— Я такую моду маю: да дна выпіваю. Не хачу зла астаўляць на дне.

— У п'яніцы адгаворак хваціць...— усчувала жонка.

— Не той п'яніца, хто п'е,— сыпаў і сыпаў жартамі Міхайла, закусваючы,— а той, хто міма рота лье...

Мішук адыходзіў — да другіх гасцей. Найперш — да Ледзяша. Пытаўся, што яму трэба.

— Хараша! — адказваў той.— Усім задаволены.

«Яшчэ б не быў задаволены! — думаў Мішук.— І п'еш, і трэш як млын!»

Праз нейкі час уладу захапілі музыканты, сталі насупраць маладых.

Зося ведала: іх падагнала маці, каб яны сыгралі свой «марш», каб пасля ўсе пачалі дарыць. Падо-

раць — можна і выбірацца з хаты. А раз падганяе маці — значыць, на сыходзе гарэлка і закуска.

— Рана яшчэ іграць музыкантам! — падхапіўся, пачаў камандаваць Лядзяш.— Яшчэ пасядзець трэба!

Адны госці згаджаліся з ім, іншыя пачалі падтрымліваць музыкантаў. Ледзь адолелі Ледзяша.

Гарманіст Сідаровіч, што ўмеў добра гаварыць, пажадаў Зосі і Віцю «быць як цвет на яблынях», «жыць у шчасці, радасці, багацці і дзяцей многа мець», музыканты зайгралі ім «Сто лят». Усталі не толькі Зося і Віця, але і ўсе вясельнікі. Заспявалі. Віця на пададзеную Сідаровічам талерку, накрытую хустачкаю, паклаў паўрубля. Пасля музыканты па чарзе пачалі віншаваць сватоў, блізкіх сваякоў, дружак і асістэнтаў, гасцей маладой, іграць па іхнім жаданні. Падвесялелыя людзі скакалі, спявалі, клалі на талерку капейкі. Лядзяш заказаў сабе адмысловую музыку — гімн «Боже, царя храни».

Калі сыгралі ўсім «маршы», выпілі і палезлі з-за стала. Музыканты засталіся, Мішучыха з Галенаю прыбралі стол насупраць маладых, куды неўзабаве дзеці на веку ад дзяжы ўнеслі вялікі прыгожы каравай. Ішлі і кружыліся па ходу сонца.

Кабеты заспявалі:

Віўся каравай кубкам
Пад зялёненькім дубкам.
У чысценькім полі,
На варапенькім коні.

Як паставілі каравай на стол, сват падзякаваў і даў дзецям цукерак.

Першыя дарыць падышлі Мішукі. Бацькі.

— Ну, дзеці, будзьце шчаслівыя...— сказаў Мішук.— Жывіце ў злагадзе, дружненька. Работы не бойцеся, нас, бацькоў, не цурайцеся. Дару ж вам, каб усе чулі, дзве дзесяціны зямлі, цялушку, падсві-

наку і вот...— пацалаваўся з ёю, з Віцем, паклаў на засланую хустачкаю талерку пяць залатых рублёў, маці паклала сурвэту.

Свацця дала ім па кавалку каравая, які яны ўзялі праз хустачкі, сват наліў гарэлкі. І калі яны прыгублівалі, музыканты зайгралі марш. За роднымі бацькамі падышлі хросныя, дзядзькі, цёткі, дружкі, асістэнты, госці...

Як падарылі, усе зноў селі за стол. Вярнуліся падвесялелыя пяўчыхі, зноў пачалі співаць. Пра развітанне маладой з домам. Зося не вытрывала, заплакала. А пяўчыхі яшчэ нібы наўмысна стараліся «падвысіць» яе і зганіць маладога:

Наша маладая
Як уюн уецца,
Ваш малады
Не павернецца.

Наша маладая
Як сыр белы,
Ваш малады
як пень гарэлы.

Калі яе свацця абвязала свата і маладога ручнікамі, пяўчыхі накінуліся на свата:

За што, сватка, звязалі?
З чужой бабай спаймалі?
Казалі, сватка, вельмі харош —
Па кулаку вочы, буслаў нос.

Маці, плачучы, пачала звязваць пасцель. Каб апярэдзіць усіх, асістэнты выскачылі праз адчыненыя вокны на двор, каб ужо адтуль убегчы ў хату і «ўкрасці» падушкі, куфар. Але іх апярэдзілі кабеты, прыйшлося ім і свату заплаціць тым за ўсё гэта.

Калі выходзіла з хаты, Зося абводзіла яе позіркам. Бывай, хата родная!

Маці ішла побач, рыдала. Плакаў і бацька.

А жанчыны вярэдзілі-вярэдзілі душу ўсім:

Ды паедзеш, Зосечка,
У чужы край,
Ды з сабою зязюльку
Забірай.
Ды пасадзіш яе
У канцы пасцелі,
Яна табе будзе
Раненька кукаваці,
Цябе, маладзенькую,
Пабуджаці.
Бо чужая мамачка —
Не свая,
Ды не будзе раненька
Будзіці,
Пойдзе на вуліцу
Судзіці...

Калі на двары Зося цалавалася, развітвалася з бацькамі, жанчыны ўсё спявалі, музыканты ігралі, і Зося была ці то ў разгубленасці, ці то ў сне, да болю адчуваючы, што ўсё ж добра было ёй дагэтуль дома. Затрывожылася: а як будзе ёй там, у чужых? Адзін бог, мусіць, толькі ведае, калі вызначыў ёй такую долю.

Бацькі засталіся дома. Сваты, Мішукі і Гарбацэвічы, па-янкавінскаму звычаю, спаткаюцца, пасядзяць разам за адным сталом у маладога толькі ўжо праз тыдзень — на перазовах.

Янка не бачыў, як ішло вяселле ў Зосінай хаце, ён толькі са свайго двара чуў далёкі водгалас музыкі, што шчымлівасцю не толькі ўзбуджаў, але і рваў яму сэрца. Бацькі, сястра ды братавая выходзілі паглядзець, як ад'язджаў Віця да Зосі, як яго сустракалі Мішукі, як поп шлюбаваў маладых у царкве, а цяпер зноў пайшлі сустракаць маладога, што вяртаўся дадому ўжо з жонкаю. Янка не пайшоў. Адзін за-

стаўся ў хаце, не ведаючы, куды дзецца, у якую шчыліну зашыцца. На душы было так пагана, што хоць ты сыдзі куды на гэты час з вёскі.

Віця прывёз Зосю дадому пад вечар, калі ўжо яркае сонца апусцілася над самым лесам. Прымчаліся на лепшым Гарбацэвічавым кані, уехалі ў двор. Віця саскочыў з калёс, памог злезці Зосі ў белай сукенцы. Як ні прыпадаў да шыбіны Янка, не згледзеў яе з-за людзей, з-за далёкасці твару. Бачыў: сустрэлі маладых Гарбацэвічы. Пётрык без шапкі і Вікця з хлебам-соллю, з чаркамі гарэлкі. Павялі вось у хату. Услед за ёю асістэнты, сват панеслі Зосіны падушкі, куфар — Зося ўваходзіла ўжо ў хату гаспадыняю. Хлопцы курылі, баялі адзін аднаму байкі, рагаталі, дурэлі з дзяўчатамі. Усе былі вясёлыя, задаволеныя. Здаецца, ніхто не засмучаўся. «Нават і мае сябры цешацца...» — са скрухаю падумаў ён. Пасля ўсе гуртам шухнулі ў хату. За стол. А Янка ўсё стаяў і стаяў адзін каля акна, думаў, адчуваючы дваякае пачуццё. Каб Зося пайшла за Віцю, адмовілася зусім ад яго, Янкі, дык яму было б прасцей: крыўдаваў бы на яе, на ўвесь свет і жыў бы з гэтаю крыўдаю. Дык не. Паклікала, аддалася. Дык цяпер і Віцева, і нібы яго заадно. Не адарвеш ад сэрца. Ды раптам яшчэ будзе ад яго ў яе дзіця. Па-ранейшаму яе кахаць, употай красці чужое шчасце? Колькі? Усё жыццё? Не жаніцца самому? Не. Трэба будзе рана ці позна завесці сям'ю. Але як жаніцца, калі душа не ляжыць ні да адной дзяўчыны ў вёсцы, апроч Зосі?!

Калі пачало ўжо цямнець, заявілася братавая, Ядзя. Выпіла ў Гарбацэвічаў, дык расчырванелася, развесялілася, здаецца, аж пырскала ад яе здароўе, маладосць, дужасць. Малую дачку сваю, відаць, пакінула на бабчыных руках.

— Маркоцішся? — запытала.

Змаўчаў. Бо не апраўдвацца ж яму ці наракаць на Зосю. Ды хацеў заадно і быць сярдзіты. Ядзя апошні час, здаецца, зноў пачала зазіраць ласкава ў вочы, пасміхоўвацца, старацца застацца з ім сам-насам. Можа, думала: калі ён не Зосін, дык зноў можна завабіць яго.

— Не маркоцься,— падышла, паклала руку на плячук. Дыхнула пахам гарэлкі.— Знойдзеш яшчэ сабе. І не горшую... Калі пагналася на багацце, дык няхай пажыве, паглядзіць. Заплача яшчэ не раз, пакаецца... Не ўбівайся...— прытулілася, пагладзіла яго хацёплаю рукою па шчацэ.— Я цябе пашкадую... Харошы мой, пакрыўджаны богам і людзьмі...

Змусіла павярнуцца яго. Да яе. Павярнуўся: вочы яе былі заплюшчаныя, губы цягнуліся да яго губ.

— Ядзя! — прамовіў сярдзіта.— Ты зноў за сваё?

— Ніхто ж і ведаць не будзе...— прашаптала.— Дурненькі...

— Мала што ведаць не будзе...

— Мала, мала! — папікнула.— Колькі ты ўжо мучыць мяне будзеш? Хіба не бачыш: не магу я?! Ні спаць, ні рабіць, ні жыць... Ляжыш ты, павернешся, уздыхнеш, а я ўся палымнею, трасуся... Адпіхнеш — чужому дамся. Любому! Я не магу ўжо болей... Згарэла, спалымнела ўся...

Калі б не ведаў Зосі, не быў аддадзены ёй душой, можа, і спакусіўся б. Зведаў адну каханую — не мог цяпер аддаваць сябе іншай. Не хацеў і не ўмеў быць распуснікам.

— Не магу...— сказаў.— Грэх жа...

— Ну і дурань! — засіпела.— Вялікі дурань! Цяля! Быў бы хлопец, не баяўся б і папрасіць, і ўзяць сілаю, дык і Зося твая была б.

— Дурань дык дурань...— прамовіў, адыходзячы ад яе.— Які ўрадзіўся, такі ўжо і буду.

6

Выйшаў Янка на двор, калі ўжо ўцямнелася, калі сталыя мужчыны і кабеты засталіся за сталамі ў Гарбацэвічавай хаце, пілі, елі ўволю ды гаварылі, а маладыя выйшлі самі і вывелі музыкантаў; з двара свайго бачыў, як першыя пад музыку пачалі танцаваць Віця і Зося, пасля іншыя. Неўзабаве Зося недзе знікла, а скакалі ўжо толькі дружкі і асістэнты полькі, падыспаны, кракавякі, вальсы. Спявалі, валтузіліся, той-сёй прагульваўся з дзяўчынаю па вёсцы.

Янка, насунуўшы на вочы брылёўку, стаяў воддаль за плотам і пазіраў на вясёлых хлопцаў і дзяўчат, думаючы, што яго вельмі ніхто не бачыць: ліхтар вісеў аж каля сянец хаты і сюды святло яго, лічы, не даходзіла. А ў святле бачыў вясёлых Уладака, Антона Емельяновіча.

Але яго згледзелі. Пільная сястра Кастуся.

Падышла. Малайчына, не папікала, не пасміхоўвалася. Узяла руку, пагладзіла, пасля моўчкі сціснула яе. У яго душы зацяплілася ласка да такой сардэчнай сястры, але ён нічога не прамовіў, і падзякаю маўчаў. Ды з пакутаю сароміў сябе, што часамі крыўдзіў яе.

— Ідзі за іхняе гумно...— прашаптала.— Яна там... Ідзі, я павартую...

Цяпер ён ужо моўчкі, з падзякаю паціснуў сястры руку і, абыходзячы Гарбацэвічаў плот, пайшоў у цемень, у цеплыню, спадзеючыся ўбачыць белую постаць. Але каля гумна яе не ўбачыў. Запыніўся. Дзе яна? Не паспела прыйсці? Падманула?

— Я тут,— пачуў ціхі голас, ад сцяны адарвалася постаць, але ўжо не ў белай, а цёмнай сукенцы. Яна, Зося. Прыблізілася, прытулілася і сашчапіла рукі на яго шыі.

— Яначак! — зашаптала яна.— Родненькі! Дзе ты хаваешся? Нідзе ж цябе не відаць! Я ўсе вочы прагледзела...

Маўчаў.

— Не магу! — паскардзілася.— Не дачакаюся, калі ўсё гэта ўжо скончыцца! — пацалавала. У шчокі, у вусны.

Пацалаваліся. Ён сціснуў, прытуліў яе.

— Яначка, мілы мой, харошы,— загаварыла з пяшчотаю.— Ужо я не дзяўчына, а замужняя кабета... Жонка... Але я яго не любіла і любіць не буду. Я люблю толькі цябе... І дзіцятка ад цябе раджу...

Ён маўчаў, туліў, можа, самага дарагога цяпер для сябе чалавека, баючыся адпусціць, страціць яго.

— Я не баюся, Яначка, ніякага граху. Добра баяцца, калі ты мог бы быць шчаслівы, а калі не шчаслівы, дык... Што — той грэх?! І ты ж любіш мяне, Яначка? Ну, скажы. Хоць адно слоўца.

— Люблю...

— І будзем любіцца, міленькі. Няхай не думае ні ён, ні ўсе, што нас разлучылі. Не, не разлучылі. Абы мы самі не разлучыліся... Няхай абгаворваюць людзі, мажуць вароты глінаю, няхай б'е, але я не адракуся ад цябе... І ты ж не адрачэшся? Праўда?

— Праўда. Ніколі не адракуся.

Майская ноч была цёплая, ціхая, калі не лічыць далекаватых гамонак, смеху, музыкі; за небасхілам паблісквалі ўжо сполахі — на першыя грымоты, навальніцу.

## 7

Зосю шукалі.

І калі яна зайшла ў двор, дзе «да ўпаду» рэзалі музыканты, здаецца, гудзела і трэслася зямля ад скокаў, яе схапіла за руку Анелька. І схапіла даволі жорстка.

«Усё! — падумалася Зосі.— Нехта высачыў нас з Янкам, пусціў погалас... Канец вяселлю, канец майму замужжу...»

— Хадзем у гумно...— прамовіла толькі Анелька, адпусціла яе і першая хутка, куляючыся, як качка, пашыбавала па двары да гумна.

«Божа! — жахнулася Зося.— І такая няўдаліца можа дастацца Янку за жонку!»

Думала пра іншае, нібы не зважала, што яе ж клічуць далей ад чужых вачэй і вушэй — на суд. Можа, праз хвіліну злосны Гарбацэвіч закрычыць: «Бяры свае манаткі і прэч з нашай хаты, нягодніца!»

Яна ж крочыла абыякавая да свайго лёсу. Адчувала толькі, што вельмі стомленая. І з-за працы,—а яе ж было процьма за апошні тыдзень,— і з-за хваляванняў, пакут, з-за сённяшняга, вяселля і тых законаў, звычак, што выпалі за дзень на яе долю, якім яна мусіла падпарадкоўвацца. Ішла і думала: няхай накрычаць, выганяць — і яна пабяжыць дадому. Кінецца ў пасцель. Спаць! Спаць! Спаць! О божа, як яна хоча спаць, забыцца пра ўсё, але помніць толькі аднаго Янку. Ёй з ім сёння было вельмі добра, уцешна. Бо сённяшняя сустрэча з ім акрыліла яе, дала надзею і веру, атуліла пяшчотаю і цеплынёю.

У гумне гарэў ліхтар, чуліся галасы. Праўда, ціхія, прыглушаныя. Відаць, Гарбацэвічы раіліся між сабою.

Зося зайшла ў гумно. Напраўду, тут толькі былі адны Гарбацэвічы. Яны стаялі ля вынесенага з хаты

ложка, [redacted] на ложку ляжаў Віця, яшчэ ў новым вясельным касцюме, у туфлях.

«Няўжо што зрабіў з сабою?» — напужалася Зося. Не з-за спачування да Віці, а з-за боязі, што віну з-за таго будуць бачыць на ёй.

— Зосечка! — убачыўшы яе, заламала рукі Гарбацэвічыха.— Віцю ж зусім блага...

Яна, бянтэжачыся, падышла да ложка: Віця, яе муж (яна яшчэ не магла нават вымавіць гэта слова), быў белы, нібы снег. Як чалавек, што ўжо месяцамі не выходзіў з хаты на двор і ляжаў у цёмным кутку на пасцелі.

— Ён жа ніколі не піў, а гэтыя дні мусіў выпіць, дык...— пачала тлумачыць ёй Гарбацэвічыха.— Вот блага. Кажа: паміраю... Цябе кліча... Прысядзь, дачушка, пасядзі каля яго. А мы ўжо ж пойдзем да гасцей. Людзі ж у хаце...

Знямоглы Віця, пакорлівы Гарбацэвіч, далікатная і ласкавая Гарбацэвічыха — усё гэта было цяжэй Зосі за крыкі, папрокі, знявагі. Бо міжволі, супраць яе розуму, жаданняў у яе душы заварушылася спагада да Віці. А яна гэтага не хацела, бо надумала жорстка адпомсціць яму за яго прыхамаць, за тое, што ён намерыўся скалечыць ёй жыццё.

Прысела на ложку, каля Віцевых ног.

— Пасядзі, дачушка,— пяшчотна, як і маці, прамовіла Гарбацэвічыха.— Вы ж, дзеці, цяпер адно... Муж і жонка...

Неўзабаве Зося з Віцем засталася сам-насам. Гадала: ён падглядзеў ці не бачыў, што яна знікла з двара, падсачыў ці не падсачыў, што спатыкалася з Янкам? Кепска яму цяпер з-за рэўнасці?

— Я не п'яны...— прамовіў ён.— Я ўсё бачу, чую, але... Кружыцца галава, сэрца млее,— намацаў яе руку, узяў у сваю, халодную як лёд.— Скажы, Зоська, я зусім-зусім табе чужы? Нялюбы?

Яна закрыла далонню вочы. Няпавісць і спагада зазмагаліся між сабою ў яе маладым, яшчэ не зусім апрабаваным жыццём сэрцы.

— Не думай кепска пра мяне...— папрасіў.— Я ніколі не буду крычаць на цябе, зневажаць. Я...

— Добра, Віця,— ліхі, прашаптала.— Маўчы... Сёння нічога не гавары... Можа, будзе лепш, калі памаўчым.

Назаўтра першы падхапіўся Гарбацэвіч. Яшчэ на світанні. Родныя, вясельнікі, вёска ўся яшчэ спалі. Стомленыя пасля пітва, ласункаў, гаманы, гуляў. Ён жа, як і заўсёды, не ўлежаў. Выйшаў на двор і анямеў: іхняя брамка, кудою хадзілі яны, людзі, была не цёмная, а змененая — вымазаная глінаю. Часта вымазвалі ў вёсцы і яму вароты, але такога, каб вымазвалі тады, калі яшчэ не скончылася нават вяселле, здаецца, ні ў Янкавінах, ні ва ўсёй воласці не было ніколі. Ён сарваў гэтыя варотцы — сведку жаночай здрады — и завесаў, зымчаў іх, схаваў у падпаветцы.

«Во ўзяў сабе сынок жоначку! — падумаў, гладзячы далонню грудзіну. Там вельмі закалола сэрца.— У першую ж ноч загуляла! Не паслухаў неслух, не захацеў прудской... Калі дагэтуль спявалі толькі, дык цяпер і патанцуем!»

Пастаяўшы крыху, палаяўшы сына, што ажаніўся супраць яго волі, ды няверную нявестку, пайшоў будзіць жонку, дачку, а заадно і маладую распусніцу, каб падымаліся, даілі, выпускалі на пашу каровы і пачыналі парадкаваць вясельныя сталы.

*Свет неабдымны і невялікія Янкавіны пачыналі прачынацца. Жыццё павінна было шпарчэй пайсціпабегчы сваёю звыклаю каляінай, па сваіх звыклых законах, хоць, можа, у гэтай «звыкласці» меліся ўжо*

*сёння і нейкія перамены, нечаканасці. Ды хто мог пра гэта загадзя ведаць?*

*Гаспадар-камень ляжаў цяпер, на світанку, спакойны, астылы за ноч, з маўкліваю каменнаю душой. Ён па-ранейшаму вабіў і будзе вабіць да сябе янкавінцаў, слухаць кожнага, убіраць у сваю непрыступную і ў той жа час чулую душу людскія беды, слёзы, просьбы ды мары, камянець, таіць пачутае ды, можа, сваёй маўклівай мудрасцю вучыць, раіць чалавеку-гаротніку (шчаслівыя сюды, бадай, не прыходзяць) гэтаксама набірацца маўклівасці, цярплівасці бы камянець. Валун-то, канечне, сам нема маўклівы, ляжаў і ляжыць затоеным сведкам усяго, што тут адбывалася, але людзі не ўсе станавіліся і не ўсе будуць станавіцца нямыя, акамянелыя, бо той-сёй рана ці позна і зноў будзе выкрыкваць боль сваёй, жывой, душы і рана ці позна ўбачыць, што і ў ім, валуне, і ў сваім сэрцы ёсць іскры. І не толькі іскры...*

*...Неўзабаве, праз месяц з паловаю, Гаспадар-камень будзе сведкам новых скаргаў, нараканняў, стогнаў і спадзяванняў янкавінцаў: у Еўропе пачнецца і пагрозліва будзе падкочвацца да Янкавін вялікая ды жудасная першая сусветная вайна. Яна прынясе шмат пакут, гора, страт, але і шмат зменіць у супярэчлівым, абцяжараным несправядлівасцю, прыгнётам і гвалтам свеце...*

*1980—1984*

**Далідовіч Г.**

Д 15 Гаспадар-камень: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 446 с., 8 л. іл.

Генрых Далідовіч піша быццам пра звычайны, зямны, а на самай справе напоўнены філасофска-псіхалагічным і эстэтычным значэннем людскі побыт налібоцкага краю напярэдадні першай сусветнай вайны. Бацькі-гаспадары трывожацца за спакой у свеце, моцна трымаючыся за зямлю; моладзі ж уласцівы душэўныя парывы, каханне, раўнасць і крыўды. Найбольш свядомыя, як настаўнік Алесь Нямкевіч, паўстаюць супраць несправядлівасці і смела ўступаюць у няроўную сутычку з самадзяржаўем.

Твор напісаны жыва, каларытнаю мовай.

Д $\frac{4702120200-010}{М\ 302(05)-87}$ 12—86 ББК 84Бел7

ГЕНРИХ ВАЦЛАВОВИЧ ДАЛИДОВИЧ

**Хозяин-камень**

**Роман**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактары А. П. Рыбак, Я. Р. Лецка. Мастак Ул. А. Лукашык. Мастацкі рэдактар В. П. Жыжэнка. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Л. Т. Калюжная.

ІБ № 2325
Здадзена ў набор 18.02.86. Падп. да друку 15.10.86. АТ 00206. Фармат 70×100 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 18,06+0,64 укл. Ум. фарб.-адб. 19,35. Ул.-выд. арк. 20,13. Тыраж 10 000 экз. Зак. 2205. Цана 1 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.